Аляксандр Смалянчук

# «КРАЁВАЯ ІДЭЯ»
# Ў БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ

Зборнік навуковых артыкулаў

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2017

# ЗМЕСТ

ДАКУМЕНТЫ



РЭЦЭНЗІЯ

# ПРАДМОВА

Ідэя зборніка нарадзілася ў разважаннях пра спецыфіку беларускага нацыянальнага дыскурсу сучасных даследаванняў у галіне гуманістыкі і асабліва гістарыяграфіі. Пры гэтым пэўны «адраджэнскі канон», які застаецца арыенцірам для большасці даследчыкаў, звычайна трактуецца ў рэчышчы этнакультурнага (этналінгвістычнага) разумення нацыі. Між тым дзеячы беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння пачатку XX ст. у сваіх пошуках нацыянальнай ідэі таксама звярталіся да краёвай ідэалогіі, якая грунтавалася на палітычным (грамадзянскім) разуменні нацыі.

Даследаванні краёвай ідэі, якія на рубяжы XX–XXI ст. праводзіліся ў Беларусі, Літве і Польшчы пераконваюць у важнасці вывучэння гэтага ідэалагічнага феномену для разумення гісторыі як усяго Беларуска-Літоўскага краю ў «эпоху нацыяналізмаў», так і ўласна беларускага нацыятворчага працэсу.

Аднак у беларускай гістарыяграфіі значна большай папулярнасцю сярод даследчыкаў карыстаецца ідэалогія заходнерусізму, якая ў працах Алега Латышонка, Валеры Булгакава ды інш. разглядаецца як адзін з складовых элементаў беларушчыны другой паловы XIX ст. Магчыма, на гэта ўплывае яшчэ «расейска-савецкая» традыцыя звязваць вытокі беларушчыны выключна з праваслаўнымі асяродкамі «гістарычнай Літвы», якая выразна праявілася ў дыскусіі вакол месца Кастуся Каліноўскага ў беларускай гісторыі і памяці. Таксама пэўную ролю адыгрывае прысутнасць заходнерусізму (дакладней, неазаходнерусізму) у сучасным грамадска-палітычным жыцці Беларусі, які ніяк не можа пазбыцца погляду на беларускую нацыянальную ідэю як на «польскую інтрыгу», накіраваную супраць «рускага свету»...

Упэўнены, што краёвая ідэя не павінна знаходзіцца ў ценю заходнерусізму ні пры вывучэнні гісторыі Беларусі найноўшага часу, ні падчас канцэптуальных разважанняў пра ранейшую і сучасную спецыфіку беларускай ідэі. У адрозненні ад ідэалогіі прыхільнікаў Ксенафонта Гаворскага і Міхаіла Каяловіча, яна не супрацьстаяла ідэалогіі беларускага Адраджэння.

Краёвая ідэя другой паловы XIX – пачатку XX ст. – гэта спроба выйсці за межы дамінуючага ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе этнакультурнага зместу нацыянальнай ідэі. Краёвасць – гэта імкненне пашырыць тое разуменне нацыі, якое не дапускала панавання ксенафобіі і варожасці да «іншых» і супрацьстаяла шавінізму, што пашыраўся амаль ва ўсіх нацыянальных рухах рэгіёну і станавіўся свайго роду «візітнай карткай» паміраючай Расейскай імперыі.

Краёвая ідэя грунтавалася на пэўных традыцыях культурна-рэлігійнага жыцця Вялікага Княства Літоўскага, звязанымі з колішняй «палітычнай нацыяй» («naród polityczny») і яе «грамадзянамі» («obywatelami»). У яе падмурку відавочныя рэлікты мясцовай гісторыі, якія актуалізаваліся і перажылі пэўную ідэалагічную дэмакратызацыю ў сітуацыі сацыяльнай і нацыянальнай трансфармацыі Беларуска-Літоўскага краю. Краёўцы імкнуліся да дэмакратызацыі паняцця «грамадзянін», пашыраючы яго практычна на ўсе сацыяльныя слаі насельніцтва «гістарычнай Літвы» і ўсе «карэнныя народы» Краю. У канцэпцыі краёўцаў права «грамадзянства» не распаўсюджвалася толькі на прадстаўнікоў імперскай нацыі, якія падтрымлівалі палітыку яе кіраўніцтва ў «Паўночна-Заходнім краі».

Варта таксама адзначыць падтрымку краёўцамі нацыянальна-культурніцкіх намаганняў дзеячаў беларускага руху, іх разуменне важнасці той дзейнасці, без якой быў немагчымы беларускі нацыятворчы працэс.

Гісторыя краёвай ідэі – гэта гісторыя «апошніх грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага», якія трактавалі Беларуска-Літоўскі край як суб’ект гісторыі і імкнуліся ператварыць яго у суб’ект палітычнага жыцця Еўропы. У іх шэрагу Міхал Ромэр, Тадэвуш Урублеўскі, Канстанцыя Скірмунт, Раман Скірмунт, Баляслаў Ялавецкі, Эдвард Вайніловіч, Людвік Абрамовіч, Аляксандр Заштаўт, Эдвард Роп, Людвік Хаміньскі, Станіслаў Свяневіч, Зыгмунт Юндзіл ды інш. Пераважна гэта былі прадстаўнікі мясцовай супольнасці літоўскіх і беларускіх палякаў. Але не толькі.

Пасля Першай расейскай рэвалюцыі 1905–1907 гг. краёвую ідэю таксама пашыралі прадстаўнікі дэмакратычных плыняў літоўскага і беларускага рухаў, дзеячы габрэйскіх арганізацый дэмакратычнага накірунку. У пэўным сэнсе краёўцамі ў гэты час былі браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі і Аляксандр Уласаў.

Іх далучэнне да краёвай ідэі не было выпадковым. Аналіз «краёвай дзейнасці» вядомых палітыкаў «нашаніўскага асяродку» варты спецыяльнай увагі даследчыкаў. Ён значна пашырае разуменне «адраджэнска-

га канону» беларускай нацыянальнай ідэі і паказвае шырыню мыслення кіраўнікоў беларускага руху, якія адмаўляліся ад пэўных шаблонаў «думаючы Беларусь» .

Даследуючы краёвую ідэю, жыццё і дзейнасць яе адэптаў, між волі трапляеш у палон гэтай канцэпцыі. Талеранцыя, павага да «іншага», дапамога тым, каго гісторыя выкінула на ўзбочыну цывілізацыі – гэта высакародныя пачуцці і дзеянні, якімі можна ганарыцца. Дарэчы, галерэю «апошніх грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага» таксама можна папоўніць асобамі яе даследчыкаў Юліуша Бардаха (Варшава) і Збігнева Соляка (Кракаў), якія адышлі зусім нядаўна.

Іншай прычынай, якая актуалізавала краёвую ідэю ў нашыя дні і падштурхнула да працы над гэтым зборнікам, сталі пэўныя змены ў грамадска-палітычным жыцці Еўропы ды іншых кантынентаў, што назіраюцца ў апошнія два-тры гады. Гаворка пра рост настрояў ксенафобіі і шавінізму сярод шырокіх колаў насельніцтва, пра выразныя поспехі тых палітычных сіл, якія адмаўляюцца ад традыцый нацыянальна-культурнай і рэлігійнай талеранцыі, ад дэмакратычных каштоўнасцяў. Між тым разуменне безальтэрнатыўнасці апошніх было надзвычай важным дасягненнем цывілізацыі канца XX ст. Сёння расце адчуванне блізкасці той «чумы», пра якую некалі пісаў Альбэр Камю...

Усё вышэйазначанае абумовіла падрыхтоўку і выданне гэтага зборніка, які спадзяюся будзе цікавым для ўсіх, каго хвалюе не толькі мінулае, але і будучыня Беларусі. Падрыхтаваны зборнік з'яўляецца свайго роду запрашэннем чытача да роздуму над праблемай гісторыі беларускай нацыянальнай ідэі і яе перспектывамі ў XXI стагоддзі.

***

Аснову зборніка склалі артыкулы, праблематыка якіх датычыць сутнасці краёвай ідэі, яе суадносінаў з «окраинной» палітыкай Расейскай імперыі, з ідэалогіяй заходнерусізму пачатку XX ст., а таксама з нацыянальнымі ідэямі асобных народаў «гістарычнай Літвы», у першую чаргу, з дактрынай беларускага Адраджэння, трактоўцы краёвасці асяродкам рэдакцыі славутай «Нашай Нівы». Таксама шмат увагі надаецца вытокам краёвай ідэі і яе эвалюцыі пад уплывам ваенна-палітычных зменаў часоў Першай сусветнай вайны, постацям найбольш вядомых прадстаўнікоў краёвасці, ролі віленскіх масонскіх ложаў у яе пашырэнні ды інш.

Большасць артыкулаў была апублікаваная ў розных навуковых выданнях Беларусі, Польшчы, Літвы, Чэхіі і Расеі. Падчас падрыхтоўкі зборніка ўсе яны былі актуалізаваныя, дапрацаваныя і папраўленыя. Некаторыя тэксты былі цалкам перапрацаваныя. Падчас рэдагавання імкнуўся пазбегнуць паўтораў. Праўда, пазбыцца іх цалкам, на жаль, не атрымалася.

Таксама ў зборнік увайшлі тэксты, якія раней не публікаваліся або не публікаваліся па-беларуску. Многія артыкулы атрымалі дакументальныя дадаткі, якія дазволяць чытачу выпрацаваць уласнае меркаванне адносна розных аспектаў краёвай ідэі і яе ролі ў беларускай гісторыі.

Важнай часткай зборніка з’яўляецца раздзел «Дакументы», які дазваляе пазнаёміцца з тэкстамі такіх ідэолагаў краёвасці як Раман Скірмунт (тэкст 1904 г.), Канстанцыя Скірмунт (1904, 1906) і Баляслаў Ялавецкі (1905), а таксама з «краёвымі» тэкстамі Антона Луцкевіча (1914, 1917) і Казіміра Шафнагля (1917). У сітуацыі з Раманам Скірмунтам яны дапамагаюць зразумець эвалюцыю ягоных поглядаў, якая ператварыла «літоўска-беларускага паляка» ў дзеяча беларускага нацыянальнага руху ў 1916–1919 гг.

Пераклады польскамоўных тэкстаў і каментары да іх зробленыя аўтарам гэтых радкоў. У беларускамоўных тэкстах і цытатах захаваныя ўсе асаблівасці тагачаснай мовы і яе напісання. Толькі ў некаторых выпадках папраўленая пунктуацыя і ўведзеныя дадатковыя абзацы. Скарачэнні пазначаюцца шматкроп’ем у квадратных дужках […] і не ўплываюць на змест. Усе вылучэнні належаць аўтарам тэкстаў і пазначаюцца падкрэсліваннем.

Хачу выказаць удзячнасць даследчыкам Рымантасу Мікнісу і Аляксандру Краўцэвічу за падтрымку ідэі зборніка і каштоўныя парады.

**Зборнік прысвечаны памяці беларускага гісторыка Міхася Восіпавіча Біча (1937–1999) і 80-годдзю з дня ягонага нараджэння.** На пачатку 1990-х гг. М. Біч быў адным з першых чытачоў аўтарскіх тэкстаў, прысвечаных краёвасці. Ён зразумеў навуковую вартасць вывучэння гэтай праблемы і падтрымаў працяг даследаванняў.

Выданне гэтай кнігі стала магчымым дзякуючы падтрымцы *Orsa Romano Cultural and Educational Foundation*.

Аляксандр Смалянчук

## АРТЫКУЛЫ

# «КРАЁВАЯ ІДЭЯ» І БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ ПАЧАТКУ XX ст.*

У апошняе дваццацігоддзе заўважальны рост зацікаўленасці навукоўцаў і грамадскасці праблематыкай краёвай ідэі як важнага ідэалагічнага феномену «эпохі нацыяналізмаў» на землях былога Вялікага Княства Літоўскага на пачатку XX ст. Гістарыяграфія гэтай праблемы ўжо мае ўласную традыцыю. Дастаткова прыгадаць імёны польскіх даследчыкаў Юліуша Бардаха, якому належыць найбольш грунтоўны аналіз свядомасці «літоўскіх палякаў», Яна Юркевіча як даследчыка польскай палітычнай думкі ў Беларусі і Літве на пачатку XX ст., а таксама рэдактара і аднаго з аўтараў зборніка матэрыялаў канферэнцыі, прысвечанай феномену краёвасці (1999), а таксама Збігнева Соляка[1]. Апошні быў аўтарам манаграфічнага даследавання жыцця і дзейнасці аднаго з вядучых ідэолагаў краёвасці Міхала Ромэра (1880–1945). У манаграфіі Дарыуша Шпопера атрымала асвятленне дзейнасць іншай вядомай прадстаўніцы краёвасці Канстанцыі Скірмунт (1851–1934)[2].

Вялікі ўнёсак у вывучэнне краёвасці зрабілі таксама літоўскія даследчыкі Рымантас Мікніс і Ян Савіцкі, працы якіх галоўным чынам прысвечаныя ўжо згаданаму Міхалу Ромэру і ягонаму Дзённіку[3]. Апошні з’яўляецца надзвычай цікавай гістарычнай крыніцай не толькі па праблеме краёвасці.

Шмат увагі гэтай праблеме таксама прысвяціў аўтар гэтых радкоў падчас вывучэння гісторыі польскага руху ў Беларусі і Літве ў апошняе 50-годдзе Расейскай імперыі, а таксама даследуючы эвалюцыю і формы бе-

---

* Асноўныя палажэнні гэтага тэксту ўтрымліваліся ў артыкулах «Краёвасць стасоўна беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў на пачатку XX ст.» (Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты. Рэдактары А. Лагвінец і Т. Чуліцкая. Варшава, 2013. С. 66–77), «Краёвая ідэя і беларускае нацыянальнае Адраджэнне пачатку XX ст.» (Acta Albaruthenica. 2015. Tom 15. S. 193–211), «Краёвасць як ідэалогія «літоўскіх палякаў» (Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. 2015. Том 1. С. 82–96).

ларускай нацыянальнай ідэі[4]. Аляксей Унучак (Менск) зрабіў вартае ўвагі параўнанне «краёвай ідэі» і «заходнерусізму»[5]. Краёвасць трапіла таксама ў кола навуковых інтарэсаў такіх беларускіх даследчыкаў гісторыі ідэі як Ігар Бабкоў і Андрэй Казакевіч[6]. Па ініцыятыве апошняга як дырэктара Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» былі падрыхтаваныя да выдання тэксты большасці вядучых прадстаўнікоў краёвасці. Электронная версія выдання размешчаная на сайце Інстытута[7].

Пры гэтым цікавасць гісторыкаў пераважна канцэнтравалася на постацях вядомых краёўцаў. У цэнтры ўвагі апынуліся Міхал Ромэр (1880–1945), Канстанцыя Скірмунт (1851–1934), Раман Скірмунт (1868–1939), Эдвард Вайніловіч (1847–1928), Тадэвуш Урублеўскі (1857–1925), Людвік Абрамовіч (1879–1939) ды інш. Краёвая ідэя разглядалася ў большай ступені скрозь прызму жыцця і дзейнасці названых асобаў.

Між тым грунтоўнага вывучэння ўсё яшчэ чакае цэлы комплекс праблемаў, звязаных з гэтым феноменам. Сярод іх праблема вытокаў краёвай ідэі і яе стасункаў з ідэалогіяй беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, вырашэнне якой, магчыма, дазволіць зразумець характар узаемадачыненняў краёвасці і нацыяналізму ў яго этнакультурным варыянце.

У гэтым артыкуле паспрабую адказаць на пытанні: кім і для каго стваралася краёвая ідэалогія? Якую ролю ў яе стварэнні адыгрывалі нацыянальныя працэсы, што разгортваліся сярод беларусаў і літоўцаў на пачатку XX ст. і непасрэдна закраналі інтарэсы мясцовай польскай супольнасці, г. зв. «літоўскіх палякаў»? Якую ролю краёвая ідэя адыграла ў беларускай гісторыі?

## *Краёвасць як ідэалогія «літоўскіх палякаў»*

Краёвасць з цяжкасцю паддаецца дакладнаму апісанню і характарыстыцы. Якраз таму гісторыкі часта ўжываюць такія тэрміны як «краёвая ідэя», «краёвая ідэалогія», «краёвы рух», «канцэпцыя краёвасці». Гэтая складанасць вынікае з самой структуры гэтага ідэалагічнага феномену, а таксама з яе ўспрыняцця і разумення як ідэолагамі, так і шматлікімі прыхільнікамі. Найчасцей краёвасць трактуецца як пэўны тып ідэалогіі палітычнай (ці грамадзянскай) нацыі.

Яна была сфармуляваная ў Беларусі і Літве на пачатку XX ст. Краёўцы сцвярджалі, што ЎСЕ карэнныя жыхары гістарычнай Літвы, незалежна

ад іх этнакультурнай арыентацыі і сацыяльнага паходжання належаць да адзінай нацыі. Некаторыя называлі яе «нацыяй літвінаў» («*naród Litwinów*») іншыя пісалі пра «краёвую нацыю». Паводле краёўцаў, да катэгорыі «карэнных» належалі літоўцы, беларусы, палякі і часта габрэі[8].

Галоўным крытэрыем гэтай нацыянальнай прыналежнасці лічыўся патрыятызм у стасунку да «гістарычнай Літвы», якая ўсведамлялася самабытным і цалкам адметным ад Польшчы рэгіёнам. Кожны патрыёт гэтай Літвы станавіўся «грамадзянінам Краю». Апошні тэрмін даволі часта фігураваў у тэкстах краёўцаў. Быў відавочным іх намер дэмакратызаваць паняцце «грамадзянства», якое раней датычыла толькі прадстаўнікоў вышэйшых сацыяльных колаў, і пашырыць яго на ніжэйшыя сацыяльныя колы насельніцтва.

Ідэйны рух краёвасці нарадзіўся ў асяроддзі шляхты «гістарычнай Літвы», прадстаўнікі якой часта адчувалі прыналежнасць да розных народаў-нацый. Даследчык свядомасці польскай супольнасці ў Літве Юліуш Бардах наступным чынам характарызаваў свядомасць краёўцаў: «*Наогул можна сказаць, што па сваёй культурнай арыентацыі гэта былі палякі, але датычна дэкларацыі нацыянальнай прыналежнасці дамінавала пачуццё краёвай адметнасці, якое вяло да падпарадкавання інтарэсаў польскай нацыянальнай групы інтарэсам усяго краю […] Яны былі ліцвінамі ў гістарычным сэнсе, што вызначала іх пазіцыю ў актуальным палітычным жыцці*»[9].

Аналізуючы свядомасць гэтай шляхты ў XIX ст., вядомы даследчык выкарыстаў паняцце «літоўскія палякі» і адзначыў, што іх адрозненне ад жыхароў «Кароны» трымалася на адметнай гістарычнай памяці, арыентаванай на мінулае Вялікага Княства Літоўскага[10]. Сапраўды, краёвасць у пэўным сэнсе будавалася на падмурку памяці пра прыналежнасць беларускіх і літоўскіх земляў да Вялікага Княства Літоўскага. Сцвярджаючы адзінства гістарычнага лёсу ўсіх народаў-нацый гэтай дзяржавы, краёўцы лічылі неабходным захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці земляў былога Княства.

Краёвасць *таксама можна разглядаць як пэўную рысу свядомасці значнай часткі насельніцтва Беларуска-Літоўскага краю.* Ёсць падставы сцвярджаць, што пашырэнню краёвасці спрыяла г. зв. «тутэйшасць» мясцовага люду. Даследчыкі часта трактуюць яе як ніжэйшую ступень этнічнай самаідэнтыфікацыі, аднак такі погляд з’яўляецца павярхоўным.




*Карта Беларуска-Літоўскага краю.*
*Падрыхтаваў Б. Хэртц. 1910? г.*

Невыпадкова Канстанцыя Скірмунт па пачатку XX ст. абараняла паняцце «тутэйшасці» ад насмешак польскіх нацыянальных дэмакратаў: «*Тутэйшасць – гэта сувязь з роднай зямлёю, гэта патрыятызм*»[11]. Рэабілітацыяй «тутэйшасці» займаўся таксама Мечыслаў Ялавецкі на старонках газеты «Кур'ер Літэўскі» («Kurier Litewski»), калі сцвярджаў, што яна вырасла на глебе краёвых адносінаў, ахоплівае ўвесь спектр палітычнага і грамадскага жыцця Краю і пэўным чынам адлюстроўвае свядомасць «літоўскіх палякаў»[12].

Ю. Бардах адзначаў: «*У вёсцы, перш за ўсё беларускай, там, дзе сустракаліся розныя мовы, веравызнанні, уплывы розных культур, «ту-*

*тэйшасць» азначала форму адмовы ад пэўнага выбару, нежаданне прызнаць сваю прыналежнасць да таго або іншага этнасу. Была боязь, што такі выбар можа парушыць традыцыйныя формы сумеснага жыцця і прывесці да канфліктаў»*[13]. І сапраўды, у пэўным сэнсе «тутэйшасць» была краёвасцю г. зв. «*маўклівай большасці*» жыхароў «гістарычнай Літвы».

Алег Латышонак трапна назваў краёвасць «*ідэалагізаванай тутэйшасцю*». На яго думку, «тутэйшасць» можна лічыць свядомасцю, а краёвасць – светапоглядам[14]. Ідэалагізацыі «тутэйшасці» паспрыяла актывізацыя нацыянальных працэсаў. Менавіта выбух нацыяналізму нарадзіў краёвую ідэю, і, забягаючы наперад, можна сказаць, што ён жа ператварыў краёвасць у маргінальную з'яву.

Адной з галоўных мэтаў краёўцаў было сумяшчэнне інтарэсаў мясцовых нацый з іх агульным інтарэсам, які заключаўся ў клопаце пра развіццё супольнай Айчыны – гістарычнай Літвы. Дзеля дасягнення гэтай мэты была патрэбная супраца ўсіх нацый, якая б абапіралася на прынцып грамадзянскай роўнасці. Гэтае агульнакраёвае і агульнанацыянальнае вымярэнне было вельмі важным элементам «краёвай ідэі», якое найбольш прыцягвае ўвагу даследчыкаў. Пры гэтым, як справядліва заўважыў Ян Юркевіч, супрацоўніцтва народаў-нацый было не толькі сродкам дасягнення галоўнай мэты, але таксама мэтаю самою па сабе[15]. Прыхільнікі краёвасці спадзяваліся, што атрымаецца прымірыць «краёвую свядомасць» з нацыянальнай.

На рубяжы XIX–XX ст. найбольш моцным нацыянальным рухам Беларуска-Літоўскага краю быў літоўскі рух. Ён прапанаваў новае (мадэрнае) разуменне нацыі, важнейшымі элементамі якой станавіліся мова, фальклор, звычаі, народная культура і гістарычная памяць. У мінулым засталося разуменне нацыі як палітычнай катэгорыі, што яднала прадстаўнікоў вышэйшых станаў. Цяпер найважнейшую ролю ў фармаванні свядомасці адыгрывала тоеснасць не гістарычна-палітычнай, а этнакультурнай (этналінгвістычнай) супольнасці. Менавіта літоўскі нацыянальны рух на пачатку XX ст. сфармуляваў задачу этнапалітычнага падзелу «гістарычнай Літвы» і Польшчы.

Збігнеў Соляк, аналізуючы біяграфію галоўнага ідэолага ліберальна-дэмакратычнага варыянту краёвай ідэі Міхала Ромэра, звярнуў увагу на ягоныя кантакты з літоўскімі нацыянальнымі арганізацыямі. У прыватнасці, яшчэ ў гады вучобы ў Парыжы (1902–1905) М. Ромэр наведваў паседжанні літоўскага таварыства «Želmuo», а пазней аб'яднання літоўскіх студэнтаў «Lithuania», заснаванага Ёзасам Петрулісам[16].

Літоўскі рух паўплываў таксама на пазіцыю прадстаўнікоў кансерватыўнай плыні краёвасці. У прыватнасці, гэта датычыла Канстанцыі Скірмунт, якая вызначала ўласную свядомасць формулай *gente Lithuane, natione Lithuane,* і Рамана Скірмунта, першая кніга якога – *Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej* (Lwów, 1904) – была інспіраваная якраз літоўскім нацыяналізмам.

Вялікую ролю таксама адыграла афармленне польскага нацыянальнага руху. На пачатку ХХ ст. у грамадскім жыцці Беларуска-Літоўскага краю ён прысутнічаў у двух версіях. Польскія нацыянальныя дэмакраты абвяшчалі абсалютны прыярытэт польскай ідэі ў яе этнакультурным разуменні, а сацыялісты спрабавалі спалучыць яе з радыкальнай сацыяльнай праграмай.

У выніку прапаганды польскага нацыяналізму большасць палякаў «гістарычнай Літвы» паступова пачала атаясамліваць сябе з сучаснай Польшчай як у культурным, так і этнапалітычным сэнсе. Аднак даволі моцныя пазіцыя захоўвала таксама ідэнтыфікацыя з «гістарычнай Літвой», якая ўспрымалася большасцю мясцовых палякаў як Айчына. Р. Мікніс, аналізуючы актыўнасць ідэолагаў краёвасці і ступень яе пашырэння, нават выказаў ідэю пра пачаткі фармавання новай нацыі, а менавіта нацыі «літоўскіх палякаў»[17].

У кожным выпадку на пачатку ХХ ст. было відавочным як абвастрэнне польска-літоўскіх адносінаў, так і адсутнасць адзінства сярод мясцовай польскай супольнасці.

Адпаведна краёвасць можна трактаваць як спробу адказаць на выклікі часу. Яна не выглядала як цалкам распрацаваная ідэалогія, што магла даць адказ амаль на кожнае пытанне. Можна нават сцвярджаць: колькі краёўцаў – столькі канцэпцый краёвасці. Дарэчы, гэта адзначыў яшчэ Міхал Ромэр на старонках свайго Дзённіка ў 1921 г.: *«Ужываючы тэрмін «краёўцы», трэба заўсёды помніць, што гэтае паняцце не азначае ні партыі, ні адзінай праграмы. Можна нават сказаць, колькі «краёўцаў», столькі розных праграмаў [...]»*[18].

Напрыклад, для Міхала Ромэра сутнасцю гэтай ідэалогіі было фармаванне на аснове ўсіх этнічных групаў Краю новай палітычнай нацыі[19]. Людвік Абрамовіч разумеў краёвасць як прынцып мірнага суіснавання і супрацоўніцтва розных народаў як роўных з роўнымі. У 1913 г. на старонках газеты «Пшэглёнд Віленьскі» («Przegląd Wileński») ён сцвярджаў, што краёвасць – гэта не ідэя, а толькі спосаб пашырэння ўплываў «заходняй

культуры» і гарантыя польскага культурнага і палітычнага дамінавання ў Краі[20].

Канстанцыя Скірмунт засяроджвала ўвагу на «літоўскім характары» Краю і спрабавала выступіць пасрэднікам у паразуменні літоўскага нацыянальнага руху (*«младалітвінаў»*) з польскамоўнай шляхтай (*«старалітвінамі»*)[21]. Раман Скірмунт падкрэсліваў ролю «Русі» (з 1906 г. ён пісаў ужо пра «Беларусь») у гісторыі і тагачасным жыцці рэгіёну[22].

Баляслаў Ялавецкі сцвярджаў *«адзінства крыві»* палякаў, беларусаў і літоўцаў, да якога далучалася яшчэ і культурнае адзінства гэтых народаў. У «Нацыянальным катэхізісе Літвы» ён сцвярджаў, што ў выніку шматлікіх войнаў і перасяленняў яшчэ да праўлення вялікага князя Ягайлы ў жылах жыхароў Літвы змяшалася кроў палякаў, літоўцаў і беларусаў. Пасля Крэўскай уніі *«хрысціянства, асвета і заходняя культура прыходзілі ў Літву выключна з Польшчы і ператвараліся ў адзіную супольную польска-беларуска-літоўскую культуру [...] У выніку на ўсёй тэрыторыі Літвы ад Балтыкі, Нарава, Нёмана і Вяллі да Днябра, ад Дзвіны да Прыпяці запанавалі адзіныя звычаі і абрады, адзіная нацыянальная этыка, якія не залежалі ад таго, якая мова гучала пад страхой – польская, літоўская ці беларуская. Усе гэтыя мовы родныя, бо ў нашых жылах цячэ адна кроў...»*[23]

Усе краёўцы падкрэслівалі дамінаванне агульнакраёвых інтарэсаў над інтарэсамі асобных сацыяльных груп, а таксама этнічных супольнасцяў і нацый Літвы і Беларусі. У 1905 г. Раман Скірмунт сцвярджаў, што задачай бліжэйшай будучыні з’яўляецца арганізацыя сужыцця розных этнічных і культурных элементаў Краю на падмурку *«супольнага грамадзянства»*[24]. Пры гэтым «літоўскія палякі» прызнаваліся адным з карэнных народаў Краю[25]. Наогул, краёўцы трактавалі Беларуска-Літоўска край як суб’ект гісторыі і імкнуліся ператварыць яго ў суб’ект палітыкі.

Даследчыкі згодныя, што ў той перыяд існавалі дзве плыні «краёвага руху» – дэмакратычная (ці ліберальна-дэмакратычная) і кансерватыўная (ці ліберальна-кансерватыўная). Галоўным прадстаўніком і ідэолагам першай плыні, якая сфармавалася ў 1906 г. у асяроддзі рэдакцыі «Газеты Віленьскай» («Gazety Wileńskiej») быў яе фактычны рэдактар Міхал Ромэр. Важную ролю ў пашырэнні гэтай плыні адыграла таксама публіцыстыка рэдактара штотыднёвіка «Przegląd Wileński» Людвіка Абрамовіча.

Кансерватыўная плынь была прадстаўленая Раманам і Канстанцыяй Скірмунтамі, Баляславам Ялавецкім і Чэславам Янкоўскім. Апошні



*Раман Скірмунт.*
*Фотаздымак 1910? г.*



GAZETA WILEŃSKA

DZIENNIK POLITYCZNY, LITERACKI I SPOŁECZNY.

WYCHODZI CODZIENNIE RANO, OPRÓCZ DNI POŚWIĄTECZNYCH.

NADESŁANE

MAGAZYN FABRYCZNY „ĆMIELÓW" w Warszawie, Marszałkowska 124.

NAJTAŃSZE ŹRÓDŁO!!!

Dr. med. K. Rothert

osiadł w Mińsku litew.

Rada Wileńskiego Związku Handlowo-Przemysłowego

Restauracya „Niszkowski" w czasie obiadów i kolacyj będzie grała damska włoska orkiestra.

IRENA GRUŻEWSKA

ANIELI WERECKIEJ

Biuro Związku Ziemian Dłużników Ziemskich Banków Akcyjnych

Od Redakcyi.

*Першая старонка першага нумару «Газеты Віленьскай». 1906 г.*

ў 1906–1907 гг. быў рэдактарам газеты «Кур'ер Літэўскі» і зрабіў яе галоўнай трыбунай прапаганды краёвай ідэі ў кансерватыўнай версіі.

Чым адрозніваліся гэтыя плыні? Паводле Рымантаса Мікніса, галоўным адрозненнем было стаўленне да нацыянальных рухаў[26]. Літоўскі гісторык лічыў, што ліберальныя краёўцы акцэптавалі нацыянальную эмансіпацыю літоўцаў і беларусаў (апроч найбольш радыкальных патрабаванняў у культурнай галіне), а «правае крыло» краёўцаў (кансерватары) не прыняло гэтай эмансіпацыі. Яны нібыта не прызнавалі паняцця этнакультурнай нацыі, сцвярджалі ідэю гістарычна-палітычнай адзінай нацыі («нацыя літвінаў») як дэмакратызаванага варыянту колішняй палітычнай (шляхецкай) нацыі.

З гэтым сцвярджэннем можна пагадзіцца толькі часткова. На самой справе галоўныя аргументы і дэмакратаў, і кансерватараў былі тыя ж самыя. Розніца датычыла пераважна абгрунтавання прапанаваных ідэяў і рознай рыторыкі. Дэмакраты глядзелі ў будучыню, арыентаваліся на



*Калектыў рэдакцыі «Кур'ера Літэўскага».*
*У першым шэрагу другі злева Чэслаў Янкоўскі. 1906 г.*

«прагрэс» і мадэрнізацыю грамадства. Ягонае адзінства разумелі як сацыяльную гомагенізацыю. Кансерватары звярталіся да гісторыі і традыцыі. Адзінства грамадства яны разумелі ў катэгорыях пэўнай кампенсацыі люду за ранейшыя крыўды з боку шляхты[27].

Міхал Ромэр і яго калегі па «Газеце Віленьскай» сапраўды спрабавалі дасягнуць паяднання народаў Краю на падмурку ідэі дэмакратычнай нацыі палітычнага тыпу. М. Ромэр ацэньваў дэмакратызм беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў як важны фактар фармавання грамадзянскай супольнасці і адзінай нацыі. Былое Вялікае Княства Літоўскае ён трактаваў як агульную Айчыну некалькіх народаў і не бачыў магчымасці іх размежавання цывілізаваным спосабам. Тэрытарыяльныя канфлікты ў гэтым выпадку здаваліся непазбежнымі.

У сваю чаргу Раман Скірмунт у 1907–1908 гг. спрабаваў стварыць Краёвую партыю Літвы і Беларусі ў форме саюза польскай, беларускай і літоўскай партыйных арганізацый. Можна сцвярджаць, што прынамсі частка прадстаўнікоў кансерватыўнай плыні краёвасці акцэптавала нацыянальныя рухі. Відавочна, што і сам Раман Скірмунт быў упэўнены ў мажлівасці сумяшчэння «краёвай свядомасці» з мадэрным нацыяналізмам.

Пра апошняе сведчыць таксама стасунак палітыка да беларускага нацыянальнага руху. Ягонае афармленне ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. істотна паўплывала на палітычную дзейнасць ураджэнца Палесся. У прыватнасці, Р. Скірмунт перастаў карыстацца тэрмінамі «Літва і Русь» і пачаў ужываць паняцце «Беларусь», а падчас інтэрв'ю карэспандэнту органа польскіх нацыянальных дэмакратаў газеты «Dziennik Kijowski» назваў сябе «беларусам». Напрыканцы 1916 г. ён узначаліў Менскае аддзяленне Беларускага Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, роля якога выходзіла далёка за межы дабрачыннасці. Фактычна, Раман Скірмунт адкрыта далучыўся да беларускага руху і пачаў адыгрываць у ім ролю аднаго з лідэраў.

Можна сцвярджаць, што вядучыя ідэолагі краёвасці абедзвюх плыняў дэманстравалі прыхільнасць і падтрымку літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў. Гэтая прыхільнасць мела розныя прычыны, але нават у дэкларатыўнай форме яна спрыяла пашырэнню талеранцыі. Вялікай праблемай было прымірэнне нацыянальнага Адраджэння беларусаў і літоўцаў з захаваннем традыцыйных дабрасуседскіх стасункаў паміж рознымі народамі «гістарычнай Літвы». Даводзілася шукаць сродкі дзеля ўлагоджвання верагодных канфліктаў у выніку культурніцкіх і канфесійных падзелаў.

Здаецца, усе краёўцы імкнуліся да абмежавання палітычных амбіцый польскай супольнасці, пераконвалі яе ў неабходнасці ўлічваць інтарэсы літоўцаў і беларусаў. Пры гэтым яны выразна супрацьставіліся ўплывам польскіх нацыянальных дэмакратаў. Менавіта Польская нацыянальна-дэмакратычная партыя і яе галоўны ідэолаг Раман Дмоўскі (1864-1939), а не дзеячы літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў, успрымалася краёўцамі як галоўны праціўнік.

Краёўцы-дэмакраты, прызнаючы сацыяльную і палітычную эмансіпацыю літоўцаў і беларусаў, падкрэслівалі ўласную прыналежнасць да польскай культуры і адстойвалі права на яе развіццё. Паняцці «нацыянальнасць» і «грамадства» трактаваліся імі як камплементарныя[28].

У 1906 г. у рэдакцыйным артыкуле першага нумару «Газеты Віленьскай» (1906) Міхал Ромэр пераконваў чытача: «*Мы, грамадзяне Літвы і Беларусі не можам быць польскімі каланістамі. У вымярэнні краёвага грамадзянства, г. зн. у вымярэнні палітычным, сацыяльным і гаспадарчым, нашай роднай зямлёй з'яўляецца Літва і Беларусь. Выключна ў вымярэнні культурна-нацыянальным мы застаемся сынамі польскага народа і ад гэтага сваяцтва адмаўляцца не будзем і не хочам*»[29].

Няма сумнення, што галоўныя прынцыпы краёвасці былі сфармуляваныя ў асяроддзі «літоўскіх палякаў», якія перажывалі даволі складаны перыяд сваёй гісторыі. Наступленне «эпохі нацыяналізмаў» значна прыспешыла працэсы нацыянальнай дыферэнцыяцыі і фармаванне нацыянальнай свядомасці ў этнакультурным варыянце на беларускіх і літоўскіх землях. Большасць палякаў «гістарычнай Літвы» пачала атаясамліваць сябе з тагачаснай Польшчай як этнапалітычна, так і этнакультурна. Аднак многія захавалі свядомасць грамадзяніна былога Вялікага Княства Літоўскага і засталіся «ліцвінамі» ў гістарычным сэнсе.

Як ужо адзначалася, літоўскі гісторык Рымантас Мікніс на старонках часопіса «Biuletyn Historii Pogranicza» (Беласток) выказаў гіпотэзу пра фармаванне ў Літве і Беларусі на пачатку XX ст. сучаснай нацыі «літоўскіх палякаў». На прыкладах канкрэтных асобаў (Міхал Ромэр, Людвік Абрамовіч, Антоні Вівульскі і Эўгеніюш Ромэр) ён спрабаваў акрэсліць рысы свядомасці, характэрныя для новай нацыі[30].

Але першымі даследчыкамі гэтага спецыфічнага варыянту польскасці былі самі краёўцы. Гэта яны сцвярджалі, што палякі ўжо па прычыне свайго паходжання не былі каланістамі, а ўяўлялі сабой мясцовы элемент, належалі да карэннага насельніцтва. Краёўцы звярталі ўвагу на этнічную повязь палякаў з літоўцамі і беларусамі і сцвярджалі, што тып «літоўскага паляка» па многім параметрам бліжэйшы да літоўца і беларуса, чым да паляка з «*Кароны*». Гэта яны падкрэслівалі ўзаемнасць культурных уплываў і ўказвалі на адрозненні культуры палякаў у Вялікім Княстве Літоўскім ад культуры на этнічных польскіх землях. Паводле краёўцаў, «літоўскія палякі» мелі нават іншую ментальнасць, чым этнічныя палякі. Ужо пазней Юліуш Бардах адной з важнейшых іх рысаў лічыў падвоеную палітычную свядомасць[31].

Але найлепш пра свядомасць «літоўскіх палякаў» напісаў М. Ромэр у сваёй незакончанай аўтабіяграфіі. Прыгадваючы ўласнае дзяцінства, ён зазначыў: «*Тады я яшчэ не разумеў, што мая скура іншая, не чыста польская і не чыста літоўская. Яна асабліва сфармаваная. У ёй месцяцца рысы польскасці і літоўскасці. Гэта старая скура Адама Міцкевіча, асаблівы твор гісторыі нашай Айчыны, скура, у якой і душа асаблівая – не літоўская і не польская. Я яшчэ не разумеў, што хлусіў бы, называючы сябе толькі літоўцам, але таксама хлусіў бы, называючы сябе толькі палякам. Я яшчэ не ўсвядоміў, што сутнасць маёй асобы ў тым, што адчуваў у гады дзяцінства і маладосці, калі меў 14–18 гадоў. Тады я не адрозніваў у сабе*

*паляка ад літоўца, любіў і цаніў абодва імёны, а асабліва спачуваў зямлі і люду літоўскаму, і калі марыў і пісаў вершы, то як Адам Міцкевіч лічыў сваёй Радзімай не Польшчу, а Літву [...]*

*Тады я яшчэ не ведаў, што нашая, г. зв. «літоўскіх палякаў», драма або прынамсі адзін з фактараў гэтай драмы ў тым, што мы не маем уласнага імя, што нашая душа – гэта спалучэнне двух асобных нацыянальных душ, што калі абедзве душы сутыкаюцца, нам бывае цяжэй, чым камусьці іншаму, трымацца натуральна і не хлусіць. Мы выкарыстоўваем імя [палякаў], якое не адпавядае нашай сутнасці і не адлюстроўвае глыбінных рысаў нашай псіхікі і характару, якія паходзяць з псіхікі і характару народу Літвы, з самых глыбокіх каранёў мясцовай этнічнай супольнасці [літоўцаў і беларусаў]. Мы не з'яўляемся ні літоўцамі, ні беларусамі, але таксама не з'яўляемся палякамі»*[32].

Паводле Рымантаса Мікніса, паняцце «літоўскі паляк» нарадзілася на пачатку XX ст. як назва пэўнага тыпу паляка[33]. Ягоным сінонімам ён лічыць паняцце «паляк-літвін», якое часта сустракаецца ў гэты ж перыяд. У 1908 г. Міхал Ромэр у даследаванні літоўскага нацыянальнага Адраджэння ахарактарызаваў «літоўскіх палякаў» як мясцовы элемент, які спаланізаваўся на сваім гістарычным шляху[34]. Паняцце «літоўскі паляк» фігуравала падчас дыскусіі М. Ромэра і Л. Абрамовіча па праблеме стасунку краёўцаў да нацыянальных рухаў літоўцаў і беларусаў. Людвік Абрамовіч, які трактаваў палякаў «гістарычнай Літвы» як пэўную культурную супольнасць адрозную ад «караняжаў», таксама прызнаваў іх асобнай нацыяй.

Для разумення сітуацыі перыяду Першай сусветнай вайны варта адзначыць заўвагу аўтара аднаго з тэкстаў газеты «Мысль Польска» («Myśl Polska») (1915). Артыкул не быў падпісаны, але вельмі верагодна, што ягоным аўтарам быў Л. Абрамовіч, які якраз працаваў у рэдакцыі гэтай газеты. У артыкуле сцвярджалася, што *«польскасць у Літве цалкам незалежная ад лозунгаў з Варшавы. Гэта асобная лакальная польскасць, і толькі мясцовыя чыннікі вызначаюць, ці жыве яна поўным жыццём, ці гібее. Ні пра якое вяртанне «літоўскіх палякаў» да этнаграфічнай Польшчы не можа быць і гаворкі, бо яны ніколі адтуль у сваёй большасці не прыходзілі. Толькі Літва застаецца краем, з якім яны этнаграфічна звязаныя»*[35].

У гэты ж час у публіцыстыцы і мемуарах з'явіліся тэрміны «паляк-беларус» і «беларус польскай культуры». Як ужо адзначалася,

менавіта так акрэсліў уласную нацыянальную прыналежнасць у 1906 г. дэпутат І Дзяржаўнай Думы Раман Скірмунт у інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Dziennik Kijowski»[36]. Вядомы даследчык краёвасці Казімір Акуліч ахарактарызаваў ягоную дзейнасць у 1916–1918 гг. як *«апошні акт польска-беларускага сімбіёзу»*[37]. Апроч Рамана Скірмунта да тыпу «беларусаў польскай культуры» ў той час можна аднесці такіх прадстаўнікоў мясцовай эліты як Марыя Магдалена Радзівіл, Геранім Друцкі-Любецкі, Станіслаў Радзівіл, Эдвард Вайніловіч, Казімір Шафнагель ды інш.

Можна сцвярджаць, што пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. сярод «літоўскіх палякаў» паступова вылучылася група беларусаў у гістарычным сэнсе. Некаторыя яе прадстаўнікі на пачатку ХХ ст. дзейнічалі ўжо як беларускія палітыкі.

У гэтай сувязі варта прыгадаць вельмі слушную заўвагу Юліуша Бардаха, які адзначыў немагчымасць правядзення дакладнай мяжы, дзе *«заканчвалася пачуццё рэгіянальнай адметнасці літвінаў-палякаў (або беларусаў-палякаў) […] і нараджалася літоўская або беларуская нацыянальная свядомасць. Іншым разам на тэрыторыях, дзе канкуравалі паміж сабою розныя нацыянальныя супольнасці, адна і тая ж асоба ў розныя перыяды свайго жыцця дэкларавала сябе то палякам, то літоўцам, то беларусам. Асабліва цікавыя матывы гэтых зменаў у выпадку асобаў, якія належалі да інтэлектуальнай эліты Краю, г. зн. там, дзе працэс асіміляцыі саступаў свядома зробленаму выбару»*[38].

Ідэйна-палітычная сутнасць краёвасці абапіралася на ўсведамленне адзінства «гістарычнай Літвы», якое грунтавалася на гістарычных і культурных падставах. Краёўцы, гаворачы пра «нацыю ліцвінаў» як нацыю палітычнага тыпу і разважаючы пра ліквідацыю *«асобных нацыянальных хатаў»* (М. Ромэр) і фармаванне грамадзянскай супольнасці, фактычна спрабавалі на землях былога Вялікага Княства Літоўскага паяднаць ідэю этнакультурнай нацыі з дактрынай нацыі палітычнай.

Аднак, нягледзячы на намеры ідэолагаў, якія казалі пра *«грамадзянаў Краю»*, ігнаруючы іх этнакультурную спецыфіку, краёвасць усё ж вырасла на глебе пошуку «літоўскімі палякамі» ўласнага месца ў новым грамадстве. З намаганнямі краёўцаў (як дэмакратаў, так і кансерватараў) у першую чаргу была звязаная перспектыва польскасці ў «гістарычнай Літве». Рымантас Мікніс упэўнены, што «краёвая ідэя» працавала на фармаванне нацыі «літоўскіх палякаў»[39].

Прынамсі можна казаць, што да гэтага імкнулася большасць ідэолагаў краёвасці. Так, прапаганда краёвай ідэі датычыла амаль выключна «літоўскіх палякаў». Менавіта яны былі галоўнымі чытачамі газет «Кур'ер Літэўскі», «Газета Віленьска» і «Пшэглёнд Віленьскі». Галоўным чынам на «літоўскіх палякаў» былі разлічаныя выбарчыя кампаніі краёўцаў падчас абрання дэпутатаў Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнай Рады Расейскай імперыі ў 1906–1912 гг. ад насельніцтва Беларуска-Літоўскага краю.

Адзіным выключэннем была дзейнасць віленскіх масонскіх ложаў («Еднасць», «Літва» і «Беларусь») у 1911–1915 гг., якія пасля далучэння да вольных муляроў Міхала Ромэра хутка ператварыліся ў асяродкі дзейнасці краёўцаў і імкнуліся пашырыць іх уплывы на літоўскі і беларускі нацыянальныя рухі.

Аднак дзейнасць масонскіх ложаў была абмежаваная таямнічасцю вольных муляроў. Няўдачай закончылася спроба палітычнага аб'яднання ўсіх карэнных народаў «Краю» на падмурку «краёвай ідэі», якую зрабіў у 1907 г. Раман Скірмунт. Хоць Краёвая партыя Літвы і Беларусі (Stronnictwo Krajowe Litwy i Białorusi) і была створаная, аднак ад першапачатковага праекта Р. Скірмунта па стварэнні польска-беларуска-літоўскай партыі амаль нічога не засталося. У Вільні фактычна ўзнікла польская партыя земляўласнікаў-краёўцаў. Раман Скірмунт разам з дэлегацыяй ад Ковенскай губ. адмовіліся ад сяброўства ў гэтай арганізацыі.

Можна зрабіць выснову, што для большасці сваіх адрасатаў краёвая ідэя была ідэалогіяй «літоўскіх палякаў», распрацаванай менавіта для іх. Аднак прапанаваная канцэпцыя аказалася не больш чым «рэтраспектыўнай утопіяй». Як заўважыла даследчыца Марыя Задэнцка, рамантычны вобраз Краю мог быць толькі *«рытарычным падмуркам іх пастулатаў, аднак ён не павялічваў шансы на поспех у перыяд паскоранага развіцця не гісторыі, а сучаснасці»*[40].

«Літоўскія палякі» сталі закладнікамі польска-літоўскага канфлікта, які прымушаў іх адмовіцца ад тоеснасці палякаў даўняй Літвы. Давялося выбіраць паміж тоеснасцю сучаснага паляка або сучаснага літоўца (*vel* беларуса) Прычым у апошнім выпадку трэба было забыць пра ўласную прыналежнасць да польскай культуры. У найноўшай гісторыі Літвы, Беларусі і Польшчы ўжо не заставалася месца для «літоўскіх палякаў» і «грамадзян Вялікага Княства Літоўскага».

## *Краёвасць і беларускае Адраджэнне*

Уплывы краёвай ідэалогіі не абмяжоўваліся супольнасцю «літоўскіх палякаў». Яна аказалася прывабнай таксама для дзеячаў беларускага Адраджэння і паўплывала на шляхі фармавання беларускай нацыянальнай ідэі.

Для ідэалогіі першых беларускіх палітычных арганізацый было характэрным спалучэнне сацыялістычнай дактрыны ў яе народніцкім варыянце з праграмай нацыянальна-культурнага Адраджэння. Гэта найбольш поўна адлюстравалася ў праграме Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ), якая працяглы час з'яўлялася галоўнай палітычнай сілай беларускага руху.

Трэба адзначыць, што ў 1903 г. на сваім I з'ездзе дзеячы Грамады выказаліся за незалежную дэмакратычную рэспубліку, якая, на іх думку, з'яўлялася найлепшай формай забеспячэння свабоды нацыянальнага развіцця[41]. Уключэнне гэтага патрабавання ў праграму дзейнасці партыі было абумоўлена не столькі ўзроўнем асэнсавання беларускай нацыянальнай ідэі, колькі ўплывамі літоўскіх і асабліва польскіх сацыялістаў. Апошнія, як сведчаць іх праграмныя дакументы, імкнуліся максімальна ўзмацніць незалежніцкія тэндэнцыі ў дзейнасці іншых нацыянальных арганізацый і партый на тэрыторыі «гістарычнай Літвы» і адначасна кантраляваць іх дзейнасць[42].

Важным этапам у развіцці беларускага нацыянальнага руху стала рэвалюцыя 1905–1907 гг. З пэўнага «клубу аматараў Беларусі» ён ператварыўся ў істотны фактар грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Беларуска-Літоўскага краю. Адбыліся змены таксама ў сферы ідэалогіі. На II з'ездзе ў студзені 1906 г. БСГ абвясціла сябе *«партыяй працавітай беднаты Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцяў»*[43].

Магчыма, гэтыя перамены былі выкліканыя не толькі дамінаваннем класавага падыходу. З улікам далейшай дзейнасці кіраўнікоў БСГ праграмныя змены можна ахарактарызаваць як пэўную эвалюцыю ў разуменні нацыі. Эвалюцыя ішла ў накірунку ад трактоўкі нацыі як этнакультурнай арганізацыі да яе ўспрыняцця як пэўнага палітычна-тэрытарыяльнага фенамена або палітычнай нацыі-дзяржавы. Патрабаванне незалежнай дэмакратычнай рэспублікі было заменена пастулатам аўтаноміі з сеймам у Вільні.

Першыя заўважальныя кантакты беларускіх адраджэнцаў з краёўцамі былі звязаныя з сходамі прыхільнікаў аўтаноміі Літвы, якія адбываліся

ў Вільні ў красавіку і маі 1905 г. Ініцыятарам сходаў, у якіх удзельнічалі прадстаўнікі «літоўскіх палякаў», літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў, а таксама сябры габрэйскіх палітычных арганізацый, быў адзін з галоўных ідэолагаў дэмакратычнага варыянту краёвасці Міхал Ромэр.

Беларусы, якіх прадстаўлялі Іван Луцкевіч (1881–1919) і Аляксандр Уласаў (1874–1941)[44], «літоўскія палякі» і прадстаўнікі габрэйскай супольнасці Вільні выступалі за аўтаномію «гістарычнай Літвы» з гарантыяй нацыянальна-культурных правоў кожнага з яе народаў. Літоўскія дзеячы адстойвалі канцэпцыю аўтаноміі «*этнаграфічнай Літвы з прылеглымі тэрыторыямі і сталіцай у Вільні*». Дыскусіі былі даволі вострымі і не прывялі да паразумення. Згода не была дасягнутая[45].

Але беларусы не адмовіліся ад спробаў паразумецца з літоўцамі. Міхал Ромэр, спасылаючыся на інфармацыю з літоўскай газеты «Darbininku Balsas» (1906, Nr 1), паведаміў пра зварот кіраўнікоў БСГ напрыканцы 1905 г. да сацыялістычных партый, якія дзейнічалі на тэрыторыі Літвы і ў першую чаргу да Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Галоўнай мэтаю звароту было ідэйнае паразуменне ў змаганні за аўтаномію Беларусі і Літвы з агульным сеймам і арганізацыйнае афармленне адзінай сацыялдэмакратычнай партыі Літвы і Беларусі[46].

Магчыма менавіта кантакты з краёўцамі дэмакратычнага накірунку спрыялі з'яўленню ў праграме БСГ тэзіса аб аўтаноміі.

Кантакты прыкметна ўзмацніліся ў 1911 г., калі ў Вільні ўзнікла масонская ложа «Еднасць», сярод заснавальнікаў якой былі браты Іван і Антон Луцкевічы. Гэтая ложа аб'ядноўвала прадстаўнікоў дэмакратычных плыняў польскага, беларускага, літоўскага нацыянальных рухаў, а таксама габрэйскіх арганізацый. У 1911 г. у «Еднасць» быў прыняты Міхал Ромэр, які хутка стаўся прызнаным масонскім лідэрам[47].

Дзякуючы ягонаму ўменню пераканаць і павесці за сабой, віленскія масонскія ложы сталі моцнымі цэнтрамі прапаганды краёвай ідэі[48]. Перад Першай сусветнай вайной у Вільні існавалі ўжо чатыры ложы – «Еднасць», «Літва», «Беларусь» і «Верны ліцвін». Тры першыя, фактычна, ядналі прыхільнікаў краёвасці, сярод якіх апынуліся браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, літоўскія дзеячы Міколас Сляжэвічюс, браты Міколас і Вацловас Біржышкі, Феліксас Бугайлішкіс, Юргіс Шаўлюс, Ёнас Вілейшыс, Андрус Булёта ды інш.

Пазней Міхал Ромэр у сваім Дзённіку адзначаў: «*Як уласна масонская арганізацыя мы не дзейнічаем, але ў многіх справах менавіта сярод нас*

*выпрацоўваюцца дырэктывы і нараджаюцца ініцыятывы. Нашыя ложы маюць вялікі ўплыў на ўмацаванне ў свядомасці братоў краёвай пазіцыі»*[49].



*Браты Іван і Антон Луцкевіч, Вацлаў Ластоўскі. Здымак перыяду выдання «Нашай Нівы»*

На думку Збігнева Соляка, менавіта на масонскіх пасяджэннях было прынятае рашэнне пра вылучэнне кандыдатуры Браніслава Крыжаноўскага ў дэпутаты IV Дзяржаўнай Думы[50]. Ложы таксама прычыніліся да выдання газеты «Пшэглёнд Віленьскі» (рэдактар Людвік Абрамовіч) і незвычайнага беларускага праекту выдання штодзённых газет на рускай («Вечерняя газета», 1912–1915) і на польскай («Kurier Krajowy», 1912–1914) мовах.

Відавочна, што прызнаныя лідэры беларускага руху браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Уласаў не толькі прынялі канцэпцыю палітычнай нацыі і тэрытарыяльнай непадзельнасці зямель гістарычнай Літвы, але і актыўна яе прапагандавалі.

Сродкам гэтай прапаганды стаў віленскі перыядычны друк, які адначасна ператвараўся ў прастору міжнацыянальнага паразумення і супрацоўніцтва. Так, ужо ў рэдакцыі «Газеты Віленьскай» (1906) існаваў г. зв. «літоўскі аддзел» у складзе Міколаса Біржышкі, Юргіса Шаўлюса і Павіласа Вішынскаса. Супрацоўніцтва таксама датычыла газеты «Кур'ер краёвы» (1912–1914). Гэта быў наватарскі праект выдання беларускай газеты на польскай мове[51]. Ідэйнымі кіраўнікамі і актыўнымі аўтарамі гэтай газеты былі браты Луцкевічы, якіх падтрымліваў Міхал Ромэр. У лістападзе 1913 г., калі газета перажывала фінансавы крызіс, у склад яе рэдакцыі ўвайшлі літоўцы Ёнас Вілейшыс, Юргіс Шаўлюс і Сцяпонас Кайрыс, а таксама краёўцы-дэмакраты Ю. Сумарок, Ю. Букоўскі і М. Ромэр[52].

Як ужо адзначалася, у гэты ж самы час браты Луцкевічы, захоўваючы пэўную таямнічасць, пачалі выдаваць таксама ліберальна-дэмакратычную газету на рускай мове. «Вечерняя газета» (1912–1915) выступала як орган «*рускіх прагрэсістаў*», хоць на самой справе гэта была цалкам бела-

руская выдавецкая ініцыятыва. У абодвух выпадках беларусы хаваліся пад псеўданімамі і крыптонімамі. На старонках «Вечерней газеты» яны выступалі як «рускія лібералы», а ў «Кур'еры краёвым» – як «польскія дэмакраты».

Такім чынам, напрыканцы 1912 г. пад кантролем віленскага беларускага кола знаходзіліся чатыры выданні: два беларускія штотыднёвікі – «Наша Ніва» і «Саха», адно польскамоўнае – штодзённы «Кур'ер краёвы» і адно рускамоўнае – штодзённая «Вечерняя газета».

У праграмных артыкулах першых нумароў «Вечерней газеты» і «Кур'ера краёвага» Антон Луцкевіч сфармуляваў галоўныя задачы выданняў, якія адвяргалі канцэпцыю этнакультурнага нацыяналізму і цалкам адпавядалі дэмакратычнаму варыянту краёвасці.

«Вечерняя газета» № 1 ад 18 верасня (1 кастрычніка) 1912 г.: *«У нас ніякім чынам нельга зыходзіць з інтарэсаў якой-небудзь адной нацыянальнай групы. Ва ўмовах разнастайнасці нацыянальнага складу насельніцтва трэба ўвесь час мець на ўвазе інтарэсы Краю, як адзінага цэлага. Толькі ў гэтым выпадку магчыма нармальнае развіццё кожнай асобнай народнасці. Усведамленне, што ўсе мы, жыхары гэтай зямлі, з'яўляемся грамадзянамі Краю – вось нашая зыходная кропка пры высвятленні патрабаванняў розных групаў насельніцтва»*.

Поўнае задавальненне нацыянальных і сацыяльных патрабаванняў шырокіх колаў насельніцтва Антон Луцкевіч звязваў з устанаўленнем *«дэмакратычнага ладу»*. Пад апошнім разумелася правядзенне ў жыццё ў поўным аб'ёме *«вялікіх палажэнняў абвешчаных яшчэ Маніфестам 17 кастрычніка 1905 г.»*

У праграмным артыкуле № 1 «Кур'ера краёвага» падкрэслівалася небяспека шавінізму, які *«ўносіць у народныя масы ўзаемную нянавісць і ўнутраную барацьбу, пагражае распадам Краю і стратай ім магчымасці абараняцца ад людзей, якія імкнуцца знішчыць на гэтай зямлі ўсялякае пачуццё адметнасці»*. Між тым, *«у Краі, дзе побач з літоўцам жыве паляк, побач з беларусам – габрэй, у Краі, няшчасны лёс якога прадвызначыў ягонае адставанне і пазбавіў магчымасці свабоднага развіцця, няма месца для ўнутранай барацьбы»*. Адзін з кіраўнікоў беларускага руху заклікаў усіх *«грамадзян Краю»* да працы на ягоную карысць і на карысць прыгнечанага народу.

Тэрмін «грамадзянін Краю», адзін з асноўных у краёвай ідэалогіі, шырока ўжываўся на старонках «Кур'ера краёвага» і «Вечерней газеты». Аўтары публікацый даводзілі, што жыццёва важныя для Краю пытанні

павінны вырашацца з улікам інтарэсаў усіх народаў Беларусі і Літвы[53], асуджалі праявы шавінізму[54] ды інш. Асновай краёвай згоды лічылася супрацоўніцтва дэмакратычных сіл усіх нацыянальных рухаў[55].

Беларускія краёўцы на старонках «Вечерней газеты» і «Кур'ера краёвага», таксама праводзілі думку наконт нацыянальнага адзінства беларусаў каталіцкага і праваслаўнага веравызнання. Пры гэтым нацыя характарызавалася як супольнасць, аб'яднаная агульнасцю *«псіхікі, грамадскіх традыцый, перажыванняў і грамадскага органа перадачы думак – мовы»*[56].

Яны звярталі ўвагу на пашырэнне стэрэатыпаў тоеснасці каталіцызму і польскасці, а таксама праваслаўя і расейшчыны, пратэставалі супраць афіцыйнай трактоўкі праваслаўных беларусаў як «рускіх», а католікоў – як «палякаў»[57]. Крытычна ацэньвалася таксама дзейнасць духавенства. На пачатку 1913 г. на старонках «Вечерней газеты» сцвярджалася, што каталіцкі касцёл у Краі прыслужвае польскаму нацыяналізму і прымае актыўны ўдзел у змаганні супраць нацыянальнага абуджэння беларусаў і літоўцаў. У іншым артыкуле гаворка ішла пра існаванне аналагічнага саюза паміж вялікарускімі шавіністамі і праваслаўным клірам[58].

Відавочная спроба беларускіх адраджэнцаў-краёўцаў пераадолець канфесійны падзел беларусаў і стварыць на двухканфесійнай аснове адзіную нацыю. Цікава, што ў гэтым выпадку яны спрабавалі выкарыстаць тыя магчымасці, якія давала краёвая ідэя.

Абодва выданні пашыралі ідэалогію краёўцаў-дэмакратаў сярод грамадства Беларусі і Літвы. «Вечерняя газета» рабіла гэта сярод рускіх, але не пакідала цалкам па-за ўвагай і палякаў. У шэрагу артыкулаў апошніх спрабавалі пераканаць у тым, што толькі іх шчыры паварот да дэмакратыі можа гарантаваць будучыню польскай грамадскасці Беларусі і Літвы[59]. А вось для «Кур'ера краёвага» пашырэнне дэмакратычных поглядаў сярод польскай грамадскасці было адной з галоўных задачаў[60].

Краёвая ідэя выразна прысутнічала і на старонках галоўнай беларускай газеты. У адным з артыкулаў «Нашай Нівы» (1912) адзначалася: *«Мы, беларусы, можам верыць толькі шчырым расейскім прагрэсістам, каторые зрадніліся з нашым Краем, лічаць сябе грамадзянамі нашай старонкі»*[61].

Краёвасць была адчувальнай таксама ў публіцыстыцы Аляксандра Уласава, які не меў схільнасці да напісання артыкулаў і зрэдку з'яўляўся на старонках друку. Варта адзначыць, што ў 1912 г. ягоны артыкул «Край пяці нацыянальнасцяў» апублікавала гарадзенская газета «Наше утро» (№ 24), якая не належала да перыёдыкі беларускага Адраджэння.

«Наше утро» было ліберальным выданнем. Менавіта з гэтых пазіцый газета асвятляла ўнутраную і знешнюю палітыку ўраду, дзейнасць Дзяржаўнай Думы, падзеі культурнага і грамадскага жыцця Беларуска-Літоўскага краю, Гародні і Гарадзенскай губерні. Яна таксама востра палемізавала з шавіністычнай «Северо-Западной жизнью». Магчыма, якраз на глебе палемікі з выданнямі велікарускіх шавіністаў і чарнасоценцаў газета зблізілася з «Нашай Нівай», кіраўніцтва якой у гэты перыяд спрабавала сумясціць беларушчыну з краёвай ідэяй.

Аляксандр Уласаў на старонках гарадзенскай газеты характарызаваў Беларуска-Літоўскі край як агульную Айчыну беларусаў, літоўцаў, рускіх, палякаў і габрэяў. Ён таксама звяртаў увагу, што *«коренное население»*, менавіта беларусы і літоўцы толькі пачынаюць развіваць сваю нацыянальную культуру на фоне назапашаных культурных багаццяў іншых народаў Краю. Пры гэтым, паводле А. Уласава, ім усім трэба ўлічваць беларускае Адраджэнне: «*На всякую из этих национальностей белорусы наложили свою печать, но наибольшую печать наложили они на здешних поляков и русских. Десятимиллионное белорусское море омывает всякую национальность, и всем им приходится к шуму этого моря прислушиваться и подделываться к его обычаям и характеру*».

З мірным сужыццём розных народаў і пэўнай канкурэнцыяй іх родных культур беларускі дзеяч звязваў уздым агульнай культуры Краю. Яго вельмі непакоіла тое, што нацыянальная барацьба часам набывала скандальныя формы, што не хапала павагі да асобы, да іншай нацыі.

Аўтар быў пэўны, што толькі сяброўскае сужыццё ўсіх нацыянальнасцяў з'яўляецца гарантам росквіту Беларуска-Літоўскага краю: «*Вся беда только в том, что у нас национальная борьба ведется по временам некультурными, дикими, скандальными способами. Не хватает уважения к человеческой личности, к чужой нации, с легким сердцем оскорбляются чужие национальные честь и гордость. […] Мы, белорусы должны заимствовать от всех наций всё то хорошее, что у них имеется: от общероссийской культуры ее идею широкого демократизма, от поляков – их культурную любовь к своей отчизне, которая может нам послужить примером. Евреи издавна привыкли помогать друг другу и держаться постоянно вместе, чтобы не погибнуть на протяжении своей тяжелой тысячелетней истории. Благодаря этому они больше, чем другие национальности привыкли к общественной жизни. Мы и у них можем поучиться, приглядываясь их обыденной жизни.*

*Если наш край дождется тихого и дружного сожительства всех национальностей, если между ними будут проведены справедливые границы, тогда духовное и материальное развитие у нас подымется значительно выше, чем в местах, населенных одной только национальностью».*

Відавочна, што ў паслярэвалюцыйны перыяд краёвая ідэалогія сталася часткай ідэйнага падмурку беларускага руху. Прынамсі, ягоныя кіраўнікі актыўна эксплуатавалі краёвую ідэю з мэтай максімальна пашырыць сацыяльную базу беларускага руху і ўзмоцніць яго пазіцыі з дапамогай уплывовых палітычных саюзнікаў. Можна казаць пра даволі прагматычнае выкарыстанне беларусамі краёвай ідэалогіі. У краёвасці яны бачылі сродак, які можа ўмацаваць пазіцыі беларусаў у нацыянальна-культурным і грамадска-палітычным жыцці Беларусі і Літвы.

Так, напрыклад, агітацыя на старонках «Кур'ера краёвага» неабходнасці паразумення палякаў з беларусамі аргументавалася адсутнасцю выразных перспектываў далейшага развіцця польскага руху ў Беларуска-Літоўскім краі[62]. Да гэтага трэба дадаць перакананне кіраўнікоў беларускага руху, што беларускія і літоўскія палякі з'яўляюцца нашчадкамі паланізаваных літоўцаў і беларусаў. Такая пазіцыя нараджала патрабаванні, каб мясцовая польская грамадскасць працавала дзеля развіцця свядомасці беларусаў і літоўцаў[63].

Відавочны «беларускі ўхіл» краёвасці Антона Луцкевіча ды іншых дзеячаў «нашаніўскага кола», якія разумелі краёвасць як сужыццё розных нацыяў Краю і імкнуліся забяспечыць беларусам як найлепшыя ўмовы. Антон Луцкевіч між іншым спадзяваўся, што прапаганда ідэі палітычнай нацыі на польскай і рускай мовах паспрыяе далучэнню да беларускага руху зрусіфікаваных і спаланізаваных беларусаў і тым самым пашырыць яго сацыяльную базу.

Збліжэнню пазіцый краёўцаў і кіраўнікоў беларускага руху спрыялі таксама тыя крокі, якія рабілі асобныя краёўцы. Прычым гэта датычыць не толькі краёўцаў дэмакратычнага накірунку. Паводле інфармацыі Севярына Выслаўха, фінансавую падтрымку «Нашай Ніве» аказваў Раман Скірмунт[64]. Ён жа ў 1907 г. спрабаваў стварыць Краёвую партыю Беларусі і Літвы, якая павінна была стаць свайго роду краёвым саюзам з трыма партыйнымі аддзяленнямі – польскай, літоўскай і беларускай. Аддзяленні мелі высокі ўзровень самастойнасці, хоць і павінны былі ўзгадняць свае дзеянні з кіраўніцтвам саюза[65].

Як вядома, ажыццявіць гэты намер не атрымалася, хоць Краёвая партыя і была створаная. Тым не менш кантакты Рамана Скірмунта з беларускімі палітыкамі ў паслярэвалюцыйны перыяд прыкметна ўзмацніліся. Ролю пасрэдніка адыграла вядомая фундатарка беларускіх культурных праектаў княгіня Марыя Магдалена Радзівіл (1861–1945). Яе дом у Менску (вул. Захар'еўская, 31) і палац у Кухціцах Ігуменскага пав. Менскай губ. сталі месцамі сустрэчаў Рамана Скірмунта з братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Іваноўскім і Аляксандрам Уласавым[66].

Падзеі Першай сусветнай вайны, адступленне расейскіх войскаў з тэрыторыі «гістарычнай Літвы» і з'яўленне нямецкай акупацыйнай адміністрацыі ўвосень 1915 г. паспрыялі актывізацыі краёвай ідэі.

У 1915 г. Юргіс Шаўлюс, спрабуючы выратаваць масонства ад распаду, ініцыяваў стварэнне ложы «Вялікі Усход Літвы», якая непасрэдна прычынілася да адной з апошніх спробаў вызначыць будучыню Краю на падмурку краёвай ідэі.

19 снежня 1915 г. на беларускай, польскай, літоўскай мовах, а таксама на ідыш быў апублікаваны Універсал Часовай Рады Канфедэрацыі ВКЛ. Дакумент паведамляў пра стварэнне літоўска-беларуска-польска-габрэйскай Часовай Рады, якая будзе імкнуцца, каб *«Літоўскія і Беларускія землі, якія здаўна прыналежалі да Вялікага Князьства Літоўскага, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскамі, станавілі пры новых варунках гісторычных неразздзельнае цела на фундаменці незалежнасьці Літвы і Беларусі, як суцэльнай дзяржавы, засьцерагаючы усім нацыям у яе межах усе правы»*[67].

У лютым 1916 г. Універсал быў дапоўнены зваротам, у якім Рада Канфедэрацыі сваімі галоўнымі задачамі абвяшчала стварэнне на літоўска-беларускіх землях незалежнай дзяржавы з сеймам у Вільні, абраным на падставе усеагульных, роўных, прамых і тайных выбараў, і з гарантыяй поўных правоў усім народам Краю. Тэрыторыя незалежнай дзяржавы павінна была ўключаць Ковенскую і Віленскую губ., беларускую і літоўскую часткі Гарадзенскай і Сувалкскай, літоўскія часткі Курляндскай і частку Менскай губ, *«каторая звязана з Віленскім цэнтрам»*. Форму дзяржаўнага ладу і Канстытуцыю *«будучай вольнай літоўска-беларускай гасударственнай адзінкі»* павінен быў вызначыць і зацвердзіць сейм у Вільні.

У заключэнне зварот заклікаў да сумеснай працы дзеля будучыні Краю: *«Кіньма сваркі і звадкі, ад каторых церпіць увесь Край. Падумайма разам ды шчыра аб долі гэтага Краю, бо ж усе мы, апрача жмені прыблуд,*

*сыны нашай зямлі – нашай Літвы і Беларусі»*[68].

Відавочна, што ідэйнай пляцоўкай супрацоўніцтва краёўцаў-дэмакратаў з дзеячамі літоўскага і беларускага рухаў стаўся вядомы тэзіс краёвага грамадзянства ў форме гарманічнага міжнацыянальнага сужыцця. Яно разглядалася як перадумова развіцця ўсіх народаў «гістарычнай Літвы». Краёўцы па-ранейшаму падтрымлівалі нацыянальную эмансіпацыю літоўцаў і беларусаў, у якой бачылі не супрацьстаўленне, а дапаўненне краёвай ідэі.





Унівэрсал

Конфэдэрацыі Вялікаго Князьства Літоускаго.

Лета 1915 мес. Грудня 19 дня члены Літоускіх, Беларускіх, Польскіх і Жыдоускіх організацый прыступілі да КОНФЭДЭРАЦЫІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, дабіваючыся супольнымі сіламі, абы Літоускіе і Беларускіе землі, каторые здауна прыналежалі да ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскі, станавілі пры новых варунках гісторычных нераздзельнае цела на фундамэнці НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ, ЯК СУЦЭЛЬНАЙ ДЗЕРЖАВЫ, ЗАСЬЦЕРАГАЮЧЫ УСІМ НАЦІЯМ У ЯЕ МЕЖАХ УСЕ ПРАВЫ.

Дзеля гэтаго конфэдэраты звертаюцца да усіх націй, да усіх станау, да усіх істнуючых організацый і да усіх грамадзян Краю, клічучы, абы уважаючы на важнасць вялікаго гісторычнаго момэнту, забыушыся крыуд узаемных, свар і недавер'я, маючы на мэці адно карысць супольнае Бацькаушчыны, прылучыліся да КОНФЭДЭРАЦЫІ ВЯЛІКАГО КНЯЗЬСТВА ЛІТОУСКАГО.

*РАДА ТЫМЧАСОВАЯ*
*Конфэдэрацыі Вялікаго Князьства Літоускаго.*

*Універсал Часовай Рады Канфедэрацыі ВКЛ. 1915 г.*

Часовая Рада аб'яднала дзеячаў розных нацыянальных рухаў, а ініцыятыва яе стварэння належала беларусам (Іван Луцкевіч). Аднак выпрабавання часам яна не вытрымала. Абвастрэнне польска-літоўскіх нацыянальных адносінаў, да чаго сваю руку прыклалі прадстаўнікі германскай акупацыйнай адміністрацыі, хутка зруйнавала гэты праект.

Краёўцы-палякі наогул аказаліся адсунутымі на перыферыю грамадска-палітычнага жыцця. Апроч іх толькі беларусы засталіся прыхільнікамі краёвай канцэпцыі дзяржаўнасці. Менавіта яны працяглы час выступалі за ўтварэнне Беларуска-Літоўскай федэрацыі або канфедэрацыі.

Аднак беларускае разуменне краёвасці ў гэты перыяд істотна змянілася. З ліку «карэнных народаў», якія павінны былі вызначаць будучыню Краю, былі выкрасленыя палякі. У лютым 1917 г. на старонках беларускай газеты «Гоман» з'явіўся артыкул Антона Луцкевіча «*Разбітая традыцыя*»[69]. Аўтар сцвярджаў, што гістарычная традыцыя сужыцця Беларуска-Літоўскага краю з Польшчай *«без супольнасці жыццёвых інтарэсаў згубіла сваю сілу»*. Пра гэтую традыцыю цалкам забыліся літоўскі і беларускі нацыянальныя рухі: *«Гэтыя сялянскія народы хочуць*

*будаваць сваю будучыну так, як таго вымагаюць народныя патрэбы сягоньняшняга дня, а патрэбы гэтыя не паказваюць, каб трэба было наш Край звязваць нанова з Польшчай*».

Паводле Антона Луцкевіча, ужо афармілася палітычная ідэя незалежнага існавання земляў былога Вялікага Княства Літоўскага: «*Новая краёвая палітычная формула аткідае пры гэтым усе тыя агранічэньня, якіе нам хочуць навязаць чужыя нам людзі, панаехаўшыя з суседняй Польшчы: ані беларусы, ані літвіны, ані іншыя сыны нашай зямлі ня могуць пагадзіцца з думкай, каб еднасць Беларуска-Літоўскага Краю з Польшчай была пастаўленая за варунак вызваленьня яго*».

Падобна, што змены ў краёвай пазіцыі беларусаў былі абумоўленыя імкненнем больш адпавядаць палітычнаму курсу Берліна, падтрымкі якога яны актыўна шукалі. Таксама цалкам магчыма, што ў Вільні даведаліся пра сітуацыю ў Менску, які ў выніку масавага наплыву бежанцаў з Каралеўства Польскага ператварыўся ў нейкае падабенства Варшавы. Актывізацыя іх грамадска-культурніцкай дзейнасці станавілася дадатковай перашкодай для краёўцаў. У адрозненні ад «літоўскіх палякаў» бежанцы не адчувалі сувязі з Беларуска-Літоўскім краем і кіраваліся выключна польскімі нацыянальнымі інтарэсамі.

Магчыма, адмаўляючыся ад вельмі важнай польскай складовай краёвай еднасці беларусы не столькі рабілі пэўны выбар, колькі канстатавалі ўзніклую сітуацыю.

У сакавіку 1917 г. Антон Луцкевіч у адмысловым мемарандуме, дасланым канцлеру Германіі, сфармуляваў галоўную мэту беларускага руху: «*Стварэнне з трох аб'яднаных абласцей Беларусі, Літвы і Курляндыі, занятых нямецкімі войскамі, незалежнай дзяржаўнай арганізацыі [...]*»[70] Сталіцай гэтай федэрацыі (ці канфедэрацыі) бачылася Вільня.

У верасні 1917 г. сход віленскіх беларускіх арганізацый накіраваў тэлеграму ў германскі рэйхстаг, у якой выказваў надзею, што Германія дапаможа «*рэалізацыі палітычных ідэалаў, падзеленага фронтам 9-мільённага беларускага народу, на падставе адзінства з этнаграфічнай Літвой і Курляндыяй*»[71]. Варта адзначыць, што аналагічныя дакументы накіроўваліся палітычным кіраўнікам Германіі і пазней.

Літоўскія дзеячы не прынялі гэтай ідэі. Яны цвёрда стаялі на пазіцыі ўтварэння мананацыянальнай дзяржавы ў межах «*этнаграфічнай Літвы з прылеглымі тэрыторыямі*» і сталіцай у Вільні. На гэтым шляху яны знаходзілі ўсё большую падтрымку з боку германскіх уладаў.

Беларусы паспрабавалі перахапіць ініцыятыву. У верасні 1917 г. падчас сходу беларускіх арганізацый Вільні было прынята рашэнне аб правядзенні Беларускай канферэнцыі. На ёй павінны былі быць прадстаўленымі ўсе беларускія арганізацыі, што дзейнічалі на захад ад фронту. Галоўнай мэтай прадстаўнічага сходу была каардынацыя намаганняў у справе будаўніцтва ўласнай дзяржаўнасці ў саюзе з літоўскай нацыяй. Землі ўсходняй і цэнтральнай Беларусі планавалася далучыць да *«гэтай самабытнай дзяржавы»*[72].

Напрыканцы лістапада быў створаны Арганізацыйны камітэт. Яго сябры на старонках газеты «Гоман», дзе галоўную ролю адыгрывалі Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі, заявілі, што перад беларускім рухам з заходняга боку фронту стаіць двайная задача – культурна-нацыянальнае і палітычнае ці дзяржаўнае самавызначэнне. Галоўнай мэтай абвяшчалася стварэнне ўласнай дзяржаўнасці ў межах Беларуска-Літоўскага краю.

У Арганізацыйны камітэт між іншым увайшлі браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Салавей, барон Казімір Шафнагель, ксёндз Уладзіслаў Талочка, іераманах Савацій, князь Вінцэнт Святаполк-Мірскі. Склад Камітэту сведчыць пра спробу арганізатараў аб'яднаць усе сацыяльныя колы беларускага грамадства. Гэтаму павінна была спрыяць таксама публікацыя ліста Казіміра Шафнагеля *«Да нашай краёвай інтэлігенцыі»*[73].

Аўтар, землеўладальнік з Гарадзеншчыны пісаў пра трагізм становішча беларускага селяніна, пакінутага сваёй інтэлігенцыяй. Ён заклікаў прадстаўнікоў заможных колаў грамадства беларускіх зямель усвядоміць *«очывістую праўду – праўду тэрытарыяльную, а хутка пэўне ўжо і праўду палітычную: што вы – грамадзяне Літвы і Беларусі, яе сыны – значыць: «літвіны» або «беларусы»*. Казімір Шафнагель пераконваў: *«Паварот да гэтага адвечнага самавызначэньня […] паварот згодлівы з вашым паходжэньнем і традыцыяй, ня толькі ня будзе вас ганьбіць, а наадварот, прынясе вам чэсць, бо звяжэ вас з народам, бо дасць вам аснову быту, бо вас узмацуе і падніме…»*

Гэты зварот у духу краёвасці быў разлічаны на далучэнне да беларускага палітычнага руху часткі вышэйшых сацыяльных колаў мясцовага грамадства. Але сярод большасці прадстаўнікоў гэтых колаў ён выклікаў пераважна крытычныя заўвагі[74].

І тым не менш намаганні арганізатараў не былі цалкам дарэмнымі. Канферэнцыя працавала з 23 па 25 студзеня 1918 г. Выніковыя дакумен-

ты сведчаць, што пэўная кансалідацыя была дасягнутая. Прадстаўнікі беларускіх арганізацый пагадзіліся з раней выпрацаванай віленскім беларускім асяродкам канцэпцыяй беларускай дзяржаўнасці: *«Будучы глыбока перакананы, што толькі поўная дзяржаўная незалежнасць можа забяспечыць беларускаму народу магчымасць усебаковага эканамічнага і культурна-нацыянальнага развіцця […] прадстаўнікі беларусаў […] патрабуюць, каб акупаваныя літоўска-беларускія землі ўтваралі незалежную дэмакратычную дзяржаву, якая б складалася з двух падставовых нацыянальна-тэрытарыяльных адзінак – беларускай і літоўскай, цесна звязаных з незалежнай Курляндыяй»*[75].

Сталіцай дзяржавы павінна была стаць Вільня. Упершыню ідэя беларускай дзяржаўнасці (у саюзе з Літвой) прагучала як патрабаванне значнай часткі беларускага народу. На канферэнцыі была абраная Віленская Беларуская Рада, якая павінна была каардынаваць намаганні ўсіх беларускіх арганізацый.

Нямецкія ўлады не прынялі беларускіх патрабаванняў. Яны нават не дазволілі змясціць паведамленне пра Беларускую канферэнцыю ў органах друку. Немцы рабілі стаўку на літоўскі рух.

На ўсход ад лініі фронту ролю кіраўнічага органа беларускага руху адыгрываў Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Напрыканцы 1916 г. яго ўзначаліў краёвец Раман Скірмунт.

На з'ездзе беларускіх арганізацый ў сакавіку 1917 г. ён быў абраны кіраўніком Беларускага Нацыянальнага камітэта. Магчыма, фактар краёвасці таксама адыграў пры гэтым пэўную ролю.

З'езд беларускіх арганізацый выказаўся за аўтаномію Беларусі ў межах федэратыўнай дэмакратычнай Расейскай рэспублікі. Прадстаўнік адроджанай Беларускай Сацыялістычнай Грамады Аркадзь Смоліч прапанаваў дабівацца аўтаноміі ўсіх шасці губерняў Беларуска-Літоўскага краю. На думку кіраўніцтва БСГ гэта магло паспрыяць захаванню пэўных гістарычных традыцый, прадухіліць канфлікты за тэрыторыі са змешаным насельніцтвам, забяспечыць Беларусь выхадам да мора[76].

Аднак далейшае развіццё падзеяў, у т. л. разгон бальшавікамі Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 г., перакрэсліла гэтыя надзеі.

Паводле ўспамінаў Ежы Асмалоўскага, напрыканцы лютага 1918 г. група беларускіх землеўласнікаў (Эдвард Вайніловіч, граф Чапскі ды інш.) дасягнула паразумення з беларускімі палітыкамі, якія імкнуліся да польска-беларускага паразумення (Аркадзь Смоліч, Раман Скірмунт ды інш.),

аб сумесным мемарандуме да германскіх уладаў. Мемарандум, які быў уручаны генералу Фалькенгайму, прапанаваў выдзяленне беларускіх зямель і адраджэнне на іх падставе Вялікага Княства Літоўскага пад нямецкай апекай[77].

Звароты да берлінскіх палітыкаў не далі пазітыўных вынікаў. Як падаецца, гэта была апошняя спроба адстаяць краёвую канцэпцыю дзяржаўнасці, захаваць тэрытарыяльную цэласнасць «гістарычнай Літвы» і пабудаваць беларускую дзяржаўнасць у межах Беларуска-Літоўскай федэрацыі або канфедэрацыі.

25 сакавіка 1918 г. у Менску была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Шляхі беларускага руху і краёвай ідэі разышліся.

Праўда, сімпатыі да гэтай ідэі выказваліся вядомымі беларускімі палітыкамі нават у міжваенны час. Так, Адам Станкевіч у прамове падчас урачыстай Акадэміі, прысвечанай гадавіне смерці Людвіка Абрамовіча ў сакавіку 1940 г. у Вільні, нават паставіў краёвую ідэю вышэй за беларускую[78]. (Глядзі дадатак).

Чаму краёвая ідэя знайшла такую моцную падтрымку сярод беларусаў? Відавочна, што краёвасць выкарыстоўвалася беларусамі дзеля пашырэння сацыяльнай базы беларускага руху. Выданне імі газет краёвай і адначасна прабеларускай арыентацыі на польскай («Кур'ер Краёвы») і на рускай («Вечерняя газета») мовах было пэўнай спробай вярнуць да Беларусі зрусіфікаванае і спаланізаванае насельніцтва. Адначасна краёвасць азначала пашырэнне кантактаў з «літоўскімі палякамі» і прадстаўнікамі дэмакратычнай часткі літоўскага нацыянальнага руху. На гэтым шляху таксама можна было шукаць сродкі ўмацавання ўласна беларускага Адраджэння.

Калі браты Луцкевічы прыйшлі да краёвасці з беларускага руху, то шлях Рамана Скірмунта быў іншым. Ён прыйшоў у беларушчыну з краёвасці. Відавочна, што для аднаго з галоўных ідэолагаў кансерватыўнага накірунку краёвасці гэтая ідэя стала платформай для спробы паяднання розных сацыяльных плыняў беларускага руху. Як ужо згадвалася, у сядзібе Марыі Магдалены Радзівіл адбываліся сустрэчы Р. Скірмунта з беларускімі сацыялістамі. У сакавіку 1917 г. ён узначаліў цалкам сацыялістычны паводле свайго складу Беларускі Нацыянальны Камітэт.

Аднак і краёвасць не дапамагла пераадолець той сацыяльны недавер да «памешчыка Скірмунта», з якім жылі беларускія сацыялісты. Так, Сця-

пан Некрашэвіч у адным з артыкулаў назваў Р. Скірмунта *«загадковым сфінксам»*. Ён не ўпісваўся ў традыцыйнае светаўспрыманне большасці беларускіх адраджэнцаў пачатку XX ст.

Магчыма, «краёвая прыхільнасць» беларусаў таксама была абумоўленая пошукамі нацыянальнай ідэі. Этнакультурны варыянт нацыяналізму, які паспяхова выкарыстоўвалі літоўцы і палякі, не знаходзіў масавай падтрымкі сярод беларусаў. Для беларускай вёскі, якая была галоўным аб'ектам прапаганды адраджэнцаў, родная мова і культура не былі дастаткова прывабнымі, бо не мелі сацыяльнага прэстыжу. Лідэры беларускага руху не маглі гэтага не бачыць. Можна дапусціць, што прапаганда краёвасці была асцярожнай спробай парушэння пэўнага «нашаніўскага» канону тымі, хто стаяў у яго вытокаў.

У заключэнне варта яшчэ раз адзначыць, што краёвая ідэя, якая стваралася «літоўскімі палякамі» і для «літоўскіх палякаў» выйшла далёка па-за межы гэтай супольнасці і актыўна выкарыстоўвалася дзеячамі беларускага руху. Гэтаму спрыяла тое, што краёвасць ні тэарэтычна, ні ў практычнай палітычнай дзейнасці не супрацьпастаўлялася нацыянальным рухам беларусаў і літоўцаў.

Гэтая канцэпцыя палітычнай нацыі новага тыпу, дзе галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці станавіўся патрыятызм, адчуванне сябе «грамадзянінам Краю», спрыяла пошукам міжнацыянальнай згоды. Яна выразна супрацьстаяла агрэсіўнаму нацыяналізму кожнага народу Краю і змагалася супраць як велікапольскіх, так і велікарускіх шавіністаў.

Магчыма, у эпоху нацыяналізмаў краёвасць была толькі шляхетнай утопіей, але нельга не прызнаць, што ў надзвычай складаны перыяд гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы яна істотна прычынілася да нармалізацыі міжнацыянальных стасункаў. У сітуацыі беларускага руху яна да таго ж стала пляцоўкай для кантактаў прадстаўнікоў розных сацыяльных колаў беларускага грамадства.

ДАДАТАК

# NON OMNIS MORIAR
## *(Прамова ксяндза Адама Станкевіча на акадэміі ў першыя ўгодкі смерці Людвіка Абрамовіча. 10 сакавіка 1940 г. у Вільні)*

*Non omnis moriar* – ня ўвесь памру – гаварылі старадаўнія. Яны гэтым выяўлялі сваё пракананне аб перавазе жыцця над сьмерцяй, аб бязсільнасьці сьмерці зьніштожыць жыццё, аб духовай несьмяротнасьці чалавека. І сапраўды. Ня трэба заглыбляцца ў мэтафізічныя разважаньні, каб праканацца аб гэтай праўдзе. У памёршых бывае больш жыцьця як у жывых. Недарэчнасьць? Няхай нам адкажуць вялікія чыны, вялікія думкі-ідэі тых людзей, якія творачы іх за жыцьця свайго, ня толькі часта ня мелі даверу, але бывалі нават ня раз абсмяяны, а па сьмерці іх тварца-чалавека праніклі ў сэрцы людзей, заўладалі іх душамі і ўлілі ў іх магутную духовую плоднасьць. Сьмерць, дзе-ж твая перамога? Слушна пытае Павал Апостал.

*Non omne moritur* – ня ўсё ўмірае ў прыродзе. Яна шчодра раскідае свае плады-дары. І можна сказаць, усе яны ня гінуць, а жывуць. Жывуць, пераабразіўшыся і разлажыўшыся на складовыя свае часціны, але жывуць так-жа, захоўваючы свой гатунковы характар. Праз самааналізу да сынтэзы, праз расклад і сьмерць – да жыцьця. І гэтак бяз устанку. Зерне, калі ня ўмрэ, ня дасьць плоду, – праўдзіва кажа Эвангелія.

Нешта падобнае дзеецца ў духовым жыцьці чалавека. Паслушны таёмным законам сваёй душы, чалавек усьцяж твора новы, лепшы, ідэальны сьвет. Твора ён гэта сьпярша ў сваёй уяве, у ідэях, а пасьля ўсё гэта рэалізуючы. Аднак за жыцьця свайго рэдка яму ўдаецца штось з гэтых сваіх ідэяў зьдзейсніць, а яшчэ радзей знайсьці зразуменьне і ацэну ў людзей. Гэта прыходзе звычайна па яго сьмерці.

І Людвік Абрамовіч, якога разьвітаньне з намі і адыход у краіну духа, у краіну вечнасьці сёньня ўспамінаем у першыя ўгодкі, так-жа меў свой лепшы, ідэальны сьвет, тварыў яго ў сваёй духоўнай уяве і за збудаваньне яго на гэтай зямлі бароўся з праціўнымі, варожымі сіламі. Ягоны ідэальны сьвет, яго ідэалёгія – гэта краёвасьць.

Што-ж гэта такое? Надта проста. Літоўскія і беларускія землі, а часткова і ўкраінскія, граніцы якіх больш-меш пакрываюцца з паняцьцем

быўшага Вялікага Князьства Літоўскага, гэта прад усім геапалітычная і гістарычна-культурная адзінка-цэласьць на асноведзі якой і ў рамках якой можа правільна разьвівацца ўсё жыцьцё ўсіх гэтых зямель народаўаўтахтонаў. Краёвасьць такім чынам – гэта першы і галоўны крытэрый грамадзкіх, культурных і нацыянальных правоў народаў усяго гэтага краю. Гэтак у агульных рамках я разумею краёвасьць Людвіка Абрамовіча, з якім праз доўгія гады аставаўся я ў прыязных адносінах, няраз талкуючы на краёвыя тэмы.

Сёньня сярод народаў гістарычных зямель Літвы і Беларусі крытэрыем іх правоў і дзейнікам іх культурнага і палітычнага разьвіцьця з'яўляецца прад усім прынцып нацыянальны. І дзеля гатага краёвасьць Л. Абрамовіча ня была належна ацэнена, ані прынята народамі гэтых зямель. Аднак *non omnis moriar* – ня ўвесь памру, – мог пра сябе казаць гэны тварэц краёвай ідэалёгіі. Ён у гэнай сваёй ідэалёгіі жыве, і воблік яго духовы прад нашай сучаснасьцяй зарысоўваецца ўсьцяж выразьней. Сапраўды, жыцьця больш у памёршых. Калі працэс нацыянальнага жыцьця, які сёньня на землях Літвы і Беларусі адбываецца, дойдзе да свайго канчальнага пункту, калі наступе ў народаў гістарычнай Літвы і Беларусі аканчальная нацыянальная дыферэнцыяцыя, – прынцыпам, парадкуючым сужыцьцё народаў, прынцыпам, гварантуючым развой усіх правоў гэных народаў і іх паўнату, – можа аказацца краёвасьць.

Прынцып нацыянальны пераходны, непастаянны і плыўкі. Прынцып краёвы наадварот – заўсёдны, сталы, непахісны. Адгарадзіўшыся нацыянальнымі эгаізмамі, народы нашы некалі заслужаць да сужыцьця бліжэйшага, да бліжэйшых узаемаадносінаў. Дый і жыцьцё іх да гэтага змусіць. І сама прырода чалавека, і сучасная цывілізацыя, і штораз часьцейшыя галасы аб канфедэрацыі дзяржаў Эўропы, і паварот Вільні да старой сваёй ролі сталіцы Літвы, і характар тых палітычных і культурных праабражэньняў, якія адбываюцца ў беларускім і ўкраінскім народах у Саветах, сапраўды, здаецца, набліжаюць нас да краёвасьці.

Адгалоскам укрытай тугі шырэйшага і вальнейшага сужыцьця народаў нашага краю і пажаданьнем шырэйшых шляхоў узаемаадносінаў нашых народаў, з'яўляецца верш вялікага сучаснага беларускага паэта Якуба Коласа, які ў паэме «Новая Зямля», апісваючы вузенькія, цесныя жыцьцёвыя дарожкі беларуса, тужыць за дарогамі іншымі, прасторнымі, кажучы:

Ой вы, дарожанькі людзкія,
Пуцінкі вузкія, крывыя.
Вы сьледам цьмяным снуяцеся,
І ўсё блукаеце, бы ў лесе…
Прасторны шлях, калі-ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі,
Т злучыш нашы ўсе дарогі?

Краёвасьць Л. Абрамовіча сапраўды адзываецца ў тон ліры паэта. І ня дзіва. Ідэалёгія краёвасьці, пасьлядоўна і да канца прадуманая, мае сваё вялікае значэньне і свой глыбокі сэнс. І надта магчыма, што яна нас пераживе і адыграе вялікую гістарычную роль.

І так жыве сярод нас Л. Абрамовіч праз свой творчы, няўмірушчы дух, праз сваю ідэалёгію. Сапраўды, ён *non omnis mortuus est* – ня ўвесь ён памёр.

«Krynica». 1940, Nr 21.

---

1 Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988; Jurkiewicz J. Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905–1922. Wydawnictwo Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza, Seria Historia, nr 100. Poznań, 1983; Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu. Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11–12 maja 1998). Pod red. Jana Jurkiewicza. Poznań, 1999; Solak Z. Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków, 2004.

2 Szpoper D. Gente Lithuana, Natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934). Gdańsk, 2009.

3 Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w. // Biuletyn Historii Pogranicza, 2000, nr 1, s. 21–32; Мікніс Р. Міхал Ромэр (1880–1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца // Homo Historicus. 2008, с. 236–260; Sawicki J. Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 1998.

4 Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. (2-е выд., дапрац). Санкт-Петербург, 2004; Ён жа. Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2000, nr 14, с. 45–53; Ён жа. Краёвасць у беларускай і літоўскай гісторыі // Беларускі гістарычны агляд, t. 4, сшытак 1–2 (6–7), 1997, с. 56–67; Ён жа. U genezy idei krajowej na początku XX wieku // Dwór i wieś na Litwie i Białorusi w XIX i na początku XX wieku. Pod red. Doroty Michaluk. Warszawa, 2014, s. 121–136; Ён жа. «Краёвая ідэя»

і беларускае нацыянальнае Адраджэнне пачатку XX ст. // Acta Albaruthenica, 2015, tom 15, s. 193–210.

5 Унучак А. Беларуская нацыянальна-дзяржаўная ідэя ў канцы XIX – 1917 г. // На шляху станаўлення беларускай нацыі. Гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы. Рэд. В. Яноўская ды інш. Мінск, 2011; Ён жа. «Заходнерусізм» і «краёвасць»: гістарыяграфія пытання // Российские и славянские исследования: Сб. науч. статей. Вып. 5 / Редкол.: О. А. Яновский (отв. ред.) и др. Минск, 2010, с. 243–252.

6 Бабкоў І. Генеалёгія беларускай ідэі // Arche, 2005, Nr 3, с. 136–165; Казакевіч А. Яшчэ адна гісторыя пра беларускі нацыяналізм // Arche, 2007, Nr 7, с. 5–22.

7 Гл., Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія. »Палітычная сфера», 2014 // http://palityka.org/2015/04/antalohija-krajovaj-ideji. Рэжым доступу: 30.10.2016

8 Падобна, што толькі Канстанцыя Скірмунт выносіла іх за дужкі «краёвай нацыі», ды яшчэ Міхал Ромэр даволі часта крытываў арыентацыю заможнай часткі габрэйскай супольнасці на расейскі рынак.

9 Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie, s. 217–218.

10 Bardach J. Polacy a narody Litwy historycznej // Kultura i społeczeństwo, rok XXXVIII, Nr 2, 1994, s. 39.

11 Futurus [Skirmuntt K.]. Nasza tutejszość // Kurier Litewski. 1906. № 224.

12 Jałowiecki M. Tutejszość // Kurier Litewski. 1912. Nr 214. 15. 09 (2. 10). 1912.

13 Bardach J. Polacy litewscy a inne narody Litwy historycznej. Próba analizy systemowej // Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The foundations of historical and cultural traditions in East Central Europe. Internacional Conference Rome, 28 April – 6 May. Lublin–Rome, 1990, s. 366.

14 Łatyszonek O. Krajowość i «zapadno-russizm». Tutejszość zideologizowana // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu... S. 35.

15 Jurkiewicz J. Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.) // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…, s. 119.

16 Solak Z. Między Polską a Litwą…, s. 44–53.

17 Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich...

18 Цытата паводле: Sawicki J. Michał Römer wobec problemów narodowościowych ziem Litewsko-białoruskich na początku XX w. // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu..., s. 84.

19 M. R. [Michał Römer], Stanowisko obywatelskie // Kurier Krajowy, 1913, nr 77; Także: Мікніс Р. Міхал Ромэр (1880–1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца, с. 236–260.

20 Abramowicz L. Stanowisko krajowe a idea narodowa // Przegląd Wileński. 1913, nr 13–14.

21 Напрыклад, Skirmuntt K. Głos z Litwy // Kurier Polski, 1913, nr 158 ды інш.

22 Ro…munt [ Skirmunt R.]. Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej. Lwów, 1904; Ro…munt [Skirmunt R.]. Glos przeszlosci i potrzeba chwili. Lwów, 1904; Skirmunt R. Stronnictwo Krajowe Litwy i Białejrusi (Program podstawowy) // Głos Polski, 1907, nr 4.

23 B. J…i [B. Jałowiecki]. Litwa – jej potrzeby. Katechizm narodowy Litwy. Wilno, [1905], s. 5–6.

24 Skirmunt R. Odezwa Stronnictwa Krajowego Litwy i Rusi // Kurier Litewski, 1905, nr 65.

25 Jurkiewicz J. Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.) // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…, s. 122–123.

26 Ibidem, s. 27.

27 Zadencka M. Krajowość a strategie elit wobec emancypacji narodowej ludu… // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…, s. 51.

28 Jurkiewicz J. Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.) // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…, s. 123.

29 Цытата на мове арыгіналу: «My, obywatele Litwy i Białorusi nie możemy być kolonistami polskimi. W tym zakresie obywatelstwa krajowego, a więc w zakresie politycznym, społecznym i ekonomicznym naszymi krajami ojczystymi są Litwa i Białoruś. Natomiast wyłącznie w zakresie kulturalno-narodowym jesteśmy synami narodu polskiego i tego pokrewieństwa naszego wyrzekać się nie będziemy i nie chcemy» (Gazeta Wileńska. 1906, nr 1).

30 Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w., s. 21–32.

31 Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie, s. 201–206.

32 Цытата на мове арыгіналу:»Wtedy ja jaszcze nie rozumiałem, że moja skóra jest inna – ani czysto polska, ani czysto litewska, lecz szczególnie złożona, w której znajdują się oznaki polskości i litewskości – stara skóra Adama Mickiewicza, szczególny stwór historii naszej Ojczyzny, skóra, w której i dusza jest szczególna – nie litewska, lecz i nie polska, ja jaszcze nie rozumiałem, że kłamałbym, nazywając siebie tylko Litwinem, toteż kłamałbym, nazywając siebie tylko Polakiem: ja jeszcze sobie nie uświadomiłem, że prawda mojej osoby jest tym, co czuję będąc dzieckiem i młodzieńcem 14–18-letnim, kiedy ja nie odróżniałem w sobie Polaka od Litwina, kochałem i ceniłem oba imiona, a współczułem zwłaszcza ziemi i ludności litewskiej, i że, kiedy marzyłem i pisałem wierszy, to jak Adam Mickiewicz wołał nie Polskę, a Litwę jako swoją Ojczyną […].

Wtedy jeszcze nie wiedziałem, że nasz – tak zwanych Polaków litewskich – dramat, albo przynajmniej jeden z czynników tego dramatu – polega na tym, że my nie mamy swojego imienia, że nasza dusza jest koncepcja dwóch szczególnych dusz, że kiedy te dwie dusze ścierają się między sobą, nam jest o wiele trudniej, niż komu innemu, zachować się poprawnie i nie kłamać; my używamy imienia [Polaków], które nie odpowiada naszej szczególnej istocie i które nie określa najgłębszych postaw naszej psychiki i charakteru, które pochodzą z charakteru i psychiki ludu Litwy, z najgłębszych korzeni miejscowej formacji etnicznej [Litwinów i Białorusinów]. My nie jesteśmy ani Litwinami, ani Białorusinami, lecz nie jesteśmy również Polakami»(Autobiografia Michała Römera // Lietuvių atgimino istorijos Studijos. T. 13: Mykolas Römeris. Vilnius, 1996, s. 190–191).

33 Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w., s. 22–23.

34 Römer M. Litwa. Studyum o odrodzeniu narodu litewskiego. Lwów, 1908, s. 27.

35 B. H. Polskość na Litwie // Myśl Polska. 1915, z. 4. S. 46-47.

[36] Dziennik Kijowski. 1906, nr 103.

[37] Okulicz K. Podział ziem W. Księstwa Litewskiego 1915–1923–1940 // Alma Mater Vilnensis. Prace Społeczności Akademickiej USB na obczyźnie. Londyn, 1953, s. 122.

[38] Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie, s. 212.

[39] Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w., s. 26.

[40] Zadencka M. Krajowość a strategie elit wobec emancypacji narodowej ludu… // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…, s. 61.

[41] Біч М. , Рудовіч С. Беларуская Сацыялістычная Грамада // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т. 1. Мінск, 1993, с. 10.

[42] Turonek J. Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa, 1992, s. 24–25.

[43] Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст., кн. 1, рэд. А. А. Каваленя і інш. Мінск, 2011, с. 252 (аўтар тэксту М. Сташкевіч)

[44] Miknys R. Lietuvos demokratų partija 1902–1915 metais // Lietuvių atgimimo istorijos studijos, 10. Vilnius, 1995, s. 85.

[45] Römer M. Litwa. Studyum odrodzenia narodu litewskiego, s. 350–353.

[46] Ibidem, s. 352.

[47] Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Міхал Ромэр. Дзённік. Т. IV, s. 403. Запіс ад 3 (16) сакавіка 1915 г.

[48] Смалянчук А. З гісторыі віленскага масонства пачатку XX ст. // Спадчына, 1998, № 5.

[49] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Том IV, s. 404.

[50] Solak Z. Między Polską a Litwą, s. 190.

[51] Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ). Ф. 102, особый отдел, 1913, оп. 243, д. 157, л. 1.

[52] Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй, с. 283.

[53] Напр., Генрык Букавецкі [Луцкевіч А.]. Прынцыповае пытанне // Kurier Krajowy, 1912, Nr 19; б/п [Луцкевіч А.?]. Одна из причин трений // Вечерняя газета, 1913, № 337 ды інш.

[54] Напр., б/п [Луцкевіч А.?]. Конквистадоры // Вечерняя газета. 1913, № 360; м. г. [Ромэр М.]. Хто быў правы? // Kurier Krajowy. 1913, № 127 ды інш.

[55] Напр., K-wiec [Луцкевіч А.]. Правы і абавязкі // Kurier Krajowy, 1912, № 3.

[56] б/п. [Луцкевіч А.?]. Национальная культура // Вечерняя газета. 1912, № 92.

[57] Напр., б/п. [Луцкевіч А.?]. Вредная двойственность // Вечерняя газета. 1912, № 97.

[58] б/п. [Луцкевіч А.?]. Против течения // Вечерняя газета. 1912, № 145.

[59] Напр., б/п [Луцкевіч А.?]. А речи всё те же... // Вечерняя газета. 1912, № 64; б/п [Луцкевіч А.?]. Два выступления // Вечерняя газета, 1913, № 263 ды інш.

[60] Kurier Krajowy. Адпаведна, 1912, № 8; 1912, № 12.

[61] НашаНіва.1912, № 40.

[62] К-вец [Луцкевіч А.]. Do ut des // Kurier Krajowy, 1913, № 98.

[63] б/п [Абрамовіч Л.?].Пабочныя ўплывы // Przegląd Wileński, 1913, № 22/23.

[64] Wysłouch S. Białorusini na ziemi Wileńskiej. Wilno, 1930.

[65] Jankowski Cz. W ciągu dwóch lat… Warszawa, 1908, s. 137.

[66] Polski Słownik Biograficzny, t. XXX/3, z. 126. Wrocław, 1987 (Biogram Magdaleny z Zawiszów Radziwiłłowej pióra O. Łatyszonka i A. Zięby).
[67] Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй, с. 312–313.
[68] Ibidem, s. 313.
[69] І. Мелешка [Луцкевіч А.]. Разбітая традыцыя // Гоман, 1917, № 12, 9 лютага.
[70] Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. F 21–277, с. 12.
[71] Abramowicz L. Litwa podczas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p. Warszawa, 1918, s. 128.
[72] Гоман, 1917, № 86.
[73] Гоман, 1917, №№ 89–91 (пазней гэты ліст будзе выдадзены асобным адбіткам на польскай мове).
[74] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). Ф. 1135, воп. 4, ад. з. 30–38. Успаміны Аляксандра Шкленіка.
[75] Abramowicz L. Litwa podczas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p., s. 130.
[76] Nowy Kurier Litewski, 1917, № 84.
[77] Biblioteka Narodowa Polski, rkp. 6798. J. Osmołowski. Wspomnienia z lat 1914–1921, t. 2, s. 329. Трэба адзначыць, што ў іншых гістарычных крыніцах гэты зварот і мемарандум не згадваюцца.
[78] Krynica. 1940, Nr 21.

# АД «ЛІЦВІНСТВА» ДА «КРАЁВАСЦІ»: ПОЛЬСКІ РУХ У БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІМ КРАІ Ў 1864–1917 гг.*

На працягу многіх стагоддзяў польская прысутнасць была важным фактарам беларускай гісторыі. Геаграфічнае суседства беларусаў і палякаў абумовіла перапляценне гістарычных лёсаў двух народаў і ўзаемныя ўплывы, без вывучэння якіх немагчыма зразумець ні мінулае Беларусі, ні мінулае Польшчы.

Дадзены артыкул прысвечаны праблеме месца і ролі польскай грамадскасці ў беларускай гісторыі ў перыяд актывізацыі нацыянальных працэсаў. Вывучэнне эвалюцыі польскага грамадска-палітычнага руху на беларускіх і літоўскіх землях дае магчымасць зазірнуць у свядомасць супольнасці, якая шукала ўласную ідэнтычнасць ва ўмовах актывізацыі польскага нацыянальнага руху і нацыянальна-культурнага Адраджэння беларусаў і літоўцаў. Месца былой рэгіянальнай або канфесійнай ідэнтычнасці павінна была заняць нацыянальная свядомасць, але ўмовы ў якіх апынуліся палякі Беларуска-Літоўскага краю ў апошняе пяцідзесяцігоддзе гісторыі Расейскай імперыі значна ўскладнілі гэты працэс. Імперыя ў гэты час набывала ўсё больш выразныя рысы нацыянальнай дзяржавы.

Аналіз польскай, беларускай і літоўскай гістарыяграфіі па праблеме радаводу польскай грамадскасці на беларускіх і літоўскіх землях напрыканцы XIX – пачатку XX ст. дазваляе сцвярджаць, што галоўным фактарам яе фармавання з’яўлялася паланізацыя карэннага насельніцтва[1]. Аднак пры гэтым навукоўцы розных краін прытрымліваюцца розных поглядаў як на працэс паланізацыі, так і яе наступствы.

---

* Асноўныя палажэнні гэтага тэксту ўтрымліваліся ў артыкуле «Эвалюцыя польскага грамадска-палітычнага руху на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.» (Проблемы славяноведения. Сборник научных статей и материалов. Брянск: Издательство БГУ, 2002, с. 99–109). Гэтая версія артыкула з’яўляецца папраўленай і дапоўненай.

У беларускай гістарыяграфіі ўсё яшчэ пераважае ідэалагізаваны падыход да феномена паланізацыі. Нават падзеі XVII–XVIII стст. гісторыкі спрабуюць зразумець з дапамогай паняццяў і катэгорый пазнейшай эпохі нацыянальных рухаў і нацыянальных дзяржаваў. Менавіта таму паланізацыя часцей трактуецца як праява палітыкі нацыянальнай або дзяржаўнай асіміляцыі. На самой справе механізм паланізацыі быў больш складаным. Далёка не апошнюю ролю ў яго ажыццяўленні адыгрывала імкненне палепшыць уласны сацыяльны статус і далучыцца да каштоўнасцяў польскай культуры, якая ў пэўны момант стала злучнікам з культурнымі дасягненнямі еўрапейскай цывілізацыі і пазнакай высокага сацыяльнага становішча.

Спрошчаны погляд на паланізацыю перашкаджаў даследчыкам зразумець адметнасць літоўскіх і беларускіх палякаў, якая ў вялікай ступені грунтавалася на феномене падвоенай свядомасці: *gente Lithuanus (vel Ruthenus), natione Polonus*[2]. Апошняе *(natine Polonus)* звычайна датычыла толькі культурнай прыналежнасці і сацыяльнага становішча. Палітычная пазіцыя літоўскіх і беларускіх палякаў часцей вызначалася першым кампанентам *(gente Lithuanus vel Ruthenus)*.

Прафесар Мар’ян Здзяхоўскі ў 1918 г. адзначаў, што гэты феномен *«праяўляецца як жывая памяць уласнага літоўскага або рускага паходжання, як усведамленне непарыўнай сувязі з роднай зямлёю і мясцовым людам і адначасна характарызуецца глыбокай прыхільнасцю да польскай культуры і мовы, што стала роднай, пачуццём непадзельнасці як гістарычнага лёсу Літвы і Польшчы, так і іх будучыні»*[3].

Свядомасці гэтых колаў грамадства ў апошняй трэці XIX ст. найбольш адпавядаў тэрмін «літоўскія палякі». Дарэчы, дакументы дазваляюць сцвярджаць, што прынамсі на каталіцкай тэрыторыі «гістарычнай Літвы» напрыканцы XIX ст. гэтае паняцце выступала ўжо як этнонімам.

З улікам этнакультурнай адметнасці мясцовых палякаў расейская палітыка г. зв. «дэпаланізацыі» на беларускіх і літоўскіх землях перастае ўспрымацца як выключна расейска-польская «спрэчка». Напрыканцы XVIII – пачатку XX ст. «польскае пытанне» ў беларускай гісторыі ўяўляла сабой змаганне палітычнай і культурнай эліты гістарычнай Літвы за захаванне традыцый уласнага палітычнага, эканамічнага, культурнага і рэлігійнага ладу жыцця[4]. На працягу большай часткі гэтага перыяду дэкларававанаю мэтаю змагання было адраджэнне Рэчы Паспалітай як федэратыўнай дзяржавы. Адпаведна «польскі патрыятызм» мясцо-

вых дзеячаў грамадска-палітычнага руху і «культуртрэгераў» трэба разумець як «рэчпаспалітаўскі». Пасля разгрому паўстання 1863–1864 гг. галоўным стала захаванне ўплываў на грамадска-палітычныя, сацыяльна-эканамічныя і культурныя працэсы на беларускіх і літоўскіх землях. Пры гэтым палітонім «паляк» эвалюцыянаваў у канфесійным і нацыянальным кірунку, каб на момант фармавання сучаснай польскай нацыі засведчыць нараджэнне этнакультурнага феномену «літоўскіх палякаў».

Адначасна на беларускіх і літоўскіх землях пачаў з'яўляцца новы сацыяльны тып «паляка-нацыяналіста». Яго нараджэнне было звязана з распаўсюджваннем ідэалогіі «варшаўскага пазітывізму» ў выглядзе тэорыі і практыкі г. зв. «арганічнай працы». Апошняя паспрыяла фармаванню ўласна польскай культурнай традыцыі ў Беларуска-Літоўскім краі, якая была падмуркам пашырэння польскай нацыянальнай ідэі. Тым не менш нават ва ўмовах пэўнай лібералізацыі нацыянальна-культурнага жыцця часоў Першай расейскай рэвалюцыі 1905–1907 гг. тып «паляка-нацыяналіста» выглядаў у мясцовым польскім руху хутчэй маргінальнай з'явай.

Варта адзначыць, што «польскае пытанне» выходзіла па-за межы лёсу мясцовай польскай супольнасці. Яно непасрэдна закранала працэсы беларускага культурнага назапашвання, якое з канца XVIII па апошнюю трэць XIX ст. адбывалася ў межах г. зв. «ліцвінскай»[5] і «заходнерускай» традыцый.

«Ліцвінства» хоць і з'ўлялася складовай тагачаснага польскага па форме і рэчпаспалітаўскага па зместу патрыятызму, але грунтавалася на выразным ўсведамленні адметнасці палітычных і культурных інтарэсаў «гістарычнай Літвы». Адначасова яно ўяўляла пэўную альтэрнатыву развіццю беларускай нацыі ў межах «усходнееўрапейскай цывілізацыі». Імкненне расейскіх уладаў спачатку абмежаваць (пасля 1831 г.) прысутнасць мясцовага «польскага элемента» ў грамадска-палітычным, культурным і гаспадарчым жыцці краю, а потым (пасля 1863 г.) цалкам выдаліць гэты «элемент» адначасова было змаганнем супраць беларускага культурнага назапашвання ў межах ліцвінскай традыцыі. Усё гэта спрыяла дамінаванню «ўсходняга» цывілізацыйнага вектару ў працэсе фармавання беларускай нацыі. Трэба дадаць, што ў межах «заходнерускай» традыцыі беларусы ўспрымаліся як галіна «велікарускага племені», а не асобны этнас. У адрозненне ад «ліцвінства» своеасаблівасць і адметнасць беларускіх земляў не падкрэслівалася, а лічылася парушэннем «велікарускай нормы».

У 70–80-я г. XIX ст. беларушчына пачала выразна адмяжоўвацца ад польскасці. У гэты час нарадзілася ўласна беларуская культурная традыцыя.

Пачатак беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, актыўныя намаганні літоўскай інтэлігенцыі па стварэнні масавай сацыяльнай базы літоўскага руху вялі да паступовага пераўтварэння «гістарычнай Літвы» ў Беларуска-Літоўскі край. Гэтыя новыя ўмовы спрыялі таму, што на пачатку XX ст. для часткі эліты «літоўскіх палякаў» слова «літоўскі» пачало датычыць не столькі гістарычнай, колькі этнаграфічнай Літвы. Праўда, толькі адзінкі (Канстанцыя Скірмунт, Міхал Ромэр, Раман Скірмунт) дэманстравалі прыхільнасць да нацыянальна-культурных патрабаванняў літоўскага руху. Большасць займала варожую пазіцыю, на што, безумоўна, паўплывала польска-літоўская спрэчка аб ролі літоўскай мовы ў грамадскім, культурным і канфесійным жыцці, якая набыла даволі востры характар у публіцыстыцы. Па меры развіцця беларускага руху частка «літоўскіх палякаў», якія жылі на этнічных беларускіх землях, падпадала пад пэўны ўплыў беларушчыны.

Палітыка Расеі на беларускіх і літоўскіх землях эвалюцыянавала ад курса на дзяржаўную асіміляцыю мясцовага насельніцтва і ўніфікацыю «Паўночна-Заходняга краю» да спробаў поўнай палітычнай дэпаланізацыі і імкнення забяспечыць дамінаванне «велікарускага элемента» не толькі ў палітычным, але і ў нацыянальна-культурным жыцці. Аднак улады так і не здолелі канчаткова вырашыць «польскае пытанне». Імперыі не хапала цывілізацыйнага патэнцыялу. Толькі гэтым тлумачацца хістанні паміж традыцыйнымі сродкамі паліцыйна-бюракратычнага панавання і эпізодамі вымушанага лібералізму, якія ў расейскай гістарыяграфіі часам трактуюцца як «*парадоксы Расейскай імперыі*»[6].

Рознагалоссі сярод прадстаўнікоў расейскай правячай эліты фактычна датычылі толькі тактыкі правядзення дзяржаўнай палітыкі. Яе канчатковая мэта і для «кансерватараў», і для «лібералаў» была адзінай – пераўтварэнне «гістарычнай Літвы» ў тыповую расейскую правінцыю. На беларускіх землях падаўляліся і забараняліся ўсе праявы польскасці з аднachаснай забаронай праяваў беларускай і літоўскай этнакультурнай індывідуальнасці. Напрыканцы разглядаемага перыяду расейскія ўлады ажыццяўлялі палітыку, якая абмяжоўвала магчымасці нацыянальна-культурнага развіцця нярускіх этнасаў і забяспечвала палітычную і культурную перавагу рускай нацыі.

Дыяпазон настрояў рэпрэсаванай польскай грамадскасці быў даволі шырокім: ад гатоўнасці прыстасавацца да новых умоваў і рабіць кар'еру нават шляхам страты ўласных культурных традыцый і перамены веравызнання да жадання працягваць узброеную барацьбу. Аднак большасць «літоўскіх палякаў» не жадалі губляць сваю этнакультурную і канфесійную індывідуальнасць. Яны выразна супрацьстаялі «мураўёўскаму заканадаўству» і імкнуліся адстойваць інтарэсы «гістарычнай Літвы», якія не супадалі з польскімі нацыянальнымі інтарэсамі.

Адраджэнне польскага руху ў Беларуска-Літоўскім краі (канец 70-х гг. XIX ст.) пераважна было звязана з дзейнасцю сацыяльных вярхоў мясцовых палякаў. Амаль да пачатку XX ст. «нізы» не праяўлялі грамадска-палітычнай актыўнасці. Выключэннем было толькі выразнае незадавальненне палітыкай прыціску каталіцкага касцёла. Сітуацыя пачала змяняцца ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. Менавіта ў гэты час назіраліся першыя масавыя выступленні сацыяльных «нізоў» літоўскіх і беларускіх палякаў, якія датычылі праблем культурнага і рэлігійнага жыцця польскай грамадскасці[7].

Этнакультурныя зрухі, якія адбываліся ўжо ў другой палове XIX ст. і значна паскорыліся ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг., паступова набывалі якасць нацыянальных працэсаў. Хоць «нацыянальнае» ўсё яшчэ датычыла пераважна дзейнасці палітычнай і культурнай эліты народаў Беларусі і Літвы.

Сацыяльная і палітычная актывізацыя шырокіх мас насельніцтва Беларуска-Літоўскага краю напярэдадні і ў перыяд Першай расейскай рэвалюцыі моцна паўплывала на ідэалагічнае і арганізацыйнае афармленне розных плыняў мясцовага польскага руху. У першую чаргу трэба адзначыць выпрацоўку краёвай ідэалогіі. У публіцыстыцы Рамана Скірмунта, Баляслава Ялавецкага, Канстанцыі Скірмунт, Міхала Ромэра, Уладзіслава Жукоўскага, Людвіка Абрамовіча ды інш. былі сфармуляваныя асноўныя палажэнні краёвасці[8]. Яе ключавой ідэяй стаўся пастулат «грамадзяніна Краю». Якраз пачуццё патрыятызму, любові і самаахвярнасці ў адносінах да роднай зямлі, да Беларуска-Літоўскага краю лічылася галоўным крытэрыем прыналежнасці да «краёвай нацыі». Этнакультурныя, сацыяльныя і палітычныя разыходжанні адыходзілі на другі план.

Падобнае палітычнае (ці грамадзянскае) разуменне нацыі было больш характэрным для Заходняй Еўропы. Хоць адначасна яно ў пэўным сэнсе грунтавалася на г. зв. «палітычнай нацыі» («naród polityczny»), якая

існавала яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага. Апроч таго, пэўны патэнцыял палітычнага разумення нацыі ўтрымліваўся ў даволі пашыраным феномене «тутэйшасці», месца якога ў нацыянальных працэсах можна акрэсліць тэрмінам вядомага даследчыка Эрыка Хабсбаўма як *«народны протанацыяналізм»*[9].

У канцэпцыі палітычнай (грамадзянскай) нацыі адлюстраваліся намаганні «літоўскіх палякаў» супрацьпаставіцца этнакультурным працэсам нацыянальнага Адраджэння народаў Беларусі і Літвы. Іх эліта адчувала ўласную прыналежнасць да «гістарычнай Літвы», трактавала яе як сваю Айчыну і спрабавала пашырыць гэтае пачуццё на шырокія колы мясцовых палякаў, а па меры магчымасці таксама на літоўцаў і беларусаў.

Фактычна, мела месца спроба выключна ідэалагічнымі сродкамі стварыць новую «краёвую нацыю», элітай якой павінны былі стаць якраз «літоўскія палякі». Пры гэтым яны не маглі абаперціся на існуючыя дзяржаўныя структуры і былі вымушаныя абапірацца галоўным чынам на гістарычную памяць, якая адыгрывала важную ролю ў свядомасці мясцовай шляхты, і пэўную тэрытарыяльную (краёвую) повязь («тутэйшасць»), распаўсюджаную сярод сацыяльных нізоў.

Вядомы літоўскі даследчык Рымантас Мікніс ахарактарызаваў актыўнасць краёўцаў як працэс фармавання «нацыі літоўскіх палякаў» на тэрыторыі беларускіх і літоўскіх губерняў[10]. Пры гэтым краёўцы павінны былі вытрымаць даволі жорсткую канкурэнцыю ў першую чаргу з польскай, а таксама з літоўскай і беларускай нацыянальнымі ідэямі. Трэба адзначыць, што найбольшага поспеху яны дасягнулі якраз сярод мясцовай польскай грамадскасці.

Краёўцы, якія падзяліліся на кансерватыўны (ліберальны-кансерватыўны) і дэмакратычны (ліберальна-дэмакратычны) кірункі, дамінавалі ў польскім руху на беларускіх і літоўскіх землях на пачатку XX ст. Іх перавага адлюстравалася ў поспехах выбарчых кампаній у Дзяржаўную Думу і Дзяржаўную Раду Расейскай імперыі. Дзейнасць прадстаўнікоў мясцовай польскай грамадскасці ў гэтых органах улады грунтавалася на краёвай ідэалогіі паводле версіі кансерватараў, у якой палітычны лібералізм спалучаўся з кансерватызмам ў сацыяльна-эканамічнай сферы. Яны выступалі ў абарону інтарэсаў Беларуска-Літоўскага краю, якія часцяком атаясамліваліся з інтарэсамі сацыяльных вярхоў «літоўскіх палякаў».

Перавагу краёўцаў у польскім руху таксама рэгулярна пацвярджалі публікацыі польскага віленскага друку і ўдзел прадстаўнікоў мясцо-

вай польскай грамадскасці ў абмеркаванні найважнейшых праблем сацыяльна-палітычнага і нацыянальна-культурнага жыцця «гістарычнай Літвы» (напрыклад, праблемы земстваў у «заходніх губернях»).

Польская нацыянальная ідэя ў гэты перыяд была прадстаўленая пераважна дзейнасцю сяброў Польскай нацыянальна-дэмакратычнай партыі (ПДНП) Рамана Дмоўскага і Польскай партыі сацыялістычнай (ППС). Аднак, першыя так і не здолелі стварыць уласную партыйную арганізацыю, а іх прысутнасць у Краі была прыкметнай галоўным чынам дзякуючы выданню штотыднёвіка «Дзеннік віленьскі» (з жніўня 1906 г.). Дарэчы, варта адзначыць, што нацыяналізм мясцовых дзеячаў ПДНП меў выразную «краёвую афарбоўку», на што таксама звярнуў увагу польскі даследчык Пшэмыслаў Дамброўскі[11]. Апошняе праяўлялася, напрыклад, у спробах сумяшчэння інтарэсаў польскай нацыі на беларускіх і літоўскіх землях з патрабаваннямі беларускага і літоўскага рухаў. Аднак палітыка кіраўніцтва ПДНП выразна ўмацоўвала курс на нацыянальную канфрантацыю.

ППС, у праграме якой рабілася спроба сумяшчэння нацыянальнай і сацыялістычнай ідэалогій, на рубяжы ХІХ–ХХ ст. прэтэндавала на тое, каб стаць кіраўніком усяго сацыялістычнага руху ў «гістарычнай Літве». Аднак узнікненне агульнарасейскіх, габрэйскіх, літоўскіх і беларускіх сацыялістычных арганізацый, раскол самой партыі на «інтэрнацыяналістаў» і «нацыяналістаў», а таксама адсутнасць шырокай этнасацыяльнай базы для дзейнасці абярнуліся яе маргіналізацыяй у Краі.

Стаўленне ПДНП і ППС да этнакультурнай і гістарычнай адметнасці беларускіх і літоўскіх земляў было прыблізна аднолькавым. І сацыялісты, і нацыянальныя дэмакраты на пачатку ХХ ст. глядзелі на беларускія землі як на спецыфічны геаграфічна-культурны рэгіён. Аднак беларусы і літоўцы не ўспрымаліся польскімі дзеячамі як суб'ект палітычнага і культурнага жыцця. І для адных, і для другіх гэта былі «ўсходнія крэсы», тэрыторыя польска-расейскага канфлікту, дзе палякі выступалі як захавальнікі мясцовых традыцый, як носьбіты дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі. Падобным поглядам моцна спрыяла паходжанне сацыялістычнай і нацыянальна-дэмакратычнай ідэалогій польскага руху, якія выпрацоўваліся па-за межамі Беларусі.

У перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. польскі грамадска-палітычны рух ператварыўся ў важны фактар грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Краю. Літоўскія і беларускія палякі атрымалі карысны вопыт палітычнай

дзейнасці ва ўмовах нацыянальна-культурнага абуджэння беларусаў, разгортвання літоўскага нацыянальнага руху і з'яўлення ўплывовых габрэйскіх і агульнарасейскіх палітычных партый і арганізацый.

У міжрэвалюцыйны перыяд (1907–1917) працягвалася эвалюцыя «польскага пытання». Месца былога змагання за захаванне традыцый палітычнага, культурнага, эканамічнага і рэлігійнага жыцця Краю паступова займала імкненне бараніць галоўным чынам інтарэсы мясцовай польскай супольнасці.

На гэтыя перамены моцна паўплываў наступ велікарускіх нацыяналістаў. У гэтай сітуацыі «літоўскія палякі» галоўныя намаганні прыкладалі дзеля абароны нацыянальна-культурных дасягненняў рэвалюцыі. Аднак прыметных поспехаў на гэтым шляху яны не дасягнулі. Расейская бюракратыя, выкарыстоўваючы мажлівасці адміністратыўнага апарату, паспяхова адраджала сістэму «выключнага» антыпольскага заканадаўства. Так, напрыклад, не атрымалася стварыць уплывовую палітычную партыю. Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі (1906, ініцыятыва віленскага біскупа Эдварда Ропа) фактычна спыніла сваю дзейнасць пасля выбараў у I Дзяржаўную Думу. Краёвая партыя Літвы і Беларусі (1907, ініцыятыва Рамана Скірмунта) аказалася няздольнай да палітычнай барацьбы.

Тым не менш, як і раней дамінавала краёвая плынь польскага руху. Праўда, краёвасць кансерватыўнага кірунку ўсё часцей ператваралася ў форму абароны інтарэсаў эліты мясцовых палякаў. Затое вельмі актыўна дзейнічалі краёўцы-дэмакраты. Між іншым цэнтрамі краёвай прапаганды ў дэмакратычнай версіі ў гэты час сталі віленскія масонскія ложы «Еднасць» (1910), «Літва» (1911) і «Беларусь» (1914)[12].

Ёсць усе падставы сцвярджаць, што віленскія масонскія ложы былі формай дзейнасці мясцовых ліберальна-дэмакратычных элементаў краёвай арыентацыі. Сябры масонскіх арганізацый пашыралі ў грамадстве ўсведамленне каштоўнасці ідэалаў лібералізму і дэмакратыі. Яны ж прапагандавалі ідэі нацыянальнай талеранцыі і супрацьстаялі ідэалогіі шавінізму. Галоўныя мэты іх дзейнасці былі непарыўна звязаныя з нацыянальна-вызваленчым рухам у Беларусі і Літве, з дасягненнем пэўнай палітычнай самастойнасці Краю. Толькі палітычная ўмовы прымушалі гэтых людзей хавацца пад покрывам масонскай таямніцы.

Важнай падзеяй стала далучэнне да краёвага руху дзеячаў беларускага (браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі ды інш.) і літоўскага (Міколас

Сляжэвічус, Міколас Біржышка ды інш.) рухаў, сяброў габрэйскіх дэмакратычных арганізацый (браты Ромы, Майсей Брамсон ды інш.) і асобных прадстаўнікоў рускай ліберальнай грамадскасці (Іван Прозараў).

Найбольш паслядоўна краёвую ідэю прапагандавалі беларускія дзеячы. Яны вельмі доўга захоўвалі прыхільнасць да яе. Можна нават сцвярджаць, што краёвая ідэя ў 1912–1915 гг. стала складовай ідэалогіі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Ва ўсялякім выпадку яна выкарыстоўвалася дзеля пашырэння яго сацыяльнай і этнічнай базы, пошуку надзейных саюзнікаў сярод дзеячаў іншых нацыянальных рухаў.

У пэўным сэнсе краёвасць з'яўлялася ломкай традыцый і стэрэатыпаў вузкай этнакультурнай прапаганды, якія ў гэты час ўжо сфармаваліся ў народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Краёвасць трымалася на ўнікальнай атмасферы шматнацыянальнага краю і асабліва Вільні. Яна нараджала людзей, якія адчувалі сябе адначасова рускім, беларусам і ўкраінцам (Іван Краскоўскі), палякам і літоўцам (Данатас Маліноўскас, Міхал Ромэр), палякам і беларусам (Раман Скірмунт, Аляксандр Заштаўт, Язэп Манькоўскі). Гэта была атмасфера сапраўднага этнічнага «карнавалу», дзе адсутнічалі выразныя этнічныя межы, дзе ў залежнасці ад жыццёвых абставін маска станавілася тварам і наадварот.

Той жа беларус Антон Луцкевіч на старонках «Вячэрняй газеты» станавіўся рускім, а на старонках «Кур'ера краёвага» – палякам[13]. Мажліва мы сустракаемся з пэўнай заканамернасцю беларускай гісторыі. Яна вельмі багатая персанажамі, якія выступалі ў двух або нават трох іпастасях і адначасова належалі беларускай, польскай, літоўскай і рускай гісторыі. Можа, гэта была праява таго самага «вольнага беларускага духа», які шукаў уласныя шляхі? Пра яго пісаў яшчэ Ігнат Канчэўскі ў сваіх «Дасьледзінах беларускага сьветагляду»[14]. Беларусь нараджала такіх людзей таму, што была зямлёй, дзе зліваліся розныя этнічныя, культурныя і канфесійныя патокі. Кожны з іх знаходзіў прытулак і прыжываўся ў «беларускім доме».

Магчыма, калі мы пагодзімся з тым, што гэты этнакультурны «карнавал» мае свае глыбінныя гістарычныя вытокі, нам будзе лягчэй зразумець асобы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага, Аляксандра Ельскага, Рамана Скірмунта, Канстанцыі Скірмунт, Эдварда Вайніловіча і многіх іншых. Цалкам магчыма, што краёвасць, якую адстойвалі Міхал Ромэр, Раман Скірмунт, Антон Луцкевіч ды іх паплечнікі, не з'яўлялася толькі праявай пострамантычных і наіўных спадзяванняў, а ўяўляла адну з падставаў беларускай гісторыі.

Трэба прызнаць, што краёўцы дасягнулі пэўнага поспеху. Яны пашыралі ідэю самабытнай гісторыі Літвы, распаўсюджвалі ўяўленні пра тэрытарыяльныя межы пражывання «нацыі ліцвінаў» (або «краёвай нацыі»), праводзілі ўласную нацыянальную (краёвую) палітыку. Затое не атрымалася пашырыць свядомасць прыналежнасці да адметнага нацыя-культурнага тыпу. Спроба распаўсюдзіць тэзіс пра агульную «*польска-літоўска-беларускую культуру*» (Баляслаў Ялавецкі[15]) ва ўмовах нацыянальна-культурнага Адраджэння беларусаў і літоўцаў, пранікнення ідэалогіі польскага нацыянальнага руху не мела шансаў на поспех.

Імкненні Міхала Ромэра, Рамана Скірмунта ды інш. ператварыць краёвасць у феномен надэтнічнай ідэалогіі і практыку міжнацыянальнага партнёрства разбіваліся аб імкненне беларускіх, літоўскіх і польскіх краёўцаў сумясціць яе прынцыпы з працай на карысць уласнай нацыі.

У міжрэвалюцыйны перыяд стала відавочнай адсутнасць моладзевай базы краёвага руху. Большасць польскіх моладзевых арганізацый Краю адстойвала пастулат незалежнасці Польшчы. Пры гэтым «гістарычная Літва» ўспрымалася як частка польскіх земляў, як «крэсы». Гэта быў адзін з першых сігналаў будучай перамены ў суадносінах паміж краёвай ідэалогіяй і польскай нацыянальнай ідэяй. Другім сігналам можна лічыць паразуменне паміж віленскімі краёўцамі-кансерватарамі і нацыянальнымі дэмакратамі. Яно знайшло адлюстраванне ў аб’яднанні газеты краёўцаў «Кур’ер віленьскі» з органам ПДНП «Гонцам віленьскім». Гэтае паразуменне знайшло далейшае пацвярджэнне ў дзейнасці Польскага Цэнтральнага Выбарчага камітэта, які быў створаны ў Вільні напярэдадні выбараў у IV Думу (1912). Яго кандыдатам быў сябра ПДНП ксёндз Станіслаў Мацэевіч. Характэрна, што галоўным сапернікам ксяндза аказаўся прадстаўнік ліберальных краёўцаў Браніслаў Крыжаноўскі. Шляхі абодвух кірункаў краёвасці выразна разышліся. Гэта сведчыла пра крызіс краёвай плыні польскага руху.

Сусветная вайна паспрыяла пераўтварэнню «польскага пытання» ў актуальную праблему агульнаеўрапейскай палітыкі. Актывізаваўся польскі нацыянальны рух. ПДНП на пачатку вайны рабіла стаўку на перамогу Расеі, якая, на думку Рамана Дмоўскага, павінна была прывесці да аб’яднання ўсіх трох частак некалі падзеленай Рэчы Паспалітай. Аднак большасць «літоўскіх палякаў» займала выразныя антырасейскія пазіцыі і імкнулася да аўтаноміі «гістарычнай Літвы» або да яе незалежнасці ў саюзе з Польшчай.

Трэба адзначыць выключна важнае значэнне, якое ў гэты час набылі міжнацыянальныя адносіны. Першымі гэта зразумелі краёўцы, якія, нягледзячы на існаванне сярод іх розных кірункаў, плыняў і груповак, у сваёй большасці імкнуліся да паразумення і паяднання карэнных народаў Краю. Такое паразуменне было неабходнай умовай самастойнасці і непадзельнасці «гістарычнай Літвы». Асаблівую ролю ў дасягненні міжнацыянальнага адзінства адыграў Міхал Ромэр і прыхільнікі ягонай канцэпцыі краёвасці. Таксама трэба адзначыць дзейнасць Рамана Скірмунта, які падтрымліваў адносіны з беларускімі адраджэнцамі. Нацыянальныя дэмакраты і польскія сацыялісты ў першую чаргу імкнуліся абараніць польскія нацыянальныя інтарэсы ў краі. Праблема міжнацыянальных адносінаў цікавіла іх толькі ў гэтай сувязі.

Дзякуючы шчыльным кантактам паміж краёўцамі-ліберaламі і дзеячамі беларускага Адраджэння ў польска-беларускіх адносінах дамінавала імкненне да ўзаемаразумення і паяднання ў барацьбе з галоўным ворагам – расейскім царызмам. Былі асобныя выпадкі таго, што можна назваць «вайной публіцыстаў», але, як правіла яны датычылі стасункаў паміж «нашаніўскім колам» і носьбітамі польскай нацыянальнай ідэі – ПДНП і ППС.

Краёўцы дэмакратычна-ліберальнага кірунку ў першы год вайны прыкладалі вялізарныя намаганні дзеля стварэння адзінага фронту прыхільнікаў аўтаноміі «гістарычнай Літвы». Адзін з ініцыятараў гэтага міжнацыянальнага паяднання Міхал Ромэр лічыў, што толькі адзінства народаў Краю дасць магчымасць адстойваць ягоныя інтарэсы перад г. зв. «вялікімі дзяржавамі». Аднак дзеячы літоўскага руху мелі ўласнае ўяўленне пра аўтаномію Літвы. У адпаведнасці з рашэннямі, прынятымі яшчэ ў 1905 г., яны выступалі за аўтаномію этнаграфічнай Літвы са сталіцай у Вільні і з «прылеглымі тэрыторыямі», дзе дамінавалі беларусы-каталікі і разгортваўся беларускі рух. Адзінства не было дасягнутае. У выніку «гістарычная Літва» практычна не мела шансаў захаваць сваю цэласнасць.

Увосень 1915 г. значная частка беларускіх і літоўскіх земляў апынулася пад уладай нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. У гэты момант Вільня перастала быць адзіным цэнтрам польскага руху. На ўсход ад лініі фронту ролю такога цэнтра пачаў адыгрываць Менск. Апошняму паспрыяў масавы наплыў у горад бежанцаў з Каралеўства Польскага. Аднак расейскія ўлады па-ранейшаму абмяжоўвалі праявы не толькі палітычнай, але таксама культурніцкай дзейнасці польскіх арганізацый. Нават ва ўмовах ва-

енных паражэнняў і абвастрэння ўнутрыпалітычнага крызісу імперскія ўлады не збіраліся ісці на прынцыповыя ўступкі ў адносінах да нацыянальна-культурных патрабаванняў польскай супольнасці ў Беларуска-Літоўскім краі.

Трэба прызнаць, што «польскае пытанне» ў гісторыі Расейскай імперыі сапраўды адыграла фатальную ролю. Раман Дмоўскі ў 1925 г. пісаў, што далучэнне земляў Рэчы Паспалітай да Расейскай дзяржавы зрабіла немагчымым нармальнае палітычнае развіццё гэтай краіны. «*Колькі раз,* – адзначаў ён, – *Расея ўступала на шлях разумных памяркоўных рэформаў і ў часы Аляксандра I, і ў часы Аляксандра II, альбо ў перыяд станаўлення Думы, і кожны раз пакідала гэты шлях. Галоўнай прычынай было «польскае пытанне», а дакладней боязь, што палякі выкарыстаюць палітычныя правы дзеля ўмацавання ўласных пазіцый і разбурэння расейскай дзяржаўнасці. Расея не магла пазбегнуць палітычных змяненняў. Трэба было выбіраць паміж рэвалюцыйным і эвалюцыйным шляхамі развіцця. У выніку таго, што «польскае пытанне» фактычна заблакавала першы з іх, Расея была сказаная на рэвалюцыю. Магчыма, апошнія падзеі ў Расеі з'яўляюцца расплатай за панаванне над Польшчай*»[16]. Канешне, падзенне імперыі нельга тлумачыць толькі «польскім пытаннем», але відавочна, што яно (разам з «габрэйскім пытаннем») непасрэдна прычынілася да яе краху.

Затое на тэрыторыі, акупаванай германскімі войскамі, напрыканцы 1915 – на пачатку 1916 г. нацыянальна-культурнае жыццё «літоўскіх палякаў» значна актывізавалася. Тут была створаная сістэма польскай адукацыі. Пры гэтым польская культурна-асветніцкая дзейнасць непасрэдна закранала інтарэсы беларускага і літоўскага рухаў, якія таксама разгарнулі актыўную культурна-асветніцкую дзейнасць. Пазіцыі прыхільнікаў міжнацыянальнага паразумення сярод мясцовых палякаў, беларусаў і літоўцаў у гэты перыяд значна аслабелі. Сваю адмоўную ролю адыграў выезд Міхала Ромэра (май 1915 г.) у легіёны Юзафа Пілсудскага. Фактычна, усе плыні польскага руху ў Беларусі і Літве выступілі супраць нацыянальна-культурнага Адраджэння беларусаў і літоўцаў.

Але, з іншага боку, беларускія і літоўскія дзеячы часцяком выстаўлялі патрабаванні, якія былі заведама непрымальнымі для мясцовай польскай супольнасці. Напрыклад, «літоўскія палякі» не маглі пагадзіцца з прапановай Антона Луцкевіча адмовіцца ад развіцця польскай культуры. Яны небезпадстаўна лічылі сябе карэнным народам Краю і адстойвалі тыя самыя правы, якіх дабіваліся літоўцы і беларусы.

Дамінуючай тэндэнцыяй міжнацыянальных адносін стала абарона выключна ўласных нацыянальных інтарэсаў. Акупацыйныя ўлады таксама прыклалі руку да абвастрэння супярэчнасцяў. Спроба краёўцаў дасягнуць польска-беларуска-літоўска-габрэйскага паразумення пры дапамозе Часовай Рады Канфедэрацыі ВКЛ, у стварэнні якой значную ролю адыграла ложа «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі»), скончылася няўдачай. З гэтага часу краёвасць становіцца ўдзелам толькі асобных «апошніх грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага» (Тадэвуш Урублеўскі, Міхал Ромэр, Людвік Абрамовіч ды інш.).

Польскі гісторык Пётр Вандыч заўважыў, што ў польскім выпадку нацыянальны рух гэта пераўтварэнне палітычнай нацыі ў сучасную нацыю шляхам пашырэння сацыяльнай базы і польскамоўнай прасторы ва ўмовах нявольі і падзеленасці[17]. Доўгі час большасць «літоўскіх палякаў» не прымала актыўнага ўдзелу ў гэтым пераўтварэнні. Краёвасць была ідэалогіяй нацыі грамадзянскага тыпу («нацыі ліцвінаў» або «нацыі літоўскіх палякаў»). Аднак працэс яе фармавання быў перарваны ваенна-палітычнымі падзеямі Першай сусветнай вайны.

У 1915–1916 гг. распачаўся новы этап эвалюцыі «польскага пытання» ў беларускай гісторыі. На ўзмацненне «польскасці» мясцовай супольнасці паўплывалі два фактары: па-першае, актывізацыя беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў, якія карысталіся пэўнай падтрымкай германскіх уладаў, па-другое, працэс утварэння польскай нацыянальнай дзяржавы, у якім важную ролю адыгрываў польскі нацыянальны рух. У Беларусі і Літве ён быў прадстаўлены, у першую чаргу, Партыяй нацыянальных дэмакратаў Рамана Дмоўскага. Толькі ў перыяд нямецкай акупацыі яны здолелі выцесніць краёўцаў на перыферыю польскага руху ў Краі. На гэтым этапе значная частка «літоўскіх палякаў» уцягвалася ў працэс фармавання сучаснай польскай нацыі. Адпаведна тэрмін «паляк» набываў больш выразны нацыянальны сэнс, а «польскае пытанне» ў беларускай гісторыі ператваралася ў барацьбу за ўтварэнне незалежнай польскай нацыянальнай дзяржавы, да якой у той ці іншай форме будуць далучаныя г. зв. «усходнія крэсы» або іх частка.

Такім чынам, на працягу амаль усяго разглядаемага перыяду паланізаваныя і самапаланізаўшыяся колы насельніцтва беларускіх і літоўскіх земляў не гублялі сувязі з Айчынай і не ператварыліся ў «польскіх каланізатараў» насуперак ацэнкам многіх савецкіх гісторыкаў. Яны заставаліся «мясцовым элементам», неад'емнай часткай этнакуль-

турнага і грамадска-палітычнага краягляду «гістарычнай Літвы». Большасць прадстаўнікоў палітычнай і культурнай эліты літоўскіх і беларускіх палякаў у сваёй грамадска-палітычнай дзейнасці кіравалася інтарэсамі не Польшчы, а Беларуска-Літоўскага краю. Толькі ваенна-палітычныя падзеі 1915–1916 гг. паспрыялі іх пераарыентацыі. На першы план у мясцовым польскім руху выйшла ўласна польская нацыянальная ідэя, непарыўна звязаная з адраджэннем польскай дзяржаўнасці.

---

[1] Гл., напр.: Römer M. Litwa. Studium odrodzenia narodu litewskiego. Lwów, 1908; Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988; Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі руху на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. Выд. 2. Санкт-Пецярбург, 2004; Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w. // Biuletyn Historii Pogranicza. 2000. Nr 1.

[2] Адным з першых звярнуў увагу на гэты феномен польскі даследчык Ю. Бардах у кнізе *O dawnej i niedawnej Litwie* (oznań, 1988).

[3] Dziennik Miński. 1918. 6 (19) студзеня.

[4] Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй..., с. 115–124.

[5] Паняцце «ліцвінская традыцыя» было ўведзена ў беларускую гістарыяграфію Святланай Куль-Сяльверставай (гл.: Асаблівасці фармавання беларускай нацыянальнай культуры ў канцы XVIII – першыя дзесяцігодзі XIX ст.: паміж польскай і ліцвінскай традыцыямі // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі / Пад рэд. М. Кандрацюка. II. Матэрыялы VII Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці». Беласток. 16–18.07.1999. Беласток, 2000, с. 229–240).

[6] Горизонтов Л. Парадоксы имперской политики: поляки в России и руские в Польше. Москва, 1999.

[7] Смалянчук А. Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905-1907 гг. Гародня, 2000.

[8] Bardach J. O dawniej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988; Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu. Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11–12 maja 1998). Pod red. Jana Jurkiewicza. Poznań, 1999; Solak Z. Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków, 2004; Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w. // Biuletyn Historii Pogranicza, 2000, nr 1, s. 21–32; Мікніс Р. Міхал Ромэр (1880–1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца // Homo Historicus, 2008, с. 236–260; Sawicki J. Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 1998; Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. 2-е выд., дапрац. Санкт-Петербург, 2004; Ён жа. Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя // Białoruskie Zeszyty Historyczne», 2000, nr 14, с. 45–53; Ён жа. Краёвасць у беларускай і літоўскай гісторыі // Беларускі гістарычны агляд. 1997,

t. 4, сшытак 1–2 (6–7), с. 56–67; Ён жа. U genezy idei krajowej na początku XX wieku // Dwór i wieś na Litwie i Białorusi w XIX i na początku XX wieku. Pod red. Doroty Michaluk. Warszawa, 2014, s. 121–136; Ён жа. «Краёвая ідэя» і беларускае нацыянальнае Адраджэнне пачатку XX ст. // Acta Albaruthenica, 2015, tom 15, s. 193–210; Ён жа. Краёвасць як ідэалогія «літоўскіх палякаў» // Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў. 2016, Nr 1, s. 82–96.

9 Хобсбаум Э. Нации и национализм после 1870 г. Санкт-Петербург, 1998. С. 74–75.

10 Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w. // Biuletyn Historii Pogranicza. 2000. Nr 1. S. 21–30.

11 Dąbrowski P. Narodowa Demokracja byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Studium z zakresu myśli politycznej i działalności obozu narodowego na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1897–1918. Kraków, 2010.

12 Смалянчук А. З гісторыі віленьскага масонства пачатку XX ст. // Спадчына. 1998, № 5, с. 50–67.

13 Смалянчук А. Краёвец Антон Луцкевіч // Гістарычны альманах. 1998, № 1, с. 27–51.

14 Абдзіраловіч І. [Канчэўскі І.]. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Менск, 1993. С. 8–9. (Першае выданне выйшла ў Вільні ў 1923 г.).

15 J…i B. [Jałowiecki B.]. Litwa i jej potrzeby... Narodowy katechizm Litwy. Wilno, 1905, s. 3–5.

16 Dmowski R. Polityka Polska i odbudowanie państwa: W 2 t. Warszawa, 1988. T. 1, s. 70–71.

17 Wandycz P. Odrodzenie narodowe i nacjonalizm (XIX–XX w.) // Hisroria Europy Środkowo-Wschodniej: W 2 t. Lublin, 2000. T. 2, s. 152.

# ЛІЦВІНСТВА, ЗАХОДНЕРУСІЗМ І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ Ў XIX – ПАЧАТКУ XX ст.[*]

Адным з прыярытэтных накірункаў гістарыяграфіі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца даследаванне эвалюцыі беларускага руху і фармавання нацыянальнай ідэі. Намаганні беларускіх даследчыкаў рубяжа XX–XXI ст. былі даволі плённымі. Працы Аляксея Каўкі, Юрыя Туронка, Міхася Біча, Станіслава Рудовіча, Алега Латышонка, Яўгена Міpановіча, Захара Шыбекі, Андрэя Унучака, Паўла Церашковіча, Сяргея Токця ды інш. значна паглыбілі нашыя веды пра працэс беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння ў самай шырокай трактоўцы гэтага паняцця[1]. Але асаблівай увагі заслугоўваюць спробы пабудовы канцэптуальнай схемы развіцця беларускага нацыянальнага руху і выпрацоўкі беларускай ідэі на працягу XIX – пачатку XX ст.

У першую чаргу, трэба нагадаць пра схему, прапанаваную Аляксеем Каўкам у энцыклапедычным артыкуле «*Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух*»[2] (1993). Аўтар вылучыў два асноўныя этапы беларускага руху – «*пачаткова-падсвядомы рух «у сабе», здзейснены пераважна ў рамках польскага нацыянальна-вызваленчага працэсу (1794–1863)*», і рух «*для сябе*» з усведамленнем уласна беларускіх нацыянальных інтарэсаў і імкненнем да ўласнай дзяржаўнасці (1864–1918). На жаль, гэтая канцэпцыя не стала прадметам дыскусіі.

Важным крокам у вывучэнні праблемы стала кніга польскага даследчыка Рышарда Радзіка «*Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia* (Lublin, 2000)». Праўда, і яна не выклікала шырокага абмеркавання, хоць варта адзначыць рэцэнзію Яўгена Міpановіча, які звярнуў увагу на адсутнасць у аўтарскім пераліку пачынальнікаў беларускага Адраджэння прадстаўнікоў мясцовай праваслаўнай эліты[3].

---

[*] Артыкул быў упершыню апублікаваны ў зборніку:Białoruś w XX stuleciu. W kręgu kultury i polityki. Pod redakcją Doroty Mochaluk. Toruń: Wydawnictwo naukowe Mikołaja Kopernika, 2007. S. 55–68. Гэтая версія артыкула з'яўляецца папраўленай.

Таксама трэба згадаць кнігу Ігара Марзалюка «*Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X–XVII ст.)*» (Магілёў, 2003). Аўтар не лічыць нацыю прадуктам эпохі мадэрнізацыі, падзяляючы падыход прымардыялістаў. Паводле І. Марзалюка, ужо ў XVI ст. *«у асяроддзі русінскай інтэлектуальнай эліты пачынае афармляцца канцэпцыя аб'яднанай «кроўю і глебай», супольнай мовай і культурай нацыі, якая мае гістарычныя традыцыі ўласна «рускай» дзяржаўнасці»*[4]. Важнейшым фактарам этнічнай самаідэнтыфікацыі Ігар Марзалюк лічыць канфесійную прыналежнасць. Прычым, на яго думку, прыняцце каталіцызму азначала разрыў са старабеларускім этнасам і поўную «*ментальную і моўную*» паланізацыю або літуанізацыю[5]. Адзначу, што гэтае канфесійнае абмежаванне не дазваляе зразумець удзелу прадстаўнікоў каталіцкай шляхты ў працэсе фармавання беларускай ідэі ў XIX – пачатку XX ст.[6]

Уласнае даследаванне грамадска-палітычнай дзейнасці літоўскіх і беларускіх палякаў у апошняе пяцідзесяцігоддзе гісторыі Расейскай імперыі, імкненне зразумець месца і ролю «польскага пытання» ў беларускай гісторыі прымусіла звярнуцца да аналізу этнакультурнай сітуацыі на беларускіх землях на працягу ўсяго XIX ст. У выніку таксама была выпрацавана пэўная схема развіцця беларускай ідэі, прадстаўленая ў манаграфіі *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй…*[7] Пры гэтым выкарыстоўвалася паняцце «ліцвінская традыцыя», уведзенае ў навуковы зварот Святланай Куль-Сяльверставай[8], а таксама паняцці «заходнеруская традыцыя» і «беларускае культурнае назапашванне». Пад апошнім разумеліся тыя падзеі культурнага жыцця, якія спрыялі пранікненню ў культуру эліты беларускай мовы і фармавалі адметную гістарычную свядомасць. На гэтым этапе ствараўся свайго роду культурны падмурак для развіцця нацыянальнага руху за культурную і палітычную эмансіпацыю.

Нагадаю асноўныя моманты прапанаванай схемы і засяроджуся на тых варыянтах беларускай нацыянальнай ідэі, якія былі выпрацаваныя ўжо на пачатку XX ст.

У першай палове XIX ст. беларускае культурнае назапашванне адбывалася ў межах згаданай «ліцвінскай традыцыі». Ліцвінства грунтавалася на гістарычных і культурных традыцыях Вялікага Княства Літоўскага, пэўнай тэндэнцыі дэмакратызацыі, якая праяўлялася ў цікавасці да народнай культуры, на ўсведамленні этнакультурнай адметнасці як ад рускіх, так і ад палякаў з этнічнай Польшчы. Яно было

часткай рэчпаспалітаўскага патрыятызму, хоць і адрознівалася высокай ступенню аўтаномнасці.

Па сваёй канфесійнай прыналежнасці большасць прадстаўнікоў гэтай традыцыі з'яўляліся вернікамі каталіцкага касцёлу, а па саслоўным складзе належалі да шляхты. Літаратурныя і публіцыстычныя творы ў межах гэтай традыцыі ствараліся пераважна на польскай, а таксама на літоўскай і беларускай мовах. Апошняя перадавалася на пісьме лацінкай. Цэнтрам «ліцвінскай традыцыі» з'яўлялася Вільня.

Ля вытокаў беларускага культурнага назапашвання ў межах «ліцвінскай традыцыі» стаяла прафесура Віленскага ўніверсітэту першай трэці XIX ст. Працы Міхала Баброўскага (1784–1848), Ігната Даніловіча (1878–1846), Юзафа Ярашэвіча (1793–1860), Івана Лабойкі (1786–1861) спрыялі фармаванню адметнай «ліцвінскай» гістарычнай памяці. Не без іх уплыву ўзніклі таварыствы філаматаў і філарэтаў. Традыцыі гэтай гістарыяграфіі працягвалі браты Яўстах (1814–1873) і Канстанцін (1806–1868) Тышкевічы, Тэадор Нарбут (1784–1864) і Адам Кіркор (1818–1886).



*Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч. Фотаздымак Антона Прушынскага. 1863 г.*



*Вікенці Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі. Фотаздымак Ахіла Банольдзі. 1862 г.*

У літаратуры адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў ліцвінскай традыцыі можна лічыць Адама Міцкевіча (1798–1855). Таксама трэба адзначыць творчасць Яна Баршчэўскага (1794–1851), Яна Чачота (1796–1847), Аляксандра Рыпінскага (1811–1900?), Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі) (1823–1862) і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808–1884). Да гэтага шэрагу варта далучыць Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага (1838–1864). Аналіз ягоных тэкстаў дазваляе сцвярджаць, што і тут мы сустракаемся з праявай ліцвінства па меншай меры ў палітычнай сферы.

Адначасна антыпольская палітыка расейскіх уладаў падштурхнула афармленне заходнерускай культурнай традыцыі, якая таксама спрыяла працэсу беларускага культурнага назапашвання. Характэрныя рысы гэтай традыцыі – ўсведамленне самабытнасці Беларусі як «Заходняй Русі», апеляцыя да гістарычных традыцый Полацкага княства, высокая ацэнка ролі праваслаўнай царквы ў гісторыі «заходнерускіх земляў», антыпольскасць і антыкаталіцкасць. Паводле канфесійнай прыналежнасці большасць прадстаўнікоў заходнерускай традыцыі былі уніятамі, а пасля 1839 г. – вернікамі праваслаўнай царквы. Многія належалі да праваслаўнага духавенства, займалі дзяржаўныя ці вайсковыя пасады або былі звязанымі з расейскімі магнатамі. Літаратурныя і публіцыстычныя творы пісаліся па-руску і па-беларуску. Беларуская мова, якую часцей называлі «заходнерускай гаворкай», перадавалася кірыліцай.

Заходнеруская традыцыя ў першай палове XIX ст. развівалася пераважна на Гомельшчыне і Магілёўшчыне. Яе прадстаўнікоў Аляксандр Цвікевіч назваў *«беларусафіламі ў расейскай культуры»*[9]. Да іх можна аднесці арцыбіскупа Станіслава Богуш-Сестранцэвіча (1731–1826), аўтара польскамоўнай гістарычнай працы «*Аб Заходняй Расеі*» («*O Rosji zachodniej*». Магілёў, 1793) і гіпатэтычнай першай беларускай граматыкі[10], археографа Івана Грыгаровіча (1792–1852), гісторыкаў Міхаіла Без-Карніловіча (1796–1862) і Восіпа Турчыновіча (1824–пасля 1863), этнографа і філолага Паўла Шпілеўскага (1823–1861), аўтара кірылічнай «*Краткой грамматики белорусского наречия*» (1846) ды інш.

Падзеі першай паловы 60-х гг. XIX ст. моцна паўплывалі на далейшую эвалюцыю працэса беларускага культурнага назапашвання. Адмена прыгоннага ладу ў 1861 г. і паўстанне ў 1863–1864 гг. значна прыспешылі працэс пэўнай дэмакратызацыі грамадства. Маніфест 19 лютага 1861 г. нанёс моцны ўдар па яго саслоўнай структуры. Паўстанне паспрыяла палітычнай

актывізацыі сацыяльных нізоў незалежна ад таго, на чыім баку яны апынуліся. Яно ж прыспешыла працэс ліквідацыі прыгонніцтва. Увесну 1863 г. улады, баючыся пашырэння паўстання, дазволілі сялянам Беларуска-Літоўскага краю выкупаць зямлю і выдзелілі на гэта дзяржаўны крэдыт.

Аднак гэтая своеасаблівая «мадэрнізацыя» грамадства адбывалася ва ўмовах палітыкі русіфікацыі. Фактычна адзінай магчымасцю легальнай грамадскай дзейнасці станавіўся ўдзел у гэтай палітыцы. Частка сацыяльных нізоў насельніцтва Беларусі скарыстала з яе. А вось большасць мясцовай шляхты зрабіла іншы выбар.

Пасля разгрому паўстання адбывалася хуткая пераарыентацыя палітычна паланізаваных «ліцвінаў». Раней, калі існавала магчымасць легальнай грамадска-культурнай працы на карысць Беларусі і Літвы, сфармаваўся пэўны тып грамадскага «работніка Краю» (Адам Кіркор, Яўстах Тышкевіч ды інш.). Пасля паўстання легальныя магчымасці такой працы зніклі. Большасць прадстаўнікоў мясцовай паланізаванай эліты пачала арыентавацца на Польшчу і на яе культурныя патрэбы. Падмурак з-пад «ліцвінскай традыцыі» таксама выбівала поўная русіфікацыя афіцыйнай сістэмы адукацыі і забарона друку на польскай і літоўскай мовах і на беларускай (1859) мове лацінкай.

Між тым расейскія ўлады актыўна разыгрывалі «беларускую карту». Ва ўрадавых статыстыках і картах побач з назвамі «велікарусы» і «маларосы» выкарыстоўваўся тэрмін «беларусы»[11]. Пашыралася ўжыванне тэрміна «Беларусь». У 1869 г. улады дазволілі друкаваць на беларускай мове «грамадзянкай» этнаграфічныя зборнікі.

У 1860–1870-я гг. пры актыўным удзеле афіцыйных колаў была распрацавана дактрына заходнерусізму. Паводле яе, Беларусь з'яўлялася культурнай і дзяржаўнай часткай Расеі, а беларусы – адгалінаваннем рускага («вялікарускага») этнасу. Гісторык Міхаіл Каяловіч (1828–1891) у сваіх працах даказваў, што Украіна і Беларусь гістарычна з'яўляюцца неад'емнай часткай Расеі як тэрытарыяльна, так і этнічна. Этнаграфічныя асаблівасці беларускіх земляў тлумачыліся польскімі ўплывамі і падлягалі ліквідацыі. Апошнім гэтая тэорыя істотна адрознівалася ад заходнерускай культурнай традыцыі.

Умацаваць заходнерусізм павінны былі шматлікія навуковыя даследаванні народнай культуры беларусаў, якія пры падтрымцы ўраду разгарнуліся ў 60–70-я гг. XIX ст. Магчыма, лінгвісты, этнографы і гісторыкі Іван Насовіч (1788–1877), Міхаіл Дзмітрыеў (1832–1873),



*Юльян Крачкоўскі.*
*Фотаздымак канца XIX ст.*

Юльян Крачкоўскі (1840–1903), Аляксандр Семянтоўскі (1821–1893) ды інш.) сапраўды імкнуліся да гэтага. Аднак на самой справе іх даследаванні толькі пацвярджалі існаванне самастойнага беларускага этнасу.

Асобнай увагі заслугоўваюць «*Разсказы на белорусском наречии*» (1863). Аўтар поўнай публікацыі «*Разсказаў...*» у сучасным беларускім друку і каментароў да іх Алег Латышонак лічыць, што гэта была першая спроба «*правесьці нацыянальную беларускую думку ў падручніку, які мусіў прайсьці расейскую цэнзуру*»[12]. Гісторык звярнуў увагу на тое, што Полацкая дзяржава трактавалася як асобная ад Кіеўскай Русі, што аўтар[13] амаль не згадваў Маскоўскую дзяржаву, што ў тэксце сцвярджалася адметнасць беларускага народа: «…*Мы сами па соби народ особный: Белоруссы*»[14]. Да таго ж, гэта быў першы гістарычны нарыс, напісаны на беларускай мове.

Магчыма, *Разсказы...* з'яўляліся таксама адным з першых дакументаў, якія засведчылі паступовае афармленне ўласна беларускай культурнай традыцыі.

Яе падмуркам стаўся працэс беларускага культурнага назапашвання, якое адбывалася ў межах ліцвінскай і заходнерускай культурных традыцый. Беларуская культурная традыцыя ў пэўным сэнсе была спалучэннем ліцвінства і заходнерускай традыцыі.

Нараджэнне беларускай культурнай традыцыі суправаджалася спробай яе прарыву на «палітычную тэрыторыю». У канцы 70 – пачатку 80-х гг. XIX ст. беларускія народнікі ўпершыню выступілі з тэарэтычным абгрунтаваннем існавання беларусаў як «*асобнай галіны славянскага племені*». У якасці асноўных параметраў беларушчыны фігуравалі клімат, геаграфія, эканоміка, этнаграфія і беларуская мова, якая характарызавалася як найчысцейшая славянская гаворка. Народнікі сцвярджалі, што беларускі народ адчувае сваё арганічнае культурнае адзінства і адрознівае свае інтарэсы ад польскіх і велікарускіх[15].

Ідэю самастойнасці беларусаў адстойвалі таксама аўтары публікацый у легальнай газеце «Минский листок», якая была цэнтрам групоўкі беларускіх памяркоўных ліberalаў. Гэтая газета змяшчала артыкулы, прысвечаныя беларускай этнаграфіі, археалогіі, мове і гісторыі. Напрыклад, Мітрафан Доўнар-Запольскі (1867–1934) у цыкле артыкулаў «*Беларуская мінуўшчына*» (1888) даказваў існаванне беларускай нацыі, падкрэсліваючы самабытнасць беларускай гісторыі і мовы. У літаратурных публікацыях на старонках газеты часта выкарыстоўвалася беларуская мова[16]. М. Доўнар-Запольскі пазней таксама адзначаў *«нацыянальны дух»*[17] шматлікіх публікацый «Витебских ведомостей» (80–90-я гг. XIX ст.).

На афармленне беларускай культурнай традыцыі моцна паўплывала літаратурная дзейнасць Францішка Багушэвіча (1840–1900). У прадмове да паэтычнага зборніка «*Дудка беларуская*» (Кракаў, 1891) паэт абвясціў існаванне самастойнай і паўнавартаснай беларускай мовы, акрэсліў тэрыторыю яе распаўсюджвання, папярэдзіў, што страта роднай мовы прывядзе да знікнення беларусаў. Паэт з гонарам згадваў мінулае Беларусі, калі яна разам з Літвой баранілася ад крыжацкіх нападаў, а пасля ўтварэння дзяржавы Гедыміна апынулася ў сярэдзіне Літвы як *«тое зярно ў гарэху»*[18]. Упершыню ў гэтай прадмове ўсе этнічныя беларускія землі атрымалі назву «Беларусь».

Ёсць усе падставы лічыць беларускіх народнікаў і Францішка Багушэвіча «піянерамі» ўласна беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Дарэчы, пэўны пералом 80-х гг. XIX ст. адзначаў яшчэ Антон Луцкевіч у артыкуле, прысвечаным беларускаму нацыянальнаму руху і напісаным для ўкраінскага друку ў 1910 г.: «…*На всём протяжении XIX в. мы видим попытки возстановления белорусской письменности; но только те из них, которые имели место в 80-х годах, находятся в непосредственной связи с современной нам работой над возрождением белорусского народа, а все предыдущие носят характер чистой этнографии. Правда и то, что первый горячий призыв держаться всего родного, любить свою «бацькоўшчыну – Беларусь», свою «простую мову» был сделан поэтом-народником Ф. Богушевичем в 80-х годах*»[19].

Францішка Багушэвіча з поўным правам можна назваць адным з тых «*філалагічных падбухторшчыкаў*», ролю якіх у нацыянальных працэсах высока ацэньваў вядомы англійскі сацыёлаг Бенэдыкт Андэрсан[20].

Характэрнымі рысамі беларускай традыцыі можна лічыць своеасаблівы рэлігійны індыферэнтызм яе прадстаўнікоў, якія абміналі праблему канфесійнага расколу беларускага этнасу і звярталіся да ўсіх беларусаў незалежна ад веравызнання. Прадстаўнікі беларускай традыцыі належалі

як да каталіцкага шляхецка-сялянскага асяродка, так і да праваслаўнага інтэлігенцка-сялянскага. Тэксты пісаліся пераважна на беларускай мове як кірыліцай («грамадзянкай»), так і лацінкай. Першым цэнтрам гэтай традыцыі была Вільня, але ўжо напачатку XX ст. да яе далучыўся Менск.

Выпрацоўка беларускай нацыянальнай ідэі як ідэі існавання менавіта беларускай нацыі[21] адбывалася ўжо ў XX ст. Відавочна існаванне некалькіх варыянтаў гэтай ідэі ўжо на пачатку стагоддзя. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі першыя беларускія палітычныя арганізацыі – Беларуская Рэвалюцыйная партыя, заснаваная Вацлавам Іваноўскім, і Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. Праўда, як заўважыў Юры Туронак, абедзве гэтыя арганізацыі больш нагадвалі інтэлігенцкі клуб, чым палітычную арганізацыю[22].

Станаўленню першай беларускай палітычнай партыі паспрыяла рэвалюцыя 1905–1907 гг., у якую яна ўступіла пад назвай Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ). Гэта была сацыялістычная партыя леванародніцкага тыпу. На II з’ездзе (студзень 1906 г.) яна самавызначылася як партыя «*працавітай беднаты Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцяў*». У якасці партыйнага дэвіза быў зацверджаны народніцкі заклік: «*Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся!*»[23]

Менавіта БСГ прапанавала першы варыянт беларускай нацыянальнай ідэі, які знайшоў сваё адлюстраванне на старонках газеты «Наша Доля». У праграмным артыкуле першага нумару газеты ад 1 верасня 1906 г. рэдакцыя абяцала змагацца за сацыяльныя і нацыянальныя свабоды, асвету на беларускай мове, за Адраджэнне Беларусі, якое трактавалася адпаведна сацыялістычнай ідэалогіі. Антон Луцкевіч пазней прыгадваў, што «*день выхода первого номера был как бы торжеством белорусской идеи*»[24]. Аднак першачарговую ролю пры гэтым адыгрывалі пытанні класавай барацьбы.

На старонках «Нашай Долі» беларуская ідэя выступала, у першую чаргу, як ідэя сацыяльнага вызвалення беларускай беднаты ад расейскага царызму і памешчыкаў. Уласна нацыянальны кампанент беларускай ідэі разглядаўся хутчэй як сродак сацыяльнай мабілізацыі беларускага сялянства на палітычную барацьбу. Фактычна, была зроблена спроба сфармуляваць сацыялістычны варыянт нацыянальнай ідэі. Як вядома, газета праіснавала нядоўга. У снежні 1906 г. яна была забароненая.

Яшчэ да яе закрыцця рэдакцыя раскалолася. Шэраг супрацоўнікаў, у тым ліку браты Іван ды Антон Луцкевічы перайшлі на больш ліберальныя пазіцыі, спадзеючыся выкарыстаць палітычныя перамены, якія прынесла

рэвалюцыя. Яны сталі ініцыятарамі выдання новага штотыднёвіка «Наша Ніва», які на працягу дзевяці гадоў (1906–1915) з'яўляўся сапраўдным цэнтрам беларускага нацыянальнага жыцця.

У «нашаніўскім» варыянце беларускай нацыянальнай ідэі найважнейшае месца займалі пытанні, звязаныя з лёсам беларускай мовы і беларускамоўнай адукацыяй[25]. Газета імкнулася ўзняць сацыяльны прэстыж беларускай мовы, нагадваючы чытачам, што ў ВКЛ гэтая мова мела статус дзяржаўнай, што менавіта на ёй пісаліся законы[26]. Яе аўтары прапагандавалі ідэю святасці роднай мовы для кожнага беларуса і заклікалі шанаваць і абараняць яе. Яны прапагандавалі ідэю выкладання Закона Божага (катэхізацыі) на роднай мове[27] і ўвядзення яе ў касцёл і царкву ў якасці мовы дадатковага набажэнства[28], выказвалі аптымізм і веру ў поспех беларускай справы.

«Наша Ніва» рэгулярна паведамляла пра беларускія кніжныя навінкі і ў першую чаргу пра падручнікі на роднай мове. На яе старонках складваліся лексічныя і граматычныя нормы новай беларускай літаратурнай мовы. Невыпадкова Захар Шыбека ў «*Нарысе гісторыі Беларусі. 1795–2002*» (Мінск, 2003) назваў яе «*лінгвістычнай акадэміяй*»[29].

Адным з пастаянных аўтараў газеты быў Мечыслаў Бабровіч (публікаваўся псеўданімам *Лявон Гмырак*), якому належыць наступнае вызначэнне нацыі: «*Нацыю складаюць людзі, якія гавораць адной мовай і адчуваюць сувязь паміж сабой; прызнаюць сваю даную мову ці культуру*»[30].

Шмат увагі «Наша Ніва» надавала такому важнаму кампаненту нацыянальнай свядомасці як гістарычная памяць. Ідэолагі беларускага руху разумелі, што ўсведамленне ўласным народам (у першую чаргу, элітай) і ягонымі суседзямі адметнага месца беларусаў у гісторыі з'яўляецца пэўнай гарантыяй таго, што нацыя стане суб'ектам сучаснага палітычнага і нацыянальнага жыцця. У 1910 г. на старонках газеты друкавалася «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага, якая была першай спробай асэнсаваць мінулае беларускай зямлі і яе народаў з беларускага пункту гледзішча. Аўтар імкнуўся паказаць уласна беларускі ўнёсак у гісторыю і, напрыклад, паланізацыю характарызаваў хутчэй як самапаланізацыю. Упершыню ў гістарыяграфіі беларусы трактаваліся як галоўны народ Краю, які вызначаў ягоны гістарычны лёс.

Можна сцвярджаць, што «Наша Ніва» актыўна распаўсюджвала этнакультурны (этналінгвістычны) варыянт нацыянальнай ідэалогіі, цэнтральнае месца ў якім займала ідэя захавання і развіцця роднай мовы, пашырэн-

ня яе ўжывання ў адукацыі, рэлігіі і грамадска-палітычным жыцці.

Пры гэтым характэрнай рысай публікацый «Нашай Нівы» было асуджэнне ўсялякага шавінізму, у тым ліку беларускага. На яе старонках, напрыклад, сцвярджалася, што ненавідзець палякаў за тое, што яны палякі, або рускіх за тое, што яны рускія, можа толькі псіхічна ненармальны ці аслеплены фальшывым патрыятызмам чалавек[31].

Высокі ўзровень талерантнасці «нашаніўскага кола», магчыма, быў абумоўлены тым, што сярод беларускай эліты пастунова распаўсюдзіўся яшчэ адзін варыянт нацыянальнай ідэалогіі, з'яўленне якога было звязана з палітычнай актыўнасцю літоўскіх і беларускіх палякаў. Менавіта ў іх асяроддзі ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. былі выпрацаваныя асновы г. зв. «краёвай ідэалогіі». Яе стваральнікі (Міхал Ромэр, Раман Скірмунт, Канстанцыя Скірмунт і Баляслаў Ялавецкі) прадстаўлялі тую частку мясцовай польскай грамадскасці, якая захоўвала традыцыі дзяржаўнай і культурнай адметнасці земляў былога ВКЛ. Яны нібыта адчувалі сябе грамадзянамі неіснуючага Вялікага Княства Літоўскага і менавіта яго, а не Польшчу лічылі сваёй Радзімай.

Падмуркам краёвасці была ідэя дзяржаўнай або грамадзянскай нацыі. Паводле ідэолагаў краёвасці, кожны, хто адчуваў сябе «грамадзянінам Краю», належаў да «краёвай нацыі» (часам яе называлі «нацыяй літвінаў»). Этнічныя і культурныя адметнасці, на іх думку, не адыгрывалі вялікай

Год 1. Вильня 10/23 листопада (ноября) 1906 г. № 1.

Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими літэрами.

Адрес редакціи и администраціи: Вильня, Большая Погулянка д. № 17. Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

*Першая старонка першага нумара «Нашай Нівы». 1906 г.*

ролі. У пэўным сэнсе краёвасць працягвала традыцыі «ліцвінства». Варта таксама адзначыць два накірункі краёвай ідэалогіі – дэмакратычны, у вытокаў якога стаяла асоба Міхала Ромэра (1880–1945), і кансерватыўны, у стварэнні якога вялікую адыграў Раман Скірмунт (1868–1939).

Кантакты паміж польскімі краёўцамі дэмакратычнай плыні і дзеячамі беларускага руху спрыялі таму, што краёвую ідэю пачалі прапагандаваць таксама беларускія палітыкі. У першую чаргу трэба згадаць братоў Луцкевічаў. Менавіта яны былі ініцыятарамі ажыццяўлення незвычайнага беларускага выдавецкага праекту – выдання штодзённай газеты на рускай мове і штотыднёвіка на польскай[32]. У 1912 г. у Вільне пачала выходзіць «Вечерняя газета», да якой хутка далучыўся – «Кур'ер Краёвы». Выдаўцамі і рэдактарамі гэтых ліберальна-дэмакратычных выданняў былі беларускія дзеячы, у т. л. браты Луцкевічы. Але паходжанне новых віленскіх газет трымалася ў таямніцы ад шырокай грамадскасці.

Тэрмін «грамадзянін Краю», адзін з асноўных у канцэпцыі дзяржаўнай (грамадзянскай) нацыі шырока ўжываўся на старонках «Кур'ера» і «Вечерней газеты». Аўтары публікацый даводзілі, што найбольш важныя для Краю пытанні павінны вырашацца з улікам інтарэсаў усіх этнасаў Беларусі і Літвы, асуджалі праявы шавінізму ды інш. Антон Луцкевіч заклікаў усіх «грамадзян Краю» да працы на ягоную карысць і на карысць прыгнечанага народа.

Названыя беларускія газеты стваралі пэўную ідэйную канкурэнцыю «Нашай Ніве». Яны прапагандавалі дэмакратычны накірунак краёвай ідэалогіі альбо дэмакратычны варыянт ідэалогіі нацыі «дзяржаўнага» тыпу.

Але наўрад ці краёвую пазіцыю «Вечерней газеты» і «Кур'ера краёвага» можна лічыць асобным варыянтам беларускай нацыянальнай ідэі. Аналіз крыніцаў, якія маюцца ў нашым распараджэнні, дазваляе казаць пра выключна прагматычнае выкарыстанне беларусамі краёвай ідэалогіі. Краёвасць дазваляла пашырыць сацыяльную і этнакультурную базу прапаганды ідэалогіі беларускага Адраджэння. Яна стварала выдатныя магчымасці для наладжвання сувязяў з дзеячамі іншых нацыянальных рухаў. Фактычна, краёвая ідэя разглядалася ў якасці сродку ўмацавання пазіцый беларусаў у нацыянальна-культурным і грамадска-палітычным жыцці.

Так, напрыклад, агітацыя неабходнасці паразумення палякаў з беларусамі аргументавалася ў першую чаргу адсутнасцю перспектываў

далейшага развіцця польскага руху ў Беларуска-Літоўскім краі[33]. Кіраўнікі беларускага руху былі ўпэўненыя, што літоўскія і беларускія палякі з'яўляюцца выключна нашчадкамі паланізаваных літоўцаў і беларусаў. З гэтага рабілася выснова, што польская грамадскасць павінна працаваць толькі дзеля развіцця свядомасці і культуры беларусаў і літоўцаў.

Затое кансерватыўны накірунак краёвай ідэалогіі стаўся ідэйнай асновай выпрацоўкі кансерватыўнага варыянта беларускай нацыянальнай ідэі. Вялікую ролю ў гэтым адыграў Раман Скірмунт, які, дарэчы, з'яўляўся адным з галоўных ідэолагаў гэтай краёвай плыні. Ад большасці краёўцаў-кансерватараў яго адрозніваў выразны лібералізм у пытаннях палітычнага жыцця і імкненне публічна дыстанцыявацца ад польскасці як нацыянальнай і палітычнай катэгорыі.

Ужо ў 1907 г. Раман Скірмунт выступіў з ініцыятывай стварэння міжнацыянальнага Краёвага саюза як кансерватыўна-ліберальнай партыі, у складзе якой павінна была існаваць аўтаномная беларуская палітычная арганізацыя (разам з польскай і літоўскай). Такую партыю стварыць не атрымалася, бо большасць землеўласнікаў з ліку «літоўскіх палякаў», якія падтрымалі ініцыятыву Р. Скірмунта, успрымалі краёвасць хутчэй як сродак абароны ўласнай маёмасці ва ўмовах хуткай радыкалізацыі сацыяльных і абвастрэння нацыянальных адносінаў.

Аднак краёвыя погляды Р. Скірмунта і паслярэвалюцыйная лібералізацыя пазіцыі дзеячаў «нашаніўскага кола» разам з іх прыхільнасцю да краёвасці паспрыялі наладжванню кантактаў паміж імі. У гістарычнай літаратуры ёсць звесткі пра тое, што ў міжрэвалюцыйны перыяд пры пасрэдніцтве княгіні Марыі Магдалены Радзівіл адбываліся сустрэчы і перамовы паміж Раманам Скірмунтам, з аднаго боку, і братамі Луцкевічамі, В. Іваноўскім і А. Уласавым, з другога[34]. Было дасягнутае пэўнае паразуменне, што забяспечыла па меншай меры фінансавую падтрымку культурніцкіх ініцыятываў беларускіх адраджэнцаў.

Раман Скірмунт не пакінуў спробаў стварэння беларускай кансерватыўнай ці кансерватыўна-ліберальнай партыі. Паводле Вінцэнта Гадлеўскага, увесну 1917 г. ён спрабаваў арганізаваць «*беларускую абшарніцкую партыю*» і прыцягнуць да палітычнай працы на карысць Беларусі прадстаўнікоў колішніх магнацкіх родаў[35].

У лютым 1918 г. ён амаль дасягнуў свайго, заснаваўшы ў Менску Беларускае Народнае Прадстаўніцтва як палітычную партыю, што знаходзілася ў апазіцыі да грамадаўскага Народнага Сакратарыяту. Ад-

нак трагізм сітуацыі быў у тым, што Р. Скірмунт не мог знайсці ў Беларусі масавай падтрымкі сваёй палітычнай пазіцыі. Як заўважыў яшчэ ў 1918 г. Яўсей Канчар, выхадцы з сацыяльных нізоў за Скірмунтам не пойдуць, а сярод маёмасных класаў амаль няма арганізаваных людзей, якія б усведамлялі сябе беларусамі[36].



1. Hod Wilnia 1 marca 1913 hodu № 8

# BIEŁARUS

tydniowaja katalickaja hazeta.

Kasztuje s pierasyłkaj: na hod 1 rb. 50 kap. na 6 miesiacau 80 kap.
Addzielny numer 3 kapiejki.

Rukapisy pawinny być padpisany praudziwaj familijaj dzieła wiedama redakcii, inakš nia buduć drukawany; rukapisy nie zwiertajucca. Hroszy možna pasyłać pacztowymi markami.

Usie adresawać: Wilnia Siemionouskaja wulica d. 6 kw. 5. Redakcija „Biełarusa".

Szkada mnie hetaho narodu... bo nie maje czaho jeści (słowy Chrystusa).

## Da pracy!

*Da pracy, da czynu!*
*Ty rodny moj synu,*
*Bačkou i twaja*
*Harotnaja dola:*
*Nia śpi ty užo bołaj!*
*Mnie ciažka samoj*
*Być wieczna s taboj —*
*Taki ty słaby*
*Ledź-ledź pou-žywy...*
*Sama by chacieła,*
*Kab brausia za dzieła*
*I s pracy mieu płon,*
*Prahnau mianie won...*
*Z achwotaj wialikaj*
*Paszła-b, kab nia klikau,*
*Mianie nia trymau*
*Ty sam, kab nie spau!..*
*Choć raz by da czynu*
*Ustań-že moj synu!..*

Antoni B.

## Naszaje narekańnie.

Narekajuć ludzi na ciažkije czasy. Narekajuć ciapier — jak narekali daŭniej. Prauda — žyćcio ludzkoje ciažkoje, harotnaje. Nawat tyje, katoryje žywuć u wialikich dastatkach — zdawoleny žyćciom nikoli nia bywajuć. Taki užo skład samoha žyćcia, szto czaławiek — kolki-b jon nia mieŭ, czaho-b nie dabiŭsia, a jamu zaŭsiody — mała. Heta, badaj, i dobra. Padumajcie sami, szto-ž było-b z naszaho žyćcia, kali-b ludzi zusim byli im zdawoleny? Žadać, znaczycca, było-b nieczaha; dabiwacca jakohaś palapszeńnia ŭ hetym žyćci — nia było-b patreby. Szto-ž z hetaho było-b? A było-b toje, szto ŭsio žyćcio — jak taja wada stajaczaja — skora-b sapsawałosia i zapleśniało.

Kažuć, szto kožny czaławiek — kawal swajho szczaścia. Praŭdu kažuczy, nie zaŭsiody tak bywaje: adnamu — szczaście samo lezie ŭ ruki, a jon tolki nia ŭmieje, ci nia chocze jaho brać; druhi — bjecca jak ryba ab lod i — nieczoha dabicca nia može.

Usia sztuka žyćcia ŭ tym, kab zrazu ad niaho mnoha nie žadać, a tolki pracaj i rozumam — krok za krokam śmieła iści napierad.

Ciapier, naprykład, moda pajszła szukać szczaścia pa czužych krajoch: moładź — a znaczycca samyje siły naszych wiosak — jedzie ŭ Ameryku nažywać hroszy. Nia kožnamu, razumiejecca, heta ŭdajecca, a choć niekatorym bywaje i paszczencie, dyk jak heta baczym — lepszaj doli pa naszych wioskach nia prybyło: hroszy amerykanskije niejak skora raspaŭzajucca, i jak było ciažka, tak i ciapier nie lahczej; jak było narekańnie, tak i ciapier jano jość. A ŭsio, badaj, praz toje, szto, szukajuczy zarabotkaŭ pa czužych staronkach, mała, zwiertajem uwahi na swajo bahaćcie.

*Першая старонка нумару газеты «Biełarus» з вершам Б. Эпімах-Шыпілы. 1913 г.*

У 1913 г. пачалася выпрацоўка яшчэ аднаго варыянта беларускай нацыянальнай ідэі, які Антон Луцкевіч называў «клерыкальна-патрыятычным»[37]. У праграмным артыкуле першага нумару газеты «Беларус» рэдакцыя заявіла, што *«будзе стаяць заўсёды на грунце хрысціянска-каталіцкім, баронячы справу хрысціянскую і беларускую», паважаючы іншыя народнасці і веравызнанні*[38].

Асаблівасцю гэтага варыянта нацыянальнай ідэі было адзінства нацыянальнай культуры, асветы і хрысціянскай веры. Газета прапагандавала развіццё нацыянальнай свядомасці сярод беларусаў-католікоў, заахвочвала каталіцкі клір да ўжывання беларускай мовы ў набажэнстве, арыентавалася на сацыяльную гармонію і эвалюцыйны шлях развіцця грамадства.

Якраз пра гэта пісаў на старонках газеты яе рэдактар Баляслаў Пачобка: *«Сапраўдны беларус той, хто гаворыць: Я беларус, люблю сваю бацькаўшчыну і мову і колькі магу працую дзеля яе»*[39]. У іншым артыкуле ён жа даказваў неабходнасць увядзення беларускай мовы ў каталіцкі касцёл, а таксама выдання беларускамоўнай літаратуры для набажэнства[40]. Рэдакцыя заклікала беларусаў да актыўнай гістарычнай творчасці, адстойвала ідэю нацыянальнага адзінства беларусаў-праваслаўных і каталікоў, змагалася з русіфікацыяй і паланізацыяй беларусаў[41].

Выданне «Беларуса» з’яўлялася спробай паяднання хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіі з беларускім нацыянальным рухам і этнакультурным варыянтам беларускай нацыянальнай ідэі.

У заключэнне трэба адзначыць, што беларуская нацыянальная ідэя вырастала на глебе беларускай культурнай традыцыі, да стварэння якой прычыніліся як «ліцвіны», так і «заходнярусы» У беларускім нацыянальна-культурным Адраджэнні пачатку XX ст. праявілася заканамернасць, характэрная для большасці нацый Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Дамінуючым варыянтам нацыянальнай ідэалогіі стаўся этнакультурны ці этналінгвістычны варыянт, які паслядоўна прапагандавала і адстойвала «Наша Ніва». Аднак звяртае на сябе ўвагу імкненне беларусаў парушыць ягоныя межы. Ва ўмовах моцных уплываў з боку польскай і расейскай культур беларускія палітыкі дзеля сацыяльнай і нацыянальна-культурнай мабілізацыі насельніцтва актыўна выкарыстоўвалі магчымасці палітычнага ці грамадзянскага варыянту нацыянальнай ідэалогіі ў форме дэмакратычнай і кансерватыўная плыняў краёвасці, шукалі магчымасці паяднання беларускай ідэі з сацыялістычнай і кансерватыўнай ідэалагічнымі канцэпцыямі.

Аднак гэтыя спробы аказаліся малаэфектыўнымі. Адсутнічала дзяржава, якая магла б з’яднаць усе этнасы Краю ў беларускую нацыю палітычнага тыпу. Большасць каталіцкага і праваслаўнага духавенства аказалася ўцягнутай у расейска-польскае змаганне за г. зв. «Паўночна-Заходні край» і «ўсходнія крэсы», а пралетарыят і буржуазія, свядомыя ўласнай беларускасці, практычна не існавалі. Падобна што ў тагачасных ўмовах этнакультурны варыянт нацыянальнай ідэалогіі беларускага руху не меў альтэрнатывы.

---

1 Грунтоўны аналіз беларускай гістарыяграфіі па гэтай праблеме быў зроблены Андрэем Унучакам у раздзеле «Беларуская нацыянальна-дзяржаўная ідэя ў канцы XIX – 1917 г.» у выданні «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы» (Навук. рэд. В. Яноўская. Мінск: Беларуская навука, 2011).

2 Каўка А. Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 1. Мінск, 1993, с. 445–448.

3 Białoruskie zeszyty historyczne. 2002. Nr 17, s. 294.

4 Марзалюк І. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X–XVII ст.). Магілёў, 2003, с. 285.

5 Тамсама, с. 286.

[6] Кнігу І. Марзалюка грунтоўна прааналізаваў у сваёй рэцэнзіі Генадзь Сагановіч. (Гл.: Сагановіч Г. Прывід нацыі ў імгле стэрэатыпаў // Беларускі гістарычны агляд. Том 10. Сшыткі 1–2 (18–19). Снежань 2003, с. 281–318.

[7] Смалянчук А. Да пытання аб ролі палітычнай ідэалогіі ў развіцці беларускага нацыянальнага руху ў 19 – пачатку 20 ст. // Гістарычны альманах. 1999. Том 2, с. 3–19; Ён жа. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917 г. Гродна, 2001, 320 с.; Ён жа. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. Выд. 2-е, дапрац. Санкт-Петербург, 2004, 402 с.

[8] Куль-Сяльверстава С. Асаблівасці фармавання беларускай нацыянальнай культуры ў канцы XVIII – першыя дзесяцігоддзі XIX ст.: паміж польскай і ліцвінскай традыцыямі // Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі / Пад рэд. М. Кандрацюка. II. Матэрыялы VII міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці». Беласток. 16–18.07.1999. Беласток, 2000.

[9] Цьвікевіч А. «Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Менск, 1993, с. 54.

[10] Хаўратовіч І. Богуш-Сестранцэвіч Станіслаў Іванавіч. (3.9.1731–1.12.1826) // Мысліцелі і асветнікі. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995, с. 185.

[11] Токць С. Нацыятворчыя працэсы на Гарадзеншчыне 19 – пачатку 20 ст. // Гістарычны альманах. 2001. Том 6, с. 166.

[12] Латышонак А. Гутарка «царкоўнага старасты Янкі» з «Яськам гаспадаром з-пад Вільні» // Дзеяслоў. № 9 (2). 2004, с. 199.

[13] У якасці верагоднага аўтара *Разсказаў* А.Латышонак назваў педагога і літаратара Ігната Кулакоўскага (1800-1870), але пазней адмовіўся ад гэтай гіпотэзы.

[14] Латышонак А. Гутарка «царкоўнага старасты Янкі»..., с. 211.

[15] Гл., напр., Радзік Р. Пецярбургскі «Гоман» як пачынальнік беларускай нацыянальнай ідэі ў XIX ст. // Нацыянальныя пытанні. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». Мінск, 2001, с. 76–86.

[16] Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994, с. 396–397.

[17] Тамсама, с. 398.

[18] Багушэвіч Ф. Творы / Укл. Я. Янушкевіч. Мінск, 1998, с. 22.

[19] Антон Луцкевіч пра беларускае Адраджэнне пачатку XX ст. // Гістарычны альманах. 1998. № 1, с. 67.

[20] Андерсон Б. Воображаемые сообщества. Размышления об истоках и распространении национализма. Москва, 2001, с. 106.

[21] Латышонак А. Беларуская нацыянальная ідэя // Свіцязь. 1994. № 2, с. 30.

[22] Turonek J. Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa, 1992, s. 25–34.

[23] Біч М. Беларускае Адраджэнне ў XIX – пачатку XX ст. Гістарычныя асаблівасці, узаемаадносіны з іншымі народамі. Мінск, 1993, с. 17.

[24] Антон Луцкевіч пра беларускае Адраджэнне пачатку XX ст., с. 68.

[25] Гл., напр., Наша Ніва. 1906, – №№ 1, 7.

[26] Тамсама. 1908, № 20.

[27] Тамсама. 1914, № 7.
[28] Тамсама. 1908, № 17; 1914, № 20.
[29] Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі. 1795–2002. Мінск, 2003, с. 160.
[30] Лявон Гмырак. Творы / Уклад. У. Конан. Мінск, 1992, с. 133.
[31] Наша Ніва. 1911, № 5.
[32] Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. Выд. 2-е, дапрац. Санкт-Петербург, 2004, с. 267, 269 ды інш.
[33] Kurier Krajowy. 1913, Nr 98.
[34] Łatyszonek O., Zięba A. Radziwiłłowa z Zawiszów // Polski słownik biograficzny. T. 30, s. 398-399.
[35] Гадлеўскі В. З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–1918 г. // Спадчына. 1997, № 5, с. 22.
[36] Цыт. паводле: Рудовіч С. «…Беларускі дзеяч з вялікіх паноў» // Гістарычны альманах. 1999. Том 2, с. 51.
[37] Антон Луцкевіч пра беларускае Адраджэнне пачатку XX ст., с. 72.
[38] Biełarus. 1913, Nr 1.
[39] Ibidem. 1914, Nr 7.
[40] Ibidem. 1914, Nr 13; 1915, Nr 23–24; Nr 29–30.
[41] Ibidem. 1914, № 7; № 13.

# НАЦЫЯ Ў ПОШУКАХ ГІСТОРЫІ

## *Да праблемы гістарычнай свядомасці пачынальнікаў беларускага Адраджэння (другая палова XIX – пачатак XX ст.)*[*]

Цікавасць да гісторыі – характэрная рыса грамадскага жыцця эпохі нацыяналізмаў. Якраз у гэты перыяд нараджаюцца нацыянальныя гістарыяграфіі, а гістарычная свядомасць, як спалучэнне ведаў пра мінуўшчыну з пэўнай сістэмы каштоўнасцяў або наборам ацэнак гістарычных фактаў[1], ператвараецца ў істотны фактар грамадска-палітычнага і нацыянальна-культурнага жыцця.

Для разумення гісторыі беларускага нацыянальнага руху вельмі важным падаецца даследаванне гістарычных уяўленняў пачынальнікаў беларускага Адраджэння і ролі гэтых уяўленняў у працэсе выпрацоўкі беларускай нацыянальнай ідэі. Належнага асвятлення ў беларускай гістарычнай навуцы гэтая праблема не атрымала, хоць станаўленне нацыянальнай гістарыяграфіі разглядася многімі даследчыкамі. У дадзеным артыкуле хачу звярнуць увагу на трактоўку ролі палякаў і расейцаў у беларускай гісторыі.

Адным з першых паспрабаваў прааналізаваць ролю расейцаў у гісторыі Беларуска-Літоўскага краю Вікенці Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі (1838–1864). Вялікае месца ў ягоных гістарычных экскурсах на старонках «Мужыцкай праўды» займалі г. зв. «маскалі» (г. зн. расейскія чыноўнікі і войска). З дапамогай гісторыі К. Каліноўскі імкнуўся перакanаць сялянаў, што прычынай іх бядотнага становішча з’яўляецца перманентная «маскоўская» агрэсія і ўстанаўленне «маскоўскага праўлення»: «*Пайшоў ронд маскоўскі, так і ўсё зрабілася па-чартоўску*». Грабежніцкімі нападамі «немца» і «маскаля» Кастусь Каліноўскі тлумачыў канец «залатога веку» ў Беларусі. Ён таксама вінаваціў маскоўскага цара ў знішчэнні

---

[*] Упершыню артыкул быў апублікаваны на старонках часопіса «Białoruskie Zeszyty Historyczne». 2005, Nr 24б s. 188–196. Гэтая версія артыкула з’яўляецца папраўленай.

уніяцкай царквы: *«Адабраў ад нас нашую справядлівую уніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам навекі, каб мог нас без канца драці»*[2].

У публіцыстыцы К. Каліноўскага «маскалі» сталі галоўным ворагам Беларусі, які нёс адказнасць амаль за ўсе беды і няшчасці краіны. Адбывалася свайго роду дэманізацыя вобразу расейцаў.

Ацэнка палякаў або іх характарыстыка на старонках «Мужыцкай праўды» і іншых выданняў, якімі кіраваў Каліноўскі, адсутнічала. Нягледзячы на ўсе складанасці ва ўзаемаадносінах віленскага Літоўскага Правінцыйнага Камітэту і ягонага кіраўніка з Цэнтральным Нацыянальным камітэтам у Варшаве, палякі заставаліся «сваімі». Напрыклад, Маніфест Выканаўчага (Віленскага) аддзелу ад 19 сакавіка 1863 г. заклікаў *«братоў нашых літоўцаў і беларусаў, якія ўтвараюць з Польшчай адзінае цэлае, да згуртавання ўсіх нацыянальных сіл вакол сцяга незалежнасці»*. У Маніфесце ад 3 мая 1863 г. жыхары Беларусі называліся сынамі *«адзінай Польскай Бацькаўшчыны»*[3].

«Яська-гаспадар з-пад Вільні» ніколі не выступаў супраць польскай традыцыі змагання. У вядомых *Лістах з-пад шыбеніцы* Кастусь Каліноўскі заклікаў беларусаў ізноў падтрымаць барацьбу палякаў супраць царызму: *«Для таго, народзе, як толькі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но, ухапіўшы за што зможаш, за касу, сакеру цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную»*[4].

Амаль адначасна з «Мужыцкай праўдай» ў друкарні А. Сыркіна ў Вільні былі надрукаваныя «Разсказы на белорусском наречіи»[5]. Паводле Ігара Запрудскага і Алега Латышонка, «Разсказы» ўтрымлівалі першы гістарычны нарыс і першае літаратурнае апавяданне на беларускай мове. Прычым аналіз гэтага нарыса дазволіў А. Латышонку заявіць, што аўтар з'яўляўся заснавальнікам беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі[6]. (Асабіста перакананы, што ў значна большай ступені такой ацэнкі заслугоўвае М. Доўнар-Запольскі). У 2004 г. верагодным аўтарам «Разсказаў» А. Латышонак лічыў гісторыка і літаратара Ігната Кулакоўскага (1800–1870).

Цікава, што ўжо ў першым з нарысаў (*Хто былі нашыя найдаўнейшыя дзяды і якая іх была доля да уніі?*) аўтар называе родную старонку «Белай Руссю», а *«найдаўнейшымі дзядамі»* лічыць крывічоў. На яго думку, беларусы мелі сваю Полацкую дзяржаву і сваіх князёў, пакуль кіеўскі князь Уладзімір не заваяваў Полацк. Пры гэтым аўтар аддзяляў Белую Русь ад Русі Кіеўскай.

Значнае месца адведзена палякам. Аўтар падкрэсліў іх імкненне аб'яднаць свае землі з літоўскімі і беларускімі. Нягледзячы на супраціў усходніх суседзяў палякі дамагліся свайго. Адбылося гэта спачатку пры Ягайле, а пасля пры Жыгімонце Аўгусце. Пры гэтым літоўцы і беларусы здолелі захаваць асобныя соймы, кіраванне не польскіх, а «краёвых» чыноўнікаў, забаранілі палякам набываць землі ў Літве ды інш. Аднак гэтыя законы хутка перасталі выконвацца, а потым палякі наогул увялі адзінае права ва ўсёй дзяржаве. З гэтага моманту «*много панув польських почало пэрэизжаты в русськи и литовски стороны; так же много панув билорусcько-литовських, коб заняты крисло в польском сэнати, одрикалыся од руднэи виры и руднэи мовы; почалы будоваты косцёлы на русських и литовських зэмлях; римсько-католицкэи духовенсьтво стало працёваты, коб всих Литвинув и Билоруссув зробыты католикамы. Началыся вэльмы цяжкіи часы для Литовських и Билорусських зэмэль*»[7].

З польскімі парадкамі аўтар звязаў з'яўленне ў Беларусі і Літве езуітаў, якое характарызаваў як адно з найвялікшых няшчасцяў. На яго погляд, якраз езуіцкія школы прычыніліся да паланізацыі і акаталічвання. У рэчышчы гэтага працэсу разглядалася таксама Берасцейская унія: «*Щоб як хучій и в конэц ополячиты всих Литвинув и Русських, Іезуиты выдумалы так звануя, добре знакомую, Унію*».

У нарысе *Великая помылка наших белоруссов* аўтар імкнуўся даказаць, што беларусы-каталікі застаюцца тымі ж самымі беларусамі, бо «*у их мова простая, белорусская, звычаи простые белорусские; и звычаи и мова у мужиков католиков тыя самыя, што и мужиков православных, ци русских*»[8].

Аўтар асуджаў тых, хто пачаў называць сябе «палякам»: «*Нягоже пнутца нам за панами и для гэтаго отрекатца от свайго роду і племени*»; «*Казав и узнова кажу: нечего нам пнутца до панов и звацъ сябе Поляками; от гэтаго нам нима ни якой корысци; за гэта другіе людзи только смяютца з нас. Русскими, а не Поляками мы повинны называтца*»[9].

У нарысе *Розмова на цментари старосты Янка з братчыком Хвэдосем* аўтар падкрэсліў адметнасць беларусаў: «*А и мы сами, запэвне зовсим не ляхи: мы сами по соби народ особный – Белоруссы!*[10]«

Цікава, што расейцы ў нарысе наогул адсутнічаюць. Толькі аднойчы аўтар згадаў пра Маскоўскую дзяржаву і яе цароў і толькі дзеля таго, каб нагадаць пра тыя жахлівыя спусташэнні беларускай зямлі, якія адбываліся падчас ваенных канфліктаў паміж Масквой і Польшчай[11].

Як заўважыў А. Латышонак, «Разсказы» можна лічыць пэўным адказам на тэксты «Яські гаспадара с-пад Вільні». У адрозненні ад К. Каліноўскага невядомы аўтар «Разсказов» наогул «забыўся» пра існаванне расейцаў. Затое роля палякаў у беларускай гісторыі атрымала шырокае асвятленне. Пры гэтым яны выразна супрацьставіліся «*літвінам*», якія «*жилы з Билоруссамы в вэликой згоди*». З палякамі звязвалася страта незалежнасці, апалячванне і акаталічванне.

Звяртае на сябе ўвагу асуджэнне аўтарам тых, хто «*пнетица да панув*» і пры гэтым адракаецца ад роднай мовы і роднай (праваслаўнай) веры. Апошняе азначае, што аўтар не ацэньваў культурна-рэлігійную сітуацыю пасля аб'яднання з Польшчай як безальтэрнатыўную. Ён пісаў не толькі пра польскую палітыку, але і пра той выбар, які рабілі самі «найдаўнейшыя дзяды» беларусаў, што дазваляла ўзняць праблему ўласна беларускага ўнёску ў гісторыю.

Негатыўныя вобразы палякаў і расейцаў стварала публіцыстыка беларускіх народнікаў, якія напачатку 80-х гг. XIX ст. спрабавалі тэарэтычна абгрунтаваць існаванне беларускай нацыі. У г. зв. «Пісьме Данілы Баравіка» (1882) адзначалася, што да XV ст. беларускі народ жыў самастойным жыццём, меў уласную дзяржаву («Літву») і сам вызначаў свой лёс. Усё змянілася, калі ўзмацніліся культурна-рэлігійныя і палітычныя ўплывы Польшчы. Іх вынікам, паводле аўтара, стала паланізацыя «*вышэйшага класа беларускага народа*» і страта дзяржаўнасці[12]. Працэсы паланізацыі не закранулі «*просты беларускі народ*», які быў моцна прыціснуты прыгонным ладам і вёў сапраўдную барацьбу за выжыванне.

З канца XVIII ст. на беларускіх землях устанавілася расейскае панаванне. Напачатку гэта нічога не змяніла. У «Пісьме» адзначалася, што ў перыяд праўлення Аляксандра I працягвалася паланізацыя, якая датычыла ўжо і сялянства. А вось пасля 1863 г. пачалося абрусенне Краю. Як сцвярджалі народнікі, русіфікацыя адбывалася праз адукацыю і палітыку рэпрэсій: «*Наша Беларусь вось ужо 20 гадоў знаходзіцца ў выключным ваенным становішчы, пры якім немагчымая ніякая законнасць*»[13]. Тым не менш у Пісьме выказвалася ўпэўненасць, што беларускі народ не паддаўся ні паланізацыі, ні русіфікацыі, і захаваў сваю адметнасць.

Аналагічных поглядаў на беларускую гісторыю прытрымліваліся выдаўцы часопіса «Гомон» (1884). Яны сцвярджалі, што бліжэйшыя суседзі звычайна глядзелі на беларусаў, як на матэрыял для асіміляцыі і імкнуліся растварыць іх у «*велікарускім або польскім моры*»: «*Палітыка гвалту пра-*

*цягвалася цэлыя стагоддзі. Яна пачалася ўладарніцтвам Польшчы і завяршаецца панаваннем маскоўскага абсалютызму. Апошні не прыпыняецца ні перад якімі сродкамі дзеля дасягнення аднастайнасці, вельмі зручнай для яго фіскальных і паліцыйных мэтаў»*[14].

Аўтары «Гомона» адзначалі, што Беларусь мела *«ўласнае гістарычнае жыццё»*, характэрнай рысай якога было *«народаўладдзе»*. Народ выганяў князёў і запрашаў іх па сваёй волі. Канец *«уласнага гістарычнага жыцця»* народнікі звязвалі з палітыкай Польшчы, якая, па іх словах, разбэсціла шляхецкую беларускую інтэлігенцыю і падавіла народ. Яны звярталі ўвагу, што слова «паляк» для беларуса стала сінонімам словаў «пан» і «памешчык» і нагадвала пра часы прыгонніцтва.

У публіцыстыцы народнікаў упершыню адназначна варожа трактаваліся і расейцы і палякі. Фактычна народнікі сфармулявалі тэзіс «двух бедаў» беларускай гісторыі – польскага і маскоўскага.

У 1888 г. на старонках газеты «Минский листок» быў апублікаваны шэраг артыкулаў маладога гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867–1934) пад назвай *«Белорусское прошлое»*.

Даследчык не сумняваўся ў існаванні беларускай нацыі, якая мела адметную ад суседніх народаў гісторыю. Услед за «Гомонам» даследчык адзначыў моцныя традыцыі *«народаўладдзя»*: *«Беларускі народ да канца 14 ст. […] жыў самастойным жыццём, захоўваў ранейшы вечавы лад»*[15].

Аднак пашырэнне рэлігійных і палітычных уплываў Польшчы нанесла моцны ўдар па самастойнасці і дэмакратычных традыцыях. Дзейнасць польскіх палітыкаў М. Доўнар-Запольскі характарызаваў як імкненне *«насадзіць»* шляхецкую арыстакратычную рэспубліку і падагнаць пад польска-каталіцкі ўзор усе народы краю. Гэтая палітыка абярнулася для Беларусі ўстанаўленнем *«польска-каталіцкага іга»*, што прымусіла беларусаў шукаць дапамогі ў Маскве. Але маскоўскі ўрад сваімі адносінамі да нацыянальна-культурных асаблівасцяў розных народаў, да іх дэмакратычных традыцый нічым не адрозніваўся ад польскага: *«Польшча навязвала Беларусі шляхецкую арыстакратычную рэспубліку, Масква – баярскую алігархію. І першая, і другая дзяржавы цалкам выключалі з палітычнага жыцця дэмас, тады як беларускі народ па сваіх гістарычных і народна-бытавых традыцыях быў у вышэйшай ступені дэмакратычны»*[16].

М. Доўнар-Запольскі падкрэсліваў імкненне Масквы да асіміляцыі, у т. л. і пасля далучэння Беларусі да Расейскай імперыі. Палітыку абрусення даследчык лічыў катастрофай для беларускай зямлі.

У 1905 г. ён яшчэ раз звярнуўся да гэтай праблемы, калі ў IX томе выдання «Россия. Полное географическое описание…», якое рыхтавалася Імператарскім Рускім Геаграфічным Таварыствам, адзначыў: «*Праваднікі рускай палітыкі […] імкнуліся сцерці ўсё, што нагадвала Польшчу, але разам з тым яны выступалі таксама супраць якога б ні было руху сярод мясцовых народнасцяў*»[17].

У працах М. Доўнар-Запольскага народніцкі тэзіс «двух бедаў» беларускай гісторыі («*маскоўскай*» і «*польскай*») атрымаў навуковае абгрунтаванне, і вага яго нязмерна вырасла.

Славутая *Прадмова* да паэтычнага зборніка «*Дудка беларуская*» (1891) Францішка Багушэвіча (1840–1900) дае шмат інфармацыі адносна гістарычнай свядомасці яе аўтара або прынамсі свядомасці *Мацея Бурачка*. Аднак ні расейцы, ні палякі ў *Прадмове* не згадваліся. Затое яны прысутнічалі ў паэтычных творах гэтага зборніка. Напрыклад, у вершы *Немец*[18] Ф. Багушэвіч, які выступае як «тутэйшы», абураецца тым, што месца «сваіх» паноў занялі чужакі-ворагі – расейцы, жыды і немцы. Пры гэтым жыццё тутэйшых сялянаў пагоршылася:

Жыд панам зрабіўся, немец яшчэ большы,
А мужык быў голы, цяпер яшчэ гольшы!
Так і на гародзе: лебяда, крапіва, –
Толькі вырві рэпу, – дык зарастуць жыва,
Так як чорт насее! Ото ж так і людзе:
Тутэйшы загіне, дык вораг прыбудзе!

Яшчэ больш варожы вобраз расейскіх чужынцаў намаляваны ў вершы *Хрэсьбіны Мацюка*[19]. Мацея, які прызнаўся казакам, што ён «тутэйшы» чалавек, апошнія збіваюць як паляка:

…Я кажу гэтак: «Калі ж ужо так,
Што васпан б’ешся без дай прычыны,
То мусіць і праўда, што я і паляк
І буду паляк я ад гэтай гадзіны.

Праз нейкі час Мацея білі ўжо за адмову перайсці з каталіцызму ў праваслаўную веру. Атрыманыя ад расейскіх казакоў 100 бізуноў яшчэ больш пераканалі Мацея ў ягонай «польскасці»:

*...О так-то хрысцілі мяне казакі*
*З тутэйшага ды ў палякі!*

«Тутэйшая» ідэнтычнасць *Мацея Бурачка* знаходзіцца ў выразным канфлікце з расейскасцю казакоў і прыезджых чыноўнікаў ды генералаў. Адносіны да палякаў іншыя. У вершы *Немец* адчувальны жаль па «свайму», «тутэйшаму» пану, а ў вершы *Хрэсьбіны Мацюка* аказваецца, што «тутэйшы» пры жаданні можа стаць палякам. Зноў жа, як і ў выпадку з Каліноўскім, палякі ўспрымаюцца як «свае» ў адрозненні ад «чужых» расейцаў. Дарэчы, у польскамоўных вершах Ф. Багушэвіча Расея трактуецца яшчэ больш варожа і параўноўваецца, напрыклад, з катам[20].

Таксама пераважна ў рэчышчы тэзіса «двух ворагаў» месцілася першая ў XX ст. абагульняючая праца па гісторыі Беларусі. У 1910 г. выйшла з друку «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага, якая адыграла вялікую ролю ў фармаванні беларускай нацыянальнай ідэі.

Трэба адзначыць, што ў аўтарскай трактоўцы гісторыі XV–XVIII стст. пераважала «польская бяда», а гісторыі XIX ст. – ужо «маскоўская». Але заўважальна і тое, што пры характарыстыцы асобных падзеяў мінулага Беларусі В. Ластоўскі цалкам адыходзіў ад канцэпцыі «двух бедаў». Напрыклад, «апалячванне» вышэйшых колаў беларускага этнасу ў XVI–XVIII стст. ён характарызаваў хутчэй як самапаланізацыю. Аўтар з асуджэннем пісаў пра шляхту, якая «*пакідае ўсё роднае, беларускае, забывае аб справе національной, месцо якой займае справа шляхоцтва*»[21]. Як абвінавачванне шляхты гучалі радкі «Прамовы Івана Мялешкі», ананімнага твору XVI ст.: «*Многа тутака такіх ёсць, што хоць нашая костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняе [...]*»[22].

Шляхце і магнатэрыі В. Ластоўскі супрацьпаставіў народ, які «*ставаўся для іх чужым з усімі сваімі бедамі і нядолямі*», але «*патрапіў зберагчы старую сваю мову, звычаі*»[23].

Якія іншыя гістарычныя канцэпцыі беларускай мінуўшчыны існавалі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.?

У першую чаргу трэба згадаць пра існаванне афіцыйнай расейскай канцэпцыі «Паўночна-Заходняга краю», якая адмаўляла гістарычную самабытнасць беларусаў, а таксама пра хуткае пашырэнне польскай канцэпцыі «крэсаў усходніх». Сярод іншых варыянтаў варта адзначыць «заходнерускую» канцэпцыю Міхаіла Каяловіча (1828–1891). Яна адлюстроўвалася ў вядомых «Лекциях по истории Западной России», якія чыталіся

М. Каяловічам у 1863 г. для прыдворнай арыстакратыі, а праз год былі апублікаваныя ў Маскве. Сутнасць разважанняў стваральніка «заходнерускай школы» зводзілася да тэзіса быццам беларусы, украінцы і велікарусы ўтвараюць адзіны рускі народ. Галоўным ворагам гэтага «трыадзінага народа» з'яўляліся палякі. У сваіх «Лекциях» М. Каяловіч, прызнаючы існаванне самабытнай гісторыі Беларусі, старанна падкрэсліваў гістарычныя традыцыі беларуска-расейскага адзінства.

На пачатку XX ст. канкурэнцыю розным варыянтам гістарычнага бачання мінуўшчыны Беларусі пачалі ствараць прыхільнікі краёвай ідэі. Яны імкнуліся даказаць, адзінства ўсіх карэнных народаў Краю, а менавіта – палякаў, літоўцаў і беларусаў. Пашыраючы гістарычныя ўяўленні пра супольнасць лёсу, адзінства крыві і культуры гэтых трох народаў, краёўцы фактычна палітычны (або грамадзянскі) варыянт нацыянальнай ідэалогіі. Яны спрабавалі супрацьставіцца этналінгвістычным мадэлям нацыянальнай ідэі, якія хутка пашыраліся сярод палякаў, літоўцаў і беларусаў.

Вяртаючыся да беларусаў, трэба адзначыць, што ў трактоўцы ролі палякаў і расейцаў у беларускай гісторыі ў свядомасці пачынальнікаў беларускага Адраджэння дамінаваў вобраз ворага. Ворагамі з'яўляліся або палякі, або «маскалі», або тыя і другія разам. Такое тлумачэнне ролі бліжэйшых суседзяў спрыяла пашырэнню этналінгвістычнага варыянта ідэалогіі беларускага нацыянальнага руху.

Аднак варта заўважыць, што разуменню беларускага гістарычнага шляху як бясконцага змагання з магутнымі ворагамі, супрацьстаялі пэўныя спробы звярнуць увагу на ўласна беларускі ўнёсак у гісторыю. Напрыклад, К. Каліноўскі падкрэсліваў баязлівасць і абыякавасць значнай часткі насельніцтва. Ф. Багушэвіч пісаў пра адсутнасць павагі сялянаў да сваёй роднай мовы, а В. Ластоўскі трактаваў «апалячванне» хутчэй як самапаланізацыю. Магчыма, якраз «суб'ектнае» разуменне асобных драматычных эпізодаў уласнай гісторыі разам з спробай выкарыстаць краёвую ідэю дзеля ўмацавання пазіцый беларускага руху спрыяла высокаму ўзроўню талеранцыі беларускай нацыянальнай ідэі на пачатку XX ст.

---

[1] Topolski J. O pojęciu świadomości historycznej // Świadomość historyczna Polaków. Problemy i metody badawcze. Red. J. Topolski. Łódź, 1981, c. 26–27.

[2] Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць! Творы, дакументы / Укл. Г. Кісялёў. Мінск, 1999, с. 36.

[3] Біч М. Нацыянальнае і аграрнае пытанні ў час паўстання 1863–1864 гг. // Беларускі гістарычны агляд. 1993, № 3, с. 41.
[4] Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць! С. 46.
[5] Гл., Латышонак А. Гутарка «царкоўнага старасты Янкі» з «Яськам гаспадаром з-пад Вільні» // Дзеяслоў. 2004, № 9, с. 203–212.
[6] Тамсама, с. 198.
[7] Тамсама.
[8] Тамсама, с. 208.
[9] Тамсама, с. 209.
[10] Тамсама, с. 211.
[11] Тамсама, с. 205.
[12] Публицистика белорусских народников. Сост. А. Александрович, И. Александрович. Мінск, 1983, с. 26.
[13] Тамсама, с. 28.
[14] Тамсама, с. 60–61.
[15] Довнар-Запольский М. Исследования и статьи. Т. 1. Киев, 1909, с. 333.
[16] Тамсама, с. 334–335.
[17] Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Под общим руков. П. Семенова. Т. 9. Спб., 1905.
[18] Багушэвіч Ф. Творы / Уклад. Я. Янушкевіч. Мінск, 1998, с. 37–38.
[19] Тамсама, с. 41–43.
[20] Тамсама, с. 108.
[21] Власт [Ластоўскі В.]. Кароткая гісторыя Беларусі. Мінск, 1992, с. 64.
[22] Тамсама, с. 66.
[23] Тамсама, с. 47.

# ЗАХОДНЕРУСІЗМ І КРАЁВАСЦЬ: СПРОБА КАНЦЭПТУАЛЬНАГА ПАРАЎНАННЯ[*]

Дыскусія паміж заходнерусізмам і этнакультурным варыянтам беларускай нацыянальнай ідэі паводле версіі «Нашай Нівы», якая мела месца на пачатку XX ст., нечакана атрымала працяг ужо ў нашыя дні. У Беларусі адбылося адраджэнне заходнерусізму, які ў апошняе дзесяцігоддзе здолеў нават стаць канкурэнтам беларускай нацыянальнай ідэі ў сферы дзяржаўнай ідэалогіі і асабліва ў галіне гістарычнай адукацыі і гістарычнай палітыкі ў цэлым. Сёння ў гэтай дыскусіі, дзякуючы даследаванням шэрагу беларускіх, літоўскіх і польскіх гісторыкаў, таксама прысутнічае феномен краёвасці, якая аказалася запатрабаванай беларускімі інтэлектуаламі.

Актуалізацыя заходнерусізму і краёвасці ў вялікай ступені абумоўленая спецыфікай дзяржаўнай палітыкі ў галіне нацыябудаўніцтва. У адрозненні ад суседніх народаў беларуская правячая эліта з сярэдзіны 1990-х гг. адмовілася ад этнакультурнага нацыяналізму як асновы дзяржаўнай ідэалогіі і працэсу нацыябудаўніцтва. Гісторык Генадзь Сагановіч у 2006 г. адзначыў прысутнасць у сучаснай Беларусі «*вострага канфлікту ідэнтычнасцяў беларусаў і заходнерусаў (рускіх), абумоўленага рознымі поглядамі на гісторыі*»[1].

Адным з першых спрабаваў параўнаць заходнерусізм і краёвасць беларускі гісторык з Беластоку Алег Латышонак. У 1994 г. ён заявіў пра тыпалагічную блізкасць гэтых ідэалагічных канцэптаў, створаных мясцовымі («тутэйшымі») ідэолагамі. Паводле меркавання даследчыка, ні краёвасць, ні заходнерусізм не мелі ўласнага ідэйнага стрыжня і не маглі існаваць без прысутнасці за іх «спінамі» Польшчы і Расеі. Алег Латышонак лічыў абедзве ідэалогіі «чужой» для беларусаў палітыкай, якая нічога не

---

[*] Асноўныя палажэнні артыкула былі агучаныя падчас выступу на канферэнцыі ў Варшаве ўлетку 2015 г. „O ziemię naszą, nie waszą” – myśl polityczna a procesy narodotwórcze w regionie Europy Środkowej i Wschodniej”, якая была арганізаваная Цэнтрам польска-расейскага паразумення і дыялогу (http://www.cprdip.pl/).

дала Беларуска-Літоўскаму краю і арыентавалася выключна на інтарэсы суседніх дзяржаваў[2].

Пазней ён адмовіўся ад адназначна негатыўнай ацэнкі заходнерусізму і ў шэрагу публікацый разглядаў яго як адзін з вытокаў фармавання беларускай нацыянальнай ідэі на пачатку XX ст.[3] Погляды даследчыка аказалі ўплыў на працы многіх беларускіх і польскіх гісторыкаў. У прыватнасці, гэты ўплыў адчувальны ў «Истории белорусского национализма» Валеры Булгакава, а таксама ў манаграфіі Дароты Міхалюк, прысвечанай гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі[4].

Грунтоўны аналіз беларускай гістарыяграфіі ў галіне даследаванняў заходнерусізму і краёвасці, зроблены гісторыкам Андрэем Унучкам, дазволіў яму між іншым сцвярджаць, што абедзве ідэалогіі мелі мясцовыя «карані». Паводле даследчыка, з перспектывы існавання беларускай дзяржаўнасці дзейнасць краёўцаў і заходнерусістаў сведчыць, што *«беларуская нацыянальна-дзяржаўная ідэя мела нашмат больш прыхільнікаў, чым гэта прынята лічыць»*[5].

Сучасныя дыскусіі ў Беларусі вакол заходнерусізму і краёвасці паказваюць, што незалежна ад матывацыі іх удзельнікаў яны сапраўды істотна паўплывалі на фармаванне беларускай ідэі. Менавіта ў гэтым кантэксце паспрабую параўнаць дзве ідэалогіі. Параўнанне не будзе выходзіць за межы беларускага нацыянальнага дыскурсу.

Трэба адразу адзначыць складанасць пастаўленай задачы, бо на пачатку XX ст. заходнерусізм і краёвасць не з'яўляліся закончанымі і цэльнымі канцэпцыямі. Яны рэагавалі на тагачасныя палітычныя і нацыянальна-культурныя выклікі і ў выніку перажывалі перыяд перманентнай трансфармацыі. Асабліва відавочным гэта было для краёвасці.

Апроч таго трэба адзначыць нявырашанасць многіх даследчых праблемаў датычна заходнерусізму і краёвасці. Напрыклад, і сёння адсутнічаюць агульнапрынятыя вызначэнні гэтых ідэалагічных плыняў. Таксама няма пераканаўчага адказу на пытанне, у якой ступені краёвасць і заходнерусізм выйшлі па-за межы асяродку культурніцкай і палітычнай эліты і сталі масавымі ідэалогіямі.

На пачатку XX ст. Беларуска-Літоўскі край стаў месцам змагання розных сацыяльных і нацыянальных ідэалогій. Апошнія імкнуліся пэўным чынам «упарадкаваць» шматкультурны і шматканфесійны «ландшафт» Краю. Апроч афіцыйнай ідэалогіі, якая трактавала Край як «исконные русские земли» і ўмацоўвала стэрэатып тоеснасці католіка і «паляка»,

праваслаўнага і «рускага», пашыраліся літоўская і польская нацыянальныя ідэі, распачыналася гісторыя беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, актыўна дзейнічалі габрэйскія арганізацыі. Канкурэнцыю ім складалі заходнерусізм і краёвасць, якія давалі ўласныя адказы на пытанні датычныя мінуўшчыны і будучыні «гістарычнай Літвы».

Апошняе якраз з'яўляецца ключавым у параўнанні двух ідэалогій. У цэнтры ўвагі будуць адказы на пытанні: *Чый Край? Каму ён належыць? Хто ў ім «свае» і «чужыя»? Якім было стаўленне заходнерусізму і краёвасці да беларускай ідэі і беларускага руху на пачатку XX ст., да дзейнасці «нашаніўскага асяродку»?*

Апошняе пытанне асабліва важнае. Як ужо адзначалася, на пачатку XX ст. заходнерусізму і краёвасці давялося сутыкнуцца з этнакультурным нацыяналізмам, у тым ліку і беларускім.

## *Перадгісторыя*

Ідэйныя вытокі заходнерусізму і краёвасці звязаныя з ідэалагічнымі феноменамі «заходнерускай культурнай традыцыі» і «ліцвінскай традыцыі», якія сфармаваліся яшчэ ў першай трэці XIX ст.

Характэрныя рысы «заходнерускай традыцыі» таго часу, як ужо даводзілася адзначаць[6], праяўляліся ў асэнсаванні самабытнасці Беларусі як «Заходняй Русі», у звароце гісторыкаў да мінуўшчыны Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага як «Літоўска-Рускай дзяржавы», таксама ў надзвычай высокай ацэнцы ролі праваслаўнай царквы ў гісторыі «заходнерускіх земляў», у крытычным стаўленні да Польшчы і каталіцызму. Паводле канфесійнай прыналежнасці большасць прадстаўнікоў «заходнерускай культурнай традыцыі былі грэка-каталікамі, а пасля Полацкага царкоўнага сабора і ліквідацыі уніяцкай царквы ў 1839 г. далучыліся да праваслаўя.

Літаратурныя і публіцыстычныя творы ствараліся на рускай і беларускай мовах. Апошняя звычайна фігуравала як «заходнерускае наречие» і існавала выключна на кірыліцы або «гражданке». Гэтая традыцыя развівалася пераважна на Магілёўшчыне і Гомельшчыне.

Беларускі гісторык і палітык Аляксандр Цвікевіч называў яе прадстаўнікоў «беларусафіламі ў расейскай культуры». Да іх, у прыватнасці, належалі аўтар гістарычнага даследавання «O Rusi zachodniej» (Магілёў, 1793) і гіпатэтычнай першай беларускай граматыкі архіепіскап Станіслаў

Богуш-Сестранцэвіч, археограф Іван Грыгаровіч, гісторыкі Міхаіл Без-Карніловіч і Восіп Турчыновіч, аўтар «Краткой грамматики белорусского наречия» (1846) этнограф і філолаг Павел Шпілеўскі ды інш.[7]

Ёсць падставы сцвярджаць, што «заходнеруская культурная традыцыя» спрыяла працэсам беларускага культурнага назапашвання, характэрнай рысай якога было паступовае вяртанне ў культуру эліты беларускай мовы і фармаванне адметнай гістарычнай памяці, адрознай ад польскай і «велікарускай». У сваю чаргу працэсы культурнага назапашвання сталі падмуркам для ўзнікнення ў другой палове XIX ст. ужо беларускай культурнай традыцыі.

У 1860–1870-я гг. «заходнеруская традыцыя» трансфармавалася ў заходнерусізм. Характар новага ідэалагічнага канцэпту быў перадвызначаны палітыкай русіфікацыі Краю (г. зв. «палітыка дэпаланізацыі») і дактрынай славянафільства. Заходнерусізм увабраў у сябе такія палажэнні славянафільства як супрацьстаянне праваслаўнай Расеі каталіцкаму і пратэстанцкаму Захаду, духоўную перавагу праваслаўя над каталіцызмам, лідэрства Расеі сярод славянскіх народаў і яе нібыта выключную ролю ў змаганні з рэвалюцыямі як «заходняй» з'яве.

У генезісу заходнерусізму вядучая роля належала ураджэнцам «Заходняга краю», прычым не толькі беларускай, але таксама і ўкраінскай ягонай часткі. Вялікае значэнне мела падтрымка новай ідэалогіі іерархамі Рускай праваслаўнай царквы і прадстаўнікамі мясцовай свецкай улады[8].

Пасля разгрому паўстання 1863 г. перыядычны друк напоўнілі публікацыі, што даказвалі «исконно русский характер» Краю, падкрэслівалі выключна важную ролю ў ягонай гісторыі праваслаўнай царквы, дэманстравалі антыпольскасць і антыкаталіцызм. У 1860-я гг. таксама пачалося фармаванне сістэмы навуко-даследчых інстытутаў, якія павінны былі забяспечыць ідэалагічную перамогу заходнерусізму. Найбольш значнымі з іх былі Віленская археаграфічная камісія (1864) і Паўночна-заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства (1867).

У працэсе беларускага культурнага назапашвання значную ролю адыграла таксама «ліцвінская культурная традыцыя» пачатку XIX ст. Яна грунтавалася на гістарычных і культурных традыцыях Вялікага Княства Літоўскага, цікавасці да народнай культуры, усведамленню этнакультурных адрозненняў «тутэйшых ліцвінаў» як ад рускіх, так і ад палякаў з этнічнай Польшчы[9].

Ліцвінства было складовым элементам рэчпаспалітаўскага патрыятызму, але адрознівалася высокай ступенню аўтаномнасці. Паводле канфесійнай прыналежнасці большасць ягоных прадстаўнікоў былі каталікамі, а паводле саслоўнай – шляхціцамі. Літаратурныя і публіцыстычныя тэксты ў межах гэтай традыцыі ствараліся на польскай і беларускай мовах, якія перадаваліся лацінкай. Цэнтрам гэтай традыцыі была Вільня.

У вытокаў беларускага культурнага назапашвання ў рамках «ліцвінскай традыцыі» стаяла прафесура Віленскага ўніверсітэту першай трэці XIX ст. Працы Міхаіла Баброўскага, Ігната Даніловіча, Юзафа Ярашэвіча, Івана Лабойкі спрыялі фармаванню «ліцвінскай» гістарычнай памяці. Пад іх уплывам узніклі таварыствы філаматаў і філарэтаў.

Традыцыі гэтай гістарыяграфіі ў сярэдзіне і другой палове XIX ст. працягвалі браты Яўстах і Канстанцін Тышкевічы, Адам Кіркор і Тэадор Нарбут. У літаратуры найбольш славутым прадстаўніком «ліцвінскай традыцыі» быў Адам Міцкевіч. Таксама варта прыгадаць творчасць Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Аляксандра Рыпінскага, Людвіка Кандратовіча і Вінцэнта Дуніна-Марцынкевіча ды інш. «Ліцвінства» прысутнічала таксама ў тэкстах «Мужыцкай праўды», у выданні якой удзельнічалі Кастусь Каліноўскі, Валеры Урублеўскі, Фелікс Ражаньскі, Станіслаў Сангін.

Пасля падаўлення паўстання адбывалася пэўная пераарыентацыя «ліцвінаў». Знікла магчымасць легальнай грамадскай і культурнай дзейнасці на карысць Беларуска-Літоўскага краю і адпаведна пачаў знікаць той тып «грамадскага работніка», да якога належалі Яўстах Тышкевіча, Адам Кіркор ды інш. Глебу з-пад «ліцвінскай традыцыі» таксама выбівала русіфікацыя сістэмы адукацыі і забарона друку на польскай, літоўскай і беларускай мовах. Праўда, у сітуацыі апошняй гэта датычыла толькі тэкстаў лацінкай. У выніку большасць прадстаўнікоў мясцовай «ліцвінскай» эліты паступова пачала арыентавацца на Польшчу і яе культурныя ды палітычныя патрэбы.

Падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг. «ліцвінства» адрадзілася ўжо ў варыянце краёвасці.

## *Заходнерусізм*

У беларускай гістарыяграфіі заходнерусізм звычайна трактуецца паводле вызначэння ягонага першага даследчыка і аўтара самога тэрміна

Аляксандра Цвікевіча, які характарызаваў яго як плынь грамадска-палітычнай думкі, якая адмаўляла існаванне беларускай культуры і сцвярджала культурную і палітычную прыналежнасць Беларусі да Расеі[10]. Менавіта ў гэтым ён бачыў стрыжнявую ідэю, якая спалучала Ксенафонта Гаворскага, Михаила Каяловіча, Канстанціна Харламповіча, Івана Саланевіча ды інш.

Фактычна, гэтае вызначэнне паўтарыў на старонках Энцыклапедыі гісторыі Беларусі сучасны даследчык Аляксей Каўка. Ён характарызаваў заходнерусізм як канцэпцыю, што адмаўляла існаванне беларусаў як самастойнай і самабытнай этнічнай адзінкі і атаясамлівала іх з велікарускім этнасам[11]. Варта адзначыць адсутнасць у гэтых вызначэннях канфесійнага аспекту, які быў надзвычай важным для заходнерусізму.

Галоўны тэзіс заходнерусізму – тры ўсходнеславянскія народы (беларусы, украінцы і рускія) з'яўляюцца толькі часткамі (адпаведна: заходнерускай, маларускай і велікарускай) адзінага рускага «суперэтнасу» (або нацыі). Гэтае адзінства грунтавалася на агульнасці паходжання і праваслаўнай веры. Прычым менавіта апошняя ператваралася ў галоўны фактар гэтай «нацыянальнай» прыналежнасці. Этнічнае і канфесійнае адзінства прадугледжвала таксама адзінства дзяржаўнае.

Беларускія даследчыкі звычайна вылучаюць кансерватыўную і ліберальную плыні заходнерусізму. Іх прадстаўнікі прызнавалі існаванне беларускай этнічнай спецыфікі (мова, звычаі), абумоўленай нібыта кантактамі з *«заходняй каталіцкай цывілізацыяй»*, аднак ставіліся да яе па-рознаму. Кансерватары (напр., К. Гаворскі) выступалі за ліквідацыю этнічнай адметнасці, поўнае зліццё беларусаў, украінцаў і рускіх і аднаўленне «ісцінна рускага характару» Краю.

Менавіта Ксенафонт Гаворскі быў адным з найбольш гарачых прыхільнікаў поўнай уніфікацыі «Заходняга краю» з Расеяй. Ён і ягоныя аднадумцы выказваліся за неабходнасць барацьбы з польскім землеўладаннем і пашырэнне рускага, дзе галоўная роля адводзілася *«мелкому русскому колонисту»*[12]. Таксама прапаноўвалася поўная русіфікацыя Краю, а беларуская мова як *«униатское наречие»* павінна была цалкам знікнуць.

Адзін з лідэраў ліберальнай плыні гісторык і публіцыст Міхаіл Каяловіч (1828–1891) у адрозненні ад К. Гаворскага прызнаваў права на існаванне беларускай мовы як мясцовай гаворкі, адрознай ад рускай і польскай моваў, заклікаў паважаць мясцовыя звычаі. Аднак і для яго беларусы існавалі выключна як супольнасць праваслаўных вернікаў.

Як усе «заходнерусісты», Міхаіл Каяловіч шмат увагі надаваў канфесійнаму фактару гісторыі «Заходняга краю». Так, гісторыя дзяржаўнасці разглядалася ім у кантэксце дамінавання праваслаўя ці каталіцызму ў яго «польскім выданні». Адназначна негатыўна трактавалася ўся гісторыя Рэчы Паспалітай і Берасцейскай царкоўнай уніі.

Падзяляючы асноўны пастулат славянафільства аб безумоўнай перавазе праваслаўя над каталіцызмам, М. Каяловіч і яго аднадумцы не шкадавалі чорнай фарбы для напісання карціны заняпаду «Заходняй Русі» ў выніку пранікнення «*духу лацінства*». З апошнім звязваліся ўсе негатыўныя працэсы гісторыі, у т. л. запрыгоньванне. Апошняе, паводле М. Каяловіча, набывала асабліва цяжкія для сялянства формы ў выніку спалучэння сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту: «*Цяжкі ўвогуле пан для хлопа, але непараўнальна больш цяжкі польскі пан для рускага (і, канешне, літоўскага) хлопа; і яшчэ больш цяжкі лацінскі польскі пан для рускага праваслаўнага ці нават уніяцкага хлопа, тут дадаецца рэлігійнае хлопства*»[13].

Менавіта канфесійны чыннік Міхаіл Каяловіч лічыў найлепшым для размежавання палякаў і беларусаў, а праваслаўная вера для яго з’яўлялася галоўным фактарам уключэння апошніх у склад рускага «суперэтнасу». Пры гэтым беларусы каталіцкага веравызнання траплялі ў катэгорыю «палякаў».

Супраць канфесійнага крытэру нацыянальнай прыналежнасці фактычна выступаў толькі Павел Баброўскі (1832–1905). Для яго больш важным быў этнакультурны чыннік, да якога ён адносіў беларускую мову і традыцыйную культуру (фальклор). На гэтай падставе ён пісаў пра культурнае адзінства беларусаў-каталікоў і беларусаў-праваслаўных і сцвярджаў адзінства «*маральнай філасофіі*» (менталітэту?) усіх беларусаў[14].

Але ягоная пазіцыя была выключэннем. У заходнерускай трактоўцы канфесійная прыналежнасць трактавалася як галоўны маркер нацыянальнай ідэнтычнасці. Пры гэтым уласна тэалагічныя пытанні адыгрывалі ў заходнерусізме маргінальную ролю. Пасля ліквідацыі уніі і гвалтоўнага павялічэння колькасці праваслаўных вернікаў канфесійная праблема часцей трактавалася як пытанне пра лаяльнасць да Расеі.

Таксама падкрэслівалася выключная роля манарха ў аднаўленні «рускости» Краю. Асаблівай папулярнасцю карысталіся постаці Кацярыны ІІ і Аляксандра ІІ. Далучэнне да Расеі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай трактавалася як гістарычная справядлівасць і свайго роду «канец

гісторыі», бо галоўная мэта гістарычнага развіцця Беларусі як «Заходняй Русі» была дасягнутая. Адпаведна прыхільнікі заходнерусізму не прымалі ніякіх формаў самастойнасці Краю, тым больш палітычнай. Той жа Міхаіл Каяловіч сцвярджаў, што палітычнай незалежнасць «Заходняй Русі» немагчымая, але яна яшчэ больш немагчымая пры *«польскай цывілізацыі»*[15].

На пытанне *Чый Край?* заходнерусізм адказваў: РУСКІ, ПРАВАСЛАЎНЫ. Вобраз «чужога» ці «ворага» складаўся з палякаў і габрэяў, іншым разам да іх далучалі немцаў. Каталіцкі касцёл і духавенства трактаваліся як выключна варожая сіла. Асабліва часта згадвалі пра *«вероломных иезуитов»*. Галоўнай задачай «русского дела» лічылі ратаванне «рускага» і «літоўскага» народаў ад польскай шляхты і габрэяў[16].

Тыпалагічна блізкімі заходнерусізму ідэалагічнымі феноменамі можна лічыць «маларасейства» на ўкраінскіх землях, «багемізм» – на чэшскіх, «масквафільства» – у Галіцыі і спецыфічныя формы «русафільства» – у Латвіі.

На пачатку XX ст. з надыходам эпохі нацыяналізмаў у Краі заходнерусізм узялі на ўзбраенне прадстаўнікі праваслаўных брацтваў і велікарускіх чарнасоценных арганізацый. Мясцовыя нацыянальныя рухі для іх былі неад'емнай часткай вобраза ворага. У прыватнасці, беларускі рух разглядаўся як антыруская «польская інтрыга» і трактаваўся надзвычай варожа. Нават у сітуацыі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння беларусы не прызнаваліся самастойным этнасам і тым больш нацыяй.

Такім чынам, заходнерусізм пачаў ператварацца ў разнавіднасць ідэалогіі вялікадзяржаўнага шавінізму, якая супрацьстаўлялася ўжо не толькі польскай нацыянальнай ідэі, але таксама ўсім праявам самастойнасці Краю. Менавіта так яго ўспрымалі дзеячы беларускага Адраджэння. Яны не заўважалі ліберальнай плыні заходнерусізму і зрабілі барацьбу супраць ягоных праяваў адной з галоўных задачаў «Нашай Нівы».

Між тым погляды прыхільнікаў заходнерусізму другой паловы XIX ст. можна трактаваць як сваеасаблівы спосаб «думаць Беларусь». У гэтым сэнсе яны былі часткай мясцовага ідэалагічнага ландшафту, які істотна паўплываў на фармаванне беларускай ідэі як ідэі існавання асобнай нацыі. Гэтаму фармаванню таксама спрыялі вынікі навуковага вывучэння Беларусі этнографамі, гісторыкамі і лінгвістамі Яўхімам Карскім, Аляксеем Сапуновым, Паўлам Бяссонавым ды інш. Для большасці з іх беларуская ідэя была цалкам нечаканым прадуктам навуковых пошукаў, а іншыя (акадэмік Я. Карскі) пазней далучыліся да беларускага Адраджэння.

Дарэчы, якраз этнографы напрыканцы XIX ст. зафіксавалі своеасаблівую трактоўку «тутэйшымі» жыхарамі палітычнай прыналежнасці Краю: «*Мы забраны Край, мы не Польша і не Расея*». У пэўным сэнсе г. зв. «тутэйшасць» можна лічыць краёвасцю «маўклівай большасці» насельніцтва «гістарычнай Літвы».

## *Краёвасць*

Асноўныя палажэнні краёвай ідэалогіі былі выказаныя напярэдадні і падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг. Пры гэтым галоўную ролю адыгралі публікацыі Рамана і Канстанцыі Скірмунтаў, Міхала Ромэра, Балеслава Ялавецкага, Аляксандра Лядніцкага, Людвіка Абрамовіча, Тадэвуша Урублеўскага ды інш.

Краёўцы сцвярджалі, што ўсе карэнныя жыхары «гістарычнай Літвы», незалежна ад іх этнакультурнай і саслоўнай прыналежнасці, з'яўляюцца «грамадзянамі Краю» і тым самым належаць да адзінай нацыі. Да «карэнных» звычайна адносілі літоўцаў, палякаў і беларусаў, зрэдку габрэяў. Аднак дапускаліся і выключэнні, бо нацыя трактавалася як катэгорыя палітычная, не этнакультурная. Галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці абвяшчаўся патрыятызм, адчуванне сябе «грамадзянінам Краю». Менавіта «гістарычная Літва» трактавалася як Айчына з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі ў палітычнай дзейнасці. Тэрмін «грамадзянін Краю» ужываўся вельмі шырока і між іншым сведчыў пра імкненне краёўцаў парваць з старадаўняй традыцыяй, калі «грамадзянамі» з'ўляліся толькі прадстаўнікі шляхты.

Стрыжнявая ідэя краёўцаў – патрыятызм як аснова фармавання і існавання нацыі – у працах многіх прадстаўнікоў гэтай плыні атрымала рознае асэнсаванне. Так, краёвасць Міхала Ромэра прадугледжвала зліццё ўсіх карэнных этнасаў Краю і фармаванне новай палітычнай краёвай нацыі. Людвік Абрамовіч разумеў краёвасць як ідэю нацыянальнай і канфесійнай талеранцыі, прынцып мірнага сужыцця і супрацоўніцтва розных нацый і канфесій як роўных з роўнымі. У 1913 гг. на старонках «Пшэглёнду Віленьскага» ён нават заявіў, што краёвасць не з'яўляецца ідэяй, а толькі метадам дзейнасці па пашырэнню «заходняй культуры» і вяртанню польскай супольнасці кіруючых пазіцый у Краі ў стасунку да «*народаў, слабейшых духоўна і культурна*»[17].

Канстанцыя Скірмунт акцэнтавала ўвагу на «літоўскім» характары Краю і імкнулася стаць пасрэднікам паміж літоўскім нацыянальным ру-

хам і мясцовай польскамоўнай шляхтай, а Раман Скірмунт падкрэсліваў значэнне «Русі» (з 1906 г. – Беларусі) як у гісторыі, так і ў сучасным жыцці Краю. Баляслаў Ялавецкі пісаў пра «*адзінства крыві*» і «*кроўнае сваяцтва*» палякаў, беларусаў і літоўцаў.

Пры гэтым усе краёўцы падкрэслівалі дамінаванне агульнакраёвых інтарэсаў над інтарэсамі асобных этнасаў або нацый і сацыяльных групаў. Яны трактавалі Беларуска-Літоўскі край як суб'ект гісторыі і імкнуліся ператварыць яго ў суб'ект палітыкі.

Ва ўсім шматгалоссі краёўцаў вылучаліся дэмакратычная і кансерватыўная плыні, адрозненні паміж якімі датычылі пераважна сацыяльнай палітыкі. Да кансерватараў, якія ў сваёй большасці на пачатку XX ст. не прымалі радыкальнай аграрнай рэформы і выступалі супраць усеагульнага выбарчага права, належалі Раман і Канстанцыя Скірмунты, Баляслаў Ялавецкі, Чэслаў Янкоўскі ды інш. Гэта быў асяродак пераважна заможных землеўласнікаў і блізкай да іх інтэлігенцыі, які перажываў паступовую лібералізацыю. У сваёй рыторыцы яны звярталіся часцей да мінулага і шукалі апірышча ў традыцыях міжканфесійных і міжэтнічных стасункаў эпохі Вялікага Княства Літоўскага. Іх першымі цэнтрамі былі рэдакцыя газеты «Кур'ер літоўскі» (рэдактар Чэслаў Янкоўскі) і фракцыі дэпутатаў ад Краю ў Дзяржаўнай Думе Расеі I–IV скліканняў.

У адрозненні ад іх дэмакраты, сярод якіх вылучаліся Міхал Ромэр, Людвік Абрамовіч, Аляксандр Лядніцкі, Тадэвуш Урублеўскі, Браніслаў Крыжаноўскі, Аляксандр Заштаўт ды інш., апелявалі да ідэі прагрэсу, казалі пра будучыню Краю і ў большай ступені былі гатовыя прыняць сацыяльныя патрабаванні беларусаў і літоўцаў. Яны прадстаўлялі пераважна гарадскую культурніцкую эліту і інтэлігенцыю. У 1906 г. іх цэнтрам была «Газета Віленьска » (рэдактар М. Ромэр). У № 1 газеты рэдактар прызнаваў, што «*дэмакратычная пазіцыя абавязвае нас прызнаваць першынство інтарэсаў класы вытворцаў, г. зн. шырокіх народных масаў, бо менавіта яны вызначаюць усю сукупнасць сацыяльных адносінаў і ад іх залежыць рашэнне ўсіх сацыяльных, культурных, эканамічных ды іншых праблемаў*»[18].

Таксама варта адзначыць голас у тагачаснай дыскусіі беларускіх краёўцаў, у прыватнасці, Антона Луцкевіча, якія выразна ўсведамлялі трагедыю беларусаў як канфесійна падзеленага народу.

Наогул, краёўцы прапагандавалі рэспубліканскія формы праўлення, выступалі з ідэяй аўтаноміі Краю як пачатку новага этапу ягонай гісторыі.

Пазней некаторыя з іх падтрымалі ідэю незалежнасці Літвы (Міхал Ромэр) і Беларусі (Раман Скірмунт).

І кансерватары, і дэмакраты з пэўным разуменнем ставіліся да нацыянальных рухаў беларусаў і літоўцаў, імкнуліся да паразумення. Гэты дыялог павінен быў паспрыяць нейтралізацыі найбольш радыкальных патрабаваняў апошніх у галіне сацыяльнай і культурнай палітыкі. Дзякуючы пашырэнню краёвай ідэі, ён сапраўды меў месца, у адрозненне, напрыклад, ад адносінаў з Польскай партыяй нацыянальных дэмакратаў, якія разам з адміністрацыяй Расейскай імперыі ўспрымаліся краёўцамі як галоўныя апаненты. Трактоўка Беларуска-Літоўскага краю як «крэсаў» Польшчы выклікала абурэнне краёўцаў, для якіх якраз Край быў цэнтрам усёй палітычнай і культурніцкай дзейнасці.

Адносіны да беларускага руху спачатку характарызаваліся імкненнем падтрымаць культурніцкія ініцыятывы і аслабіць радыкалізм сацыяльных патрабаванняў. Аднак у 1917 г. частка краёўцаў, у прыватнасці Раман Скірмунт, ва ўмовах надзвычайнай папулярнасці сацыялістычнай ідэі спрабавала прыняць і яго. Менавіта так можна расцэньваць ягоны ўдзел у стварэнні ўлетку 1917 г. Беларускай партыі народных сацыялістаў.

У палітычным плане «чужымі» для Краю былі Расея, велікарускія і велікапольскія шавіністы, а таксама зрэдку габрэі з іх асаблівымі эканамічнымі і гандлёвымі інтарэсамі і арыентацыяй на Расею. Пазней лагер «чужых» папоўнілі радыкальна настроеныя дзеячы літоўскага руху, а таксама прыхільнікі партыі бальшавікоў.

Краёўцы-дэмакраты бачылі свайго верагоднага саюзніка сярод дэмакратычных элементаў Польшчы і Расеі, беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў, а кансерватары шукалі іх таксама сярод ліберальнай часткі расейскай палітычнай эліты (прынамсі да лета 1917 г.).

Адносіны краёўцаў да Польшчы істотна адрозніваліся ад пазіцыі прыхільнікаў заходнерусізму. Краёўцы заўсёды падкрэслівалі «цывілізацыйную» ролю Польшчы ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, высока ацэньвалі значэнне Люблінскай уніі, але былі крытыкамі паўстання 1863 г. як «легкадумнай авантуры», у выніку якой значна пагоршылася становішча Краю.

Большасць краёўцаў яго будучыню звязвала з традыцыямі шматканфесійнасці і шматкультурнасці. Адпаведна ў праграмных дакументах арганізацый і партый краёвай плыні выразна дамінавалі ідэі свабоды нацыянальнага развіцця ўсіх народаў і свабоды веравызнання. Так,

напрыклад, Баляслаў Ялавецкі ў «Нацыянальным катэхізісе Літвы» (1905), адказваючы на пытанне, што трэба рабіць, каб Край перадолеў усе праблемы, заявіў: «*Перш за ўсё мы, як грамадзяне краю, незалежна ад саслоўнай прыналежнасці, нацыянальнасці, веравызнання, павінны паціснуць адзін аднаму рукі і з узаемным даверам узяцца за працу, хоць бы ў межах сучаснага заканадаўства [...] Трэба помніць, што ў адзінстве нашая моц...*»[19]

Сярод першачарговых патрабаванняў ён называў *«роўнасць усіх веравызнанняў, а таксама поўную свабоду для ўсіх веравызнанняў і сумлення»*[20]. Патрабаванне свабоды веравызнання і рэлігійнай талерантнасці прысутнічала таксама ў праграме Краёвай партыі Літвы і Беларусі (1907).

Талеранцыя была адчувальнай нават у праграме Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (ККПЛіБ), якая таксама належала да краёвай плыні. У прыватнасці, адной з галоўных задачаў партыйнай дзейнасці абвяшчалася *«справядлівасць у стасунку да ўсіх незалежна ад іх нацыянальнасці, веры і становішча»*[21]. Праграма таксама патрабавала «*сапраўднай свабоды веравызнання і навучання, прыватнага і публічнага набажэнства*»[22]. Выключэннем стаў толькі раздзел, прысвечаны становішчу каталіцкага касцёлу, у якім падрабязна пералічваліся тыя правы, якія касцёл страціў у выніку царскай палітыкі, і якія ККПЛіБ планавала вярнуць[23].

Дарэчы, з'яўленне гэтай партыі выклікала крытыку з боку як кансерватыўнай, так і дэмакратычнай плыняў краёвасці. Іх усхваляваў пэўны сацыяльны радыкалізм праграмы партыі віленскага біскупа Эдварда Ропа, хоць у гэтым выпадку гаворку трэба весці пра дактрыну хрысціянскай дэмакратыі.

Таксама краёўцаў хвалявала небяспека клерыкалізацыі грамадскага жыцця. Нават Канстанцыя Скірмунт з яе перакананнем, што каталіцкі касцёл з'яўляецца адным з вызначальных фактараў «*лацінскай культуры*», якая супрацьстаіць свету «*азіяцкай*» *або «ўсходняй культуры»*[24], пісала пра абмежаванасць уплываў Канстытуцыйна-Каталіцкай партыі Літвы і Беларусі і прызнавала неабходнасць стварэння свецкай Краёвай партыі[25].

Фактычна, найбольш вострай праблемай сферы рэлігійных стасункаў краёўцы лічылі русіфікацыйную дзейнасць праваслаўнай царквы і духавенства сярод беларусаў. У прыватнасці, на гэта неаднаразова звяртаў увагу М. Ромэр у нарысе «Беларускія нацыянальныя праблемы» (1907)[26].

Больш увагі канфесійнай сітуацыі і яе спалучэнню з нацыянальнымі праблемамі ўдзялялі такія перыядычныя выданні краёвай плыні як «Вечер-

няя газета» (1912–1915, руская мова) і «Кур’ер краёвы» (1912–1914, польская мова). Гэта быў незвычайны для эпохі этнакультурнага нацыяналізму праект беларускіх адраджэнцаў з кола «Нашай Нівы», у якім галоўную ролю адыгрывалі браты Іван і Антон Луцкевічы. У гэты час яны пашыралі краёвую ідэю, бо бачылі ў ёй сродак умацавання беларускіх пазіцый у Краі.

У рэдакцыйным артыкуле № 1 «Вечерней газеты» (1912) сцвярджалася неабходнасць увядзення ў Краі палітычных і грамадзянскіх свабодаў у поўным аб’ёме: *«Без поўнай свабоды слова, без грамадскіх арганізацыяў народ не здольны праявіць сябе. Усялякія абмежаванні свабоды слова, усялякія прывілегіі пэўнага веравызнання заўсёды будуць уносіць рознь паміж дэмакратычнымі элементамі Краю, паміж каталікам і праваслаўным, паміж праваслаўным і стараверам, нават калі яны належаць да адной нацыі. Без цвёрдага пераканання ў недатыкальнасці грамадзянскай свабоды немагчыма паўната развіцця грамадскага жыцця»*[27].

Беларускія краёўцы на старонках «Вечерней газеты» і «Кур’ера Краёвага», адстойваючы інтарэсы Краю і беларускай нацыі, настойліва праводзілі думку наконт нацыянальнага адзінства беларусаў каталіцкага і праваслаўнага веравызнання. Пры гэтым нацыя характарызавалася як супольнасць, аб’яднаная агульнасцю *«псіхікі, грамадскіх традыцый, перажыванняў і грамадскага органу перадачы думак – мовы»*[28].

Характарызуючы «асаблівасці» Краю, яны звярталі ўвагу на пашырэнне стэрэатыпаў тоеснасці каталіцызму і польскасці, а таксама праваслаўя і расейшчыны. Аўтары публікацый на старонках «Вечерней газеты» пратэставалі супраць афіцыйнай трактоўкі праваслаўных беларусаў як «рускіх», а каталікоў – як «палякаў»[29]. Крытычна ацэньвалася таксама дзейнасць духавенства. У лютым 1913 г. адзін з аўтараў «Вечерней газеты» (Антон Луцкевіч?) сцвярджаў, што каталіцкі касцёл у Краі прыслужвае польскаму нацыяналізму і прымае актыўны ўдзел у змаганні супраць нацыянальнага абуджэння беларусаў і літоўцаў. Сцвярджалася існаванне аналагічнага саюза паміж велікарускімі шавіністамі і праваслаўным кліраm[30].

Відавочная спроба беларускіх адраджэнцаў-краёўцаў пераадолець канфесійны падзел беларусаў і стварыць на двухканфесійнай аснове адзіную нацыю. Дарэчы, пра гэты праект «нашаніўскага асяродку», як і пра яго няўдачу, шмат пісаў беларускі даследчык Юры Туронак[31]. Цікава, што і ў гэтым выпадку беларусы выкарыстоўвалі тыя магчымасці, якія давала краёвая ідэя.

Варта адзначыць, што ў адрозненні ад заходнерусістаў у адказе большасці краёўцаў на прынцыповае пытанне пра прыналежнасць Краю адсутнічаў выразны рэлігійны аспект. Край быў не польскі і не рускі, ён належаў усім карэнным народам «гістарычнай Літвы». Пры гэтым краёўцы шанавалі традыцыі Краю, у т. л. традыцыю шматканфесійнасці. Галоўную праблему яны бачылі ў абвастрэнні міжнацыянальных адносінаў і імкнуліся да згоды і паразумення ўсіх карэнных народаў. Большасць краёўцаў не разглядала канфесійны фактар як істотны пры вызначэнні «свайго» і «чужога». Выключэннем былі толькі беларускія краёўцы, якія адчувалі ўсю вастрыню праблемы перапляцення нацыянальнага і канфесійнага, прынамсі ў сітуацыі з уласнай нацыяй.

Краёўцы акцэнтавалі ўвагу на агульных інтарэсах ўсіх «карэнных народаў» Краю, спрабуючы такім чынам пераадолець сацыяльны, моўны і канфесійны падзелы. Гэтаму моцна спрыяла трактоўка нацыі як палітычнай катэгорыі.

Краёвасць мела тыпалагічную блізкасць з поглядамі ідэолагаў нямецкай супольнасці ў Прыбалтыцы і шведскіх фінаў у другой палове XIX – пачатку XX ст. Ідэя талеранцыі і супрацоўніцтва розных этнічных груп і нацый была галоўнай таксама ў этнапалітыцы чэшскага філосафа Бернарда Бальзана (1781–1848)[32].

***

Вяртаючыся да тэзісу гісторыка Алега Латышонка пра тое, што заходнерусізм і краёвасць былі аднолькава «чужой палітыкай» для Беларуска-Літоўскага краю, трэба адзначыць, што ўжо самое мясцовае паходжанне гэтых ідэалагічных канцэптаў сведчыць пра іх сувязь з патрэбамі Краю і яго народаў.

Для заходнерусізму «кропкай адліку» было паняцце «Заходняя Русь». Нават тыя прыхільнікі гэтай дактрыны, якія спрабавалі трактаваць яе як суб’ект гісторыі, не бачылі магчымасціператварэння Краю ў суб’ект палітыкі. Прыняты канфесійны крытэрый падзелу на «сваіх» і «чужых» на самой справе пагражаў ягоным расколам. Ва ўмовах разгортвання нацыянальных рухаў на пачатку XX ст. заходнерусізм фактычна ператварыўся ў ідэалогію расейскага панавання над Краем. Аднак і ў гэты перыяд ліберальная плынь заходнерусізму, звязаная з вывучэннем мовы, этнаграфіі і гісторыі спрыяла фармаванню ўласна беларускай нацыянальнай ідэі. Часам гэта было нечаканасцю для самых даследчыкаў.

А вось для краёўцаў аналагічнай «кропкай адліку» быў Беларуска-Літоўскі край (або «гістарычная Літва»), які трактаваўся як суб'ект гісторыі. Краёўцы імкнуліся ператварыць яго ў суб'ект палітычнага жыцця. Яны аднолькава рэзка пратэставалі супраць трактоўкі Краю як «заходняй ускраіны» Расеі і як «усходніх крэсаў» Польшчы. Яны супрацьставіліся не толькі заходнерусістам і велікадзяржаўным шавіністам, але таксама польскім нацыянальным дэмакратам. Аднаўленне уніі з Польшчай не лічылася абавязковай умовай існавання Краю. Яно разглядалася толькі як сродак умацавання ягоных пазіцый.

Параўнанне стаўлення заходнерусізму і краёвасці да праблемы канфесійнай прыналежнасці жыхароў Краю яшчэ раз сведчыць пра тое, што галоўнае адрозненне паміж гэтымі ідэалагічнымі канцэптамі абумоўленае рознай трактоўкай сутнасці нацыі, а таксама іх стаўленнем як да гістарычных традыцый Беларуска-Літоўскага краю, так і да яго будучыні.

Для краёўцаў нацыя была палітычнай (ці грамадзянскай) катэгорыяй, а для заходнерусістаў вызначальным чыннікам нацыянальнай прыналежнасці з'яўлялася веравызнанне. Гарантам далучэння да рускага «суперэтнасу» станавілася праваслаўная вера. Прыналежныя да іншых канфесій і рэлігій выкрэсліваліся з «рускай нацыі» і трактаваліся як чужы элемент «Заходняй Русі».

Заходнерусізм з моманту ўзнікнення быў накіраваны на барацьбу супраць традыцыйных для «гістарычнай Літвы» шматканфесійнасці і шматкультурнасці. Яго прыхільнікі не бачылі будучыні Краю без Расеі і імкнуліся да ліквідацыі гэтай разнароднасці, дамінавання праваслаўнай царквы і культуры «велікарусаў».

Краёўцы наадварот імкнуліся да захавання і ўмацавання гэтых традыцый. Адзінства Краю і ягонай нацыі («нацыі ліцвінаў» або «краёвай нацыі») яны звязвалі з мірным суіснаваннем культур і канфесій «карэнных народаў» на падмурку роўнасці іх грамадзянскіх правоў, у т. л. свабоды веравызнання. Гэтыя погляды ў пэўны момант сустрэлі прыхільнасць беларускай эліты, якая паспрабавала выкарыстаць краёвасць дзеля пашырэння сацыяльнай базы беларускага руху і вырашэння праблемы нацыянальнага адзінства «двухканфесійнага» народу.

Дарэчы, краёўцы ў адрозненні ад заходнерусістаў прызнавалі існаванне беларускага этнасу і падтрымлівалі культурніцкую дзейнасць адраджэнцаў. Беларускі рух яны ацэньвалі як важны чыннік, які з часам

будзе вызначаць будучыню ўсяго Беларуска-Літоўскага краю. Таксама варта адзначыць выкарыстанне краёвай ідэі палітыкамі з асяродку «Нашай Нівы» дзеля пашырэння сацыяльнай базы беларускага руху. Нават Антон Луцкевіч неаднаразова выступаў як краёвец.

Але ўсё ж такі не толькі краёвасць, але і заходнерусізм трэба лічыць разнавіднасцямі «сваёй палітыкі» аналагічна з беларускім і літоўскім нацыянальнымі рухамі. Аднак трактоўка краёўцамі нацыі як палітычнай катэгорыі не спраўдзілася ва ўмовах абвастрэння этнакультурнага нацыяналізму і сацыяльнай барацьбы, а паражэнне заходнерусістаў было абумоўлена распадам Расейскай імперыі.

Зрэшты ідэі заходнерусізму здолелі перажыць савецкую эпоху і адрадзіцца ва ўмовах Рэспублікі Беларусь. Сёння яны цалкам упісваюцца ў сумнавядомую дактрыну «русского мира» і адпаведна пагражаюць існаванню Беларускай дзяржавы. Што ж датычыць краёвасці, то яна застаецца лёсам нешматлікіх рамантыкаў, «апошніх грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага», якія ўсё яшчэ спадзяюцца на вяртанне «ідэі Краю» як агульнай Радзімы некалькіх народаў.

---

1 Sahanowicz H. Źródła pamięci historycznej współczesnej Białorusi. Powrót zachodnierusizmu. Lublin, 2006, s. 29.

2 Łatyszonek O. Krajowość i „zapadno-russizm». Tutejszość zideologizowana // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu. Pod redakcją Jana Jurkiewicza. Poznań, 1999, s. 39.

3 Напрыклад, гл. Латышонак А. Беларуская нацыянальная ідэя // Свіцязь. 1994, № 2. С. 30–37.

4 Булгаков В. История белорусского национализма. Вильнюс, 2006; Michaluk D. Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości. Toruń, 2010.

5 Унучак А. «Заходнерусізм» і «краёвасць»: гістарыяграфія пытання // Российские и славянские исследования: Сб. науч. статей. Вып. 5 / Редкол.: О. А. Яновский (отв. ред.) и др. Мінск, 2010, с. 251–252.

6 Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб., 2004, с. 48–52.

7 Тамсама, с. 56–58.

8 Горизонтов Л. Западнорусизм в мире идентичностей межславянского пограничья. Историографические наблюдения // Славянский мир в поисках идентичности. Книга 8. Москва, 2011, с. 931.

9 Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй..., с. 48–52.

10 Цьвікевіч А. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадскай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. 2-е выд. Мінск, 1993, с. 7.

[11] Каўка А. Заходнерусізм // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мінск, 1996, с. 417.
[12] Вестник Западной России. 1865. Т. 2, с. 37.
[13] Коялович М. О. О расселении племён Западного края России // Сборник статей, разъясняющих польское дело по отношении к Западной России. Вып. 1. Сост. И изд. С. В. Шолкович. Вильно, 1885, с. 144.
[14] Літвінскі А. Беларускі народ у творах гісторыкаў-заходнерусістаў // Беларуская нацыянальная ідэя. Пад рэдакцыяй А. Астроўскага і В. Санько. Мінск, 2000, с. 85.
[15] Тамсама.
[16] Коялович М. Лекции по истории Западной России. Москва, 1864, с. 393 ды інш.
[17] Abramowicz L. Stanowisko krajowe a idea narodowa // Przegląd Wileński. 1913, Nr 13–14.
[18] Gazeta Wileńska. 1906. Nr 1.
[19] B. J…i [Jałowiecki B.]. Litwa – jej potrzeby… Katechizm narodowy Litwy. Wilno, [1905].
[20] Тамсама.
[21] Program Stronnictwa Konstytucyjno-katolickiego na Litwę i Białoruś. Wilno, 1906, s. 5.
[22] Ibidem, s. 10
[23] Ibidem, s. 8–9.
[24] Futurus [Skirmuntt K.]. Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie wileńskiej 1905–1907. Warszawa, 1907, s. 41.
[25] Ibidem, s. 74.
[26] Römer M. Zagadnienie narodowe białoruskie (Szkic publicystyczno-etnograficzny) // Homo Historicus. 2009, s. 206–226.
[27] б/п. [Луцкевіч А.?]. От редакции // Вечерняя газета. 1912, № 1.
[28] б/п. [Луцкевіч А.?]. Национальная культура // Вечерняя газета. 1912, № 92.
[29] Напр., б/п. [Луцкевіч А.?]. Вредная двойственность // Вечерняя газета. 1912, № 97.
[30] б/п. [Луцкевіч А.?]. Против течения // Вечерняя газета. 1912, № 145.
[31] Туронак Ю. Канфесійныя трансфармацыі на Беларусі і нацыянальная свядомасць // Наша вера. 1998, № 2, с. 80–86.
[32] Grzywacz M. Bernarda Bolzano koncepcja krajowości w państwie wielonarodowościowym. Monarchia habsburska 1815–1848 // Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu..., s. 41–48.

# «КРАЁВАЯ ІДЭЯ» І БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў 1920–1930-я гг.*

10 сакавіка 1940 г. у Віленскай публічнай бібліятэцы адбылася ўрачыстая Акадэмія з нагоды першых угодкаў смерці аднаго з галоўных ідэолагаў краёвай ідэі былога рэдактара «Пшэглёнда Віленьскага» Людвіка Абрамовіча. У прысутнасці віцэ-прэм'ера літоўскага ўраду Бізаўскаса выступілі прадстаўнікі амаль усіх народаў Беларуска-Літоўскага краю.

Ад імя беларусаў выступаў ксёндз Адам Станкевіч, які ў сваёй прамове паставіў краёвую ідэю вышэй за нацыянальныя памкненні: *«Калі працэс нацыянальнага жыцця, які сёння на землях Літвы і Беларусі адбываецца, дойдзе да свайго канчальнага пункту, калі наступе ў народаў гістарычнай Літвы і Беларусі аканчальная нацыянальная дыферэнцыяцыя, прынцыпам, парадкоўваючым сужыццё народаў, прынцыпам, гарантуючым развой усіх правоў гэных народаў і іх паўнату, можа аказацца краёвасць. Прынцып нацыянальны – пераходны, непастаянны і плыўкі. Прынцып краёвы, наадварот, заўсёдны, сталы, непахісны. Адгарадзіўшыся нацыянальнымі эгаізмамі, народы нашы некалі заслужаць да сужыцця бліжэйшага, да бліжэйшых узаемаадносінаў»*[1].

Гэтае сцвярджэнне прызнанага аўтарытэта незалежніцкай плыні беларускага руху яшчэ раз прымушае задумацца пра ролю краёвасці ў міжнацыянальных адносінаў на тэрыторыі «гістарычнай Літвы» ў эпоху нацыяналізмаў. Урачыстая Акадэмія была не толькі данінай памяці таленавітаму публіцысту і прынцыповаму палітыку. Яна засведчыла моц краёвай ідэі, якая нават ва ўмовах дамінавання нацыянальных дзяржаваў захавала сваю прывабнасць для пэўнай часткі эліты народаў былога Вялікага Княства Літоўскага.

Якія формы набыла краёвасць у міжваенны перыяд? Якое значэнне для яе захаванні і развіцця мела дзейнасць Людвіка Абрамовіча? Якім

---

* Артыкул быў упершыню апублікаваны ў гадавіку антрапалагічнай гісторыі: Homo Historicus. 2012. Пад рэд. А. Смаленчука. Вільня, 2012, с. 380–407. Гэтая версія артыкула з'яўляецца папраўленай.

было стаўленне да гэтай ідэі дзеячаў беларускага руху ў надзвычай складаны перыяд яго гісторыі?

Варта прыгадаць, што на пачатку XX ст. у беларускім руху дамінавала канцэпцыя этнакультурнай нацыі. Адзін з пастаянных аўтараў «Нашай Нівы» Мечыслаў Бабровіч (псеўданім *Лявон Гмырак*) прапанаваў наступнае вызначэнне нацыі: «*Нацыю складаюць людзі, якія гавораць адной мовай і адчуваюць сувязь паміж сабой; прызнаюць сваю даную мову ці культуру*»[2]. Пры гэтым характэрнай рысай публіцыстыкі «Нашай Нівы» было асуджэнне ўсялякага шавінізму, у т. л. і беларускага. На яе старонках, сцвярджалася, што ненавідзець палякаў за тое, што яны палякі, або рускіх за тое, што яны рускія, можа толькі псіхічна ненармальны ці аслеплены фальшывым патрыятызмам чалавек[3].

Высокі ўзровень талеранцыі «нашаніўскага кола», магчыма, быў абумоўлены тым, што сярод беларускай эліты паступова распаўсюдзіўся яшчэ адзін варыянт нацыянальнай ідэалогіі, з'яўленне якога было звязана з палітычнай актыўнасцю літоўскіх і беларускіх палякаў. Менавіта ў іх асяроддзі ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. былі выпрацаваныя асновы г. зв. «краёвай ідэі»[4].

Яе стваральнікі (Міхал Ромэр, Раман Скірмунт, Канстанцыя Скірмунт, Балеслаў Ялавецкі, Людвік Абрамовіч ды інш.) прадстаўлялі тую частку мясцовай польскай грамадскасці, якая захоўвала традыцыі дзяржаўнай і культурнай адметнасці земляў былога ВКЛ. Яны адчувалі сябе грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага і менавіта яго, а не Польшчу лічылі сваёй Радзімай. Падмуркам краёвасці была ідэя дзяржаўнай або грамадзянскай нацыі. Паводле ідэолагаў краёвасці, кожны, хто адчуваў сябе грамадзянінам Краю, належаў да «краёвай нацыі» (або «нацыі ліцвінаў»). Этнічныя і культурныя адметнасці не адыгрывалі вялікай ролі.

На пачатку XX ст. існавалі розныя варыянты краёвай ідэі, і паміж краёўцамі ішла бясконцая дыскусія. У сацыяльным плане можна вылучыць два накірункі краёвай ідэалогіі – дэмакратычны, у вытокаў якога стаяла асоба Міхала Ромэра (1880–1945), і кансерватыўны, у стварэнні якога вялікую ролю адыгралі публікацыі Рамана Скірмунта (1868–1939). Аднак нават унутры гэтых накірункаў адсутнічала поўнае адзінства поглядаў.

Кантакты паміж краёўцамі і дзеячамі беларускага руху спрыялі таму, што краёвую ідэю пачалі прапагандаваць таксама беларускія палітыкі. Важным момантам стала далучэнне да беларускага руху напрыканцы 1916 г. Рамана Скірмунта. Але, безумоўна, больш важнае значэнне мела

супрацоўніцтва «нашаніўскага» асяродку з краёўцамі дэмакратычнай плыні. У 1906 г. іх цэнтрам стала «Газета Віленска», фактычным рэдактарам якой быў Міхал Ромэр, а адным з вядучых публіцыстаў – Людвік Абрамовіч.

У праграмным артыкуле № 1 газеты сцвярджалася прыярытэтнасць краёвых інтарэсаў. Менавіта яны абвяшчаліся зыходным пунктам усялякай палітычнай, грамадскай і культурнай дзейнасці: «*Мы грамадзяне Беларусі і Літвы, і наш грамадзянскі абавязак – служыць роднаму краю [...] Нашай Радзімай з'яўляецца Беларусь і Літва. Толькі з культурна-нацыянальнага пункту погляду мы дзеці польскага народу [...]*»

Галоўнай задачай газеты лічылася спрыянне сужыццю розных нацыянальна-культурных элементаў на падмурку сумеснага краёвага грамадзянства. Яна праіснавала нядоўга. Судовы пераслед і фінансавыя праблемы прыспешылі яе закрыццё ў ліпені 1906 г. Але газета паспела адыграць надзвычай важную ролю ў пашырэнні краёвай ідэі.

У 1911 г. Людвік Абрамовіч разам з Міхалам Ромэрам заснавалі яшчэ адно выданне краёвага накірунку – штотыднёвы «Пшэглёнд Віленьскі» (1911–1915). Рэдакцыю ўзначаліў Л. Абрамовіч.

Што датычыць беларускіх палітыкаў, то найбольшую прыхільнасць да краёвай ідэі выказваў Антон Луцкевіч (1884–1942). Разам з братам Іванам яны сталі ініцыятарамі ажыццяўлення даволі незвычайнага беларускага выдавецкага праекту – выдання штодзённай газеты на рускай мове і штотыднёвіка на польскай[5]. У 1912 г. у Вільні пачала выходзіць «Вечерняя газета», да якой хутка далучыўся – «Кур'ер Краёвы». Выдаўцамі, рэдактарамі і галоўнымі аўтарамі гэтых выданняў былі беларусы. Але паходжанне новых віленскіх газет трымалася ў таямніцы ад шырокай грамадскасці. Рэдакцыі прэзентавалі сябе прадстаўнікамі рускіх і адпаведна польскіх дэмакратаў.

На старонках абодвух выданняў шырока прысутнічаў тэрмін «грамадзянін Краю», адзін з асноўных у канцэпцыі дзяржаўнай (грамадзянскай) нацыі. Аўтары і карэспандэнты даводзілі, што найважнейшыя для Краю пытанне павінны вырашацца з улікам інтарэсаў усіх народаў Беларусі і Літвы, асуджалі велікарускі і велікапольскі шавінізм, заяўлялі пра неабходнасць барацьбы з праявамі шавінізму сярод беларусаў і літоўцаў ды інш. А. Луцкевіч заклікаў «грамадзян Краю» да працы на ягоную карысць.

Такім чынам, браты Луцкевічы, В. Ластоўскі ды А. Уласаў) на старонках «Нашай Нівы» развівалі беларускую нацыянальную ідэю ў яе

этнакультурным варыянце, і яны ж у руска- і польскамоўным выданнях прапагандавалі краёвасць. Як гэта зразумець? Беларускія палітыкі даволі прагматычна ставіліся да краёвай ідэалогіі. Яны выкарыстоўвалі канцэпцыю агульнай гістарычнай Айчыны, прапагандавалі супрацоўніцтва і талерантнасць, але пры гэтым ігнаравалі вельмі важную для краёвай дактрыны ідэю агульных каранёў беларусаў, літоўцаў і палякаў.

Прапагандуючы элементы краёвай ідэі, яны заставаліся беларусамі. Краёвасць дазваляла ім пашыраць сацыяльную і культурную прастору беларускага Адраджэння і наладзіць сувязі як з дзеячамі іншых нацыянальных рухаў, так і з асобнымі прадстаўнікамі мясцовай арыстакратыі і землеўласнікаў, якія выказвалі пэўнае спачуванне культурнай дзейнасці адраджэнцаў. Да таго ж краёвая ідэя была важным чыннікам нацыятворчага працэсу, бо магла стаць падмуркам пераадолення канфесійнага падзелу беларусаў. Такім чынам, «беларускі маскарад» меў пэўнае прагматычнае абгрунтаванне…

Фактычна, краёвая ідэя разглядалася ў якасці сродку ўмацавання пазіцый беларусаў у нацыянальна-культурным і грамадска-палітычным жыцці. Так, напрыклад, агітацыя неабходнасці паразумення палякаў з беларусамі тлумачылася адсутнасцю перспектывы развіцця польскага руху ў Беларуска-Літоўскім краі[6]. Кіраўнікі беларускага руху былі ўпэўненыя, што літоўскія і беларускія палякі з’яўляюцца нашчадкамі паланізаваных літоўцаў і беларусаў, і адпаведна патрабавалі, каб яны працавалі выключна дзеля развіцця свядомасці і культуры беларусаў і літоўцаў. Быў відавочным пэўны «беларускі ўхіл» краёвасці Антона Луцкевіча і іншых дзеячаў «нашаніўскага» кола.

Дарэчы, з гэтым «ухілам» былі звязаныя гарачыя дыскусія, якія разгарнуліся паміж краёўцамі. Галоўным апанентам «беларускіх краёўцаў» стаў якраз Людвік Абрамовіч. У шэрагу артыкулаў на старонках «Пшэглёнда Віленьскага» ён рэзка крытыкаваў пазіцыю рэдакцыі «Кур’ера Краёвага» і «Вечерней газеты» адносна супольнасці «літоўскіх палякаў» і адстойваў права апошніх на развіццё і пашырэнне польскай культуры. Л. Абрамовіч заяўляў, што краёвасць – гэта не падпарадкаванне польскасці літоўскаму і беларускаму руху, а іх роўнасць і гармонія[7]. Ён разумеў краёвасць як гарманічнае сужыццё розных народаў, у якім імкнуўся забяспечыць за палякамі, прынамсі, роўныя з беларусамі і літоўцамі ўмовы.

«Беларускія краёўцы» пазіцыю Л. Абрамовіча зразумелі як імкненне працягваць палітыку паланізацыі. Градус дыскусіі часамі аказваўся

вельмі высокім. Загучалі ўзаемныя абвінавачванні ў шавінізме. Узімку 1913 г. у рэдакцыйным артыкуле «Пшэглёнду» («*Пабочныя ўплывы*») сцвярджалася, што «*група палякаў-дактрынёраў краёвай ідэі*», якая выдае «Кур'ер краёвы», падпала пад уплывы літоўскіх і беларускіх дзеячаў[8]. У іншай публікацыі Л. Абрамовіч абвінаваціў рэдакцыю «Вечерней газеты» ў нянавісці да палякаў. Ведаючы, што кіраўнікамі выдання з'яўляюцца браты Луцкевічы, рэдактар «Пшэглёнду» тым не менш выказаў сумненні ў шчырасці клопату «Вечерней газеты» пра беларускую культуру. Руская мова гэтага ліберальнага выдання, на яго думку, толькі спрыяла далейшай русіфікацыі Краю[9].

Міхал Ромэр, які выступіў з крытыкай абодвух пазіцый, больш рэзка рэагаваў на публікацыі польскіх калегаў. Ён пакінуў рэдакцыю «Пшэглёнду Віленьскага». У сваім Дзённіку, разважаючы пра пазіцыю Л. Абрамовіча і яго выдання, М. Ромэр напісаў, што гэтыя «*дэмакраты*» дэманструюць пагарду да слабейшых народаў[10].

Міхал Ромэр успрымаў грамадства Беларуска-Літоўскага краю як адзінае і непадзельнае, прасякнутае пачуццём краёвага патрыятызму і незалежнае ад падзелу на асобныя нацыі[11]. У грамадска-палітычнай дзейнасці ён імкнуўся да пабудовы «*адзінага грамадскага будынку, а не шэрагу нацыянальных хатаў*»[12]. А вось Людвік Абрамовіч разумеў краёвае грамадства як свайго роду канфедэрацыю самастойных і роўных нацыянальных супольнасцяў, кожная з якіх мела поўнае права на ўласнае нацыянальна-культурнае развіццё. Падобным чынам разумелі краёвую ідэю і беларускія дзеячы, якія імкнуліся забяспечыць за беларусамі годныя ўмовы ў гэтым сужыцці. Будучыня паказала, што гэтая дыскусія ўсё ж такі была спрэчкай аднадумцаў.

Пачатак Першай сусветнай вайны, адступленне расейскіх войскаў з тэрыторыі «гістарычнай Літвы» паспрыялі актывізацыі краёвай ідэі. Напрыканцы 1915 г. у акупаванай германскімі войскамі Вільні была створана Часовая Рада Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, якая выступала за дзяржаўную незалежнасць «гістарычнай Літвы». Пастулат аўтаноміі Краю ператварыўся ў ідэю дзяржаўнай незалежнасці беларускіх і літоўскіх зямель. Новаўтвораная дзяржава павінна была гарантаваць усім яе народам права на свабоднае культурнае развіццё. Часовая Рада аб'яднала дзеячаў розных нацыянальных рухаў, а ініцыятыва яе стварэння належала беларусам (Іван Луцкевіч). Аднак выпрабавання часам яна не вытрымала. Абвастрэнне міжнацыянальных адносінаў (асабліва польска-літоўскіх),

да чаго прычынілася таксама германская акупацыйная адміністрацыя, зруйнавалі гэты праект.

Тым не менш беларусы да пачатку 1918 г. захоўвалі надзею на рэалізацыю краёвай канцэпцыі дзяржаўнасці «гістарычнай Літвы». І толькі прызнанне Германіяй незалежнасці «этнаграфічнай Літвы» са сталіцай у Вільні і імперскія амбіцыі палітыкаў новай Польшчы, якая ўмацоўвала дзяржаўны суверэнітэт, і разглядала заходнія беларускія землі як сферу свайго палітычнага дамінавання, канчаткова пракрэслілі гэтую надзею.

Прыхільнасць беларусаў да канцэпцыі адраджэння дзяржаўнасці былога Вялікага Княства Літоўскага, магчыма, не ў апошнюю чаргу тлумачыцца ўсведамленнем недахопу ўласных сіл для працы над стварэннем нацыянальнай беларускай дзяржавы.

Па-рознаму склаўся лёс ідэолагаў краёвасці пасля палітычнага распаду гістарычнай Літвы. Раман Скірмунт улетку 1919 г. закончыў «беларускі эпізод» сваёй палітычнай біяграфіі, а пасля Рыжскага міру, ратыфікацыі якога спрабаваў не дапусціць, засяродзіўся на праблемах развіцця роднага Палесся. Толькі «травеньскі пераварот» 1926 г. у Польшчы вярнуў яго да актыўнага палітычнага жыцця. Але стасункаў з дзеячамі беларускага руху ён ужо амаль не падтрымліваў.

Міхал Ромэр перабраўся ў Коўна і актыўна ўдзельнічаў ва ўмацаванні літоўскай дзяржаўнасці, імкнучыся адначасна да ўрэгулявання адносінаў паміж Польшчай і Літвой. Антон Луцкевіч застаўся актыўным дзеячам беларускага руху, спалучаючы палітычную дзейнасць з культурніцкай працай. Усе яны ў большай ці меншай ступені захавалі вернасць краёвай ідэі, але для большасці былых краёўцаў яна перастала быць праблемай публічнага жыцця.

І толькі Людвік Абрамовіч на старонках віленскага друку («Наш Край» (1919), «Газета Краёва» (1920–1922) і «Пшэглёнд Віленьскі» (1921–1938) працягваў адстойваць яе прынцыпы, не зважаючы на дамінаванне этнакультурнага нацыяналізму ў рэгіёне.

Першы нумар адноўленага «Пшэглёнду» выйшаў з друку 1 лістапада 1921 г. Вільня ў гэты час была сталіцай «Сярэдняй Літвы», якая нічым не нагадвала праект краёўцаў, хоць сярод яе кіраўніцтва даволі шмат было людзей, што некалі былі прыхільнікамі гэтай ідэалогіі. Фактычна, гэтае непрызнанае дзяржаўнае ўтварэнне было толькі прыкрыццём польскай улады над спрэчнымі з Літвой тэрыторыямі. Аднак пэўная нявырашанасць лёсу Віленшчыны нараджала ў Л. Абрамовіча і яго прыхільнікаў надзею на

актуалізацыю колішняга краёвага праекту. Не апошняе месца ў гэтых надзеях займала постаць Юзафа Пілсудскага. Менавіта ягоныя словы: «*Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі*», якія прагучалі ў вызваленай ад бальшавікоў Вільні ў красавіку 1919 г., сталі своеасаблівым дэвізам «Пшэглёнду».

У рэдакцыйным артыкуле Л. Абрамовіч падкрэсліў актуальнасць тых задачаў, якія яшчэ ў 1911 г. сфармуляваў для даваеннага «Пшэглёнду Віленьскага». Тады рэдакцыя абяцала, што будзе зыходзіць з пазіцыі «краёвага грамадзянства», сцвярджала, што лічыць «*беларуска- літоўскія землі*» асобным Краем з адметнымі інтарэсамі, звязвала яго будучыню з тэрытарыяльнай цэласнасцю і правам усіх карэнных народаў самастойна вырашаць свой лёс. Рэдакцыя выступала супраць усіх праяваў шавінізму і неталеранцыі[13].

Праз 10 гадоў Людвік Абрамовіч канстатаваў, што на змену царскаму прыгнёту прыйшоў польскі шавінізм. Сітуацыю ў «Сярэдняй Літве», дзе запанаваў «*рэлігійна-нацыянальны фанатызм*», ён характарызаваў як здзек над ідэаламі свабоды, роўнасці і братэрства. Рэдакцыя збіралася яднаць вакол сябе людзей, якія ставілі агульныя інтарэсы Краю вышэй за нацыянальны эгаізм.

Л. Абрамовіч сапраўды захаваў вернасць уласнаму разуменню краёвасці. Прычым ягоная канцэпцыя «*пабудовы некалькіх нацыянальных хатаў*» (паводле ацэнкі М. Ромэра) аказалася больш запатрабаванай якраз у міжваенны час.

«Пшэглёнд Віленскі» 20–30-х гг. XX ст. – гэта выключная з’ява ў гісторыі польскага друку на г. зв. «усходніх крэсах». Двухтыднёвік невялікага фармату стаўся сапраўднай трыбунай асуджэння дзяржаўнай палітыкі нацыянальнага ціску і прыгнёту.

Надзея на актуалізацыю палітычнай часткі краёвага праекту знікла пасля прызнання Лігай Нацый усходніх межаў II Рэчы Паспалітай (сакавік 1923 г.). Сэнсам існавання газеты стала аб’ектыўнае і крытычнае асвятленне бягучых справаў жыцця Беларуска-Літоўскага краю, супрацьстаянне польскаму нацыяналістычнаму друку. Пры гэтым галоўным апанентам «Пшэглёнду» было выданне нацыянальных дэмакратаў «Дзеннік Віленьскі» (рэд. Ян Обст, пазней Аляксандр Звяжыньскі, адзін з лідэраў нацыянальных дэмакратаў), які найбольш поўна адлюстроўваў пазіцыю тых палітычных груповак II Рэчы Паспалітай, што імкнуліся да ператварэння Польшчы ў монанацыянальную дзяржаву. Краёвасць для рэдакцыі і аўтараў гэтага выдання была выклікам польскасці і здрадай нацыяналь-



*Людвік Абрамовіч.*
*Фота 1920-х гг.*

ных інтарэсаў. «Дзеннік» рэгулярна абвінавачваў свайго «краёвага» апанента ў «антыпольскасці».

У лістападзе 1923 г., падводзячы пэўныя вынікі двухгадовага існавання, Л. Абрамовіч, фактычна, прызнаў, што асноўнай задачай «Пшэглёнду» стала *«барацьба супраць нацыяналізму, які ператварае наш Край ў пляцоўку для цэнтралістычна-уніфікацыйных эксперыментаў»*. Ён прызнаваў існаванне апроч польскага таксама літоўскага і беларускага нацыяналізмаў, але адзначаў іх абарончы характар[14].

На старонках «Пшэглёнду Віленьскага» рэгулярна выступалі прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, якія мелі ўнікальную магчымасць праз польскае перыядычнае выданне знаёміць мясцовую грамадскасць з уласным поглядам на асаблівасці і сістэму польскай улады на Віленшчыне, на праблемы нацыянальнага жыцця міжваеннай Польшчы.

Рэдакцыя і аўтары газеты закраналі вострыя праблемы існавання беларускага і літоўскага школьніцтва, крытыкавалі палітыку каталіцкага празелітызму і пашырэнне ўжывання польскай мовы ў касцёле ў беларускіх мясцовасцях, пратэставалі супраць беспадстаўных абвінавачванняў беларускіх дабрачынных, культурніцкіх і нават рэлігійных арганізацый у вядзенні прасавецкай прапаганды, асуджалі эканамічны ціск мясцовых уладаў супраць беларускіх і літоўскіх гаспадарчых арганізацый, абмяркоўвалі русіфікацыйныя тэндэнцыі неауніі і г. д. Вельмі востра выданне рэагавала на праявы антысемітызму ў польскім грамадскім і палітычным жыцці.

Пісаць артыкул пра «Пшэглёнд Віленьскі» і яго аўтараў складана. Апошнія, звычайна, хаваліся пад псеўданімамі або крыптонімамі, большасць з якіх яшчэ патрабуе сваёй расшыфроўкі. Таямнічасць не цяжка растлумачыць. Пазіцыя газеты і яе рэдактара ацэньвалася ваяводскім ўладамі, а таксама архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім і ўсёй віленскай

курыяй як антыпольская з усімі выцякаючымі наступствамі. Патрабавалася вернасць пэўным ідэям і грамадзянская мужнасць, каб публікавацца ў выданні Л. Абрамовіча.

Беларускую праблематыку на старонках газеты прадстаўлялі кс. Уладзіслаў Талочка, Антон Луцкевіч, Францішак Аляхновіч, кс. Канстанцін Стэповіч, Альбін Стэповіч, Радаслаў Астроўскі, кс. Вінцэнт Гадлеўскі, кс. Язэп Германовіч, Францішак Грышкевіч, кс. Адам Станкевіч, Станіслаў Станкевіч, Ян Пазняк ды інш. Яна ж закраналася ў публікацыях Людвіка Абрамовіча, Канстанцыі Скірмунт і цэлага шэрагу іншых аўтараў.



Cena numeru 2000 mk.

№ 13 Wilno, 19 sierpnia 1923 r. Rok VI.

# Przegląd Wileński

PISMO POŚWIĘCONE SPRAWOM KRAJOWYM

REDAKCJA I ADMINISTRACJA:
Wilno, Uniwersytecka № 9 m. 9.
Czynne od g. 12—3 prócz świąt.

## Kraj i naród.

*Першая старонка газеты «Przegląd Wileński» з артыкулам Л. Абрамовіча*

Найбольшую цікавасць выклікаюць публікацыі кс. Уладзіслава Талочкі і Антона Луцкевіча з аналізам як актуальных падзеяў, так і пэўнай рэтраспекцыяй.

У 1920-я гг. найбольш актыўным беларускім аўтарам быў кс. У. Талочка. На старонках «Пшэглёнду» ён карыстаўся псеўданімамі *Adam Sołoduch*, *Dryhwicz*, *Drygwicz*, *P. Kantryba*, *Erka*, *Archiwista*, *Gardiner*, *Wat*[15], а таксама крыптонімамі *Wł. T., as, A. S.* Вось няпоўны пералік яго публікацый:

- Ядвігін Ша (пасмяротныя ўспаміны) // 1922, № 11–12.
- Адкуль узяліся беларусы-каталікі? // 1922, № 11–12.
- Праблема Заходняй Беларусі // 1923, № 6.
- Усход або Захад? *(аналіз польскай нацыянальнай палітыкі ў адносінах да «беларускага пытання»)* // 1923. Дадатак да № 6.
- Казімір Шафнагель (некралог) // 1923, № 8.
- Сенчыкоўскі і беларускі рух // 1923, № 17.
- Pro doma sua (*палемічны артыкул пра нацыянальныя ідэалы беларусаў-каталікоў*) // 1923, № 19.

- Нацыяналізм у касцёле // 1924, № 1.
- Некалькі зычлівых заўвагаў пра беларускую мову // 1924, № 10.
- Пра самастойнасць нацыянальнага развіцця // 1924, № 14.
- Задачы беларускага каталіцкага кліру // 1924, № 21.
- Эвалюцыя ці блуканне навобмацак? (*пра ўтварэнне пасольскага клуба БСРГ з пракамуністычнымі сімпатыямі*) // 1925, № 14.
- Культурная місія польскасці (*нацыянальныя канфлікты як вынік польскай палітыкі*) // 1925, № 15.
- Стварэнне падмурку (*крытыка «мітынговай» палітыкі Грамады; трэба развіваць адукацыю і культуру*) // 1925, № 16 .
- Культура і палітыка // 1925, № 19.
- Беларускія казанні ў Літве ў 1826 г. // 1926, № 11.
- Пасля унійнага з’езду ў Вільні // 1926, № 20.
- Пасля адыходу мітрапаліта Марозава // 1927, № 1.
- Значэнне кіравання біскупа Матулевіча ў Вільні // 1927, № 3.
- Пра краёвасць // 1927, № 9.
- Расейскі ўрад і беларуская мова // 1929, № 11.
- Як трэба пашыраць унію (характарыстыка розных тэндэнцый, якія праявіліся ў працэсе адраджэння уніі) // 1935, № 10.
- Некалькі слоў пра Беларускае навуковае таварыства // 1935, № 17.
- Як выхоўваюць у палешукоў прыхільнасць да Польшчы і як тыя хочуць ехаць у Афрыку // 1935, № 19.
- Вацлаў Ластоўскі (некралог)[16] // 1936, № 1–2.
- Наступствы нападак на марыянаў у Друі // 1938, № 4–5.

Напрыканцы 1920-х гг. артыкулы У. Талочкі на старонках газеты зніклі.

У адным з восеньскіх нумароў 1927 г. рэдакцыя паведаміла чытачам пра забарону арцыбіскупам Р. Ялжыкоўскім супрацоўнічаць ксяндзу У. Талочцы з «Пшэглёндам Віленьскім» як з *«газетай антыкаталіцкай і масонскай»*[17]. Тым не менш праблема беларускай мовы ў касцёле ці справы неоуніі і яе значэння для беларусаў па-ранейшаму абмяркоўваліся на старонках газеты. Аўтар большасці гэтых публікацый падпісваўся пакуль нявысветленым *крыптонімам Al. S.* Зрэшты, можна выказаць меркаванне, што гэтым аўтарам быў усё ж такі ксёндз Талочка, які не падпарадкаваўся забароне.

Артыкулы У. Талочкі зноў з’яўляюцца на старонках газеты пачынаючы з другой паловы 1934 г. Ён да апошняга нумару «Пшэглёнду» заставаўся адным з найбольш актыўных ягоных беларускіх аўтараў.

Напрыканцы 1920-х гг. У. Талочку ў пэўным сэнсе замяніў Антон Луцкевіч, публікацыі якога пачалі з’яўляцца ў газеце пад прозвішчам ці псеўданімамі *Antoni Nowina*, *S-wicz*[18] *або крыптонімамі A. Ł., a., Н. В., A. N.*).

Магчыма, аднаўленню ранейшага супрацоўніцтва паміж колішнімі калегамі паспрыяла святкаванне ў Вільні ў лістападзе 1929 г. 25-годдзя публіцыстычнай дзейнасці Людвіка Абрамовіча. Гэты юбілей засведчыў той высокі аўтарытэт, які меў журналіст сярод віленскай інтэлектуальнай эліты. Апошняе датычыла нават ідэйных апанентаў Л. Абрамовіча. Калегі па прафесіі характарызавалі яго як аднаго з найлепшых польскіх публіцыстаў.

З нагоды юбілею Людвік Абрамовіч атрымаў віншавальны ліст таксама ад Антона Луцкевіча[19]:

*Вельміпаважаны Грамадзянін!*

*Шчыра вітаю Вас у дзень 25-летняга юбілею працы Вашае на публіцыстычнай ніве.*

*Праца гэтая, ведзеная пры вельмі featurrodnych* 

*Хай жа й далей пяро Вашае служыць інтарэсам гэтага многапакутнага Краю, жывое цела якога, парэзанае на кускі гранічнымі межамі, усьцяж сплыве крывёю!*

*Вільня, 9. IX. 1929 Ант. Луцкевіч*

Звяртае на сябе ўвагу ўжыванне аўтарам тэрміна *Край* з вялікай літары. Гэта было нормай для краёўцаў. Антон Луцкевіч гэтым лістом нібыта вяртаўся ў тыя далёкія гады, калі абодва мелі прыхільнасць да краёвай ідэі і верылі ў магчымасць яе сумяшчэння з нацыянальна-культурнымі інтарэсамі беларусаў і «літоўскіх палякаў».

А можа А. Луцкевіч ніколі і не парываў цалкам з краёвасцю? І па-ранейшаму пэўнай часткай сваёй свядомасці быў звязаны з краёвай ідэяй? На гэтыя складаныя (і ў нечым правакацыйныя) пытанні можна будзе адказаць толькі ў выніку грунтоўнага аналізу ягонай дзейнасці ў міжваенны перыяд.

У якасці пэўнага абгрунтавання акрэсленай праблемы хачу заўважыць, што экспазіцыя і калекцыя прадметаў даўніны віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, які быў створаны ягоным братам Антонам, хутчэй адлюстроўвала «краёвы погляд» на мінулае колішніх земляў ВКЛ, чым адпавядала беларускаму нацыянальнаму дыскурсу. Прынамсі, знаёмства з «музейнымі публікацыямі» А. Луцкевіча, а таксама з кнігай запісу наведвальнікаў музея (*Кніга дзеля запісу гасьцей Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ад 01.I.1932 году да 21.VII.1939 году*)[20] не пакідае ў гэтым сумненняў.

Прапаную пералік найбольш значных публікацый Антона Луцкевіча на старонках «Пшэглёнду»:

- З нагоды спрэчкі аб «celi Konrada» (*ліст у рэдакцыю*) // 1923, № 6.
- Падсвядомае і свядомае ў «душы беларускай» Сыракомлі // 1924, № 18.
- Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух // 1926, № 9.
- Іван Луцкевіч (у 10-ю гадавіну смерці) // 1929, № 20–21 (*верагоднае аўтарства А. Луцкевіча. Але артыкул падпісаны крыптонімам* St., *прыналежнасць якога не пакуль не ўстаноўлена*).
- Ідэя незалежнасці ў беларускай паэзіі // 1933, № 1–3.
- Нацыянальнае беларускае свята (*артыкул да 15-годдзя абвяшчэння БНР*) // 1933, № 6.
- Беларускі мемарандум да мітрапаліта Дыянізія (*праблема стаўлення праваслаўнай царквы да беларускай культуры і нацыянальнага руху*) // 1933, № 11–12.
- Тарашкевіч – Аляхновіч (абмен зняволеных) // 1933, № 15–16.
- Беларусы і жыды // 1933, № 18.
- Маўр зрабіў сваё… (*рэпрэсіі ў БССР*) // 1934, № 1.
- Горкі вопыт (*рэпрэсіі ў БССР*) // 1934, № 2.
- Як было на самой справе (успамін пра Парыжскую канферэнцыю) // 1934, № 10.
- Савецкае цэментаванне «адзінай і непадзельнай Расеі» (*рэпрэсіі ў БССР*) // 1934, № 12.
- Ці зразумеюць? (*параўнанне сітуацыі ў БССР і Заходняй Беларусі*) // 1935, № 1.
- Дваццацігоддзе беларускага тэатру // 1935, № 6.
- Неабходныя папраўкі (*заўвагі адносна некаторых «беларускіх эпізодаў» кнігі ўспамінаў Эдварда Вайніловіча*) // 1935, № 9.
- Юбілей беларускага школьніцтва (у 20-ю гадавіну) // 1935, № 22–23.

- Зыгмунт Нагродскі (некралог) // 1936, № 4.
- З успамінаў пра Фердынанда Рушчыца // 1936, № 5.
- Успаміны пра прэзідэнта Масарыка (некралог) // 1936, № 7.
- Пра беларускую душу Сыракомлі (да 75-годдзя з дня смерці) // 1937, № 9.
- Патрабаванне часу (*пра польскую палітыку асіміляцыі*) // 1938, № 4–5.
- Невядомыя падрабязнасці (*успаміны пра выданне «Кур'ера Краёвага» ў 1912–1914 гг.*) // 1938, № 4–5.

Апроч таго ў сярэдзіне 1930-х гг. вядомы беларускі дзеяч паспрабаваў выкарыстаць «Пшэглёнд» для палемікі з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй адносна шляхоў фармавання беларускай нацыі і праблемы кансалідацыі розных накірункаў беларускага руху. Выглядала гэта трохі недарэчна, але Л. Абрамовіч прадставіў магчымасць выказацца як А. Луцкевічу, так і прадстаўнікам БХД.

Наогул, тое кола праблемаў беларускага жыцця, якое закраналася ў публікацыях згаданых дзеячаў беларускага руху, а таксама ў артыкулах, падпісаных *Gudas, Krajowec, Jadżwing, Autochton, Alboruthenus* ды інш., было надзвычай шырокім. Не будзе перабольшваннем сцвярджэнне, што беларуская праблематыка была адной з дамінуючых на старонках двухтыднёвіка.

Вельмі важным накірункам дзейнасці «Пшэглёнду Віленьскага» і Людвіка Абрамовіча была прапаганда краёвасці. У адрозненні ад даваенных часоў, калі гэтая прапаганда суправаджалася ажыўленымі дыскусіямі сярод краёўцаў і прадстаўнікоў польскага, літоўскага і беларускага рухаў, якія шукалі найбольш аптымальны варыянт краёвай ідэі і імкнуліся да пэўнага ўзгаднення краёвасці з інтарэсамі асобных нацый, у 1920–30-я гг. галоўнымі апанентамі краёвай канцэпцыі «Пшэглёнду» сталіся публіцысты віленскага «Слова» і «Кур'ера Віленьскага».

«Слова» было заснаванае ў 1922 г. Рэдактар Станіслаў Мацкевіч ператварыў яго ў сапраўднае апірышча кансерватыўнай думкі, якое таксама прэтэндавала на пэўную «краёвую пазіцыю».

«Кур'ер Віленьскі» (1923–1940) адлюстроўваў настроі дэмакратычных колаў польскай грамадскасці Вільні. Рэдактар Казімір Акуліч (1923–1937) таксама належаў да прыхільнікаў краёвасці. У студзені 1928 г. на старонках «Кур'ера» быў апублікаваны канцэптуальны артыкул «Ідэя краёвасці». Аўтар (псеўданім *lit.*) разумеў краёвасць як тэрытарыяльную аўтаномію Беларуска-Літоўскага краю ў межах Польскай дзяржавы. Нават гавора-

чы пра ідэю аднаўлення былога ВКЛ, ён не бачыў яго будучыні інакш як у федэрацыі з Польшчай[21]. Фактычна, гэта была тая «краёвасць», адносна якой М. Ромэр аднойчы заўважыў, што некаторыя кажуць «*краёвасць*», а думаюць – «*крэсы Найяснейшай Рэчы Паспалітай*»[22].

Канец 1920-х гг. стаўся часам яднання вакол «Пшэглёнду» людзей, перакананых у тым, што выпрацоўка «краёвай праграмы» можа паспрыяць заканчэнню міжнацыянальных канфліктаў і дасягненню згоды паміж усімі народамі Краю.

У 1927 год газета ўступіла як уласнасць суполкі акцыянераў. Рэдактарам застаўся Людвік Абрамовіч, а ў Выдавецкі камітэт увайшлі Ян Крыўка, др Вітальд Легейка, др Вітальд Славіньскі, Эўсебіўш Лапаціньскі, Канстанцыя Скірмунт і Віктар Талочка. У кароткім рэдакцыйным каментары гэта расцэньвалася, як «*крок да стварэння лагеру шчырых краёўцаў, якія здольныя спалучаць прыхільнасць да гістарычных традыцый ВКЛ з тэндэнцыямі развіцця асобных нацый і сацыяльных груп і рэальнымі палітычнымі ўмовамі. Гэты лагер павінен аб'яднаць усіх тых, хто любіць нашу літоўска-беларускую зямлю, для каго дабро нашага Краю не з'яўляецца пустым гукам, хто верыць у яго светлую будучыню на падмурку згоднага сужыцця нацыянальнасцяў, адным словам, усіх каму дарагі спрадвечны сцяг «Пагоні»*[23].

Аднак кола прыхільнікаў краёвай ідэі, якое ядналася вакол «Пшэглёнду», заўсёды заставалася невялікім. «Лагер краёўцаў» быў хутчэй марай Л. Абрамовіча. Пераважная большасць мясцовай польскай грамадскасці ўспрымала Віленшчыну як інтэгральную частку Польскай дзяржавы. Аднак, дзякуючы публікацыям «Пшэглёнду Віленьскага», краёвая ідэя не раз станавілася прадметам грамадскіх дыскусій.

Людвіку Абрамовічу неаднаразова даводзілася тлумачыць сэнс краёвасці. І не толькі ў палеміцы з аўтарамі «Слова». Увесну 1927 г. «Пшэглёнд» апублікаваў артыкул кс. Уладзіслава Талочкі (*Dryhwicz*) «Пра краёвасць»[24]. Яго змест дазваляе казаць пра пэўныя асаблівасці беларускага разумення гэтага ідэалагічнага феномена.

Увесь артыкул быў прысвечаны стасункам паміж польскімі дэмакратамі, якіх аўтар называў «краёўцамі», і беларускім рухам. Галоўным крытэрыем краёвасці абвяшчалася прыхільнасць да беларускага Адраджэння, відавочная ў даваенны перыяд і «*кудысьці знікшая*» пасля ўзнікнення Польскай дзяржавы. Сучасная нацыянальная сітуацыя, сцвярджаў аўтар, адказнасць за якую нясе не толькі «*цэнтр*», але і «*ту-*

выпрацоўкі *«палітычнай праграмы»*, якая павінна ўлічваць не толькі гістарычную традыцыю польска-літоўскага *«згоднага гарманічнага сужыцця» («Польшча ніколі не пагражала этнаграфічнай Літве...»*[24]*)*, але і патрабаванні сучаснасці. Пад апошнімі Раман Скірмунт разумеў важнасць паразумення з народам, які, паводле яго словаў, у XIX ст. стаўся галоўным чыннікам гістарычнага развіцця.

Апошняя частка брашуры – гэта спроба выкласці пэўныя ідэйныя асновы гэтай палітычнай праграмы. У гэтай публікацыі яшчэ не ўжываліся тэрміны «краёвасць» ці «краёвая ідэя», але ўжо прысутнічалі некаторыя з характэрных для краёвасці пастулатаў.

У прыватнасці, Р. Скірмунт сцвярджаў, што польскамоўная шляхта не з'яўляецца для Літвы *«прышлым элементам»*, што яна належыць да карэннага насельніцтва і мае агульнае паходжанне з *«навакольным людам»*: *«Адзіная кроў і адзінае паходжанне – адна маці-зямля ад веку»*[25]. Менавіта гэты чыннік (агульнасць паходжання і крыві ці *«братэрства»*) Р. Скірмунт лічыў зыходным пунктам у выпрацоўцы культурнай праграмы мясцовай шляхты, якая павінна ўспомніць пра свае абавязкі адносна «братэрскага» народу.

Адным з такіх абавязкаў «шляхціца-ліцвіна» аўтар лічыў удзел у літоўскім нацыянальным Адраджэнні і клопат пра захаванне польскай культуры. Пра перспектыўнасць падобнай пазіцыі, на яго думку, сведчылі прыклады Швейцарыі і Шатландыі. Ён сцвярджаў, што моладзь павінна ведаць польскую і літоўскую мовы і мець права на самастойнае вызначэнне ролі літоўскай мовы ва ўласным жыцці.

Аўтар надаваў вялікае значэнне пашырэнню «лакальнага патрыятызму», які, паводле яго меркавання, моцна аслабеў падчас апошняга паўстання. *Ro…munt* быў пэўны, што яднанне ўсіх элементаў «ліцвінскай супольнасці» павінна адбывацца *«на падмурку любові да роднай зямлі, якая з'яўляецца галоўным сродкам жыцця як для селяніна, так і для шляхціца»*[26]. Гэта і было галоўным *«новым лозунгам у справе Адраджэння літоўскай нацыі»*, якое Раман Скірмунт імкнуўся данесці да свайго чытача.

У тэксце відавочная спроба Рамана Скірмунта знівеляваць сацыяльныя і культурныя адрозненні паміж польскамоўнай шляхтай і літоўскамоўным сялянствам і пераканаць абодва бакі канфлікту ў адзінстве «ліцвінскай супольнасці» (пазней ён будзе пісаць пра адзінства *«краёвай грамадскасці»*), якое грунтуецца на падмурку агульнага паходжання, агульнай крыві і любові да роднай зямлі (*«лакальнага патрыятызму»*).

Важным фактарам гэтага адзінства для Р. Скірмунта таксама выступаў знешні вораг, а менавіта расейскі ўрад і тыя новыя нацыянальна-палітычныя сілы Літвы («младалітвіны») і Польшчы («нацыянальныя дэмакраты»), якія якраз імкнуліся парушыць традыцыі і знішчыць адзінства «ліцвінскай супольнасці».

Што найбольш хвалявала аўтара? Лёс «Айчыны», «роднай зямлі», якая выразна атаясамлівалася з тэрыторыяй былога Вялікага Княства Літоўскага (не з «Каронай»!), ці лёс польскамоўнай літоўскай шляхты, да якой ён сам належаў?

І тут важна звярнуць увагу на той вобраз ворага, які намаляваў Раман Скірмунт у сваёй публіцыстыцы. Гэта, у першую чаргу, расейскі ўрад і палітыка русіфікацыі, а таксама мадэрныя нацыянальныя рухі як пагроза пэўнай традыцыі. Апроч таго аўтар невыпадкова прыгадаў г. зв. крызіс *«лакальнага патрыятызму»* падчас Студзеньскага паўстання (мелася на ўвазе пазіцыя сялянства) і падкрэсліў думку, што ў XIX ст. на першы план выходзіць народ. Ён становіцца важным чыннікам гістарычнага развіцця, і з ім неабходна лічыцца. Прынамсі, не выпадае ігнараваць.

На першым месцы для аўтара стаяла пагроза адзінству «ліцвінскай супольнасці». Яго найбольш хваляваў лёс таго сацыяльнага слою, да якога сам належаў, а менавіта польскамоўнай шляхты. Але не варта трактаваць гэты выступ як клопат за лёс уласнага маёнтку, у чым пазней будуць вінаваціць краёўцаў кансерватыўнага накірунку лібералы і сацыялісты. «Літоўскія палякі» трактаваліся аўтарам як галоўны аплот захавання *«заходняй культуры»*, а значыць як гарант існавання «гістарычнай Літвы».

Тэкст Міхала Ромэра як і выпрацоўка ягонай краёвай канцэпцыі таксама былі справакаваныя польска-літоўскім канфліктам.

Міхал Ромэр на пачатку артыкула паспрабаваў акрэсліць межы «этнаграфічнай Літвы». Вызначэнне яе тэрыторыі суправаджалася аналізам тых нацыянальна-культурных працэсаў, якія адбываліся на гэтай тэрыторыі. Ён даў пазітыўную ацэнку літоўскаму руху і сцвярджаў, што дзякуючы яму *«літоўскі элемент ператварыўся ў свядомую літоўскую нацыю»*[27]. А пасля гэтага, закранаючы праблему спрэчкі літоўцаў, палякаў і рускіх за Вільню (*«яблык нязгоды паміж народамі, ключ да ўсяго краю»*[28]), падрабязна спыніўся на праблеме міжнацыянальных стасункаў.

Аўтар імкнуўся данесці да чытача іх вельмі складаны характар, паказаць, што паміж рознымі этнакультурнымі нацыямі Літвы разгортваецца барацьба, у абвастрэнні якой зацікаўлены толькі расейскі ўрад.

Публіцыст маляваў тую небяспеку для Літвы, якую патэнцыйна нёс агрэсіўны этнакультурны нацыяналізм. Менавіта гэта можна лічыць самым важным «пасланнем» аўтара да свайго чытача. Ён звяртаў увагу на галоўных праціўнікаў літоўскага руху ў асяродку польскамоўнай мясцовай шляхты («*старая інтэлігенцыя і землеўласнікі, пакрытыя цвіллю традыцыі*», якія ўсё яшчэ не бачыць людзей у ніжэйшых колах грамадства[29]).

Адначасна негатыўна ацэньваў праявы агрэсіўнага нацыяналізму ў літоўскім руху: «*Нацыяналісты, якія абапіраюцца не на рэальныя патрэбы развіцця той ці іншай часткі літоўскага насельніцтва, а на прынцыпы еднасці і расавай чысціні, імкнуцца да знішчэння ўсяго чужога па расавай прыкмеце і да нацыянальнай самаізаляцыі. Пры гэтым расейскі ўрад з'яўляецца для іх менш варожым і небяспечным, чым палякі і габрэі, што жывуць у Літве; пры ўмове дазволу літоўскай мовы нацыяналісты ідуць на перамовы з урадам і ўладамі дзеля барацьбы з чужымі элементамі*»[30]. М. Ромэр сцвярджаў небяспеку гэтага нацыяналізму для самой літоўскай нацыі, бо ён вёў да самаізаляцыі літоўскай культуры.

Вельмі важным фрагментам артыкула была характарыстыка польска-літоўскіх стасункаў. Міхал Ромэр адзначаў, што ў выніку гістарычнага развіцця адбылося сапраўднае «*перапляценне польскай і літоўскай культураў*»: «*Элементы польскай культуры ўвайшлі ў цела і кроў літоўскай, іх немагчыма без болю зліквідаваць*»[31]. Ён таксама апеляваў да польскай грамадскасці, даводзячы неабходнасць прызнання культурнай самастойнасці літоўцаў і далучэння палякаў, калі не нацыянальна, то хоць бы сацыяльна, да «*арганізма літоўскага грамадства*». Публіцыст казаў пра неабходнасць для польскай грамадскасці вызначыцца з канцэпцыяй інтарэсаў развіцця Літвы і арганізавацца на падмурку гэтай канцэпцыі.

Відавочнае імкненне аўтара да паяднання палякаў і літоўцаў. Ён не атаясамліваў сябе ні з першымі, ні з другімі, і спрабаваў адыграць ролю пасрэдніка ў паразуменні. Падобна, што гэтую задачу ён вырашаў усё сваё жыццё. І магчыма менавіта тут трэба шукаць галоўны матыў ягонага публічнага выступу.

Галоўным ворагам Краю, зацікаўленым у змаганні паміж сабой розных яго народаў, Міхал Ромэр лічыў расейскі ўрад. Ён паказваў пэўную раздвоенасць пазіцыі ўраду ў адносінах да літоўскага руху (падаўленне руху і адначасна імкненне выкарыстаць яго патэнцыял у барацьбе з польскай грамадскасцю), да габрэйскай супольнасці, нават да старавераў.

Менавіта расейскае панаванне абярнулася забаронай усялякай грамадскай дзейнасці ў Краі і рабіла немажлівай «грамадзянскую пазіцыю» яго розных народаў. У выніку «*кожны змагаўся за сябе*»[32]. У заключэнні ён выказаў упэўненасць у падзенні расейскага ўраду, палітыка якога цалкам супярэчыць патрэбам развіцця Беларуска-Літоўскага краю і яго народаў.

Нейтралізацыю агрэсіўнага нацыяналізму Міхал Ромэр звязваў з пашырэннем ідэі супольнага грамадзянства, якая стане адной з галоўных у дактрыне краёвасці: «*Бліжэйшай задачай будучыні з'яўляецца арганізацыя сужыцця розных культурных элементаў у краі і ў Вільні на глебе супольнага грамадзянства без пагрозы культурна-нацыянальнай адметнасці. Як паланізацыя літоўцаў, так і літуанізацыя палякаў шкодзяць культурнаму развіццю*»[33].

Ён таксама імкнуўся паказаць, што гэтае сужыццё не з'яўляецца рамантычнай марай. Публіцыст падкрэсліваў дэмакратызм літоўскага руху і сцвярджаў рост уплываў сацыялістычных ідэй, характарызаваў дэмакратычныя і сацыялістычныя колы польскай грамадскасці, якія, паводле ягонага меркавання, не мелі прэтэнзій на Вільню, сцвярджаў перамены сярод габрэйскай супольнасці, што імкнецца да кантактаў з літоўскім сацыялістамі, нарэшце, прывёў прыклад падтрымкі старaверамі літоўскага змагання за каталіцкую веру і г. д.

У гэтай шырокай палітры нацыянальна-культурнага жыцця і змагання ў Беларуска-Літоўскім краі не хапала толькі беларусаў. Магчыма, што з далёкага Парыжы тыя перамены, якія адбываліся ў беларускім руху ў перыяд Расейскай рэвалюцыі 1905 г., было цяжка разглядзець і ацаніць.

Першы значны публічны выступ Міхала Ромэра быў інспіраваны польска-літоўскім канфліктам і спрэчкай за Вільню. Яна даволі часта фігуравала на старонках артыкула. Можна выказаць меркаванне, што асэнсаванне «віленскай праблемы» для М. Ромэра магло стаць свайго роду лабараторыяй выпрацоўкі ўласнага варыянту краёвай ідэі.

***

У заключэнне варта адзначыць, што з'яўленне аналізаваных тэкстаў было выклікана абвастрэннем польска-літоўскіх стасункаў на ўзроўні эліты маладой літоўскай нацыі і мясцовай польскамоўнай шляхты, свядомасць якой вызначалася формулай *Gente Lithuanus Natione Polonus*, а таксама складанай нацыянальна-культурнай сітуацыяй. Асаблівую ролю ў абвастрэнні міжнацыянальных стасункаў адыгрываў расейскі ўрад.

Іншым заўважальным сацыяльным матывам публічнага выступу Рамана Скірмунта і Міхала Ромэра стала ўсведамленні імі новай гістарычнай ролі ніжэйшых колаў грамадства. Абодва былі пэўныя, што народ ператвараецца ў вельмі важны фактар развіцця «гістарычнай Літвы». Таксама яны былі згодныя ў неабходнасці выпрацоўкі ці то «*палітычнай праграмы*» (Р. Скірмунт), ці то «*канцэпцыі развіцця Літвы*» (М. Ромэр) як праграмы дзейнасці для «літоўскіх палякаў».

У гэтых першых тэкстах былі выказаныя наступныя ідэі будучай канцэпцыі краёвасці:

- Ідэя супольнага («краёвага») грамадзянства як згоднага сужыцця розных нацый у Літве.
- Ідэя агульнага паходжання шляхты і сялянства (асабліва папулярная ў кансерватыўным варыянце краёвасці), адзінства крыві, «братэрства» з народам.
- Ідэя «лакальнага патрыятызму», любові да краю, да роднай зямлі як падмурку краёвага грамадзянства.

Чаму менавіта Раман Скірмунт і Міхал Ромэр выступілі з гэтымі тэкстамі? Гэтыя пытанні застаюцца...

Але ёсць падставы сцвярджаць, што краёвасць для Міхала Ромэра была непасрэдна звязаная з праблемай ягонай уласнай ідэнтычнасці, якая ў пэўным сэнсе складалася як з польскасці, так і з літоўскасці. Верагодна, актыўнай палітычнай дзейнасцю Міхал Ромэр спрабаваў вырашыць праблему ўласнай свядомасці.

Матывы публічнага выступу з «краёвымі» пастулатамі Р. Скірмунта больш загадковыя. Знойдзеныя біяграфічныя матэрыялы гавораць пра асобу з вельмі высокай ступенню адказнасці за тое, што адбываецца навокал. Гэта датычыла як роду Скірмунтаў, так і Палесся і ўсёй «гістарычнай Літвы», і, нарэшце, нават будучыні «*заходняй культуры*» ў гэтай частцы Еўропы. Магчыма, менавіта гэтае адчуванне асабістай адказнасці і падштурхнула яго да краёвай дзейнасці.

Тым больш, што апроч Канстанцыі Скірмунт, якая падзяляла ягоны клопат і сама пашырала краёвую ідэю, былі таксама прадстаўнікі роду, якія ў пэўным сэнсе спрабавалі «спыніць час». Так, Скірмунты з маёнтку Моладава (Кобрынскі пав.) ніколі не падзялялі поглядаў *Ro…munta* і належалі да той часткі «літоўскіх палякаў», якія варожа сустрэлі нацыянальныя рухі і працэсы пэўнай дэмакратызацыі грамадскага і палітычнага жыцця. Вядома, што будучы міністр замежных справаў Польшчы «моладаўскі»

Канстанцін Скірмунт жартаўліва называў стрыечнага брата Рамана Скірмунта з Парэчча *«нашым бальшавіком»*. Яны рабілі стаўку на Польшчу.

Канстанцыя Скірмунт звязвала ўласны лёс з Літвой, а ўладальнік Парэчча сцвярджаў значную ролю «Русі-Беларусі» як у гісторыі, так і ў будучыні Краю. Відавочна, што сярод прадстаўнікоў палескай галіны Скірмунтаў мела месца вялікая сямейная дыскусія, і, верагодна, першы публічны выступ Рамана Скірмунта ў пэўным сэнсе быў адным з галасоў гэтай «унутрысямейнай» палемікі.

Можна выказаць меркаванне, што для такіх ідэолагаў краёвасці як Раман Скірмунт і Міхал Ромэр надзвычай важнымі аказаліся асабістыя матывы першых публічных выступаў з ідэяй краёвасці. З іншага боку, іх прысутнасць у дзейнасці «піянераў» гэтай ідэі рабіла ўсю канцэпцыю больш зразумелай і прывабнай для значнай часткі «літоўскіх палякаў», якія прынамсі падчас выбараў у Дзяржаўную Думу і Дзяржаўную Раду Расейскай імперыі на пачатку XX ст. актыўна галасавалі якраз за краёўцаў.

---

1 Петровская И. Биографика. Санкт-Петербург, 2010, с. 30–31.

2 Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988, s. 212.

3 Ro…munt [Skirmunt R.]. Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej. Lwów 1904.

4 Römer M. Stosunki etnograficzno-kulturalne na Litwie // Krytyka, t. II, 1906, z. I, s. 53–59; z. II, s. 158–168; z. IV, s. 285–295; z. V, s. 388–395; z. VI, s. 496–502.

5 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. F. 138-2262. Römer M. Autożycioris.

6 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага універсітэту. F. 75–10. Römer M. Wspomnienie.

7 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. F. 138. Römer M. Dziennik.

8 Гл., напр., Solak Z. Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera 1880–1920. Kraków, 2004; Miknys R. Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w. // Biuletyn Historii Pogranicza, 2000, nr 1, s. 21–32; Мікніс Р. Міхал Ромэр (1880–1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца // Homo Historicus. 2008, с. 236–260; Sawicki J. Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 1998.

9 Skirmunt R. Panie z Muru // Słowo, 1934, Nr 134.

10 Skirmuntt K. Dzieje Litwy opowiedziane w zarysie. Kraków 1886.

11 Szpoper D. Gente Lithuana, natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934). Gdańsk, 2009, s 39.

[12] Дастаткова параўнаць змест аналізаванага тэксту Рамана Скірмунта з брашурай Канстанцыі Скірмунт (псеўданім «Futurus») «O prawdę i zgodę z powodu Głosu Litwinów do magnatów, obywateli i szlachty na Litwie i odpowiedzi młodego szlachcica litewskiego» (Lwów, 1904).
[13] Ro…munt [Skirmunt R.]. Głos przeszłości i potrzeba chwili, Lwów, 1905.
[14] Solak Z. Między Polską a Litwą…, s. 24.
[15] Ibidem, s. 44–45.
[16] Ibidem, s. 49.
[17] Ibidem, s. 51.
[18] Цыт. паводле: Solak Z. Między Polską a Litwą..., s. 444.
[19] [Dambrauskas A.]. Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie. [Tylza?], 1902.
[20] B.a. Przenigdy! Odpowiedź na «Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie», Kraków, 1903. (Польскія гісторыкі Ян Юркевіч і Пётр Ласоўскі шукалі аўтара гэтага тэксту сярод маладзейшага пакалення прадстаўнікоў роду Мейштовічаў).
[21] Ro…munt [Skirmunt R.]. Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej, s. 7.
[22] Ibidem.
[23] Ibidem, s. 13.
[24] Ibidem, s. 12.
[25] Ibidem, s. 14. (Больш грунтоўна гэты тэзіс будзе развіты Баляславам Ялавецкім у 1905 г. у выданні «Нацыянальны катэхізіс Літвы»).
[26] Ibidem, s. 18.
[27] Römer M. Stosunki etnograficzno-kulturalne na Litwie, z. I, s. 57.
[28] Ibidem, s. 58.
[29] Ibidem, z. IV, s. 290–291.
[30] Ibidem, z. V, s. 389
[31] Ibidem, z. II, s. 166.
[32] Ibidem, s. 159.
[33] Ibidem, s. 163.

# «ЛІВЕРПУЛЬ НА ЯСЕЛЬДЗЕ», АБО ЯШЧЭ ПРА ВЫТОКІ КРАЁВАСЦІ*

Праблема вытокаў фармавання краёвай ідэі застаецца адной з найбольш цікавых у даследаваннях гэтага ідэалагічнага феномену. Звычайна гісторыкі звяртаюць увагу на фактар памяці, дзе галоўную ролю адыгрывалі традыцыі Вялікага Княства Літоўскага і памяць пра мясцовыя карані ўласных радаводаў. Вытокі краёвай ідэі таксама відавочныя ў праблеме свядомасці «літоўскіх палякаў» на рубяжы XIX–XX ст., на вачах якіх «Край» станавіўся ўсё больш літоўскім і беларускім.

Але таксама трэба звярнуць увагу на намаганні актывістаў працэсу мадэрнізацыі на землях былога ВКЛ, якія стваралі першыя астраўкі індустрыяльнай цывілізацыі, і разглядалі гэта не толькі як сродак асабістага ўзбагачэння, але як пэўны абавязак у адносінах да роднай зямлі і навакольнага люду.

Мадэрнізацыя на беларускіх і літоўскіх землях істотна адрознівалася ад таго, што адбывалася ў Заходняй Еўропе і сталася пэўным узорам для большасці тэарэтычных прац. І тым не менш і на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага яна таксама спрыяла разбурэнню саслоўных межаў і пэўнай лібералізацыі сацыяльных і нацыянальна-культурных стасункаў. Да ліку «піянераў» мадэрнізацыі сярод людзей, звязаных з краёвай ідэяй, можна аднесці Баляслава Ялавецкага (1845–1918), Эдварда Вайніловіча (1847–1928) і парэцкіх Скірмунтаў. Дзяцінства аднаго з ідэолагаў краёвай ідэі Рамана Скірмунта (1868–1939) адбывалася ў маёнтку Парэчча, які стаўся свайго роду «Ліверпулем на Ясельдзе» і ў сярэдзіне XIX ст. засведчыў з’яўленне новай дынастыі прадпрымальнікаў.

Яго ўзнікненне звязанае з грамадскай і прадпрымальніцкай дзейнасцю Аляксандра Сымонавіча Скірмунта (1799–1870) і Аляксандра

---

* Артыкул быў апублікаваны ў зборніку: Szlachta i ziemiaństwo na pograniczach kulturowych dawnej Rzeczypospolitej od XVI do początku XX wieku. Pod redakcją D. Michaluk i K. Mikulskiego (Warszawa, 2016. S. 247–255) пад назвай: «Liverpool na Jasiołdzie», czyli szlachta dawnego Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec wyzwań epoki modernizacji». Артыкул дапрацаваны і ўпершыню друкуецца на беларускай мове.

Аляксандравіча Скірмунта (1830–1909), дзеда і бацькі ідэолага краёвасці ў яе кансерватыўнай версіі. Няма сумненняў, што для Рамана Скірмунта жыццё дзеда і асабліва бацькі было пэўным ўзорам адносінаў да роднай зямлі і яе жыхароў.

Гісторыя «Ліверпуля на Ясельдзе» – гэта таксама гісторыя пэўнага адказу шляхты былога ВКЛ на выклікі эпохі мадэрнізацыі. У гэтым выпадку шляхта, гістарычная роля якой, як здавалася, закончылася разам з падзеламі Рэчы Паспалітай, спрабавала ўзяць пэўны рэванш у новай для сябе галіне дзейнасці.

Як фармаваўся і што сабой уяўляў «Ліверпуль на Ясельдзе»? Што абумовіла нетыповую для шляхты дзейнасць прадстаўнікоў «парэцкай галіны» роду Скірмунтаў? Якім чынам прадпрымальніцкая дзейнасць дзеда і бацькі магла паўплываць на погляды краёўца Рамана Скірмунта?

Адказы на гэтыя пытанні даводзіцца грунтаваць амаль выключна на архіўнай інфармацыі пра гаспадарчую дзейнасць Скірмунтаў і стасункі паміж прадстаўнікамі розных галінаў роду. Пэўныя эго-дакументы парэцкіх Скірмунтаў, на жаль, цалкам адсутнічаюць.

Першая спроба паказаць эканамічнае значэнне гэта праекту Скірмунтаў належала гісторыку Андрэю Кіштымаву, публікацыі якога сталі добрым падмуркам для працягу даследаванняў[1].

Скірмунты па-за легендарнай часткай іх радаводу, звязанай з нашчадкам Палемона князем Наваградскім Скірмунтам, не належалі да эліты Вялікага Княства Літоўскага. У перыяд Вялікага Княства Літоўскага сярод іх не часта сустракаліся выбітныя асобы, якія мелі ўплыў на прыняцце важных палітычных рашэнняў. У XVI–XVIII стст. Скірмунты – гэта адзін з шматлікіх шляхецкіх родаў ВКЛ, які займаў розныя грамадскія і адміністрацыйныя пасады пераважна ніжэйшага і сярэдняга ўзроўню і беспадзельна панаваў на сваіх «загродах».

Хоць першыя дакументаваныя згадкі датычаць Богуша Скірмунта, які ў 1552 г. «*за дзяржаўную службу*» атрымаў ад каралевы Боны маёнтак Плотніца ў Пінскім пав.[2], але большасць даследчыкаў лічыць бясспрэчным жамойцкае паходжанне роду. Магчыма, першыя зямельныя ўладанні Скірмунтаў знаходзіліся ў Паневежскім і Расенскім пав.

Вельмі важную рысу гэтага роду адзначыў Браніслаў Залескі ў кнізе, прысвечанай Алене Скірмунт (1874). Ён пісаў, што дом гэтай сям'і быў адным з тых, каго называлі «гнездавымі», бо яго пачатак быў звязаны з пачаткам самой шляхты, што Скірмунтаў ніхто не мог назваць

чужынцамі. Наколькі сягала чалавечая памяць, яны належалі да карэнных мясцовых родаў, да спрадвечных жыхароў Краю[3].

Фактычна, толькі ў апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай Скірмунты здолелі ўмацаваць свае пазіцыі і параднiліся з вядомымі шляхецкімі родамі Друцкіх-Любецкіх, Ажэшкаў, Бутрымовічаў, Твардоўскіх, Сулістроўскіх ды інш. Гэта стала магчымым дзякуючы палітычнай актыўнасці дэпутата Чатырохгадовага сейму войта пінскага Адама Скірмунта (? – пасля 1820), а таксама мечніка пінскага Сымона Скірмунта (1747–1835).

Дзякуючы хуткаму кар’ернаму росту і шлюбу з Альжбетай Ажэшка С. Скірмунт сабраў даволі значны капітал. Архіўныя дакументы сведчаць нават пра пэўную фінансавую залежнасць гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага ад мечніка пінскага напрыканцы XVIII ст.[4] Ён спачатку арандаваў землі на Піншчыне і на Ашмяншчыне, а ў 1792 г. выкупіў у Агінскіх маёнтак Моладава з фальваркам Парэчча. Так пачыналася гісторыя «моладава-парэцкай» лініі роду[5].

На пачатку XIX ст. Скірмунты на Палессі адыгрывалі значную ролю ў гаспадарчым жыцці і займалі высокія пасады ў органах шляхецкага самакіравання. З 1811 па 1838 г. маршалкамі шляхты Пінскага пав. былі Сымон (1811–1814), Адам Тамашавіч (1814–1817 і 1835–1838) і Аляксандр Сымонавіч (1829–1835) Скірмунты[6].

Большасць прадстаўнікоў роду Скірмунтаў вяла традыцыйнае шляхецкае жыццё, якое грунтавалася на больш ці менш эфектыўнай эксплуатацыі прыгонных сялянаў у сваіх фальварках і суправаджалася дэманстрацыяй уласнай значнасці. Калі напрыканцы XVIII ст. Сымон Скірмунт выкупіў у Агінскіх маёнтак Моладава, то перш-наперш заняўся пабудовай уласнага палаца, які пазней лічыўся адным з найпрыгажэйшых у тагачаснай Літве[7]. Такім быў традыцыйны пачатак праўлення для амбітнай і багатай шляхты. Але ўжо сыны Сымона Скірмунта ступілі на шлях рэфармавання і заняліся прадпрымальніцтвам.

Магчыма, моцным штуршком для пераменаў сталі даўгі Агінскіх, якія Сымон Скірмунт выкупіў разам з маёнткам Моладава. Апроч таго пачатак XIX ст. не быў спрыяльным для гаспадарчага развіцця. Вайна 1812 г. паміж Расеяй і Францыяй адмоўна паўплывала на эканамічны стан Піншчыны, у т. л. і на стан скірмунтаўскіх уладанняў. Так, у красавіку 1814 г. маршалак шляхты Пінскага пав. Сымон Скірмунт падчас агульнага сходу шляхецкіх дэпутатаў Менскай губ. адзначыў цяжкія наступствы

знішчэнняў і рэквізіцый апошняй вайны і заявіў, што пасля пагашэння працэнтаў па тых даўгах, што ўсё яшчэ абцяжарвалі маёнтак, а таксама ўсіх выплат у дзяржаўны скарб ягоны маёнтак за 1813 г. не прынёс уладальніку аніякага прыбытку[8].

Пагроза поўнага эканамічнага заняпаду роду стала каталізатарам пераменаў. Адказам на гэты выклік была дзейнасць сына Сымона Аляксандра Ізідара (1799–1870)[9]. Відавочна, што ў гэтым выпадку важную ролю адыграла тая адукацыя, якую атрымаў галоўны арганізатар пераменаў.

Аляксандр Скірмунт закончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэту (1818) і працягнуў адукацыю за межамі Расейскай імперыі. Ва ўніверсітэтах Германіі і Францыі ён вывучаў хімію, прайшоў практыку на адной з французскіх фабрык (на тэрыторыі сучаснай Бельгіі) як звычайны рабочы. Дадому вярнуўся ў 1823 г.

У тым жа годзе ажаніўся на Канстанцыі Сулістроўскай[10], і ўзяў у свае рукі кіраванне сямейнай гаспадаркай[11]. На той час яна ўключала маёнткі Моладава (з фальваркам Парэчча), Альбрэхтова, Кажанёва і Клетна ў Кобрынскім пав. Гарадзенскай губ. і Пінскім пав. Менскай губ. Акрамя таго ў якасці пасагу за жонкай атрымаў маёнтак Шаметаўшчына ў Свенцянскім пав. Віленскай губ. (сучасная в. Шэметава Мядзельскага раёну). Агульная плошча зямельных уладанняў перавышала 33 тыс. га[12].

Першым прадпрымальніцкім праектам Аляксандра Скірмунта стала цукроўня. Пра гэта паведаміў супрацоўнік Польскага банка Контрым, які ў 1829 г. па загаду кіраўніцтва зрабіў выправу на Палессе, каб пазнаёміцца з узроўнем гандлю і гаспадаркі рэгіёну. Ён скрупулёзна фіксаваў усе праявы ажыўлення гаспадарчага жыцця. У прыватнасці, згадвалася з'яўленне на берагах Ясельды і Шчары невялікіх суконных фабрык, у т. л. Войцаха Пуслоўскага (наваколлі мястэчка Хомск і Слоніма) і Псымха Ясіноўскага (мястэчка Косава).

Контрым, ацэньваючы перспектывы развіцця фабрычнай прамысловасці на Палессі, адзначыў, што фабрыкі ўзнікаюць у памешчыцкіх маёнтках, а іх галоўнай працоўнай сілай з'яўляюцца прыгонныя сяляне. Пры гэтым ён падрабязна распавядаў пра планы палескіх прадпрымальнікаў. Між іншым паведаміў пра плантацыі цукровых буракоў у Моладаве Аляксандра Скірмунта і будаўніцтва там цукроўні, першая прадукцыя якой павінна была з'явіцца ўжо ў 1829 г.[13]

Магчыма, што абранне А. Скірмунтам менавіта гэтай галіны прамысловасці ў вялікай ступені было абумоўленае ягонай цікавасцю

да хіміі. Уладальнік маёнтка, дарэчы, атрымаў патэнт на ўласнае вынаходніцтва – апарат для паскоранага выпарэння цукровага сіропу[14]. Апроч таго, вытворчасць цукру на Палессі была цалкам наватарскай справай. Паводле дадзеных Энцыклапедычнага слоўніка Ф. Бракгаўза і І. Ефрона, ва ўсёй Расейскай імперыі ў 1830 г. мелася толькі 20 (!) цукровых заводаў[15]. Збыт прадукцыі быў гарантаваны.

Аднак маладога прадпрымальніка спаткала няўдача. Фабрыка не давала прыбытку. На думку Напалеона Орды, які быў сваяком А. Скірмунта і ведаў сітуацыю з «першых рук», няўдача была абумоўленая як адсутнасцю падрыхтаваных да фабрычнай працы кадраў, так і занятасцю ўладальніка, які якраз у 1829 г. быў упершыню абраны маршалкам шляхты Пінскага пав[16]. Выправіць сітуацыю не атрымалася, бо ў 1835 г. фабрыка з усімі гаспадарчымі пабудовамі згарэла.

Поспех прыйшоў у іншай галіне прамысловасці. У 1836 г. першую прадукцыю пачала даваць суконная фабрыка, збудаваная ў Парэччы. Абсталяванне набывалася за межамі імперыі. З Германіі і Францыі ў Парэчча прыехалі вопытныя ткачы. Дырэктарам фабрыкі стаў нямецкі спецыяліст. Тым не менш у першыя гады яе існавання прыбытку таксама не было. Адной з праблемаў былі занадта вялікія выдаткі на замежных спецыялістаў, што значна падвышала сабекошт прадукцыі. Урэшце рэшт А. Скірмунт звольніў дырэктара і сам узначаліў прадпрыемства. Праз некалькі гадоў, дзякуючы ягоным высілкам, Парэцкая суконная фабрыка па колькасці і якасці прадукцыі стала адным з лідэраў гэтай галіны прамысловасці на беларускіх землях.

На пачатку 40-х гг. XIX ст. асноўнай сыравінай для вытворчасці сукна была воўна «іспанскіх авечак», развядзеннем якіх займаліся ў Парэччы. Фарба набывалася за межамі Расеі. Сукно прадавалася ў Віленскай, Кіеўскай, Гарадзенскай і Менскай губ.

У 1843 г. на фабрыцы працавалі два замежныя спецыялісты і 215 мясцовых рабочых[17]. Замежнікі апроч працы на фабрыцы былі абавязаныя займацца навучаннем рабочых і майстроў з мясцовых ураджэнцаў. Апроч таго найбольш здольных мясцовых работнікаў А. Скірмунт пасылаў вучыцца і набірацца вопыту на іншыя фабрыкі Расеі і за яе межамі. Пасля вяртання яны займалі кіруючыя пасады на фабрыцы. Такім, напрыклад, быў лёс дырэктара фабрыкі ў 50–70-я гг. XIX ст. Аляксандра Скупееўскага, які пачынаў фарбавальшчыкам сукна[18].

На пачатку 50-х гг. XIX ст. на фабрыцы дзейнічала адна паравая машына, а праз 10 год – ужо тры машыны агульнай магутнасцю ў 62 конскія

сілы. З *«Спісу фабрык і заводаў Менскай губ за 1859 г.»* можна даведацца, што ў гэтым годзе на фабрыцы было выраблена 120 тыс. аршын сукна на суму 300 тыс. руб. На фабрыцы працавалі 16 майстроў і 382 рабочыя[19].

Першапачатковыя драўляныя будынкі фабрыкі зніклі. На беразе Ясельды ўзвышаліся каменныя фабрычныя гмахі, якія ўражвалі сваімі памерамі і пры гэтым адпавядалі пэўным эстэтычным узорам. Рабочыя працавалі пераважна на механічных станках нямецкай вытворчасці.

Уражвае сацыяльная палітыка Аляксандра Скірмунта. У Парэччы былі збудаваныя чатыры дамы (90 кватэр) для сямейных рабочых і чатыры інтэрнаты для тых, хто сям'і не меў. Уладальнік утрымліваў лекара і шпіталь на 12 ложкаў. Ён жа аплачваў харчаванне. Існавала вучылішча, дзе дзяцей вучылі асновам ткацкага рамяства.

Трэба адзначыць, што клопат пра пэўны дабрабыт як работнікаў парэцкіх фабрык, так і палешукоў з навакольных вёсак быў характэрнай рысай прадпрымальніцкай і грамадскай дзейнасці Скірмунтаў на працягу ўсяго XIX і на пачатку XX ст.

Нельга не адзначыць, што рэфарматарская дзейнасць маладога ўладальніка Моладава і Парэчча выклікала незадавальненне суседзяў. Архівы захавалі матэрыялы шматлікіх судовых справаў супраць Аляксандра Скірмунта, абумоўленых ягонымі гаспадарчымі launched пераўтварэннямі. Пашыраліся чуткі пра хуткі фінансавы крах маёнтку ды інш. Пасля 1835 г. ён ужо ніколі не займаў пасады маршалка шляхты Пінскага павету.

У 1860 г. Аляксандр Скірмунт адышоў ад кіравання маёнткам і перадаў яго сыну Аляксандру. Апошні быў выпускніком гімназіі ў Мітаве, вучыўся ва ўніверсітэце ў Пецярбургу, але не здолеў яго закончыць. На апошнім курсе бацька тэрмінова выклікаў яго ў Моладава, баючыся ўдзелу сына ў студэнцкіх хваляваннях.

Пачатак самастойнай прадпрымальніцкай дзейнасці Аляксандра Скірмунта (малодшага) супаў з вялікімі пераменамі ў эканамічным, палітычным і культурным жыцці як усёй імперыі, так і Беларуска-Літоўскага краю. Адмена прыгону ў 1861 г. і паўстанне 1863–1864 гг. цалкам змянілі гаспадарчую і грамадска-палітычную сітуацыю. У новых умовах аптымальным шляхам захавання ранейшых уплываў стала гаспадарчая і прадпрымальніцкая дзейнасць.

Аляксандр Скірмунт (малодшы) прыняў рашэнне пасяліцца ў Парэччы, якое адыгрывала вядучую ролю ў гаспадарцы ўсяго вялізнага маёнтку. Пры гэтым ён вырашыў наогул не будаваць палац. Месцам жыцця ягонай

сям'і стаўся перабудаваны цэх суконнай фабрыкі (!?). Ужо адно гэта сведчыць пра разрыў парэцкіх Скірмунтаў з пэўнымі традыцыямі шляхецкага жыцця і ўласнага радаводу. Аляксандр Скірмунт паглыбіўся ў гаспадарчыя справы, якія патрабавалі вялікай працы.



*Аляксандр Скірмунт. Фотаздымак. 1870-я гг.*

Гэты пераезд у Парэчча прадвызначыў розныя шляхі развіцця не толькі гэтых двух маёнткаў, але нават двух галінаў роду Скірмунтаў. Моладава паступова ператварылася ў захавальніцу шляхецкіх традыцый былой Рэчы Паспалітай, толькі звонку закранутых тэндэнцыямі тагачаснай мадэрнізацыі. Затое Парэчча стала пэўным сімвалам пераменаў у Беларуска-Літоўскім краі. Зрэшты, даволі абмежаваных, пра што сведчыць лёс спадчыны Аляксандра Скірмунта (старэйшага).

Пасля яго смерці ў 1870 г. маёнткі і прамысловасць былі падзеленыя паміж сынамі, але на працягу 70-х гг. увесь маёнтак апынуўся ў руках Аляксандра Скірмунта (малодшага), які выкупіў яго часткі ў братоў. Апошнія не мелі жадання весці ўласную гаспадарчую дзейнасць. Падобна, што гаспадарчыя поспехі Скірмунтаў з Парэчча не сталі ўзорам нават для блізкіх сваякоў.




*Дом Скірмунтаў у маёнтку Парэчча. Фотаздымак. Пачатак XX ст.*

Між тым прамысловасць, створаная ў Парэччы, уражвала многіх сучаснікаў. Аўтар апісання Менскай губ. Іван Зяленскі (1864) канстатаваў, што ўся прамысловасць Менскай губ. на пачатку 60-х гг. XIX ст. прадстаўленая шасцю цукроўнямі, двума

суконнымі фабрыкамі, свечным і мылаварным заводам[20]. Застаецца толькі дадаць, што трэцяя частка гэтай прамысловасці належала Аляксандру Скірмунту і канцэнтравалася ў Парэччы.

Найбольш увагі І. Зяленскі надаў характарыстыцы Парэцкай суконнай фабрыкі. Яе асноўнай прадукцыяй у той час былі тонкія сукна, трыко, сацін ды інш., а таксама падвойнае сукно. Па ўзроўню абсталявання фабрыка належала да найбольш сучасных. Аўтар апісання адзначыў, што ўладальнік не шкадаваў сродкаў дзеля набыцця апошніх навінак тэхнікі. Кошт усяго абсталявання разам з будынкамі ён ацаніў у 80 тыс. руб.

Воўна набывалася ў Падольскай, Кіеўскай, Валынскай, Гарадзенскай і Менскай губ., а таксама на кірмашах Варшавы, Харкава і Палтавы. Сукно выраблялася на 60-ці механічных станках саксонскай вытворчасці. Большая частка рабочых і падмайстраў складалася з былых прыгонных, а 1/3 – з габрэяў, былых салдат і дзяржаўных сялянаў. Усе яны мелі жыллё і харчаванне пры фабрыцы за кошт уладальніка. Пры гэтым рабочыя атрымлівалі заробку ад 15 да 40 руб. у год, а падмайстры – ад 100 да 200 руб. у залежнасці ад ўзросту, здольнасцяў і працоўных абавязкаў. Колькасць рабочых вагалася ад 200 да 300 чал. у залежнасці ад маштабаў вытворчасці. Майстроў было толькі пяцера. Усе яны прыехалі з Германіі. Іх заробак складаў ад 500 да 1 тыс. руб.[21]

За перыяд з 1856 па 1860 г. агульны кошт прадукцыі павялічыўся з 205 тыс. да 300 тыс. руб. Прадукцыя збывалася на месцы, а таксама прадавалася ў Менску, Вільне, Кіеве, Адэсе, Бердычаве, Варшаве, Маскве і Пецярбургу[22]. У 1870-я гг. колькасць рабочых на суконнай фабрыцы, цукроўні і ў механічных майстэрнях Парэчча даходзіла да 600 чалавек.

Развіццё прамысловасці ўносіла свае карэктывы ў сельскагаспадарчую дзейнасць маёнтка і вёскі, дзе з’явіліся плантацыі цукровых буракоў («*свекловицы*») і варсільных шышак. Інфармацыя пра варсільныя шышкі на Палессі ў 70-я гг. XIX ст. мела адценне сенсацыі. Справа ў тым, што без гэтых шышак не працавалі варсільныя машыны, якія якраз забяспечвалі высокую якасць прадукцыі. Шышкі вырошчваліся толькі ў Францыі. Гэты імпартны прадукт быў надзвычай дарагім. Скірмунты ў Парэччы самі навучыліся вырошчваць гэтыя шышкі, якія забяспечвалі вытворчасць на суконнай фабрыцы, а таксама ішлі на продаж[23].

Пра поспехі суконнай вытворчасці ў Парэччы між іншым сведчаць узнагароды, якія атрымлівала фабрычная прадукцыя. У 1865 г. на Мануфак-

турнай выставе ў Маскве парэцкае сукно атрымала вялікі срэбны медаль, а праз два гады ў Парыжы на Сусветнай выставе – ганаровы ліст[24]. Ёсць звесткі пра поспехі парэцкага сукна на Сусветных выставах у Вене (1873) і Парыжы (1878), дзе быў атрыманы вялікі срэбны медаль, на Усерасійскіх выставах у Маскве ў 1882 г. (залаты медаль) і Ніжнім Ноўгарадзе ў 1896 г. (срэбны медаль), а таксама на Юбілейнай сельскагаспадарчай і кустарна-прамысловай выставе ў Менску ў 1901 г. (залаты медаль)[25]. Апошнія поспехі былі звязаныя ўжо з Раманам Скірмунтам (1868–1939), які ў 90-я гг. фактычна стаў на чале парэцкай гаспадаркі.

Зрэшты перамены пачалі адбывацца яшчэ ў 1880-я гг., калі Аляксандр Скірмунт пачаў падбіраць сабе пераемніка з ліку сваіх сыноў. Ужо ў 1882 г. ён напісаў даверанасць на кіраванне маёнткам і ягонай прамысловасцю на імя сына Аляксандра, студэнта Варшаўскага ўніверсітэту. Аднак штосьці перашкодзіла апошняму ўступіць у кіраванне маёнткам. Трохі пазней роля кіраўніка дасталася сыну Раману.

Вядома, што ў 1900 г. сукно з Парэчча прадавалася ў адмысловых крамах у Маскве і Вільні[26]. На пачатку XX ст. фабрыка захоўвала свае высокія пазіцыі, хоць колькасць рабочых скарацілася да 250 чал. (1901, 1906)[27]. Падобна, што парэцкая фабрыка ў гэты час была адным з галоўных пастаўшчыкоў драпу для пашыву афіцэрскіх шынеляў для расейскай арміі.



*Прамысловасць Парэчча на малюнку Напалеона Орды. 1870-я гг.*

Аляксандр Скірмунт (малодшы) таксама адрадзіў цукровую вытворчасць у Парэччы. Новая цукроўня (1860) істотна адрознівалася ад папярэдніх. Ужо згаданы І. Зяленскі характарызаваў цукровы завод у Парэччы як «самы выдатны» *ў* Менскай губ. Ён адзначыў, што завод месціцца ў чатырохпавярховым каменным будынку (кошт будоўлі склаў 30 тыс. руб. срэбрам), мае 2 лакамабіля і 4 паравыя катлы (коштам у 70 тыс. руб.). Штодня ў цукроўні перапрацоўвалася да 1 000 ц цукровых буракоў па новай для таго часу тэхналогіі з выкарыстаннем цэнтрыфугі. У 1862 г. тут працавала 300 рабочых[28]. Штогод Парэцкі завод прадукаваў каля 9 тыс. пудоў цукру, у той час як астатнія пяць цукровых заводаў губерні – толькі каля

2,2 тыс.[29] За 5 месяцаў дзейнасці у 1861–1862 г. цукроўня дала ўладальніку 12,5 (!) тыс. руб. «чыстага прыбытку»[30].

Прадукцыя цукроўні была прадстаўленая на сусветнай выставе ў Парыжы, дзе атрымала бронзавы медаль і дыплом[31]. Аднак, калі ўзнагарода дайшла да ўладальніка фабрыкі, тая ўжо не існавала. Пажар 1879 г. цалкам знішчыў цукроўню. Уладальнік Парэцкага маёнтку вырашыў яе не аднаўляць. На яе месцы збудавалі вінакурны завод, які пачаў даваць прадукцыю ў 1880 г. Матэрыялы Менскага статыстычнага камітэту паведамляюць, што ў 1887 г. на заводзе дзейнічала адна паравая машына (20 к. с.) і два паравыя катлы (па 25 к. с.), а кошт прадукцыі склаў каля 19 тыс. руб.

Карэспандэнт варшаўскага часопіса «Kłosy» Ігнацы Аніхімоўскі (псеўданім «Земіслаў Шчыры») наведаў Парэчча ўвосень 1876 г. і быў уражаны ўбачаным. Вось, як выглядала ў той час Парэчча, паводле Ігнацыя Аніхімоўскага: *«Парэчча нагадвае невялікае замежнае мястэчка. Прыгожы двухпавярховы палацык, устроены з камфортам, аточаны прыгожымі скверамі, напоўненымі кветкамі, і стылёвымі альтанкамі, аплецеными плюшчом і дзікім вінаградам. Франтон упрыгожаны фантанам. З вокнаў адкрываецца прыемны від на Ясельду, якая цячэ каля сквераў і дубовага парка, шырока разліваецца і губляецца за даляглядам.*

*Паўсюль пануе суровы парадак. Усё адбываецца ва ўласцівы час. Нават штодзённае жыццё спадара Скірмунта прыстасаванае да фабрычнага званка. Калі глядзіш на гэтых рацыянальна актыўных людзей, пачынаеш разумець, якой каштоўнасцю з'яўляецца працоўны час […] З асаблівым задавальненнем я прыглядаўся да ўпарадкаванай сельскай гаспадаркі, клапатлівага вырошчвання лясоў, шырокім і добра дагледжаным дарогам. Быў сведкам завяршэння дрэнажа 50 моргаў зямлі, прызначанай пад буракі. Такім чынам, уладар асушыў поле. За гэты дрэнаж Аляксандр Скірмунт на выставе ў Шаўлях атрымаў медаль […] Адным словам, паўсюдна пануе парадак, накіраваны на тое, каб зробленыя паляпшэнні далі як мага лепшы вынік. Немагчыма лепей выкарыстаць галоўны прынцып палітычнай эканоміі»*[32].

Заняткі парэцкіх Скірмунтаў істотна змянялі стыль жыцця і свядомасць гэтай сям'і. Сціраліся ранейшыя сацыяльныя межы, што дзялілі шляхту і просты люд, які ў маёнтку быў прадстаўлены пераважна працоўнымі і майстрамі. Фабрычны рытм жыцця руйнаваў колішнія саслоўныя стэрэатыпы і прымушаў адмаўляцца ад амбіцый, заснаваных выключна на дасягненнях продкаў і родавай спадчыне. Безумоўна, усё гэта

можна разглядаць у шэрагу фактараў, якія спрыялі нараджэнню «краёўца» Рамана Скірмунта.

Аднак жыццё Парэчча знаходзілася ў выразнай супярэчнасці з жыццём навакольных палескіх вёсак і маёнткаў нават блізкіх сваякоў, у т. л. з суседняга Моладава. Здаецца, што гэтыя маёнткі, якія знаходзіліся на адлегласці 8 км, на самой справе дзяліла цэлая гістарычная эпоха. Варта прыгадаць, што будучы міністр замежных справаў II Рэчы Паспалітай Канстанцін Скірмунт з Моладава жартаўліва называў свайго стрыечнага брата Рамана Скірмунта *«нашым бальшавіком»*.

Большасць шляхты не пайшла шляхам парэцкіх Скірмунтаў. Узорам для іх было не Парэчча, а Моладава, уладальнікі якога быццам спрабавалі спыніць час. Тут захоўваліся традыцыі шляхецка-арыстакратычнага ладу жыцця часоў Рэчы Паспалітай абодвух народаў. Атмасфера была напоўнена арыстакратычным снабізмам і пыхай, дамінаваў культ Англіі і яе культуры. Недатыкальнымі выглядалі сацыяльна-саслоўныя межы, што дзялілі маёнтак і вёску. Паступова нарастаў канфлікт, які ўпершыню адкрыта праявіўся ў снежні 1905 г., калі ў Моладаве адбыліся моцныя сялянскія хваляванні.

Наведвальнікі Парэчча, якіх цікавілі перамены і навацыі, абміналі Моладава. Затое гэты маёнтак паступова ператвараўся ў пэўны цэнтр культуры, які наведвалі многія яе творцы. Варта назваць кампазітара, музыканта, мастака і пісьменніка Напалеона Орду (1807–1883), пісьменніцу Марыю Радзевічуўну (1863–1944) (магчыма, менавіта гаспадар Моладава Канстанцін Скірмунт натхніў яе на стварэнне вобраза Марка Чэртвана ў вядомым рамане «Дэвайціс» (1888). Тут знаходзіў новыя матывы для сваіх пейзажаў вядомы польскі мастак Юзаф Хэлмоньскі (1849–1914). У Моладаве таксама гасцявала пісьменніца і сваячаніца Скірмунтаў Эліза Ажэшка (1841–1910).



*Палац Скірмунтаў у Моладаве на малюнку Напалеона Орды. 1870-я гг.*

Пра жыццёвы рытм Моладава шмат гавораць радкі з ліста Канстанціна Скірмунта да Элізы Ажэшкі ад 30 верасня 1903 г.: *«Восень тут*

*(у Моладаве – А. С.) ужо халодная і шэрая. Увечары распальваем у каміне бібліятэкі полымя і сядзім за вялікім сталом над кнігамі. Хто-небудзь зайграе на піяніна, часам падзелімся нейкімі меркаваннямі, а потым ізноў цішыня, сярод якой нараджаюцца і пранікаюць у душу думкі […]»*[33]

Моладава і Парэчча быццам сімвалізуюць два шляхі, па якіх пайшла шляхта былога ВКЛ у XIX ст. Уладальнікі Парэчча сталі на шлях прамысловага рэфармавання маёнтку, што цалкам змяніла іх жыццёвы ўклад і ментальнасць. Атмасфера Парэчча моцна паспрыяла фармаванню асобы Рамана Скірмунта (1868–1939) як краёўца і дзеяча беларускага руху. Ужо ў сваіх першых публікацыях (1904) ён сцвярджаў, што XIX ст. стала стагоддзем дэмакратызацыі грамадства, што гістарычная роля шляхты ўжо адыграная, што толькі люд «*надае фарбы краёваму сцягу*»[34]. Успаміны, у т. л. вусныя ўспаміны жыхароў Парэчча малююць вобраз «*добрага пана*», які часта ішоў насустрач просьбам вяскоўцаў, быў узорным апекуном сялянаў.

Зусім іншая памяць захавалася пра апошняга ўладальніка Моладава Генрыка Скірмунта (1869–1939). У памяці вёскі ён і сёння прысутны як «*плахі пан*». Ніякага апякунства з боку «*пана*» ніхто не мог прыпомніць. Відавочна, што паміж вёскай і маёнткам захоўвалася вялізарная сацыяльная дыстанцыя. Генрык Скірмунт быццам свядома разбураў стэрэатып пана як культурнага, ветлівага, велікадушнага і далікатнага. Ірэна Шарэцка-Сасноўска, якая на пачатку XX ст. жыла ў маёнтку як дачка упраўляючага, пакінула пісьмовыя ўспаміны, у якіх пісала пра пастаянную «*дэманстрацыю сярэднявечнага феадалізму*» ўладальнікамі Моладава[35]. Відавочна, што «краёвец» Раман Скірмунт не мог нарадзіцца ў Моладаве.

Пра што сведчыць прыклад «Ліверпуля на Ясельдзе»?

Намаганнямі Аляксандра Сымонавіча, Аляксандра Аляксандравіча і Рамана Аляксандравіча Скірмунтаў у Парэччы быў створаны буйны прамысловы цэнтр, які зліквідаваў пагрозу эканамічнага заняпаду роду Скірмунтаў і ператварыў глухі куток Палесся ў астравок індустрыяльнай цывілізацыі. Адначасна сацыяльная палітыка парэцкіх Скірмунтаў ламала саслоўныя перагародкі і адкрывала шлях у новае грамадства, у якім краёвая ідэя магла нарадзіцца і мець шанцы на рэалізацыю.

Аднак дзейнасць Скірмунтаў-рэфарматараў, як у гаспадарчай, так і ў сацыяльнай сферы, не стала ўзорам не толькі для большасці шляхты Беларуска-Літоўскага краю, але нават для многіх блізкіх сваякоў. Прыклад «Ліверпуля на Ясельдзе» нават у кантэксце гісторыі аднаго шляхецкага

роду сведчыць хутчэй пра няўдачу працэсу трансфармацыі шляхецкага саслоўя.

Прычыны гэтай няўдачы патрабуюць грунтоўнага даследавання, якое між іншым павінна ўключаць аналіз сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Расейскай імперыі, а таксама яе палітыкі ў Беларуска-Літоўскім краі. Прыклад роду Скірмунтаў сведчыць пра моц пэўных шляхецкіх традыцый і стэрэатыпаў, пра арыентацыю значнай часткі шляхты на каштоўнасці, звязаныя з эпохай Рэчы Паспалітай. Відавочна, што не адбылося грунтоўных зменаў у той карціне свету, якая вызначала падыходы большасці шляхты да сацыяльна-эканамічных і палітычных пераменаў XIX стагоддзя. Адпаведна краёвая ідэя не магла мець шырокай сацыяльнай базы нават сярод «тутэйшай» эліты, якая ніколі не забывала пра мясцовыя карані ўласных радаводаў.

Карціна свету «літоўскіх палякаў» кардынальна змянілася толькі на пачатку XX ст. і не ў выніку перамогі рэфарматараў-краёўцаў, а пад ударамі рэвалюцый і паражэння Расеі ў Першай сусветнай вайне. Аднак гэтыя ж палітычныя падзеі актывізавалі нацыянальныя працэсы на беларускіх і літоўскіх землях, што ў выніку абярнулася паражэннем краёвай ідэі і палітычным падзелам «гістарычнай Літвы» паміж Польшчай, Літвой і савецкай Расеяй.

---

[1] Гл., напрыклад: Кіштымаў А. Аляксандр Скірмунт // Славутыя імёны Бацькаўшчыны: зборнік. Вып. 2 / Уклад. У. Гілеп і інш. Мінск, 2003, с. 374–380.

[2] Российский Государственный исторический архив (РГИА). Ф. 1343, оп. 29, д. 3574, л. 46.

[3] Zaleski B. Z życia Litwinki. 1823–1874. Z listów i notatek. Poznań, 1876, s. 7–8.

[4] Biblioteka naukowa PAN i PAU w Krakowie. Zbiory specjalne. Sygn. 4458; sygn. 4462, t. 1; sygn. 4463, t. 2 і г. д.

[5] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ) у Менску. Ф. 319, воп. 2, ад. з. 2969, а. 160–162; Федорук А. Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Минск, 2006, с. 32–41.

[6] Алфавитный список дворянским родам Минской губ., внесенным в дворянскую родословную книгу па 1 июля 1903 г. Минск, 1903, с. 145.

[7] Skirmunt K. Moje wspomnienia. Kraków, 1997, s. 5.

[8] НГАБ. Ф. 319, воп. 1, адз.з. 848, арк. 18

[9] Вяроўкін-Шэлюта У. Скірмунты // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Мінск, 2001, с. 322.

[10] Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Część druga. Petersburg, 1897, s. 35 (Ч. Янкоўскі ў сваёй кнізе згадаў пра іх «шумнае вяселле» 1823 г. у Варнянах на Ашмяншчыне – *заўвага А. С.*).
[11] Orda N. Aleksander Skirmunt // Tygodnik ilustrowany. 1871, Nr 175.
[12] Konarski St. Skirmunt Aleksander (1798–1970) // Słownik Polski Biograficzny. T. XXXVIII/2, zeszyt 158. Kraków, s. 174.
[13] Podróż Kontryma, urzędnika Banka Polskiego odbytaja w roku 1829 po Polessiu. Wydana przez Edwarda Raczyńskiego w Poznaniu. 1839, s. 50.
[14] Свод выданных в России привиллегий с 1814 по 1835 г. СПб., 1865, с. 289–292; Киштымов А. Западнополесская династия Скирмунтов XIX–XX вв. // Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёну Беларусі / Рэд. С. Арцеменка ды інш. Брэст, 1998, с. 88.
[15] Энциклопедический словарь / издатели Ф. А. Брокгауз и И. А. Ефрон. Т. 29 (58): Сахар-Семь мудрецов. Спб., 1900, с. 16.
[16] Orda N. Aleksander Skirmunt // Tygodnik illustrowany. 1871, Nr 175, s. 213.
[17] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, ад.з. 871, арк. 109 адв. – 110.
[18] Orda N. Aleksander Skirmunt // Tygodnik ilustrowany. 1871. Nr 175, s. 214; НГАБ. Ф. 295, воп. 1, ад. з. 3401, арк. 4.
[19] НГАБ. Ф. 21, воп. 1, ад.з. 5, арк. 448 адв.
[20] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губ. Часть 2 / составил И. Зеленский. СПб., 1864, с. 241–242.
[21] Тамсама, с. 256–257.
[22] Тамсама, с. 258.
[23] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага ўніверсітэту. F 34–248. П. Раковский. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Поречского народного училища. Вопрос 51.
[24] Тамсама, с. 89; Szczerzy Z. Lipowa, w październiku 1876 r. // Kłosy. 1877, Nr 606.
[25] Киштымов А. Западнополесская династия Скирмунтов XIX–XX вв. , с. 89.
[26] Вся Россия. Русская книга промышленности, торговли, сельского хозяйства и администрации. Адрес-календарь Российской империи. Том 1. СПб., 1900, стлб. 94, 1065.
[27] НГАБ. Ф. 458, воп. 1, ад. з. 352, арк. 43–44 адв.
[28] Orda N. Aleksander Skirmunt // Tygodnik ilustrowany. 1871, Nr 175, s. 214.
[29] Ibidem, s. 246–248.
[30] Ibidem, s. 249–250.
[31] НГАБ. Ф. 295, воп. 1, ад.з. 3401, арк. 1–3.
[32] Szczerzy Z. Wycieczka po Piński i Pińszczyźnie // Kłosy. 1877, Nr 606.
[33] Orzeszkowa E. *Listy zebrane. T. 9* /do dr. przygot. i komentarzem opatrzył Edmund Jankowski Wrocław, 1981, s. 564.
[34] Ro…munt [Skirmunt R.].. Głos przeszłości i potrzeba chwili. Lwów, 1904, s. 29.
[35] Pamiętnik Jreny Szareckiej-Sosnowskiej. Rękopis. (Асабісты архіў аўтара).

# ДЗЁННІК МІХАЛА РОМЭРА ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ ПАЧАТКУ XX ст.*

У Бібліятэцы імя Урублеўскіх Акадэміі Навук Літвы, а таксама ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта захоўваюцца амаль сорак тамоў Дзённіка Міхала Ромэра. Ён ахоплівае перыяд з 1911 па 1945 г. Гэтая надзвычай цікавая крыніца па гісторыі Літвы, Польшчы і Беларусі, на жаль, пакуль застаецца па-за ўвагай беларускіх даследчыкаў.

Некалькі словаў пра асобу аўтара. Міхал Ромэр (1880–1945) – цікавая і неардынарная постаць у гісторыі нашага рэгіёну. Юрыст, публіцыст, навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч у 1906–1915 гг. быў адным з галоўных ідэолагаў дэмакратычнай плыні сярод краёўцаў. У той час іх падтрымлівала частка інтэлігенцыі і землеўладальнікаў Літвы («літоўскіх палякаў»), у свядомасці якіх пачуццё прыналежнасці да польскай нацыі спалучалася з адчуваннем свайго беларускага або літоўскага паходжання і ўспрыняццем Беларуска-Літоўскага краю як Радзімы і зямлі продкаў.

Краёвы рух грунтаваўся на ідэі палітычнай нацыі, г. зн. на перакананні, што ўсе карэнныя жыхары Краю незалежна ад нацыянальна-культурнай прыналежнасці і саслоўнага паходжання належаць да адзінай нацыі палітычнага тыпу і з’яўляюцца «грамадзянамі Літвы» ў выпадку, калі трактуюць яе як уласную Радзіму і з’яўляюцца яе патрыётамі. Пры гэтым «Літва» разумелася як пэўны гісторыка-культурны феномен і ўключала ўсе тэрыторыі і народы былога Вялікага Княства Літоўскага. Фактычна, гаворка ішла пра г. зв. «гістарычную Літву».

Краёвая ідэя стварала падмурак для супрацоўніцтва дзеячаў розных нацыянальных рухаў. Краёўцы-дэмакраты Міхал Ромэр, Людвік Абрамовіч, Браніслаў Крыжаноўскі, Тадэвуш Урублеўскі, Аляксандр Лядніцкі ды інш. выдатна выкарыстоўвалі гэтую магчымасць. У адрозненні ад

* Артыкул упершыню быў апублікаваны ў *Беларускім гістарычным аглядзе* ў 1998 (том 5, сшытак 1, с. 03–111). Гэтая версія артыкула з’яўляецца папраўленай і дапоўненай.

кансерватыўнай плыні краёўцаў, да якіх належалі Канстанцыя Скірмунт, Чэслаў Янкоўскі, Раман Скірмунт, Эдвард Вайніловіч, Баляслаў Ялавецкі ды інш., іх не палохаў сацыяльны радыкалізм беларускага і літоўскага рухаў, а таксама большасці габрэйскіх арганізацый.

Кантакты з дзеячамі беларускага руху, у якіх галоўную ролю адыгрываў якраз Міхал Ромэр, асабліва былі актыўнымі ў перыяд 1911–1915 гг.

У маі 1915 г. М. Ромэр пакінуў Вільню, каб далучыцца да легіёнаў Юзафа Пілсудскага. У гэты час менавіта з ідэяй незалежнай Польшчы ён звязваў надзею на самастойную будучыню Беларуска-Літоўскага краю, які сам павінен быў вызначыць характар адносінаў з бліжэйшымі суседзямі, у т. л. з Польшчай.

Праз чатыры гады па даручэнню Ю. Пілсудскага ён адправіўся ў Коўна, каб наладзіць кантакты з палітыкамі Літоўскай дзяржавы. Магчыма, ён не быў найлепшай кандыдатурай для такой місіі, бо не меў пэўнасці, ці не хаваецца за гэтай федэралісцкай канцэпцыяй палітыка экспансіі Польшчы на ўсход. Сустрэчы ў Коўне пераканалі яго, што планы Ю. Пілсудскага не знойдуць падтрымкі сярод літоўцаў.

У 1920 г. М. Ромэр, які захоўваў вернасць ідэалогіі краёўцаў-дэмакратаў, асудзіў захоп Вільні войскамі генерала Люцыяна Жалігоўскага. Гэтыя падзеі прымусілі яго зрабіць канчатковы палітычны выбар. Ён перабраўся ў Коўна і далейшы свой лёс звязаў з Літоўскай дзяржавай і літоўскай культурай. У 1922 г. ён быў зацверджаны прафесарам адміністратыўнага права Універсітэту Вітаўта Вялікага ў Коўне. Пазней двойчы выбіраўся ягоным рэктарам.

У 1940 г. ён вярнуўся ў Вільню, каб узначаліць пераведзены сюды літоўскі ўніверсітэт. Паводле ягонай ініцыятывы, былі арганізаваныя дыскусіі з удзелам польскіх і літоўскіх дзеячаў дзеля дасягнення пэўнага паразумення. Польская супольнасць Вільні і Віленшчыны не прымала палітыкі гвалтоўнай літуанізацыі. У час нямецкай акупацыі ён меў дачыненне да арганізацыі тайнага навучання ў Вільні, падтрымліваў сувязі з Арміяй Краёвай. Памёр 22 лютага 1945 г.

Міхал Ромэр пакінуў пасля сябе значную навуковую спадчыну. Варта адзначыць такія даследаванні як, напрыклад, «Stosunki etnograficzno-kulturalne na Litwie» (Kraków, 1906), «Litwa. Studium o odrodzeniu narodu litewskiego» (Lwów, 1908), «Administracinis teismas» (Kaunas, 1928), «Dabartines konstitucijos» (Kaunas, 1932), «Sovietunaujoji 1936 metu konstytucija» (Kaunas, 1938) ды інш.

Асобнае месца ў спадчыне Міхала Ромэра займае ягоны Дзённік. Першы запіс у ім быў зроблены 1 студзеня 1911 г. Звычайна кожнаму дню прысвячалася адна старонка. Аднак іншым разам для апісання нейкай важнай падзеі месца не хапала, і М. Ромэр працягваў аповед у наступныя дні. Такім чынам, захавалася апісанне амаль 12,5 тыс. дзён з жыцця гэтага чалавека.

Доўгі час Дзённік быў недаступны даследчыкам. Справа ў тым, што М. Ромэр дазволіў карыстацца ім толькі праз 25 год пасля яго смерці. Аднак у 1960-я гг. з ім ужо працаваў Ежы Ахманьскі. Аўтарам адной першых публікацый, прысвечаных гэтай гістарычнай крыніцы, стаў Вінцас Марцінкенс. Ягоны артыкул быў змешчаны на старонках часопіса «Kulturos barai» у 1976 г. Таксама трэба адзначыць публікацыю гісторыка Браніслава Макоўскага «Michał Römer i jego dziennik» на старонках кракаўскага часопіса «Czas» (1989, Nr 6). На пачатку 1990-х гг. Дзённік стаўся аб'ектам інтэнсіўных даследаванняў літоўскіх і польскіх навукоўцаў.

Першыя 34 тамы дзённіка (ад 1 студзеня 1911 г. да 20 мая 1933 г.) захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы (F 138). Астатнія – у аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэту.

Для беларускіх навукоўцаў асаблівую цікавасць уяўляюць першыя шэсць тамоў (да мая 1915 г.), а таксама тамы за 1918–1920 гг. Яны з'яўляюцца выключна важнай крыніцай па гісторыі краёўцаў і ствараюць магчымасць грунтоўнага аналізу гісторыі дэмакратычнай плыні польскага руху ў Літве і Беларусі, кантактаў паміж дзеячамі розных нацыянальных рухаў, а таксама знаёмяць з асаблівасцямі польскай палітыкі на «Усходзе» пасля заканчэння Першай сусветнай вайны.

Запісы Дзённіка ўтрымліваюць каштоўную інфармацыю пра дзейнасць віленскага беларускага кола, цэнтрам якога была рэдакцыя «Нашай Нівы». М. Ромэр даволі блізка ведаў братоў Луцкевічаў і Аляксандра Уласава. Некаторыя старонкі Дзённіка выклікаюць жаданне ўжыць слова «сябраваў». Ён неаднаразова сустракаўся з Іванам Краскоўскім, Вацлавам Ластоўскім і Вацлавам Іваноўскім. Сярод ягоных знаёмых быў Янка Купала ды іншыя дзеячы беларускага руху.

Што ж сабой уяўляла пазіцыя аўтара? Якім быў той пункт погляду, зыходзячы з якога М. Ромэр выказваў свае адносіны да падзеяў і асобаў беларускай, літоўскай і польскай гісторыі?



*Старонка Дзённіка за 29 лістапада 1919 г.*



*Старонка Дзённіка за 25 студзеня 1920 г.*

Адносна перыяду 1911–1915 гг. крэда Міхала Ромэра як краёўца-дэмакрата заставалася нязменным. Ён зыходзіў з існавання адзінага краёвага грамадства, незалежнага ад нацыянальна-культурнай свядомасці таго або іншага «грамадзяніна краю». У грамадска-палітычнай дзейнасці краёвец імкнуўся *«да пабудовы адзінага грамадскага будынка, а не шэрагу этнічных хатаў»*[1].

Якраз таму намаганні дзеячаў асобных нацыянальных рухаў па стварэнню лепшых палітычных і культурных умоваў для развіцця ўласнай нацыі ён расцэньваў як праявы шавінізму і нязменна асуджаў. Падмуркам *«адзінага краёвага будынка»* для аўтара дзённіка быў дэмакратычны лад жыцця. Ромэр лічыў, што толькі ў гэтым выпадку будуць створаныя адпаведныя ўмовы для развіцця кожнага народу Краю.

М. Ромэр і ягоныя аднадумцы адназначна ставілі на пярэдні план інтарэсы *«вытворчых класаў»* (*«klas wytwarzających»*). Яны былі ўпэўненыя, што задавальненне сацыяльных, эканамічных і культурных патрабаванняў сялян, рабочых, рамеснікаў і інтэлігенцыі з’яўляецца неабходнай умовай далейшага грамадскага прагрэсу. У адрозненні ад

дактрыны лібералізму яны лічылі неабходным актыўны ўдзел у гэтым працэсе дзяржавы як заканадаўчага і кантралюючага органа. У першую чаргу гэта адносілася да вырашэння аграрнай праблемы.

Погляды краёўцаў-дэмакратаў шмат у чым набліжаліся да праграмы Польскай партыі сацыялістычнай (ППС). Зусім невыпадкова некаторыя з іх (Аляксандр Заштаўт, Вітальд Абрамовіч ды інш.) удзельнічалі ў сацыялістычным руху.

Пад *«адзіным краёвым будынкам»* у 1911–1915 гг. разумелася самастойная Літва ў яе «гістарычных межах» (часцей думалі пра яе аўтаномію), якая б працягвала традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Праблема ўніі з Польшчай абвяшчалася прэрагатывай Сейму ў Вільні, скліканага на падставе ўсеагульнага, роўнага і простага выбарчага права.

Аналізуючы сутнасць краёвай пазіцыі М. Ромэра, цяжка ўстрымацца ад заўвагі пра пэўны рамантызм яе аўтара. Працэсы нацыянальна-культурнага Адраджэння, прыгнечаных царызмам народаў Літвы набылі амаль незваротны характар. «Тутэйшыя» звычайна станавіліся не краёўцамі, а палякамі, літоўцамі, рускімі або беларусамі.

Якія сюжэты Дзённіка заслугоўваюць асаблівай увагі даследчыкаў беларускай гісторыі?

Адразу варта адзначыць запісы, прысвечаныя кантактам аўтара Дзённіка з беларускімі дзеячамі. Іх сустрэчы насілі як дзелавы, так і сяброўскі характар. М. Ромэр любіў наведваць рэдакцыю «Нашай Нівы», атмасфера якой яму вельмі падабалася. На старонках Дзённіка ён, у прыватнасці, адзначаў адданасць беларусаў *«сваёй справе, якая ўспрымаецца імі не як механічная праца або прафесійны абавязак, а як жывая творчасць, як найбольш поўнае праява іх жыцця, іх энергіі, іх волі»*[2].

Аўтарскія характарыстыкі і заўвагі, якія датычаць многіх вядомых беларускіх палітыкаў і дзеячаў культуры, ствараюць магчымасць глыбокага асэнсавання іх пазіцый па самых розных аспектах грамадска-палітычнага і культурна-рэлігійнага жыцця Краю. Цікавасць выклікаюць і некаторыя агульныя разважанні аўтара Дзённіка аб беларусах і Беларусі.

Цалкам новы для беларускай гістарыяграфіі факталагічны матэрыял утрымліваюць запісы, у якіх адлюстраваліся кантакты паміж дзеячамі дэмакратычных плыняў польскага, беларускага і літоўскага рухаў, сябрамі габрэйскіх арганізацый, прадстаўнікамі рускай дэмакратычнай грамадскасці.

У першую чаргу, гэта датычыць выдавецкай дзейнасці. Так, у маі 1911 г., як адзначыў М. Ромэр, упершыню была выказаная ідэя арганізацыі міжнацыянальнага дэмакратычнага выдання ў Вільні. Спачатку гэта павінна была быць «аднадзёнка» («jednodniówka»), г. зн. аднаразовае сумеснае выданне. Пазней размовы пайшлі пра штотыднёвік або штодзённае выданне.

Аднак спробы рэалізацыі гэтай ідэі выявілі непадрыхтаванасць краёўцаў-дэмакратаў да цеснага супрацоўніцтва. Міхала Ромэра асабліва ўсхваляваў недавер часткі польскіх дэмакратаў да беларусаў. Урэшце, як сведчаць запісы Дзённіка, менавіта беларусы ўзялі ініцыятыву ў свае рукі. У другой палове 1912 г. Антонам Луцкевічам быў распрацаваны план цэнтралізацыі краёвага дэмакратычнага друку. Ён жа разам з братам і пачаў яго рэалізацыю.

У выніку да віленскага беларускага дэмакратычнага друку («Наша Ніва» і «Саха») далучыліся штодзённыя рускамоўная «Вечерняя газета»[3] (з верасня 1912 г.) і польскамоўны «Кур'ер краёвы»[4] (з лістапада 1912 г.). Яны таксама выдаваліся беларусамі. Антон Луцкевіч інкогніта кіраваў «Вечерней газетай». Гэта пацвярджаюць матэрыялы Дэпартамента паліцыі, агенты якога ўстанавілі імя сапраўднага рэдактара газеты[5], а таксама матэрыялы Музея імя Івана Луцкевіча, якія захоўваюцца ў Беларускім Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва[6].

Адначасова Антон Луцкевіч актыўна ўдзельнічаў у выданні «Кур'ера краёвага», а часам фактычна ім кіраваў. М. Ромэр таксама меў непасрэднае дачыненне да з'яўлення гэтай газеты, а ў сакавіку 1913 г. увайшоў у склад яе рэдакцыі.

Артыкулы Антона Луцкевіча ў гэтых выданнях друкаваліся або без подпісу або пад псеўданімамі ці крыптонімамі. Аднак параўнальны аналіз матэрыялаў дзённіка М. Ромэра, публікацый «Вечерней газеты» і «Кур'ера краёвага» дазваляе раскрыць аўтарства Антона Луцкевіча і пашырыць базу крыніцаў па гісторыі беларускага Адраджэння рускамоўнай і польскамоўнай спадчынай вядомага беларускага палітыка. Варта адзначыць, што ў гэтых публікацыях А. Луцкевіч выступаў як краёвец-дэмакрат, які пры гэтым трактаваў краёвасць на карысць беларускага народа. Наогул, «беларускі ўхіл» краёвасці А. Луцкевіча можа быць тэмай асобнага даследавання.

Увагу беларускіх даследчыкаў павінен прыцягнуць і масонскі сюжэт. Справа ў тым, што кантакты паміж польскімі, беларускімі, літоўскімі,

габрэйскімі і рускімі дэмакратамі Віленшчыны адбываліся таксама на паседжаннях віленскіх масонскіх ложаў. Як сведчаць запісы Дзённіка, Іван Луцкевіч і Іван Краскоўскі ўваходзілі ў склад ложы «Еднасць», заснаванай у 1910 г., Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі – у склад ложы «Літва» (1911). Пасля арганізацыі ў 1914 г. ложы «Беларусь», А. Луцкевіч і І. Краскоўскі папоўнілі шэрагі яе «братоў»[7]. Сам М. Ромэр быў прыняты ў склад ложы «Еднасць» у сакавіку 1911 г. Ягоная «масонская кар’ера» была вельмі хуткай. У канцы гэтага ж года ён узначаліў ложу «Літва».

Віленскія масонскія ложы былі аддзяленнямі «Вялікага Усходу Францыі» (з 1913 г. (?) «Вялікага Усходу народаў Расеі»), у якую ўваходзіла шмат вядомых палітычных дзеячаў Расеі, пераважна ліберальна-дэмакратычных поглядаў. Паведамленні пра сходы «братоў» былі змешчаныя ў Дзённіку ў зашыфраваным выглядзе. Тым не менш яны дазваляюць зразумець нацыянальны і колькасны склад удзельнікаў чарговага масонскага паседжання. Таямніцу віленскіх масонаў М. Ромэр раскрыў у томе 4. Пазней таксама пісаў пра яе ў тамах 17 і 28 свайго Дзённіка.

Раскрыццё таямніцы было звязанае з рашэннем М. Ромэра далучыцца да войскаў Ю. Пілсудскага. Усведамляючы ўсю небяспеку свайго «падарожжа» ён вырашыў расказаць пра ідэалогію віленскіх масонаў і гісторыю стварэння ложаў. Краёвец аспрэчваў успрыняцце масонаў як тайнай арганізацыі, дзейнасць якой нібыта накіраваная супраць агульначалавечых каштоўнасцяў. Ён сцвярджаў, што «браты» віленскіх ложаў імкнуліся да «*братэрства, любові і вольнасці чалавечага духа*». Іх мэтаю былоператварэнне гэтага прывабнага лозунга ў *«рэальнасць сумлення, дзеянняў і адносінаў у чалавечым сужыцці»*[8].

Сапраўды, прыведзеныя «масонскія матэрыялы», як у кантэксце Дзённіка, так і ў кантэксце грамадска-палітычнай і культурнай дзейнасці, згаданых «віленскіх братоў», абвяргаюць распаўсюджанае ў масавай свядомасці негатыўнае ўспрыняцце масонаў. Форма масонскай арганізацыі давала магчымасць ва ўмовах палітычнага і грамадскага бяспраўя змагацца за перабудову расейскай дзяржавы на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму.

Дзённік таксама знаёміць беларускіх даследчыкаў з фактамі прапаганды ідэалогіі беларускага руху і краёвасці ў яе «беларускім варыянце», якая актыўна вялася ў Вільні беларусамі «нашаніўскага кола».

Увагу гісторыкаў могуць прыцягнуць спробы паразумення і каардынацыі дзейнасці дэмакратычных элементаў усіх нацыянальных рухаў напярэдадні выбараў у IV Дзяржаўную Думу ў Вільні. Дарэчы, як

сведчаць дзённікавыя запісы, актыўную ролю ў пошуках паразумення адыгрываў Аляксандр Уласаў. Таксама матэрыялы Дзённіка дазваляюць узняць праблему кантактаў дзеячаў «нашаніўскага кола» з Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыяй «Народнай свабоды».

Абмеркаванне будучыні Краю выклікала пэўны крызіс у беларуска-літоўскіх адносінах. Запісы Дзённіка адлюстравалі сутыкненне літоўскай канцэпцыі аўтаноміі «этнаграфічнай Літвы» з далучанымі да яе каталіцкімі рэгіёнамі Віленшчыны і Гарадзеншчыны і сталіцай у Вільні з беларускай дактрынай аўтаноміі «гістарычнай Літвы». Беларусы лічылі Вільню сталіцай усяго Краю, а літоўскія прэтэнзіі на Гарадзеншчыну і Віленшчыну расцэньвалі як захопніцкія. Дарэчы, Дзённік стварае магчымасць аналізу адносінаў розных колаў польскай і літоўскай грамадскасці да беларускага культурнага і палітычнага руху.

Далучэнне Дзённіка Міхала Ромэра да ліку асноўных гістарычных крыніцаў беларускай гісторыі павінна значна ўзбагаціць нашае разуменне працэсаў беларускага нацыянальна-культурнага і палітычнага Адраджэння пачатку XX ст. Асаблівую цікавасць гэты Дзённік уяўляе для даследчыкаў эвалюцыі беларускай нацыянальнай ідэі, а таксама шляхоў да незалежнасці ў 1918–1920 гг.

## *Фрагменты дзённіка Міхала Ромэра. 1911–1913 гг.*

Т. 1. Запіс ад 7 (20). 02. 1911 г. С. 38.

[...] Увечары пару гадзін правёў сярод беларусаў у рэдакцыі «Нашай Нівы». Кола супрацоўнікаў «Нашай Нівы» з’яўляецца для мяне адным з найбольш сімпатычных у Вільні. Ёсць у іх вялікая шчырасць волі, моцная адданасць справе, якая ўспрымаецца не як механічная праца або прафесійны абавязак, а як жывая творчасць і найбольш поўная праява іх жыцця, іх энергіі, іх волі. Яны цалкам паглыбленыя ў сваю справу, толькі ёй і жывуць. Кожны з іх – адметная асоба. Кожны мае выразную і непаўтаральную індывідуальнасць. Шаблон калектыўнасці ў іх цалкам адсутнічае. Касцістая індывідуальнасць тлумачыцца менавіта шчырым і самаадданым падыходам да справы. У жывой дзейнасці індывідуальнасці прынамсі не нівеліруюцца пэўным шаблонам, а наадварот развіваюцца і ўдасканальваюцца, даходзячы да паўнаты самараскрыцця.

Т. 2. Запіс ад 4 (17). 09. 1911 г. С. 19.

У Вільні застаў усіх узрушанымі пакушэннем на Сталыпіна. Радасць і – смела можна сцвярджаць – агульны энтузіязм. Пакушэнне, здзейсненае ў такой выдатнай інсцэнізацыі, усіх наэлектрызавала. Узнёслась настрою параўнальная з часамі рэвалюцыі 1905 г. Прынамсі рэвалюцыя яшчэ жыве і яшчэ не задушаная, калі магчымы падобныя тэрарыстычныя акты. А ўсе разумеюць, што гэтае пакушэнне задуманае і спланаванае [...]

Пакушэнне, здзейсненае ў тэатры ў прысутнасці і на вачах манарха, на фоне вялікай урачыстасці [...] – гэта папросту казка. Гэта не толькі пакушэнне на Сталыпіна. Гэта выклік цару, якому рэвалюцыя ў асобе Багрова выразна заявіла memento: Ты, цар, нас знішчаеш і вешаеш, акружаеш сябе натоўпам аховы, а я вось тут стаю перад табой, і толькі ад мяне залежыць накірунак майго ўдару.

Не сустрэў аніводнай асобы ад дзяцей да старых, ад левіцы да кансерватараў і клерыкалаў, якая б не радавалася гэтаму пакушэнню. Нават дзяўчаткі, якія прынцыпова не прымаюць тэрору, не хаваюць радасці. Адна з іх наступным характэрным спосабам акрэсліла свае адносіны да пакушэння: як хрысціянка люблю сваіх блізкіх і не магу нікому жадаць кепскага, таму, радуючыся пакушэнню, жадаю Сталыпіну самага добрага... на тым свеце, каб трапіў у неба на вечнае шчасце, калі Бог дазволіць.

Т. 2. Запіс ад 6 (19). 09. 1911 г. С. 21.

Ранішнія тэлеграмы прынеслі паведамленне пра смерць Сталыпіна. Смерць чалавечая заўсёды выклікае да сябе павагу і нясе страх. Хаця гэты чалавек быў ворагам, хаця я рады пакушэнню, аднак лаканічнае паведамленне пра смерць выклікала пачуццё смутку. Памёр чалавек. Не магу адмовіць Сталыпіну ні імя і годнасці чалавека, ні павагі для ягонай асобы. Дзейнасць Сталыпіна была адмоўная, шкодная і подлая, але гэты чалавек сам па сабе меў пэўныя маральныя прынцыпы, вялікую сілу волі, мужнасць, нязломную ўпартасць, дакладнае ўсведамлення шляхоў і мэтаў і веру ў сваю справу. Асуджаючы дзеяча і яго справы, шаную чалавека [...]

Сярод шырокіх колаў віленскай грамадскасці звесткі пра смерць выклікалі радасць [...] Бачыў паненак, якія, выразаўшы з дадаткаў да ранішніх газетаў партрэт Сталыпіна, прымацоўвалі яго да грудзі з подпісам вялікімі літарамі ўнізе: «Смерць Сталыпіну!» Настрой у горадзе ўзнёслы.

Т. 2. Запіс ад 6 (19). 11. 1911 г. С. 82.

Увечары ў рэдакцыі «Нашай Нівы» сабралася група асобаў, якіх запрасіў рэдактар Уласаў, дзеля абмеркавання формаў каардынацыі намаганняў і праграмаў асобных нацыянальных групаў краю. На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх краёвых нацый. Ад палякаў – Вітальд Абрамовіч і я, ад беларусаў – браты Луцкевічы і Уласаў, ад літоўцаў – Сляжэвіч, Кішка і Кайрыс, ад габрэяў – Эліяш Ром, а рускіх – Краскоўскі. Абмен думкамі паказаў, што ўсе прызнаюць неабходнасць пэўнай каардынацыі ў дзейнасці і намаганнях асобных нацыянальных групаў. [...] Быў падтрыманы намер стварэння супольнай інфармацыйнай інстытуцыі. Абмеркаванне спосабу рэалізацыі гэтага праекту, а таксама ягоных удзельнікаў перанеслі на больш позні час.

Т. 2. Запіс ад 12 (25). 01. 1912 г. С. 149.

[...] Пераклаў для «Пшэглёнду» артыкул Уласава пра эміграцыю да Амерыкі, напісаны дыялектам руска-беларускім, потым перакладаў з польскай на рускую мову Статут Таварыства дробнай прамысловасці, дапаўняючы яго ўстаўкамі адпаведна нашым патрэбам. Гэты Статут паспрыяе стварэнню ў Вільні Таварыства падтрымкі дробнай прамысловасці і народнага мастацтва. Ягонай арганізацыяй займаецца Уласаў, рэдактар «Нашай Нівы» і, здаецца, што будзе добры вынік. Пад эгідай гэтага Таварыства ён плануе яшчэ ў гэтым годзе адкрыць выставу прамысловасці і мастацтва больш-менш падобную на тую, [...] што планавалася ў мінулым годзе нашай групай на чале з Рушчыцам.

Т. 2. Запіс ад 2 (15). 05. 1912 г. С. 260.

Увечары сустрэўся з рэдактарам «Нашай Нівы» Уласавым, з якім пайшлі на вячэру ў гатэль «Еўрапейскі», а потым прагульваліся да гадзіны трэцяй уначы, прыглядаючыся надзвычай прыгожаму світанку на берагах Вяллі.

Размаўлялі з ім доўга, сардэчна і шчыра пра нашае жыццё і асабістыя справы. Ён чалавек цікавы, арыгінальны, з багатым духоўным жыццём, якое звонку цяжка заўважыць. Распавёў яму пра гісторыю маіх адносінаў і шлюбу з Рэгінай, а таксама пра ўсе мае перажыванні ад часу побыту ў Парыжы да сённяшняга дня. Таксама расказаў пра мае адносіны з Ганнай, пра новае і незвычайна моцнае каханне, якое зараз напаўняе маё жыццё, не раскрываючы, аднак, перад Уласавым асаблівасцяў мінулага Ганны.

Уласаў распавядаў пра сябе. Урэшце мы пагадзіліся з тым бясспрэчным фактам, што ў такіх людзей як мы, што дасягнулі пэўнай сталасці і шмат пражылі не ў выніку колькасці гадоў жыцця, а дзякуючы незвычайнаму багаццю ўражанняў, назапашанай энергіі і пачуццяў, расчараванняў, веры, драмаў, каханне мае цалкам іншы сэнс, чым у маладзёнаў [...] Праз каханне мы шукаем чалавека, кахаем чалавечую душу, шукаем гармоніі прыгажосці і духоўнасці [...] Нашае каханне – гэта не флірт, не гульня, гэта фаталізм.

Т. 2. Запіс ад 28. 06 (11. 07). 1912 г. С. 317.

Быў на пахаванні Эліяша Рома. Акрамя даволі шматлікай групы габрэяў у пахавальных урачыстасцях удзельнічала таксама групка хрысціянаў. З бліжэйшых у апошнія гады сяброў і прыяцеляў памерлага прысутнічалі браты Луцкевічы, Уласаў, Прозараў, Краскоўскі, Сляжэвіч, Брамсон, Нагродскі і я. Апрача нас прыйшлі яшчэ некалькі хрысціянаў – доктар Сумарок, Бр. Умястоўскі, беларускі паэт Янка Купала і яшчэ некалькі.

Памерлы Э. Ром быў ідэалістам у найлепшым значэнню гэтага слова: усё ягонае жыццё было напоўненае нястомнай грамадскай працай. Быў грамадскім дзеячам да фанатызму [...] Быў адным з тых нешматлікіх габрэяў, які разумеў адметнасць нашага краю і ўспрымаў хрысціянскае грамадства не як адзіную дзяржаўна-расейскую масу. Ён бачыў і разумеў значэнне нацыянальных арганізацый літоўскіх, беларускіх ды інш. Адным словам – гэта быў грамадзянін краю, сацыялізаваны і поўнакроўны сын не толькі габрэйскага народу, але таксама радзімай Літвы, якую разумеў як сацыяльны арганізм па-над нацыянальнымі адрозненнямі.

Т. 3, s. 315. Запіс ад 8 (21). 11. 1913 г.

[...] У гэтым краі, у Белай Русі дзіўна перамяшаліся Усход і Захад. Гэта адбілася на пачуццёвым успрыняцці народу і знайшло свой выраз у характары мясцовай культуры. Белая Русь – гэта край памежжа Заходняй Еўропы і Візантыйскага свету. Гэтыя два цывілізацыйныя тыпы, дзве гістарычныя культуры, супрацьлеглыя як два полюсы, на гэтай зямлі ў душы народу існуюць у поўнай згодзе.

Цывілізацыйны падзел найбольш выразна адчуваецца ў рэлігіі – ва ўсходнім праваслаўі і заходнім каталіцызме. Абодва веравызнанні існуюць побач, а народная маса, не звяртаючы ўвагі на рэлігійную прыналежнасць

асобы, аднолькава прымае і адну, і другую. Святы ды іншыя ўрачыстасці праваслаўнай царквы збіраюць у пэўныя дні і ў пэўных месцах усё насельніцтва. Збіраюцца праваслаўныя і каталікі, уключаючы засцянковую, акалічную і фальваркавую дробную шляхту. Тое ж самае адбываецца на каталіцкія святы, якія прываблiваюць праваслаўнае насельніцтва нават з далёкіх вёсак. Тым самым людзі захоўваюць традыцыі і інстынктыўна дэманструюць адзінства культуры і веры, фармальна падзеленай на два светы, на два веравызнанні.

У гэтых несвядомых праявах хаваецца сэнс гістарычнай ролі Беларусі, доўжыцца жыццё старажытнай царкоўнай і культурнай Уніі, якая нарадзілася на гэтай зямлі і насуперак скасаванню працягвае жыць. Перамена праваслаўнага веравызнання на каталіцкае і наадварот адбываецца тут без нейкай глыбокай духоўнай і культурнай перамены ў жыцці асобы. Народнае асяроддзе як сялянскае, так і дробнашляхецкае прасякнута і насычана аднолькава ўсходнім і заходнім пачаткамі, якія маюць роўныя правы грамадзянства і пароўну прысутнічаюць у душу народу.

---

1 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. Т. 2, s. 89. Запіс ад 13 (26) лістапада 1911 г.

2 Тамсама. Т. 1, s. 38. Запіс ад 7 (20) лютага 1911 г.

3 «Вечерняя газета» – штодзённая газета на рускай мове. Выдавалася з 18.09 (1.10).1912 г. да 11(24).06.1915 г. Назва № 1, 2 – «Вечерняя газета-копейка». Афіцыйны рэдактар-выдаўца – Ф. М. Хатэнка. Пазней – Н. В. Сперанская.

4 «Кур'ер краёвы» – штодзённая газета на польскай мове. Выдавалася з 30.11 (12.12).1912 г. да 18.04 (1.05).1914 г. Афіцыйны рэдактар-выдаўца – Юліўш Сумарок. Пазней – Алена Юрэвічова, Стэфан Піатровіч.

5 Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ). Ф. 102, особный отдел, 1913, оп. 243, д. 157, л. 1,8.

6 Беларускі Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). Ф. 3, воп. 1, ад. з. 260, арк. 9.

7 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. Т. 4, s. 404. Запіс ад 4 (17) сакавіка 1915 г.

8 Ibidem. Т. 4, s. 403. Запіс ад 3(16).03.1915 г.

# АДРАДЖЭННЕ ВОЛЬНАГА МУЛЯРСТВА НА БЕЛАРУСКІХ І ЛІТОЎСКІХ ЗЕМЛЯХ НА ПАЧАТКУ XX ст.*

У гістарыяграфіі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння пачатку XX ст. усё больш прыкметным становіцца масонскі сюжэт. Дзейнасць віленскіх масонскіх ложаў разглядалася аўтарам гэтых радкоў на старонках часопіса «Спадчына»[1]. Віленскае масонства згадвалася таксама ў крыніцазнаўчым артыкуле, прысвечаным Дзённіку Міхала Ромэра, які быў надрукаваны ў Беларускім гістарычным аглядзе[2], а таксама ў публікацыі, прысвечанай месцу краёвай ідэі ў ідэалогіі беларускага руху[3]. Нарэшце, у 2005 г. у Вільні выйшаў з друку зборнік «Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст.», які ўтрымліваў навуковыя артыкулы, дакументальныя крыніцы, слоўнік найбольш пашыраных масонскіх тэрмінаў, храналогію гісторыі вольных муляроў на беларускіх землях і бібліяграфію[4].

Таксама трэба адзначыць артыкул Мікалая Рыбко «Масонства» на старонках Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (1999)[5]. Ідэалогія віленскіх масонаў і іх узаемаадносіны з «Вялікім Усходам народаў Расеі» закраналіся гісторыкам Мікалаем Сташкевічам. Ён жа адзначыў імкненне масонаў да каардынацыі ўсіх апазіцыйных царызму палітычных сілаў. Паводле даследчыка, у 1907–1914 гг. дзейнасць масонскіх ложаў істотна паўплывала на аб’яднанне апазіцыі і разгортванне яе барацьбы супраць расейскага самаўладдзя»[6].

Знаходкі новых гістарычных крыніцаў, якія датычаць між іншым ложаў у Менску і Віцебску, дазваляюць яшчэ раз звярнуцца да гэтага сюжэту.

Традыцыі масонства на беларускіх землях закладаліся, пачынаючы з другой паловы XVIII ст. У маі 1770 г. у Магілёве пачала свае «працы»

* Упершыню артыкул быў апублікаваны ў зборніку «Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст. (пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Вільня, 2005, с. 157–185. Публікаваная тут версія з’яўляецца папраўленай і дапоўненай.

ложа «Двух арлоў». Аднак падзелы Рэчы Паспалітай прыпынілі развіццё вольнамулярскага руху. Ягонае адраджэнне пачалося толькі ў 1815 г., калі аднавіў сваю дзейнасць «Вялікі Усход Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага». За кароткі час узнікла больш дзесяці ложаў у тым ліку ў Вільні, Менску, Гародні, Наваградку і Нясвіжы[7].

Унікальнасць тых ложаў між іншым заключалася ў тым, што яны былі адзіным месцам, дзе Рурыкавіч мог размаўляць з Рабіновічам. Вядома, што нават Аляксандр І у маладосці належаў да вольных муляроў і падзяляў асновы іх ідэалогіі. Праўда, гэта не перашкодзіла яму ў 1822 г. уласным указам забараніць дзейнасць вольных муляроў на тэрыторыі дзяржавы.

Дарэчы, на той час у Вільні існавалі шэсць ложаў. Варта прыгадаць, што майстрам віленскай ложы «Дасканалая еднасць» («Doskonała Jedność») быў дзед краёўца Міхала Ромэра (1880–1945) маршалак шляхты Трокскага павету Міхал Юзаф Ромэр[8].

Згаданы ўказ Аляксандра І перапыніў дзейнасць масонаў на беларускіх і літоўскіх землях амаль на стагоддзе. Адраджэнне руху вольных муляроў на тэрыторыі Беларусі адбылося толькі пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. Ініцыятыва зыходзіла ад масонаў Масквы і Санкт-Пецярбурга. Якраз на пачатку ХХ ст. расейскае масонства дасягнула свайго найвялікшага росквіту. Невыпадкова вядомы польскі гісторык руху вольных муляроў Людвік Хас адну з сваіх публікацый, прысвечаных расейскім «братам» пачатку ХХ ст., назваў «Дні велічы»[9].

У палітычных цэнтрах Расейскай імперыі масонскія ложы «новага пакалення» пачалі ўзнікаць яшчэ ў перыяд рэвалюцыі. Прычыны гэтага працэсу большасць даследчыкаў звычайна звязваюць з рэвалюцыйным крызісам, які спарадзіў сярод часткі грамадскіх дзеячаў моцнае імкненне да кансалідацыі. Вольнае мулярства з ягоным арэалам таямніцы, дэмакратызмам і лібералізмам у ідэалогіі стала прывабнай формай аб’яднання ліберальна-дэмакратычных элементаў расейскага палітычнага жыцця.

У 1905 г. у Маскву прыехаў вядомы гісторык і сацыёлаг, кіраўнік Вышэйшай школы сацыяльных навук у Парыжы прафесар Максім Кавалеўскі. Яшчэ ў 1887 г. ён быў сярод заснавальнікаў парыжскай ложы «Космас», якая належала да «Вялікага Усходу Францыі». М. Кавалеўскі атрымаў паўнамоцтвы на заснаванне ў Расеі масонскай ложы. Глеба для гэтага ўжо была падрыхтаваная. Напачатку 1905 г. сябрамі «Космасу» сталі некаторыя вядомыя расейскія палітыкі і грамадскія дзеячы ліберальна-дэмакратычнага накірунку (Васіль Маклакоў, Яўген Кедрын ды інш.)[10].

Максім Кавалеўскі разгарнуў актыўную дзейнасць, і вынікі не прымусілі сябе доўга чакаць. 15 (28) лістапада 1906 г. у Маскве была створаная ложа «Адраджэнне» («Возрождение»). Яе ўзначаліў прафесар Мікалай Бажэнаў[11]. На пачатку наступнага 1907 г. да Масквы далучыўся Санкт-Пецярбург, дзе ўзнікла ложа «Палярная Зорка» (Вялебны князь Арлоў-Давыдаў). Абедзве ложы належалі да «Вялікага Усходу Францыі». Рух вольных муляраў хутка пашыраўся. У сярэдзіне 1908 г. у ложах было ўжо каля 40 чал. У 1909 г. – прыблізна 300–350[12]. У гэты час існавалі тры ложы ў Санкт-Пецярбургу, дзве – у Маскве, па адной – у Ніжнем Ноўгарадзе, Адэсе і Кіеве.

Даследчыкі звярнулі ўвагу на істотнае адрозненне вольных муляроў пачатку ХХ ст. ад сваіх папярэднікаў. Калі да апошніх належалі пераважна прадстаўнікі расейскай арыстакратыі, то большасць вольных муляраў пачатку ХХ ст. прадстаўлялі інтэлігенцыю. Гэта былі адвакаты, універсітэцкая прафесура, лекары, інжынеры ды інш. Па палітычнай арыентацыі пераважалі прыхільнікі ліберальна-дэмакратычнай ідэалогіі.

Людвік Хас наступным чынам ахарактарызаваў іх погляды: *«Гэта былі людзі светлыя і адукаваныя, лібералы па перакананнях, праціўнікі традыцыйнага ладу, якія не былі прыхільнікамі расейскай манархіі і крытычна ацэньвалі, па меньшай меры, двух апошніх цароў. Яны лічылі, што царызм праводзіць гібельную палітыку, якая прывядзе да рэвалюцыі»*[13].

Празмерная палітызаванасць многіх расейскіх прадстаўнікоў «каралеўскага майстэрства» (у прыватнасці А. Калюбакіна, М. Някрасава[14] ды іх аднадумцаў) справакавала ўнутраны канфлікт. Прыхільнікі традыцыйнага погляду на вольнае мулярства як на этычную сістэму (Д. Бебутаў, Я. Кедрын, М. Маргуэліс ды інш.) не жадалі ператварэння ложаў у інструмент палітычнай барацьбы з самаўладдзем.

У выніку «палітычная плынь» пад прыкрыццём размоваў пра правакатараў і агентаў «ахранкі», якія нібыта праніклі ў ложы, пайшла на істотную рэарганізацыю вольнага мулярства ў Расеі. У лютым 1910 г. адбыўся сход «братоў», на якім абмяркоўвалася пытанне пра самароспуск арганізацый. Большасцю галасоў было прынята рашэнне, што кожная ложа будзе самастойна вырашаць уласны лёс. У выніку амаль усе ложы былі распушчаныя, паводле масонскай тэрміналогіі, «заснулі»[15].

Аднак на самой справе гэта быў «спектакль» арганізаваны «рэфарматарамі» дзеля таго, каб пазбыцца ненадзейных «братоў» і тых, чыім ідэалам заставалася філасофска-этычнае масонства[16]. Па падліках ра-

сейскага гісторыка Віталія Старцава, у ложы новай масонскай арганізацыі, якая ў 1912 г. атрымала назву «Вялікі Усход народаў Расеі», з расейскіх ложаў «Вялікага Усходу Францыі» перайшло толькі 34 чал.[17] Затое ў новыя арганізацыі вольных муляроў Расеі хутка ўлілася «свежая кроў». Шэрагі «братоў» папаўняліся галоўным чынам левымі кадэтамі, меншавікамі і эсэрамі.

Гісторыкі згодны, што новыя масоны перасьледавалі палітычныя мэты. Галоўнай з іх была замена самаўладдзя парламенцкім ладам. Традыцыйныя маральна-этычныя нормы масонскай ідэалогіі былі падпарадкаваныя прынцыпам расейскага лібералізму. Праўда, у прынятым на II канвенце (Санкт-Пецярбург, 1913) статуце «Вялікага Усходу народаў Расеі» гэта не знайшло свайго адлюстравання. Галоўнай мэтай вольных муляроў Расеі абвяшчаўся пошук ісціны і дасягненне маральнай дасканаласці чалавецтва шляхам аб’яднання людзей на пачатках братэрскай любові, узаемадапамогі, талеранцыі і поўнай свабоды сумлення[18].

Трэба заўважыць, што ўсе гэтыя перамены адбываліся без санкцыі «Вялікага Усходу Францыі». У выніку расейскае масонства не мела шансаў стаць часткай сусветнага вольнамулярства. Яно лічылася «нерэгулярнай» арганізацыяй. Шанс атрымаць прызнанне можна было шукаць на шляху паразумення з французскімі «братамі», але расейскія кіраўнікі не ішлі на гэтыя кантакты. Л. Хас лічыў, што яны былі ўпэўненыя ў пранікненні агентаў расейскай паліцыі ў структуры «Вялікага Усходу Францыі»[19].

У гэты ж час на тэрыторыі Расейскай імперыі з’явіліся ложы, незалежныя ад Масквы і Санкт-Пецярбурга. У чэрвені 1910 г. у Варшаве была створана ложа «Вызваленне» (Вялебны Рафал Радзівіловіч), якая належала да «Вялікага Усходу Францыі»[20].

Адроджаная польскае вольнае мулярства не адразу звярнула ўвагу на беларускія і літоўскія землі. Амаль да сярэдзіны 1913 г. ложы на гэтых землях былі звязаныя выключна з расейскімі масонамі. Якраз прадстаўнікі расейскага палітычнага масонства ініцыявалі ўтварэнне ложаў на беларускіх і літоўскіх землях[21].

У 1910 г. па іх ініцыятыве была створаная ложа ў Менску. На жаль, звесткі пра яе склад носяць фрагментарны і гіпатэтычны характар. Людвік Хас згадаў толькі двух менскіх масонаў – лекара Тэадора Кодзіса[22], які раней быў звязаны з партыяй «Пралетарыят», а таксама юрыста і палітычнага дзеяча Казіміра Петрусевіча[23]. Апошні ў 1898 г. удзельнічаў у працы I з’езда РСДРП у Менску як прадстаўнік сацыял-дэмакратычнай арганізацыі Ека-

церынаслава. Пазней пасяліўся ў Менску. На момант утварэння ложы быў прыхільнікам ліберальнай ідэалогіі. Паводле даследчыка Андрэя Сяркова, Казімір Петрусевіч у 1911–1912 гг. быў прысяжным паверанным, а пазней (1914–1917 г.) працаваў у земскім саюзе дапамогі ахвярам вайны[24]. Людвік Хас назваў таксама імёны Эдмунда Івашкевіча і лекара Яна Офенберга як верагодных братоў менскай ложы[25].

Пра ўдзел Тэадора Кодзіса ў масонскай арганізацыі паведаміла ў сваіх успамінах Зофія Кодзіс-Фрэерова. Паводле яе меркавання, да менскай ложы належалі пераважна юрысты і лекары, людзі з рознымі палітычнымі перакананнямі[26].

Міхал Ромэр ва ўласным Дзённіку, распавядаючы пра паездку ў Менск у верасні 1911 г. віленскіх краёўцаў і масонаў Браніслава Крыжаноўскага і Вітальда Абрамовіча, згадаў імёны Эдмунда Івашкевіча, Канстанціна Дземідзецкага-Дземідовіча, Казіміра Петрусевіча і Загорскага[27]. Мэтаю паездкі быў пошук верагодных аўтараў для газеты «Пшэглёнд віленьскі». Цалкам магчыма, што іх сустрэчы з вышэйназванымі менскімі юрыстамі была вынікам ранейшых масонскіх кантактаў. Таксама варта адзначыць, што Ежы Асмалоўскі, які ў 1912–1914 гг. быў сябрам варшаўскай ложы «Вызваленне» («Wyzwolenie»), у 1915 г. у Менску часта наведваў дом адваката Эдмунда Івашкевіча. Яго звычайнымі суразмоўцамі падчас гэтых візітаў былі Казімір Петрусевіч, Канстанцін Дземідзецкі-Дземідовіч і Ігнацы Віткевіч[28]. Верагодна якраз гэтыя асобы і складалі «ядро» менскай ложы.

Але сапраўдным цэнтрам вольных муляраў Беларуска-Літоўскага краю на пачатку XX ст. была Вільня. Напрыканцы 1910 г. у Вільні ўзнікла ложа «Еднасць» («Jedność»). Ролю арганізатара адыграў удзельнік першых з'ездаў Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі Ежы Ром. Менавіта ён разам з братам Эліяшам, паводле сведчанняў Антона Луцкевіча, ужо ў 1908 або 1909 г. меў размову з Іванам Луцкевічам, з якой апошні даведаўся пра масонскія арганізацыі ў Расеі[29]. Дарэчы, паводле М. Ромэра, спачатку масоны звярнуліся да Тадэвуша Урублеўскага. Але вядомы адвакат і прыхільнік краёвай ідэалогіі адмовіўся ад супрацоўніцтва[30].

У ліку заснавальнікаў «Еднасці» былі ўжо згаданыя Ежы і Эліяш Ромы, браты Луцкевічы, літоўскі дзеяч Данатас Маліноўскас, прадстаўнік левіцы польскіх нацыянальных дэмакратаў доктар Людвік Чаркоўскі. У сакавіку 1911 г. у ложу быў прыняты Міхал Ромэр, які хутка стаў адным з лідэраў віленскага масонства. Трэба адзначыць, што афіцыйнае запрашэнне ён



*Старонка Дзённіка М. Ромэра ад 5 (18) кастрычніка 1911 г. з інфармацыяй пра паседжанне вольнамулярскай ложы.*

атрымаў ад Івана Луцкевіча, што таксама адлюстравалася ў дзённікавым запісу[31]: «*Увечар прыйшоў Іван Луцкевіч і паведаміў, што ў нядзелю мясцовая масонская ложа прыняла мяне ў свой Саюз […] Калі гэта не фарс і не якое-небудзь няспелае пачынанне гарсткі летуценнікаў, а сапраўдная масонская арганізацыя, то я ўсім сэрцам далучуся да гэтага Саюза*»[32].

Хутка Міхал Ромэр стаў адным з кіраўнікоў віленскіх вольных муляроў. Падобна, што ў ягоным выпадку звычайны шматгадовы шлях масона ад першай («вучань») да трэцяй («майстар») ступені быў скарочаны.

У 1915 г. Міхал Ромэр даверыў свайму Дзённіку не толькі таямніцу існавання арганізацый масонаў. Ён досыць падрабязна спыніўся на ідэалогіі, якой прытрымліваліся віленскія «браты»: «*Нашая задача – не знішчаць, не ламаць, не разбураць, а ствараць і ўдасканальваць. […] Нашым падмуркам з'яўляюцца ідэі братэрства, любові і свабоды чалавечага духу. Наша брацтва – гэта Саюз гуманізму ў самым шляхетным і адначасова дзейсным значэнні гэтага слова. Мы імкнемся, каб гэтыя лозунгі не сталі звычайнай фармальнасцю, не ўспрымаліся толькі як нейкі сцяг […] Мы імкнемся зрабіць іх рэальнасцю сумлення, дзеянняў і адносінаў у чалавечым сужыцці; каб яны напоўнілі як адносіны паміж асобнымі людзьмі, так і паміж усялякімі групамі і нацыямі і, нарэшце, сталі здабыткам усяго чалавецтва; каб установы, законы, арганізацыі, уся культура былі напоўнена зместам і сэнсам гэтых лозунгаў*»[33]. (Гл. дадатак).

Закранаючы палітычны аспект масонскай дзейнасці, М. Ромэр падкрэсліў, што «брацтва вольных муляроў» не з'яўляецца ні палітычным

аб'яднаннем, ні партыяй. Аднак ва ўмовах расейскай дзяржавы арганізацыя, якая абвяшчае сваёй мэтай дасягненне свабоды чалавечага духа, непазбежна будзе займаць антыўрадавую палітычную пазіцыю: «*Прычына ў тым, што гэтая дзяржаўная арганізацыя [...] і сама расейская дзяржаўнасць як канкрэтны гістарычны феномен ёсць найвялікшая перашкода дзеля рэалізацыі нашых прынцыпаў*»[34].

Міхал Ромэр паслядоўна адстойваў асноўныя прынцыпы краёвай ідэалогіі. Менавіта краёвасць для яго з'яўлялася найбольш адэкватнай формай палітычнага існавання масонскіх лозунгаў на тэрыторыі «гістарычнай Літвы». У вялікай ступені, менавіта дзякуючы ягоным намаганням, віленскія ложы сталі моцнымі цэнтрамі прапаганды краёвай ідэалогіі, якая супрацьстаяла ідэалогіі нацыянальнага шавінізму. Пры гэтым краёвасць зусім не перашкаджала сваім адэптам актыўна працаваць у рэчышчы ўласных нацыянальных рухаў.

Трэба заўважыць, што Міхал Ромэр хацеў бачыць грамадства Беларуска-Літоўскага краю як адзінае і непадзельнае, прасякнутае пачуццём краёвай грамадзянскасці і незалежнае ад падзелу на асобныя нацыі[35]. У грамадска-палітычнай дзейнасці ён імкнуўся да пабудовы «*адзінага грамадскага будынку, а не шэрагу этнічных хатаў*»[36].

Падмуркам краёвага будынку палітык і публіцыст лічыў дэмакратычны лад жыцця. На яго думку, толькі ў гэтым выпадку будуць створаныя адпаведныя ўмовы для ажыццяўлення патрабаванняў кожнага народу Краю. Гэтае разуменне краёвасці істотна адрознівалася ад таго, якога прытрымліваліся яго калегі па групоўцы краёўцаў-дэмакратаў. Напрыклад, Людвік Абрамовіч разумеў «краёвае грамадства» як свайго роду канфедэрацыю самастойных і роўных нацыянальных супольнасцяў, кожная з якіх мела права на ўласнае нацыянальна-культурнае развіццё. Пры такім разуменні краёвасці галоўнай задачай яму бачылася абарона інтарэсаў мясцовай польскай супольнасці.

Аналагічна разумелі краёвую ідэю беларусы Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Іван Краскоўскі. Адпаведна можна весці гаворку пра польскіх і беларускіх краёўцаў. Аднак існаванне апошніх стала відавочным толькі пасля з'яўлення такіх органаў друку як «Вечерняя газета» (1912) і «Кур'ер краёвы» (1912).

У 1911 г. з «Еднасці» вылучылася ложа «Літва», якую ўзначаліў Міхал Ромэр. На момант падзелу ў склад «Еднасці» ўваходзілі Ежы Ром як кіраўнік (*Venerable*), Людвік Чаркоўскі, Іван ды Антон Луцкевічы, Эліяш Ром, дзе-

ячы польскага руху Вітальд Абрамовіч, Браніслаў Крыжаноўскі і Зыгмунт Нагродскі, Іван Прозараў як прадстаўнік рускай грамадскасці, беларускі палітык Іван Краскоўскі[37], Майсей Брамсон, Ян Багушэўскі, а таксама дзеячы літоўскага руху Міколас Сляжэвічус і Міколас Біржышка[38].

У ложу «Літва», апроч *Venerable* М. Ромэра, увайшлі таксама Б. Крыжаноўскі, З. Нагродскі, М. Сляжэвічус, І. Прозараў, І. Краскоўскі, А. Луцкевіч, Э. Ром і М. Брамсон. Пазней у ложу былі прынятыя дзеячы літоўскага руху Вацловас Біржышка, Вацловас Бельскіс, Пеліксас Бугайлішкіс, Андрус Булёта, Юргіс Шаўлюс, Ёнас Вілейшыс, публіцыстка Феліцыя Барткевічэне-Повіцкайтэ[39], прадстаўнікі віленскай польскай грамадскасці Казімір Астахевіч, Эдвард Сакалоўскі і Уладзіслаў Асмалоўскі, а таксама беларускі дзеяч Вацлаў Ластоўскі (1912). Апроч іх, з ложы «Еднасць» перайшлі ў «Літву» А. Заштаўт і М. Біржышка[40].

Вядомы польскі даследчык Людвік Хас сцвердзіў прыналежнасць да ложы «Літва» яшчэ аднаго беларускага палітыка Дамініка Семашкі[41]. Аднак М. Ромэр не згадаў яго імя ў сваім Дзённіку. Тое ж самае датычыць Тадэвуша Урублеўскага. Людвік Хас назваў яго сярод «братоў» ложы «Літва»[42]. Прыналежнасць віленскага адваката да масонства пацвердзіў Браніслаў Тарашкевіч на старонках аўтабіяграфіі, напісанай у 1933 г.[43]

Аднак сведчанні М. Ромэра абвяргаюць тэзіс пра ўдзел Тадэвуша Урублеўскага ў «брацтве». Магчыма чуткі пра масонства апошняга, якія распаўсюдзіліся ў Вільні з моманту адраджэння ім Таварыства шубраўцаў, увялі ў зман беларускага дзеяча і польскага даследчыка. Таксама нельга пагадзіцца са сцвярджэннем Паўліны Мядзёлкі пра дачыненне да ложаў пачатку XX ст. Браніслава Тарашкевіча[44]. Матэрыялы Дзённіка таксама не дазваляюць прыняць сцвярджэнне гісторыка Мікалая Сташкевіча, нібыта, кіруючая роля ў ложы «Літва» належала Вацлаву Ластоўскаму[45]. Масонскую дзейнасць апошняга цяжка лічыць прыкметнай.

Актыўная грамадска-палітычная і культурная дзейнасць сяброў віленскіх ложаў спрыяла пашырэнню краёвай ідэі ў яе ліберальна-дэмакратычнай форме. Амаль усе яны былі аўтарытэтнымі дзеячамі розных нацыянальных рухаў і мелі магчымасць уплываць на іх ідэалогію, асабліва ў галіне міжнацыянальных адносінаў. Гэта адлюстравалася ў шматлікіх публікацыях «вольных муляраў» на старонках такіх віленскіх выданняў, як «Наша Ніва», «Lietuvos žinios», «Lietuvos ūkininkas», «Przegląd Wileński», «Kurier Krajowy» і «Вечерняя газета».

Краёўцы-масоны таксама ўваходзілі ў склад кіраўніцтва многіх культурных таварыстваў і гаспадарчых арганізацый, дзейнасць якіх выходзіла далёка за межы Віленшчыны. Варта назваць Таварыства сяброў навук у Вільне, Артыстычнае таварыства, Віленскае таварыства падтрымкі хатняга рамяства і народнага мастацтва, Таварыства падтрымкі кааперацыі ды інш.

М. Ромэр пазней адзначаў: «*Як уласна масонская арганізацыя мы не дзейнічаем, але ў многіх справах менавіта сярод нас выпрацоўваюцца дырэктывы і нараджаюцца ініцыятывы. Нашыя ложы маюць вялікі ўплыў на ўмацаванне ў свядомасці братоў краёвай пазіцыі*»[46].

Паводле даследчыка Збігнева Соляка, менавіта на масонскіх паседжаннях было прынятае рашэнне пра вылучэнне кандыдатуры Браніслава Крыжаноўскага на выбарах у IV Дзяржаўную Думу[47]. Ложы прычыніліся таксама да выдання «Пшэглёнда віленьскага» і «Кур'ера краёвага», які стаў штодзённай польскамоўнай газетай краёвага і дэмакратычнага накірунку. Дарэчы, гісторыя арганізацыі абедзвюх газет выявіла адсутнасць адзінства ў асяроддзі краёўцаў. Рознае разуменне краёвасці і польскіх нацыянальных інтарэсаў стала падмуркам таго крызісу, які напаткаў віленскае масонства ў 1913 г.

Асобна трэба адзначыць актыўнасць беларускіх дзеячаў, а менавіта Антона ды Івана Луцкевічаў у прапагандзе краёвай ідэі. Беларусы спадзяваліся, што яе пашырэнне ўзмацніць сацыяльную базу беларускага руху і паспрыяе яго падтрымцы дэмакратычнымі элементамі іншых рухаў. Якраз таму яны і распачалі выданне польскамоўнага «Кур'ера краёвага» (1912). Пры гэтым удзел беларусаў у ёй заставаўся таямніцай для віленскай грамадскасці. На падобных пазіцыях знаходзілася рускамоўная «Вячэрняя газета», выданнем якой таксама кіравалі беларусы.

Увесну 1913 г. у Вільні з'явіліся прадстаўнікі варшаўскіх масонаў Станіслаў Патэк і Вацлаў Макоўскі. Варшаўская ложа «Вызваленне» была створаная яшчэ ў 1910 г. (кіраўнік Рафал Радзівіловіч). Яна таксама належала да «Вялікага Усходу Францыі», але не залежала ад расейскіх цэнтраў. Прыезд варшаўскіх місіянераў справакаваў крызіс у асяроддзі віленскага масонства. В. Абрамовіч, Б. Крыжаноўскі, Я. Пілсудскі, З. Нагродскі і С. Будны выйшлі са склада «Еднасці» і «Літвы» і ўтварылі польскую масонскую ложу, арганізацыйна звязаную з Варшавай. Даследчык Людвік Хайн сцвярджаў, што яна мела назву «Верны літвін» («Wierny litwin»)[48].

Раскол у асяроддзі віленскага масонства верагодна быў звязаны яшчэ і з тым, што вышэйазначаныя «браты» адмовіліся ад аўтанамісцкай

канцэпцыі «гістарычнай Літвы» і сталі прыхільнікамі яе незалежнасці, якая лічылася магчымай толькі ў саюзе з Польшчай. Варшаўскія «вольныя муляры» трымаліся незалежніцкай арыентацыі. Менавіта такую пазіцыю адстойвала штодзённая віленская газета «Наш край» («Nasz Kraj») (рэдактар Бенедыкт Хэрц), якая, паводле М. Ромэра, выдавалася сябрамі ложы «Верны літвін»[49].

Падчас расейскага наступлення ў Галіцыі ў гады Першай сусветнай вайны (1916) аўтары артыкулаў, у прыватнасці, выказвалі занепакоенасць лёсам мясцовай польскай дыяспары, якая, як вядома, пры аўстра-венгерскіх уладах мела выдатныя магчымасці для развіцця ўласнай культуры[50].

Пэўную ролю адыграла і тое, што паступова ўзніклі складанасці ў адносінах віленскіх ложаў з масонамі з Масквы і Пецярбургу. На думку Збігнева Соляка, пагаршэнне адносінаў адчувалася ўжо на масонскім канвенце, які адбыўся ў студзені 1913 г.

«Вялікі Усход народаў Расеі» павінен быў прапагандаваць ідэю свабоднай федэрацыі ўсіх народаў імперыі. Аднак на самой справе было відавочным імкненне маскоўскага і пецярбургскага кіраўніцтва навязаць усім ложам вялікадзяржаўную пазіцыю[51].

Магчыма на паводзіны «раскольнікаў» паўплывалі таксама вынікі выбараў у Дзяржаўную думу, якія абярнуліся сапраўдным правалам для краёўцаў, што былі прыхільнікамі аўтаноміі.

Дзённікавыя запісы М. Ромэра засведчылі пэўнае расчараванне часткі польскіх краёўцаў вынікамі супрацоўніцтва з дэмакратычнымі элементамі іншых народаў Краю. Менавіта пра гэта ішла гаворка на сходзе 11 мая 1913 г. на кватэры Зыгмунта Нагродскага. Апроч названых «раскольнікаў» у размове ўдзельнічаў Аляксандр Заштаўт, які адзін быў супраць выхаду з віленскіх ложаў[52].

На дзейнасць віленскіх масонаў моцны ўплыў аказала Першая сусветная вайна. Рост велікадзяржаўных шавіністычных настрояў адбіўся на пазіцыі кіраўніцтва «Вялікага Усходу народаў Расеі». «Вольныя муляры» з Вільні выразна адчулі гэта ўжо падчас канвенту ў Петраградзе, які адбыўся ў кастрычніку 1914 г. У яго працы ўдзельнічала болей за 30 дэлегатаў з усёй Расеі. Па сваіх палітычных сімпатыях яны належалі да партый і арганізацый, якія прадстаўлялі расейскі палітычны спектр у дыяпазоне ад канстытуцыйных дэмакратаў да «трудовиков».

Міхал Ромэр канстатаваў у сваім Дзённіку існаванне ў расейскім грамадстве трох пазіцый у адносінах да вайны. Першая з іх заключала-

ся ў падтрымцы ўраду, які нібыта абараняе нацыянальныя інтарэсы. Прыхільнікі другой, сярод якіх вылучалася постаць Аляксандра Керанскага, імкнуліся развесці ваенную справу і палітыку. Яны сцвярджалі, што вайна як нацыянальная справа павінна весціся да поўнай перамогі, а ва ўнутранай палітыцы неабходна змагацца з царскім урадам. Нарэшце, трэцяя пазіцыя, за якой стаялі бальшавікі, зводзілася да актывізацыі рэвалюцыйных дзеянняў нават, калі гэта прывядзе да ваеннага паражэння Расеі і яе распаду.

Вільню прадстаўлялі Антон Луцкевіч і Міхал Ромэр. Разам з трыма прадстаўнікамі Украіны яны ўтварылі асобную групу, якая адстойвала якраз трэцюю пазіцыю, крытыкуючы дзве першыя, якія азначалі падтрымку *«нацыянальна-буржуазнай дзяржаўнасці і імперыялізму [...] Мужэнак (латыш з Адэсы – А. С.) ідэалізаваў паражэнне, але не дзеля перамогі ворага, а дзеля аслаблення дзяржаўнасці як неабходнай умовы для рэвалюцыі. Луцкевіч і два ўкраінца (Пракаповіч і Ефрэмаў – А. С.) абаранялі пазіцыю нейтральнасці ў адносінах да вайны. Але і яны дапускалі магчымасць паражэння. Хаця толькі дапускалі, а не заклікалі прыспешваць яго. Нашая пазіцыя, пазіцыя іншаплеменных крэсоўцаў, якія абаранялі інтарэсы рэвалюцыі, заставіла задумацца расейскіх удзельнікаў сходу. Яна ім не спадабалася, і большасць рэзка крытыкавала нашую групу [...] Прамовы гучалі як заклік да перамогі на руінах рэвалюцыі. Зрэшты, у кадэтаў гэтыя ідэалы ўжо некалькі гадоў (па меньшай меры з 1907 г.) тонуць у апартунізме. Трымалася яшчэ кадэцкая левіца, але і яна цяпер адмовілася ад рэвалюцыі»*[53].

Падаўляючай большасцю галасоў была прынятая рэзалюцыя за перамогу дзяржаваў Антанты. Дэлегаты канвенту таксама не прынялі прапанаванай А. Луцкевічам і М. Ромэрам рэзалюцыі аб прызнанні прынцыпа аўтаноміі Літвы і Беларусі і ўвядзенне яго ў праграму расейскага вызваленчага руху[54]. Міхал Ромэр пазней адзначаў «*выразныя імперыялістычныя настроі сярод рускіх братоў*» *і* «*дзяржаўныя амбіцыі ў Расейскім масонстве*»[55].

Дыскусіі падчас канвенту ды іншыя кантакты з расейскімі масонамі выразна паказалі ўсю падманлівасць ранейшых запэўненняў кіраўнікоў «Вялікага Усходу народаў Расеі» ў магчымасць свабоднага (аўтаномнага) развіцця Беларуска-Літоўскага краю ў выпадку іх прыходу да ўлады. Віленскія масоны пачалі задумвацца пра неабходнасць утварэння ўласнай масонскай арганізацыі, якая б ахоплівала ўсе землі былога Вялікага Княства Літоўскага. Дзеля гэтага трэба было стварыць у Беларусі і Літве сем ложаў.

Актывізавалася арганізацыйная дзейнасць, што дазволіла перадолець крызіс мінулага года. У склад ложаў былі прынятыя новыя сябры – Ёнас Вілейшыс, Уладзіслаў Асмалоўскі (у 1908 г. ён быў адным з заснавальнікаў беларускага выдавецтва «Наша Хата»[56]), Феліцыя Барткевічэне-Повіцкайтэ, Андрус Булёта, Казімір Астахевіч[57]. Малюнкі і запісы (у т. л. шыфраваныя) у Дзённіку М. Ромэра сведчаць, што ў кастрычніку 1914 г. у Вільні з’явілася яшчэ адна ложа – «Беларусь»[58]. Да яе належалі А. Луцкевіч, А. Булёта, П. Бугайлішкіс, М. Біржышка, А. Заштаўт і К. Астахевіч. Паседжанні вольных муляроў ложы «Беларусь» адбываліся сумесна з ложай «Літва».

Яшчэ адна ложа была заснаваная на пачатку вайны ў Віцебску. Аднак малаверагодна, што віленскія масоны мелі дачыненне да гэтага. Паводле інфармацыі расейскага даследчыка Дзмітрыя Галкоўскага, змешчанай на ягоным сайце, заснавальнікам ложы быў вядомы дзеяч Партыі Народнай свабоды дэпутат III Дзяржаўнай Думы Аляксандр Калюбакін. Паводле той самай крыніцы, пры заснаванні ложы ў «брацтва» былі прынятыя Рыгор Брук, Аляксей Валковіч, Сяргей Пісарэўскі, Вітольд Бамас і Вячаслаў Федаровіч. Падчас прыезду ў Віцебск Аляксандра Керанскага[59] (1915 або 1916 г.) у ложу ўступіў Беніямін Гурэвіч. Восьмым сябром быў Аляксандр Цэйтлін.

Віцебскія масоны таксама прадстаўлялі мясцовую інтэлігенцыю і прытрымлівалася ліберальна-дэмакратычных поглядаў. Сустракаюцца таксама згадкі пра датычнасць да вольных муляроў славутага мастака Марка Шагала[60]. У прыватнасці, пра гэта пісаў даследчык В. Брачаў. Ён жа сцвярджаў, што Марк Шагал нібыта прыцягнуў у ложу таксама Г. Арансона[61]. Раней гэта адзначала яшчэ Ніна Берберава[62].

Пэўныя біяграфічныя звесткі пра віцебскіх масонаў можна знайсці ў энцыклапедычным слоўніку Андрэя Сяркова «*Рускоє масонства. 1731 – 2000*» (Москва, 2001). Паводле Слоўніка, В. Бамас (Бомас) быў польскім прагрэсістам, які падтрымліваў кантакты з сацыялістамі. У 1911–1912 гг. ён працаваў прысяжным паверaным у Віцебску[63]. Падобныя палітычныя погляды меў іншы прадстаўнік мясцовай польскай супольнасці В. Федаровіч[64].

Рыгор (Гірш) Брук – равін, доктар медыцыны, дэпутат I Дзяржаўнай Думы (фракцыя кадэтаў), рэдактар газеты «Витебская жизнь»[65]. Б. Гурэвіч у 1905 г. належаў да БУНДа, пазней выйшаў з партыі, узначальваў Віцебскую агульнагарадскую шпітальную касу[66]. С. Пісарэўскі ў 1916 г. выехаў у Пе-

траград, дзе працаваў памочнікам прысяжнага паверанага. Пасля лютага 1917 г. быў сакратаром калегіі губкама ў Віцебску[67]. А. Валковіч да 1906 г. займаў пасаду віцебскага гарадскога галавы, таксама быў дэпутатам І Дзяржаўнай Думы ад Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі[68]. А. Цэйтлін быў вядомым мастаком, вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Вене і Парыжы. Пасля пераезду ў Віцебск (1911) працаваў у Мастацкай народнай школе[69].

Такім чынам, напрыканцы 1914 г. на беларускіх і літоўскіх землях існавалі шэсць ложаў. Аднак наўрадці віцебскія «браты» імкнуліся адарвацца ад цэнтраў расейскага масонства. Гісторыя стварэння ложы ў Віцебску і сувязі мясцовых масонаў (у прыватнасці, візіт Аляксандра Керанскага) дазваляюць выказаць меркаванне пра адсутнасць сярод іх імкнення да самастойнасці. Невядомай застаецца пазіцыя ложы ў Менску.

Што датычыць ложы «Верны літвін», то яна была звязаная з варшаўскімі вольнымі мулярамі і практычна не мела ніякіх адносінаў з іншымі ложамі ў Вільні. Такім чынам, з фармальнага пункту гледжання не існавала падставы для арганізацыйнага разрыву віленскіх ложаў з «Вялікім Усходам народаў Расеі». Тым не менш розніца ў поглядах на будучыню Беларусі і Літвы непазбежна вяла да гэтага.

Апошнім актам супрацоўніцтва быў удзел дэлегатаў Вільні (Андруса Булёты і Аляксандра Заштаўта) у масонскім канвенце ў Петраградзе ў маі 1915 г.[70]

17 мая 1915 г. Міхал Ромэр запісаў у Дзённіку: «*На 24 і 25 мая па старому стылю прызначаны масонскі канвент у Пецярбурзе. У парадку дня канвента і ў прапанаваных праектах рэзалюцый цэнтральныя ўлады Саюза ўяўнілі ўльтракадэцкія тэндэнцыі, падпарадкоўваючы масонскі рух імперыялістычным імкненням расейскага лібералізму. Будзе вострая барацьба [...] Воду на кадэцкі млын ліць не можам і не хочам. Ад нашых двух віленскіх ложаў «Літвы» і «Белай Русі» накіроўваем Булёта і Заштаўта. Гэта два тараны радыкалізму для штурма кадэцкіх акопаў. Каго накіруе трэцяя віленская ложа не ведаем*»[71].

Ваенныя падзеі і іх палітычныя наступствы ўнеслі свае карэктывы ў погляды віленскіх масонаў. У канцы 1914 – пачатку 1915 г. пачаліся першыя сур'ёзныя непаразуменні. Адно з іх набыло характар «літоўска-беларускага канфлікта». Аўтанамісцкая канцэпцыя дзеячаў літоўскага руху грунтавалася на пастанове Вялікага Сейма (Вільня, 1905). Яны дамагаліся аўтаноміі для «этнаграфічнай Літвы» са сталіцай у Вільні і з да-

лучэннем да яе г. зв. «*прылеглых тэрыторый*». Пад апошнімі звычайна разумеліся землі, населеныя беларусамі-каталікамі (частка Віленскай і Гарадзенскай губ.).

Зразумела, што дзеячы беларускага руху не маглі пагадзіцца з гэтай канцэпцыяй. Яны лічылі Вільню сталіцай усяго Краю, усёй «гістарычнай Літвы». Далучэнне «*прылеглых тэрыторый*» да аўтаномнай «этнаграфічнай Літвы» разглядалася імі як літоўская экспансія. Страта гэтых земляў магла прывесці да поўнага заняпаду беларускага руху, бо Усходняя Беларусь адна не мела шансаў супрацьстаяць працэсу русіфікацыі.

Зрэшты, прэтэнзіі на каталіцкія беларускія тэрыторыі прад'яўлялі і польскія палітыкі, якія, як заўважыў М. Ромэр, «*карыстаючыся з адсутнасці ў беларусаў нацыянальнай свядомасці і атаясамлівання ў народзе паняцця каталіцызму і польскасці альбо лічаць беларусаў-католікоў палякамі, альбо вераць у іх хуткую паланізацыю і дзейнічаюць у гэтым накірунку*»[72].

Сам М. Ромэр надаваў вялізарнае значэнне беларускаму фактару: «*Беларусы з'яўляюцца абавязковым элементам федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Іх упадак разам з перамогай польскай і літоўскай этнаграфічных канцэпцый – гэта смерць ідэі Рэчы Паспалітай, якая павінна абапірацца на прынцыпы свабоды і федэрацыі*»[73]. Аднак нават супольная праца ў масонскіх ложах не паспрыяла дасягненню міжнацыянальнага паразумення адносна будучыні Краю.

У маі 1915 г. М. Ромэр пакінуў Вільню. Ён перабраўся праз лінію фронта, каб далучыцца да легіёнаў Юзафа Пілсудскага. Ягоны ад'езд, а таксама эвакуацыя з горада многіх іншых «братоў», нанеслі моцны ўдар па дзейнасці віленскіх масонаў.

Хаця цалкам яна не перапынілася. Спрабаваў выратаваць сітуацыю Юргіс Шаўлюс. Па яго ініцыятыве рэшткі трох віленскіх ложаў аб'ядналіся ў новую самастойную арганізацыю «Вялікі Усход Літвы» або «Вялікі Усход Літвы і Беларусі»[74]. Аналіз гістарычнай літаратуры і матэрыялаў Дзённіка М. Ромэра дазваляе сцвярджаць, што «братамі» гэтай ложы хутчэй за ўсё з'яўляліся Ю. Шаўлюс (кіраўнік), Ё. Вілейшыс, К. Астахевіч, У. Асмалоўскі[75], браты Луцкевічы, Е. Ром, М. Брамсон ды інш.

Менавіта гэтая ложа адыграла галоўную ролю ў стварэнні Часовай рады Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага і з'яўленні дакументаў, якія ў пэўным сэнсе можна лічыць «лебядзінай песняй» краёвасці.

19 снежня 1915 г. на беларускай, польскай, літоўскай мовах, а таксама на ідыш быў апублікаваны Універсал Канфедэрацыі Вялікага

Княства Літоўскага. Дакумент паведамляў пра стварэнне літоўска-беларуска-польска-габрэйскай Часовай рады Канфедэрацыі ВКЛ, якая абвяшчала, што будзе імкнуцца, каб *«Літоўскія і Беларускія землі, якія здаўна прыналежалі да Вялікага Князьства Літоўскага, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскамі, станавілі пры новых варунках гісторычных нераздзельнае цела на фундаменці незалежнасьці Літвы і Беларусі, як суцэльнай дзяржавы, засьцерагаючы усім нацыям у яе межах усе правы»*. Універсал канчаўся заклікам да *«усіх нацый, да усіх станаў, да усіх істнуючых організацый і да усіх грамадзян Краю» далучыцца да Канфедэрацыі*[76].

У лютым 1916 г. Універсал быў дапоўнены зваротам, у якім канкрэтызавалася мэта Канфедэрацыі. Новая міжнацыянальная арганізацыя заяўляла пра шкоднасць усіх надзеяў на Расею: «*Больш чым сталетняе супольнае жыццё нашае з Расеяй найлепей паказала, што гэтае гасударства хоча з намі зрабіць. Праз увесь час супольнага з намі жыцця яно плянава і сістэматычна кіравалася да таго, каб сцерці ўсе адзнакі нашай самачыннасьці*».

Канфедэрацыя ВКЛ звязвала свой лёс з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй: «*Мы верым, што пасля пабеды срэдне-еўрапэйскіх гасударств быўшыя заходнія правінцыі Расеі, а перш за ўсё землі польскія, літоўска-беларускія і надбальтыцкія павінны будуць адпасьць ад Расеі і стварыць гасударственыя адзінкі ў такой або сякой камбінацыі з срэдне-еўрапэйскімі гасударствамі, а пры гэтым былі бы [...] запэўнены варункі самачыннага развіцьця іх сацыяльна-культурнага і палітычнага жыцьця*». Варта адзначыць, што праблема ўзаемаадносінаў Літвы і Польшчы ў дакументах Канфедэрацыі абміналася. Падобна, што ініцыятары адраджэння ВКЛ у новай дзяржаўнай форме не лічылі гэтую праблему першачарговай.

Рада Канфедэрацыі сваімі галоўнымі задачамі абвяшчала ўтварэнне на літоўска-беларускіх землях незалежнай дзяржавы з сеймам у Вільні, абраным на падставе усеагульных, роўных, прамых і тайных выбараў, з гарантыяй поўных правоў усім народам Краю. Тэрыторыя незалежнай дзяржавы павінна была ўключаць прынамсі Ковенскую і Віленскую губ., беларускую і літоўскую часткі Гарадзенскай і Сувалкскай, літоўскія часткі Курляндскай і частку Менскай губ, «*каторая звязана з Віленскім цэнтрам*». Форму дзяржаўнага ладу і Канстытуцыю «*будучай вольнай літоўска-беларускай гасударственнай адзінкі*» павінен быў вызначыць і зацвердзіць сейм у Вільні.

У заключэнне зварот заклікаў да сумеснай працы дзеля будучыні Краю: «*Кіньма сваркі і звадкі, ад каторых церпіць увесь Край. Падумайма разам ды шчыра аб долі гэтага Краю, бо ж усе мы, апрача жмені прыблуд, сыны нашай зямлі – нашай Літвы і Беларусі*»[77].

Ізноў трэба адзначыць прыкметную ролю беларускіх палітыкаў у стварэнні Часовай рады і выданні азначаных дакументаў. Вельмі блізкая да Івана Луцкевіча Юліяна Вітан-Дубейкаўская ва ўспамінах менавіта яго называла галоўным ініцыятарам з'яўлення Універсалу і Звароту[78]. Таксама Антон Луцкевіч напрыканцы 1920-х г. прызнаваў, што менавіта беларускія дзеячы «*стварылі «Канфедэрацыю Вялікага Князьства Літоўскага», аб'яднаўшы на грунце ідэі незалежнасці краю лепшых прадстаўнікоў дэмакратыі ўсіх чатырох нацыянальнасцяў: беларусаў, літвінаў, жыдоў і палякаў*»[79].

Аднак хутка пасля гэтага Часовая рада распалася, а ложа «заснула». Галоўнай прычынай былі нацыянальныя супярэчнасці, якія яшчэ больш абвастрыліся ва ўмовах германскай акупацыі. Гісторык з Таронта Зеновіуш Панарскі звярнуў увагу на інфармацыю габрэйскага палітыка Цэмаха Шабада пра адмову габрэйскіх дзеячаў падпісаць лютаўскі (1916) Зварот Рады па прычыне ягоных «*сепаратысцкіх тэндэнцый*»[80].

Польскі гісторык Генрык Віснэр паведаміў пра праект Найвышэйшага Літоўскага Камітэта, які быў прыняты 6 студзеня 1916 г. і прадугледжваў адраджэнне ВКЛ як літоўска-латышскай дзяржавы з магчымым далучэннем Беларусі[81]. Гэты праект, безумоўна, складаў канкурэнцыю Канфедэрацыі ВКЛ. Таксама трэба адзначыць утварэнне напрыканцы 1915 г. у Вільні Польскага Камітэту, у якім былі прадстаўленыя амаль усе накірункі польскага руху ў «гістарычнай Літве». Палітычная праграма гэтага Камітэту пачаткова грунтавалася на ідэі федэрацыі Літвы і Польшчы.

З. Панарскі сцвярджаў, што шматэтнічная грамадскасць Віленшчыны была папросту не падрыхтаваная да ідэі адраджэння ВКЛ у форме Канфедэрацыі: «*Палякі глядзелі ў накірунку Варшавы, з якой імкнуліся звязаць свой лёс у форме аўтаноміі або федэрацыі [...] Літоўцы толькі на пачатку былі прыхільныя гэтай ідэі. Пазней, баючыся польскага дамінавання, зрабілі стаўку на Берлін, з якім спадзяваліся звязаць лёс этнаграфічнай Літвы са сталіцай у Вільні. Габрэі не былі падрыхтаваныя да суіснавання з народамі гістарычнай Літвы. Яны азіраліся на Маскву. Расейскі рынак маніў іх. Толькі беларусы спадзяваліся на ўтварэнне адзінай дзяржавы з літоўцамі, якія паступова аддаляліся ад іх*»[82].

Беларусы, сапраўды, вельмі доўга захоўвалі прыхільнасць да канцэпцыі дзяржаўнасці на землях «гістарычнай Літвы». Ю. Вітан-Дубейкаўская згадвала, што яшчэ летам 1916 г. Іван Луцкевіч менавіта на гэтую тэму спрабаваў весці перамовы з дзеячамі розных нацыянальных рухаў[83].

Варта таксама спыніцца на праблеме ўдзелу габрэяў у руху вольных муляроў у Беларусі і Літве. Стэрэатыпы «жыдамасонскай змовы», створаныя калісьці расейскімі шавіністамі і чарнасоценцамі, дэманструюць сваю жывучасць і на пачатку XXI ст. Дык вось, габрэйскі ўдзел у ложах вольных муляроў на беларускіх і літоўскіх землях на пачатку XX ст. трэба прызнаць неістотным.

Безумоўна, асобныя прадстаўнікі габрэйскай супольнасці адыгралі значную ролю ў адраджэнні віленскага масонства. У першую чаргу, гэта датычыць ужо згаданых братоў Ромаў. Больш складана выказаць меркаванне пра габрэйскі ўдзел у працы віцебскай ложы. Сярод менскіх «братоў» габрэяў, магчыма, наогул не было.

Варта яшчэ раз звярнуць увагу на тую характарыстыку, якую М. Ромэр даў на старонках свайго Дзённіка Эліяшу Рому. Падкрэсленая выключнасць асобы апошняга толькі адцяняла меркаванне Міхала Ромэра пра тое, што сярод «сыноў габрэйскага народу» на пачатку XX ст. у Беларусі і Літве было няшмат людзей, якія лічылі Беларуска-Літоўскі край сваёй Радзімай і кіраваліся ягонымі інтарэсамі ў сваёй грамадскай і палітычнай дзейнасці.

З устаноўленых 44 вольных муляроў ложаў Беларуска-Літоўскага краю толькі васьмёра былі габрэямі, што складала 18 %. Дзеля параўнання заўважу, што палякі складалі прыблізна каля 40 %, літоўцы – 22 %, рускія – 11 % і беларусы – 9 %. Пры ўсёй умоўнасці гэтай «арыфметыкі» можна канстатаваць адсутнасць зацікаўленасці габрэяў Беларуска-Літоўскага краю ў масонскай дзейнасці. У першую чаргу гэта датычыць Вільні і Менску.

Верагодна, мясцовае вольнае мулярства з ягонай «краёвай арыентацыяй» не было прывабным для большасці габрэйскай супольнасці. Яна была настроеная пераважна прарасейскі і шукала палітычнага партнёра галоўным чынам сярод расейскіх партый ліберальнай і дэмакратычнай арыентацыі[84].

У заключэнне трэба адзначыць, што масонскія ложы на беларускіх і літоўскіх землях у 1910–1916 гг. адыгравалі прыкметную ролю ў нацыянальна-культурных і грамадска-палітычных працэсах. Найбольш эфектыўнай можна лічыць дзейнасць віленскіх ложаў «Еднасці», «Літвы» і «Беларусі», якія фактычна замянялі міжнацыянальную краёвую партыю

ліберальна-дэмакратычнага накірунку. Стварэнне падобнай легальнай партыі не было даведзена да канца магчыма якраз таму, што пэўную каардынацыю ліберальна-дэмакратычных і краёвых элементаў асобных нацыянальных рухаў забяспечвалі масонскія ложы.

У ідэалогіі віленскіх масонаў традыцыйны масонскі гуманізм, пра які пісаў у сваім Дзённіку М. Ромэр, існаваў у форме краёвасці ліберальна-дэмакратычнага накірунку. Няма сумненняў, што апошні накірунак дамінаваў таксама ў ідэалогіі ложаў у Менску і Віцебску. Сябры масонскіх арганізацый пашыралі сярод грамадства ўсведамленне каштоўнасці ідэалаў дэмакратыі. Яны таксама прапагандавалі ідэі нацыянальнай талеранцыі і супрацьстаялі праявам шавінізму ў палітычным і культурным жыцці.

Звяртае на сябе ўвагу актыўны ўдзел у дзейнасці масонскіх ложаў беларускіх палітыкаў. Браты Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі належалі да кола кіраўнікоў беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Іх вольнамулярская дзейнасць дазваляе ўзняць праблему ролі краёвай ідэалогіі ў выпрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі ў міжрэвалюцыйны перыяд 1907–1917 гг. Відавочна, што гэтая ідэалогія актыўна выкарыстоўвалася беларусамі ў мэтах пашырэння сацыяльнай базы беларускага руху. Дзейнасць масонскіх ложаў спрыяла прапагандзе краёвасці.

Знойдзеныя матэрыялы дазваляюць казаць пра пэўную адасобленасць ложаў. Асабліва гэта датычыць віцебскіх масонаў і віленскай польскай ложы «Верны ліцвін». Тым не менш развіццё падзеяў непазбежна вяло да ўтварэння на беларускіх і літоўскіх землях адзінай масонскай арганізацыі, непасрэдна падпарадкаванай «Вялікаму Усходу Францыі». Аднак ваенныя дзеянні Першай сусветнай вайны, якія суправаджаліся ростам міжнацыянальнай напружанасці перашкодзілі завяршэнню гэтага працэсу. Між тым падобная арганізацыя з улікам сувязяў з заходнееўрапейскім масонствам магла адыграць прыкметную ролю ў барацьбе за захаванне тэрытарыяльнага адзінства Беларуска-Літоўскага краю і яго ператварэнню ў суб'ект міжнародных адносінаў напрыканцы і пасля завяршэння вайны.

## *Спіс вольных муляроў у ложах Беларусі і Літвы. 1910–1915 гг.*

1. Абрамовіч Вітальд (1874-каля 1940) – «Еднасць», «Літва», «Верны літвін».
2. Арансон Рыгор – ложа ў Віцебску (?)

3. Асмалоўскі Уладзіслаў – «Літва», «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі»).
4. Астахевіч Казімір ( 1883–1952) – «Літва», «Беларусь», «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі»).
5. Афенберг Ян – ложа ў Менску (?)
6. Багушэўскі Ян – «Еднасць».
7. Бамас (Бомас) Вітальд – ложа ў Віцебску.
8. Барткевічэне-Повіцкайтэ Феліцыя (1873–1945) – «Літва».
9. Бельскіс Вацловас (1870–1938) – «Літва».
10. Біржышка Міколас (1882–1962) – «Еднасць», «Літва», «Беларусь».
11. Біржышка Вацловас (1884–1956) – «Літва».
12. Брамсон Майсей – «Еднасць», «Літва», «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі»).
13. Брук Рыгор – ложа ў Віцебску
14. Бугайлішкіс Пеліксас (1883–1965) – «Літва», «Беларусь».
15. Будны Станіслаў – «Еднасць», «Верны літвін».
16. Булёта Андрюс (1872–1941) – «Літва», «Беларусь».
17. Гурэвіч Беніамін – ложа ў Віцебску
18. Валковіч Аляксей – ложа ў Віцебску
19. Вілейшыс Ёнас (1872–1942) – «Літва», «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі»).
20. Заштаўт Аляксандр – «Еднасць», «Літва», «Беларусь».
21. Івашкевіч Эдмунд – ложа ў Менску (?)
22. Калюбакін Аляксандр – ложа ў Віцебску
23. Кодзіс Тэадор – ложа ў Менску
24. Краскоўскі Іван (1882–?) – «Еднасць», «Літва» (Вялебны), «Беларусь».
25. Крыжаноўскі Браніслаў (1876–1943) – «Еднасць», «Літва», «Верны літвін».
26. Ластоўскі Вацлаў (1883–1938) – «Літва».
27. Луцкевіч Антон (1884–?) – «Еднасць», «Літва» (Прамоўца), «Беларусь», «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі»).
28. Луцкевіч Іван (1881–1919) – «Еднасць» (Прамоўца), «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі»).
29. Маліноўскас Данатас – «Еднасць».
30. Нагродскі Зыгмунт (1865–1937) – «Еднасць», «Літва», «Верны літвін».
31. Петрусевіч Казімір – ложа ў Менску
32. Пілсудскі Ян (1876–1950) – «Еднасць», «Верны літвін».

33. Пісарэўскі Сяргей – ложа ў Віцебску
34. Прозараў Іван – «Еднасць», «Літва».
35. Ром Ежы – «Еднасць» (Вялебны), «Вялікі ўсход Літвы» («Вялікі ўсход Літвы і Беларусі»).
36. Ром Эліяш – «Еднасць» (Скарбнік, Сакратар), «Літва» (Першы дазорца).
37. Ромэр Міхал – «Еднасць», «Літва» (Вялебны).
38. Сакалоўскі Эдвард (1878–1932) – «Літва».
39. Сляжэвічус Міколас (1882–1939) – «Еднасць», «Літва» (Скарбнік, Сакратар).
40. Федаровіч Вячаслаў – ложа ў Віцебску
41. Цэйтлін Аляксандр – ложа ў Віцебску
42. Чаркоўскі Людвік (1855–1928) – «Еднасць» (Дазорца),
43. Шагал Марк – ложа ў Віцебску (?)
44. Шаўлюс Юргіс (1879–1968) – «Літва», «Вялікі Усход Літвы» («Вялікі Усход Літвы і Беларусі») (Вялебны).

ДАДАТАК

## *Фрагменты дзённіка Міхала Ромэра*[85]

**3 (16) сакавіка 1915 г., аўторак. (т. 4, с. 403).**

На днях я закончу гэты том майго дзённіка. Потым адвязу яго да Вянзоўца[86] і перадам у рукі Эльвіры на захаванне. Дзённік будзе схаваны здалёк ад усіх да майго распараджэння. На выпадак маёй смерці папрашу Эльвіру, не чытаючы, перадаць яго Заштаўту[87]. Заштаўта ж папрашу (лістом у асобным канверце) адвезці гэты том разам з іншымі ў музей Раперсвіля[88] і дэпаніраваць яго там на наступных умовах: 1) дзённік нельга чытаць; 2) праз 50 год пасля маей смерці дзённік павінен быць надрукаваны цалкам без скарачэнняў, пропускаў і змяненняў. Перад дэпаніраваннем дзённіка я дазваляю Заштаўту прачытаць яго асабіста або з кім-небудзь, але без права публікацыі.

Гэты сшытак я перадам Эльвіры недапісаным. Працягваць запісы буду ўжо ў новым. Усё гэта я раблю таму, што ўжо зараз збіраюся распачаць хадайніцтва аб замежным пашпарце. Не хачу пры гэтым мець у Вільні, нават у кватэры Анінкі[89], нічога, што магло б мяне скампраметаваць у выпадку якіх-небудзь паліцыйных акцый або мажлівага вобы-

ску. Новы том дзённіка я буду весці так, каб нічым не выдаць уласных незалежніцкіх сімпатый і намераў адносна легіёнаў. Не хачу, каб гэта стала вядомым да таго моманту, пакуль я не апынуся за кардонам. Таму адносна ўласных сімпатый і намераў я накладваю пячатку маўчання на свае вусны і пяро. Аднак гэта датычыць запісаў ужо наступнага тома.

А ў гэтым перад яго заканчэннем я хачу зняць таямніцу з тэмы, пра якую увесь час маўчаў. Перадаючы гэты том у надзейныя рукі і вызначыўшы ягонае дэпазітнае захаванне на працягу 50 год пасля маёй смерці, што, зразумела, зробіць немагчымым яго публікацыю ў гэты час, я магу выказацца і распавесці праўду пра адну таямніцу.

Справа ў тым, што я належу да Вольных муляроў. Паседжанні нашай ложы адбываліся ў тыя дні, у апісанні якіх адразу пад датай быў змешчаны які-небудзь знак. Адразу хачу заўважыць, што шырока распаўсюджана разуменне масонаў як езуітаў наадварот. Магчыма, так яно і ёсць у адносінах да Вольных муляроў дзе-нібудзь у свеце, але ў адносінах да нашага Саюза гэтае разуменне не адпавядае рэчаіснасці. Мы вельмі далёкія ад перакананняў, што мэта апраўдвае сродкі, што з дапамогай крывадушнасці, хлусні, гвалту ці якога іншага амаральнага сродка можна стварыць што-небудзь трывалае і цудоўнае. Гэта глыбока памылковы погляд быццам Вольныя муляры маюць пэўныя антыграмадскія або антыкультурныя мэты, імкнуцца да панавання і да знішчэння чалавечай культуры, адным з элементаў якой з’яўляецца рэлігія.

Наша задача – не знішчаць, не ламаць, не разбураць, а ствараць і ўдасканальваць. Канешне, я не магу адказваць за Масонства ўсяго свету ва ўсіх яго гістарычных формах. Не сумняваюся, што маглі быць і былі адхіленні і калецтвы творчай ідэі. Былі скажэнні ў накірунку сектанцтва, фармалізму, крывадушнага езуіцтва, нарэшце, бясплённага кар’ерызму клікі, як было, у прыватнасці, у Францыі.

Я ж распавядаю толькі пра наш Саюз. Нашым падмуркам з’яўляюцца ідэі братэрства, любові і свабоды чалавечага духа. Наша брацтва – гэта Саюз гуманізму ў самым шляхетным і адначасова дзейсным значэнні гэтага слова. Мы імкнемся, каб гэтыя лозунгі не сталі звычайнай фармальнасцю, не ўспрымаліся толькі як нейкі сцяг, не атаясамліваліся з тымі прыгожымі словамі, якія пішуцца на астрожнай браме і не маюць дачынення да рэчаіснасці. Мы не жадаем і таго, каб гэтыя лозунгі ператварыліся ў сродак гвалту над жывым і творчым чалавечым духам. Мы імкнемся зрабіць іх рэальнасцю сумлення, дзеянняў і адносінаў у чалавечым сужыцці; каб

яны напоўнілі як адносіны паміж асобнымі людзьмі, так і паміж усялякімі групамі і нацыямі і, нарэшце, сталі здабыткам усяго чалавецтва; каб установы, законы, арганізацыі, уся культура былі напоўненыя зместам і сэнсам гэтых лозунгаў. Гэта далекая мэта, але жывая, да якой мы павінны імкнуцца ў кожнай дробязі жыцця. Унутры ж нашага асяродка, нашых ложаў мы павінны зрабіць братэрства праз любоў і ўзаемадапамогу фактам ужо сённяшняга дня. Вольныя муляры абавязаны мець актыўную жыццёвую пазіцыю, каб пастаянна рэалізоўваць масонскі прынцып гуманізму.

Наш Саюз – не палітычнае аб'яднанне. Нельга яго лічыць і партыяй. Толькі імкненне прытрымлівацца асноўных прынцыпаў чалавечнасці, прымушае нас (асабліва тут, у расейскай дзяржаве) займаць антыўрадавую палітычную пазіцыю. Прычына ў тым, што гэтая дзяржаўная арганізацыя, а на маю думку і сама расейская дзяржаўнасць як канкрэтны гістарычны феномен з'яўляецца найвялікшай перашкодай для рэалізацыі нашых прынцыпаў.

Мы не змагаемся супраць палітычных партый, мы нікога не адрываем ад іх. Партыі маюць свае ўласныя задачы, вырашэнне якіх неабходна для прагрэсіўнага развіцця чалавецтва. Калі накірунак і дзейнасць партый не пярэчаць выразна нашым прынцыпам, то нам няма ніякай справы да партыйнай прыналежнасці нашых братоў. Мы называем сябе «братамі», бо ва ўзаемаадносінах паміж сабой такавымі і з'яўляемся ці, прынамсі, імкнемся быць. Уваходжанне ў нашыя ложы братоў рознай палітычнай арыентацыі нават пажадана, бо стварае магчымасць пэўнай каардынацыі дзейнасці розных партый.

Нікога з братоў мы не падвяргаем прымусу, не дапускаем аніякага гвалту над пераканнямі і свабодай сумлення, таму што гэта пярэчыць нашым асноўным прынцыпам. Кожны брат і ў кожны момант можа пакінуць ложу і Саюз. Аднак ён павінен трымацца адной абавязковай ўмовы, а менавіта захоўваць у поўнай таямніцы сам факт існавання Вольных муляроў. Дзеля гэтага дазваляецца нават парушэнне судовай прысягі.

**4 (17) сакавіка 1915 г., серада (т. 4, с. 404).**

Я разлічваў, што маю яшчэ некалькі дзён для заканчэння дзённіка, але абставіны склаліся так, што вымушаны зрабіць апошні запіс ужо сёння. З Вільні да Вянзоўца я прыехаў уначы. Спадзяваўся правесці тут некалькі дзён, закончыць дзённік і пакінуць яго ў Эльвіры напярэдадні ад'езду. Апроч дамовы пра дэпаніравання дзённіка я павінен быў яшчэ канчаткова дапрацаваць

і падпісаць нашую з Эльвірай дамову пра супольнае валоданне Вянзоўцам. Выехаць з Вянзоўца да Варшавы я планаваў у суботу праз Менск і Берасце, каб у нядзелю прыняць удзел у польска-літоўскіх перамовах. (Ініцыятарам гэтых перамоваў быў Незалежніцкі Блок (Blok Niepodległościowy)[90]. Літоўскі бок у перамовах будзе прадстаўлены толькі партыямі: ад Дэмакратычнай партыі прыедзе Сляжэвіч[91], ад эсдэкаў – Янулайціс[92].

Я быў запрошаны адмыслова як знаўца літоўскай сітуацыі. Рашэнне ехаць прыняў толькі пасля таго як пераканаўся, што літоўцы не маюць нічога супраць майго ўдзелу.

Дабраўшыся да Радашковіч, я даведаўся ад Яські Падольскага[93], які прыехаў за мной на станцыю, што Эльвіры яшчэ няма і невядома, калі яна прыедзе. У Вянзоўцу – адзін Стэфан[94]. Адсутнасць Эльвіры пазбаўляе сэнсу мой прыезд. Я ўсё роўна буду вымушаны прыехаць яшчэ раз. Адправіў тэлеграму Эльвіры ў Рабертаў з пытаннем, калі яна прыедзе. Калі адкажа, што прыедзе заўтра або ў пятніцу, то я паеду ў Вянзовец, калі адкажа, што прыедзе пазней ці не адкажа да 7 гадзіны вечара, то буду вяртацца ў Вільню і ўжо з Вільні паеду ў суботу ў Варшаву.

А пакуль сяджу ў карчме Гінзбурга, што пры чыгуначнай станцыі ў Радашковічах, і пішу дзённік. Амаль упэўнены, што звесткі пра заўтрашні прыезд Эльвіры не атрымаю. Але назад у Вільню дзённік я ўжо не павязу. Тут, у карчме запакую яго як-небудзь і перадам Ясю, каб адвез да Вянзоўца, сцярог як зяніцу вока і перадаў Эльвіры пасля яе прыезду.

Хачу дадаць яшчэ некалькі слоў да ўчарашняй інфармацыі пра нашае Вольнае мулярства. Наш Саюз ахоплівае ўсю расейскую дзяржаву. Ён узнік, як здаецца, у 1909 г. як адгалінаванне Вялікага Усходу Францыі. Ініцыятарамі стварэння гэтай «плантацыі» былі расейскія палітыкі, пераважна кадэты. Ад пачатку свайго існавання Саюз насіў выразны палітычны характар.

Узорам для яго з’яўлялася турэцкая арганізацыя вольных муляроў «Еднасць и прагрэс», што стаяла на чале дзяржаўнага перавароту 1909 г.[95], у якім галоўную ролю адыгралі рэвалюцыйныя афіцэры – змоўшчыкі. Праз два ці тры гады расейскі Саюз Вольных муляроў аддзяліўся ад Францыі і стварыў уласны Вялікі Усход. Пазней на канвенце ў Маскве, калі не памыляюся, у студзені 1913 г., ён змяніў назву на»Вялікі Усход народаў Расеі». Новая назва падкрэсліла ідэю вольнай федэрацыі народаў.

(Не магу сцвярджаць, што расейскія браты шчыра прынялі гэтую ідэю, але кірунак нашай дзейнасці менавіта такі. На апошнім кастрычніцкім

канвенце ў Пецярбургу, на які ад нашай ложы быў дэлегаваны я, сярод рускіх братоў выразна адчуваліся імперыялістычныя настроі, а тое, што пераважная большасць расейскіх братоў рэкрутуецца з кадэтаў, спрыяе прысутнасці дзяржаўных амбіцый у расейскім масонстве).

У Вільні першая ложа пад назвай «Еднасць» была заснаваная ў канцы 1910 г. Я быў прыняты ў яе склад у сакавіку 1911 г. Звычайна, ложа павінна налічваць не менш 7 братоў і не больш 14. Калі набіраецца 14 братоў, ложа дзеліцца напалову і, такім чынам, узнікае яшчэ адна.

«Еднасць» вылучыла з свайго складу новую ложу летам 1911 г. У той час у яе ўваходзілі доктар Ежы Ром[96]– брат Венерабле (Venerable) – кіраўнік ложы, габрэй; доктар Чаркоўскі[97] – брат Наглядчык (Dozorca) і адначасова намеснік Венерабля, паляк, належаў да эндэцкай левіцы, блізкай па сваім сацыяльным поглядам да людоўцаў; Іван Луцкевіч – брат Прамоўца (Orator), захавальнік абрадаў і статуту, беларус; Эліяш Ром[98] – брат Скарбнік (Skarbnik) і Сакратар, габрэй, родны брат Венерабля; Вітальд Абрамовіч[99], Браніслаў Крыжаноўскі[100], Зыгмунт Нагродскі[101], я (усе палякі); Прозараў[102] і Краскоўскі[103] (усе расейцы); Антон Луцкевіч (беларус); Міхал Сляжэвіч, Міхал Біржышка[104] (літоўцы); ледзь не забыўся назваць імя яшчэ аднаго паляка – доктара Багушэўскага[105] і габрэя Брамсона[106].

На самым пачатку ў ложу быў прыняты яшчэ літовец Данат Маліноўскі[107]. Ён быў у першай «сямерцы», даволі няўдала падабранай Ромамі і Луцкевічамі. Мы пазбыліся Маліноўскага, бо ўсе новыя браты абураліся яго ўдзелам. Яны ведалі Маліноўскага як чалавека палітычна несумленнага, які дзеля ажыццяўлення літоўскіх нацыяналістычных імкненняў ішоў нават на кантакты з урадам.

Ложа, якая выйшла з «Еднасці» ў 1911 г., атрымала назву «Літва». У яе склад увайшлі палякі – я (Венерабле), Крыжаноўскі і Нагродскі, літовец Сляжэвіч (Скарбнік і Сакратар), расейцы– Прозараў і Краскоўскі (пазнейшы Венерабле), беларус – Антон Луцкевіч (Прамоўца) і габрэі – Эліяш Ром (Першы Назіральнік) і Брамсон. Эліяш Ром памёр у 1912 г.

У 1913 г. з абодвух віленскіх ложаў выйшаў цэлы шэраг братоў-палякаў: Крыжаноўскі і Нагродскі з «Літвы», В. Абрамовіч, і прынятыя ўжо пасля раздзелу, Будны[108] і Ян Пілсудскі[109] з «Еднасці». З 1911 г. у нашу «Літву» былі прынятыя літоўцы – Вацлаў Біржышка[110] (1911), Бельскі[111] (з Шаўляў, 1911 або 1912), Бугайлішкіс[112] (1911 або 1912, адначасова з Бельскім), Булат[113] (1913), Шаўлюс[114] (1912), Ян Вілейшыс[115] (1914), Феліцыя Барткевічава[116]

(1915, першая жанчына ў віленскіх ложах); палякі – Казімір Астахевіч[117] (1913), Эдвард Сакалоўскі[118] (1912) і Уладзіслаў Асмалоўскі[119] (1913 або 1914), беларус Вацлаў Ластоўскі (1912). Акрамя іх да нас перайшлі з ложы «Еднасць» Аляксандр Заштаўт і Міхал Біржышка.

У кастрычніку 1914 г. з ложы «Літва» вылучылася новая ложа, ужо трэцяя ў Вільні. Яна атрымала назву «Беларусь». Пакуль яе самастойнасць больш фармальная. Фактычна яна ўсё яшчэ ўтварае адно цэлае з «Літвой», і канчаткова аддзеліцца толькі ўвосень 1915 г. Да «Белай Русі» належаць А. Луцкевіч, Булат, Бугайлішкіс, М. Біржышка, Краскоўскі, Заштаўт і Астахевіч.

На сённяшні дзень у нашым краі – 5 ложаў: тры - у Вільні і па адной у Менску і Віцебску. Мы заўсёды імкнуліся да стварэння аўтаномнай краёвай арганізацыі, дзеля ўтварэння якой неабходна мець 7 ложаў.

Фактычна, мы не выконваем масонскіх абрадаў. Змест для нас важнейшы, чым рытуал, які выконваецца толькі пры прыёме новых сяброў. Хаця і ў гэтым выпадку ён зведзены да мінімума. Нельга не прызнаць, што дух братэрства сярод нас адчувальна ўзмацніўся, але дасканаласці няма, бо чалавечая натура слабая. Пастаянным і жывым крытэрыем ва ўсіх справах з'яўляюцца для нас прынцыпы гуманізму. Па меньшай меры, нашыя намаганні ў гэтым накірунку досыць адчувальныя. Іх уплыў відавочны. Нашыя ложы фактычна з'яўляюцца духоўнымі арганізацыямі.

Як уласна масонская арганізацыя, мы не дзейнічаем, але па многіх справах менавіта сярод нас выпрацоўваюцца дырэктывы і нараджаюцца ініцыятывы. Нашыя ложы маюць вялікі ўплыў на ўмацаванне ў свядомасці братоў краёвай пазіцыі. Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што нашае Вольнае мулярства, асабліва віленскія ложы, з'яўляецца гуманістычным Саюзам, які не мае нічога агульнага з крывадушным палітыканствам у стылі езуіцтва, з барацьбой супраць рэлігіі і з навязываннем чаго б ні было. […]

---

1 Смалянчук А. З гісторыі віленскага масонства ХХ ст. // Спадчына. 1998, № 5.

2 Смалянчук А. Дзённік Міхала Ромэра як крыніца па гісторыі Беларусі пачатку ХХ ст. // Беларускі гістарычны агляд. Чэрвень 1998, том 5, сшытак 1 (8).

3 Смалянчук А. Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2000, Nr 14.

4 Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак ХХ ст. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Вільня, 2005, 280 с.

[5] На жаль, аўтар артыкула не выкарыстаў новыя дадзеныя і абмінуў удзел вядомых беларускіх палітыкаў у масонскіх арганізацыях пачатку XX ст. (Рыбко М. Масонства // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Том 5. Мінск 1999, с. 91-93).

[6] Сташкевіч М. Гістарычны выбар на пачатку XX ст. // Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. Пад рэд. А. П. Вайтовіча ды інш. Мінск, 2000, с. 106.

[7] Швед В. Масонскія ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст. // Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Вільня, 2005, с. 39-40.

[8] Дабраньскі С. Нарысы з гісторыі масонства ў Літве // Спадчына. 1997, № 3, с. 50.

[9] Hass L. Dni wielkości: o masonerii Rosyjskiej początku XX w. // Гл.: www.wlnp.pl / Arsregia.htm. Кніга Л. Хаса таксама друкавалася на старонках часопіса *Ars Regia* (1995–1996. R. 4/5, Nr 1-2).

[10] Hass L. Rosyjskie wolnomularstwo lat 1906–1918 (Fragment z dziejów liberalizmu w Rosji.) // Studia z dziejów ZSSR i Środkowej Europy. VII. 1971, s. 152 (Васіль Маклакоў – сябра ЦК партыі кадэтаў, дэпутат II–IV Дзяржаўных Думаў, у 1917 г. прызначаны Часовым урадам паслом у Парыж, старшыня Рускага камітэта пры Ліге нацый. Яўген Кедрын – адвакат і дэпутат I Дзяржаўнай Думы).

[11] Hass L. Rosyjskie wolnomularstwo lat 1906–1918, s. 156; Аврех А. Масоны и революция. Москва, 1990, с. 50 (Мікалай Бажэнаў (1857–1923) – псіхіатр, прафесар, напачатку 1906 г. старшыня маскоўскага Літаратурна-мастацкага гуртка, ініцыяваны ў 1884 г. у ложу «Les Amis Reunis» у Францыі).

[12] Аврех А. Масоны и революция, с. 184.

[13] Hass L. Rosyjskie wolnomularstwo lat 1906–1918, s. 152.

[14] Аляксандр Калюбакін (1868–1915) – сябра партыі кадэтаў, дэпутат III Дзяржаўнай Думы. Сакратар Вярхоўнай рады «Вялікага Усходу народаў Расеі» (1912–1915). Загінуў на фронце; Мікалай Някрасаў (1879–1940) – інжынер-чыгуначнік, дэпутат III і IV Дзяржаўных Думаў. У 1915–1916 гг. выконваў абавязкі Сакратара Вярхоўнай рады «Вялікага Усходу народаў Расеі». Міністр шляхоў зносінаў у Часовым урадзе. Застаўся ў савецкай Расеі. У 1928–1930 гг. працаваў на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала.

[15] Сцвярджэнне расейскага даследчыка В. Брачава пра тое, што віленская ложа «Літва» не заявіла пра самароспуск, а працягвала сваю дзейнасць (Брачев В. С. Русское масонство XX в. Спб., 2000, с. 51) не адпавядае рэчаіснасці. Гэтая ложа была заснаваная толькі ў 1911 г.

[16] Серков А. История русского масонства. 1845–1945. Спб., 1997, с. 105.

[17] Старцев В. И. Русское политическое масонство начала XX в. Спб., 1990, с. 23-24.

[18] Старцев В.И. Русское политическое масонство, с. 124.

[19] Hass L. Dni Wielkości: o masonerii Rosyjskiej początku XX w.

[20] Hass L. Masoneria Polska XX w. Losy, lozy, ludzi. Warszawa, 1993, s. 44.

[21] Знойдзеныя крыніцы дазваляюць сцвярджаць памылковасць тэзіса Людвіка Хаса пра прыналежнасць віленскай ложы «Літва» да польскага вольнамулярства (Hass L. Dni Wielkości: o masonerii Rosyjskiej początku XX w.

[22] Hass L. Masoneria Polska XX w. Losy, loży, ludzi, s. 222.

[23] Ibidem, s. 271.

[24] Серков А. И. Русское масонство. 1731 – 2000. Энциклопедический словарь. Москва, 2001, с. 641.

[25] Hass L. Dni Wielkości: o masonerii Rosyjskiej początku XX w. (Паводле інфармацыі польскага гісторыка Дарыуша Тарасюка, Ян Офенберг з'яўляўся адным з кіраўнікоў польскай «Асвяты» на Меншчыне і меў непасрэднае дачыненне да стварэння тайных польскіх школ. Эдмунд Івашкевіч у 1916 г. актыўна працаваў у Польскім таварыстве дапамогі ахвярам вайны (Tarasiuk D. Działalność kulturalno-oświatowa Polaków w Mińsku w latach 1905–1914 // На шляхах да ўзаемаразумення: навуковы зборнік. Мінск, 2000).

[26] Dział rękopisów Biblioteki Narodowej Polski (BNP). Akc. 11258. Zofia Kodis-Freyerowa. Wspomnienia, s. 20-21.

[27] Аддзел рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы (АР ЦБАНЛ). Дзённік Міхала Ромэра. Т. 2, s. 35. Запіс ад 20. 09 (3. 10). 1911 г.

[28] Dział rękopisów BNP. Rkps. 6792a. J. Osmołowski. Wspomnienia z lat 1914–1921, s. 13.

[29] Сташкевіч М. Гістарычны выбар на пачатку XX ст., с. 106–107.

[30] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 4, s. 403. Запіс ад 3 (16). 03. 1915 г.

[31] Тамсама. Т. 1, s. 66. Запіс ад 7 (20). 03. 1911 г.

[32] Тамсама.

[33] Тамсама.

[34] Тамсама. Т. 4, s. 403. Запіс ад 3 (16). 03. 1915 г.

[35] Тамсама. Т. 2, s. 252. Запіс ад 24. 04. (7. 05). 1912 г.

[36] Тамсама, s. 89. Запіс ад 13 (26). 11. 1911 г.

[37] Польскі даследчык Збігнеў Соляк лічыў І. Краскоўскага прадстаўніком рускай супольнасці. (Solak Z. Michał Römer i masoneria wileńska (1911–1915) // Lietuvių Atgimimo istorijos studijos. 1996, t. 13, s. 36). Да рускіх адносіў І. Краскоўскага ў 1911 г. і М. Ромэр (Дзённік Міхала Ромэра. Т. 2, s. 82. Запіс ад 6 (19). 11. 1911 г.). Цалкам верагодна, што І. Краскоўскі належаў да той катэгорыі дзеячаў нацыянальна-культурнага памежжа, якія вагаліся ў выбары ўласнай нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

[38] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 4, s. 404. Запіс ад 4 (17). 03. 1915 г.

[39] Гэта была адзіная жанчына ў віленскіх ложах.

[40] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 4, s. 404. Запіс ад 4 (17). 03. 1915 г.

[41] Hass L. Masoneria Polska XX w., s. 293.

[42] Ibidem, s. 303.

[43] Аўтабіяграфія Баніслава Адамавіча Тарашкевіча // Спадчына. 1996, № 4, с. 116.

[44] Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця // Полымя. 1993, № 2, с. 187.

[45] Сташкевіч М. Гістарычны выбар на пачатку XX ст., с. 107.

[46] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 4, s. 404. Запіс ад 4 (17). 03. 1915 г.

[47] Solak Z. Michał Römer i masoneria wileńska (1911–1915) // Lietuvių Atgimimo istorijos studijos. Vilnius, 1996, s. 39.

[48] Chajn L. Polskie wolnomularstwo 1920–1938. Warszawa, 1984, s. 105.

[49] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 28, s. 138. Запіс ад 17.11. 1920 г.

[50] Sawicki J. «Przegląd Wileński» w latach 1911–1915 (część I) // Zapiski Historyczne, t. LIX, rok 1994, zeszyt 4, s. 52-53.

[51] Solak Z. Michał Römer i masoneria wileńska (1911–1915), s. 40.

[52] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 3, s. 136. Запіс ад 13 (26). 05. 1913 г.

[53] Тамсама, s. 270. Запіс ад 21.10 (3.11).1914 г.

[54] Тамсама. Т. 4, s. 300. Запіс ад 20. 11 (3. 12). 1914 г.; Тамсама, s. 301. Запіс ад 21. 11 (4. 12). 1914 г.

[55] Тамсама, s. 404. Запіс ад 4 (17). 03.1915 г.

[56] Беларускі Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). Ф. 3, воп. 1, ад.з. 100, арк. 32.

[57] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Т. 4, s. 404. Запіс ад 4 (17). 03. 1915 г.

[58] Тамсама. Т. 4, s. 257. Запіс ад 8 (21). 10. 1914 г.; Тамсама, s. 259. Запіс ад 10 (23). 10. 1914 г.

[59] Аляксандр Керанскі (1881–1970) – адвакат, дэпутат Дзяржаўнай Думы, міністр юстыцыі ў Часовым урадзе, ваенны міністр, старшыня Рады міністраў, Вярхоўны Галоўнакамандуючы. Ініцыяваны ў 1912 г. у ложы «Малая Мядзведзіца». У 1916 г. быў абраны Генеральным сакратаром Вярхоўнай рады «Вялікага Усходу народаў Расеі».

[60] Хмельницкая Л. Марк Шагал и витебская масонская ложа // Бюллетень Музея Марка Шагала. Выпуск 15. Минск, 2008, с. 75-80.

[61] Брачев В. С. Русское масонство XX в. Спб., 2000, с. 71 (Рыгор Арансон (пам. 1968) – меншавік, аўтар мемуараў, гісторык, публіцыст).

[62] Берберова Н. Люди и ложи. Русские масоны XX столетия. Биографический словарь. Москва, 1997.

[63] Серков А. Русское масонство. 1731-2000, с. 84.

[64] Тамсама, с. 830.

[65] Тамсама, с. 142.

[66] Тамсама, с. 283.

[67] Тамсама, с. 644.

[68] Тамсама, с. 193.

[69] Тамсама, с. 861.

[70] Solak Z. Michal Romer i masoneria wileńska (1911–1915), s. 42.

[71] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 6, s. 26. Запіс ад 17 (30). 05. 1915 г.

[72] Тамсама. Т. 4, s. 299. Запіс ад 19. 11 (2. 12). 1914 г.

[73] Тамсама, s. 300. Запіс ад 20.11 (3. 12). 1914 г.

[74] Sawicki J. Z dziejów «Wielkiego Wschodu Litwy» // Przegląd Wschodni, t. IV, z. 2 (14), s. 444.

[75] У. Асмалоўскі быў захавальнікам масонскіх архіваў. Як засведчыў М. Ромэр, перад ад'ездам у Расію У. Асмалоўскі схаваў гэтыя архівы ў Вільні (Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. Т. 27, s. 135. Запіс ад 28. 07. 1920 г.). Лёс архіваў невядомы.

[76] Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў (ЛДГА). Ф. 1135, воп. 24, ад.з. 7, арк. 153.

[77] Літаратура і мастацтва. 23. 11. 1990. Публікацыя дакумента падрыхтаваная А. Сідарэвічам.

[78] Вітан-Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны. Вільня, 1994, с. 45.

[79] Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, Беларуская Сацыялістычная Грамада. Мінск, 1991, с. 46.

[80] Ponarski Z. Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1998, Nr 10, s. 65.

[81] Wisner H. Wojna nie wojna: szkice z przeszłości polsko-litewskiej. Warszawa, 1978, s. 89.

[82] Ponarski Z. Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916, s. 65.

[83] Вітан-Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны, с. 66.

[84] Расейскі аўтар Б. Башылаў у кнізе «Легенда, оказавшаяся правдой», бяздоказна сцвярджае актыўны ўдзел габрэяў у дзейнасці вольных муляроў Беларусі і Літвы: «*И сонизм, и другие еврейские политические течения не только не запрещали, а одобряли пребывание как в «гоевском», так и в чисто еврейском масонстве. И странно было бы, если русские и польские евреи, по примеру своих соплеменников в других странах, не использовали такое мощное тайное средство политической борьбы, как различные виды масонства. И они, конечно, его использовали со свойственным им пылом и активностью. И в ложах Северо-Западного края и в «украинских ложах» в Малороссии, и в Польше, всюду, где были ложи «гоевского масонства» – членами этих лож были и евреи*» (www.masonry.ru).

[85] Раней гэтыя старонкі Дзённіка былі надрукаваныя гісторыкам Збігневам Солякам у кракаўскім часопісе «Niepodleg86 Маёнтак паблізу Радашковіч, якім валодала сястра М. Ромэра Эльвіра Мячкоўская.

[87] Аляксандр Заштаўт (1877–1944) - грамадскі і палітычны дзеяч. Краёвец. Адзін з кіраўнікоў Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы і Беларусі. Удзельнік похода Люцыяна Жалігоўскага на Вільню (1920). У 1924–1937 гг. кіраўнік Незалежнай сацыялістычнай партыі працы.

[88] У 1870 г. у замку Рапэрсвіль (кантон Санкт-Гален, Швейцарыя) графам Уладзіславам Браэль-Плятэрам і ягонай жонкай Каралінай быў заснаваны Нацыянальны польскі музей (Muzeum Narodowe Polskie), у якім захоўваліся шматлікія рарытэты, звязаныя з гісторыяй польскай культуры і вызваленчага руху. У прыватнасці, з 1885 па 1927 г. там знаходзілася урна з муміфікаваным сэрцам Тадэвуша Касцюшкі.

[89] Ганна Вольберг (1891–1914) – блізкая сяброўка М. Ромэра.

[90] «Незалежніцкі Блок»як аб'яднанне партый і арганізацый, якія імкнуліся да незалежнасці Польшчы, існаваў з жніўня па лістапад 1914 г. Найбольш уплывовай партыяй гэтага Блоку была ППС.

[91] Міколас Сляжэвічус (1882–1939) – сябра Літоўскай дэмакратычнай партыі. Узначальваў урад Літвы ў 1918–1919, у 1926 гг.

[92] Аўгусцінас Янулайціс (1878–1950) – юрыст, гісторык. Сябра Літоўскай сацыялістычнай народна-дэмакратычнай партыі.

[93] Ян Падольскі – работнік маёнтка Вянзовец.

[94] Стэфан Мячкоўскі – муж Эльвіры.

[95] Звычайна гэтыя падзеі называюць «младатурэцкай рэвалюцыяй» (1908), падчас якой быў зрынуты султан Абдул Хамід ІІ і адноўленая канстытуцыя 1876 г.

[96] Ежы Ром – лекар, кіраўнік кадэцкай арганізацыі ў Вільні, адначасова дзеяч габрэйскага руху.

[97] Людвік Чаркоўскі (1855–1928) – лекар, грамадскі дзеяч, кіраўнік бібліятэкі Таварыства сяброў навукі ў Вільні.

[98] Эліяш Ром – публіцыст, дзеяч габрэйскага руху.

[99] Вітальд Абрамовіч (1874- каля 1940) – адвакат. Адзін з арганізатараў ППС на Літве. Краёвец. У 1919 г. прэзідэнт Вільні. Удзельнік пахода Люцыяна Жалігоўскага. Кіраўнік урада Сярэдняй Літвы. У 1939 г. вывезены ў СССР, дзе загінуў.

[100] Браніслаў Крыжаноўскі (1876–1943) – адвакат, палітык і грамадскі дзеяч. Краёвец. У маладосці належаў да ППС, потым – да партыі «Вызваленне». Сябра ўраду Сярэдняй Літвы. У 1926–1927 гг. абараняў у судзе дзеячаў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады.

[101] Зыгмунт Нагродскі (1865–1937) – прадпрымальнік, грамадскі дзеяч. На пачатку ХХ ст. быў адным з арганізатараў польскіх тайных школ у Беларусі і Літве. Краёвец. Выдаваў часопіс «Наш край».

[102] Іван Прозараў – архітэктар, грамадскі дзеяч.

[103] Іван Краскоўскі (1882–1955) – дзеяч беларускага і ўкраінскага рухаў. Сябра ўраду Украінскай Народнай Рэспублікі ў 1918 г. і ўпаўнаважаны Народнага Сакратарыяту БНР, у 1920-я гг. дырэктар беларускай гімназіі ў Дзвінску. Пасля пераезду ў Мінск (1925) выкладаў у БДУ. Быў рэпрэсаваны, але выжыў, пераехаў у Чэхаславакію, дзе і памёр.

[104] Міколас Біржышка (1882–1962) – гісторык літаратуры, палітык. Сябра Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Адзін з арганізатараў Тарыбы ў 1918 г.

[105] Ян Багушэўскі (1881–1918) – лекар, грамадскі дзеяч. З 1916 г. у легіёнах Ю. Пілсудскага, сябра Польскай арганізацыі вайсковай.

[106] Маісей Брамсон – гандляр, падтрымліваў сувязі з меньшавікамі.

[107] Данатас Маліноўскас (1869–1942) – літоўскі палітык і публіцыст, сябра Тарыбы (1918), адзін з падпісантаў Акту незалежнасці Літвы (16.02.1918). Арыштаваны НКУС (1940), загінуў у савецкім лагеры.

[108] Станіслаў Будны – банкаўскі служачы. Краёвец. Сябра Віленскай гарадской рады.

[109] Ян Пілсудскі (1876–1950) – брат Юзафа Пілсудскага, адвакат, грамадскі дзеяч. Краёвец. Міністр фінансаў Польшчы ў 1931–1932 гг. Арыштаваны бальшавікамі ў Вільні ў 1939 г. Пасля 1941 г. у эміграцыі ў Англіі.

[110] Вацловас Біржышка (1884–1956) – брат Міколаса, бібліёграф і гісторык культуры.

[111] Вацловас Бельскіс (1870–1938) – публіцыст, грамадскі дзеяч і палітык. З 1915 г. сябра партыі эсэраў.

[112] Пеліксас Бугайлішкіс (1883–1965) – юрыст, публіцыст, гісторык.

[113] Андрус Булёта (1872–1941) – адвакат, грамадскі дзеяч і палітык. Дэпутат II і III Дзяржаўных Думаў ад Сувалкскай губ. Сябра партыі эсэраў. Пазней адзін з кіраўнікоў Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

[114] Юргіс Шаўлюс (1879–1968) – палітык, адзін з заснавальнікаў Тарыбы. З 1918 г. на дыпламатычнай службе. Пасол Літвы ў Германіі, Швейцарыі, Польшчы ды інш.

[115] Ёнас Вілейшыс (1872–1942) – адвакат. Міністр унутраных справаў ва ўрадзе М. Сляжэвічуса (1918).

[116] Феліцыя Барткевічэне-Повіцкайтэ (1873–1945) – публіцыстка.

[117] Казімір Астахевіч ( 1883–1952) – банкаўскі служачы. У 1920-я гг. пастар у Вільні.

[118] Эдвард Сакалоўскі (1878–1932) – інжынер. Сябра Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

[119] Уладзіслаў Асмалоўскі – прадпрымальнік, адзін з фундатараў «Кур’ера Краёвага», які выдаваўся пры актыўным удзеле Івана і Антона Луцкевічаў. Захавальнік архіва віленскіх масонаў.

# «KURIER KRAJOWY» (ВІЛЬНЯ, 1912–1914) ЯК БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІ ВЫДАВЕЦКІ ПРАЕКТ*

Выданні, прысвечаныя гісторыі польскага перыядычнага друку ў Беларусі і Літве, у дачыненні да газеты «Кур'ер Краёвы» («Kurier Krajowy») звычайна абмяжоўваюцца мінімумам інфармацыі: месца і час выдання, перыядычнасць, імёны выдаўцоў і рэдактараў ды інш.

Сапраўды, сярод шматлікіх польскіх віленскіх выданняў пачатку XX ст. (толькі з 1901 па 1918 г. у Вільні налічвалася 154 польскія выданні[1]) гэтая газета, на першы погляд, амаль нічым не вылучалася. Але на самой справе «Кур'ер Краёвы» надзвычай важны для даследавання нацыянальных рухаў на тэрыторыі «гістарычнай Літвы». У прыватнасці, гісторыя выдання і аналіз публікацый «Кур'ера Краёвага» дае магчымасць закрануць праблему супрацоўніцтва дзеячаў дэмакратычных плыняў польскага і беларускага рухаў на пачатку XX ст.

Гэтае супрацоўніцтва мела досыць глыбокія гістарычныя традыцыі, як у галіне культуры, так і ў палітычнай дзейнасці. Дастаткова нагадаць словы Кастуся Каліноўскага ў «Пісьмах з-пад шыбеніцы», гэтым развітальным звароце да беларускага народу: «*[…] Калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і за свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду […] цэлай грамадой ідзі ваяваць за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную*»[2].

У XIX і на пачатку XX ст. традыцыі польска-беларускай еднасці складваліся ў сумеснай барацьбе супраць расейскіх уладаў, у супрацьстаянні палітыцы русіфікацыі і уніфікацыі Беларусі і Літвы, мэтаю якой было вынішчэнне ўсіх нацыянальна-культурных і рэлігійных асаблівасцяў нашага Краю.

---

* Упершыню артыкул быў апублікаваны ў зборніку «Польска-беларускія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі» (Пад рэд. М. Кандрацюка. II. Матэрыялы VII Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці». Беласток 16–18. 07. 1999 г.). Гэтая версія з'яўляецца папраўленай і дапоўненай.

Разуменне неабходнасці абароны ягоных інтарэсаў спрыяла выпрацоўцы на пачатку XX ст. г. зв. «краёвай ідэі». Менавіта дэмакратычны варыянт краёвасці стаўся ідэалагічным падмуркам супрацоўніцтва дзеячаў польскага і беларускага рухаў.

Краёвую ідэю на пачатку мінулага стагоддзя падтрымлівала частка інтэлігенцыі і землеўладальнікаў Літвы і Беларусі, у свядомасці якіх пачуццё прыналежнасці да польскай нацыі спалучалася з адчуваннем свайго беларускага або літоўскага паходжання і ўспрыняццем Беларуска-Літоўскага краю як Радзімы. Краёвая ідэалогія грунтавалася на перакананні, што ўсе карэнныя жыхары Краю, якія з'яўляюцца яго патрыётамі, належаць да адзінай нацыі. Адным з найбольш прыкметных краёўцаў быў Міхал Ромэр (1880–1945). Менавіта ягоны Дзённік, што захоўваецца ў Бібліятэцы імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы і ў Бібліятэцы Віленскага ўніверсітэту, стаў галоўнай крыніцай падрыхтоўкі гэтага тэксту.

У перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг. адным з галоўных цэнтраў беларуска-польскага супрацоўніцтва з'яўлялася Вільня. Няцяжка заўважыць кантакты паміж палякамі і беларусамі ў галіне выдавецкай дзейнасці. Напрыклад, у 1906 г. штодзённая «Газета Віленьска», фактычным рэдактарам якой быў Міхал Ромэр, змясціла артыкул *Яна Мялешкі* (псеўданім Антона Луцкевіча) «Аграрная праграма», які знаёміў чытачоў з сутнасцю аграрнай праграмы Беларускай сацыялістычнай Грамады[3] (№ 46 ад 13(26).04.1906). У сваю чаргу Міхал Ромэр пісаў артыкулы для беларускай «Нашай Нівы»[4].

Пасля падаўлення рэвалюцыі магчымасці легальнай антыўрадавай дзейнасці былі моцна абмежаваныя. У вялікай ступені гэтая абставіна прычынілася да адраджэння віленскага масонства. У 1910 г. у Вільні ўзнікла ложа «Еднасць», праз год – ложа «Літва», а ў 1914 г. – ложа «Беларусь»[5].

Масонскія арганізацыі сталіся адной з галоўных формаў супрацоўніцтва дэмакратычных элементаў нацыянальных рухаў Беларусі і Літвы. У склад ложаў уваходзілі беларусы (браты Іван ды Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Іван Краскоўскі), палякі (Міхал Ромэр, Людвік Абрамовіч, Зыгмунт Нагродскі ды інш.), літоўцы (Юргіс Шаўлюс, Андрус Булёта, Ёнас Вілейшыс ды інш.), габрэі (Ежы і Эльяш Ром, Шабад ды інш.). Адзін «брат» (Іван Прозараў) прадстаўляў рускую супольнасць. Магчыма менавіта ў ложах прымаліся рашэнні, якія вызначалі асноўныя накірункі дзейнасці віленскіх дэмакратаў.

Адным з такіх накірункаў стала прапаганда дэмакратычнай краёвай ідэалогіі. Галоўную ролю павінен быў адыграць перыядычны друк.

Ужо ў 1911 г. нарадзілася ідэя арганізацыі дэмакратычнага краёвага штотыднёвіка як суметнага польска-беларуска-літоўскага выдання. Аднак падчас абмеркавання кандыдатуры рэдактара гэтага штотыднёвіка паразуменне не было дасягнута. Польскія дзеячы, якія мелі колькасную перавагу сярод арганізатараў, выказаліся за Людвіка Абрамовіча. Для апошняга ў гэты перыяд ягонай дзейнасці краёвая ідэя была важным сродкам абароны польскіх інтарэсаў у Беларусі і Літве.

Беларусы і літоўцы гэта разумелі і не падтрымалі гэтай кандыдатуры. Але былі вымушаныя саступіць, хаця іх пазіцыю падзяляў Міхал Ромэр. У выніку беларусы і літоўцы адмовіліся ўдзельнічаць у выданні, якое атрымала назву «Пшэглёнд Віленьскі» («Przegląd Wileński»). У выніку, ідэя міжэтнічнага краёвага выдання не была рэалізаваная і па-ранейшаму хвалявала дэмакратычную грамадскасць Вільні.

У той час Беларуска-Літоўскі край стаў месцам незвычайна высокай канцэнтрацыі велікарускіх шавіністычных арганізацый. У 1905–1907 гг. Саюз Рускага Народа ў шасці беларуска-літоўскіх губернях меў 56 партыйных арганізацый, якія аб'ядноўвалі амаль 30 тыс. чал. (Для параўнання колькасць сяброў усіх арганізацый сацыял-дэмакратаў, эсэраў, кадэтаў і акцябрыстаў не перавышала 21,5 тыс.[6]).

У такіх умовах вялікую ролю адыгрывала прапаганда краёвай ідэалогіі сярод усіх народаў Беларусі і Літвы, распаўсюджванне праўдзівай інфармацыі пра імкненні дэмакратычных плыняў беларускага, літоўскага і польскага рухаў. Паступова аформілася ідэя цэнтралізацыі ўсяго віленскага дэмакратычнага друку. Адным з яе галоўных аўтараў быў Антон Луцкевіч, які ўзяў ініцыятыву ва ўласныя рукі.

Напярэдадні выбараў у IV Дзяржаўную Думу у верасні 1912 г. да беларускай «Нашай Нівы», якую да гэтага часу фактычна рэдагаваў Антон Луцкевіч, далучылася рускамоўная «Вечерняя газета». Яна стала сродкам прапаганды краёвай ідэі сярод рускай супольнасці і зрусіфікаваных беларусаў. Сапраўдным кіраўніком газеты (і аўтарам большасці «перадавых» артыкулаў) быў той жа А. Луцкевіч. Але пра гэта ведалі адзінкі. Луцкевіч здолеў захаваць сваю працу ў таямніцы. Ён ніколі не падпісваў публікацыі ўласным прозвішчам або вядомымі псеўданімамі.

Наступным элементам плана было выданне штодзённай польскамоўнай газеты, галоўнай задачай якой была прапаганда краёвай ідэалогіі сярод беларускіх і літоўскіх палякаў. Гэты праект А. Луцкевіч збіраўся рэалізаваць ў цесным кантакце з польскімі дэмакратамі.

У сярэдзіне кастрычніка 1912 г. браты Луцкевічы і супрацоўнік рэдакцыі «Нашай Нівы» Язэп Манькоўскі звярнуліся да польскай віленскай дэмакратычнай суполкі з прапановай арганізацыі сумеснага выдання. Паводле меркавання М. Ромэра, польскі бок зацікавіўся прапановай галоўным чынам таму, што браты Луцкевічы мелі грошы на выданне газеты. Беларусы прапанавалі двайное (польска-беларускае) рэдактарства. Кампанію Людвіку Абрамовічу павінен быў скласці Язэп Манькоўскі. Таксама прапанавалася стварэнне двух рэдакцыйных радаў або адной супольнай.

Аднак ізноў перамовы нічога не далі. Як высветлілася, з польскага боку яны вяліся толькі дзеля таго, каб выкарыстаць ва ўласных інтарэсах сабраныя сродкі. Прынамсі, менавіта так ацаніў няўдачу перамоваў Міхал Ромэр на старонках Дзённіка[7]. Ён як прыхільнік рэальнага супрацоўніцтва параіў А. Луцкевічу самастойна распачаць выданне польскамоўнай газеты. Ромэр разлічваў, што пасля выхаду першых нумароў палякі ўсё ж такі далучацца да беларускай ініцыятывы.

Беларусы так і зрабілі. Пры гэтым яны выкарыстали ліцэнзію на выданне «Кур’ера Краёвага», выдадзеную ўладамі аднадумцу М. Ромэра Юліўшу Сумароку.

8 (21) снежня 1912 г. выйшаў першы нумар газеты. Яго рыхтаваў Язэп Манькоўскі, але праграмны артыкул напісаў Антон Луцкевіч. Выхад газеты сапраўды актывізаваў польска-беларускія перамовы, але паразуменне так і не было дасягнутае.

Міхал Ромэр досыць высока ацэньваў узровень публіцыстыкі першых нумароў «Кур’ера Краёвага». Галоўнай прычынай поспеху новай «польскай» газеты ён лічыў ідэйнае кіраўніцтва Манькоўскім з боку Антона Луцкевіча і непасрэдны ўдзел таленавітага беларускага дзеяча ў яе выданні. На старонках Дзённіка Міхал Ромэр адзначыў: *«Антон Луцкевіч трымаецца трохі ў цені, не становіцца на чале «Кур’ера Краёвага», але фактычна выконвае партыю першай скрыпкі. Ён аказвае рашаючы ўплыў на кірунак і арганізацыю газеты»*[8]. Як і ў выпадку з «Вечерней газетай», Антон Луцкевіч імкнуўся захаваць у таямніцы свой удзел у выданні «Кур’ера Краёвага».

На пачатку сакавіка 1913 г. Міхал Ромэр прыняў запрашэнне ўвайсці ў склад рэдакцыі «Кур’ера». Разам з ім увайшоў таксама Аляксандр Заштаўт. Яны павінны былі ўзмацніць творчыя магчымасці рэдакцыі і кампенсаваць занятасць А. Луцкевіча. Апошні не быў у стане рэгулярна дапамагаць Я. Манькоўскаму. Да таго ж, можна меркаваць, што беларускі

дзеяч быў зацікаўлены ў тым, каб «Кур’ер Краёвы», захоўваючы дэмакратычны краёвы накірунак, станавіўся па складу сваёй рэдакцыі ўсё больш польскім.

Фактычнае кіраўніцтва «Кур’ерам Краёвым» з боку А. Луцкевіча не было таямніцай для дзеячаў дэмакратычнай плыні польскага руху. «Пшэглёнд Віленьскі» ў палеміцы з «Кур’ерам» неаднаразова выказваў сумненні ў сапраўднай польскасці газеты і дазваляў сабе празрыстыя намёкі на «пабочныя ўплывы» ў яе рэдагаванні. Усё гэта магло прывесці да пэўнай дыскрэдытацыі газеты сярод польскай супольнасці.

М. Ромэр актыўна ўключыўся ў працу. Аўтарытэт гэтага вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча значна павысіў цікавасць да газеты з боку польскай грамадскасці Краю. Ягоныя артыкулы звычайна выходзілі пад лёгка распазнавальнымі крыптонімамі: *m. r.*, *m.* Іншым разам ён падпісваўся сапраўдным прозвішчам.

А вось Антон Луцкевіч па-ранейшаму працаваў тайна. Імя вядомага беларускага дзеяча ніколі не фігуравала ў газеце. Зрэдку сустракаўся псеўданім *А. Иванов* і крыптонім *А. Н.* Спалучэнне дзённікавых запісаў Міхала Ромэра з публікацыямі «Кур’ера» дазволіла вызначыць два новыя псеўданімы Антона Луцкевіча – *Веслаў Каліноўскі* і *К-вец*. Польскі гісторык Ян Юркевіч вызначыў яшчэ адзін – *Генрык Букавецкі*[9].

Варта звярнуць увагу на змест публікацый «Кур’ера». Ужо ў праграмным артыкуле першага нумару газеты падкрэслівалася небяспека ваяўнічага шавінізму: «*У гарады і мястэчкі, у сядзібы і вясковыя хаты прабіраецца галоўны вораг народаў – нацыяналізм. Ён прыносіць з сабою ўзаемную нянавісць і распальвае ў народзе ўнутраную барацьбу, што пагражае распадам і стратай здольнасці абараняць край ад людзей, якія імкнуцца вынішчыць усялякае пачуццё адметнасці на гэтай зямлі*». Між тым, «*у краі, дзе побач з літоўцам жыве паляк, побач з беларусам – габрэй, у краі, няшчасны лёс якога перадвызначыў ягонае адставанне і пазбавіў магчымасці свабоднага развіцця, няма месца для ўнутранай барацьбы*».

Напрыканцы Антон Луцкевіч заклікаў «грамадзянаў Краю» да працы на ягоную карысць і на карысць народу: «*Да працы дзеля нашага краю, які ахоплівае Літву і Белую Русь, да працы дзеля народных масаў, цяжкае жыццё якіх у горы мінае, будзем заклікаць у нашай газеце ўсіх, хто хоча быць грамадзянінам краю*».

На старонках «Кур’ера» шырока ўжываўся тэрмін «грамадзянін Краю». Аўтары публікацый даводзілі, што праблемы Краю пытанні

## Przestroga.

...mal jednocześnie z wystąpieniem ...Polskiego w sprawie samorządu ...ego w Królestwie oraz zerwaniem ...ów dyplomatycznych z opozycją ...—w Wilnie wśród rosyjskich or... nacjonalistyczno - prawicowych ...nową broń przeciwko polakom ...ym. Zastosowano do nas tę sa...adę, jaka przy udziale Koła przez ...przyjęta została w związku z sa...em miejskim dla Królestwa. Broń ...kurje narodowościowe przy wy... członków do Rady Miejskiej. I ...Dума—na wniosek Zamysłowskie...zwróciła się do rządu z propozycją ...wania odnośnego prawa.

...e wiemy, czy prawo to zostanie ...wane i wejdzie w życie przed wi... wyborami na jesieni. Widzimy ...ast w całej tej aferze przestrogę—...gę dla „przedstawicieli" narodu ...ego. ...wanie z tą lub inną grupą posel... Dumie — to, oczywiście, sprawa taktyki. Lecz jeśli sojusze i waśnie partyjne mają li tylko znaczenie chwilowe i—wobec tych lub innych warunków—zmieniać się mogą z łatwością, to ogólny kierunek polityczny, zasady polityki winny być mocne i niewzruszone. Powinniśmy wiedzieć, dokąd idziemy i czego żądamy dla siebie.

Wytyczna nasza jest wyraźna: pragniemy wolności—politycznej i narodowej, pragniemy masy ludowe — ciemne, bezprawne, wzgardzone—na wyższy stopień kulturalny i społeczny podnieść, wznieść do godności człowieka, a krajowi całemu trwałe podstawy swobodnego rozwoju zapewnić. To są nasze zasady najistotniejsze; do urzeczywistnienia ich dążyć musimy wszelkiemi drogi, lecz pod jednym warunkiem: sposoby, używane dla pozyskania drobnych ustępstw, nie powinny podkopywać tych zasad naszych.

W państwie rosyjskiem nie tylko my, lecz lud rdzennie rosyjski pełni praw obywatelskich nie posiada, aczkolwiek dąży do zdobycia takowych uparcie, nie szczędząc ofiar. Dążenie to jest wspólne wszystkim ludom „niepaństwowym", wszystkim narodom, co w skład Rosji wcielone ongiś zostały. I każdy krok naprzód na drodze ku życiu nowemu raduje każde serce wolne, które w warunkach obecnych się krwawi... Jeśli więc los wiąże nas z państwem rosyjskiem i wiązać będzie, przyszłość naszą łączyć musimy z kierunkiem, co wolność, równość i braterstwo na sztandarze swoim płomiennemi zgłoskami wypisał.

Z tym właśnie kierunkiem walczy w Rosji mocny wróg: wstecznictwo i nacjonalizm. Wróg, co elementy obcoplemienne wytępić pragnie do szczętu. Wróg, który na szpaltach „Now. Wr." wzywa rząd, by polaków i ukraińców siłą brutalną niszczył, skazując na banicję wieczystą każdego, kto dla wzmocnienia świadomości narodu ukraińskiego lub innego pracuje.

Jeśli wierzymy w hasło nasze, jeśli dla wcielenia ich w życie nie żałujemy pracy życia całego, to sama przez się przesądzona zostaje i taktyka nasza. Mianowicie, w żadnym wypadku i dla żadnych korzyści chwilowych nie mamy prawa ręki podawać wrogom sprawy wolności ludu w Rosji. Co siłę ich potęguje, co grozić kierunkom wolnościowym może, — to godzi w nas samych, to oddala od nas chwile upragnione.

Stąd wniosek aż nazbyt wyraźny: nie możemy zniżać się w taktyce swojej do sojuszu z prawicą lub nacjonalistami rosyjskimi, nie mają prawa czynić tego przedstawiciele narodu w Dumie Państwowej. A ostatnie wystąpienie Zamysłowskiego, podtrzymane przez październikowców, mówi wyraźnie, jak fatalny krok zrobiło Koło, głosząc zerwanie stosunków z postępem rosyjskim w imię... obrażonej godności.

**Wiesław Kalinowski.**

## PRASA.

**Pożegnanie z Kołem — pozdrowienie polakom.**

Po dość niesmacznych artykułach „Rieczi" i „Dień", w których zatarg z Kołem Polskiem wyzyskano w celu napaści na całe społeczeństwo polskie i kulturę polską, w Russk. Mołwie" zjawił się rzeczowy i spokojny artykuł, pozbawiony tendencji partyjnej. Znajdujemy w nim słuszne uwagi, które poniżej zacytujemy.

„Koło Polskie gniewnie i bezpowrotnie zerwało z opozycją rosyjską, ściślej —ze społeczeństwem rosyjskiem, ponieważ w obecnym położeniu cała żywotna i zdrowa część społeczeństwa rosyjskiego znajduje się w szeregach opozycji Fakt to bardzo przykry, szczególniej diatego, że rozłam ten nie został wywołany przez zasadniczą stroną całej kwestji. I w rze-

*Фрагмент першай старонкі «Кур'ера Краёвага» (1913, Nr 136) з артыкулам А. Луцкевіча «Перасцярога»*

Галоўнай задачай «Кур'ера Краёвага» было пашырэнне дэмакратычных поглядаў сярод польскай супольнасці. Антон Луцкевіч у сваіх артыкулах даволі часта апеляваў да лепшых гістарычных традыцыяў. Напрыклад: *«З паняццем польскасці заўсёды звязвалася паняцце свабоды»*[14]; *«Як калісьці з іменем паляка атаясамлівалася вольнасць, так зараз наша (польская – А. С.) нацыянальная будучыня звязана з дэмакратыяй»*[15].

Аналіз публікацый «Нашай Нівы», «Вечерней газеты» і «Кур'ера Краёвага» сведчыць пра іх тэматычную блізкасць.

Шматлікія публікацыі «Кур'ера Краёвага» закранаалі таксама «беларускае пытанне». Яны абаранялі «Нашу Ніву» і беларускае Адраджэнне ад абвінавачванняў з боку велікарускіх і велікапольскіх шавіністаў, якія імкнуліся давесці, што няма ніякага беларускага руху. Ёсць толькі «польская інтрыга» супраць Расеі або адпаведна «руская інтрыга» супраць Польшчы. Матэрыялы газеты знаёмілі чытача з сітуацыяй у беларускім руху, адстойвалі права беларускай мовы быць мовай школьнага навучання[16] ды інш.

Беларускія і польскія аўтары газеты імкнуліся выклікаць сімпатыі да беларускага руху. Падкрэсліваліся дэмакратычныя тэндэнцыі ў беларускім руху: *«Шчыры дэмакратызм беларускага руху [...] ягоная лаяльнасць у адносінах да суграмадзян іншых нацыянальнасцяў – вось гарантыя таго, што нашыя імкненні знойдуць жывы водгук сярод беларусаў»*[17]. Згода з беларусамі тлумачылася інтарэсамі барацьбы з велікарускім шавінізмам[18] і адсутнасцю выразных перспектываў далейшага развіцця польскага нацыянальнага руху ў Беларуска-Літоўскім краі[19].

На апошняе трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Справа ў тым, што ў разуменні краёвасці Антонам Луцкевічам і Міхалам Ромэрам існавалі сур'ёзныя разбежнасці. М. Ромэр спадзяваўся, што ў Беларусі і Літве з цягам часу сфармуецца адзіная нацыя палітычнага тыпу, галоўным крытэрыем прыналежнасці да якой будзе пачуццё краёвага грамадзянства. Пры гэтым асобныя народы Краю захаваюць свае культурныя асаблівасці.

А. Луцкевіч, як і большасць беларускіх, польскіх і літоўскіх краёўцаў, разумеў краёвасць як узаемакарыснае сужыццё розных народаў Краю, якое можа забяспечыць ягонае дэмакратычнае развіццё пасля вызвалення ад расейскага панавання. Ён імкнуўся забяспечыць за беларусамі лепшыя ўмовы ў гэтым сужыцці. Беларускі дзеяч не верыў у магчымасць захавання польскасці ў новым дэмакратычным Беларуска-Літоўскім краі. Зыходзячы з пераканання, што большасць беларускіх і літоўскіх палякаў з'яўляюцца

нашчадкамі спаланізаваных (або паланізаваўшыхся) беларусаў і літоўцаў, ён імкнуўся вярнуць іх у рэчышча беларускай культуры і беларускай ідэі.

Міхал Ромэр і Аляксандр Заштаўт, нягледзячы на нязгоду з пазіцыяй А. Луцкевіча, працягвалі супрацоўніцтва з беларусамі. Сваю пазіцыю яны адстойвалі на старонках таго ж самага «Кур’ера Краёвага». Так, М. Ромэр характарызаваў беларускія і літоўскія прэтэнзіі як праяву шавінізму[20]. Але пры гэтым галоўны ідэолаг краёвасці быў упэўнены, што ўрэшце А. Луцкевіч і яго аднадумцы зразумеюць польскую пазіцыю і пагодзяцца з тым, што палякі Беларусі і Літвы маюць поўнае права на развіццё ўласнай культуры. Адпаведна, яны павінны ўдзельнічаць у вызначэнні будучыні Краю ў роўнай ступені з літоўцамі і беларусамі. (Гл. Дадатак).

Надзеі Міхала Ромэра былі дастаткова абгрунтаванымі. Пра гэта сведчыла пазіцыя беларусаў на польска-літоўска-беларускіх сходах лістапада 1913 г., дзе абмяркоўваўся лёс «Кур’ера Краёвага».

Улетку і ўвосень 1913 г. выдавецкія справы газеты складваліся не лепшым чынам. У сувязі з занятасцю А. Луцкевіча ўзровень публікацый прыкметна панізіўся. Абвастрыліся фінансавыя праблемы. Язэп Манькоўскі не здолеў захаваць на высокім узроўні краёвы і дэмакратычны накірунак газеты.

У кастрычніку 1913 г. М. Ромэр адмовіўся супрацоўнічаць з газетай, якая, паводле яго словаў, ператварылася ў *«бульварны свісток»*[21]. Лёс газеты не менш хваляваў і А. Луцкевіча, які ініцыяваў правядзенне згаданых сходаў.

У сходзе, які адбыўся 16 (29) лістапада 1913 г., з беларускага боку ўдзельнічалі браты Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі і Аляксандр Уласаў, з літоўскага – Ёнас Вілейшыс, Міколас Сляжэвіч, Міколас Біржышка і Сцяпонас Кайрыс, з польскага – Міхал Ромэр, Аляксандр Заштаўт, Уладзіслаў Асмалоўскі, Юліўш Сумарок.

Удзельнікі сходу пасля працяглай дыскусіі прызналі неабходным падтрымаць «Кур’ер» як *«орган польскай дэмакратыі»*. Не апошнюю ролю ў выпрацоўцы менавіта такой фармуліроўкі адыгралі браты Луцкевічы. У спрэчцы М. Ромэра з літоўцамі і Вацлавам Іваноўскім, якія даказвалі, што «Кур’ер Краёвы» павінен з’яўляцца органам агульнакраёвай дэмакратыі, Іван і Антон Луцкевічы падтрымалі польскі бок. Яны прызналі неабходнасць развіцця польскай дэмакратыі як часткі краёвага дэмакратычнага руху[22].

Яшчэ адным вынікам сходу было ўтварэнне польска-літоўска-беларускага Арганізацыйнага і Рэдакцыйнага камітэтаў. У апошні ўвайшлі А. Луцкевіч, М. Ромэр і Ю. Шаўлюс[23].

Аднак пераадолець творчы і фінансавы крызіс газета ўжо не здолела. 18 красавіка 1914 г. выйшаў з друку яе апошні нумар.

Значэнне беларуска-польскага выдавецкага праекта 1912–1914 гг. выходзіць за рамкі звычайнага эпізоду супрацоўніцтва польскіх і беларускіх дэмакратаў. Дастаткова звярнуць увагу на галоўныя дзеючыя асобы. Беларусаў прадстаўлялі фактычныя кіраўнікі беларускага руху. У лістападзе 1913 г. да праекту далучыліся кіраўнікі літоўскіх сацыял-дэмакратаў і нацыянал-дэмакратаў. Міхал Ромэр быў прызнаным аўтарытэтам сярод дэмакратычна настроенай часткі «літоўскіх палякаў».

Дарэчы, у адпаведнасці з адным з варыянтаў федэралісцкай канцэпцыі Юзафа Пілсудскага менавіта ён павінен быў пасля вызвалення Вільні ад бальшавікоў у 1919 г. сфармаваць і ўзначаліць урад Літоўскай дзяржавы[24]. Апошняя пры гэтым станавілася часткай федэратыўнай Рэчы Паспалітай.

Супрацоўніцтва дэмакратычных сіл польскага і беларускага рухаў на пачатку мінулага стагоддзя мела пэўныя перспектывы. Ягонае развіццё магло б паспрыяць напісанню менш трагічнага сцэнарыя гісторыі XX ст. для Польшчы і Беларусі. Аднак шанс так і не быў выкарыстаны…

ДАДАТАК

**Міхал Ромэр. Грамадзянская пазіцыя // Kurier Krajowy. 1913, Nr 77**
***(m. r. [Michał Römer]. Stanowisko obywatelskie)***

У нашым краі, калі будзем разглядаць усю тэрыторыю Літвы і Белай Русі, колькасную перавагу сярод народных масаў, зразумела, маюць літоўцы і беларусы. У заходняй частцы літоўскае насельніцтва стварае цэльную і амаль што аднародную масу, свядомую і актыўную. Вялізныя прасторы ўсходу населеныя беларусамі, узровень свядомасці якіх застаецца на вельмі нізкім узроўні.

Аднак нацыянальныя меншасці, да якіх належаць і палякі, маюць не толькі бясспрэчнае права на развіццё ўласнага быту, але таксама права ўплываць на агульны лёс краю. Ад гэтага права і гэтай магчымасці не адмовіцца аніводны жывы народ, нават, калі ён належыць да меншасці. Гасцямі ў чужым краі застаюцца толькі каланісты, заклапочаныя ўнутранымі патрэбамі калоніі і абыякавыя да агульных праблемаў краю. Палякі, што выехалі на заробкі ў Лондан ці Парыж або раскіданыя па пра-

сторах Расеі, якраз і з’яўляюцца такімі каланістамі або гасцямі, якія толькі часова звязаныя з мясцовай грамадскасцю.

Аднак нельга такімі каланістамі лічыць палякаў нашага краю. Не толькі значная частка аселага зямянства, вышэйшай і ніжэйшай шляхты, прафесійнай інтэлігенцыі, але таксама маса хрысціянскага насельніцтва гарадоў і пэўная частка вясковага люду – гэта палякі. Зразумела, што калі будзем браць увесь край, усю гістарычную Літву, то можам знайсці асобныя мясцовасці, напрыклад, на крэсах віцебскіх або магілёўскіх, дзе палякі ўтвараюць невялікія калоніі, не звязаныя з мясцовым жыццём. Але літоўцы ў Магілёве і Віцебску і нават у Менску таксама не належаць да карэннага насельніцтва і ўтвараюць там калоніі, што тым не менш не ставіць пад сумнеў іх пазіцыі ва ўсім краі.

Палякі як аселыя жыхары, як частка карэннага насельніцтва краю з’яўляюцца адным з найважнейшых элементаў мясцовай супольнасці. Нават па сваім паходжанні і расе палякі ў нашым краі не могуць лічыцца чужынцамі і гасцямі. У сваёй масе, асабліва, калі гаворым пра народ, яны людзі мясцовага паходжання, звязаныя непарыўнай сувяззю з колішнімі старажытнымі жыхарамі краю. Ніштo не апраўдвае трактаванне палякаў як прышлага, цалкам чужога насельніцтва.

Пакуль у масе літоўскай і беларускай не паўсталі нацыянальныя рухі, пакуль гэтая большасць жыхароў заставалася пасіўнай, менавіта палякі, якія былі прадстаўленыя вышэйшымі саслоўямі, з’яўляліся сапраўднымі гаспадарамі і амаль адзінымі чыннікамі, што свядома стваралі гісторыю гэтага краю.

Узнікненне літоўскага і беларускага рухаў павінна істотна змяніць становішча палякаў. Зразумела, што з гэтага моманту палякі ўжо не могуць быць адзінымі гаспадарамі сітуацыі. З узнікненнем новых свядомых гістарычных чыннікаў наступіла звужэнне маштабу ўплываў палякаў, але засталося іх *права* на дзейнасць.

Палякі былі і засталіся грамадзянамі краю. Сутнасць грамадзянства заключаецца якраз у праве ўплываць на агульны лёс краю. Раней грамадзянамі былі зямяне, шляхта, вышэйшыя саслоўі. Грамадзянства было прывілеем. Народ, асабліва сяляне як шляхецкая ўласнасць мелі грамадзянскіх правоў. Мяшчане, габрэі таксама былі па-за межамі грамадзянскіх правоў, маючы самакіраванне, датычнае толькі іх лакальных ці саслоўных патрэбаў.

Сёння ў выніку дэмакратызацыі грамадзянамі краю становяцца ўсе ягоныя жыхары, увесь народ, усе класы і саслоўі. Народ, усведамляючы

ўласныя правы, усё больш актыўна выкарыстоўвае ўласнае грамадзянства і аказвае ўзрастаючы ўплыў на кірунак развіцця краю.

Якраз гэты прынцып грамадзянства, менавіта права ўплываць на лёс краю ляжыць у аснове г. зв. «грамадзянскай пазіцыі». Тыя, хто імкнецца накіраваць усю ўвагу і ўсе думкі польскай супольнасці гэтага краю на праблемы і землі, якія знаходзяцца па-за ягонымі межамі, трактуюць Літву як крэсы, залежныя ад знешняй метраполіі, і робяць памылку, якая шкодзіць грамадзянскай пазіцыі палякаў у краі. Калі б палякі прынялі гэтую пазіцыю, то ператварыліся б у каланістаў, што служаць метраполіі, і сапраўды сталі б чужакамі. Такая тэндэнцыя не ўмацоўвае, а аслабляе гістарычную ролю палякаў у краі.

Аднак не меншую памылку робяць тыя, хто, зыходзячы з уласнага разумення грамадзянскай пазіцыі, заклікаюць палякаў падпарадкавацца нацыянальным большасцям, адмовіцца ад грамадзянскіх правоў, ад уплываў на лёс краю дзеля аналагічнага права карэннага насельніцтва. Гэтая адмова шкодная. Яна не выцякае з краёвай пазіцыі, а перакрэслівае яе.

Зрэшты, жывы народ ніколі не прыслухаецца да прапаганды, якая заклікае яго адмовіцца ад найбольш істотных ягоных правоў. Нават у найбольш шляхетным з гуманістычных польскіх лозунгаў «За вольнасць нашу і вашу» не было адмовы, а быў заклік да яднання ўсіх сіл у супольнай барацьбе.

Застаючыся меншасцю, мы не губляем права на грамадзянскія дзеянні. Сляпое падпарадкаванне большасці не павінна стаць лозунгам для жывых. Сапраўдным лозунгам для польскіх дэмакратаў у нашым краі павінен стаць клопат пра становішча народу, пра яго вызваленне ад шляхецкай перавагі і падрыхтоўку да свядомых калектыўных дзеянняў, каб польскі народ у Літве, таксама як літоўскі і пастуопова беларускі, стаўся творчым грамадзянскім чыннікам, які будзе вызначаць будучыню сваёй Айчыны Літвы.

---

1 Kazlauskaite J. Vilniaus periodiniai leidiniai 1760–1918. Vilnius, 1988, p. 100–102.

2 Беларуская літаратура XIX ст. Хрэстаматыя. Складальнікі А. Лойка і В. Рагойша. Мінск,1988, с. 225.

3 Gazeta Wileńska. 1906, Nr 46.

4 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. F 138-2228. T. 1, s. 54–55.

[5] Ibidem. F 138-2230. T. 4, s. 404.
[6] Киселёв И.Н., Корелин А.П., Шелохаев В.В. Политические партии в России в 1905–1907 гг.: численность, состав, размещение (количественный анализ) // История СССР. 1990, № 4, с. 77.
[7] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. F 138-2229. T. 2, s. 435.
[8] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. F 138-2231. T. 3, s. 61.
[9] Jurkiewicz J. Demokraci wileńscy w latach 1905–1914. Zarys działalności i myśli politycznej // Acta Bałtico-Słavica, XV, 1983, s. 171.
[10] Генрык Букавецкі [А.Луцкевіч]. Прынцыповае пытанне // Kurier Krajowy. 1913, № 19.
[11] m. r. [М. Ромэр]. Хто быў правы? // Kurier Krajowy. 1913, № 337.
[12] К-вец [А. Луцкевіч]. Права і абавязкі // Kurier Krajowy. 1912, № 3.
[13] Веслаў Каліноўскі [А. Луцкевіч]. Выбар дарогі // Kurier Krajowy. 1913, № 258.
[14] Kurier Krajowy. 1912, № 8.
[15] Ibidem. 1912, № 12.
[16] Генрык Букавецкі [А. Луцкевіч]. 1913 год у жыцці беларусаў // Kurier Krajowy. 1914, № 1; Веслаў Каліноўскі [А.Луцкевіч]. Палітычная шкода // Kurier Krajowy. 1913, № 206.
[17] Генрык Букавецкі [А.Луцкевіч].Час патрабуе // Kurier Krajowy. 1913, № 12.
[18] Генрык Букавецкі [А.Луцкевіч]. Прынцыповае пытанне // Kurier Krajowy. 1912, № 9.
[19] К-вец [А. Луцкевіч]. Do ut des // Kurier Krajowy.1913, № 98.
[20] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх АН Літвы. Дзённік Міхала Ромэра. F 138-2231. T. 3, s. 324.
[21] Ibidem, s. 299.
[22] Ibidem, s. 323.
[23] Ibidem, s. 329.
[24] Ochmański J. Kulisy wyprawy wileńskiej Józefa Piłsudskiego // Z dziejów stosunków polsko-radzieckich. T. 3. Warszawa, 1968, s. 65–78; Sawicki J. Wolnomularstwo a stosunki polsko-litewskie w pierwszej połowie XX w. // Lithuania. Nr 1/2, 1999, s. 63.

# ВІЛЕНСКІ БІСКУП ЭДВАРД ФОН РОП, КРАЁВАЯ ІДЭЯ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА*

Асоба Эдварда Ропа (1851–1939) і ягоная дзейнасць заслугоўваюць грунтоўнага даследавання[1]. У перыяд Першай расейскай рэвалюцыі ён кіраваў Віленскай дыяцэзіяй, быў дэпутатам І Дзяржаўнай Думы, а пасля краху імперыі Раманавых у 1917 г. узначаліў Магілёўскую архідыяцэзію. Быў арыштаваны бальшавікамі ў 1918 г. і асуджаны на расстрэл. Толькі ў выніку ўмяшальніцтва Ватыкана захаваў жыццё, а ў 1919 г. быў перададзены бальшавікамі польскаму ўраду за дазвол апошняга на праезд у Расею з Германіі бальшавіка Карла Радэка. Эдвард Роп намінальна ўзначальваў Магілёўскую архідыяцэзію амаль да сваёй смерці. У міжваенны перыяд ён быў адным з найбольш гарачых прыхільнікаў неоуніі, з якой звязваў надзеі на паляпшэнне становішча каталіцкага і праваслаўнага насельніцтва ў атэістычным СССР.

У гэтым артыкуле засяроджу ўвагу на стаўленні віленскага біскупа да праблемы беларускай мовы, а дакладней на выказаных ім намераў па сацыялізацыі і сакралізацыі беларускай мовы.

Віленскі біскуп падзяляў асноўныя палажэнні краёвай ідэі ў яе кансерватыўна-ліберальнай версіі. У падмурку ягонай краёвасці ляжаў патрыятызм «грамадзяніна Краю», род якога прынамсі з XIII ст. быў звязаны з прыбалтыйскім рэгіёнам і землямі «гістарычнай Літвы», а таксама імкненне ўзмацніць пазіцыі каталіцкага касцёла ў Беларуска-Літоўскім краі. Апошняе было немагчыма без паразумення з элітай «літоўскіх палякаў» і ўліку патрабаванняў нацыянальных рухаў «мужыцкіх» народаў Краю.

У выпадку Э. Ропа краёвасць спалучалася з ідэалогіяй хрысціянскай дэмакратыі, асноўныя прынцыпы якой былі сфармуляваныя папам Львом XIII у славутай энцыкліцы «Rerum novarum» (1891).

---

* Тэкст уяўляе сабой папраўленую і дапоўненую версію артыкула «Біскуп Эдвард Роп», апублікаванага на старонках *Беларускага гістарычнага часопіса* (1994, № 3, с. 108–112).

Каталіцкі касцёл у Беларусі і Літве заўсёды з’яўляўся важным фактарам не толькі рэлігійнага, але таксама грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. На працягу XIX і ў пачатку XX ст. ён быў выразнай перашкодай на шляху імперскай палітыкі русіфікацыі і уніфікацыі «Паўночна-Заходняга краю».

Нядзіўна, што расейскія ўлады заўсёды надавалі вялікае значэнне разгляду кандыдатаў на пасаду кіраўнікоў каталіцкіх дыяцэзіяў. Асаблівую ўвагу яны звярталі на фігуру віленскага біскупа. Кожны кандыдат уважліва вывучаўся і меў шанс толькі ў сітуацыі, калі чыноўнікі былі цалкам упэўненыя ў ягонай палітычнай лаяльнасці. Аднак часта здараліся выпадкі, калі абранцы не апраўдвалі даверу. Так, біскуп Стэфан Звяровіч у лютым 1902 г. прыняў рашэнні, якія падарвалі русіфікацыйныя захады ў галіне адукацыі. Ён забараніў дзецям католікаў наведваць царкоўнапрыходскія школы і школы граматы, дзе адбывалася актыўная апрацоўка школьнікаў у духу праваслаўя. Неўзабаве біскуп быў высланы з Вільні, але ягоны цыркуляр так і не быў адменены[2].

Зразумела, што праблема была не толькі ў памылковай ацэнцы чыноўнікамі светапогляду і рысаў характару таго ці іншага кандыдата на гэтую вельмі высокую пасаду ў каталіцкай іерархіі ў Краі. У пачатку XX ст. Расея апынулася на парозе значных пераменаў. Заканчваўся перыяд паліцыйна-бюракратычнай дыктатуры. Пад уплывам хваляванняў сацыяльных нізоў і актывізацыі земскага ліберальнага руху імперскія ўлады былі вымушаныя змяніць палітычны курс. Адчувалася гэта і ў Беларусі, і, безумоўна, уплывала на дзейнасць кіраўнікоў каталіцкага касцёла.

12 лютага 1904 г. улады зацвердзілі на пасадзе віленскага біскупа барона Эдварда фон Ропа, які раней кіраваў Ціраспальскай дыяцэзіяй. Відавочна, што чыноўнікі разлічвалі на памяркоўнасць і кансерватызм прадстаўніка старажытнага арыстакратычнага роду з нямецкімі каранямі. Ягонымі продкамі былі вестфальскія графы фон Кірбургі. Адзін з іх Тэадорых Роп у XIII ст. перасяліўся ў Ліфляндыю. Барон Эдвард Роп быў ягоным нашчадкам у XXI калене.

Ён нарадзіўся ў 1851 г. у маёнтку Ліксна Віцебскай губ. Бацькам будучага віленскага біскупа быў барон Юліуш Роп, а маці Ізабэла паходзіла з роду Плятэр-Зыберкаў. Яна выхавала сына ў традыцыях польскай культуры. Ён атрымаў выдатную хатнюю адукацыю, вучыўся ў нямецкай гімназіі ў Рызе, потым закончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэту і паступіў на дзяржаўную службу ў Сенат. Аднак ужо ў 1879 г. пакінуў яе дзеля духоўнай кар’еры.

Эдвард Роп паступіў у Ковенскую духоўную семінарыю. А пазней працягваў духоўную адукацыю ў езуітаў у Інсбруку (Аўстрыя) і Фрыбургу (Швейцарыя). У 1889 г. стаў пробашчам касцёла ў Лібаве, праз 7 гадоў – канонікам Жмудскай дыяцэзіі, а ў 1902 г. узначаліў Ціраспальскую дыяцэзію.

Прызначэнне віленскага біскупа праз два гады пасля высылкі Стэфана Звяровіча каталіцкая супольнасць Вільні і Віленшчыны вітала з непрыхаванай радасцю. Вось як апісваў сустрэчу Эдварда Ропа ў Вільні 13 чэрвеня 1904 г. карэспандэнт пецярбургскай газеты «Kraj»: *[...] Па меры набліжэння цягніка людскія хвалі залілі ўвесь вакзал, прывакзальную плошчу, суседнія вуліцы, нават дахі вагонаў на запасных лініях. Усё было пакрыта людзьмі! [...] Калі цягнік, нарэшце, прыбыў, прысутных ахапіў феерычны настрой. Ксяндзы, якія атачалі біскупа, прыкладалі вялізарныя намаганні, каб стрымаць натоўп. Толькі гучныя заклікі пана Гечэвіча прымусілі людзей супакоіцца, і біскуп здолеў дайсці да карэты. Экіпаж ехаў па гораду пад дажджом з кветак. Яны сыпаліся з верхніх паверхаў дамоў, ляцелі з тратуараў. Брук быў пакрыты кветкамі аж да самай Вострай Брамы.*

*У капліцы Маці Божай біскуп маліўся каля цудоўнага абраза падчас імшы, якую вёў адзін з вострабрамскіх вікарных. Народ тым часам запоўніў вуліцы Вострабрамскую, Вялікую, Замкавую. Натоўп атачыў Кафедральны касцёл і запоўніў Замкавы сквер. Пачуццё радасці дапаўнялі касцельныя званы, якія гучалі над Вільняй. З цікавасцю слухалі людзі аповеды пра новага пастыра, якога мясцовыя вернікі не ведалі, але ўжо дайшлі чуткі пра дастойныя рысы яго характару і яго хрысціянскую годнасць [...]*

*Пасля заканчэння імшы ў Вострай Браме пастыр накіраваўся ў Кафедральны касцёл. Ён увайшоў у святыню праз вялікія дзверы, маючы на сабе доўгі шаўковы плашч фіялетавага колеру. На ўваходзе яго сустракала ўсё віленскае духавенства на чале з ксяндзом-канонікам Францкевічам. Францкевіч сказаў, што перадае ўладу ў яго рукі, што кіраваў як мог, што з любоўю ў сэрцы аддаецца разам з усім духавенствам пад апеку і ўладу новага біскупа. […] Пасля гэтага біскуп падняўся на амбон і прывітаўся з вернікамі на польскай і на літоўскай мовах: «Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус». Вернікі голасна адказвалі таксама на двух мовах. Біскуп звярнуўся да людзей з сардэчнай прамовай. Адзначыў, што трэба быць узорам добрых хрысціянскіх якасцяў і хрысціянскага жыцця, выхоўваць і асвятляць моладзь, каб будучае грамадства пазбегла тых хваробаў, якія нас прыгнятаюць».*

Карэспандэнт газеты «Kraj» у сваёй публікацыі не стаў прыводзіць эпізод, які засведчыў пэўную насцярожанасць эліты мясцовай каталіцкай супольнасці да постаці новага біскупа. Пра гэты эпізод распавёў ва ўспамінах будучы прыхільнік палітычнай дзейнасці Э. Ропа Ежы Змітровіч. Падчас інгрэсу біскупа, калі прагучаў поўны варыянт ягонага імя з натоўпу ганаровых гасцей нехта голасна запытаўся: «*Ці мае пастыр сэрца паляка?*» Біскуп імгненна адрэагаваў: «*Я маю сэрца каталіцкага біскупа*»[3].

Першы свой год у Вільні біскуп правёў у пэўным сэнсе па-за палітыкай. Віленскі генерал-губернатар Аляксандр Фрэзе ў лісце да міністра ўнутраных справаў Аляксандра Булыгіна з задавальненнем канстатаваў, што ў дзеяннях Эдварда Ропа няма і следу «*фанатычнай каталіцкай нецярпімасці*». А на пытанне, наколькі біскуп можа быць карысным для ўраду, адказаў, што біскуп «*з прычыны сваёй featuresнабаковай адукацыі больш чым, хто іншы, будзе дзейнічаць у рэчышчы ўрадавай палітыкі*»[4].

Аднак па меры развіцця рэвалюцыйных падзеяў 1905 г. станавілася ўсё больш відавочнай урадавая памылка ў ацэнцы постаці Эдварда Ропа. Неўзабаве высветлілася, што біскуп даволі самастойны і незалежны чалавека, які не збіраўся абмяжоўвацца выключна рэлігійнай дзейнасцю.

Магчыма, упершыню гэта праявілася ў пытанні аб выкладанні Закона Божага на роднай мове вучняў. Гэтае пытанне непасрэдна датычыла палітыкі русіфікацыі, якая здзяйснялася рознымі метадамі, у т. л. і праз школы Міністэрства народнай асветы.

У студзені 1905 г. біскуп звярнуўся з лістом да міністра. У ім, у прыватнасці, ён прапанаваў весці выкладанне Закона Божага на той мове, якую выберуць бацькі вучняў[5].

Пасля таго, як 17 красавіка 1905 г. з’явіўся Маніфест, які абвяшчаў «верацярпімасць», а 1 мая 1906 г. Мікалай ІІ падпісаў Указ, паводле якога пачалася ліквідацыя абмежавальнага заканадаўства ў Беларусі і Літве і стала магчымым выкладанне ў школах асобных прадметаў па-польску і па-літоўску, віленскі біскуп узняў пытанне пра беларускую мову. Не дачакаўшыся распараджэння міністра народнай асветы, Эдвард фон Роп рэкамендаваў «*малітвы, катэхізіс, свяшчэнную гісторыю, гісторыю касцёла выкладаць на той мове, на якой дзеці моляцца дома, г. зн. на польскай і літоўскай; дзецям, якія размаўляюць па-беларуску, дазваляю выкладаць рэлігію ў пачатковых школах таксама па-беларуску*»[6].



*Віленскі біскуп Эдвард фон Роп. Фотаздымак 1906 г.*

У жніўні 1905 г. пры віленскім генерал-губернатары пачала працаваць Камісія па пытаннях выкладання Закона Божага на роднай мове. У Камісію ўвайшлі прадстаўнікі каталіцкага касцёла. Менавіта ім быў накіраваны ліст віленскага біскупа ад 5 жніўня 1905 г. Вось, што ў прыватнасці пісаў Эдвард Роп: «*З прычыны шматгадовых ганенняў і гвалтоўнага атаясамлення рускіх гаворак з праваслаўем у адносінах каталіцкай царквы да беларускага народу ўзнікла некаторая ненармальнасць. Міжволі царква павінна была выключыць са свайго ўжытку ў мэтах самаабароны ўсе рускія гаворкі, і народ звыкся атаясамляць рымска-каталіцкую веру з польскай мовай і нацыянальнасцю.*

*Разумеючы ненармальнасць гэтага становішча, якое стварыў векавы прыгнёт, я не магу не разумець і таго, што адразу […] з яго выйсці немагчыма. Сёння народ прывык у малітвах у касцёлах да польскай мовы, і я, прызначаны весці народ да Бога, павінен захаваць яе, пакуль народ сам не дойдзе да разумення таго, што трэба паважаць сваю мову і жадаць яе ўжытку ў справах веры.*

*Дзеля гэтага я прапаную: беларуская мова павінна на самой справе, а не толькі на словах атрымаць прызнанне, што яна мае права на існаванне і развіццё, а таму павінна вывучацца ў народных школах нараўне з велікарускай мовай. Беларуская мова не павінна мець перашкодаў для свайго развіцця як рускімі, так і лацінскімі літарамі […] Каб не ператварацца ў паланізатараў беларускага народа […] пры тлумачэнні дзецям ісцін веры трэба выкарыстоўваць мову, на якой гавораць людзі ў сваім доме, г. зн. беларускую, і з боку духавенства працаваць […] каб стварыць агульную, па магчымасці ўсім зразумелую літаратурную беларускую мову*»[7].

22 жніўня 1905 г. з’явіўся цыркуляр віленскага біскупа № 4339. У ім гаварылася: «*Для дзяцей, якія ўжываюць беларускую мову, у пачатковых школах дапускаецца ў меру патрэбы тлумачэнне прадметаў па-беларуску*»[8].

Аўтар артыкула ў газеце «Гоман» (1917, № 101) з гэтай нагоды пісаў: «*Каб ацаніць як належыць вагу гэтага кроку, мы павінны прыпомніць, што тады ў нас толькі пачалі выяўляцца першыя пробліскі адраджэння беларускага народу*»[9].

Віленскі біскуп таксама імкнуўся задаволіць патрэбы вернікаў у пытанні пра мову дадатковага набажэнства. Як ужо адзначалася, ужо падчас інгрэсу ў Вільні ён прамаўляў па-польску і па-літоўску.

Ягоная пазіцыя выклікала абурэнне ў часткі польскіх вернікаў, незадаволеных выкарыстаннем літоўскай мовы ў дадатковым набажэнстве ў змешаных польска-літоўскіх парафіях. Пра характэрны эпізод, які меў месца ўзімку 1906 г. у касцёле ў Янішках на Віленшчыне падчас пастырскай візітацыі пазней прыгадваў ксёндз Ян Курчэўскі. Калі пасля асноўнага набажэнства біскуп перайшоў на літоўскую мову, у храме раздаліся выкрыкі: «*Nie chcemy! Nie chcemy!*» *Гэтае нахабства ў касцёле вывела біскупа з сябе, і ён грамавым голасам з амвона суцішыў нахабнікаў:* «*Маўчаць! Казаў і буду казаць па-літоўску там, дзе ёсць літоўцы!*» *Тыя, хто пратэставаў, адразу ж змоўклі, і біскуп спакойна закончыў сваю прамову па-літоўску*»[10].

Аднак незадавальненне выказвалі таксама прадстаўнікі радыкальнай часткі дзеячаў літоўскага руху. Яны лічылі біскупа літвафобам і з гэтай нагоды нават звярталіся да ўладаў з патрабаваннем высылкі Э. Ропа з Вільні. Задаволіць усе патрабаванні, сапраўды, было вельмі складана. Магчыма, якраз гэтая сітуацыя падштурхнула біскупа да даволі смелага палітычнага кроку.

У канцы 1905 – пачатку 1906 г. біскуп Эдвард Роп выступіў з ініцыятывай стварэння каталіцкай палітычнай партыі. 7 лютага 1906 г. адбыўся арганізацыйны з'езд Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (ККПЛіБ). Гэта была першая легальная палітычная партыя Беларуска-Літоўскага краю «мясцовага паходжання». Для яе праграмы і дзейнасці было характэрным спалучэнне краёвай ідэі і хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіі.

Арганізацыйны з'езд партыі ў Вільні сабраў больш 800 дэпутатаў, сярод якіх былі прадстаўнікі каталіцкага духавенства, землеўласнікаў, інтэлігенцыі, сялян і рабочых. Сход прыняў праграму партыі і абраў яе Цэнтральны камітэт, у які ўвайшлі біскуп Э. Роп як кіраўнік партыі, землеўласнікі Б. Скірмунт, І. Парчэўскі і З. Цярпінскі, служачыя Г. Бароўскі і К. Фалевіч, ксёндз Я. Бурба, студэнт Е. Змітровіч.

З'езду папярэднічала абмеркаванне праекту праграмы партыі і вялікая арганізацыйная праца каталіцкага духавенства. Трэба адзначыць, што

праект праграмы стаў аб'ектам даволі жорсткай крытыкі з самых розных бакоў. Першымі ў шэрагах крытыкаў была эліта «літоўскіх палякаў». Так, Іпаліт Корвін-Мілеўскі на старонках «Кур'ера Літэўскага» абураўся радыкальна-дэмакратычным, на ягоны погляд, характарам праграмы. Таксама сцвярджаў, што ў асобе біскупа польскі рух не знойдзе падтрымкі[11]. Біскуп у сваім адказе прызнаўся, што адчувае сябе палякам, але для яго на першым плане стаіць Бог і толькі потым нацыя. Свае погляды ён ахарактарызаваў як *«рэлігійна-нацыянальныя»*, а не *«нацыянальна-рэлігійныя»*[12].

Таксама гучалі абвінавачванні ў *«кадэтызме»* і сацыялізме, забыцці польскай ідэі і эканамічнай неадукаванасці (І. Корвін-Мілеўскі і Ч. Янкоўскі), клерыкалізме (М. Ромэр), польскім шавінізме і спробе *«пабудаваць на расейскай зямлі польскую дзяржаву»* (газета «Белая Русь»), імкненні ўстанавіць кантроль духавенства над сістэмай адукацыі (канцылярыя Віленскага генерал-губернатара) і г. д.

На крытычныя заўвагі адказваў толькі біскуп, што між іншым сведчыць пра значнасць ягонай ролі ў распрацоўцы праграмы. Э. Роп катэгарычна адмежаваўся ад ідэалогіі сацыялістаў і пазіцыі Партыі канстытуцыйных дэмакратаў і нават заявіў, што менавіта барацьба супраць сацыялістычных ідэяў і паражэнне радыкальных палітычных сіл з'яўляецца адной з галоўных партыйных мэтаў[13].

Гэтая ж крытыка падштурхнула біскупа да правядзення шэрагу кансультацыйных нарадаў з прадстаўнікамі супольнасці «літоўскіх палякаў». Магчыма менавіта падчас гэтых кансультацый Э. Роп пазнаёміўся з мясцовымі краёўцамі і стаў прыхільнікам краёвай ідэі.

Ужо згаданы Е. Змітровіч прыгадаў нараду на кватэры біскупа, у якой удзельнічалі якраз прадстаўнікі «літоўскіх палякаў» з усіх куткоў «гістарычнай Літвы». У прыватнасці, ён прыгадаў Эдварда Вайніловіча, Станіслава Лапацінскага, Паўла Коньчу, Баляслава Скірмунта, Станіслава Незабытоўскага, Станіслава Ваньковіча ды інш.[14] Большасць запрошаных падзяляла краёвую ідэю ў варыянце Рамана Скірмунта і Баляслава Ялавецкага. Вядома, што па выніках нарады ў праграму партыі былі ўнесеныя істотныя папраўкі. Той жа Е. Змітровіч прыгадваў кансультацыйныя сустрэчы Эдварда Ропа з вядомым віленскім адвакатам Тадэвушам Урублеўскім, які належаў да партыі кадэтаў, але адначасна быў прыхільнікам дэмакратычнага варыянту краёвай ідэі[15].

Аналіз праграмы сведчыць, што ККПЛіБ стваралася як партыя краёўцаў, для якіх прыярытэтнымі былі інтарэсы Беларуска-Літоўскага

краю і... каталіцкага касцёла У першым раздзеле, прысвечаным адукацыі, мэтаю партыі абвяшчалася бясплатная народная школа з навучаннем на роднай мове і абавязковым вывучэннем асноваў рэлігіі. Сцвярджалася, што ўсе народы Краю *«маюць права свабодна карыстацца роднай мовай у грамадскім жыцці, права адкрываць школы і таварыствы для развіцця сваёй мовы, літаратуры і культуры [...] Жыхары кожнай мясцовасці павінны атрымліваць пачатковую адукацыю на роднай мове, а сярэднюю на роднай мове па меры магчымасці»*[16].

Таксама прадугледжвалася стварэнне адзінай сістэмы адукацыі з пераемнасцю яе асобных элементаў, у т. л. недзяржаўных школ. Партыя выступала за павялічэнне колькасці сярэдніх навучальных установаў і адкрыццё ўніверсітэту. Па меры магчымасці выкладанне павінна было весціся на роднай мове вучняў і абавязкова ўлічваць іх веравызнанне. Школы ніжэйшай і сярэдняй ступені пераводзіліся пад кантроль органаў мясцовага самакіравання. Вялікая роля адводзілася духавенству, якое таксама павінна было кантраляваць адукацыйны працэс, каб *«не знішчаліся асновы веры, маралі, не распальвалася рэлігійная і нацыянальная нянавісць»*[17].

У аграрным пытанні ККПЛіБ зыходзіла з прынцыпу недатыкальнасці прыватнай уласнасці. Галоўным сродкам вырашэння эканамічных і сацыяльных праблемаў вёскі партыя лічыла ліквідацыю цераспалосіцы і стварэнне асобных хутарскіх гаспадарак. Апошнія маглі разлічваць на фінансавую падтрымку з боку дзяржавы. Праграма таксама гарантавала поўнае задавальненне сялянскай патрэбы ў лесе. Дзеля гэтага органы мясцовага самакіравання атрымлівалі права яго частковага выкупу. Планавалася стварэнне арбітражных судоў з прадстаўнікоў сялянаў і памешчыкаў дзеля ўрэгулявання канфліктаў.

Асноўныя палажэнні раздзелу, прысвечанага фабрычным рабочым, прадугледжвалі іх права на забастоўку, на стварэнне прафсаюзаў, увядзенне па меры магчымасці 8-гадзіннага працоўнага дня, абмежаванне начной працы, розныя віды сацыяльнай абароны працоўных.

Значныя змены павінны былі адбыцца ў становішчы каталіцкага касцёлу. Першым пунктам ішло патрабаванне вяртання ўласнасці, канфіскаванай пасля паўстання 1863 г. альбо выплату кампенсацыі за панесеныя страты. Праграма таксама настойвала на ліквідацыі Рымска-каталіцкай духоўнай калегіі пры Міністэрстве ўнутраных справаў. Касцёл атрымліваў поўную свабоду ў кадравых пытаннях, а таксама ў пы-

таннях духоўнай адукацыі і будаўніцтва храмаў. Узнікненне рэлігійных таварыстваў вызначалася агульнадзяржаўным палажэннем пра саюзы і арганізацыі.

Самым вялікім быў раздзел, у якім разглядаліся асновы будучага грамадска-палітычнага ўладкавання Расейскай дзяржавы. Яно грунтавалася на дэмакратычных правах і свабодах. Стваральнікам ККПЛіБ Расея бачылася як канстытуцыйнай манархія з урадам, адказным перад парламентам. Усе народы мелі роўныя права і магчымасці для развіцця ўласнай культуры. Расея ператваралася ў дзяржаву самага шырокага самакіравання. Яе органы, у т. л. агульнарасейскі парламент, абіраліся шляхам агульнага, тайнага, роўнага, прамога і абавязковага галасавання.

Паўнамоцтвы мясцовага самакіравання распаўсюджваліся на ўсе бакі дзяржаўнага жыцця за выключэннем войска, фінансаў, шляхоў агульнадзяржаўнага значэння, пошты і тэлеграфа. Фактычна, гаворка ішла пра аўтаномію Беларуска-Літоўскага краю, хоць гэты тэрмін у праграме не ўжываўся. Сцвярджалася неабходнасць аўтаноміі Каралеўства Польскага ды іншых краёў у межах, якія вызначаліся з улікам волі большасці іх насельніцтва.

У партыйных камітэтах усіх узроўняў адно месца абавязкова прызначалася для духоўнай асобы. Пры гэтым агаворвалася часовасць гэтага палажэння.

У цэлым праграма насіла свецкі характар. «*Клерыкалізм*», у якім біскупа Ропа абвінавачвалі некаторыя публіцысты «левага» лагеру, на самой справе адсутнічаў. Некаторыя ягоныя рысы можна было разглядзець толькі ў першым раздзеле. Сумесны кантроль грамадства і духавенства над школай мог паспрыяць паступоваму «акаталічванню» ўсяго працэсу адукацыі. Эдвард Роп быў пэўны, што каталіцкая школа здольная пазбегнуць тых супярэчнасцяў, якія стрымлівалі развіццё свецкая школы.

Аналіз праграмы і сістэмы арганізацыі партыі, якая абапіралася на парафіяльныя структуры Віленскай дыяцэзіі, дазваляе сцвярджаць прыналежнасць ККПЛіБ да хрысціянска-дэмакратычнага руху. Як ужо адзначалася, гэты рух атрымаў моцны імпульс у 1891 г., калі з’явілася энцykліка «Rerum novarum». Папа Леў XIII асудзіў негатыўныя рысы капіталізму, абвяшчаў касцёл абаронцам правоў працоўнага класа і рэкамендаваў адстойваць ягоныя сацыяльна-эканамічныя інтарэсы.

Аднак партыя віленскага біскупа не з’яўлялася традыцыйнай партыяй хрысціянскай дэмакратыі. Яна ўсё ж такі, у першую чаргу, была арыен-

таваная на патрэбы Беларуска-Літоўскага краю або «гістарычнай Літвы». Апроч таго ККПЛіБ не мела той шавіністычнай афарбоўкі, якая, напрыклад, адрознівала польскіх хрысціянскіх дэмакратаў 1930-х гг. у адносінах да габрэяў, літоўцаў, рускіх і беларусаў. Наадварот, партыя імкнулася прыцягнуць усіх вернікаў-хрысціянаў у свае шэрагі.

Відавочна, што біскуп Э. Роп, спалучаючы краёвую ідэю і хрысціянска-дэмакратычную ідэалогію, думаў пра абарону інтарэсаў усяго Краю на агульнарасейскім форуме, а таксама спрабаваў аслабіць сацыяльныя і нацыянальныя супярэчнасці на беларускіх і літоўскіх землях.

Стварэнне Канстытуцыйна-каталіцкай партыі спрыяла ператварэнню каталіцкага касцёла ў важны фактар палітычнага жыцця Краю напярэдадні выбараў у Дзяржаўную Думу. У лютым 1906 г. назіраўся хуткі рост колькасці яе сяброў. Галоўным сацыяльным апірышчам партыі з'яўляліся сяляне-каталікі з беларускіх і літоўскіх вёсак, мясцовая беззямельная і малазямельная шляхта і частка інтэлігенцыі. Большасць сяброў ККПЛіБ пражывала ў Віленскай і Гарадзенскай губ.

Нягледзячы на пэўныя адміністратыўныя рэпрэсіі, якія сталі адчувальнымі ўжо ў сакавіку 1906 г., калі пад ціскам улады Эдвард Роп быў змушаны адыйсці ад кіраўніцтва партыі, яна дабілася значных поспехаў на выбарах. У прыватнасці, з сямі дэпутатаў Дзяржаўнай думы ад Віленскай губ. шасцёра падтрымлівалі праграму ККПЛіБ. Адным з дэпутатаў стаў сам біскуп. У Думе ён падтрымаў ініцыятыву краёўца Рамана Скірмунта і далучыўся да «Групы дэпутатаў ад заходніх губерняў».

У росце папулярнасці партыі вялікую ролю адыграла актыўная прапаганда, у якой удзельнічала парафіяльнае каталіцкае духавенства. Так, напярэдадні выбараў у Думу пры актыўным удзеле гэтага духавенства на Віленшчыне распаўсюджваліся лістоўкі Цэнтральнага Камітэту ККПЛіБ «*Да грамадзян Літвы і Беларусі*»[18]:

«*Набліжаецца дзень адкрыцця Дзяржаўнай Думы, якая павінна разглядзець і зацвердзіць праект будучага гмаху Расейскай дзяржавы. Нашыя дэпутаты, нашы мужы даверу, як прадстаўнікі карэнных народаў Літвы і Беларусі, што чэрпаюць моц адраджэння і росквіту ў самых сабе, павінны быць выразнікамі і абаронцамі духоўных і матэрыяльных інтарэсаў кожнага з братніх народаў.*

*Канстытуцыйна-каталіцкая партыя імкнецца да таго, каб кожны, хто працуе для агульнага дабра ў імя прынцыпаў Любові і Праўды, кожны, хто хацяў б адну цаглінку пакладзе ў новы гмах дзяржавы, ці то багаты*

*чалавек, ці бедны рабочы, стаў у братнія шэрагі і ў імя вышэйшых ідэалаў працаваў для шчасця краю.*

*Партыя заклікае ўсіх, каму дарагія ідэалы Справядлівасці, Любові, Роўнасці ўсіх перад законам да аднадушнай дзейнасці з усімі прадстаўнікамі Краю. [..] Яднайцеся пад нашым сімвалам. Сіла ў адзінстве!*»

Вялікае значэнне таксама меў перыядычны друк. Ужо ў студзені 1906 г. віленскі біскуп пачаў выдаваць у Вільні адразу тры газеты – «Навіны Віленьске» («Nowiny Wileńskie»), «Пшыяцель Люду» («Przyjaciel Ludu») і «Товажыш Працы» («Towarzysz Pracy»). Усе яны прапагандавалі ідэі хрысціянскай дэмакратыі ў іх краёвым кантэксце. Рэдактарам усіх трох выданняў быў Л. Багдановіч.

Штодзённая газета «Навіны Віленьске» абвясціла сваёй галоўнай мэтай кансалідацыю грамадства на падмурку ідэалаў хрысціянскай дэмакратыі. У першым нумары рэдактар заявіў, што выданне будзе выступаць за роўнасць усіх народаў, федэратыўнае ўладкаванне дзяржавы, пашырэнне адукацыі і свабодную каталіцкую школу. Адначасова газета абяцала спрыяць развіццю сельскай гаспадаркі шляхам падтрымкі сельскагаспадарчых гурткоў ды інш.

Аднак ужо ў канцы лютага 1906 г. газета спыніла сваё існаванне. Галоўную ролю ў гэтым адыграла тое, што ў гэты ж час біскуп стаў уладальнікам найбольш папулярнай польскай газеты Краю – «Кур’ера Літоўскага». Таксама нядоўга праіснаваў «Товажыш працы», арыентаваны на фабрычных рабочых. Затое «Пшыяцель Люду», які быў разлічаны на сялянаў і рамеснікаў, пратрымаўся да 1910 г.

Поспех партыі на выбарах у Дзяржаўную Думу прымусіў адміністрацыю прыняць энергічныя меры дзеля яе ліквідацыі. У сакавіку 1906 г. распараджэннем віленскага генерал-губернатара сходы ККПЛіБ былі забароненыя. Нягледзячы на гэта партыя працягвала сваё існаванне, а віленскі біскуп заставаўся яе фактычным кіраўніком. Толькі пасля яго-най высылкі з Вільні ў кастрычніку 1907 г. ККПЛіБ фактычна спыніла сваё існаванне.

У палітычнай барацьбе, якая разгарнулася на землях «гістарычнай Літвы» падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг. Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі займала месца сярод «левых» дэмакратычных сіл і ўмацоўвала пазіцыі прыхільнікаў краёвай ідэі.

Што датычыць праблемы мовы дадатковага набажэнства ў касцёле, то пазіцыя біскупа засталася нязменнай. У пасланні да вернікаў ад 29 верас-

ня 1906 г. ён сцвярджаў: «*Мы павінны клапаціцца ад тым, каб у нашых касцёлах ніхто не быў пакрыўжаны і кожны мог слухаць казанні і спяваць у свой дзень, у свой час і на мове, якая яму мілейшая*»[19].

Трэба заўважыць, што пазіцыя біскупа ў адносінах да беларускай мовы кардынальна разыходзілася з пазіцыяй большасці польскіх каталіцкіх святароў Віленскай дыяцэзіі. Дзеля характарыстыкі настрояў, якія панавалі сярод іх, варта прывесці вытрымкі з лістоўкі «*Bracia Katolicy*» (1906): «*Добра разумее царскі ўрад, хто мы такія […] Калісьці ён забраў нашую Радзіму Польшчу і перасследаваў святую рымска-каталіцкую веру; паўсюдна было забаронена ўжыванне польскай мовы – у школьным навучанні, у судзе; было забаронена друкаванне польскіх кніг і газет. Усё гэта робяць дзеля таго, каб мы не ведалі праўды, менавіта таго, што нашыя продкі былі палякамі, і што мы павінны быць палякамі-католікамі […] Каб адарваць нас ад польскасці, урад называе нашу простую мову «беларускай», усіх нас – «беларусамі», дабіваецца, каб усе мы сталі падобнымі на велікарусаў, г. зн. сапраўдных кацапаў. На самой справе мы, католікі з'яўляемся палякамі, і толькі праваслаўныя сяляне, што жывуць побач з намі заслугоўваюць назву «беларусаў». Але і яны калі-небудзь злучацца з намі ў адзіным польска-каталіцкім народзе, бо гэтага жадаў Ісус Хрыстос, калі абяцаў, што прыйдзе час і на свеце будзе адзін статак і адзін пастыр*»[20].

Цікава, што сярод распаўсюджвальнікаў гэтых лістовак фігуравалі імёны двух набліжаных да біскупа святароў – прэлата І. Садоўскага і каноніка Шыманьскага. Але сам Эдвард Роп, падзяляючы краёвую ідэалогію, быў праціўнікам палітыкі асіміляцыі, тым больш з дапамогай каталіцкага касцёла.

Безумоўна, ён добра ведаў пра ранейшыя спробы ўраду ўвесці ў дадатковае касцельнае набажэнства рускую мову. У другой палове 1870-х гг. гэтыя спробы былі звязаныя з дзейнасцю ксяндза Фердынанда Сенчыкоўскага і датычылі пераважна Менскай дыяцэзіі. На пачатку XX ст. ініцыятыва зыходзіла ўжо ад прадстаўнікоў адміністрацыі.

Пасля Указа ад 17 красавіка 1905 г. расейскі ўрад звярнуўся ў Ватыкан з прапановай увесці ў касцельнае набажэнства беларускую мову. Пры гэтым не трэба шмат казаць пра тое, якімі «патрыётамі» беларускай мовы на самой справе былі прадстаўнікі імперскага ўраду. Дастаткова заўважыць, што, напрыклад, для Пятра Сталыпіна, які цэлы год выконваў абавязкі гарадзенскага губернатара, не існавала розніцы паміж рускай і беларускай

мовамі[21], а віленскі генерал-губернатар прапанаваў абуджаць свядомасць беларускага народу з дапамогай велікарускіх арганізацый «Северо-западное вече» і «Крестьянин»[22].

Дык можа і Эдвард Роп падзяляў гэтую пазіцыю? Відавочна, што гэта не так. Віленскі біскуп у сваёй падтрымцы беларускай мовы выступаў як краёвец і пры гэтым абапіраўся на пазіцыю Ватыкана. Што яна сабой уяўляла, добра відаць з адказаў Апостальскай сталіцы на просьбы царскага ўраду адмяніць рашэнне папы рымскага ад 11 ліпеня 1877 г., якое забараняла весці дадатковае набажэнства на рускай мове. Адказ быў падпісаны кардыналам Мэры дэль Валь. У лісце ад 13 кастрычніка 1906 г. ён пісаў, што забарона 1877 г. не датычыць рускіх католікаў, і што ў дадатковым набажэнстве кожнаму народу можна ўжываць родную мову.

«*Што датычыць казанняў, катэхізацыі, малітваў і спеваў,* – адзначаў кардынал, – *то павінна ўжывацца тая мова, якая з'яўляецца мовай большасці жыхароў або, прынамсі, групы вернікаў. Акрамя гэтага, калі б знайшлася значная колькасць вернікаў (хоць бы яны і складалі меншасць), якія карыстаюцца іншай мовай, то і для іх магчыма ўжыванне сваёй мовы ў казаннях, катэхізацыі і нават […] у публічных малітвах і спевах*»[23].

У лісце ад 26 чэрвеня 1907 г. гэтая пазіцыя Ватыкана пацвярджалася: «*У якіх парафіях можа быць ужываная беларуская ці маларуская гаворка, трэба даведацца ад саміх жыхароў […] Калі ўзнікне непаразуменне паміж духавенствам і вернікамі, справа павінна быць перададзеная найвышэйшаму суду Апостальскай сталіцы*»[24].

Ватыкан лічыў, што беларуская мова мае права быць мовай дадатковага касцельнага набажэнства, калі гэтага будуць патрабаваць вернікі. Менавіта пра гэта пісаў Эдвард Роп на старонках «Кур'ера Літэўскага». Ён адзначаў, што каталіцкі касцёл не выключае з касцельнага ўжытку аніякай мовы. Адзінае патрабаванне – пажаданне вернікаў[25].

Пра тое, што Ватыкан не атаясамліваў каталіцызм і польскасць у Беларусі і Літве, сведчыць таксама дэкрэт Апостальскай сталіцы, які дазваляў рускім бацькам пры хрышчэнні і шлюбе адказваць на пытанні ксяндза па-руску (1907)[26]. Гэты дазвол выклікаў незадавальненне часткі каталіцкага духавенства, якое на старонках друку здзіўлялася таму, што Ватыкан не выслухаў меркаванняў прадстаўнікоў польскага каталіцкага кліру[27].

У кастрычніку 1907 г. біскуп Эдвард Роп рашэннем расейскай адміністрацыі быў высланы з Вільні. Галоўнай прычынай стала незада-

вальненне ўраду палітычнай дзейнасцю віленскага біскупа і ягоным супрацьстаяннем русіфікацыі Краю[28]. Ватыкан не пагадзіўся з гэтым, і нават у высылцы Э. Роп заставаўся віленскім біскупам. Таксама ў яго абарону выказаўся расейскі ліберальны друк. Так, на старонках газеты «Биржевые ведомости» адзначалася, што з віленскім біскупам паступілі, як у «мураўёўскія» часы, быццам Маніфест ад 17 кастрычніка 1905 г. ужо адменены[29].

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Э. Роп ізноў актыўна ўключыўся ў грамадскае і рэлігійнае жыццё. У 1917 г. ён быў прызначаны магілёўскім архібіскупам. Улетку таго ж году адбылася ягоная візітацыя касцёлаў Усходняй Беларусі.

Сярод тых, хто суправаджаў яго, быў малады ксёндз Адам Станкевіч, у будучым вядомы дзеяч беларускай хрысціянскай дэмакратыі, прыхільнік незалежнай беларускай дзяржавы. Ён падрабязна апісаў гэтую паездку і звярнуў увагу на тое, што з прыездам біскупа падчас набажэнстваў разам з польскай мовай загучала і беларуская. Напрыклад, у Дзісне з казаннем па-беларуску выступаў сам Адам Станкевіч. На нарадзе духавенства, якая адбылася 22 ліпеня 1917 г., на пытанне пра мэтазгоднасць дадатковага набажэнства на беларускай мове ў мясцовасцях, дзе пераважаюць беларусы, магілёўскі архібіскуп адказаў станоўча. І дадаў: «*На беларусаў трэба звярнуць увагу […] Яны сёння адраджаюцца і адродзяцца напэўна*»[30].

У кастрычніку 1918 г. на старонках віленскай беларускай газеты «Гоман» быў апублікаваны пастырскі ліст Э. Ропа ў справе беларускай мовы ў Віленскай дыяцэзіі, у якім былы віленскі біскуп заклікаў духавенства: «*Старайцеся, каб нічога не адымаючы з польскага набажэнства, дадаваць казаньні ў мове лягчэйшай для народу, беларускай. Дзе ёсць ксяндзы, каторыя ўмеюць гэтую мову, няхай канечна часта, колькі магчыма, што нядзелі, будзе катахізмовае казаньне беларускае, апрача звычайнае польскай прамовы. Дзе ж духавенства не ўмее даволі народнае мовы, пробашчы сумленна павінны рупіцца, каб пры з'ездзе духавенства гэткія казаньні гавораны былі. Датычыць гэта вёсак і малых мястэчак, у вялікшых цэнтрах трэба браць пад увагу мясцовыя варункі, каб не рабіць звадак там, дзе нам ходзіць аб прыязнь і злучнасць народаў, што жывуць у нашым краі*»[31].

Трэба адзначыць, што розныя палітычныя сілы неаднаразова імкнуліся сказіць адносіны Эдварда Ропа да нацыянальных і рэлігійных патрабаванняў народаў «гістарычнай Літвы». Так, расейскі ўрад імкнуўся выдаць яго за польскага шавініста. Пра гэта таксама ва ўвесь голас казалі

некаторыя найбольш радыкальныя дзеячы літоўскага руху, што глядзелі на віленскага біскупа як на ворага каталікоў-літоўцаў.

На самой справе біскуп прыкладаў вялікія намаганні, каб улагодзіць польска-літоўскі канфлікт па праблеме мовы дадатковага набажэнства ў парафіях з змешаным складам насельніцтва. Некаторыя патрабаванні літоўскіх палітыкаў і духавенства ён задаволіў, іншыя адхіліў. Магчыма, менавіта ягоная заслуга ў тым, што, нягледзячы на ўсю напружанасць польска-літоўскіх адносінаў, у Віленскай дыяцэзіі падчас кіравання Эдвардам Ропам не здарылася аніводнага сур'ёзнага сутыкнення. Пра тое, што небяспека такіх канфліктаў была вельмі рэальнай, сведчаць здарэнні ў Сувалкаўскай дыяцэзіі, дзе мелі месца сутычкі з праліццём крыві.

Дарэчы, у кастрычніку 1907 г. на старонках газеты «Русь» быў апублікаваны ліст групы ксяндзоў-літоўцаў з Віленскай дыяцэзіі, якія пратэставалі супраць абвінавачванняў біскупа Э. Ропа ў апалячванні літоўцаў. Яны адзначалі, што біскуп *«аднолькава ставіўся і ставіцца да ўсіх народаў сваёй епархіі»*[32].

Абвінавачванні Эдварда Ропа ў «чарнасоценстве» прагучалі ад некаторых дзеячаў габрэйскіх арганізацыяў. Біскуп адказаў на старонках «Кур'ера Літэўскага»: *«Я прыхільнік роўнасці габрэяў, але праціўнік тых, хто ў вёсках і гарадах заклікае да бунту, хто імкнецца знішчыць буйную ўласнасць, добра ведаючы, што гэта не прынясе карысці народу. Я супраць тых, хто падманвае народ»*[33]. Варта дадаць, што паводле меркавання Адама Станкевіча, віленскі біскуп быў адным з тых, хто не дапусціў арганізацыі ў Вільні пагрому габрэяў у кастрычніку 1905 г.

Цікава, што і польскі друк прыклаў пэўныя намаганні, каб сказіць пазіцыю Э. Ропа. «Кур'ер Літэўскі», які ў 1905–1907 гг. з'яўляўся найбольш папулярнай і ўплывовай польскай газетай Краю, толькі аднойчы апублікаваў дакументы, якія сведчылі пра падтрымку біскупам беларускай мовы. Большасць газетных матэрыялаў паказвала Эдварда фон Ропа абаронцам польскіх нацыянальных інтарэсаў, сярод якіх, як вядома, знаходзілася месца і для каталіцкага касцёла. Варшаўскі «Тыгоднік ілюстраваны» («Tygodnik Ilustrowany») у 1912 г. нават сцвярджаў, што расейскія ўлады выслалі біскупа з Вільні за ягоны супраціў увядзенню дадатковага набажэнства на беларускай мове[34].

Далучэнне віленскага біскупа да шэрагу краёўцаў на пачатку XX ст. засведчыла моцныя пазіцыі краёвай ідэі сярод эліты «карэнных народаў» Краю і сталася важным фактарам грамадска-палітычнага і нацыяналь-

на-культурнага жыцця. Станоўчая пазіцыя віленскага біскупа, а пазней магілёўскага архібіскупа ў пытанні пра ўвядзенне беларускамоўнага дадатковага набажэнства і ягоная зацікаўленасць у развіцці літаратурнай беларускай мовы была абумоўленая як прыхільнасцю да краёвай ідэалогіі, так і клопатам пра ўмацаванне і пашырэнне пазіцыяў каталіцкага касцёлу ў Беларуска-Літоўскім краі.

ДАДАТАК

### *Паведамленне карэспандэнта газеты «Вольная Беларусь» (Менск) № 13 ад 11 жніўня 1917 г.*

Дзісна Віцебскай губ.

На Іллю, 2 ліпеня католікі з Дзісны і яе ваколіц святкавалі спатканне свайго дэцэзійнага пастыра біскупа Роопа, які ў 1907 г. воляй старога ўрада быў выдалены з Вільні за «неблагонадёжность» з забаронай мець сваю ўласную дэцэзію. Толькі цераз 10 год, калі засвяціло сонцэ вольнасці, вярнуўся ён да свае паствы.

21 ліпеня ў Дзісне адбыўся першы (па дэканату і дэцэзіі) вольны з'езд каталіцкага духавенства і дэлегатаў ад парафіян Дзісненскага дэканату. З'езд адбываўся пад кіраўніцтвам біскупа Роопа. Посьля дакладу мейсцовага дэкана першым з парафіян выступіў дэлегат ад Германовіч Язэп Драздовіч. Ён падаў біскупу пекна ўбраны артыстычным рысункам у беларускім стылю адрас, у каторым па-беларуску пісалася: «Нехай вольна жыве наш святы касцёл каталіцкі – на хвалу Божую і на дабро дарагой нашай Бацькаўшчыны – Беларусі. Нехай будзе святлом і запамогай нашаму загнанаму, векамі крыўджанаму Беларускаму Народу, дзеля лепшай яго будучыны на грунце адраджэння яго ўласнай нацыянальнай культуры».

Біскуп Рооп застаўся вельмі задаволены ад прачытанага адрасу, пашкадаваў, што не можа гаварыць па-беларуску і сказаў пекную прамову аб Беларусі і беларусах. Спачатку біскуп выказаў свае адносіны да розных народаў: «У бытнасць маю ў Вільні я не быў ворагам ні палякам, ні літоўцам, ні беларусінам, і нават жыдам, католікаў бараніў ад пагромаў, што чыніліся старой уласьцяй».

Успамянуўшы пра старасвеччыны, калі «слаўныя і высокавучоныя мужы зямлі беларускай не прымалі лістоў іначай, як толькі пісаных па-беларуску, і, крануўшы цяперашніх часоў, біскуп зазначыў, што культура беларуская, хоць і старасвецкая, але пад рознымі ўціскамі была запынена на шмат часу і шмат адстала ад старой таксама польскай культуры. У будучым яна зможа развівацца так, што не толькі параўнаецца з польскай, але нават і выпярэдзіць яе».

Гаворачы аб адраджэнні культуры беларускай у цяперашні момэнт, біскуп моцна шкадаваў, што цяжка беларусам у хуткім часе залажыць свае нацыянальна-беларускія школы, напрыклад, беларускія гімназіі, дзеля нідахваткі падручнікаў і педагагічнага персаналу, а ўсё праз тое, што лепшыя сыны Беларусі рознымі ўмовамі былі змушаны працаваць на чужых бакох, дзеля чужых народаў, і пры гэтай працы часта трацілі сваё абліччэ беларуса, забываючы сваю родную мову. Далей біскуп пажадаў, каб у беларусаў як найхутчэй была свая ўласная, покі што хоць пачатковая школа, бо «ніякі народ не зможа дайсці да высокай культуры без друку й школы ў сваёй роднай мове». У канцы сваёй прамовы біскуп пажадаў, каб каталіцкае духавенства Беларусі старалася як у касцёле, так і за касцёлам гаварыць да беларусаў па-беларуску і спагадліва падтрымліваць справу школы беларускай.

Пасля прамовы біскупа выступалі маладыя ксяндзы-беларусы з прамовамі па-беларуску. Некаторыя з іх моцна жаліліся на рэакцыйны дух парафіян, каторы затрымлівае пачаткі будоўлі новага жыцця.

З'езд зачыніўся на рэзалюцыі пабуджаць католікаў да дэмакратычнай арганізацыі на грунце самаразвіцця і прасветы.

*Свой чалавек*

---

1 У 2003 г. у Люблінскім універсітэце ў Польшчы была паспяхова абароненая доктарская праца Антаніны Казырскай «Arcybiskup Edward Ropp (1851–1939). Życie i działalność». Аўтарэферат дысертацыі быў апублікаваны ў часопісе *Dzieje Najnowsze* (Rocznik XXXV. 2003, 4, s. 149–154).

2 Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. (2-е выд., дапрац). Санкт-Петербург, 2004, с. 105.

3 Zakład Narodowy imienia Ossolińskich. Wrocław. Sygn. 15350 II / 1. Zmitrowicz J. W przeddzień wielkich przewrotów i na progu ich. Wspomnienia do 1918 r., s. 86.

[4] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). Ф. 178, о/о, 1903, ад. з. 583, арк. 14.
[5] Российский Государственный исторический архив (РГИА). Ф. 1276, оп. 1, д. 106, л. 122.
[6] Kurier Litewski. 1905, Nr 4.
[7] РДГА. Ф. 821, оп. 3, д. 1020, л. 152 об. – 153 об.
[8] Stankiewicz A. Rodnaja mowa u światyniach. Wilnia, 1929, s. 97.
[9] Тамсама.
[10] Kurczewski J. Wspomnienia z przeszłości. 1854–1914. Białystok, 1972 (maszynopis), с. 285.
[11] Kurier Litewski. 1906, № 18.
[12] Nowiny Wileńskie. 1906, № 8.
[13] Ibidem.
[14] Zmitrowicz J. W przeddzień wielkich przewrotów…, s. 96.
[15] Ibidem, s. 88.
[16] Program Stronnictwa Konstytucyjno-Katolickiego na Litwę i Białoruś. Wilno, 1906. S. 10–11.
[17] Ibidem.
[18] Dział rękopisów Biblioteki Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego. Rkp. 915. Kolekcja ks. B. Usasa, k. 10.
[19] ДГАЛ. Ф. 378, о/о 1905, ад. з. 395, ч. 1, арк. 138.
[20] Тамсама. Ф. 378, о/о 1906, ад. з. 4112, арк. 11.
[21] Тамсама.
[22] Тамсама.
[23] Stankiewicz A. Rodnaja mowa u światyniach, s. 71.
[24] Тамсама.
[25] Kurier Litewski. 1906, Nr 135.
[26] Dziennik Wileński. 1907, Nr 2.
[27] Ibidem.
[28] РДГА. Ф. 821, оп. 3, д. 1020.
[29] Тамсама, д. 1021.
[30] Stankiewicz A. Rodnaja mowa u światyniach, s. 102.
[31] Гоман. 1918, № 83.
[32] РДГА. Ф. 821, оп. 3, д. 1020, л. 138.
[33] Kurier Litewski. 1906, Nr 237.
[34] Tygodnik Ilustrowany. 1912, Nr 11, s. 218.

# КРАЁВЕЦ АНТОН ЛУЦКЕВІЧ (1884–1942)*

Пра Антона Луцкевіча ў апошняе дваццацігоддзе напісана шмат. Намаганнямі Анатоля Сідарэвіча ды ягоных маладзейшых калегаў постаць беларускага палітыка, публіцыста і гісторыка нацыянальнага Адраджэння заняла ганаровае месца ў айчыннай гісторыі. Але знаёмства з новымі для беларускай гістарыяграфіі крыніцамі па гісторыі нацыянальнага руху пачатку XX ст. дае падставы сцвярджаць, што многія старонкі ягонай палітычнай біяграфіі патрабуюць больш грунтоўнага асэнсавання.

Гэты артыкул прысвячаецца выдавецкай дзейнасці Антона Іванавіча Луцкевіча ў 1912–1915 гг. і ягоным адносінам да г. зв. «краёвай ідэі».

Адной з асноўных крыніцаў даследавання з'яўляецца Дзённік Міхала Ромэра, а дакладней ягоныя першыя шэсць тамоў, якія ахопліваюць перыяд з 1911 па 1915 г.[1] Міхал Ромэр (1880–1945) – гэта вядомы юрыст, публіцыст, навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч як «гістарычнай», так і «этнаграфічнай» Літвы. На пачатку XX ст. ён з'яўляўся адным з галоўных ідэолагаў дэмакратычнай плыні краёўцаў у Беларусі і Літве.

На сутнасці краёвай ідэалогіі трэба спыніцца. Яна мае непасрэдныя адносіны да поглядаў А. Луцкевіча ў разглядаемы перыяд і дазваляе зразумець грамадска-палітычную пазіцыю аўтара Дзённіка. Менавіта, зыходзячы з яе, Міхал Ромэр даваў ацэнкі падзеям і асобам, у т. л. і Антону Луцкевічу.

Краёвая ідэалогія грунтавалася на ідэі палітычнай нацыі. Краёўцы лічылі, што ўсе карэнныя жыхары Беларусі і Літвы (беларусы, літоўцы і палякі, некаторыя далучалі да іх таксама габрэяў) у першую чаргу з'яўляюцца «грамадзянамі Краю» і ўтвараюць адзіную нацыю. Нацыянальна-культурная спецыфіка асобных народаў адыгрывала другарадную ролю. Такой, у прыватнасці, была пазіцыя Міхала Ромэра.

---

* Упершыню артыкул быў апублікаваны ў часопісе «Гістарычны альманах» (1998, том 1, с. 27–51). Дадзены варыянт артыкула з'яўляецца папраўленым і дапоўненым, у прыватнасці, публікацыямі А. Луцкевіча на старонках віленскай «Вечерней газеты» (1912–1915).

Але тут трэба зрабіць агаворку. Рух краёўцаў зусім не нагадваў партыі аднадумцаў бальшавіцкага тыпу. Сярод ягоных удзельнікаў сустракалася таксама іншае разуменне краёвасці. Так, большасць сяброў віленскага польскага дэмакратычнага кола 1911–1915 гг., якое гуртавалася вакол штотыднёвіка «Пшэглёнд Віленьскі» (рэдактар Людвік Абрамовіч), разумела краёвасць пераважна як супрацоўніцтва розных народаў Краю. У гэтым выпадку нацыянальна-культурная спецыфіка набывала вялікае значэнне, бо абумоўлівала патрабаванні развіцця ўласнай культуры. Але і М. Ромэра, і прыхільнікаў пазіцыі «Пшэглёнда», як і іншых краёўцаў-дэмакратаў аб'ядноўвала перакананне, што толькі пры дэмакратычным ладзе з'явяцца належныя ўмовы для культурнага і палітычнага развіцця ўсіх народаў Краю.

Асноўныя прынцыпы краёвасці былі распрацаваныя ў асяродку «літоўскіх палякаў». Можна сцвярджаць, што краёўцы выйшлі з польскай супольнасці. Яны прадстаўлялі той асяродак мясцовых палякаў, для каго краёвасць не з'яўлялася толькі сродкам абароны ўласных пазіцый у Беларусі і Літве, а была праявай натуральнага імкнення абараняць інтарэсы сваёй Радзімы. Яны, сапраўды, адчувалі сябе «грамадзянамі Краю» і з гатоўнасцю ішлі на кантакты з прадстаўнікамі іншых нацыянальных рухаў. Вільня стварала выдатныя магчымасці для такіх кантактаў. А краёвасць станавілася іх ідэалагічным падмуркам. Дзеячы дэмакратычных плыняў польскага, беларускага і літоўскага рухаў, сябры габрэйскіх дэмакратычных арганізацый пагаджаліся з асноўнымі прынцыпамі краёвасці. Хаця зачастую трактавалі іх на карысць уласных народаў.

Апроч Дзённіка Міхала Ромэра іншай важнай крыніцай даследавання з'яўляюцца публікацыі двух віленскіх выданняў дэмакратычнага накірунку – штодзённых рускамоўнай «Вечерней газеты» (1912–1915) і польскамоўнага «Кур'ера Краёвага» (1912–1914). Справа ў тым, што вывучэнне запісаў згаданага Дзённіка ў спалучэнні з іншымі матэрыяламі дае падставы сцвярджаць, што Антон Луцкевіч з'яўляўся фактычным рэдактарам і адным з галоўных аўтараў «Вечерней газеты»[2]. Адначасова менавіта ён вызначаў краёвы і дэмакратычны накірунак «Кур'ера Краёвага»[3], у выданні якога прымаў самы актыўны ўдзел.

Імя Антона Луцкевіча ўпершыню згадваецца ў Дзённіку 10 (23) мая 1911 г.[4] Міхал Ромэр апісаў польска-беларускі сход, на якім было прынятае рашэнне пра арганізацыю сумеснага краёвага выдання ў форме «*jednodniowki*», г. зн. аднаразовага выдання. З беларускага боку ў сход-

зе ўдзельнічалі браты Луцкевічы. Пазней ідэя сумеснага выдання набыла форму штотыднёвіка, да ўдзелу ў якім планавалася прыцягнуць і літоўцаў.

Варта адзначыць, што супрацоўніцтва польскіх, беларускіх, літоўскіх і габрэйскіх дэмакратаў пачалося яшчэ ў часы рэвалюцыі 1905–1907 гг. Трэба прыгадаць публікацыю артыкула Антона Луцкевіча «Аграрная праграма» ў № 46 ад 13 (26) красавіка 1906 г. «Газеты Віленьскай»[5]. Артыкул быў надрукаваны пад псеўданімам *Ян Мялешка* і знаёміў чытачоў польскага дэмакратычнага выдання з аграрнай праграмай Беларускай сацыялістычнай Грамады. З таго часу супрацоўніцтва фактычна не перапынялася.

Арганізацыю штотыднёвіка ўзяла ў свае рукі польская віленская суполка краёўцаў-дэмакратаў, у якую ўваходзілі Вітальд Абрамовіч, Міхал Ромэр, Аляксандр Заштаўт, Браніслаў Крыжаноўскі, Зыгмунт Нагродскі ды інш. М. Ромэр бачыў кіраўніком сумеснага выдання *Яна Яленьскага*[6], які ў гэты час актыўна працаваў у рэдакцыі «Нашай Нівы». Але ў падтрымку ягонай прапановы выказаўся толькі Аляксандр Заштаўт. Большасць сяброў суполкі выказалася за кандыдатуру Людвіка Абрамовіча. Пры гэтым беларусы і літоўцы былі фактычна адхіленыя ад арганізацыі выдання.

12 (25) лістапада 1911 г. выйшаў першы нумар штотыднёвіка «Пшэглёнд Віленьскі» («Przegląd Wileński»)[7].

Асоба Людвіка Абрамовіча не выклікала даверу ў дзеячаў беларускага і літоўскага рухаў. У 1906 г. ён супрацоўнічаў з «Газетай Віленьскай» (пісаў пад псеўданімам «Licz»), але пазней перайшоў у рэдакцыю яе ідэйнага праціўніка кансерватыўнага «Кур’ера Літэўскага» (пісаў пад псеўданімам «Alf»). У ягоных артыкулах краёвасць выглядала як форма абароны польскіх нацыянальных інтарэсаў.

Прызначэнне Л. Абрамовіча перакрэсліла ідэю стварэння міжэтнічнага дэмакратычнага краёвага выдання. Людвік Абрамовіч зрабіў «Пшэглёнд Віленьскі» дэмакратычным і краёвым органам польскай супольнасці «гістарычнай Літвы». (А. Луцкевіч пазней ахарактарызаваў гэтую газету як орган «польскіх нацыянал-лібералаў».) Такім чынам, ідэя міжэтнічнага краёвага выдання не была рэалізавана і па-ранейшаму хвалявала дэмакратычную грамадскасць Вільні. Між тым барацьба з шавінізмам, прапаганда краёвай ідэалогіі, распаўсюджванне аб’ектыўнай інфармацыі пра сапраўдныя імкненні дэмакратычных плыняў беларускага, літоўскага і польскага рухаў станавіліся ўсё больш актуальнымі.

На пачатку лістапада 1911 г. на сустрэчы з удзелам І. Краскоўскага, А. Луцкевіча, Б. Крыжаноўскага, З. Нагродскага і М. Ромэра была выказаная думка пра выданне ў Вільні рускамоўнага дэмакратычнага штотыднёвіка[8]. Мэтай выдання павінна была стаць прапаганда краёвай ідэі ў яе ліберальна-дэмакратычным варыянце сярод рускай супольнасці Вільні. Аднак вынікаў гэтая размова не мела. Толькі ўвосень 1912 г. напярэдадні выбараў у IV Дзяржаўную Думу ідэя пачала набываць канкрэтныя формы. На гэты раз ініцыятыву ўзяў у свае рукі Антон Луцкевіч.

18 верасня (1 кастрычніка) 1912 г. выйшаў першы нумар «Вечерней газеты». Падпісаў яго да друку ў якасці рэдактара Ф. М. Хатэнка. Але сапраўдным кіраўніком газеты (і аўтарам большасці «перадавых» артыкулаў) быў Антон Луцкевіч. Пра гэта сведчаць не толькі шматлікія запісы ў дзённіку М. Ромэра, але таксама дакладныя агентаў Дэпартамента паліцыі[9].

«Вечерняя газета» адразу ж прыцягнула ўвагу віленскай грамадскасці. Гэтаму спрыяў высокі ўзровень публіцыстыкі ліберальна-дэмакратычнага накірунку. Дарэчы, гэты накірунак прымушае задумацца пра магчымыя сувязі выдаўцоў газеты з Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыяй «Народнай свабоды». На магчымасць такіх сувязяў указваюць і некаторыя іншыя ўскосныя дадзеныя.

На жаль, аўтары публікацый у «Вечерней газете» за рэдкім выключэннем не пазначаліся. Газета была досыць «таямнічай». Толькі праз два месяцы пасля выхаду першага нумара пад некаторымі матэрыяламі пачалі з'яўляцца псеўданімы і крыптонімы. Сярод іх можна заўважыць і тыя, што належалі Антону Луцкевічу – *А. Иванов* і *А. Н.*[10] Да ліку крыптонімаў беларускага дзеяча можна аднесці і крыптонім *Г. Б.* Магчыма, ён звязаны з псеўданімам *Генрык Букавецкі*, пра які яшчэ будзе гаворка.

Спалучэнне дзённікавых запісаў Міхала Ромэра з публікацыямі «Кур'ера Краёвага» дазволіла вызначыць іншыя псеўданімы беларускага палітыка: *Вестаў Каліноўскі* і *К-вец*. Польскі гісторык Ян Юркевіч вызначыў ужо згаданы псеўданім – *Генрык Букавецкі*[11]. Пра яго ж пісаў Анатоль Сідарэвіч у сваім артыкуле ў томе 4 Энцыклапедыі гісторыі Беларусі[12]. Псеўданім *Бо-вичъ*, паводле вядомага даследчыка Уладзіміра Конана, мог належаць Міхасю Бабровічу[13]. Але хто хаваўся пад іншымі псеўданімамі і крыптонімамі (*Б-ов*, *С. У.*, *Кий* ды інш.) дакладна пакуль не ўстаноўлена.

Прапаганда ліберальна-дэмакратычнай ідэалогіі, якую разгарнула «Вечерняя газета», адыграла прыкметную ролю падчас выбрання

ўдзельнікаў віленскага губернскага выбарчага сходу ад «рускай курыі». Газета, сапраўды, паспрыяла распаўсюджванню сярод прадстаўнікоў рускай супольнасці Вільні ідэй ліберальных дэмакратаў. Гэта паўплывала і на вынікі выбараў. Адначасова высветлілася, што газета знайшла свайго чытача. Антон Луцкевіч вырашыў працягваць яе выданне. Магчыма, ужо ў гэты час у яго ўзнік план цэнтралізацыі віленскага дэмакратычнага друку, пра які пазней згадаў у сваім Дзённіку Міхал Ромэр[14].




*Абвестка пра падпіску на «Вечернюю газету». 1913 г.*

Важнай часткай гэтага плана было выданне штодзённай польскамоўнай газеты. Гэты праект А. Луцкевіч збіраўся рэалізаваць ў цесным кантакце з польскімі дэмакратамі.

У сярэдзіне кастрычніка 1912 г. «група» А. Луцкевіча, у якую ўваходзілі таксама ягоны брат Іван і Язэп Манькоўскі[15], звярнулася да польскай віленскай дэмакратычнай суполкі з прапановай арганізацыі сумеснага выдання. Тым больш, што і палякі шукалі сродкі для выдання штодзённай дэмакратычнай газеты пад рэдактарствам Людвіка Абрамовіча. На пачатку перамоваў беларусы прапанавалі двайное рэдактарства. Пры гэтым яны гатовы былі пагадзіцца з тым, што беларускі рэдактар будзе мець толькі права дарадчага голасу. А. Луцкевіч, магчыма, палічыў для сябе больш важнай працу ў «Вечерней газете». Усё ж такі дэмакратычныя элементы сярод польскай супольнасці ў параўнанні з рускай былі значна мацнейшымі. Кампанію Л. Абрамовічу павінен быў скласці Я. Манькоўскі.

Апроч гэтага прапанавалася існаванне двух рэдакцыйных радаў або адной супольнай. Аднак хутка высветлілася, што «групу» Л. Абрамовіча цікавіла не столькі супраца з беларусамі, колькі сабраныя імі сродкі для выдання газеты[16].

Міхал Ромэр, які адным з першых гэта зразумеў, параіў Антону Луцкевічу самастойна распачаць выданне штодзённай польскамоўнай газеты[17]. Ён разлічваў, што пасля выхаду першых нумароў палякі ўсе ж такі далучацца да беларускай ініцыятывы. Антон Луцкевіч так

і зрабіў. Беларусы выкарысталі ліцэнзію на выданне «Кур'ера Краёвага», выдадзеную ўладамі Юліушу Сумароку.

8 (21) снежня 1912 г. выйшаў першы нумар «Кур'ера». Яго рыхтаваў Язэп Манькоўскі, але праграмны артыкул напісаў Антон Луцкевіч[18]. Аднак польска-беларускае паразуменне адносна выдання газеты ўсё ж не было дасягнутае. Галоўнай прычынай было выразнае імкненне большасці польскай групы атрымаць газету ў выключна ўласнае распараджэнне. Так, прынамсі, бачыліся гэтыя перамовы М. Ромэру[19]. Ні ён, ні беларусы з гэтым пагадзіцца не маглі.

Міхал Ромэр даволі высока ацэньваў узровень публіцыстыкі першых нумароў «Кур'ера Краёвага». Ён вельмі спадзяваўся на з'яўленне такога органа дэмакратычнага краёвага друку, пазіцыя якога найбольш адпавядала ягонаму разуменню краёвасці.

Галоўнай прычынай поспеху новай «польскай» газеты М. Ромэр лічыў ідэйнае кіраўніцтва Манькоўскім з боку Антона Луцкевіча і непасрэдны ўдзел беларускага дзеяча ў падрыхтоўцы нумароў газеты да выдання.

У сваіх ацэнках «Кур'ера» Міхал Ромэр неаднаразова падкрэсліваў ролю Антона Луцкевіча: «*Адным з галоўных, хоць звонку непрыкметных супрацоўнікаў газеты з'яўляецца Антон Луцкевіч, адзін з стаўпоў «Нашай Нівы». Магчыма, гэта самы дзелавіты работнік і самая здольная галава беларускага народнага руху. Адначасова ён рэдагуе «Вечернюю газету». Антон Луцкевіч трымаецца трохі ў ценю, не становіцца на чале «Кур'ера Краёвага», але фактычна выконвае партыю першай скрыпкі. Ён аказвае рашаючы ўплыў на кірунак і арганізацыю газеты*»[20].

На пачатку сакавіка 1913 г. М. Ромэр прыняў запрашэнне ўвайсці ў склад рэдакцыі «Кур'ера». Разам з ім увайшоў Аляксандр Заштаўт. Яны павінны былі ўзмацніць творчыя магчымасці рэдакцыі і кампенсаваць занятасць Антона Луцкевіча. Да таго ж, можна меркаваць, што беларускі дзеяч быў зацікаўлены ў тым, каб «Кур'ер Краёвы», захоўваючы вызначаны накірунак, па складу сваёй рэдакцыі станавіўся ўсё больш польскім.

Фактычнае кіраўніцтва «Кур'ерам» з боку беларускага палітыка ў першыя месяцы існавання гэтай газеты не было таямніцай для дзеячаў дэмакратычнай плыні польскага руху. «Пшэглёнд Віленьскі» ў палеміцы з «Кур'ерам», якая ў пэўны момант набыла даволі вострую форму, неаднаразова выказваў сумненні ў сапраўднай польскасці газеты і дазваляў сабе намёкі на «чужыя ўплывы» на сяброў яе рэдакцыі. Праўда, цалкам раскрываць таямніцу «Кур'ера» Людвік Абрамовіч не стаў. Усё

ж такі розныя групоўкі краёўцаў звязвала значна больш чыннікаў, чым падзяляла.

Улетку і ўвосень 1913 г. выдавецкія справы «Кур'ера Краёвага» складваліся не лепшым чынам. Знізіўся ўзровень публікацый, абвастрыліся фінансавыя праблемы. Язэп Манькоўскі, які ўсё часцей заставаўся без падтрымкі, не здолеў захаваць на ранейшым узроўні краёвы і дэмакратычны накірунак газеты. У кастрычніку 1913 г. Міхал Ромэр нават адмовіўся супрацоўнічаць з газетай[21]. Яе лёс хваляваў і Антона Луцкевіча. У выніку менавіта беларусы ініцыявалі правядзенне 16 (29) лістапада 1913 г. беларуска-польска-літоўскага сходу для абмеркавання далейшага лёсу «Кур'ера Краёвага».

У гэтым сходзе з беларускага боку ўдзельнічалі браты Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі і Аляксандр Уласаў, з літоўскага – Ёнас Вілейшыс і Міколас Сляжэвічус (ад сацыял-дэмакратаў), Міколас Біржышка і Сцяпонас Кайрыс (ад нацыянал-дэмакратаў), з польскага – Міхал Ромэр, Аляксандр Заштаўт, Уладзіслаў Асмалоўскі, Юліўш Сумарок. Цікава, што на старонках свайго Дзённіка, М. Ромэр да польскіх удзельнікаў сходу аднёс таксама Язэпа Манькоўскага (?). Апошні прысутнічаў на сходзе, хаця А. Луцкевіч і М. Ромэр ужо прынялі рашэнне пра яго адхіленне ад рэдакцыйнай працы.

Удзельнікі сходу пасля працяглай дыскусіі прызналі неабходным падтрымаць «Кур'ер» як «орган польскай дэмакратыі». Важную ролю ў выпрацоўцы менавіта такой фармуліроўкі адыгралі браты Луцкевічы. У спрэчцы Міхала Ромэра з літоўцамі і В. Іваноўскім, якія даказвалі, што «Кур'ер Краёвы» павінен стаць органам агульнакраёвай дэмакратыі, Луцкевічы падтрымалі М. Ромэра. Яны прызнавалі неабходнасць развіцця менавіта польскай дэмакратыі як часткі краёвага дэмакратычнага руху[22].

Іншым вынікам сходу было ўтварэнне Арганізацыйнага і Рэдакцыйнага камітэтаў. У першым з іх палякаў прадстаўлялі Ю. Сумарок, Букоўскі і М. Ромэр, літоўцаў – Ё. Вілейшыс, Ю. Шаўлюс і С. Кайрыс, беларусаў – браты Луцкевічы і В. Іваноўскі. У Рэдакцыйны камітэт увайшлі А. Луцкевіч, М. Ромэр і Ю. Шаўлюс[23]. Антон Луцкевіч пагадзіўся рыхтаваць для газеты два перадавыя артыкулы ў тыдзень. Аднак канчаткова пераадолець творчы і фінансавы крызіс газета ўжо не здолела.

Так выглядала знешняя канва падзеяў, звязаных з польскамоўнай і рускамоўнай выдавецкай дзейнасцю Антона Луцкевіча ў 1912–1915 гг. Напрыканцы 1912 г. пад кантролем віленскага беларускага кола

знаходзіліся чатыры выданні: два беларускія – «Наша Ніва» і «Саха», адно польскамоўнае – «Кур'ер Краёвы» і адно рускамоўнае – «Вечерняя газета».

Паспрабуем зразумець унутраную падаплёку гэтай гісторыі. Навошта Антону Луцкевічу спатрэбіўся ўвесь гэты «маскарад»? Чым было выклікана ягонае імкненне да цэнтралізацыі віленскага дэмакратычнага друку ў беларускіх руках? Як выданне «Вечерней газеты» і «Кур'ера Краёвага» паўплывала на грамадска-палітычную і міжнацыянальную сітуацыю ў Краі? Як гэтая выдавецкая дзейнасць адбілася на развіцці беларускага руху?

Адказаць на гэтыя пытанні дапаможа аналіз публікацый «Вечерней газеты» і «Кур'ера Краёвага». Звернем увагу таксама на матэрыялы «Нашай Нівы». Аналіз, праўда, будзе абмежаваны пераважна артыкуламі Антона Луцкевіча.

Што сабой уяўляла пазіцыя гэтых трох выданняў па асноўных праблемах жыцця Беларуска-Літоўскага краю?

У праграмных артыкулах першых нумароў «Вечерней газеты» і «Кур'ера Краёвага» Антон Луцкевіч сфармуляваў галоўныя задачы выданняў, якія адпавядалі дэмакратычнаму варыянту краёвай ідэалогіі.

«Вечерняя газета»: «*Пробуждение от векового сна различных народов со всем своеобразием их исторического прошлого, культурных особенностей и национальных дарований – всё это составляет отличительную черту общественной, культурной и экономической жизни нашего края. Различные народности, служившие до сих пор лишь материалом для других, бывшие у них в порабощении, теперь начинают активно стремиться к своему культурно-национальному самоопределению, а вместе с тем на общественную и политическую арену начинают выступать новые силы, новые элементы. «Низы» пробуждаются, в них заговаривает чувство гражданского самосознания, и стремление народных масс добиться в общественной жизни надлежащего места усиливается с каждым годом […]*

*Поддерживая стремление народных масс к развитию своей внутренней культурной мощи, к поднятию своего благосостояния и созданию прочных экономических основ, мы не будем забывать об особенностях нашего края. Здесь никоим образом нельзя исходить исключительно из интересов какой-либо одной национальной группы; при разнообразии национального состава населения необходимо всё время иметь ввиду интересы края как целого. Только тогда может правильно развиваться и каждая отдельная народность.*

*Сознание, что мы, живя на этой земле, становимся гражданами края, – вот наша исходная точка при выяснении нужд различных групп его населения»*[24].

Поўнае задавальненне нацыянальных і сацыяльных патрабаванняў «нізоў» Антон Луцкевіч звязваў з устанаўленнем дэмакратычнага ладу. Пад апошнім у гэтым артыкуле разумелася правядзенне ў жыццё ў поўным аб’ёме «*великих начал, провозглашённых ещё Манифестом 17 октября*».

У праграмным артыкуле першага нумару «Кур’ера Краёвага» падкрэслівалася небяспека ваяўнічага шавінізму, які «*прыносіць з сабою ўзаемную нянавісць і распальвае ў народзе ўнутраную барацьбу, што пагражае распадам і стратай здольнасці абараняць край ад людзей, якія імкнуцца вынішчыць усялякае пачуццё адметнасці на гэтай зямлі*». Між тым, «*у краі, дзе побач з літоўцам жыве паляк, побач з беларусам – габрэй, у краі, няшчасны лёс якога прадвызначыў ягонае адставанне і пазбавіў магчымасці свабоднага развіцця, няма месца для ўнутранай барацьбы*». Антон Луцкевіч заклікаў усіх «грамадзянаў Краю» да працы на ягоную карысць і на карысць народу.

На старонках «Кур’ера Краёвага» і «Вечерней газеты» часта ўжываўся тэрмін «грамадзянін Краю». Аўтары публікацый даводзілі, што найбольш важныя пытанні павінны вырашацца з улікам інтарэсаў усіх народаў Беларусі і Літвы[25], асуджалі велікарускі і велікапольскі шавінізм[26], заяўлялі пра важнасць барацьбы з праявамі шавінізму сярод беларусаў і літоўцаў[27], выкрывалі сутнасць дзейнасці «Белорусского общества» Лукі Саланевіча як арганізацыі «заходнерусістаў», створанай дзеля змагання з беларускім нацыянальным рухам[28].

Асновай краёвай згоды лічылася супрацоўніцтва дэмакратычных сіл усіх нацыянальных рухаў[29]. Краёвасць досыць натуральна прыводзіла да дэмакратычных поглядаў. «Вечерняя газета» пераконвала: «*Всё более ясным становится тот путь, который местным русским людям, подсказывает сама жизнь. Как граждане края, мы должны уважить его коренное население, прислушаться к его голосу и пожеланиям, считать его интересы своими интересами и работать в его пользу*»[30]. У сваю чаргу, дэмакратызм, які зыходзіў з павагі да народных патрабаванняў, непазбежна нараджаў краёвую пазіцыю[31].

Абодва выданні пашыралі ідэалогію краёўцаў-дэмакратаў сярод грамадства Беларусі і Літвы. «Вечерняя газета» імкнулася гэта рабіць у асяроддзі рускай супольнасці, але не пакідала цалкам па-за ўвагай

## Національная культура.

Въ цѣломъ рядѣ рѣчей представителей «инородцевъ», произнесенныхъ въ Думѣ по поводу деклараціи г. Коковцова, звучитъ одна и та-же нота: не даютъ возможиожности развивать національной культуры, ставятъ въ безвыходное положеніе дѣло культурной работы... Дайте намъ гражданскія права, уничтожте раздѣленіе на граждань первой и второй степени, и мы признаемъ Россійское государство своимъ отечествомъ — такъ заявляли представители мусульманскихъ народностей, литовцевъ и др.

Говорить о томъ, что необходимымъ условіемъ внѣшней мощи государства является внутренняя сила, основанная на гармоніи интересовъ частей государства и государственнаго цѣлаго — значитъ повторять избитую фразу: до того это ясно. И мы остановимся на другой сторонѣ вопроса объ «инородцахъ» — съ точки зрѣнія общекультурной.

«Человѣчество идетъ къ дальнѣйшему развитію цивилизаціи черезъ народы» — сказалъ на одномъ изъ съѣздовъ кооперативистовъ Шарль Жидъ. Это — вполнѣ понятно. Мы не можемъ представить себѣ культурной творческой работы внѣ опредѣленной общественной группы. Національность — это такая группа, которая объединена общностью психики, общностью традицій, переживаній и общностью органа передачи мыслей — языка. Психическое единство даетъ возможность членамъ этой группы легче понимать другъ друга, схватывать чужую мысль, дополнять ее своей и — въ концѣ концовъ — участвовать въ общемъ культурномъ строительствѣ. Тѣ психическія особенности, которыя — быть можетъ, безсознательно — заложены въ души людей одной національности, могутъ развиваться и создавать нѣчто своеобразное, особенное, присущее данной національной группѣ, исключительно ей этой группѣ и такимъ путемъ общечеловѣческое культурное достояніе обогащается новыми цѣнностями.

Въ томъ-то и заключается мощь всесвѣтной культуры, что въ нее непрерывно притекаютъ пріобрѣтенія отдѣльныхъ національныхъ культуръ. Попробуйте привести все къ одному знаменателю, и общая культура остановится.

Жизнь никогда не проявляется однообразно. Нѣтъ двухъ одинаковыхъ дней; нѣтъ двухъ одинаковыхъ листковъ на деревѣ, нѣтъ одинаковыхъ людей: каждый представляетъ особый духовный міръ. И нѣтъ и не можетъ быть двухъ одинаковыхъ народовъ: уничтоженіе ихъ особенностей должно сократить количество живыхъ источниковъ духа, питающихъ человѣчество.

Потому не только на самыхъ народностяхъ вредно отзывается національный гнетъ, но и на общечеловѣческой и — само собой — на общегосударственной культурѣ.

Въ одномъ изъ своихъ сочиненій («О Гоголѣ») проф. Овсянико-Куликовскій отмѣчаетъ, что общерусская культура создалась какъ синтезъ культурныхъ особенностей трехъ русскихъ народностей: великоруссовъ, украинцевъ и бѣлоруссовъ. И до тѣхъ поръ, пока каждое племя будетъ сохранять свои особенности, будетъ развивать свою индивидуальность, пока эти разновидности будутъ существовать, общерусская культура имѣетъ обезпеченную поддержку путемъ внесенія въ нее пріобрѣтеній самостоятельной культурной работы каждаго племени. Съ этой точки зрѣнія, казалось-бы, для каждаго „общерусса" должны быть цѣнными и крайне желательными такія явленія, какъ національное возрожденіе украинцевъ и бѣлоруссовъ, не говоря уже о культурномъ и общественномъ значеніи пробужденія ихъ вообще.

И однако — всѣ племенныя особенности этихъ народностей у насъ стараются стереть. Къ нимъ примѣняютъ еще болѣе ограничительныя мѣры, чѣмъ къ прочимъ „инороцамъ". А вѣдь, разъ ихъ признаютъ русскими, то они, естественно, должны-бы пользоваться всѣми правами русскаго народа.

Но... этого нѣтъ. Очевидно и ихъ записали въ число инородцевъ, которые изливали свои жалобы въ Думѣ, и имъ приходится ожидать „перечисленія" въ разрядъ «гражданъ первой степени».

## Гос. Дума и Гос. Совѣтъ.

**Итоги первой думской сессіи.**

Въ теченіе длившейся одинъ мѣсяцъ думской сессіи было 13 засѣданій: 4 засѣданія заняты были выборами президіума, 6 — преніями о деклараціи, одно — провѣркой полномочій, одно обсужденіемъ спѣшности запросовъ.

Внесены шесть запросовъ и два вопроса. Три запроса касаются выборовъ. Одинъ — продленія исключительныхъ положеній, два — преслѣдованія рабочихъ союзовъ. Вопросы касаются реформы на Кавказѣ и обысковъ и арестовъ среди учащихся въ средне-учебныхъ заведеніяхъ Петербурга.

Различными фракціями внесено 12 законопроектовъ, въ томъ числѣ фракціей народной свободы — 7, октябристами — 3, прогрессистами — 1, и правыми — тоже одинъ.

**Впечатлѣніе отъ думской сессіи.**

Въ оппозиціонныхъ сферахъ полагаютъ, что въ теоритическихъ вопросахъ октябристы, можетъ-быть, будутъ голосовать съ оппозиціей, но въ практическомъ ихъ разрѣшеніи они, навѣрное, разойдутся съ ней.

Прогрессисты приписываютъ

*Артыкул А. Луцкевіча «Национальная культура»*
*на старонках «Вечерней газеты» (1912, № 92)*

і «літоўскіх палякаў». У шэрагу артыкулаў апошніх спрабавалі пераканаць у тым, што толькі іх шчыры паварот да дэмакратыі можа гарантаваць будучыню польскай грамадскасці Беларусі і Літвы[32].

А вось для «Кур'ера Краёвага» пашырэнне дэмакратычных поглядаў сярод польскай супольнасці было адной з галоўных задачаў. Антон Луцкевіч у сваіх артыкулах даволі часта звяртаўся да гістарычных традыцый. Напрыклад, *Генрык Букавецкі*: *«З паняццем польскасці заўсёды звязвалася паняцце свабоды»*, *Веслаў Каліноўскі*: *«Як некалі з іменем паляка атаясамлівалася вольнасць, так зараз наша (польская – А. С.) нацыянальная будучыня звязана з дэмакратыяй»*[33].

А што ж «Наша Ніва»? Ці ўдзельнічаў Антон Луцкевіч ў яе выданні?

Варта заўважыць, што да № 38 ад 20 верасня 1912 г. газета рэгулярна змяшчала артыкулы беларускага дзеяча пад крыптонімамі: *А. Н., а-н-а., Г. Б.* (у выданнях на беларускай лацінцы адпаведна: *A. N., a-n-a., H. B.*). З № 38 перадавыя артыкулы спачатку пісаў Аляксандр Уласаў, пазней – Вацлаў Ластоўскі, Самуіл Плаўнік, Міхась Бабровіч ды інш. Артыкулы Антона Луцкевіча зноў з'явіліся на старонках «Нашай Нівы» ў 1913 г. Але ў параўнанні з публікацыямі 1911–1912 гг. былі досыць рэдкімі.

Тэматыка публікацый галоўнай газеты беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння пераклікалася з матэрыяламі «Кур'ера Краёвага» і «Вечерней газеты». У першую чаргу, гэта датычыла прапаганды краёвай ідэалогіі ў яе дэмакратычным варыянце і барацьбы супраць шавінізму[34].

Падчас выбарчай кампаніі ў IV Дзяржаўную Думу «Наша Ніва» падтрымлівала тых самых кандыдатаў, якіх адстойвала «Вечерняя газета». У адным з артыкулаў «Нашай Нівы» адзначалася: *«[...] мы, беларусы, можам верыць толькі шчырым расійскім прагрэсістам, каторые зродніліся з нашым краем, лічаць сябе грамадзянамі нашай старонкі»*[35]. Цікава, што з артыкуламі ў падтрымку кандыдатаў «Вечерней газеты» ў № 42–44 выступаў Язэп Манькоўскі.

Усе тры выданні вялі сумесную барацьбу супраць велікапольскага і велікарускага шавінізму. Яны разам давалі адпор нападкам шавіністычнага друку. У першую чаргу гэта тычылася афіцыйнага «Виленского вестника» і газеты «Гонец цодзенны» («Goniec codzienny»), да выдання якой мелі дачыненне польскія нацыянальныя дэмакраты[36]. Адначасова А. Луцкевіч на старонках «Нашай Нівы» настойліва падкрэсліваў дэмакратызм беларускага руху[37].

Найбольш цікавыя публікацыі «Вечерней газеты» і «Кур'ера Краёвага» тычыліся беларускага руху. Яны займалі значнае месца ў абодвух выданнях. Ужо ў гэтым праяўляўся свайго роду «беларускі ўхіл» краёўца Антона Луцкевіча. Гэтыя публікацыі пераважна абаранялі «Нашу Ніву» і ўвесь беларускі рух ад абвінавачванняў велікарускіх і велікапольскіх шавіністаў, якія імкнуліся давесці, што на самой справе беларускі рух з'яўляецца ці то «польскай інтрыгай» супраць Расеі, ці то «рускай інтрыгай» супраць Польшчы[38].

Матэрыялы распавядалі пра сітуацыю ў беларускім руху[39], адстойвалі права беларускай мовы быць мовай школьнага навучання[40]. І рускамоўнае, і польскамоўнае выданні імкнуліся выклікаць сімпатыі да беларускага

Адраджэння. «Вечерняя газета» згадвала пра мясцовыя беларускія карані большасці прадстаўнікоў рускай супольнасці Краю[41]. «Кур'ер Краёвы» заклікаў шукаць згоду і паразуменне з беларусамі. Пры гэтым падкрэсліваўся дэмакратызм беларускага руху: *«Шчыры дэмакратызм беларускага руху [...] ягоная лаяльнасць у адносінах да суграмадзян іншых нацыянальнасцяў – гэта гарантыя, што нашыя імкненні знойдуць жывы водгук сярод беларусаў»*[42].

**Czas nagli.**

Ruch narodowy—w miarę postępowania naprzód — z natury rzeczy powinien się różniczkować. Im szersze warstwy ludności przyjmują w nim udział, im więcej grup społecznych (o interesach często wzajem sobie wrogich) dążyć zaczyna ku urzeczywistnienia ideałów odrodzenia narodowego, tem mocniejsze podstawy ruch taki posiada. „Wszystkie drogi prowadzą do Rzymu": poszczególne kierunki o rozmaitych barwach i odcieniach tworzą całokształt pracy nad stworzeniem kultury narodu. To też różniczkowanie się ruchu świadczy o niewątpliwym jego rozwoju.

Gdy ruch litewski pierwsze kroki na drodze swej stawiał, o podziale na odrębne kierunki, o ugrupowaniu partyjnem nie mogło być mowy. Lecz oto czterdzieści lat minęło od tych czasów, i dzisiaj ruch ten, chociaż rozbity na wrogie wzajem obozy, choć szarpany przez waśnie i walki wewnętrzne, stał się siłą tak poważną, że w jasną przyszłość narodu litewskiego nikt wątpić nie może.

Podobnie rzecz się ma z ruchem odrodzeniowym białorusinów. Niemal do chwili ostatniej płynął on jednym łożyskiem, mając na swym sztandarze wypisane niezniszczalne hasło humanizmu: wolność, równość i braterstwo. Ruch wyzwoleńczy, o zabarwieniu ludowym, pozbawiony cech szowinizmu narodowego a jednoczący na gruncie wspólnej pracy twórczej ludność katolicką i prawosławną,— temi słowy możemy określić istotę odrodzenia białorusinów. Lecz obecnie obok kierunku pierwotnego wyłania się coś nowego: powstanie pisma katolickiego p. t. „Biełarus", drukowanego latynką, świadczy dobitnie, że i u białorusinów nastąpiło zróżniczkowanie.

Fakt ten znamionuje niewątpliwe wzmożenie się ruchu białoruskiego— chociażby ze względów, na wstępie przez nas przytoczonych. Zapoznawanie go, odwracanie odeń oczu jest błędem nie do darowania, tem bardziej, że klerykalizm białoruski—jak dali tego przykład litwini—wcześniej czy później łatwo sojusz z nacjonalizmem zawrzeć może.

To też dzisiaj sprawa uregulowania stosunku naszego do białorusinów staje się bardziej naglącą, niż kiedykolwiek. Powinniśmy dołożyć wszelkich starań ze swej strony, by groźbę ewentualnych walk narodowych zażegnać w porę. Powinniśmy odrzucić wszelkie uprzedzenia, wszelkie rachuby podejrzanej wartości i czem rychlej przystąpić do wytworzenia zgodnego z ludem białoruskim pożycia. A jeśli pomimo wszystko nastąpi w przyszłości walka, wówczas nie będziemy mieli nic sobie do wyrzucenia.

Czas nagli. Każdy dzień stracony robi zadanie trudniejszym. Co z łatwością daje się osiągnąć dzisiaj, to jutro może się stać niezniszczalnym. Szczery demokratyzm białoruskiego ruchu w dobie obecnej, jego lojalność wobec współobywateli innych narodowości—oto gwarancja, że podjęta z naszej strony praca znajdzie oddźwięk żywy u białorusinów.

Henryk Bukowiecki.

*Фрагмент першай старонкі «Кур'ера Краёвага» (1913, Nr 12) з артыкулам А. Луцкевіча «Час патрабуе»*

Згода з беларусамі тлумачылася інтарэсамі барацьбы супраць велікарускага шавінізму[43] і адсутнасцю выразных перспектываў далейшага развіцця польскага руху ў Беларуска-Літоўскім краі[44].

Якраз у вызначэнні адносінаў польскай супольнасці да беларускага Адраджэння можна заўважыць найбольш істотны момант «беларускага ўхілу» краёвасці Антона Луцкевіча ды іншых дзеячаў «нашаніўскага кола». У асобных публікацыях «Нашай Нівы»[45], у шэрагу артыкулаў «Кур'ера Краёвага»[46], у польска-беларуска-літоўскіх дыскусіях лістапада 1913 г., што тычыліся пытанняў наконт будучыні польскамоўнай газеты, праяўлялася беларуская пазіцыя, якая не адпавядала разуменню краёвасці ні Міхалам Ромэрам, ні «Пшэглёндам Віленьскім».

Апошняе выданне досыць дакладна вызначыла сутнасць беларускага (і літоўскага) разумення краёвасці. Л. Абрамовіч і ягоныя аднадумцы лічылі, што пазіцыя беларусаў (і літоўцаў) грунтавалася на адсутнасці веры ў магчымасць захавання польскасці ў Беларуска-Літоўскім краі. Да гэтага дадавалася перакананне, што мясцовыя палякі – гэта нашчадкі калісьці спаланізаваных літоўцаў і беларусаў. Адпаведна нараджаліся прапановы і нават патрабаванні, каб польская супольнасць працавала дзеля развіцця свядомасці беларусаў і літоўцаў.

«Пшэглёнд» катэгарычна адвяргаў падобныя заявы. Ён, як ужо адзначалася, абвінавачваў «Кур’ер Краёвы» ў *«пабочных уплывах»*[47]. Аднак цалкам раскрываць таямніцу выдання палякі не сталі. Усё ж такі краёўцаў-дэмакратаў Вільні і Віленшчыны яднала сумесная барацьба супраць расейскай палітыкі уніфікацыі і русіфікацыі Краю.

«Беларускі ўхіл» таксама адчувальны ў асобных артыкулах «Вечерней газеты». Напрыклад: *«Дело культуры, дело прогресса настолько важное, что его должен поддерживать каждый гражданин края. Тут нет места для пресловутого национального эгоизма: кто может, тот должен содействовать культурным усилиям своих более слабых соседей, с которыми его связал ход исторических событий»*[48].

Падобныя заявы прыводзяць да думкі, што беларусы «нашаніўскага кола» і, у першую чаргу, А. Луцкевіч разумелі краёвасць як талерантнае сужыццё розных народаў Краю. Яны імкнуліся забяспечыць за ўласнай нацыяй лепшыя ўмовы ў гэтым сужыцці. Гэта набліжала іх пазіцыю да пазіцыі групы «Пшэглёнда Віленьскага». Аднак гэтае падабенства непазбежна рабіла іх апанентамі.

Міхал Ромэр характарызаваў беларускія і літоўскія «прэтэнзіі» ў Дзённіку і на старонках «Кур»ера» як праявы шавінізму[49]. Але пры гэтым галоўны ідэолаг дэмакратычнага варыянту краёвасці быў упэўнены, што А. Луцкевіч і ягоныя сябры ўрэшце зразумеюць польскую пазіцыю і пагодзяцца з тым, што палякі Беларусі і Літвы маюць поўнае права на развіццё ўласнай культуры, а таксама на ўдзел у вызначэнні будучыні Краю[50].

Як паказалі лістападаўскія дыскусіі пра лёс «Кур’ера», спадзяванні Міхала Ромэра былі дастаткова абгрунтаванымі. Відавочна, што «нашаніўскае» беларускае кола ў гэты час спадзявалася на пазітыўныя вынікі супрацоўніцтва з польскімі краёўцамі-дэмакратамі. Дзеля згоды А. Луцкевіч быў гатовы пайсці на пэўныя ўступкі. Магчыма, ён разлічваў, што пазіцыя М. Ромэра будзе пашырацца сярод польскай супольнасці. Палітык быў пэўны, што гэта прынясе вялікую карысць як беларускаму руху, так і ўсяму Краю.

Але надзеі не спраўдзіліся. І на пачатку 1915 г. Антон Луцкевіч на старонках «Нашай Нівы» выступіў з вельмі рэзкай крытыкай «нашых» палякаў: *«Нашыя» палякі-інтэлігенты кажуць, што яны маюць поўна работы «для сваіх» – для «польскага сялянства і пралетарыяту» на нашай зямлі. Але ж польскага «дэмаса» на смех малая жменя. А поруч з гэтай*

*жменяй мільёны цёмных і галодных беларускіх сялян, каторыя блізка не маюць йшчэ сваёй інтэлігенцыі, для каторых німа каму працаваць [...] Працаваць для тых мільёнаў – гэта для нашых палякаў грэх і здрада, хоць колькі ж між імі сыноў таго ж беларускага народу! [...] Яны не разумеюць, што прайшоў час панавання над намі і трэба цяпер адслужыць нашай старонцы, трэба не толькі называцца, але і быць грамадзянамі, трэба карміць галоднага і асвяшчаць цёмнага селяніна не толькі за тым, што ён «свой», што ён пераробіцца на паляка, але затым, што гэта сьвятая павіннасць. А раз гэта павіннасць, а не ласка, дык і вучыць беларусаў трэба не так, як хоча вучыцель, а так як гаворыць народ, каторы захаваўшы сваю мову праз соткі гадоў, праявіў ясна сваё жаданне заставацца беларусам»*[51].

Зразумела, што гэтая крытыка не датычыла Міхала Ромэра і прыхільнікаў ягонай краёвай пазіцыі. Ужо праз нумар Антон Луцкевіч у іншым артыкуле адзначыў, што *«поруч з «прыгоншчыкамі» ў нашай старонцы ёсць людзі, каторыя баронячы сваю польскую культуру, не забываюць, што яны тутэйшыя грамадзяне, што і на іх ляжыць павіннасць памагаць галодным, асвяшчаць цёмных людзей, нягледзячы, якой яны нацыі і веры. [...] Мы верым, што сілы польскай дэмакратыі ўзрастуць, калі над зямлёй Беларусі засвеціцца зорка лепшай будучыны. А шчыры дэмакратызм створыць той залаты мост, каторы з'еднае ўрэшце народы нашага краю ў адну вялікую згодную сям'ю і каторы польскія нацыяналісты цяпер не даюць збудаваць»*[52].

Відавочна, што «краёвая дзейнасць» Антона Луцкевіча, як і некаторых іншых сяброў «нашаніўскага асяродку» ў вялікай ступені была інспіраваная Міхалам Ромэрам і ягонымі ідэямі. Адносіны паміж М. Ромэрам і А. Луцкевічам, нягледзячы на перыядычную прысутнасць у іх дыскусій і палемікі, мелі характар глыбокай узаемнай павагі. Між іншым пра гэта сведчыць ліст М. Ромэра ад 12 сакавіка 1917 г., адрасаваны Антону Луцкевічу[53]:

*«Каханы Антон!*

*Даўно збіраўся напісаць Табе, але перашкаджала адсутнасць вольнага часу і маса карэспандэнцыі, на якую трэба было адказаць. Нарэшце, раблю гэта цяпер.*

*Падчас майго побыту ў Вільні (М. Ромэр наведаў Вільню ў другой палове снежня 1916 г. – А. С.), на жаль, мы бачыліся мала. Фактычна, толькі адзін вечар мы правялі за размовай, хоць і там я больш інфармаваў Вас пра тое, што робіцца ў Варшаве, чым абмяркоўваў з Вамі краёвыя стасункі ў Літве.*

*Усім сэрцам імкнуўся да яшчэ адной размовы з беларускай групай адносна справаў Літвы. Аднак у выніку непаразумення нічога не атрымалася. Аказалася, што беларуская група двойчы збіралася дзеля сустрэчы са мной, пра што я, аднак, з сапраўдным шкадаваннем даведаўся пазней. Яно толькі ўзмацнялася апасеннем, што беларусы, прынамсі некаторыя з іх, што мяне менш ведаюць, будуць абвінавачваць мяне ў ігнараванні іх. Павер мне, што быў вельмі далёкі ад гэтага, бо ведаю, што хоць беларусы ўсё яшчэ слабыя як дзейсны рух у краі, аднак іх патэнцыял нельга недаацэньваць. Зрэшты, абапіраючыся на ўласныя дэмакратычныя ідэалы, я ніколі не ігнараваў народны беларускі рух, а наадварот маю да яго сардэчную сімпатыю і павагу за нацыянальныя намаганні. У абодвух выпадках я не зразумеў, што тэрміны беларускіх сходаў ужо былі прызначаныя. Магчыма, мая віна ў тым, што не зарыентаваўся ў гэтым у навале розных сходаў і справаў.*

*Я выехаў з Вільні з прыкрым уражаннем. Яно не датычыць пазіцыі людзей, бо мне нават спадабалася высокая ступень антымаскалофільства думаючай Вільні. Прыкрасць звязаная з палітычнымі перспектывамі Літвы.*

*Ты ведаеш, што я раней і цяпер прытрымліваюся меркавання, што ў сучасны гістарычны момант у тым міжнародным замяшанні, якое выклікала сусветная катастрофа, дзяржаўная справа Літвы мела б лепшыя шансы ў кантакце з узнікаючай Польскай дзяржавай.*

*У адносінах Польшчы да Літвы з гісторыі ведаем два розныя падыходы, два розныя палітычныя накірункі. Тыя ж самыя два падыходы як альтэрнатыўныя існуюць і сёння ў Польшчы ў адносінах да Літвы. Адзін падыход – палітыка нацыяналізму, палітыка супрацьстаяння інтарэсаў, палітыка этнаграфічнай Польшчы і пашырэння стану нацыянальнага валодання. У мінулым гэта была палітыка князёў Мазавецкіх адносна літоўскіх плямёнаў (вынішчэнне яцвягаў, каланізацыя іх земляў разам з русінамі, прыцягненне крыжакоў дзеля барацьбы з прусамі). Іншы падыход быў характэрны для палітыкі салідарнасці, палітыкі вольных саюзаў роўных партнёраў, палітыкі вялікай свабоднай Рэчы Паспалітай, што грунтавалася на федэрацыйных ідэях. Гэта была палітыка магнатаў малапольскіх, палітыка, якую назвалі «ідэяй ягелонскай».*

*Дылема двух падыходаў актуальная і для сённяшняй Польшчы: або імкненне да свабоднага дзяржаўнага саюза з усёй (усёй, прынамсі, у рамках фактычнага адарвання ад Расеі) Літвой, або імкненне адарваць нейкую частку Літвы і далучыць яе да Польшчы ў надзеі, што атрымаецца яе*

*ізаляваць, а таксама адсутнасць інтарэсу да іншай часткі Літвы. Для гэтага падыходу не істотна нават тое, што захад Літвы (этнаграфічная Літва і Курляндыя) можа быць захоплены Нямеччынай, усход (праваслаўная Беларусь) – Расеяй, а балтыйскі клін германізму прасунецца далей на ўсход і на поўнач аж да Дзвіны.*

*Ад самой Літвы, паверце мне, залежыць, які выбар будзе зроблены Польшчай. Калі б уся Літва імкнулася да дзяржаўнасці і ясна выказвала сваю волю, перспектывы выглядалі б няблага. Але гэтай моцнай волі ў краі няма. У гэтым перашкаджаюць велікапольскія амбіцыі некаторых грамадзянаў Літвы, занадта нізкая актыўнасць краёвых польскіх элементаў, пэўная адсутнасць рэалізму ў літоўцаў, слабасць беларусаў. У такіх умовах лёс Літвы залежыць ад выпадку і чужой волі. Разуменне гэтага для мяне было адным з самых цяжкіх перажыванняў. Я мог бы цяпер кінуць войска і вярнуцца ў Літву, але вяртацца толькі дзеля таго, каб быць сведкам гульні выпадку і мець свядомасць, што нічога не магу змяніць, было б занадта цяжкім для мяне. Такім чынам, застаюся ў легіёнах.*

*Калі да Цябе дойдзе гэты ліст, напішы мне.*

*Сардэчна абдымаю.*

*Прывітанне Табе і ўсім Вам.*

*Твой Міхал Ромэр (псеўданім М. Жэвускі)*

Фактычна, гэты ліст быў адрасаваны ўсёй «беларускай групе». Відаць, менавіта таму М. Ромэр у ім звяртаецца не толькі да Антона Луцкевіча, а таксама да ўсёй «нашаніўскай супольнасці». Гэты дакумент таксама сведчыць пра важнасць «беларускага чынніка» для рэалізацыі краёвай ідэі і ўсведамленне гэтага вядучымі палітыкамі Краю.

У заключэнні хацелася б яшчэ раз звярнуць увагу на матывы, якія падштурхнулі Антона Луцкевіча да рэалізацыі незвычайнага беларускага выдавецкага праекта. У 1912–1915 гг. Антон Луцкевіч падзяляў асноўныя прынцыпы краёвай ідэалогіі ў яе дэмакратычным варыянце. Пашырэнне краёвасці сярод мясцовых рускай і польскай супольнасцяў, якія ў большасці складаліся з нашчадкаў калісьці спаланізаваных ці зрусіфікаваных беларусаў і літоўцаў ён лічыў карысным як для ўсяго Краю, так і для беларускага Адраджэння. Але паўставала пытанне, як прапагандаваць краёвую ідэалогію? Выкарыстаць «Нашу Ніву» і пашыраць краёвасць ад імя беларусаў? Але перад «Нашай Нівай» стаялі зусім іншыя задачы. Да таго ж, беларускамоўная прапаганда наўрад ці магла зрабіць

сур’ёзны ўплыў на рускую і польскую супольнасці Беларусі і Літвы. І зусім па-іншаму яна ўспрымалася рускімі і палякамі, калі гучала на іх мовах.

«Вечерняя газета» і «Кур’ер Краёвы» змяшчалі вялікую колькасць матэрыялаў пра беларускае Адраджэнне. Тое, што яны друкаваліся на польскай і рускай мовах стварала магчымасць данесці праўду пра беларускі рух непасрэдна да польскага і рускага чытача. Гэта ўмацоўвала пазіцыі беларускага руху, пашырала кола ягоных прыхільнікаў або прынамсі прывучала польскую і рускую супольнасці да думкі пра непазбежнасць і заканамернасць беларускага Адраджэння.

Антон Луцкевіч, магчыма, разлічваў і на тое, каб з дапамогай польскамоўнага і рускамоўнага выданняў вярнуць у рэчышча беларускага руху хаця б частку, страчанай калісьці беларускай эліты. Дарэчы, М. Ромэр сцвярджаў у Дзённіку, што *«вяртанне зрусіфікаваных элементаў да роднага беларускага асяроддзя і ўключэнне іх у беларускі рух»* з’яўлялася галоўнай задачай «Вечерней газеты»[54]. Цалкам магчыма, што падобная задача, хаця і ў іншай ступені стаяла і перад «Кур’ерам Краёвым».

Істотнае месца ў прапагандзе краёвасці займала барацьба супраць шавінізму. У адным з артыкулаў на старонках «Нашай Нівы» Антон Луцкевіч заклікаў усе народы Беларусі і Літвы падаць сабе рукі і супольнымі сіламі бараніцца ад гэтай хваробы, каб *«зніштожыць сяўбу ненавісьці і злосьці»*. А далей адзначаў: *«Вось бачым добрую жменю расійскіх, польскіх і літоўскіх газет, каторыя – каждая ў сваім народзі – змагаюцца з чарнасоценствам. У Вільні выходзіць «Вечерняя газета», «Кур’ер Краёвы», «Lietuvos Ukininkas», «Vilniaus Żinios», і ўсе яны поруч з «Нашай Нівай» ідуць да аднэй мэты: стараюцца развіваць «просты» народ, каб урэшці сам ён узяў свае справы ў свае рукі і з пагардай адвярнуўся ад тых, хто хоча выкарыстаць яго цемнату дзеля пашырэння націоналізма»*[55].

Выдавецкі праект Антона Луцкевіча спрыяў дэмакратызацыі рускай і польскай супольнасцяў Краю. Дарэчы, калі ўлічваць актыўную ролю «нашаніўскага кола» ў арганізацыі і дзейнасці віленскага асветніцкага таварыства «Вестник знания», то можна прыйсці да высновы, што з беларусаў складалася амаль уся «руская дэмакратыя» Краю. Пра польскую дэмакратыю гэтага не скажаш, але і тут дзейнасць беларусаў адыгрывала значную ролю.

Ці мела гэтая выдавецкая дзейнасць якія-небудзь негатыўныя вынікі для беларускага руху? Наўрад ці. Праўда, рускія і польскія шавіністычныя выданні атрымалі дадатковыя «доказы» таго, што беларускі рух – гэта

толькі польская або руская «інтрыга», накіраваная супраць рускай або, адпаведна, супраць польскай супольнасці. Але падобныя заявы мелі месца і раней.

Таксама варта адзначыць сувязь беларускага выдавецкага праекту з традыцыямі культурнай і рэлігійнай талеранцыі і ўнікальнай атмасферай шматнацыянальнага Краю і асабліва Вільні і Віленшчыны. Гэтая атмасфера нараджала людзей, якія адчувалі сябе адначасова палякам і літоўцам (Міхал Ромэр, Канстанцыя Скірмунт, Данатас Маліноўскас ды інш.), палякам і беларусам (Раман Скірмунт, Вітаўт Чыж[56] ды інш.), рускім, беларусам і ўкраінцам (Іван Краскоўскі[57]). Гэта была атмасфера пэўнага нацыянальнага карнавалу, дзе адсутнічалі выразныя нацыянальныя межы, дзе ў залежнасці ад жыццёвых абставінаў маска станавілася тварам і наадварот.

Той жа беларус Антон Луцкевіч на старонках «Вечерней газеты» станавіўся рускім, а на старонках «Кур'ера Краёвага» – палякам. Магчыма, мы сутыкаемся з пэўнай заканамернасцю беларускай гісторыі. Яна вельмі багатая персанажамі, якія выступалі ў двух або нават у трох іпастасях і адначасова належалі беларускай, польскай, літоўскай і расейскай гісторыі. Можа гэта была праява таго самага «вольнага беларускага духа», што шукаў ўласныя шляхі? Пра яго пісаў яшчэ Ігнат Канчэўскі ў сваіх «Дасьледзінах беларускага сьветапогляду». Беларусь нараджала такіх людзей таму, што была зямлёй, дзе зліваліся розныя этнічныя, нацыянальныя, культурныя і рэлігійныя плыні. Кожная з іх знаходзіла прытулак у «беларускім доме».

Калі мы пагодзімся з тым, што гэты нацыянальна-культурны карнавал мае свае глыбінныя гістарычныя падставы, нам будзе лягчэй зразумець асобы Тадэвуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага, Аляксандра Ельскага, Рамана Скірмунта, Эдварда Вайніловіча ды інш. Дык можа краёвасць, якую адстойвалі М. Ромэр, Р. Скірмунт і іх паплечнікі, не з'яўлялася толькі праявай рамантычных спадзяванняў гэтых людзей, а ўяўляла сабой адну з падставаў беларускай гісторыі?

Што ж датычыць даследавання выдавецкай дзейнасці Антона Луцкевіча і ўсяго «нашаніўскага» беларускага кола, то яно павінна працягвацца. Застаюцца шматлікія пытанні. Напрыклад, якую ролю адыгралі ў гэтай выдавецкай дзейнасці віленскія масонскія ложы, якія ў 1910–1915 гг. аб'ядноўвалі значную частку ліберальна-дэмакратычных сіл Вільні і Віленшчыны[58]. Варта задумацца і над тым, чаму з двух выданняў большы

поспех выпаў на долю «Вечерней газеты»? Ці можна лічыць гэта адлюстраваннем пэўных тэндэнцый, якія мелі месца сярод рускай супольнасці Краю, ці гэты поспех быў толькі вынікам публіцыстычнай дзейнасці А. Луцкевіча? Чаму дэмакратызм «Вечерней газеты» і «Кур'ера Краёвага» не выходзіў па-за межы ліберальна-дэмакратычнай ідэалогіі? Ці можна ставіць праблему сувязяў паміж «групай» Антона Луцкевіча і Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыяй?

Застаецца пытанне і пра тое, чым была краёвасць у беларускай гісторыі пачатку ХХ ст.? Прагматычным разлікам прадстаўнікоў тых нацыянальных рухаў, якія адчувалі ўласную слабасць? Пострамантычнымі ілюзіямі групоўкі палітыкаў, далёкіх ад тагачаснай рэчаіснасці Беларусі і Літвы? Ці паўсвядомай праявай глыбінных падставаў беларускай гісторыі? Гэтыя і іншыя пытанні яшчэ чакаюць даследчыкаў.

ДАДАТКІ

## *Выбраныя публікацыі Антона Луцкевіча на старонках «Вечерней газеты», «Кур'ера краёвага» і «Нашай нівы» (1912–1914)*

**б/п [Антон Луцкевіч?]. Национальные течения и демократия** (Вечерняя газета. 1914, № 468).

Во всех столкновениях на национальной почве – например, между поляками и литовцами и др. – серьезная роль принадлежит той массе народной, которая менее всего сознает свою национальную принадлежность. Эта аморфная в национальном отношении масса легко может быть использована в корыстных целях каждой из борющихся сторон: все зависит от средств воздействия, имеющихся в их распоряжении.

Когда польским националистам нужно придать больше весу своим выступлениям, они заявляют, что говорят от имени «польских масс», т. е. аморфной массы, которую литовцы и белорусы признают своей. Некоторые периодические издания не постеснялись даже признать учиненный в костеле св. Иоанна фанатизированной толпой скандал «сознательным выступлением польской демократии». Точно также литовские националисты – наиболее крайние – склонны утверждать, что в Литве совершенно

нет польских народных элементов, даже в городских центрах, где об этом, собственно, спорить не приходится.

Подобную картину являют и русско-белорусские отношения, равно как польско-белорусские. Недостаточно сознающую свою национальную обособленность белорусскую массу представители русского и польского национализма считают «своей»: русские – православную часть, поляки – католическую. И обе народности, считающия себя призванными господствовать в Белоруссии, во всех случаях, где требуется поддержка массы, говорят опять-таки от имени безсознательных белорусов.

Спор из-за этой аморфной массы и является главным основанием для национальных трений и национальной борьбы в нашем крае. И потому невольно приходится искать разрешения спорных вопросов на почве выяснения физиономии «этнографического материала» – народа.

Национальныя движения – литовское и белорусское – до известной степени разрешают их, но лишь постольку, поскольку от самозащиты и восстановления своих естественных прав возрождающияся народности не переходят к политике захвата, характерной для националистических групп. И наших больных вопросов не разрешат ни русские, ни белорусские, ни польские, ни литовские националисты: вся надежда на те демократические элементы, которые в среде возрождающихся крестьянских народностей обычно – да и в нашем крае – играют руководящую роль.

Просмотрите хотя-бы ряд номеров русских, польских, литовских и белорусских демократических изданий, и вы везде увидите горячее стремление к созданию мирного *modus'a vivendi*, к достижению условий, при которых за каждой народностью было бы признано право на самоопределение, при которых право это могло бы осуществляться в действительности. Везде горячо приветствуется пробуждение национального самосознания в этом «этнографическом материале», из которого сейчас каждый делает, что угодно, стараясь использовать его для своих политических целей. Стремлениям националистов к захвату демократия противопоставляет национальную свободу, вполне справедливо считая, что только путем сознательного размежевания народностей возможно мирное сотрудничество их на пользу края.

Процесс индивидуализации народностей захватывает всю Западную Европу, захватил и Россию, и наш край, в частности. Этот процесс сейчас заметен и среди еврейского населения в Польше (особенно в связи с бой-

котом) и у нас. Но если в Польше действует причина случайнаго характера, то у нас этот процесс вызван теми ненормальными отношениями, какие установились между принявшим русскую культуру и язык еврейством и другими национальностями края.

Течение, имеющее конечной целью эмансипацию еврейской народности, выходит не из больших центров, где для него почти нет места, а из местечек и уездов, где еврейский элемент находится в непосредственном общении с народной массой другой национальности. Оттуда идет инициатива создания соответственной прессы, а издающийся в Вильне на разговорном еврейском языке журнал «Ди Идише Вэлт» за последнее время стал уделять много места вопросу о взаимоотношениях еврейской демократии и демократии других народностей, указывая, что именно индивидуализация евреев может создать почву для установления мирного *modus'a vivendi*.

Мы, понятно, вполне сознаем, что при развитии каждой национальности в ней совершается процесс дифференциации, что возникают националистические течения, враждебныя идеалам краевой демократии. Но тем серьезнее задача демократических элементов всех местных народностей, связанных общей территорией и общими интересами: задача эта – борьба с проявлениями национализма в своей национальной среде и объединение всей краевой демократии.

**б/п [Антон Луцкевіч?]. Новый мотив**
(Вечерняя газета. 1914, № 504)

Как мы уже сообщали, синодом решен в утвердительном смысле вопрос об учреждении Духовной академии в Вильне. Это решение – по словам газет – основано на докладе профессора Жуковича, который считает необходимым открыть Духовную академию в г. Вильне не только с православной точки зрения, но и с национально-государственной, так как в этом крае существует политическая опасность в виде <u>все возрастающего «белорусского сепаратизма»</u>.

Итак, обрусительная политика в нашем крае оставила старый мотив подавления местных особенностей и национального индивидуализма населения: теперь уже для оправдания той или иной меры вместо ссылок на «польскую опасность» говорят о «белорусском сепаратизме».

Для национального возрождения белорусов это, может быть, предупреждение: раз – помимо всех нелепых бредней Солоневичей и прочих «окраинных деятелей» того же сорта – наличность «белорусской опасности» признана синодом, значит эту наличность признаёт и правительство. Если так, то можем только отметить несомненную связь между запрещением торжественного юбилея Тараса Шевченки и этим новым мотивом синода: ясно, что раз став на путь подавления «внутренних славян», правительство будет вести свою линию до логического конца. К чему оно прийдет – это другой вопрос.

Надо полагать, что в отношении национальной политики возвращаются времена Столыпина, времена, когда на славянском съезде в Праге белоруссы и украинцы по соглашению между русскими и польскими националистами, были вычеркнуты из числа славянских народностей. Последние выступления правительства против вымышленного белорусского и украинского «сепаратизма» совпадают как раз с усилением антибелорусского течения в местном польском обществе, обнимающего не только националистов чистой воды («народовых демократов»), но и национал-либералов, прикрывающих свой национализм сомнительной прогрессивностью: не даром орган последних «Przegl. Wil.» в последнем номере заявил, что он не считает возможным не только входить в какие-либо соглашения с руководящими группами белорусского движения, но даже и разговаривать с ними…

Война белорусским возрожденцам объявлена, таким образом, сразу с двух сторон.

Мы не будем искать каких-либо намеков на сознательную согласованность действий русских и польских националистов. Нет, это был бы совершенно бесцельный труд. О соглашении едва ли можно говорить. Но, если отбросим возможность соглашения, то придется признать, что на поведение тех и других влияет одна и та же объективная причина.

Такая причина – рост не «сепаратизма» белорусского, как официально заявляет синод, и не вражда к польскому народу, как пишут «Kur. Lit.» и родственный ему «Przegl. Wil.», а рост самого белорусского движения, рост национального самосознания в белорусской массе.

Отсюда ясно, что возрождение белоруссов – это вполне серьезное явление, с которым нельзя не считаться.

Процесс возрождения пошел слишком быстро вперед, чтобы можно было его игнорировать. Но отсюда-же ясно, что жизненные силы белорус-

ского народа достаточно значительны, чтобы привести его к намеченной цели. И потому объявление войны белоруссам сейчас уже является абсурдом: их уничтожить, стереть с лица земли – нельзя.

Вот почему демократические элементы как русские, так и польские относятся отрицательно к политике подавления белорусского движения, независимо от того, исходит ли эта политика из русскаго или из польскаго лагеря. Вот почему – в противовес националистам – демократия в основу своей политики ставит мирное сожительство и сотрудничество всех местных народностей, как равных с равными.

**а-н-а. [А.Луцкевіч]. Край і народ**
(Наша Ніва. 1912, № 28-29)

Кожын чэлавек працуе дзеля таго, каб жыць. Жаданьне паддзержаць сваё жыцьцё – гэта агульная мэта. Так вядзецца ад найдаўнейшых часоў, і мэта працы людзей астаецца тая самая. Змяняецца толькі спосаб і форма яе.

Тысячы гадоў таму назад людзі жылі, бытцым зьверы, па лясох і карміліся мясам тых зьвероў, каторых самі забівалі. Жылі яны ўсе паасобку, або сваей невялічкай сямьёй, бо іх дзеці, як падрасталі, ішлі далей сваей дарогай, пакідаючы бацькоў. Тады кожын глядзеў на другога, як на ворага: адзін у аднаго адбіваў пажыву. Цяжкіе то былі часы: апрача сіл прыроды, с каторымі чэлавек ня ўмеў змагацца, апрача дзікіх зьвяроў, што яго лёгка маглі зніштожыць, усюды прыходзілася перэмагаць ешчэ і сваіх жэ братоў-людзей за кусок мяса, за яду.

Мала-па-малу людзі перэхадзілі да працы на ральлі. Тут семья не разбегалася па лясох за пажывай, каторай раней кожын шукаў толькі для сябе: тут была ўжо патрэбна супольная праца многіх рук, і семья пачала разрастацца. Гэтак складаўся род, а пазьней і цэльнае племя. Ведама, і тады кожын думаў перш-на-перш аб сабе і сваей карысьці, але ўжо людзі зразумелі, што, працуючы разам, кожын больш лягчэй прыдбае пажывы, чым працуючы асобне, дый ад дзікіх зьвероў ад ворагоў будзе зашчыта. Чэлавек, працуючы для сябе, працаваў ужо крыху і для іншых. Быў заведзен раздзел працы: каму што было пад сілу, хто да чаго быў складней, той і рабіў тое: хто зямлю выррабляў, хто на палеваньне хадзіў, хто хатніе работы рабіў, ці жывёлу дагледаў.

Разрасталіся роды, плямёны; паяўляліся гасударствы. І ўсюды, куды не глянь, бачым адно: ўсё болей і болей развіваецца супольнае, грамадзянскае жыцьцё і праца ўсяго племені, усяго народу вядзецца дзеля карысьці ўсіх разам і кожнаго паасобку. Грамадзянская праца дзеля агульнай карысці пераходзіць і за граніцы аднаго гасударства: яна агортывае ўвесь сьвет. І наш селянін, сеючы жыта, што пасьля паедзе ажно у Англію, так сама памагае англічанам, як англічане, выдумываючы і робячы розные машіны і прылады, прыносяць карысць нам.

Чым вышэйша культура населеньня, тым лепей яно разумее, што багацьце, напрыклад, купецкаго стану можэ узрастаць толькі тады, калі багацее і развіваецца ўвесь край, калі селяне больш дабра маюць на прадажу і больш тавароў купляюць; гэтак сама для вёскі мае вялікую вагу развіцьце таргоўлі, бо тады за ўсё, што родзіць зямелька, можна і лепшую цэну дастаць, і прадаць лягчэй, дый танней абходзіцца тое, што да гаспадаркі патрэбна. Адным словам, чым барджэй развіваецца экономічнае жыцьцё старонкі, тым лепей жыць кожнаму стану.

Хто ўсё гэта уцяміў, той зразумее, што працуючы дзеля паднясьця роднаго краю, ён прыдбае карысць і для сябе, усё роўна, ці то будзе купец, ці селянін-хлебароб, ці фабрыкант, або памешчык. Падыймаць экономічнае жыцьцё сваей старонкі, развіваць яе творчэскіе сілы і культуру – вось задача, дзеля каторай могуць працаваць усе жыцелі, ня гледзячы на іх палажэньне у грамадзянстве, заняцьце, стан, заможнасць: будучына звязана з будучынай таго краю, дзе ён жыве.

Праўда, кожын знае, што ўсе станы вядуць заўсягды між сабой экономічную вайну: селянін і рабочы дабіваюцца вялікшай платы за сваю працу, карацейшаго рабочаго дня; фабрыкант і памешчык бачуць сваю карысць у тым, каб плату урэзаць, а лік гадзін працы павялічыць. Гэтак сама карысць гандляра вымагае, каб даражэй прадаць свой тавар, а купіць яго танна; сельскі гаспадар, наадварот, хацеў-бы таму гаспадару сваё дабро прадаць дорага, а за яго тавар аддаць менш грошы. І ўсё-ж такі для ўсіх будзе карысна, калі іх агульнае экономічнае жыццё будзе шпарка развівацца, а не стаяць на мейсцы, калі ўвесь край будзе багацець.

Багата ёсць прычын, каторые спыняюць развіцьцё экономічнаго жыцьця кожнай старонкі. Між імі бачым такіе прычыны, як суровасць клімату, неўраджайнасць зямлі, балоты, або недахват вільгаці, камяністыя горы і іншыя прыродныя варункі. І ўсё-ж такі розум людзкі і праца здалелі іх шмат перэмяніць: балоты асушаюць, дзе суха – ваду праводзяць і т. д.

Калі з гэткімі прычынамі чэлавек спраўляецца, дык німа споркі, што можна справіцца і з такімі прычынамі, каторые крыюцца ў самых людзях, у грамадзянстве. Проці цемнаты, проці санлівасьці і ленасці ваеваць можэ кожын, пашыраючы прасьвету, развіваючы экономічную самапомач, заводзячы уселякіе грамадзкіе організаціі і ўстройствы.

Развіцьцё экономічнаго жыцьця і прасьветы – гэта дзьве дарогі, па каторых кожын народ, кожын край ідзе да культуры.

Але і развіцьце культуры спатыкае часта шмат перашкод. Багата людзей і дагэтуль не разумее, ці ня хочэ разумець, што развіваць культуру і выяўляць свае творчэскіе сілы кожная нація можэ тады, калі ей дадзена на гэта поўная воля. Поўная свабода культурна-національнаго развіцьця – гэта першы варунак для развіцця такога краю, дзе, як у Беларусі і Літве, жыве ажно пяць асобных нацый: беларусы, літвіны, расейцы, палякі, жыды; толькі тады будзе падыймацца агульная культура краю, калі кожная нація здалее развіваць у сябе ўсе творчэскіе сілы, развіваць сваю національную культуру. Ізноў жэ пры развіцьці краёвай культуры хутчэй ідзе развіцьце культуры у кожнай націі.

З усяго, што мы тутака сказалі, выходзіць вось што. Эканамічнае і культурнае развіцьце краю заўсягды дае аграмадную карысць як людзям розных станоў і прафэсій, так і цэлым націям. Значыць, кожын, хто працуе для свайго краю, прыносіць карысць усім яго жыхаром бяз розніцы заняцьця і палажэньня ў грамадзянстве, стану, націі. Такую працу могуць вясьці ўсе грамадзяне нашай зямля Беларускай: гэта іх супольная задача, каторая павінна быць праводнай зоркай для ўсіх, хто сваю будучыну і сваю долю злучае з будучынай нашаго краю.

**Веслаў Каліноўскі. [Антон Луцкевіч]. Выбар шляху**
(Кур'ер Краёвы. 1913, Nr 258).

Дзве дарогі, два прынцыпова розныя накірункі перад намі. Абуджаць народ ад спячкі і інертнасці, выкрасаць з яго іскру творчасці, вучыць уздымаць голас у сваю абарону і ўздымаць душу да вялікіх ідэалаў чалавецтва – гэта праца дэмакратаў, гэта адна з самых высакародных задачаў. Для развіцця Краю, для развіцця кожнай нацыянальнай групы недастаткова, каб скарбамі культуры карысталіся толькі пэўныя, г. зв. «вышэйшыя» колы, каб толькі яны ўспрымалі ўсе дасягненні нацыі і стваралі новыя культурныя каштоўнасці. Хаця інтэлігенцыя, гэты інтэлект, мозг нацыі,

увесь час атрымлівае падсілкаванне знізу, з народных сфер, сам народ усё ж застаецца пасіўным. Так дарэмна гіне вялізарны запас сіл, які таіцца ў сярмяжнай масе. Гэтыя сілы праяўляюцца выпадкова – у нешматлікіх індывідах, у выбранцах лёсу. У імя дабра народа і нацыі, у імя дабра ўсяго Краю, у імя прынцыпу справядлівасці трэба напружваць усе сілы, каб нерухомую глыбу – народ – ажывіць і прыцягнуць мільённую армію да творчай, стваральнай працы.

Але побач з гэтай працай мы бачым іншыя намаганні, намаганні сіл, якія імкнуцца назаўсёды захаваць за сабой прывілеяванае становішча, не разумеючы, што ігнараванне інтарэсаў народу раўназначна разбурэнню падмурка ў жыцці Краю. Такая пазіцыя рэакцыйная, эгаістычная і блізарукая. Яна варожая ўсялякаму прагрэсу і дэмакратыі.

Ужо з самога вызначэння дэмакратычнай дзейнасці выразна выцякае выснова, што, імкнучыся да як мага поўнага развіцця духоўных сіл народу, дэмакратыя павінна як найвышэйшае дабро ацэньваць скарбы нацыянальнай культуры, нацыянальную адметнасць. Адсюль ідзе патрабаванне дэмакратыі забяспечыць поўную свабоду культурнага развіцця кожнай народнасці, павага да яе адметнасці і асаблівых патрабаванняў.

Рэакцыя высоўвае лозунгі нацыяналізму, прапагандуе панаванне сваёй нацыі над іншымі. Яны разумеюць, што, пануючы сярод сваіх, забяспечаць панаванне над іншымі, атрымаюць для сябе істотную карысць. Адсутнасць павагі да правоў уласнага народа абарочваецца адсутнасцю яе для іншых народаў, калі яны слабейшыя. З мацнейшымі рэакцыянеры заўсёды шукаюць згоды. Яны гатовы стаць на калені, каб толькі захаваць уладу над уласным народам...

Такімі дарогамі ідзе сёння нашае Краёвае грамадства. Калі рэакцыянеры і нацыяналісты розных адценняў грунтуюць сваю дзейнасць на падзеле і распальванні варожасці сярод рознаплямённых народных слаёў, то дэмакратыя ўсіх нацыянальнасцяў жыве адзінай думкай – вызваленне народу. Іншага шляху ў яе няма.

Жыццё прымушае кожнага, хто адыгрывае актыўную ролю ў сваёй грамадскасці, зрабіць свой выбар: з народам ці супраць народу. Ад выбранай дарогі будзе залежыць развіццё нашага Краю.

Мы выбіраем першы кірунак – з народам. Гэты курс не азначае саюза толькі з дэмакратычнай часткай польскай грамадскасці. Інтарэсы і імкненні дэмакратычных сіл усіх нацый Краю настолькі ідэнтычны, што грамадска-палітычная ідэалогія краёвай дэмакратыі адзіная для ўсіх.

Удзел дэмакратычных элементаў розных нацыянальнасцяў ва ўсіх агульных справах – гэта аснова нацыянальнага жыцця кожнага народу. Свабодныя ад непатрэбнай і згубнай барацьбы з братнімі народамі, яны ўсю сваю ствaральную энергію накіроўваюць на развіццё ўласнай нацыянальнай культуры. А ў гэтай справе заўсёды можна разлічваць на сімпатыю і дапамогу нашых братоў-дэмакратаў іншых народаў. Народ, які не дабіўся нацыянальнай свабоды, не можа жыць поўным жыццём, таму патрабаваннем кожнага шчырага дэмакрата з'яўляецца ліквідацыя ўсіх форм гвалту. Пакуль будуць існаваць перашкоды, якія затрымліваюць або эканамічнае, або культурна-нацыянальнае развіццё хаця б адной з супольнасцяў нашага Краю, да таго часу дэмакратыя не спыніць сваіх намаганняў дзеля набліжэння лепшай будучыні нашай агульнай Айчыны.

---

1 Захоўваюцца ў Аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы: F 138.

2 «Вечерняя газета» – штодзённая газета на рускай мове. Выходзіла з 18.09 (1.10).1912 па 11 (24).06.1915 г. Назва № 1, 2 – «Вечерняя газета-копейка». Афіцыйны рэдактар-выдаўца – Ф. М. Хатэнка, пазней – Н. В. Спяранская.

3 «Кур'ер Краевы» – штодзённая газета на польскай мове. Выходзіла з 30.11 (12.12).1912 па 18.04 (1.05).1914 г. Афіцыйны рэдактар-выдаўца – Юліўш Сумарок, пазней – Алена Юрэвічава, Стэфан Піатровіч.

4 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. Дзённік М. Ромэра. F 138-2228. Т. 1, s. 130.

5 «Газета Віленьска» – штодзённая польская газета дэмакратычнага і краёвага накірунку. Выходзіла з 15 (28).02 па 25.07 (8.08).1906 г. Рэдактар-выдаўца – М. Ромэр, рэдактар – З. Пяткевич.

6 Ян Яленьскі – гэта псеўданім. Сапраўднае імя – Вітаўт Чыж. Крытык і публіцыст. У 1910–1911 гг. працаваў у рэдакцыі «Нашай Нівы».(Дзённік М. Ромэра. F 138-2229. Т. 2, s. 3. Запіс ад 19.08 (1.09).1911 г. Аўтар рэцэнзій, апавяданняў, артыкулаў па пытаннях беларускага музычнага жыцця, этнаграфічных даследаванняў. З 1911 г. таксама друкаваўся ў польскіх выданнях. У 1920-я гг. чыноўнік віленскай польскай адміністрацыі. У 1928 г. – віцэ-прэзідэнт Вільні.

7 «Пшэглёнд Віленьскі» – польскі штотыднёвік. Выходзіў з 15 (28).02.1911 па 29.08 (11.09).1915 г. Кіраўнік газеты Людвіг Абрамовіч. Рэдактар-выдаўца – Вітальд Абрамовіч, пазней – Е. Баеўскі, З. Астахевічава, С. Студніцка.

8 Дзённік М. Ромэра. F 138-2229. Т. 2, s. 82. Запіс ад 6 (19).11.1911 г.

9 Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ). Ф. 102, особый отдел, 1913, оп. 243, д. 157, л. 1.

[10] Сідарэвіч А. Антон Іванавіч Луцкевіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997, с. 402–403.
[11] Jurkiewicz J. Demokraci wileńscy w latach 1905–1914. Zarys dzialalności i myśli politycznej // Acta Baltico-Slavica, XV, 1983, s. 171.
[12] Сідарэвіч А. Антон Іванавіч Луцкевіч, с. 402–403.
[13] Гл. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2, Мінск, 1994, с. 9.
[14] Дзённік М. Ромэра. F 138-2229. Т. 2, s. 450. Запіс ад 8 (21).11.1912 г.
[15] Публіцыст і перакладчык. З 1909 г. супрацоўнічаў з «Нашай Нівай». Друкаваўся пад крыптонімамі (Я. О., Я. М-скі, Я. М., і-м-і) або псеўданімамі (Кірмашова, П-ч, Окліч Янка). З 1912 г. – у «Кур'еры Краёвым». Адзін з заснавальнікаў кнігавыдавецкага таварыства «Наша хата». З канца 1917 г. жыў у Варшаве. М. Ромэр характарызаваў яго ў сваім Дзённіку як паляка, які актыўна працаваў у беларускім руху і часам «дзейнічаў як беларускі нацыяналіст» (Дзённік М. Ромэра. F 138-2229. Т. 2, s. 178. Запіс ад 10 (23).02.1912 г.).
[16] Дзённік М. Ромэра. F 138-2229. Т. 2, s. 435. Запіс ад 24.10 (6.11).1912 г.
[17] Ibidem, s. 445. Запіс ад 3 (16).11.1912 г.
[18] Ibidem, s. 450. Запіс ад 8 (21).11.1912 г.
[19] Ibidem, s. 464. Запіс ад 22.11 (5.12).1912 г.
[20] Ibidem. F 138-2231. Т. 3, s. 61. Запіс ад 27.02 (12.03).1913 г.
[21] Ibidem, s. 299. Запіс ад 22.10 (4.11).1913 г.
[22] Ibidem, s. 323. Запіс ад 16 (29).11.1913 г.
[23] Ibidem, s. 329. Запіс ад 22.11 (3.12).1913 г.
[24] Вечерняя газета. 1912, № 1.
[25] Напр., Генрык Букавецкі [А. Луцкевіч]. Прынцыповае пытанне // Кур'ер Краёвы. 1912, № 19; б/п [А. Луцкевіч?]. Одна из причин трений // Вечерняя газета. 1913, № 337 ды інш.
[26] Напр., б/п [А. Луцкевіч?]. Конквистадоры // Вечерняя газета. 1913, № 360; м. г. [М. Ромэр]. Хто быў правы? // Кур'ер Краёвы. 1913, № 127 ды інш.
[27] Напр., б/п [А. Луцкевіч?]. Национальные течения и демократия // Вечерняя газета. 1914, № 468.
[28] Напр., Вечерняя газета. 1913, № 188.
[29] Напр., K-wiec [А. Луцкевіч]. Права і абавязкі // Кур'ер Краёвы. 1912, № 3.
[30] б/п [А. Луцкевіч?]. От русских прогрессивных избирателей г. Вильны // Вечерняя газета. 1912, № 12.
[31] Веслаў Каліноўскі [А. Луцкевіч]. Выбар дарогі // Кур'ер Краёвы. 1913, № 258.
[32] Напр., б/п [А. Луцкевіч?]. А речи всё те же... // Вечерняя газета. 1912, № 64; б/п [А. Луцкевіч]. Два выступления // Вечерняя газета. 1913, № 263 ды інш.
[33] Кур'ер Краёвы. Адпаведна, 1912, № 8 і 1912, № 12.
[34] а-н-а [А. Луцкевіч]. Край і народ // Наша Ніва. 1912, № 28-29; а-н-а [А. Луцкевіч]. Змаганне з хваробай // Наша Ніва. 1913, № 9 ды інш.
[35] Наша Ніва. 1912, № 40.
[36] Напр., б/п. Газэтнае хуліганства // Наша Ніва. 1913, № 9; б/п. Бандытызм «Газеты цодзеннай» // Кур'ер Краёвы. 1913, № 52.

[37] а-н-а [А. Луцкевіч]. Пуцяводная ідэя // Наша Ніва. 1914, № 11.

[38] Веслаў Каліноўскі [А. Луцкевіч]. Палітычная шкода. 1913, № 206.

[39] Напр., Генрык Букавецкі [А. Луцкевіч]. 1913 год у жыцці беларусаў // Кур'ер Краёвы. 1914, № 1; А. Н. [А. Луцкевіч]. Из белорускoй жизни // Вечерняя гахзета. 1913, № 290.

[40] б/п [А. Луцкевіч?]. Родной язык в школе // Вечерняя газета. 1912, № 53; Бо-вичъ [М. Бабровіч]. Борьба за родной язык // Вечерняя газета. 1914, № 552; Веслаў Каліноўскі [А. Луцкевіч]. Палітычная шкода. 1913, № 206 ды інш.

[41] Напр., б/п [А. Луцкевіч?]. Национальная культура // Вечерняя газета. 1912, № 92.

[42] Генрык Букавецкі [А. Луцкевіч]. Час патрабуе // Кур'ер Краёвы. 1913, № 12.

[43] Генрык Букавецкі [А. Луцкевіч]. Прынцыповае пытанне // Кур'ер Краёвы. 1912, № 9.

[44] К-вец [А. Луцкевіч]. Do ut des // Кур'ер Краёвы. 1913, № 98.

[45] Напр., Г. Б. [А. Луцкевіч]. З газэт // Наша Ніва. 1912, № 19–20 ды інш.

[46] Напр., Ястшэмбец І. [Манькоўскі Я.?]. Трывожны сігнал // Кур'ер Краёвы. 1913, № 80 ды інш.

[47] б/п [Л. Абрамовіч?]. Пабочныя ўплывы // Пшэглёнд Віленьскі. 1913, № 22–23.

[48] м. р. [М. Ромэр]. Грамадзянская пазіцыя // Кур'ер Краёвы. 1913, № 77.

[49] Дзённік М. Ромэра. F 138-2231. Т. 3, s. 324. Запіс ад 17 (30). 11. 1913 г.

[50] б/п. [А. Луцкевіч?]. Практическое применение краёвой теории // Вечерняя газета. 1913, № 436.

[51] а-н-а. [А. Луцкевіч]. Кліч да згоды // Наша Ніва.1915, № 10.

[52] а-н-а. [А. Луцкевіч]. Іх адказ // Наша Ніва. 1915, № 12–13.

[53] Беларускі Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ф. 3, воп. 1, ад. з. 261, арк. 34–35 адв.

[54] Дзённік М. Ромэра. F 138-2230. Т. 4, s. 115. Запіс ад 19.05 (1.06).1914 г.

[55] а-н-а. [А. Луцкевіч]. Змаганне з хваробай // Наша Ніва. 1913, № 9.

[56] На пачатку 1915 г. В. Чыж (Я. Яленьскі) заявіў пра сваё жаданне ўступіць у віленскую арганізацыю прыхільнікаў незалежнасці Польшчы (Дзённік М. Ромэра. F 138-2230. Т. 4, s. 383. Запіс ад 11 (24).02.1915 г.).

[57] М. Ромэр характарызаваў яго як «беларуса па паходжанню і рускага па культуры». (Дзённік М. Ромэра. F 138-2231. Т. 3, s. 352. Запіс ад 15 (28).12.1913 г.). Ён жа паведаміў, што ў віленскім аддзяленні Саюза аўтанамістаў-федэралістаў менавіта І. Краскоўскі прадстаўляў рускую грамадскасць (Дзённік М. Ромэра. F 138-2230. Т. 4, s. 20. Запіс ад 13 (26).02.1914 г.

[58] Дзённік М. Ромэра. F 138-2230. Т. 4, s. 404. Запіс ад 4 (17).03.1915 г.

## КРАЁВЕЦ ЭДВАРД ВАЙНІЛОВІЧ (1847–1928)*

Цікавасць да асобы вядомага аграрыя, грамадскага дзеяча і палітыка Эдварда Вайніловіча ў беларускай гістарыяграфіі з'явілася адносна нядаўна. Толькі ў 90-я гг. XX ст. грамадскасць пачала задумвацца пра верагоднасць колішняй альтэрнатывы БССР і БНР і паспрабавала асэнсаваць постаці людзей, якія бачылі іншую перспектыву для Беларусі. Даследчыкі пачалі звяртацца да ўспамінаў Эдварда Вайніловіча, аналізаваць яго грамадска-палітычную і нацыянальна-культурную пазіцыю, асабліва ў сувязі з вывучэннем феномену «краёвасці»[1]. Амаль адначасна ў беларускай гістарыяграфіі актуалізаваліся постаці княгіні Марыі Магдалены Радзівіл (1861–1945) і Рамана Скірмунта (1868–1939)[2].

Да краёўцаў гэтага перыяду можна аднесці тых дзеячаў з асяроддзя беларускіх і літоўскіх палякаў, якія ў сваёй палітычнай і грамадскай дзейнасці выступалі як прадстаўнікі ўсяго Беларуска-Літоўскага краю і кіраваліся нацыянальна-культурнымі, рэлігійнымі, эканамічнымі і гістарычнымі асаблівасцямі і інтарэсамі Краю і яго карэнных народаў. Яны выступалі з ідэяй краёвага грамадзянства і сцвярджалі, што найвышэйшаю мэтай палітычнай дзейнасці з'яўляецца росквіт «Краю» і ўсіх народаў, што насяляюць беларускія і літоўскія землі[3]. Іх палітычная праграма эвалюцыянавала ад ідэі аўтаноміі Краю з Сеймам у Вільне (1905) да адраджэння дзяржаўнасці (1915) у межах былога Вялікага Княства Літоўскага пасля Люблінскай уніі.

Сярод краёўцаў пачатку XX ст. постаць Эдварда Вайніловіча была адной з найбольш прыкметных. Ягоная пазіцыя цалкам адпавядала дамінуючай на беларускіх землях кансерватыўнай (або кансерватыўна-ліберальнай) плыні краёвасці. Яе ідэолагамі ў першую чаргу былі Раман і Канстанцыя Скірмунты, Баляслаў Ялавецкі. Яны абвяшчалі існаванне нацыі краёўцаў (або нацыі ліцвінаў), галоўным крытэрыем прыналежнасці да якой было

---

* Упершыню тэкст быў апублікаваны на польскай мове: *Edward Woyniłłowicz (1847–1928) jako krajowiec* (Tożsamość – Pamięć historyczna – Idee. Przemiany historyczne i społeczne na Litwie i Białorusi w XIX i na początku XX wieku. Pod red. Doroty Michaluk. Warszawa, 2016, s. 165–174).

пачуццё патрыятызму, дэкларацыя ўласнага краёвага грамадзянства. На думку эліты краёўцаў, толькі пашырэнне краёвай ідэі магло гарантаваць захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці Беларуска-Літоўскага краю, а таксама прадухіліць сацыяльны і нацыянальны раскол мясцовага грамадства.

Нараджэнню краёвай ідэалогіі ў вялікай ступені спрыяла гістарычная свядомасць г. зв. «літоўскіх палякаў». Адчуваючы ўласную прыналежнасць да польскай нацыі (як культурнай катэгорыі), яны адначасна належалі да «нацыі літвінаў» (як палітычнай або грамадзянскай катэгорыі). Пры гэтым часта падкрэслівалася ўласнае беларускае ці літоўскае паходжанне і сцвярджалася адметнасць інтарэсаў Беларуска-Літоўскага краю ад інтарэсаў Польшчы. Відавочна, што Эдвард Вайніловіч, які даволі часта згадваў беларускія карані ўласнага радаводу, адчуваў сябе літвінам-беларусам у гістарычным значэнні гэтага слова, г. зн. грамадзянінам былога Вялікага Княства Літоўскага, звязанага уніяй з Каронай.

Прафесар Мар'ян Здзяхоўскі наступным чынам характарызаваў ягоную постаць: *«Эдвард Вайніловіч быў жывым увасабленнем любові да маці зямлі, якая яго нарадзіла і выхавала, быў звязаны з ёй усёй сваёй душой. Калі ён казаў, я меў дзіўнае ўражанне, што ягонымі вуснамі прамаўляе маці зямля беларуская, што ў словах адбіваюцца думкі і пачуцці тых доўгіх шэрагаў пакаленняў, якія на гэтай зямлі і з гэтай зямлі жылі, на ёй і дзеля яе працавалі і трывалі»*[4].



*Эдвард Вайніловіч. Фотаздымак 1917? г.*

Прадстаўнік даўняга беларускага роду, як ён напісаў ва ўспамінах, у 1874 г. атрымаў у спадчыну маёнткі Савічы і Пузава на Случчыне. Ужо ў маладыя гады стаў вядомым сваёй актыўнай грамадскай і дабрачыннай дзейнасцю, амаль 35 гадоў быў ганаровым суддзёй Слуцкага павету. З 1876 г. фактычна кіраваў Менскім Таварыствам сельскай гаспадаркі, а на пачатку XX ст. заняўся палітычнай дзейнасцю.

У адрозненні ад тэарэтыкаў краёвасці Э. Вайніловіч імкнуўся ўлічваць і выкарыстоўваць рэальныя магчымасці. Ён быў палітыкам-рэалістам, што часта абарочвалася папрокамі ў «згодніцтве».

Нават ягоны сябра і паплечнік Раман Скірмунт не заўсёды разумеў зямяніна са Случчыны. У развітальнай прамове на пахаванні Э. Вайніловіча ён рубам паставіў пытанне: *«Валенрадызм ці «слізкае згодніцтва» былі сутнасцю грамадска-палітычнай працы памерлага?* І сам адказаў на яго, прызнаючы, што мэтаю Эдварда Вайніловіча было ўмацаванне гаспадарчых пазіцыяў польскай грамадскасці[5]. Праўда, гэта было сказана ў 1928 г., калі адзінства і палітычная самастойнасць Беларуска-Літоўскага краю ўжо не стаяла ў парадку дня аніводнай палітычнай партыі, і сам Р. Скірмунт далёка адышоў ад колішняй краёвай пазіцыі.

Мар'ян Здзяхоўскі ў біяграфічным нарысе, прысвечаным Эдварду Вайніловічу, залічыў палітыка да «групы станьчыкаў» або «рэалістаў» (ці «згоднікаў»), г. зн. тых патрыётаў Рэчы Паспалітай, якія былі перакананыя, што дзяржаву згубіла *liberum veto*, а не дае адрадзіцца *liberum conspiro*[6]. Яны былі патрыётамі, але баяліся патрыятызму як полымя. А вось Раман Скірмунт ацэньваў ягоную дзейнасць хутчэй як праяву «валенрадызму»[7].

Ці адпавядаюць гэтыя ацэнкі рэчаіснасці? Паспрабую суаднесці іх з аналізам палітычнай дзейнасці Эдварда Вайніловіча ў Дзяржаўнай Радзе Расейскай імперыі[8].

Рэвалюцыйныя падзеі 1905–1907 гг, Маніфест 17 кастрычніка 1905 г. моцна змянілі палітычную сітуацыю. Стала рэальнай магчымасць палітычнай дзейнасці дзеля Краю. Яшчэ ў жніўні 1905 г. у лісце да прафесара Мар'яна Здзяхоўскага Вайніловіч разважаў пра дзейнасць будучых дэпутатаў ад Беларуска-Літоўскага краю ў выбарнай Думе. Ён быў упэўнены ў асаблівай ролі прадстаўнікоў польскай грамадскасці Беларусі і Літвы ў новых выбарных органах улады і сцвярджаў, што яны могуць быць натуральнымі пасрэднікамі паміж дэпутацкай фракцыяй з Каралеўства Польскага і абранцамі «заходніх губерняў»[9].

Ідэя кансалідацыі краёвых сіл у вызначальны для Беларуска-Літоўскага краю час вітала ў паветры. На рубяжы 1905–1906 гг. з ідэяй стварэння Краёвай партыі Белай Русі і Літвы выступіў у друку Раман Скірмунт[10]. Ад імя Часовага камітэту сяброў «Краёвага Кола» ён заяўляў, што Край мае ўласныя інтарэсы і павінен мець уласную партыю. Зварот абяцаў, што партыя будзе змагацца за ўвядзенне грамадзянскіх і палітычных свабодаў і ў першую чаргу свабоды нацыянальнага жыцця і палітычнай роўнасці для ўсіх нацыяў. Пры гэтым Краёвая партыя не выступала супраць расейскай дзяржаўнасці, спадзеючыся на яе паступовае рэфармаванне ў кірунку пашырэння палітычных свабодаў.

Палажэнні сацыяльна-эканамічнага раздзелу, прапанаванай Раманам Скірмунтам праграмы, нагадвалі адпаведныя раздзелы Менскага Таварыства сельскай гаспадаркі, якім кіраваў Э. Вайніловіч. У палітычным раздзеле прадугледжвалася ператварэнне Дзяржаўнай Рады ў выбарны орган кіравання. Лозунгам Краёвай партыі абвяшчаліся словы: «*Справядлівасць для ўсіх*». Сцвярджалася таксама, што партыйны клопат пра развіццё Краю не будзе супярэчыць культурна-нацыянальнай працы асобных народаў. Прадугледжвалася ўтварэнне ў Думе асобнай фракцыі дэпутатаў ад «Літвы і Русі».

Эдвард Вайніловіч падтрымаў гэтую ініцыятыву. На старонках таго ж «Кур'ера літэўскага» ў красавіку 1906 г. быў апублікаваны ягоны артыкул «Польскае кола»[11]. Аўтар выказаўся ў дыскусіі, якая датычыла пытання, ці павінны польскія дэпутаты Літвы і Беларусі ў Думе і Дзяржаўнай Радзе ўваходзіць у фракцыю дэпутатаў ад Каралеўства Польскага, ці больш мэтазгодна захаваць арганізацыйную самастойнасць? З улікам таго, што публікацыя з'явілася напярэдадні выбараў у Дзяржаўную Раду, яе можна разглядаць у якасці пэўнай дэпутацкай праграмы самога Э. Вайніловіча.

Аўтар адназначна выказваўся за існаванне самастойнай фракцыі прадстаўнікоў польскай грамадскасці ад Беларусі і Літвы і падкрэсліў неабходнасць салідарнасці ўсіх польскіх дэпутатаў Краю. Пры гэтым ён адстойваў права кожнага дэпутата самастойна вызначаць уласную пазіцыю, а не быць марыянеткай у руках выбаршчыкаў. Рэфрэнам у артыкуле гучала думка, што нельга чакаць падказак з-за Буга ці з-за Дзвіны. Трэба адчуваць ўласную глебу пад нагамі і кіравацца выключна інтарэсамі Краю: «*Прыйшоў час, калі трэба быць самімі сабою, мець розум, браць не тое, што вецер прынясе, а тое, што трэба...*»

Паводле Э. Вайніловіча, «уласная глеба» пад нагамі – гэта «*тое, што дае плён, што свойскае, што з'яўляецца вынікам мінулага, яго звычаяў і развіццём краёвай культуры*». Разуменне гэтага магло быць падставай стварэння дэпутатамі «Краёвай партыі Літвы і Русі». Задачай гэтай партыі Э. Вайніловіч лічыў аб'яднанне ў яе шэрагах усіх іншых партый, якія ўзніклі на «краёвым падмурку», у т. л. Канстытуцыйна-Каталіцкай партыі Літвы і Беларусі біскупа Эдварда фон Ропа і нават губернскіх Таварыстваў сельскай гаспадаркі, «*бо ўсе яны хочуць працаваць для дабра Літвы і Русі і імкнуцца да роўнасці народаў, якія спрадвеку насяляюць гэты Край*».

На выбарах у Дзяржаўную Раду ад землеўласнікаў Менскай губ. Э. Вайніловічу не знайшлося годнага канкурэнта. Дзейнасць на чале

Менскага Таварыства сельскай гаспадаркі зрабіла ягоную постаць надзвычай папулярнай і аўтарытэтнай. Пазней ён прызнаваўся, што грамадскае меркаванне загадзя рыхтавала яго да гэтай ролі. У прамове падчас выбараў ён амаль што паўтарыў галоўную ідэю свайго артыкула: «*Буду аднолькава незалежны, як ад уплываў з-над Нявы і Масквы, так і ад указанняў з-над Віслы. Буду ісці ў накірунку, які падкажа ўласнае сумленне і ўласнае разуменне патрабаванняў Краю, які мяне абраў*»[12].

У № 82 «Кур'ера літэўскага» (12 красавіка 1906 г.) была змешчаная інфармацыя пра абранне яго дэпутатам на сходзе землеўласнікаў Менскай губ. («за» галасавала 196 выбаршчыкаў, «супраць» – толькі 5). Відавочна, што кандыдатуру Э. Вайніловіча падтрымалі таксама расейскія памешчыкі. Магчыма і для іх была прывабнай падкрэсленая адмова «слухаць» галасы з-над Віслы. Апроч таго ў лаяльнасці стацкага дарадцы Эдварда Вайніловіча (з траўня 1905 г.[13]) сумненняў не было. У № 84 «Кур'ера літэўскага» была змешчаная кароткая біяграфія Э. Вайніловіча за подпісам «W. D.» (верагодна, Уладзіслаў Двожачак).

Магчымасць практычнай рэалізацыі ўласнай палітычнай пазіцыі з'явілася ў той час, калі ў выніку рэвалюцыі падмуркі манархічнай Расеі страцілі колішнюю трываласць. Безумоўна, гэта істотна паўплывала на дзейнасць як Э. Вайніловіча, так і іншых прадстаўнікоў мясцовых польскіх землеўласнікаў у Дзяржаўных Думе і Радзе.

Як ацаніць дзейнасць сябра Дзяржаўнай Рады Эдварда Вайніловіча і яе вынікі? Якія матывы былі вытокамі гэтай дзейнасці? Што найбольш хвалявала дэпутата? Што было ягоным прыярытэтам? Абарона інтарэсаў Краю з улікам патрэбаў усіх ягоных народаў і сацыяльных групаў ці абарона інтарэсаў уласнага маёнтку і касты польскіх мясцовых польскіх зямянаў?

«Польскае Кола» ў Дзяржаўнай Радзе налічвала 17 чалавек, з якіх васьмёра прадстаўлялі г. зв. «заходнія губерні». Дэпутаты ўтварылі дзве фракцыі. Адна складалася з прадстаўнікоў Літвы, Беларусі і Украіны, другая – з абранцаў Каралеўства Польскага, да якіх далучыліся польскія дэпутаты ад Пецярбургу і Урала. Фракцыі аб'ядноўваліся адзіным, даволі жорсткім рэгламентам і павінны былі дзейнічаць кансалідавана. Эдвард Вайніловіч ва ўспамінах прыгадваў, што толькі некалькі разоў за год адбыліся асобныя сходы фракцый, але і ў гэтым выпадку рашэнні прымаліся на агульнай нарадзе[14].

Старшынёю фракцыі дэпутатаў ад Каралеўства Польскага быў абраны Юзаф Астроўскі, а дэпутатаў ад Беларусі, Літвы і Украіны ўзначаліў

Эдвард Вайніловіч. Ён таксама стаў старшынёю ўсяго «Польскага Кола», а Ю. Астроўскі – ягоным намеснікам. Безумоўна, гэтае абранне было сведчаннем аўтарытэту менскага дэпутата, а таксама высокай ацэнкі яго інтэлектуальных здольнасцяў і маральнай пазіцыі, у т. л. дэпутатамі Каралеўства Польскага.

Менавіта Э. Вайніловіча можна лічыць адным з галоўных аўтараў канцэпцыі дзейнасці «Польскага Кола» ў Радзе. Яе сутнасць заключалася ў дэманстрацыі выразнага лаялізму па агульнапалітычных пытаннях і спадзяванні, што большасць Дзяржаўнай Рады падтрымае «Польскае Кола» пры абмеркаванні «польскага пытання» і праблемаў польскіх землеўласнікаў у Беларусі, Літве і Украіне. Ва ўмовах рэвалюцыі такая пазіцыя здавалася найбольш прадуманай. Э. Вайніловіч і яго калегі зыходзілі з высокай долі верагоднасці кампрамісу з манархічнай уладай і не бачылі ніякіх перспектываў падобнага кампрамісу з рэвалюцыйна настроенымі «нізамі» імперыі.

«Рэгламент саюза дэпутацкіх колаў Каралеўства Польскага і губерняў Літвы і Русі ў Дзяржаўнай Радзе», прыняты ў сярэдзіне мая, вельмі жорстка абмяжоўваў свабоду дэпутатаў. Яны не мелі права парушаць рашэнні агульнага сходу. Адпаведна, «Польскае Кола» выступала як адзінае цэлае. Вялікую ролю адыгрывала таксама высокая інтэлектуальная падрыхтоўка дэпутатаў. У прыватнасці, варта згадаць дэпутата ад Віленскай губ. Іпаліта Корвін-Мілеўскага, які быў адным з найбольш яркіх прамоўцаў у Радзе. Дарэчы, ён таксама прэтэндаваў на ролю лідэра Польскай групы і ствараў выразную канкурэнцыю Э. Вайніловічу. (Паводле расейскага гісторыка Аляксандра Сцяпанскага, князь Георгій Львоў менавіта яго лічыў сапраўдным лідэрам Польскай групы[15]).

Першае выступленне Эдварда Вайніловіча адбылося на неафіцыйным сходзе дэпутатаў Рады ў Марыінскім палацы. Яго мэтаю было абмеркаванне бягучых спраў і знаёмства дэпутатаў. Старшыня «Польскага Кола» выступіў пры абмеркаванні пытання аб амністыі. Ён прапанаваў амністыю «*толькі для тых, хто парушыў публічныя правы, а не правы асобы*».

Выступленне дэпутата ад Менскай губ. прыцягнула ўвагу. Пасля сходу ён меў размову з былым старшынёю Рады міністраў Сяргеем Вітэ. Размова паклала пачатак добрых адносінаў. З Э. Вайніловічам таксама пажадалі пазнаёміцца ўплывовыя прадстаўнікі «правых» у Радзе, у прыватнасці, міністр двара У. Фрыдарыкс[16]. Высока ацаніў ягоную пазіцыю таксама старшыня Рады міністраў Пётр Сталыпін.

У час неафіцыйных сходаў сярод дэпутатаў Дзяржаўнай Рады пачалі вылучацца тры групоўкі: «правая», якая складалася ў асноўным з ліку дэпутатаў, прызначаных імператарам. Губернскія маршалкі шляхты, земцы і ліберальна настроеныя чыноўнікі ўтварылі групу «Цэнтр», якая па колькасці нязначна саступала «правым». Групоўка «левых» складалася з некалькіх чалавек. Гэта былі земцы і ўніверсітэцкая прафесура. Польскія дэпутаты далучыліся да «Цэнтра».

Устаноўчы сход «Цэнтра» адбыўся 3 чэрвеня 1906 г. На ім былі прынятыя «Асноўныя прапановы», свайго роду палітычная праграма, якая ў вялікай ступені паўтарала галоўныя палажэнні праграмы канстытуцыйна-ліберальнай партыі «Саюза 17 кастрычніка», у т. л. палажэнне аб цэласнасці і недзялімасці Расеі. Гэта, аднак, не перашкодзіла польскім прадстаўнікам увайсці ў склад «Цэнтра».

«Цэнтр» аб'ядноўваў прыблізна 80–100 дэпутатаў. Яго старшынёю быў абраны маршалак маскоўскага дваранства князь П. Трубяцкі. Дысцыпліна



*Першае паседжанне Дзяржаўнай Рады.*
*27 красавіка 1906 г.*

галасавання ў «Цэнтры» адсутнічала. Па некаторых пытаннях асобныя дэпутаты «Цэнтра» падтрымлівалі «правых».

Згуртаванае і актыўнае «Польскае Кола» адыгрывала ў «Цэнтры» асаблівую ролю. На гэта звярнулі ўвагу таксама органы друку. Газета «Дума» ў сваёй характарыстыцы «Цэнтра» адзначала выключна важную ролю ў ім якраз «Польскага Кола»[17]. Пры гэтым польскія дэпутаты ў Дзяржаўнай Радзе амаль не выкарыстоўвалі свае ўплывы дзеля абароны ўласна польскіх інтарэсаў ці інтарэсаў Беларуска-Літоўскага краю. У цэнтры ўвагі былі агульнапалітычныя пытанні. І тут «Польскае Кола» праяўляла поўную лаяльнасць.

Яно, як і большасць прадстаўнікоў «Цэнтра», свае надзеі ўскладала на рэфармацыйную дзейнасць урада. Гэта асабліва яскрава праявілася ў той момант, калі Пётр Сталыпін пачаў прыхільна выказвацца адносна фарміравання г. зв. «парламенцкага ўрада», у які павінны былі ўвайсці прадстаўнікі партый, што дамінавалі ў Думе. Аднак гэтая прыхільнасць не прывяла да практычных вынікаў. Зрэшты, пра пэўную спробу стварэння такога ўраду, сапраўды, можна казаць.

Амаль адразу пасля роспуску Думы І склікання адбылася размова Пятра Сталыпіна і Эдварда Вайніловіча. Кіраўнік урада прапанаваў дэпутату ад Менскай губ. пасаду намесніка міністра земляробства. Для Э. Вайніловіча прапанова была цалкам нечаканай. Ён адмовіўся, але новы прэм’ер настойваў і катэгарычна заявіў, што не прымае адмовы[18]. У той жа дзень П. Сталыпін сустрэўся з Юзафам Астроўскім і ў размове з ім яшчэ раз узняў пытанне аб уваходзе Э. Вайніловіча ў склад урада.

У выніку гэтая прапанова стала прадметам абмеркавання «Польскага Кола». Дэпутаты рэкамендавалі кіраўніку Менскага Таварыства сельскай гаспадаркі прыняць прапанову на наступных умовах: урад складаецца толькі з сяброў «Цэнтра» і «правых» былой Думы, а ў якасці праграмы прымаюцца «Асноўныя прапановы»[19]. Аднак гэтыя ўмовы аказаліся непрымальнымі для П. Сталыпіна. У ліпені 1906 г. ідэя «парламенцкага ўрада» ўжо стала ўтопіяй. Э. Вайніловіч пацвердзіў сваю адмову.

Падчас ІІ сесіі Дзяржаўнай Рады (люты – чэрвень 1907 г.) Э. Вайніловіч толькі аднойчы выступіў на агульным паседжанні. Адбылося гэта пры абмеркаванні, безумоўна, цэнтральнай праблемы – аграрнага пытання. Ён, дарэчы, з’яўляўся сябрам Аграрнай камісіі Дзяржаўнай Рады і часта выступаў на яе паседжаннях. Дэпутат ад Менскай губ. звяртаў увагу на асаблівасці аграрнай праблемы ў Беларусі і Літве і даказваў неабходнасць

правядзення аграрнай рэформы органамі мясцовага самакіравання[20]. Відавочна, што «Польскае Кола» было вельмі занепакоена радыкальнымі аграрнымі праектамі кадэтаў і сацыялістаў.

Адначасна ён далучыўся да арганізацыйных намаганняў свайго сябра і дэпутата Дзяржаўнай Думы Рамана Скірмунта па стварэнню Краёвай партыі. Р. Скірмунт планаваў свайго роду міжнацыянальны партыйны саюз, які павінен быў складацца з самастойных літоўскай, беларускай і польскай партыйных арганізацый[21]. Пры гэтым ён разлічваў на падтрымку сацыяльных вярхоў мясцовай польскай грамадскасці. Многія вядомыя грамадскія і палітычныя дзеячы «літоўскіх палякаў», у т. л. і Эдвард Вайніловіч, здавалася, пагадзіліся з гэтымі прынцыпамі і нават падпісалі праект праграмы.

Аднак 17 чэрвеня 1907 г. на арганізацыйным сходзе ў Вільні Скірмунта чакала моцнае расчараванне. Тон на сходзе задавалі тыя землеўласнікі, для якіх інтарэсы ўласнага маёнтку адыгрывалі, прынамсі, не меншую ролю, чым інтарэсы Краю. Праект міжнацыянальнага партыйнага саюза быў адрынуты большасцю дэлегатаў, якія фактычна выказаліся за стварэнне польскай партыі. На чале гэтай большасці апынуўся Э. Вайніловіч, які і стаў яе старшынёю. Дэлегаты зацвердзілі праграму, аснову якой склалі тэзісы перадвыбарчага Віленскага снежаньскага з’езду 1906 г.

У прэамбуле падкрэсліваўся адметны гістарычны шлях Беларуска-Літоўскага краю, асаблівасці яго эканамічнага і культурнага развіцця, разнастайны нацыянальны склад насельніцтва. Звярталася ўвага на тое, што становішча палякаў у Краі моцна адрозніваецца ад сітуацыі ў Каралеўстве Польскім. У духу краёвасці сцвярджалася неабходнасць сумеснай працы ўсіх народаў *«дзеля гаспадарчага, культурнага і грамадскага ўздыму Краю і ўсіх яго жыхароў»*. Апроч таго, асноўнымі партыйнымі прынцыпамі абвяшчалася роўнасць народаў ва ўсіх галінах жыцця і стварэнне магчымасцяў для іх культурнага развіцця. Падкрэсліваліся права літоўцаў і беларусаў на развіццё ўласнай культуры, неабходнасць паўнаты грамадзянскіх правоў для палякаў, важнасць паразумення з рускай супольнасцю, адмена антыгабрэйскіх законаў.

Праграма патрабавала свабоды веравызнання, выказвалася за канстытуцыйную манархію з гарантыяй грамадзянскіх свабодаў, развіццё пачатковай адукацыі на роднай мове.

Адносна аграрнай праблемы партыя выказвалася даволі стрымана і асцярожна. Яна абяцала спрыяць пашырэнню сялянскага землеўладання

шляхам дзяржаўнай падтрымкі сялянства. (Заўважу, што Раман Скірмунт у прынцыпе пагаджаўся з ідэяй аграрнай рэформы і пашырэння сялянскага землеўладання). Прадугледжваліся продаж маёнткаў і дзяржаўны крэдыт, ліквідацыя сервітутаў і цераспалосіцы. Асобна адзначалася непрымальнасць парушэння правоў уласнасці. Партыя выказвалася за дэмакратызацыю грамадства, якая разумелася як праца над паляпшэннем эканамічнага становішча і культурным ростам працоўных класаў. Падкрэслівалася неабходнасць распрацоўкі рабочага заканадаўства.

Нарэшце, выказвалася пажаданне, каб *«на глебе партыйных прынцыпаў сфармаваліся асобныя нацыянальныя фракцыі, прасякнутыя духам сумеснай працы на карысць краю, з якімі партыя магла б утвараць саюзы і знаходзіць паразуменне»*. Магчыма, менавіта тут адлюстраваўся першапачатковы намер Рамана Скірмунта.

Раман Скірмунт не падпісаў праграму. Ні ён, ні большасць прадстаўнікоў Ковенскай губ. не ўступілі ў партыю. Яны выступалі за больш радыкальныя падыходы да вырашэння аграрнага пытання. Менавіта гэта магло б паспрыяць наладжванню адносінаў з дзеячамі беларускага і літоўскага рухаў і прывесці да стварэння міжнацыянальнай Краёвай партыі. Вайніловіч меў іншае меркаванне, якое падзялялі Аляксандр Хаміньскі, Станіслаў Ваньковіч, Чэслаў Янкоўскі, Іпаліт Корвін-Мілеўскі, Аляксандр Мейштовіч, Дзмітры Карыбут-Дашкевіч, што ўвайшлі ў склад і кіруючыя органы партыі. Тэрытарыяльна партыя была прадстаўлена пераважна землеўласнікамі з Гарадзенскай і Віленскай губ.

Нараджэнне Краёвай партыі выклікала шматлікія крытычныя заўвагі ў адрас яе арганізатараў. «Кур'ер Літэўскі» і «Дзеннік Віленьскі» змясцілі шэраг крытычных артыкулаў. Незадавальненне прыхільнікаў партыі Рамана Дмоўскага выклікала адсутнасць у праграме спецыфічна польскіх патрабаванняў і тое, што інтарэсы палякаў разглядаліся ў сувязі з інтарэсамі іншых народаў Краю. Дарэчы, гэта дало падставы аднаму з аўтараў «Дзенніка віленьскага» нават заявіць, што краёўцы імкнуцца адарваць гістарычную Літву ад Каралеўства Польскага[22].

Іншая частка краёўцаў убачыла ў дадзеным варыянце краёвай арганізацыі выразнае імкненне да абароны ўласных сацыяльна-эканамічных інтарэсаў. Менавіта на гэта звярнуў увагу Баляслаў Ялавецкі, які ахарактарызаваў Краёвую партыю як *«партыю без твару, без сілы і без смеласці»*. На яго думку, ні літоўцы, ні беларусы ніколі не далучацца да партыі, бо яе праграма супярэчыць назве. Фактычна, на думку

аднаго з вядучых ідэолагаў краёвасці, *«узнікла эндэцыя № 2»* з выразнай «кансерватыўна-каставай» афарбоўкай. Б. Ялавецкі заўважыў таксама, што *«гэтае войска правадыроў, якія не маюць салдатаў, можа існаваць толькі на паперы»*[23]. Як *«аб'яднанне кансерватараў»* характарызаваў Краёвую партыю Людвік Абрамовіч[24].

III сесія Рады (лістапад 1907 г.) пачыналася ў абстаноўцы, калі пра рэвалюцыю можна было казаць ужо ў мінулым часе. Беларускія і літоўскія губерні былі прадстаўленыя выключна палякамі-землеўласнікамі, абранымі на сходах памешчыкаў яшчэ ў 1906 г. Віленскую губ. прадстаўляў Іпаліт Корвін-Мілеўскі, Гарадзенскую – Дзмітры Карыбут-Дашкевіч, Менскую – Эдвард Вайніловіч, Віцебскую – Станіслаў Лапацінскі, Ковенскую – граф А. Тышкевіч, Магілёўскую – У. Война-Сянажэнцкі, які замяніў сябра Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі Генрыка Выкоўскага. Апошні склаў свае паўнамоцтвы ў знак пратэсту супраць разгону II Дзяржаўнай Думы.

Якраз на гэтай сесіі Вайніловіч упершыню выступіў з крытыкай дзеянняў урада Пятра Сталыпіна. Адбылося гэта падчас абмеркавання думскага законапраекту пра скарачэнне да аднаго году тэрміну дзейнасці ў Радзе абранцаў землеўласнікаў «заходніх губерняў».

Законапраект выклікаў абурэнне дэпутатаў «Польскага Кола». Вайніловіч ад іх імя пратэставаў супраць таго выключэння, якое зрабіла Дзяржаўная Дума, падкрэсліў ягоны дыскрымінацыйны характар, і паведаміў, што «Кола» будзе галасаваць супраць[25]. Нават абмяркоўвалася ідэя калектыўнай адстаўкі ўсіх дэпутатаў. Аднак прапановы Думы былі прынятыя Дзяржаўнай Радай.

Пасля завяршэння працы IV сесіі Дзяржаўнай Рады (верасень 1909 г.) прадстаўнікі Беларусі, Літвы і Украіны склалі свае паўнамоцтвы. Выбары адбыліся ў сярэдзіне верасня 1909 г. Многія з былых дэпутатаў былі зноў абраныя, а вось Э. Вайніловіч адмовіўся выстаўляць уласную кандыдатуру.

Справа ў тым, што яшчэ ў чэрвені 1909 г. на сходзе Кола дэпутатаў ад Беларусі, Літвы і Украіны было прынятае прынцыповае рашэнне аб «перадачы» аднаго з дэпутацкіх мандатаў прадстаўніку ліберальнай часткі расейскай грамадскасці. Эдвард Вайніловіч працягваў палітыку лаялізму, разлічваючы, што гэтая «ахвяра» зменшыць нападкі фракцыі «правых» у Дзяржаўнай Радзе.

28 жніўня 1909 г. на чарговым сходзе рашэнне было канкрэтызаванае. Э. Вайніловіч здымаў сваю кандыдатуру на карысць памешчыка, сябра

земскай управы М. Кір’якова[26]. Аднак расейскі кандыдат так і не быў абраны. Большасць польскіх выбаршчыкаў Менскай губ. не паслухала Э. Вайніловіча і прагаласавала за былога дэпутата I Дзяржаўнай думы Гераніма Друцкага-Любецкага.

Безумоўна, нельга сцвярджаць, што Э. Вайніловіч у сваёй палітычнай дзейнасці кіраваўся выключна інтарэсамі мясцовых землеўласнікаў. Аднак ягонае разуменне краёвасці цесна перапляталася з імкненнем захаваць у недатыкальнасці асновы зямельных адносінаў у Краі, а гэта ў сваю чаргу не дазваляла выкарыстаць часовае аслабленне расейскага царызму дзеля паляпшэння палітычнай, нацыянальнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі Беларуска-Літоўскага краю. Зрэшты, трэба прызнаць, што ў тагачаснай Дзяржаўнай Радзе Расейскай імперыі гэтыя магчымасці былі моцна абмежаваныя.

Прыклад дзейнасці Эдварда Вайніловіча яскрава сведчыць пра тое, што ў адрозненні ад ідэолагаў краёвасці (Баляслава Ялавецкага, Міхала Ромэр, Канстанцыі Скірмунт ды інш.) пазіцыя яе канкрэтных носьбітаў з ліку зямянаў пастаянна «рэдагавалася» працэсамі той сацыяльнай і нацыянальнай трансфармацыі, якая ахапіла Беларуска-Літоўскі край на пачатку XX ст.

Магчыма, якраз гэта меў на ўвазе Раман Скірмунт, калі спрабаваў ахарактарызаваць постаць Эдварда Вайніловіча: «*Намаляваць ягоны духоўны партрэт, здаецца, не цяжка. Ад нараджэння ён меў цэльны характар, светлы розум, але не складаны. Ён быў чалавекам учынку, схільнасць да тэарэтызавання не была ў яго асабліва развітай.*

*Умовы для працы краёвага грамадскага дзеяча ў дапатопавы час (перад вялікай вайной) былі вельмі складаныя. Адносіны да Варшавы (карэннай Польшчы), да Расеі, да мясцовага народа ці да беларускай справы ўяўлялі сабой бязмерна заблытаныя праблемы. Трэба было цвёрда ступаць па полю, напоўненаму гадамі, часам усміхацца нядобраму і абмінаць з абыякавым ці непрыемным тварам тое, што па сэрцу. Падобная задача была асабліва цяжкай для чалавека, які па сваёй натуры не прымаў такой «дыпламатыі» [...]*

*Наколькі лёгка зрабіць агульны накід яго свядомасці, настолькі ж цяжка (па тых або іншых прычынах) намаляваць яго закончаны партрэт. Адкрытасць, вялікае сэрца, адвага рабілі з яго чалавека незвычайнага, які ў спрыяльных абставінах мог бы здабыць плады, значна большыя за тыя, якія былі народжаныя яго працай. На мой погляд, і пасля Патопу (пасля*

*Рыжскага міру – А. С.), нягледзячы на паражэнне, ён не быў яшчэ чалавекам мінуўшчыны. Можна толькі шкадаваць, што яго асоба апынулася недзе на ўзбоччы, калі польскі карабель, нарэшце, знайшоў сваю прыстань*[27].

---

1 Woyniłłowicz E. Wspomnienia. 1847–1928. Cz. 1. Wilno, 1931; Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917. Выд. 2-е дапрац. СПб., 2004 ды інш.

2 Гл., напр. Смалянчук А. Раман Скірмунт: шлях да Беларусі // Спадчына. 1994, № 6; Рудовіч В. Раман Скірмунт // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Том 6, Мінск, 2001, с. 321.

3 Гл., напрыклад, J…i B. [B. Jałowiecki]. Litwa – jej potrzeby… Katechizm narodowy Litwy. Wilno, 1907, s. 10–11.

4 Zdziechowski M. Widmo przeszłości. Warszawa, 1999, s. 67.

5 Lutosławski J. S. p. Edward Woyniłłowicz (Kartki z dziejów Kresów Wschodnich). Warszawa, 1928, s. 30.

6 Zdziechowski M. Widmo przeszłości, s. 73.

7 Lutosławski J. S. p. Edward Wojniłłowicz…, s. 28.

8 Аналіз будзе абапірацца на апублікаваныя стэнаграмы пасяджэнняў Рады (Государственный Совет. Стенографические отчёты. 1906. Сессия 1. Спб, 1906; Государственный Совет. Стенографические отчёты. 1907–1908. Сессия 4. 1908–1909. Приложение 1. Спб, 1909), на публікацыі цэнтральных расейскіх газет, віленскага «Кур'ера Літэўскага», а таксама на матэрыялы як апублікаваных успамінаў самога галоўнага героя, так і поўнага тэксту рукапісу гэтых успамінаў, які захоўваецца ў Літоўскім Дзяржаўным гістарычным архіве (фонд 1135). Шмат важных падказак для разумення ягонай дзейнасці зрабілі Р. Скірмунт і прафесар М. Здзяхоўскі. Апошні прысвяціў Э. Вайніловічу біяграфічны нарыс, у якім шырока карыстаўся з адрасаваных яму лістоў палітыка-краёўца (Zdziechowski M. Widmo przeszłości. Warszawa, 1999, s. 63–86.

9 Zdziechowski M. Widmo przeszłości, s. 71.

10 Кур'ер літэўскі. 1905, Nr 65; 1906, Nr 78.

11 Ibidem. 1906, Nr 80.

12 Woyniłłowicz E. Wspomnienia. 1847–1928, s. 114.

13 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 299, воп. 7, ад.з. 886 (Фармулярны спіс Эдварда Вайніловіча. 1911).

14 Zdziechowski M. Widmo przeszłości, s. 122.

15 Степанский А. Польская группа Государственного совета в 1906–1907 гг. // Исследования по истории польского общественного движения. Под ред. В. А. Дьякова и др. Москва, 1971, с. 366.

16 Woyniłłowicz E. Wspomnienia (1847–1928), s. 123.

17 Цыт. паводле: Степанский А. Польская группа Государственного совета…, с. 369.

[18] Wojniłłowicz E. Wspomnienia. 1847–1928, s. 132.
[19] Ibidem, s. 333–334.
[20] Ibidem, s. 153.
[21] Jankowski Cz. W ciągu dwóch lat. Warszawa, 1907, s. 137.
[22] Dziennik Wileński. 1907, Nr 141.
[23] Kurier Litewski. 1907, Nr 162.
[24] Kurier Litewski. 1907, Nr 182, 192.
[25] Государственный совет. Стенографические отчёты. Сессия III–VII. СПб., 1908–1912. Сессия III, стлб. 2360.
[26] Woyniłłowicz E. Wspomnienia. 1847–1928, s. 168–169.
[27] Раман Скірмунт ў лісце да Мар'яна Здзяхоўскага ад 15.08.1928 г. // Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага ўніверсітэту. F 33-702 a, арк. 10–11.

# «КРАЁВЕЦ» У ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЕ РАСЕЙСКАЙ ІМПЕРЫІ («ДУМСКІ ЭПІЗОД» ПАЛІТЫЧНАЙ БІЯГРАФІІ РАМАНА СКІРМУНТА. 1906)*

Краёвасць як ідэйная плынь сфармавалася на пачатку ХХ ст. у асяроддзі супольнасці літоўскіх і беларускіх палякаў, нашчадкаў шляхты Вялікага Княства Літоўскага. У вялікай ступені яна грунтавалася на феномене «ліцвінскай традыцыі». Краёвасць звычайна трактуюць як нацыянальную ідэю палітычнага тыпу, дзе галоўным крытэрыем нацыянальнасці выступаў патрыятызм у дачыненні да «гістарычнай Літвы».

Адным з ідэолагаў краёвасці быў землеўласнік і прадпрымальнік з беларускага Палесся Раман Скірмунт (1868–1939). Ягоны першы публічны выступ, менавіта выданне ў Львове ў 1904 г. брашуры «*Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej*», быў абумоўлены крызісам «ліцвінскай» грамадскасці, якая аказалася няздольнай адказаць на нацыянальныя і сацыяльныя выклікі новай эпохі.

Р. Скірмунт убачыў у гэтым небяспеку: «*Сфінкс гісторыі загадаў нам сваю загадку зусім нядаўна, а Эдыпа, здольнага разгадаць загадкі Сфінкса, звычайна, трэба доўга чакаць. Зрэшты, заняты працай на зямлі шляхціц-земляроб не мае асаблівага жадання ламаць галаву над падобнымі загадкамі. Ён іх папросту ігнаруе. Але Сфінкс забівае і тых, каго не цікавяць яго загадкі*»[1].

Краёвец Р. Скірмунт сцвярджаў, што польскамоўная шляхта не з'яўляецца для Літвы «прышлым элементам», што яна належыць да карэннага насельніцтва і мае агульнае паходжанне з «навакольным людам»: «*Адзіная кроў і адзінае паходжанне – адна маці-зямля ад веку*»[2]. Менавіта гэты чыннік (агульнасць паходжання і крыві ці «братэрства») Р. Скірмунт лічыў зыходным пунктам у выпрацоўцы культурнай праграмы мясцовай шляхты, якая павінна ўспомніць пра свае абавязкі адносна «братэрскага»

---

* Артыкул упершыню быў апублікаваны ў зборніку «Wokół Wielkiego Księstwa Litewskiego i jego tradycji» (Red. Berbadetta Manyś i Michał Zwierzykowski. Poznań: UAM, 2016. S. 299–310).

народу. Абавязкам шляхціца-ліцвіна аўтар лічыў удзел у літоўскім нацыянальным Адраджэнні і клопат пра захаванне польскай культуры. Пры гэтым ён спасылаўся на прыклады Швейцарыі і Шатландыі.

Характарызуючы асаблівасці польска-літоўска-беларускіх стасункаў, Р. Скірмунт сцвярджаў, што менавіта польскасць выратавала «сапраўдную Літву» ад асіміляцыі з боку «Белай Русі» (аўтар пісаў пра «беларускае мора»), якая паглынала яе з усходу, поўначы і поўдня[3].

Варта адзначыць, што ўпершыню ў польскамоўнай публіцыстыцы «Белая Русь» і беларусы разглядаліся як істотны фактар гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Наступная брашура *«Głos przeszłości i potrzeba chwili»* (Lwów, 1905)[4] пісалася ўжо пад уплывам тых палітычных і нацыянальных пераменаў, што адбываліся на пачатку расейскай рэвалюцыі 1905 г. Раней выказаныя ідэі даводзілася адстойваць ужо ў палеміцы не толькі з расейскім урадам, але таксама з польскімі нацыянальнымі дэмакратамі.

Раман Скірмунт, характарызуючы настроі шляхты, заўважыў, што *«апроч людзей, якія ўсёй сілай уласных пачуццяў імкнуцца да «сваёй Радзімы» – Польскага каралеўства, і асобаў, што прагнуць «расейскай пяшчоты», сярод шляхты знаходзіцца паважная група людзей, сэрцам і душою адданых справам сваёй «малой Айчыны» – Літвы ці Русі»*[5].

У гэтых першых тэкстах былі выказаныя наступныя ідэі канцэпцыі краёвасці:

1. Ідэя супольнага («краёвага») грамадзянства як згоднага сужыцця розных нацый у Літве.

2. Ідэя агульнага паходжання шляхты і сялянства (асабліва папулярная ў кансерватыўным варыянце краёвасці), адзінства крыві, «братэрства» шляхты і народу (люду).

3. Ідэя «лакальнага патрыятызму», любові да Краю, да роднай зямлі як падмурку краёвага грамадзянства.

4. Дапаўненне феномена «ліцвінства» чыннікам «Русі». Якраз ёй Р. Скірмунт удзяляў галоўную ўвагу ў сваіх гістарычных экскурсах. Ён лакалізаваў «Русь» у міжрэччы Прыпяці, Дзвіны і Дняпра, а гэта значыць, што размова ішла пра Беларусь. Канчатковае ператварэнне гэтай гістарычнай «Русі» ў «Беларусь» адбылося ўжо ў ягонай практычнай палітычнай дзейнасці.

Пашырэнню краёвай ідэі моцна паспрыялі рэвалюцыйныя падзеі і тыя ўступкі, на якія быў вымушаны пайсці расейскі царызм. Вялікае

значэнне меў Маніфест 17 кастрычніка 1905 г., які абвяшчаў увядзенне ў Расеі асноўных дэмакратычных свабодаў, а таксама выбары і дзейнасць Дзяржаўнай Думы. Гэтыя перамены стваралі магчымасць ператварэння краёвасці з пэўнай дэкларацыі аб намерах у палітычную праграму літоўскіх і беларускіх палякаў.

Ужо ў лістападзе 1905 г. Раман Скірмунт выступіў з ідэяй стварэння «Краёвай партыі Літвы і Русі» і прапанаваў праграму сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных ператварэнняў[6]. На яго думку, Край, які мае ўласныя інтарэсы, павінен навучыцца іх самастойна бараніць, а дзеля гэтага неабходна стварыць агульнакраёвую партыю.

Магчыма, ідэю стварэння такой партыі таксама падказвала абвастрэнне сацыяльных адносінаў, асабліва ў вёсцы. У лістападзе 1905 г. распачаліся падзеі, якія можна назваць «сялянскім бунтам», што шырока пракаціўся па беларускіх землях. Падставай сталі чуткі, што, калі сяляне да канца года не забяруць памешчыцкія землі, то наогул нічога не атрымаюць.

Эліта літоўскіх і беларускіх палякаў пачала ўсведамляць вялізную небяспеку аграрнай праблемы. У гэтыя дні Эліза Ажэшка ў лісце да Канстанцыі Скірмунт сцвярджала, што менавіта аграрная праблема з'яўляецца найбольш небяспечнай і нават забойчай для «*нашай нацыянальнасці і цывілізацыі*»: «*Альбо сялянскія масы атрымаюць прадмет сваіх пажаданняў, альбо пачнецца завіруха крыві і полымя. У першым выпадку нашая нацыя будзе абезгалоўлена […], у другім – апынецца пасярод паводкі крыві і полымя*»[7].

Сітуацыя патрабавала рашучых дзеянняў. І Раман Скірмунт яшчэ раз выступіў з прапановай стварэння краёвай партыі[8]. На гэты раз галоўным аргументам яе стварэння станавілася неабходнасць «*спыніць знішчэнне грамадскага ладу*» і супольнымі намаганнямі ўсіх народаў Краю развіваць жыццё «*ў духу свабоды, права і парадку*» на падмурку Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г. Цікава, што ў гэтым звароце фігуравала ўжо «Краёвая партыя Белай Русі і Літвы».

У намаганнях па пашырэнню краёвай ідэі і яе ператварэнню ў важны элемент палітычнага жыцця краю Раман Скірмунт не застаўся ў адзіноце. Значную ролю ў далейшай распрацоўкі канцэпцыі краёвасці ў гэты час адыгралі публікацыі Баляслава Ялавецкага, Канстанцыі Скірмунт, Міхала Ромэра, «кансерватыўна-краёвая» пазіцыя штодзённага «Кур'ера Літэўскага» (падчас яго рэдагавання Чэславам Янкоўскім у 1905–1907 гг.),

«ліберальна-краёвая» праграма «Газеты Віленьскай» (рэдагаваў Міхал Ромэр, 1906), а таксама стварэнне Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (1906) на чале з віленскім біскупам Эдвардам фон Ропам.

Відавочна, што Раман Скірмунт адным з першых прамовіў тое, што сапраўды моцна хвалявала эліту літоўскіх і беларускіх палякаў. Наогул «краёвае» рознагалоссе было надзвычай карысным. Ягоныя ўдзельнікі пагаджаліся ў галоўным, а менавіта ў імкненні нейтралізаваць нацыянальныя і сацыяльныя «лініі расколу» краёвага грамадства, актуалізаваць традыцыі талеранцыі часоў Вялікага Княства Літоўскага і ператварыць Край у суб'ект палітычнага жыцця Расейскай дзяржавы, у якім літоўскія і беларускія палякі захаваюць свае эканамічныя і культурныя пазіцыі. Голас Рамана Скірмунта ў гэтым рознагалоссі ў 1905–1906 гг. быў адным з найбольш выразных.

Першым сур'ёзным выпрабаваннем для краёвай ідэі і яе носьбітаў сталі выбары ў Дзяржаўную Думу. Асабіста для Рамана Скірмунта выбары і праца ў якасці думскага дэпутата былі добрай школай палітычнай дзейнасці. Дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў паседжаннях Думы яго імя стала вядомым далёка па-за межамі Краю, але менавіта ў гэты час пачаў фармавацца вобраз «рэакцыянера Скірмунта».

Па меры набліжэння губернскіх выбарчых з'ездаў станавілася відавочным, што аніводная з трох выбарчых «курый» (землеўласнікі, гарадская і сялянская курыі) паасобку поспеху не дасягне. Напярэдадні губернскага выбарчага з'езду ў Менску сябры Менскага Таварыства сельскай гаспадаркі абмяркоўвалі два варыянты ўласнай тактыкі: змагацца за тое, каб кожная нацыянальнасць і кожны сацыяльны слой атрымалі дэпутацкія месцы або весці барацьбу выключна за поспех «сваіх» дэпутатаў-палякаў. Абмеркаванне было вельмі вострым. Краёвая пазіцыя ў дадзеным выпадку задавальняла не ўсіх. Урэшце рэшт перамог першы «краёвы» падыход, але большасцю ўсяго ў адзін «голас». Як сведчаць успаміны Эдварда Вайніловіча, гэта быў «голас» Аляксандра Скірмунта з Парэчча, які выказаўся апошнім[9]. Бацька Рамана Скірмунта таксама быў краёўцам.

Але галоўная дыскусія сярод літоўскіх і беларускіх палякаў датычыла будучыні іх абранцаў у Дзяржаўнай Думе, а дакладней пытання пра іх магчымае далучэнне да дэпутатаў з Каралеўства Польскага. Гэтая дыскусія яшчэ больш актуалізавала краёвую ідэю.

Эдвард Вайніловіч на старонках «Кур'ера літэўскага» заклікаў будучых дэпутатаў быць салідарнымі ў клопаце пра будучыню Краю і кіравацца

толькі патрэбамі «Літвы і Русі», не пераймаць лозунгі Варшавы ці Масквы, а абапірацца выключна на ўласную гісторыю і традыцыі. Ён выступаў за стварэнне ў Думе асобнай ад Каралеўства Польскага фракцыі дэпутатаў, якую назваў «Краёвай партыяй Літвы і Русі». Паводле Э. Вайніловіча, яна будзе моцнай, калі з'яднае намаганні ўсіх краёвых арганізацый, у т. л. Канстытуцыйна-каталіцкай партыі, Менскага ды іншых губернскіх таварыстваў сельскай гаспадаркі, а таксама будзе абараняць інтарэсы ўсіх народаў Краю[10].

Гэтую пазіцыю цалкам падзяляў і Раман Скірмунт. 11 сакавіка 1906 г. падчас выбарчага сходу курыі землеўласнікаў у вёсцы Хойна Пінскага пав. ён быў абраны дэпутатам на павятовы сход выбаршчыкаў у Пінск[11]. Ужо пінскі сход накіраваў яго ў Менск для ўдзелу ў заключным этапе выбараў «думцаў» ад Менскай губерні.

Выбары ў Менску аказаліся найбольш паспяховымі для «літоўскіх палякаў». Напярэдадні яны заключылі пагадненне з прадстаўнікамі «гарадской курыі», што выклікала пратэсты сялянскіх удзельнікаў выбарчага сходу. У знак пратэсту сяляне пакінулі губернскі з'езд. У выніку дэпутатамі Думы былі абраныя сямёра прадстаўнікоў беларускіх палякаў, у т. л. Раман Скірмунт. Па колькасці набраных галасоў (86) ён саступіў толькі адвакату Аляксандру Лядніцкаму (88)[12].

Дарэчы, апошні пазней сцвярджаў, што Раман Скірмунт імкнуўся не дапусціць зыходу сялянскіх дэпутатаў з выбарчага з'езду і нават хацеў зняць уласную кандыдатуру дзеля сялянскага дэпутата[13]. Ён выразна імкнуўся да паразумення з сялянамі. Але сялянскія дэпутаты гэтай «ахвяры» не прынялі.



*Раман Скірмунт. Фотаздымак*

Пасля завяршэння выбараў віленскі «Кур'ер Літэўскі» пачаў знаёміць чытачоў з біяграфіямі і праграмамі «сваіх» дэпутатаў. У своеасаблівай «візітцы» Рамана Скірмунта асаблівая ўвага надавалася якраз ягонай краёвай пазіцыі і стаўленню да розных народаў Краю. Сцвярджалася, што ён лічыць беларусаў моцным і скансалідаваным народам, верыць у адметнасць і перспектывы развіцця беларускай культуры. Таксама адзначалася, што Р. Скірмунт выступае

за стварэнне асобнай дэпутацкай фракцыі («Кола Літвы і Русі»), але не хоча, каб яна была выключна польскай. Ягонай мэтаю з'яўляецца ўтварэнне фракцыі з удзелам беларусаў, літоўцаў і, верагодна, габрэяў. Пры гэтым ён усведамляе, што гэта задача заўтрашняга дня, што сёння яе немагчыма ажыццявіць[14].



*Адкрыццё І Дзяржаўнай Думы. Фотаздымак. 1906*

Дэпутаты ад супольнасці літоўскіх і беларускіх палякаў прыехалі ў Пецярбург, так і не закончыўшы дыскусію аб лёсе іх дэпутацкай групы. Толькі 4 мая было прынята канчатковае рашэнне стварыць самастойную «тэрытарыяльна-нацыянальную» думскую фракцыю з уласнай праграмай і назвай «Група дэпутатаў ад заходніх губерняў» (у друку яе часцей называлі «Тэрытарыяльным колам»). Вызначальную ролю ў гэтым адыграў якраз Раман Скірмунт. Прынцыповае значэнне мела таксама заява, што ўвайсці ў «Тэрытарыяльнае кола» могуць усе дэпутаты Беларуска-Літоўскага краю незалежна ад нацыянальнасці.

Распрацоўка праграмы Кола была завершаная ў сярэдзіне чэрвеня 1906 г. Галоўнай мэтай яго дзейнасці абвяшчалася мірнае суіснаванне ўсіх народаў Краю і задавальненне іх патрэбаў. Будучае дзяржавы звязвалася з канстытуцыйна-парламенцкім ладам, заснаваным на дэмакратычных прынцыпах. Таксама праграма ўключала патрабаванні ўвядзення асноўных дэмакратычных свабодаў, поўнай роўнасці ўсіх грамадзянаў незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, ліквідацыі саслоўнага падзелу, канстытуцыйнага забеспячэння нацыянальных і культурных патрэбаў і правоў нацыянальных меншасцяў, стварэнне органаў самакіравання як пераходны этап да ператварэння Расеі ў федэрацыю розных народаў, дазвол на карыстанне мясцовымі мовамі ва ўсіх установах, судах, школах і грамадскіх арганізацыях, увядзенне ўсеагульнага бясплатнага пачатковага навучання ды інш.

У аграрным пытанні адзінства дэпутаты не дасягнулі. Яны згаджаліся, што яго вырашэннем павінны займацца органы мясцовага самакіравання

на аснове прынцыпу прыватнай уласнасці на зямлю і шляхам паляпшэння і павялічэння зямельнай уласнасці сялянаў. Дзеля гэтага прапанавалася выкарыстанне казённых, кляштарных, дзяржаўных і кабінецкіх зямель.

Розніца поглядаў датычыла лёсу памешчыцкага землеўладання. «Палажэнне А» вызначала яго так: «Магчыма частковае прымусовае адчужэнне памешчыцкіх зямель за выкуп». «Палажэнне Б»: «*Магчыма прымусовае адчужэнне прыватных зямель дзеля камасацыі, урэгулявання праблемы сервітутаў, ліквідацыі цераспалосіцы*». Першы варыянт быў больш радыкальным, а апошні прадугледжваў пэўныя гарантыі недатыкальнасці памешчыцкага землеўладання.

Якой была пазіцыя Рамана Скірмунта? На пачатку мая 1906 г. «Кур'ер Літэўскі» правёў апытанне сярод сяброў «Тэрытарыяльнага кола». Першым выказаўся якраз Раман Скірмунт, абраны ў склад Аграрнай камісіі Думы: «*У Думе ёсць шмат прыхільнікаў рабавання землеўласнікаў і нацыяналізацыі зямлі. Але большасць не дапусціць перамогі ініцыятараў гэтых рызыкоўных эксперыментаў. Надзяленне сялян дадатковым надзелам магчымае толькі ў Цэнтральнай Расіі. У нас магчымае толькі частковае адчужэнне памешчыцкіх зямель за выкуп*»[15].

8 мая 1906 г. Дума пачала абмяркоўваць аграрнае пытанне. Нагадаю, што дэпутаты г. зв. «Трудовой группы» прапанавалі стварэнне «грамадскага зямельнага фонда» дзеля забеспячэння зямлёй малазямельных і беззямельных сялянаў на ўмовах арэнды надзелаў у межах вызначанай «працоўнай нормы» («праект 104-х»). Існаваў таксама эсэраўскі праект, які зыходзіў з пастулату ліквідацыі прыватнай уласнасці на зямлю і абвяшчэння яе ўласнасцю ўсяго насельніцтва Расеі.

Першым з дэпутатаў «Тэрытарыяльнага кола» выступіў якраз Раман Скірмунт. Ён прызнаў неабходным павялічэнне сялянскага землеўладання, але выказаўся катэгарычна супраць папулярных праектаў радыкальнай аграрнай рэформы.

Фрагмент прамовы (паводле стэнаграмы)[16]:

*«Согласно заявлению, отчуждение частной земельной собственности должно произойти в самых обширных, можно сказать, даже небывалых размерах. Несомненно, если все те предложения, которые заключены в этом заявлении, будут приняты, то крупное и среднее землевладение будет упразднено [...] Во многих случаях и мелкое землевладение будет поглощено [...] Ломка прежнего строя в прежней форме землевладения произошла бы основательная, и от него не осталось бы камня на камне.*

*Однако вопрос – в чью пользу произошло бы это? Кто явился бы, так сказать, наследником этого бывшего землевладения? Местные землевладельцы были бы замещены миллионами новых счастливых собственников? Вовсе нет. Единственным наследником, единственным юридическим лицом, которое бы приняло в свою собственность все отчуждаемые земли, было бы государство – все земли поступили бы в государственный земельный фонд. Опять благодать для бюрократии [...]*

*Если крестовый поход физиократов, аграриев и доктринеров против частной земельной собственности будет иметь успех, то этим всё-таки дело не кончится, еще останется множество безземельного населения, останутся рабочие, останется и бедное городское население. Они тогда выступят с иском к имущим классом с требованием передать в их пользование дома, промышленные заведения, капиталы. И это требование будет вполне справедливо, и мы не найдем никаких справедливых против него возражений. Такие требования, несомненно, поступят к нам.*

*После японской авантюры, после несчастной внутренней междоусобицы, вызванной нерадением и грехами правительства, не толкнем ли мы страну в новую экономическую и социальную авантюру, еще более опасную в своих последствиях, чем все те, которые мы уже пережили?*»

Гэта быў адзін з найбольш аргументаваных выступаў супраць праектаў радыкальнага вырашэння аграрнай праблемы. Выступленне не спадабалася большасці дэпутатаў і напрыканцы перапынялася шумам і выкрыкамі абурэння.

У абарону прыватнага землеўладання і супраць нацыяналізацыі зямлі выступілі таксама князь Геранім Друцкі-Любецкі і біскуп Эдвард фон Роп. Пазіцыю дэпутатаў Кола падтрымала эліта літоўскіх і беларускіх палякаў, а вось у Пецярбурзе вакол іх узнікла атмасфера варожасці. І гэта пры тым, што па большасці пытанняў сябры «Тэрытарыяльнага кола» цалкам падтрымлівалі курс на дэмакратызацыю краіны

У прыватнасці, Раман Скірмунт падпісаў заяву 151-го дэпутата Думы «Асноўныя палажэнні законаў пра дзяржаўную роўнасць»[17]. Падмуркам прапаноў быў тэзіс: «*Усе грамадзяне абодвух полаў роўныя перад законам*». Заява таксама прадугледжвала адмену ўсіх саслоўных прывілеяў і абмежаванняў, а таксама абмежаванняў, звязаных з нацыянальнай і канфесійнай прыналежнасцю ды інш.

Ягоны ж подпіс стаяў на шматлікіх дэпутацкіх запытах да міністра ўнутраных справаў Пятра Сталыпіна адносна зняволеных у турмах,

асуджаных на адміністратыўную высылку ці на смерць. Ва ўсіх запытах адзначалася сваволле мясцовай адміністрацыі, паводле загадаў якой адбываліся арышты і турэмнае зняволенне без прад’яўлення абвінавачванняў, а таксама актыўна выкарыстоўваліся ваенныя суды[18].

Атмасфера ізаляцыя, якая ўзнікла вакол «Тэрытарыяльнага кола», не спрыяла ягонай кансалідацыі. Апроч лёсу памешчыцкага землеўладання ў Беларусі і Літве дэпутатаў падзяліла рознае стаўленне да нацыянальнай праблемы.

Цікава, што «Дзеннік Кіёўскі» ў адным з рэпартажаў з Думы пераказаў размову з «*адным з дэпутатаў Тэрытарыяльнага кола*» (гэта быў якраз Раман Скірмунт!), які заявіў, што ён беларус, а не паляк. Гэтая заява выклікала абуральныя каментары карэспандэнта «Дзенніка».

Сябра Кола граф Юзаф Патоцкі на старонках гэтай газеты прызнаў існаванне супярэчнасцяў і з раздражненнем заўважыў: «*Я заўсёды выказваюся як паляк, а некаторыя іншым разам выступаюць як беларусы*»[19]. Не цяжка здагадацца, каго ён меў на ўвазе...

У адным з наступных нумароў гэтай газеты быў апублікаваны ліст «*грамадзяніна Забранага краю П. В.*» Аўтар быў абураны паводзінамі польскіх дэпутатаў ад Менскай губ., якія нібыта публічна прызналі, што з’яўляюцца «*тутэйшымі*», а таксама «*беларусамі польскай культуры*». У якасці гэтых «здраднікаў» фігуравалі Раман Скірмунт, Геранім Друцкі-Любецкі, Віктар Янчэўскі і Пётр Масоніус.

У лісце сцвярджалася існаванне ў «Тэрытарыяльным коле» двух груповак, якія змагаюцца паміж сабой. Пры гэтым «беларусы» нібыта абзываюць апанентаў «ляхамі» і г. д.[20] Падобна на тое, што «ляхамі» аказаліся якраз абранцы польскіх землеўласнікаў з украінскіх земляў (у т. л. згаданы граф Юзаф Патоцкі).

Варта прыгадаць, што адной з найбольш значных дэпутацкіх арганізацый у І Дзяржаўнай Думе была «Парламенцкая група Саюза аўтанамістаў», якая з’яднала прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў Расеі, што з’яўляліся сябрамі розных палітычных партый. Падмуркам яднання была ідэя дэцэнтралізацыі сістэмы кіравання рэгіёнамі імперыі і аўтаноміі акраінаў. Група аўтанамістаў налічвала ад 120 да 150 дэпутатаў[21]. А сярод яе найбольш актыўнай часткі вылучаліся дэпутаты г. зв. «заходніх губерняў». Магчыма гэтай актыўнасці спрыяла і тое, што адным з ініцыятараў стварэння Групы, а потым і яе кіраўніком быў ужо згаданы Аляксандр Лядніцкі.

У лісце да прафесара Мар'яна Здзяхоўскага, напісаным падчас працы I Дзяржаўнай Думы, А. Лядніцкі назваў Рамана Скірмунта сваім «*найвялікшым саюзнікам у Думе*» і заўважыў, што той «*выдатна арыентуецца ў сітуацыі і з'яўляецца надзіва сімпатычным чалавекам*». Адначасна дэпутатаў ад «Русі» (меліся на ўвазе ўкраінскія землі) ён характарызаваў як «*сапраўдных феадалаў і цалкам апалітычных людзей*»[22].

Між тым сярод урадавых колаў яшчэ ў сярэдзіне мая 1906 г. узнікла ідэя роспуску Думы. 20 чэрвеня ўрад нанёс моцны ўдар. У гэты дзень была надрукавана ўрадавая заява аб прынцыпах аграрнай рэформы, у якой падкрэслівалася недатыкальнасць прыватнай уласнасці і недапушчальнасць вырашэння аграрнага пытання на прынцыпах, прапанаваных Думай.

Гэта быў адкрыты выклік, і Дума вырашыла адказаць на яго. Сярод часткі дэпутатаў ад Партыі Народнай свабоды ўзнікла ідэя думскага звароту да народу. Закон забараняў гэта, але дэпутаты вырашылі парушыць закон. У дыскусіі па гэтаму пытанню актыўна ўдзельнічала ўсё «Тэрытарыяльнае кола». Геранім Друцкі-Любецкі і Раман Скірмунт выступілі супраць звароту. Яны лічылі непажаданым адкрытае выступленне Думы супраць урада.

Раман Скірмунт, які расцаніў ўрадавую заяву як «*памылковую*», тым не менш сцвярджаў, што такі зварот можа канчаткова знішчыць уладу. Ён заклікаў не ператвараць Дзяржаўную Думу ў зброю партыйнага змагання.

Фрагмент прамовы (паводле стэнаграмы)[23]:

«*Я обращаюсь к тем, которые желают мирного обновления своей родины. Господа, мы переживаем время серьезное, время опасное. [...] Для мирного обновления страны необходимы новые прочные основы, необходимы новые законы. Конечно, первым должен быть справедливый закон об удовлетворении земельной нужды крестьян, однако в пустых воззваниях, декларациях страна не нуждается, она наслушалась их уже довольно.*

*Председатель: Оратор, я останавливаю вас за слова «пустые воззвания».*

*Голос: Возьмите назад эти слова.*

*Скирмунт: Я вовсе не желал применить это слово «пустое заявление» к докладу комиссии.*

*Желательно было бы в обращении Государственной Думы к народу [...] сказать, воздерживаясь от всяких полемических и неясных принципиальных заявлений, желательно подтвердить, что мы помним его нужды, что*

*мы заботимся о них, что они будут справедливо удовлетворены, однако, для того, чтобы работа наша была плодотворна, необходимо соблюдать в стране законность и спокойствие (аплодисменты справа, шиканье слева, шум)»*.

Большасцю галасоў Дума ўсё ж такі прыняла рашэнне аб звароце да народа. І ўрад выкарыстаў гэта, як зачэпку да яе роспуску.

8 ліпеня 1906 г. Мікалай II падпісаў Маніфест аб роспуску Думы і прызначыў тэрмін склікання II Думы – 20 лютага 1907 г.

Значная частка дэпутатаў (у асноўным фракцыя партыі канстытуцыйных дэмакратаў) пераехалі ў Выбарг, дзе заявілі свой пратэст і заклікалі насельніцтва не плаціць падаткі і адмаўляцца ад вайсковай службы.

«Неафіцыйнае» стаўленне Рамана Скірмунта да роспуску Дзяржаўнай Думы адлюстравалася ў лісце Ядвігі Скірмунт да Элізы Ажэшкі ад 28 ліпеня 1906 г.: «*Мой стрыечны брат вярнуўся з Пецярбургу з перакананнем, што роспуск Думы быў неабходнасцю. Калі б яна далей існавала, то дайшло б да страшэннага выбуху*»[24].

У жніўні 1906 г. адбыўся з'езд землеўласнікаў Менскай губ., на якім была выказаная прапанова распрацаваць праграму, якая яшчэ на этапе выбараў аб'яднала б усіх польскіх кандыдатаў у дэпутаты. Неабходнасць такой праграмы для кандыдатаў у дэпутаты была відавочная як для краёўцаў, так і для нацыянальных дэмакратаў. Разыходжанні пачыналіся пры абмеркаванні яе зместу. Нацыянальныя дэмакраты, як і раней, імкнуліся падмяніць агульнакраёвыя патрэбы польскімі нацыянальнымі інтарэсамі[25]. Краёўцы з гэтым катэгарычна не пагаджаліся. Яны былі перакананыя, што польскія дэпутаты Краю зноў павінны выступіць пад агульнакраёвымі лозунгамі.

Так, у лістападзе 1906 г. у трох нумарах газеты «Кур'ер Літэўскі» быў апублікаваны вялікі артыкул Рамана Скірмунта «*Kwestie programowe*». Дэвізам Краёвага кола ў II Думе Р. Скірмунт лічыў супрацоўніцтва ўсіх нацый, што насялялі Беларуска-Літоўскі край. Паводле ягонага меркавання, гэта зусім не пярэчыла вузканацыянальнаму патрыятызму і тым больш абароне інтарэсаў усяго Краю. «*Мы хочам жыць і працаваць там, куды нас лёс закінуў, на той зямлі, дзе выраслі, сынамі якой ад вякоў з'яўляемся як карэннае насельніцтва. Мы хочам, каб гэты край развіваўся і таму імкнемся не да барацьбы на яго нівах, а да мірнага і культурнага супрацоўніцтва […] Мірная супраца і роўныя правы для ўсіх – гэта наш лозунг*»[26].

Ён быў перакананы як у недапушчальнасці ўваходу дэпутатаў Краю ў Польскае кола, так і ў непазбежнасці супрацоўніцтва з ім. «*Нашыя дарогі не розныя, але адметныя*», – сцвярджаў Раман Скірмунт. Ён яшчэ раз агучыў прапанову, выказаную падчас працы І Думы – уваход у «Краёвае кола» быў адкрыты для ўсіх без розніцы веравызнання і нацыянальнасці.

Р. Скірмунт адказаў на насмешкі польскіх нацыянальных дэмакратаў, якія акрэслілі краёвы патрыятызм «*парафіянствам*». «*Але ж гэта не абы якая «парафія»,* – пісаў ён. – *Былы бюракратычны ўрад называў яе «Северо-Западным краем». Яе межы ад Дзвіны і Нёмана – да Дняпра і Прыпяці. Яна мае агульную гісторыю, і на яе тэрыторыі за выключэннем Ковенскай і часткі Віленскай губ. пануюць тыя ж этнаграфічныя стасункі. Кожны захоча быць пробашчам такой парафіі! Вялікага памеру павінны быць людзі, якім цесна ў ёй!*»

Краёвая ідэя ў думскай дзейнасці Р. Скірмунта найбольш праявілася ў імкненні абараніць падставы эканомікі Беларусі і Літвы ад рызыкоўных эксперыментаў сацыялістычнага характару. Менавіта сацыяльныя праблемы (дакладней, аграрная рэформа) аказаліся ў цэнтры дзейнасці І Дзяржаўнай Думы. Нацыянальна-культурныя пытанні адышлі на другі план.

У далейшым краёвасць Рамана Скірмунта ператворыцца ў пазіцыю беларускага палітыка, які ў 1917 г. адным з першых выступіць з ідэяй аўтаноміі Беларусі, а 18 сакавіка 1918 г. у заяве, адрасаванай нямецкім уладам, выкажацца за незалежнасць Беларусі.

---

1 Ro…munt [Skirmunt R.]. Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej. Lwów, 1904, s. 15.

2 Ibidem, s. 14.

3 Ibidem, s. 7.

4 Ro…munt [Skirmunt R.]. Głos przeszłości i potrzeba chwili. Lwów, 1905, s. 7.

5 Ibidem, s. 9.

6 Skirmunt R. Odezwa Stronnictwa Krajowego Litwy i Rusi // Kurier Litewski, 1905, Nr 65.

7 Цытата паводле: Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. Warszawa, 1964, s. 569–570.

8 Skirmunt R. Odezwa Stronnictwa Krajowego Białej Rusi i Litwy // Kurier Litewski, 1906, Nr 7–8.

9 Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.(2-е выд., дапрац). Санкт-Петербург, 2004, с. 154.

[10] Woyniłłowicz E. Koło Polskie // Kurier Litewski, 1906, Nr 80.
[11] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НАРБ). Ф. 519, воп. 1, ад. з. 1, арк. 119.
[12] Kurier Litewski. 1906, Nr 85.
[13] Lednicki A. Po wyborach // Kurier Litewski, 1907, Nr 41.
[14] Kurier Litewski. 1906, Nr 86.
[15] Kurier Litewski. 1906, Nr 103.
[16] Стенографические отчеты / Гос. дума, 1906 год, сессия первая. Санкт-Петербург: Государственная типография: 1906–1907. Том 1. Заседанiя 1–18, с. 409–411.
[17] Тамсама, с. 378–380.
[18] Тамсама, с. 629, 743; Стенографические отчеты / Гос. дума, 1906 год, сессия первая. Санкт-Петербург: Государственная типография: 1906–1907. Том 2. Заседанiя 19–38, с. 1075, 1572, 1681, 1758, 1801, 1845
[19] Dziennik Kijowski. 1906, Nr 101.
[20] Dziennik Kijowski. 1906, Nr 103. 8 (21).
[21] Бородин Н. А. Государственная Дума в цифрах. СПб., 1906, с. 42.
[22] Ліст не датаваны. Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага універсітэту. F. 33–534. Арк. 7адв. – 8.
[23] Стенографические отчеты / Гос. дума, 1906 год, сессия первая. Санкт-Петербург: Государственная типография: 1906–1907. Том 2. Заседанiя 19–38, с. 1962–1966.
[24] Archiwum Elizy Orzeszkowej. Instytut Badań Literackich PAN. List Jadwigi Skirmuntówny. 28.07.1906 г.
[25] Dziennik Wileński. 1906, Nr 4, 5, 19.
[26] Skirmunt R. Kwestie programowe // Kurier Litewski. 1906, Nr 270.

# РАМАН СКІРМУНТ (1868–1939) ЯК ЛІДЭР БЕЛАРУСКАГА РУХУ (САКАВІК-МАЙ 1917 г.)*

Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. ператварыла Расею ў адну з найбольш свабодных краінаў Еўропы. Між іншым упершыню з'явілася магчымасць легалізацыі нацыянальных рухаў і адкрытай палітычнай дзейнасці дзеля інтарэсаў уласнай нацыі. У выніку пераменаў у авангардзе беларускага руху на ўсход ад лініі фронту апынуўся Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, кіраўніком якога ў канцы студзеня 1917 г. быў абраны Раман Скірмунт.

Актыўнасць гэтага Аддзелу, які з канца лютага ператварыўся ў часовы Беларускі нацыянальны камітэт, моцна паспрыяла росту аўтарытэту Рамана Скірмунта як беларускага палітыка. Невыпадкова на менскім сакавіцкім з'ездзе беларускіх партый і арганізацый ён быў абраны сябрам Беларускага нацыянальнага камітэту, які ўзначальваў да канца мая 1917 г.

Гэта быў перыяд, калі на чале беларускага руху знаходзіўся чалавек, які не меў нічога агульнага з Беларускай сацыялістычнай Грамадой і быў вядомы ў грамадстве як краёвец, кансерватар і праціўнік радыкальнай аграрнай рэформы.

Чаму так здарылася? Што было характэрна для дзейнасці Рамана Скірмунта як лідэра беларускага руху? Пра які асабісты ўнёсак гэтага палітыка-краёўца ў беларускую справу можна казаць?

Раман Аляксандравіч Скірмунт нарадзіўся ў маёнтку Парэчча на Піншчыне ў красавіку 1868 г. Доўгі час займаўся гаспадарчымі справамі маёнтку, прамысловасць якога складала гонар усёй Менскай губ. Грамадская дзейнасць пачалася з выдання ў Львове двух брашур – «Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej» (1904) і «Głos przeszłości i potrzeba chwili» (1905). У гэтых публікацыях Раман Скірмунт сфармуляваў асновы г. зв. «краёвай ідэі» ў яе кансерватыўным варыянце.

---

* Друкуецца ўпершыню.

Краёвая ідэя грунтавалася на палітычным разуменні нацыі, дзе галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці абвяшчаўся патрыятызм. Насуперак дамінуючым у рэгіёне этнакультурным нацыянальным рухам краёўцы высунулі канцэпцыю «нацыі ліцвінаў», якая ўключала ўсе карэнныя народы «гістарычнай Літвы» (палякаў, літоўцаў, беларусаў, а таксама звычайна габрэяў) і ўсе існуючыя сацыяльныя групы. Прыналежнасць да гэтай нацыі вызначалася выключна патрыятызмам «грамадзяніна Краю». Краёўцы трактавалі «гістарычную Літву» як суб’ект гісторыі і імкнуліся зрабіць яе суб’ектам палітыкі[1].

Палітычная дзейнасць Р. Скірмунта распачалася ў 1906 г., калі ён быў абраны дэпутатам Дзяржаўнай Думы ад Менскай губ. У 1907 г. палітык ініцыяваў стварэнне «Краёвай партыі Літвы і Беларусі» як міжпартыйнага аб’яднання літоўскіх і беларускіх палякаў, беларусаў і літоўцаў. Ідэя пацярпела няўдачу, аднак ён не адмовіўся ад намеру прыцягнуць беларускіх адраджэнцаў да супрацы з краёўцамі. Вядомыя ягоныя кантакты з «нашаніўцамі», якія адбываліся пры пасрэдніцтве княгіні Марыі Магдалены Радзівіл.

Напрыканцы 1916 г. буйны памешчык і прадпрымальнік з Палесся, кіраўнік Губернскай харчовай камісіі, фактычны Упаўнаважаны Асобнай нарады па харчовых мерапрыемствах у Менскай губ. і віцэ-старшыня Менскага сельскагаспадарчага таварыства далучыўся да Менскага аддзелу Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, а ў студзені 1917 г. узначаліў яго[2].

Паводле паказанняў Аркадзя Смоліча следчым АДПУ (1930), гэтай «беларускай мабілізацыі» Р. Скірмунта моцна паспрыяў Максім Багдановіч, які якраз і запрасіў яго ўвайсці ў склад Таварыства[3]. Здаецца, гэтай інфармацыі можна давяраць, бо, як прыгадвала пазней Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас) А. Смоліч быў блізкім сябрам Максіма Багдановіча падчас знаходжання паэта ў Менску[4]. Апроч таго, М. Багдановіч у другой палове 1916 г. – пачатку 1917 г. працаваў у Губернскай харчовай камісіі ў якасці сакратара і цесна супрацоўнічаў з Раманам Скірмунтам[5].

Далучэнне да беларускай арганізацыі было важным жыццёвым выбарам Р. Скірмунта. Аналагічныя таварыствы дапамогі ахвярам вайны адначасна з’яўляліся важнымі легальнымі асяродкамі нацыянальных рухаў. Беларускае таварыства не з’яўлялася выключэннем.

Пры ўсёй ягонай ранейшай сімпатыі да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння выбар, зроблены напярэдадні Расейскай

рэвалюцыі, быў незвычайным для прадстаўніка роду Скірмунтаў. Староннямy назіральніку даволі складана ў гэтым выбары разглядзець пэўны прагматызм буйнога прадпрымальніка і абшарніка. Усё ж такі беларускі рух меў вельмі абмежаваную сацыяльную падтрымку і быў выразным аўтсайдэрам у параўнанні з польскім і літоўскім рухамі, дзейнасцю шматлікіх габрэйскіх арганізацый і ўплывамі вялікарускіх чарнасоценцаў.

Магчыма, Раман Скірмунт належаў да катэгорыі «палітыкаў–рамантыкаў». Гэтая думка, прынамсі, дапамагае зразумець прычыны ягонай пазнейшай палітычнай паразы. Праўда, беларускія дзеячы сацыялістычнай арыентацыі заўсёды бачылі ў выбары Р. Скірмунта прагматызм і хітрасць, падазравалі яго ў прапольскіх сімпатыях.

У ролі лідэра беларускага руху Р. Скірмунт апынуўся амаль адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі. Магчыма, менавіта ён быў адным з ініцыятараў пераўтварэння Менскага аддзелу Беларускага таварыства дапамогі ў часовы Беларускі нацыянальны камітэт, які адразу ж распачаў энергічную арганізацыйную і прапагандысцкую працу.

Дарэчы, «часовым Беларускім нацыянальным камітэтам» назвала яго ў сваіх успамінах Людвіка Сівіцкая[6], а ва ўлётцы гэтай арганізацыі («Biełarusy») ён фігураваў пад назвай *«Мінскі беларускі камітэт»*[7].

Дарэчы, з беларускіх гісторыкаў першым заявіў пра стварэнне ў Менску беларускага каардынацыйнага цэнтру Станіслаў Рудовіч. Яшчэ ў 1996 г. ён сцвярджаў, што пасля Лютаўскай рэвалюцыі Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ператварыўся ў «Нацыянальны камітэт» і распачаў энергічную арганізацыйную і прапагандысцкую працу[8]. Менскі гісторык таксама даволі грунтоўна ахарактарызаваў першыя крокі Камітэту.

У вялікай ступені дзякуючы аўтарытэту Рамана Скірмунта сярод «вярхушкі» менскай грамадскасці і актыўнасці сяброў Камітэту, у першыя тыдні рэвалюцыі прысутнасць гэтай беларускай арганізацыі ў грамадскім жыцці горада была вельмі прыкметнай. Так, прадстаўнік «Беларускага камітэту» Павел Аляксюк увайшоў у склад Камітэту грамадскай бяспекі Менску[9].

Іншы сябра Камітэту Лявон Заяц быў сакратаром першага сходу Менскага савету рабочых дэпутатаў, на якім разглядалася квота прадстаўніцтва ў Савеце ад прадпрыемстваў, войска, партыйных і нацыянальных арганізацый. Аднак, калі 4 сакавіка на паседжанні

Беларускага камітэту ён паведаміў пра стварэнне Менскага савету і прапанаваў накіраваць у яго склад прадстаўніка беларускай арганізацыі, яго прапанову не прынялі.

Л. Заяц пазней прыгадваў тую «іранічную крытыку», якую пачуў ад прысутных. Маўляў, няма чаго *«з «нейкімі» саветамі важдацца, калі адчыняюцца для Нацыянальнага камітэту шырокія перспектывы супрацоўніцтва з сапраўднай уладай краю...»* У выніку абралі толькі часовага дэлегата *«з мэтамі інфармацыйнымі»* і толькі дзякуючы таму, што за кантакты з Саветам выказаўся Р. Скірмунт[10].

Гэтыя першыя крокі часовага Беларускага камітэту сведчылі пра імкненне ягонага кіраўніка Р. Скірмунта да паразумення і кансалідацыі з рознымі палітычнымі сіламі. Гэтае імкненне будзе відавочным на працягу ўсяго «беларускага эпізоду» палітычнай дзейнасці палескага землеўласніка.

Для беларусаў надзвычай актуальнай была праблема ўласнага адзінства, звязаная між іншым з канфесійнай падзеленасцю беларусаў. Цалкам невыпадкова першай прапагандысцкай акцыяй Беларускага камітэту стала ўжо згаданая друкаваная ўлётка «Biełarusy», якая заклікала да яднання: *«Ніхай нас нішто не раздзеліць, хай ні будзе сваркі паміж беларусам праваслаўным і каталіком, бо ўсе мы дзеці аднэй Маткі – Беларусі»*. Яна ж яшчэ раз сцвярджала адметнасць беларусаў ад сваіх суседзяў: *«Мы не палякі і не расейцы...»* Улётка друкавалася як польскім варыянтам лацінкі, так і кірыліцай[11].

Адзінства, сапраўды, магло ўмацаваць пазіцыі беларускай арганізацыі ў той палітычнай і нацыянальнай барацьбе, якая толькі распачыналася. Дарэчы, сам склад часовага Беларускага камітэту, у якім Р. Скірмунт дзейнічаў разам з такімі прыхільнікамі сацыялістычных ідэяў як Аркадзь Смоліч, Фабіян Шантыр або Усевалад Фальскі, ствараў для гэтага пэўныя магчымасці.

Вельмі важнай справай для пашырэння ўплываў быў беларускі друк. Усведамляючы гэта, Камітэт ініцыяваў збор сродкаў у фонд «вольнага беларускага друку».

6 сакавіка 1917 г. менская беларуская арганізацыя ўпершыню публічна і галасна заявіла пра сваё існаванне. Часовы Беларускі нацыянальны камітэт прыняў удзел у агульнагарадской маніфестацыі ў гонар рэвалюцыі. Сябры Камітэту прайшлі ў калоне пад сваім сцягам з надпісамі «Witajma wolu narodu» (лацінкай) і «Жыве Беларусь» (кірыліцай)[12]. А праз чатыры

дні Камітэт у памяшканні былога участка паліцыі на Залатой горцы правёў ужо самастойны мітынг, на якім з прамовамі на беларускай мове выступалі П. Аляксюк, А. Смоліч, У. Фальскі і Ф. Шантыр[13].

12 сакавіка, калі ў Менску праводзіўся «Дзень беларускага значка», адбыўся першы публічны выступ Рамана Скірмунта на беларускай мове. Паводле сведчання ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, Скірмунт *«добра ўладаў беларускай мовай (трохі з палескім акцэнтам: «шо, шчо»)».*

Ён жа адзначыў аратарскія здольнасці старшыні Беларускага камітэта і прыгадваў, што выступленні Р. Скірмунта на беларускіх сходах *«выдзяляліся і зместам і формай. Яны былі заўсёды высокапатрыятычныя з беларускага пункту гледжання і часам нават проста рэвалюцыйныя, што выклікала ў прысутных буру воплескаў»*[14].

Цэнтральнай падзеяй гэтага дня стаўся мітынг у кінатэатры «Гігант», на якім выступалі Р. Скірмунт, доктар філасофіі П. Масоніус, Л. Заяц, П. Аляксюк, А. Смоліч, У. Фальскі і Ф. Шантыр ды інш. Нягледзячы на разыходжанні ў палітычных поглядах, усе яны выступалі сугучна, бо іх яднала нацыянальная ідэя. «*Калі Скірмунт,* – успамінаў пазней Макар Краўцоў, – у *кожнае слова стараўся ўлажыць праграму, дык Шантыр спяваў гімны рэвалюцыі проста за тое, што яна ўжо сталася, што яна ёсць. Абодва яны былі тады разам, за адным столікам прэзідыуму»*[15]. Але так будзе не заўсёды.

У прынятай аднагалосна рэзалюцыі мітынгу вылучаўся галоўны лозунг беларускага нацыянальнага руху пасля Лютаўскай рэвалюцыі, менавіта – патрабаванне аўтаноміі Беларусі. «Минский голос» цытаваў рэзалюцыю: «*Беларусы, стоячы на глебе краёвай аўтаноміі, будуць выбіраць ва Устаноўчы сход грамадзян, што падзяляюць гэты прынцып»*[16].

Можна сцвярджаць, што менавіта часовы Беларускі нацыянальны камітэт і ягоны кіраўнік Раман Скірмунт першымі выступілі публічна з лозунгам аўтаноміі Беларусі ў межах федэратыўнай і дэмакратычнай Расейскай рэспублікі.

Менавіта гэты лозунг стаў асновай дзейнасці беларускіх адраджэнцаў у 1917 г. і засведчыў пераход беларускага руху на новы этап. Праца па нацыянальна-культурнаму Адраджэнню пачала сумяшчацца з актыўнай палітычнай дзейнасцю.

Актыўнасць часовага Беларускага нацыянальнага камітэту прад-вызначыла тое паважлівае стаўленне да беларушчыны, якое раней не назіралася ў Менску. Так, запланаваны групай менскіх адвакатаў цыкл

папулярных лекцый пра формы выбараў ва Устаноўчы сход абяцалі чытаць на рускай, польскай, ідыш і беларускай мовах[17].

Камітэт грамадскай бяспекі вырашыў адкрыць у Менску Народны дом і даверыць яго кіраўніцтва Беларускаму камітэту. У тым жа сакавіку 1917 г., калі Менскі губернскі камітэт «Земгора» вырашыў стварыць спецыяльную камісію для распрацоўкі праграмы вядзення прапаганды ў вёсцы, у яе склад былі ўключаныя прадстаўнікі Беларускага камітэту П. Аляксюк і А. Смоліч[18].

Трэба прызнаць, што ў першы месяц гісторыі Расеі без Раманавых часовы Беларускі нацыянальны камітэт зрабіў надзвычай шмат для арганізацыі ўсіх наяўных беларускіх сіл, выпрацоўцы ўласнай палітычнай праграмы і прапагандзе беларускай ідэі. Гэтая ацэнка не выглядае завышанай, калі ўлічваць выразную абмежаванасць як матэрыяльных, так і чалавечых рэсурсаў Камітэту. Вялікая заслуга ў гэтым належала Р. Скірмунту, які, фактычна, быў адзіным сябрам беларускага Камітэту, што меў вопыт палітычнай дзейнасці, падтрымліваў шырокія сувязі з чыноўнай і грамадскай элітамі Менскай губ. і максімальна іх выкарыстоўваў.

Менавіта часовы Беларускі нацыянальны камітэт узяў у свае рукі арганізацыю і правядзенне з’езду беларускіх арганізацый, які павінен быў з’яднаць іх на аснове рэальнай палітычнай праграмы і стаць пэўнай дэманстрацыяй волі і магчымасцяў кансалідаванага беларускага руху.

Неабходнасць такога з’езду абумоўлівалася не толькі пэўнымі ўнутранымі праблемамі нацыянальнага руху, але і знешнімі фактарамі. Галоўным з іх была легалізацыя нацыянальных рухаў, якія ўсё часцей выступалі з ідэяй уласнай нацыянальнай аўтаноміі ў межах федэратыўнай Расеі. Менавіта гэта стаяла за праграмай Літоўскай Нацыянальнай Рады, якая была створаная ў Петраградзе на пачатку сакавіка.

4 сакавіка 1917 г. у Кіеве было абвешчана стварэнне Украінскай Цэнтральнай Рады (УЦР), якая выступіла з лозунгам аўтаноміі Украіны. Увесну канцылярыя Часовага ўраду штодня атрымлівала тэлеграмы ад розных украінскіх арганізацый з просьбай або патрабаваннем аўтаноміі[19].

Выразныя імкненні да аўтаноміі праяўляліся таксама ў дзеяннях латышскіх арганізацый. Кансалідацыя нацыянальных рухаў суседніх народаў і выдвінутыя лозунгі аўтаноміі непасрэдна закраналі інтарэсы беларусаў і датычылі тэрыторыі іх пражывання. Патэнцыйную небяспеку таксама ўтрымліваў ў сабе працэс адраджэння незалежнай Польшчы.

Наогул, сакавік быў месяцам бурлівых дыскусій пра будучыню Расеі, а для іх беларускіх удзельнікаў таксама пра лёс беларускай зямлі. Першыя крокі ўраду князя Георгія Львова (заява пра незалежнасць Польшчы, пашырэнне аўтаноміі Фінляндыі), як здавалася, давалі падставы спадзявацца на пераўтварэнне імперыі ў федэрацыю. Сітуацыя патрабавала кансалідацыі беларускіх сіл, цэнтрам якіх стаўся часовы Беларускі камітэт.

З'езд беларускіх арганізацый быў прызначаны на 25 сакавіка 1917 г. у Менску. Ва ўмовах вайны і рэвалюцыйных пераўтварэнняў арганізаваць сапраўдныя выбары было немагчыма. Арганізатары рассылалі запрашальныя тэлеграмы, імкнучыся дабіцца прадстаўніцтва ўсіх беларускіх суполак на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, а таксама грамадскіх арганізацый, што праяўлялі цікавасць да «беларускага пытання», і нават асобных дзеячаў. Беларускі камітэт праяўляў зацікаўленасць у максімальна шырокім беларускім прадстаўніцтве. С. Рудовіч адшукаў у архівах кароткую тэлеграму з Менску, адрасаваную беларускім актывістам Петраграду: *«Неабходна прыбыць усім»*[20].

Гэтая дзейнасць прынесла плён. Паводле пратаколу з'езду, на ім прысутнічала да 150 удзельнікаў. Прынамсі пра гэта было заяўлена на самым з'ездзе.

Сакавіцкі з'езд беларускіх партый і арганізацый, фактычна, фармалізаваў лідэрскую ролю Р. А. Скірмунта ў беларускім руху. Адной з найважнейшых справаў абранага з'ездам Беларускага нацыянальнага камітэту (БНК) і ягонага кіраўніка Рамана Скірмунта стаўся візіт дэлегацыі ў Петраград дзеля абмеркавання актуальных пытанняў існавання беларускай нацыі і перамоваў пра статус Беларусі ў дэмакратычнай Расеі.

Дэлегацыя БНК выправілася ў Петраград на перамовы з Часовым урадам у сярэдзіне красавіка. Трэба адзначыць, што яе прыезд не выклікаў ажыятажу сярод журналістаў і палітыкаў. Пра яго паведамілі толькі орган партыі кадэтаў «Речь» і газета «Русская воля», якую выдаваў былы царскі міністр унутраных справаў А. Пратапопаў.

Першы візіт дэлегацыя нанесла кіраўніку Часовага ўраду і міністру ўнутраных справаў князю Георгію Львову. Падчас размовы падкрэслівалася неабходнасць абвяшчэння Расеі федэратыўнай рэспублікай, дэмакратызацыі гарадскога і земскага самакіравання, пэўнай беларусізацыі адукацыі (напр., увядзення беларускамоўнага навучання ў сістэму народных школаў, вывучэнне беларускай мовы, гісторыі Беларусі, а таксама беларускай літаратуры і краязнаўства ў настаўніцкіх і духоўных семінарыях

ды інш). Таксама закранала́ся пытанне кампенсацыі тых стратаў, якія панесла беларускае насельніцтва падчас ваенных дзеянняў.

П. Аляксюк, прыгадваючы гэты візіт, пазней заўважыў, што князь Львоў *«выслухаў усё гэта ўважна, але сказаў, што ўсе гэтыя дамаганьні належуцца да розных міністраў»*[21]. Паводле В. Гадлеўскага, кіраўнік ураду заявіў, што пажаданні беларусаў можа задаволіць толькі Устаноўчы сход[22].

Дэлегацыя наведала намесніка міністра ўнутраных справаў Сяргея Лявонцьева, які пачаў размову з пытання: *«Якая рэальная сіла стаіць за дэлегацыяй?»* Павел Аляксюк у адказ заявіў пра вялікую маральную сілу беларусаў. Пазней ён прызнаў, што на чыноўніка гэтае прызнанне не зрабіла аніякага ўражання. С. Лявонцьеву таксама паскардзіліся на губернскіх камісараў з ліку радных былога «сталыпінскага» земства, якія працягвалі «абрусіцельную палітыку». Ён заявіў, што *«спагадае гэтай бядзе, але памагчы нічым ні можа, ня можа ісьці проціў выбарной уласьці»*.

Міністр народнай асветы Аляксандр Мануйлаў таксама ўважліва выслухаў пажаданні адкрыцця ў Беларусі ўніверсітэту і Сельскагаспадарчага інстытута, дапасавання школьных праграмаў да краёвага жыцця і перадачы кіравання сістэмай адукацыі ў рукі мясцовых ураджэнцаў. Міністр пагадзіўся з выказанымі прапановамі, але заявіў, што ён нічога не можа зрабіць і параіў накіраваць беларускіх прадстаўнікоў у Камітэт пры Міністэрстве народнай асветы.

Паводле ўспамінаў П. Алексюка, найбольш канкрэтнай была размова з обер-пракурорам Сіноду Уладзімірам Львовым. Ён, дарэчы, актыўна падтрымліваў дэмакратычна і рэфарматарскі настроеную частку духавенства і часта канфліктаў з іерархамі праваслаўнай царквы. Сябры дэлегацыі звярнулі ўвагу на палітычныя выступы асобных высокіх прадстаўнікоў царквы ў Беларусі, якія, на іх думку, распальвалі міжнацыянальную і міжрэлігійную варожасць. У. Львову перадалі асобнік адозвы аднаго з такіх іерархаў, і ён пагадзіўся, што такіх людзей нельга трымаць на пасадзе. Таксама абмяркоўвалася кандыдатура епіскапа-беларуса. Але ніякіх наступстваў і гэтая «канкрэтная размова» не мела.

Намеснік Р. Скірмунта прыгадаў яшчэ візіт дэлегацыі да адміністратара Магілёўскай архідыяцэзіі і кіраўніка каталіцкага касцёла ў Расеі біскупа Яна Цэпляка, якому былі выказаныя пажаданні ўвядзення беларускай мовы ў набажэнства, адкрыцця беларускай духоўнай семінарыі ды інш. Каталіцкі іерарх таксама спагадліва паставіўся да пажаданняў беларускай дэлегацыі, але і гэты візіт не меў аніякіх практычных вынікаў.

П. Аляксюк нічога не сказаў пра наведванне Выканкаму Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, але, відавочна, што і той візіт меў аналагічны вынік. Усе ўважліва слухалі, спагадалі і... нічога не рабілі. Агульны вынік працы дэлегацыі, паводле П. Алексюка, можна перадаць адным словам рускай мовы – «вообще»[23].

Ацэньваючы гэты візіт сёння, варта адкінуць эмоцыі, характэрныя для маладых беларускіх палітыкаў вясны і лета 1917 г., якія з цяжкасцю пазбываліся рэвалюцыйнай эйфарыі. Галоўным вынікам візіту беларускай дэлегацыі на чале з Раманам Скірмунтам у Петраград было давядзенне да ведама новага ўраду рашучага імкнення дзеячаў беларускага руху да аўтаноміі Беларусі і федэралізацыі Расеі, а таксама наладжванне пастаяннага кантакту паміж Часовым урадам і БНК праз упаўнаважаных апошняга. Такімі паўнамоцтвамі Р. Скірмунт надзяліў Эдварда Будзьку і Аляксандра Ярэміча[24].

Візіт беларускай дэлегацыі ў Петраград паспрыяў актывізацыі варожых беларускаму руху сіл. Так, 20–23 красавіка 1917 г. у Менску адбыўся I з'езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губ. Ён сабраў болей 800 дэлегатаў і праходзіў пад старшынствам бальшавіка Міхаіла Фрунзе. Як сведчыць *Дакладная запіска* яго намесніка Філіпа Караткевіча ад 1 снежня 1917 г. галоўнай задачай арганізатараў было якраз супрацьдзеянне беларускаму руху і рашэнням сакавіцкага з'езду[25]. На з'ездзе панавалі антыбеларускія настроі. М. Фрунзе нават спрабаваў забараніць прадстаўнікам Беларускай сацыялістычнай Грамады (БСГ) і БНК выступаць на беларускай мове.

Аўтары артыкула пра Рамана Скірмунта на старонках Польскага слоўніка біяграфічнага Чэслаў Бжоза і Каміль Стэпан сцвярджалі прысутнасць Р. Скірмунта на гэтым з'ездзе і ягоныя намаганні нейтралізаваць уплывы бальшавіцкай фракцыі, якая крытыкавала БНК як *«памешчыцкую інтрыгу»*[26].

Гэта быў мужны ўчынак палітыка, які не збіраўся хавацца за чужымі спінамі і адстойваў свае погляды нават у самай неспрыяльнай абстаноўцы. Дарэчы, адкрытасць і гатоўнасць да дыскусіі былі характэрнымі рысамі Р. Скірмунта. Аднак супрацьстаяць бальшавіцкай прапагандзе на з'ездзе беларускага сялянства было надзвычай складана. Прысутнасць Р. Скірмунта на ім нават узмацніла наступныя атакі на БНК з боку прадстаўнікоў розных партый сацыялістычнага накірунку. У авангардзе гэтых атак ішлі бальшавікі і эсэры.

Трэба прызнаць, што большасць беларускага сялянства сапраўды была заклапочаная не праблемай нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння Беларусі, а пытаннямі зямлі і міру, а таксама штодзённымі турботамі сацыяльна-эканамічнага характару. Прапаганда агульнарасейскіх сацыялістычных партый, якая сцвярджала «непадзельнасць» Расеі, выкрывала нібыта «буржуазна-памешчыцкі» характар Беларускага нацыянальнага камітэта і «польскую арыентацыю» БСГ, а таксама абяцала сялянам хуткае вырашэнне ЎСІХ існуючых праблем, аказалася даволі эфектыўнай. Яны распальвалі сацыяльныя інстынкты ніжэйшых колаў насельніцтва, і беларуская ідэя згарала ў гэтым полымі, не вытрымліваючы канкурэнцыі.

Па меры радыкалізацыі расейскай рэвалюцыі становішча Рамана Скірмунта ў беларускім руху станавілася усё больш складаным. Падобна, што ўжо ў другой палове красавіка ў БНК пачала фармавацца свайго роду «антыскірмунтаўская апазіцыя». Адным з яе ініцыятараў быў кіраўнік Менскага бюро БСГ і рэдактар газеты «Грамада» Аркадзь Смоліч, які яшчэ ў сакавіку актыўна падтрымліваў кіраўніка БНК[27].

Атмасфера на паседжаннях Камітэту пачала накаляцца. Беларускія сацыялісты рыхтавалі замену кіраўніцтва. Важную ролю адыгрывала і тое, што большасць беларускіх арганізацый на месцах арыентаваліся на БСГ. Беларускі даследчык Арсень Ліс трапна заўважыў: «*Як на прадстаўнічую дэлегацыю ў Петраград да Часовага ўрада з беларускімі пастулатамі, то былы член Думы, імпазантны Скірмунт, пэўна, падыходзіў. Але штосьці іншае было дзейсна весці беларускую работу ў свеце, які імкліва радыкалізаваўся, ды ўнутры БНК, у асяроддзі маладых сацыялістаў […] Аб поглядах яго не пыталіся: якая каму была патрэба ведаць, што гэты памешчык даў слова безаглядна падпарадкавацца ў будучым рашэнню Устаноўчага сходу – перадаць сваю зямлю сялянам*»[28].

Спадзяванні кіраўніцтва БНК на магчымае паяднанне беларусаў на глебе нацыянальнай ідэі паступова слабелі і разбураліся. Сітуацыю, сапраўды, магла палепшыць спроба пэўнага сумяшчэння беларускай ідэі з папулярнай сацыяльна-эканамічнай праграмай або нават падпарадкаванне гэтай ідэі вырашэнню першачарговых сацыяльных праблемаў, але ў тагачаснай сітуацыі гэта магло прывесці да «растварэння» беларускіх арганізацый у агульнарасейскім сацыялістычным руху, дзе дамінавалі прадстаўнікі ўжо рэвалюцыйнага цэнтралізму, і ў рэшце рэшт да фактычнай адмовы ад барацьбы за нацыянальныя каштоўнасці і нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне.

Беларускі нацыянальны камітэт спрабаваў ісці тым шляхам, які быў вызначаны сакавіцкім з’ездам. Працягвалася праца па падрыхтоўцы да выдання органа БНК газеты «Вольная Беларусь», якой Р. Скірмунт надаў вялікае значэнне. Было створанае Таварыства беларускай культуры, якое ў красавіку звярнулася да краёвай інтэлігенцыі з заклікам працаваць на ніве беларускай асветы. Першай рэальнай справай Таварыства сталася абвяшчэнне конкурсу (з 1 чэрвеня 1917 г.) на напісанне падручнікаў для беларускай пачатковай школы[29]. На пачатку мая 1917 г. у менскіх газетах з’явіліся абвесткі пра стварэнне пры БНК беларускага тэатру. «Першае беларускае таварыства драмы і камедыі» запрашала артыстаў, музыкантаў і спевакоў[30].

У маі і чэрвені 1917 г. галоўныя намаганні кіраўніцтва БНК датычылі як прапаганды ідэі аўтаноміі Беларусі і далейшага разгортвання нацыянальна-культурнай дзейнасці, так і захавання адзінства беларускага руху.

Тэма аўтаноміі была адной з дамінуючых на старонках газеты «Вольная Беларусь», першы нумар якой выйшаў 28 мая 1917 г. Рэдактар Язэп Лёсік ва ўступным артыкуле пісаў: *«Ад шчырага сэрца вітаючы вольнасць Дзержавы Расейскай, мы з набалелаю пакутнаю душою рвемся да новага жыцьця, да культурна-нацыональнаго адраджэньня нашаго народу. Мы цьверда ведаем, што гэтакаго мамэнту двойчы ня будзе, і што страцім цяпер, таго ня найдзем ніколі. Наша сьвятая павіннасьць, доўг кожнаго і сьвядомаго беларуса ня бавіць часу, а цяпер жа да склікaньня Установчаго Сэйму (Учредительного Собрания) аддаць свае сілы і розум на службу многапакутнаго народу […] Да вялікай працы, браточкі, уставайця! Да змагання за аўтаномію Беларусі, за дэмакратычную рэспубліку Дзержавы Расейскай!»*[31]

Першы нумар газеты БНК выйшаў з друку ў момант, калі сітуацыя ў Камітэце істотна змянілася. Справа ў тым, што падчас сесіі БНК 13–15 мая 1917 г. адбылося сур’ёзнае сутыкненне паміж сябрамі БСГ і прыхільнікамі Р. Скірмунта.

В. Гадлеўскі ў нарысе беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–1918 гг. прыгадваў, што падчас сесіі яго прыемна ўразіла выразнае імкненне прысутных землеўласнікаў (Э. Вайніловіч, княгіня М. Радзівіл, князь Г. Друцкі-Любецкі) вярнуцца *«да таго народу, з якога яны вышлі»*. У прыватнасці, Г. Друцкі-Любецкі ў сваёй прамове заявіў, што паходзіць з роду беларускіх князёў і заявіў, *«што ён не вінаваты, што над яго калыскай пяялі не беларускія, а польскія песні»*.

Аднак большасць сяброў Камітэту вельмі крытычна паставілася да гэтага «беларускага павароту» землеўласнікаў. Як заўважыў В. Гадлеўскі, «*надыходзіў такі час, што ад князёў і буйных земляўласьнікаў трэба было быць як найдалей, і прыхільнікі Скірмунта, адчуўшы гэты настрой да іх сяброў сэсіі Б. Нац. Камітэту, вышлі, каб болей ужо не вярнуцца. Спужала іх радыкальнасьць беларускага руху*»[32].

У складзе Камітэту засталіся толькі Р. Скірмунт і княгіня М. Радзівіл. Фактычна, тым самым былі перакрэсленыя ўсе ранейшыя намаганні кіраўніка БНК па кансалідацыі беларускага руху і прыцягненню да яго прадстаўнікоў сацыяльнай «вярхушкі» грамадства. Успаміны В. Гадлеўскага сведчаць пра палітычнае паражэнне Р. Скірмунта.

Магчыма, менавіта падчас майскай сесіі або неўзабаве пасля яе ён адмовіўся ад пасады старшыні Камітэту і застаўся толькі ягоным сябрам. Р. Скірмунт прыгадаў пра гэта ў прамове на з'ездзе беларускіх арганізацый 9 ліпеня 1917 г.: «*Паказывалі на мяне, што шкоджу толькі працы Камітэту, стаючы на чэле яго. Я зараз жэ зьняў з сябе паўнамочыя старшыні Камітэту і застаўся простым яго сябрам*»[33].

Майская сесія БНК выразна высветліла імкненне БСГ манапалізаваць Камітэт, выдаліць з яго нязгодных з сацыялістычнай праграмай сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў і нават тых, хто прымаў гэтую праграму, але прадстаўляў заможныя колы грамадства. Праўда, у маі 1917 г. сябры БСГ, відаць, яшчэ не адчувалі сябе досыць упэўнена для цалкам самастойнага вядзення палітычнай дзейнасці, і Р. Скірмунт застаўся ў складзе Камітэту.

Менавіта з гэтага моманту ў беларускім руху запанавала філасофія падазрэння і пашырылася атмасфера нянавісці да інакш думаючых «сваіх», якіх лёгка ператваралі ў «чужых».

Па выніках гэтай сесіі БНК з'явілася дэкларацыя, якая асвятляла пазіцыі Камітэту па найбольш важных накірунках яго дзейнасці. У першым параграфе БНК яшчэ раз выказваўся за аўтаномію Беларусі ў межах федэратыўнай і дэмакратычнай Расеі. Пры гэтым падкрэсліваліся тыя «*шырокія магчымасці*», якія нібыта стварыла для Беларусі Расейская рэвалюцыя. Адначасова дэкларацыя перасцерагала ад людзей, што выступаюць за далучэнне Беларусі да Польшчы ці нейкай іншай краіны ад імя БНК і абвяшчала іх «*правакатарамі*»[34].

Падобна, што апошняе даносіць да нас водгук ужо згаданай дыскусіі на сесіі БНК. Відавочна, што сацыялістаў хвалявала не толькі праблема «памешчыка Скірмунта», але таксама праблема «паляка Скірмунта». Ума-

цаванне пазіцый БСГ у сувязі з агульнай радыкалізацыяй грамадства, а таксама той факт, што Р. Скірмунт як віцэ-старшыня Менскага таварыства сельскай гаспадаркі захоўваў сувязі з мясцовай польскай супольнасцю, ізноў актуалізавалі гэтую праблему.

Можна меркаваць, што гэты «польскі абзац» дэкларацыі быў пэўным папярэджаннем Р. Скірмунту і ягоным верагодным прыхільнікам, што імкнуліся да польска-беларускага паразумення. Менавіта так можна патлумачыць прысутнасць Р. Скірмунта ў згаданай арганізацыі.

Таксама ёсць падставы яшчэ раз успомніць пра асновы краёвай ідэалогіі, адным з стваральнікаў якой быў якраз Раман Скірмунт. «Краёвае» або палітычнае разуменне нацыі было выдатнай платформай міжнацыянальнага паразумення дзеля будучыні Краю як Радзімы некалькіх народаў. Цалкам верагодна, што пошукі саюза з сялянствам асабліва відавочныя ў дзейнасці Р. Скірмунта ў сакавіку 1917 г., былі звязаныя з ягоным разуменнем краёвай ідэі як падмурку дыялогу розных сацыяльных групаў.

Таксама БНК дэкляраваў свабоду веравызнанняў і заклікаў беларусаў незалежна ад іх канфесійнай прыналежнасці працаваць разам над *«стварэньнем ядынай беларускай культуры»*. Неабходнай умовай міру абвяшчаўся *«зварот забранай часткі этнаграфічнай Беларусі і далучэньне яе, аб'еднанай з рэштай Беларусі, да Расейскай Федэратыўнай Рэспублікі»*.

Настойлівае падкрэсліванне прыналежнасці Беларусі да рэвалюцыйнай Расеі таксама засведчыла дамінаванне ў Беларускім нацыянальным камітэце сацыялістаў. Аднак зыход Р. Скірмунта з пасады старшыні пакуль заставаўся ўнутранай справай БНК. Зразумела, што інфармацыя пра гэты раскол магла пашкодзіць аўтарытэту галоўнай беларускай арганізацыі. Усе перамены павінен быў легалізаваць наступны з'езд дэлегатаў беларускіх арганізацый, які адбыўся ўжо на пачатку ліпеня 1917 г.

Перыяд, калі лідэрам беларускага руху быў Раман Скірмунт, аказаўся не вельмі працяглым. Ён увабраў у сябе толькі вясну 1917 г., напоўненую рэвалюцыйным рамантызмам і верай у хуткае здзяйсненне лозунгаў самавызначэння народаў. Для Р. Скірмунта ён скончыўся асабістай паразай.

Прыведзены эпізод з гісторыі беларускага руху яшчэ раз падкрэслівае неабходнасць адмовы ад філасофіі падазрэння, ад нянавісці да «чужых», сведчыць пра важнасць паразумення і імкнення да адзінства. Гэтая праблема і сёння надзвычай актуальная для Беларусі.

[1] Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu: materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11–12 maja 1998). Pod red. Jana Jurkiewicza. Poznań, 1999; Мікніс Р. Міхал Ромэр (1880–1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца // Homo Historicus. Гадавік антрапалагічнай гісторыі. 2008, с. 236–260; Sawicki J. Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 1998; Solak Z. Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków, 2004; Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. 2-е выд., дапрац. Санкт-Петербург, 2004; Смалянчук А. «Краёвая ідэя» і беларускае нацыянальнае Адраджэнне пачатку XX ст. // Acta Albaruthenica. 2015. Т. 15, s. 193–210; Smalianchuk A. U genezy idei krajowej na początku XX wieku // Dwór i wieś na Litwie i Białorusi w XIX i na początku XX wieku. Pod red. Doroty Michaluk. Warszawa, 2014, s. 121–136.

[2] Минский голос. 1917, № 3.

[3] Показания А. Смолича от 20 октября 1930 г. // Навіны Беларускай Акадэміі Навук. 1992, 11 снежня, с. 5.

[4] Скалабан В. «Вам як гісторыку не зашкодзіць ведаць...» Лісты Зоські Верас да Віталя Скалабана // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 1. Мінск, 2009, с. 190.

[5] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 700, воп. 1, ад. з. 126, арк. 295.

[6] Верас З. Я помню ўсё. Успаміны, лісты / Укладальнік М. Скобла. Гародня-Wrocław, 2013, с. 47.

[7] НАРБ. Ф. 325, воп.1, ад. з. 7, арк. 29 адв.

[8] Рудовіч С. Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху ў Менску (сакавік 1917 г.) // Спадчына. 1996, № 3, с. 21.

[9] Рудовіч С. Час выбару. Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 г. Мінск, 2001, с. 78.

[10] Заяц Л. Абмылковы крок // Савецкая Беларусь. 1927, 20 сакавіка.

[11] НАРБ. Ф. 325, воп. 1, ад. з. 7, арк. 29 адв.

[12] Рудовіч С. Час выбару, с. 79.

[13] Минский голос 1917, 11 и 12 марта; Новое варшавское утро 1917, 10 марта.

[14] Гадлеўскі В. З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–18 гг. // Спадчына. 1997, № 5, с. 20.

[15] Цытата паводле: Рудовіч С. Час выбару, с. 79.

[16] Тамсама.

[17] Тамсама, с. 80; Минский голос. 1917, 19 марта.

[18] Рудовіч С. Утварэнне каардынацыйнага цэнтра беларускага нацыянальнага руху..., с. 24.

[19] Государственный архив Российской Федерации. Ф. 1778, оп. 1, д. 244.

[20] Рудовіч С. Час выбару, с. 84.

[21] Вольная Беларусь. 1917, 21 ліпеня.

[22] Гадлеўскі В. Аўтабіяграфічны нарыс // Гарадзенскія запісы. Гродна, 1993, с. 122.

[23] Вольная Беларусь. 1917, 21 ліпеня.
[24] ГАРФ. Ф. 1880, оп. 1, д. 44, л. 2.
[25] НАРБ. Ф. 4, воп. 1, ад. з. 98, арк. 188.
[26] Brzoza Cz., Stepan K. Skirmunt Roman // Polski Słownik Biograficzny. Warszawa etc., 1998. T. XXXVIII/2, zesz. 157, s. 185.
[27] Ліс А. Выбранае. Мінск, 2014, с. 156.
[28] Ліс А. Gloria victis! Збор твораў. Мінск, 2010, с. 89.
[29] Новое варшавское утро. 1917, 7июня.
[30] Тамсама. 1917, 3 мая.
[31] Вольная Беларусь. 1917, 28 мая.
[32] Гадлеўскі В. З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–18 гг., с. 23.
[33] Вольная Беларусь. 1917, 3 жніўня.
[34] Тамсама. 1917, 11 чэрвеня.

## «ЧАЦВЁРТЫ ПАДЗЕЛ»: РЫЖСКІ ТРАКТАТ У АЦЭНЦЫ ЗЯМЯНАЎ-КРАЁЎЦАЎ*

У той хвалі пратэстаў, якую выклікалі вынікі Рыжскай мірнай дамовы, выразна чуліся галасы зямянаў-краёўцаў з беларускіх земляў. Землеўласнікі-каталікі мясцовага паходжання, свядомасць значнай часткі якіх нават на пачатку XX ст. вызначалася формулай *gente Lithuanus (vel Ruthenus), natione Polonus*[1], вельмі востра рэагавалі на заключэнне Рыжскага трактата. Пра гэта ужо пісала Крысціна Гамулка[2], але праблемы матывацыі зямянскіх пратэстаў яна не закранала.

Землеўласнікі Беларуска-Літоўскага краю на пачатку XX ст. былі адчувальнай палітычнай сілай. Іх прадстаўнікі абіраліся ў Дзяржаўныя Думы Расейскай імперыі, яны ж складалі прадстаўніцтва г. зв. «Паўночна-Заходняга краю» ў Дзяржаўнай Радзе. Прычым гэтымі дэпутатамі за рэдкім выключэннем былі прыхільнікі краёвай ідэі ў яе кансерватыўным варыянце. У выпрацоўцы гэтага накірунку краёвасці актыўна ўдзельнічалі Раман і Канстанцыя Скірмунты, Баляслаў Ялавецкі, Эдвард Вайніловіч ды інш.

Да краёўцаў гэтага перыяду можна аднесці тых прадстаўнікоў супольнасці беларускіх і літоўскіх палякаў, якія ў сваёй палітычнай і грамадскай дзейнасці кіраваліся нацыянальна-культурнымі, рэлігійнымі, эканамічнымі і гістарычнымі асаблівасцямі і інтарэсамі Краю і яго карэнных народаў. Яны выступалі з ідэяй «краёвага грамадзянства» звязвалі росквіт Краю з спачатку з ягонай аўтаноміяй (1905), а пазней (1915–1917) – з дзяржаўнасцю ў межах былога Вялікага Княства Літоўскага (пасля Люблінскай уніі).

Феномен краёвасці заслугоўвае увагі. На фоне актывізацыі нацыянальных рухаў і абвастрэння сацыяльных супярэчнасцяў у Беларусі і Літве аформілася грамадска-палітычная плынь, якая ў сваіх праграмных дакументах імкнулася ўзняцца над нацыянальнымі і сацыяльнымі

---

* Упершыню быў апублікаваны ў часопісе «Białoruskie Zeszyty Historyczne» (2012, Nr 37, s. 234-241). Гэты тэкст папраўлены і дапоўнены.

супярэчнасцямі. Гэта атрымлівалася не заўсёды, бо адзінства ў разуменні сутнасці краёвай ідэі не было.

Многім мясцовым зямянам краёвая пазіцыя здавалася найбольш аптымальнай формай абароны ўласных эканамічных і палітычных інтарэсаў ва ўмовах шматэтнічнага Краю, народы якога абуджаліся да самастойнага нацыянальна-культурнага і палітычнага жыцця. А паводле вядомага польскага даследчыка Яна Юркевіча, папулярнасць сярод зямянства кансерватыўнага варыянта краёвасці, была звязана таксама з тым, што ён з’яўляўся пэўным апраўданнем палітыкі згодніцтва з расейскімі ўладамі. Гісторык лічыць, што менавіта гэты фактар спрыяў падтрымцы краёвай ідэалогіі Іпалітам Корвін-Мілеўскім, які не адрозніваўся прыхільным стаўленнем да патрабаванняў літоўскага і беларускага рухаў[3]. Як згодніцкую, ацэньвалі многія сучаснікі таксама грамадска-палітычную дзейнасць прызнанага лідэра зямянаў Меншчыны Эдварда Вайніловіча.

Яго сябра і паплечнік Р. Скірмунт у прамове на пахаванні Э. Вайніловіча паставіў пытанне: «*Валенрадызм ці «слізкае згодніцтва» былі сутнасцю грамадска-палітычнай працы памерлага?*» І сам жа адказаў на яго. Паводле Рамана Скірмунта, галоўнай мэтай Эдварда Вайніловіча было ўмацаванне гаспадарчых пазіцыяў літоўскіх і беларускіх палякаў[4].

Што ж выклікала абурэнне зямянаў-краёўцаў у іх непрыняцці Рыжскага трактату? Здрада Сеймам польскіх нацыянальных інтарэсаў, увасобленых у «Ягелонскай ідэі», ці адмова ад рамантычна афарбаванай традыцыі Рэчы Паспалітай абодвух народаў? Што іх хвалявала ў большай ступені: лёс Краю продкаў і трагедыя мільёнаў людзей, што апынуліся ў бальшавіцкай няволі, ці страта ўласных маёнткаў?

Паспрабую адказаць на пастаўленыя пытанні на прыкладзе пазіцыі Эдварда Вайніловіча. Пры гэтым асноўнымі крыніцамі будуць матэрыялы ягонага



*Эдвард Вайніловіч. Фотаздымак*




*Вокладка Успамінаў Э. Вайніловіча (1931)*

Дзённіка, апублікаванага ў кнізе *Wspomnienia* у 1931 г.[5] (поўны тэкст успамінаў захаваўся ў аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы), а таксама рукапіс ягонага артыкула «Межы Польшчы ў 1771-м і 1920-м годзе»[6] (1927).

Успаміны Э. Вайніловіча здаўна сталі прадметам увагі гісторыкаў, якія не заўсёды задумваюцца над іх верагоднасцю як гістарычнай крыніцы. Між тым варта адзначыць, што пісаліся яны напрыканцы жыцця аўтара ў Быдгашчы. Сямейны архіў быў знішчаны яшчэ падчас рабавання маёнтку ў Савічах зімой 1918 г. Дарэчы, рабавала маёнтак тое самае беларускае насельніцтва Краю, інтарэсы якога Э. Вайніловіч імкнуўся абараняць.

На асэнсаванне ўласнага жыцця не магла не паўплываць атмасфера таго часу, калі пісаліся ўспаміны, прынамсі, палітычная і нацыянальна-культурная сітуацыя ў Польшчы, стаўленне ўладаў да нацыянальных меншасцяў і г. д. Таксама варта адзначыць, што рэдагаванне і падрыхтоўку да друку тэксту пасля смерці аўтара рабіў вядомы гісторык, спецыяліст па гісторыі Літвы XIX ст. Януш Івашкевіч пры актыўным удзеле Рамана Скірмунта, Мар'яна Здзяхоўскага ды інш.

Над артыкулам «Межы Польшчы ў 1771-м і 1920-м годзе» Э. Вайніловіч працаваў праз шэсць гадоў пасля падпісання канчатковых умоваў Рыжскага трактату, якія, безумоўна, былі часам пэўнага асэнсавання падзеі з улікам таго, што адбылося пасля яе і, верагодна, з ацэнкай магчымасцяў яе публікацыі ў канкрэтным перыядычным выданні, менавіта ў віленскім «Слове».

Кім быў Эдвард Вайніловіч? Мар'ян Здзяхоўскі наступным чынам характарызаваў яго: «*Эдвард Вайніловіч быў жывым увасабленнем любові да маці зямлі, якая яго нарадзіла і выхавала, быў звязаны з ёй усёй сваёй душой. Калі ён казаў, я меў дзіўнае ўражанне, што ягонымі вуснамі*

*прамаўляе маці зямля беларуская, што ў словах адбіваюцца думкі і пачуцці тых доўгіх шэрагаў пакаленняў, якія на гэтай зямлі і з гэтай зямлі жылі, на ёй і для яе працавалі і трывалі»*[7].

Сярод краёўцаў, якія практычнымі дзеяннямі спрабавалі супрацьставіцца нацыянальным працэсам і захаваць адзінства Беларуска-Літоўскага краю на падмурку палітычнага (або грамадзянскага) разумення нацыі, постаць Э. Вайніловіча была адной з найбольш прыкметных. Прадстаўнік даўняга «беларускага роду», як ён сам напісаў ва ўспамінах, у 1874 г. атрымаў у спадчыну маёнткі Савічы і Пузава на Случчыне. Ужо ў маладыя гады стаў вядомым сваёй актыўнай грамадскай і дабрачыннай дзейнасцю, амаль 35 гадоў быў ганаровым суддзёй Слуцкага пав. З 1876 г. фактычна кіраваў Менскім Таварыствам сельскай гаспадаркі, а на пачатку ХХ ст. заняўся палітычнай дзейнасцю. Быў дэпутатам Дзяржаўнай Рады ад Менскай губ., а ў 1907 г. адным з арганізатараў установчага сходу па стварэнні Краёвай партыі Літвы і Беларусі, якую сам і ўзначаліў[8].

Аналіз палітычнай дзейнасці Эдварда Вайніловіча да пачатку Першай сусветнай вайны сведчыць, што ягонае разуменне краёвасці цесна перапляталася з імкненнем захаваць у недатыкальнасці асновы зямельных адносінаў у Краі. Гэта перашкаджала выкарыстаць аслабленне царызму дзеля паляпшэння палітычнай, нацыянальнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі Беларуска-Літоўскага краю. Зрэшты, трэба прызнаць, што ў Дзяржаўнай Радзе Расейскай імперыі, сябрам якой быў аўтар Дзённіка, магчымасці рэалізацыі пастулатаў краёвасці былі моцна абмежаваныя.

Мар'ян Здзяхоўскі ў біяграфічным нарысе, прысвечаным Э. Вайніловічу, залічыў палітыка да «групы станьчыкаў» або «рэалістаў» (ці «згоднікаў»), г. зн. тых патрыётаў Рэчы Паспалітай, якія былі перакананыя, што дзяржаву згубіла *liberum veto*, а не дае адрадзіцца *liberum conspiro*[9]. Яны былі патрыётамі, але баяліся патрыятызму як полымя.

Рыжскі мір застаў Э. Вайніловіча ў Польшчы. У апублікаваных *Успамінах* перапоўненыя эмоцыямі старонкі Дзённіка чаргуюцца з аповедам пра стварэнне і дзейнасць арганізацый зямянаў, кантактах з Польска-беларускім таварыствам ды інш.

Асаблівую цікавасць уяўляе запіс Дзённіка ад 13 кастрычніка 1920 г. Якраз у гэты дзень, дарэчы, дзень свайго нараджэння (споўнілася 73 гады), Эдвард Вайніловіч даведаўся пра ўмовы падпісання міру ў Рызе. Вось фрагменты запісу, якія перадаюць ягоную рэакцыю: «*Ніколі раней у гэты дзень мне не было так сумна […] Жахлівая з'ява: Польшча перакрэсліла*

*сваю культурную шматвяковую дзейнасць на ўсходніх землях; місія закончаная, «маўр можа зысці». Болей 100 гадоў мы захоўвалі ў Беларусі каталіцкую веру, польскую ідэю, цярпелі «асаблівыя правы», пераслед, крывёю пазначылі межы 1772 г. […] Няўжо гэтая цяжкая, карпатлівая праца была зведзеная да нулю не ў выніку ваенных няўдачаў і супраціву ворага, а толькі па прычыне неразумення ўсёй значымасці ўсходніх земляў дзеля ўмацавання дзяржавы?...*

*Мы сталі піянерамі ідэі, непрызнанай нават самой метраполіяй, якая ад нас адраклася і цяжка заплаціць за гэта. Польшча губляе свае землі, якія б магла засвоіць дзякуючы палітыцы перасялення з густанаселенай часткі. Падзяляючы Беларусь, яна стварае вечную ірыдэнту […] Вечная ганьба Камісіі, якая складалася не з дзяржаўных дзеячаў […] Гэта на самой справе новы, чацвёрты падзел Польшчы, прапанаваны самой жа Польшчай. Аднак першы падзел, названы злачынствам, не адрэзаў ад арганізма Польшчы столькі, колькі сённяшняя Камісія ў Рызе добраахвотна перадала бальшавікам»*[10].

У гэтым дзённікавым запісу відавочная заклапочанасць аўтара не лёсам Беларуска-Літоўскага краю, які павінен быў яго (як краёўца) найбольш хваляваць, а лёсам Польскай дзяржавы. Пры гэтым вельмі рэзкая ацэнка Сейма, які *«нясе ўсю адказнасць за існуючую анархію ў Польшчы»*, прымушае задумацца, ці не рабіў аўтар рэдагавання сваіх дзённікавых запісаў, працуючы над успамінамі. Ці не трапіла ў запіс ад 13 кастрычніка 1920 г. пазнейшая ацэнка дзейнасці Сейма?

Беларусы ці карэннае насельніцтва Краю пачалі фігураваць у запісу ад 24 кастрычніка, які быў зроблены пасля ўдзелу аўтара ў сходзе «Саюза палякаў беларускіх Крэсаў»: *«Беларусы нас не зразумеюць, бо мы, што скардзіліся на працягу стольких гадоў на падзел дзяржавы паміж трыма суседзямі, цяпер, не запытаўшы беларусаў, падзялілі іх краіну»*[11].

Ва ўспамінах і апублікаваных дзённікавых запісах відавочнае адмежаванне Эдварда Вайніловіча ад беларусаў. І гэта пры тым, што на першых старонках кнігі ён шмат пісаў пра ўласнае беларускае паходжанне, пра даўнія родавыя паперы, пісаныя па-беларуску і г. д. Напрыклад, у запісу ад 8 мая 1920 г. Э. Вайніловіч крытычна ацаніў ідэю «суверэннай Беларусі». Ён пераказаў змест уласнага выступу на паседжанні Польска-Беларускага таварыства (старшыня Міраслаў Абязерскі) у Варшаве, падчас якога заявіў, што, паколькі беларусы нічога рэальнага не робяць дзеля рэалізацыі ідэі суверэнітэту, а менавіта, не даюць ні грошай, ні жаўнераў, а толькі чакаюць перамогі Польшчы, то яны могуць разлічваць толькі

на аўтаномію ў складзе Польскай дзяржавы. Пры гэтым ён катэгарычна выказаўся за цэльнасць і непадзельнасць беларускіх земляў[12].

Адначасна варта адзначыць, што на старонках успамінаў Эдвард Вайніловіч не выступаў як прадстаўнік польскай нацыі. Там няма выразаў накшталт, «мы, палякі…» або «нас, палякаў…»

Успаміны дазваляюць казаць пра даволі актыўную дзейнасць зямянаў, накіраваную супраць ратыфікацыі Рыжскага трактату. Так, Э. Вайніловіч сустракаўся з віцэ-міністрам замежных справаў Эразмам Пільцам, з міністрам Сапегам. Розныя арганізацыі зямянаў рэгулярна выступалі з дэкларацыямі пратэсту, іх прадстаўнікі нават дамагліся пропуску на паездку ў Рыгу і г. д. Але гэтыя намаганні нічога не далі.

Дзённікавы запіс ад 18 сакавіка 1921 г. быў сумнай канстатацыяй: *«18 сакавіка насельніцтва былых усходніх тэрыторый Польшчы, якое налічвае некалькі мільёнаў чалавек, было адарванае ад «польскай мацежы» і кінутае ў пашчу бальшавіцкага молаха «братамі-палякамі»*[13].

Наступны запіс (20 сакавіка) утрымліваў рэзкую крытыку Сейма, які накіраваў дэлегатаў у Рыгу, каб *«перакрэсліць ягелонскія традыцыі, трохвяковую дзейнасць, звязаную з пашырэннем польскіх ідэяў на Крэсах, пакуты і самаахвярнасць піянераў гэтай складанай місіі […] Гэта не дзень славы, а дзень нацыянальнай ганьбы, за якую, дай Бог, каб наступным пакаленням не давялося адпакутаваць»*[14].

Успаміны і дзённікавыя запісы дазваляюць вызначыць пэўны «рэйтынг» тых «антырыжскіх» аргументаў, якія выказваў Э. Вайніловіч. Найчасцей, фігураваў клопат пра інтарэсы Польскай дзяржавы (у прыватнасці, пра неабходнасць трымаць вялікія войскі на мяжы, якая не мела прыродных бар’ераў, пра верагоднае беларускае змаганне супраць падзелу і г. д.). На другое месца можна паставіць пратэст супраць разрыву даўніх традыцый польскасці на «Крэсах», якія трактаваліся як намаганні па пашырэнню цывілізацыі сярод іх насельніцтва. Апошняе месца ў гэтым рэйтынгу дзеліць заклапочанасць лёсам беларусаў, якія аддаюцца пад панаванне (*«у пашчу»*) бальшавікоў, а таксама ўласным лёсам. «Рыжская мяжа» пératварала колішняга заможнага нашчадка «беларускіх баяраў» у бяздомнага выгнанца.

Аналіз тэксту ўспамінаў і апублікаваных дзённікавых запісаў штурхае да высновы, што напрыканцы савецка-польскай вайны краёвасць памерла. Нават Э. Вайніловіч на старонках згаданых гістарычных дакументаў у 1920 г. выглядае абаронцам польскіх нацыянальных інтарэсаў, адстойвае ідэю польскай дзяржаўнасці ў межах 1772 г. Дык ці існавала краёвасць

наогул? Ці не з'яўляецца гэтая трансфармацыя поглядаў Эдварда Вайніловіча і ягоных паплечнікаў па кансерватыўнай плыні краёвасці аргументам на карысць сцвярджэння, што галоўным для іх заўсёды было захаванне польскіх пазіцый у Беларусі і Літве? Усё ж падмуркам гэтых пазіцый здаўна лічылася землеўладанне.

Аднак знаёмства з рукапісам артыкула «Межы Польшчы ў 1771-м і 1920-м годзе»[15] прымушае ўстрымацца ад падобных высноваў. На яго старонках мы сустракаем зусім іншага Эдварда Вайніловіча[16].

Галоўныя пытанні артыкула гучалі так: добрая ці дрэнная справа была зроблена ў Рызе? Хто атрымаў з гэтага карысць? Што на Рыжскіх перамовах набыла або страціла Беларусь, а што Польшча?

Адзначу адразу, што ў адрозненні ад успамінаў аўтар пастаянна ўжываў тэрмін «Беларусь», а не «Крэсы». Артыкул пачынаўся апісаннем самабытнасці і адметнасці «беларускага племені». Пры гэтым Эдвард Вайніловіч падкрэсліваў адрознасць свядомасці і мовы беларусаў ад усходняга, паўночнага і паўднёвага суседзяў (няма параўнання з палякамі?!), з непрыхаваным гонарам пісаў пра высокі ўзровень беларускай культуры і дзяржаўны статус беларускай мовы ў часы Вялікага Княства Літоўскага, адзначаючы прыналежнасць да гэтай культуры і ўласнага роду.

Ён канстатаваў, што падзелы Краю выклікалі заняпад беларушчыны, у адраджэнні якой актыўны ўдзел у ХІХ ст. прыняла мясцовая польская інтэлігенцыя. Пры яе непасрэдным удзеле, паводле Э. Вайніловіча, нараджалася новая беларуская літаратура і пачалося вывучэнне народнай культуры. Гэтую справу з канца ХІХ ст. працягнула ўжо ўласна беларуская інтэлігенцыя. Далейшым беларуска-польскім кантактам моцна пашкодзіла прыхільнасць беларускіх дзеячаў да ідэі «*сацыяльнага рэфармавання*».

Ацэнку негатыўных наступстваў Рыжскага трактату Э. Вайніловіч пачынаў таксама з Беларусі. Галоўная бядою ён лічыў непазбежнае ўмацаванне ў ёй расейскіх пазіцый і прагназаваў, што «*Беларусь утоне ў расейскім моры*». Выйсце бачылася ў верагодным саюзе з Польшчай. Толькі ён, паводле Э. Вайніловіча, мог дапамагчы беларусам захаваць сваю нацыянальнасць.

Негатыўныя наступствы Рыжскага трактату для Польшчы зямянін звязваў з вялікімі выдаткамі на ўтрыманне памежнай варты ў сітуацыі адсутнасці прыродных бар'ераў на мяжы; з тым, што падзел Беларусі абярнуўся тым, што «*лагодны, ціхі, спакойны, цярплівы, учцівы беларускі народ, які заўсёды любіў парадак і адрозніваўся пашанай да законнай улады*»

пачаў змаганне супраць польскіх уладаў. Краёвец сцвярджаў, што новыя кіраўнікі Польшчы пайшлі на разрыў гістарычнай традыцыі, што наступствам *«рыжскай ампутацыі»* стала безідэйнасць польскай грамадскасці і г. д.

Знаёмства з рукапісам артыкула 1927 г. дазваляе казаць не пра смерць, а пра пэўную эвалюцыю краёвасці. Месца былога «Краю» ў разважаннях Эдварда Вайніловіча заняла Беларусь. Тут у першую чаргу асэнсоўвалася трагедыя Беларусі, якая, аднак, паводле меркавання краёўца, зноў такі не магла існаваць без Польшчы. Апошняе было характэрна для поглядаў амаль усіх краёўцаў кансерватыўнага накірунку.

Атрымліваецца, што ў 1927 г. Э. Вайніловіч быў у большай ступені краёўцам, чым у 1920 г.? Гэта малаверагодна. Хутчэй за ўсё ў дадзеным выпадку мы сустракаемся з праблемай крыніцазнаўчага плану. Рызыкну выказаць меркаванне, што дзённікавыя запісы 1920 г., змешчаныя ва ўспамінах, былі моцна папраўленыя ў працэсе падрыхтоўкі рукапісу да друку. Верагодна, яны ў большай ступені засведчылі стан свядомасці іх аўтара і яго стаўленне да Рыжскага трактату, характэрнае для другой паловы 1920-х гг., чым для іх пачатку. Цалкам магчыма, што да гэтага таксама прычыніліся рэдактары тэксту ўспамінаў.

Што датычыць пастаўленых пытанняў наконт матывацыі пратэстаў зямянаў-краёўцаў, то выкарыстаныя крыніцы не дазваляюць даць адназначны адказ. Праблема застаецца, і для яе вырашэння патрэбны пошук новых крыніцаў і выкарыстанне новых даследчых метадаў.

Відавочна толькі тое, што ў адрозненні ад ідэолагаў краёвасці (Міхал Ромэр, Раман Скірмунт, Канстанцыя Скірмунт ды інш.) пазіцыя яе канкрэтных носьбітаў з ліку зямянаў пастаянна «рэдагавалася» працэсамі той сацыяльнай і нацыянальнай трансфармацыі, якая ахапіла Беларуска-Літоўскі край у першай чвэрці ХХ ст.

ДАДАТАК

## Рукапіс артыкула Эдварда Вайніловіча «Межы Польшчы ў 1771-м і 1920-м годзе»

*(быў апублікаваны ў віленскай газеце «Słowo» (1927, Nr 96 і Nr 97) з пэўнымі праўкамі)*

У прысланых мне з Вільні выразках з сакавіцкіх газет я знайшоў прамову рэктара Здзяхоўскага, зробленую ў час святкавання імянін

маршалка Пілсудскага. Уступная рэпліка шаноўнага пана Цывінскага ўтрымлівала «голас» пакрыўджаных крэсоўцаў, які належаў старшыні Саюза *(Саюза крэсоўцаў – А. С.)* графу Ю. Чапскаму. У сувязі з тым, што там згадвалася і маё імя, я, хаця і не з'яўляюся ахвотнікам да пісання, дазволіў сабе таксама выказацца ў гэтай справе. Адразу хачу папярэдзіць, што буду весці гаворку толькі пра Усходнія Крэсы былой Рэчы Паспалітай або «Беларусь», у якой мае продкі жылі чатыры стагоддзі, а я доўгі час працаваў. Справы Крэсаў Паўднёвых, «Русі» я пакідаю для аналізу людзей больш знаёмых з мясцовымі ўмовамі.

Сучасная палеміка ў віленскіх газетах узнікла на падставе непаразумення, якое ідзе ад Рыжскага трактату. Ці з'яўляецца адмова Польшчы ад межаў 1771 г. і яе згода на межы 1920 г. правільным рашэннем? Перш чым адказаць, трэба зрабіць спецыяльную прадмову.

Карэнным насельніцтвам Усходніх Крэсаў былой Рэчы Паспалітай з'яўляецца племя беларусаў. Межы яго рассялення на ўсходзе лёгка вызначаюцца светапоглядам насельніцтва. Там, дзе канчаецца індывідуальная ўласнасць і распачынаецца абшчынная, там пачынаецца тэрыторыя велікарускага племені.

Крыху цяжэй акрэсліць межы паўднёвыя і часткова заходнія з боку Русі. Беларуская мова ў Менскім Палессі па меры прасоўвання на поўдзень і захад утрымлівае ўсё больш і больш украінскіх слоў і ўкраінскага вымаўлення. Нарэшце, яна ператвараецца ў чыста ўкраінскую мову.

Паўночныя межы змяняліся на працягу стагоддзяў пераважна не на карысць літоўцаў. Тут сустракаюцца вёскі з літоўскімі назвамі, насельніцтва якіх аніводнага літоўскага слова не скажа і не зразумее. Прычыны дзве: 1) у выніку пастаянных саюзаў Вялікіх князёў Літоўскіх з Князямі Рускімі на Віцебшчыне, Полаччыне, Меншчыне, Случчыне і г. д. беларуская мова стала мовай княжых двароў і дыпламатычных адносінаў з суседзямі; 2) беларусы хрысціліся амаль за паўтысячы гадоў да таго, як Ягайла хрысціў Літву. Яны мелі сваю пісьменнасць, а значыць, валодалі больш высокай культурай. Гэта вяло да паступовай дэнацыяналізацыі літоўцаў. Тым больш, што пасля выдання Статута Літоўскага на беларускай мове, гэтая мова стала мовай кіравання і, нягледзячы на страту ёй свайго становішча ў [1696] годзе, аўтару гэтых радкоў давялося трымаць у руках дзяржаўныя паперы пачатку XIX ст., напісаныя на беларускай мове.

Гады падзелаў Краю і напалеонаўскіх войнаў не спрыялі развіццю літаратуры на беларускай мове. Першай праявай яе развіцця стала драма

ў вершах землеўласніка з Бабруйскага павету Дуніна-Марцінкевіча, надрукаваная лацінскімі літарамі ў Менску ў перыяд яшчэ Мікалая І. Твор называўся «Гапон». Пастаноўка была здзейсненая на менскай сцэне падчас шляхецкіх выбараў, што паспрыяла масавай прысутнасці землеўласнікаў. Трэба нагадаць, што, калі землеўласнікі з Паўднёвых Крэсаў пераважна былі выхадцамі з карэнных польскіх зямель, якія шукалі шчасця на буйных украінскіх нівах, то беларускія землеўласнікі мелі пераважна мясцовае паходжанне і былі блізкімі па крыві да народу і былой шляхты, якая ў штодзённым жыцці карысталася нават беларускай мовай.

Такім чынам, першыя ластаўкі беларускай літаратуры былі цёпла прывітаныя мясцовай інтэлігенцыяй і сярод яе пачалі віць новыя гнёзды. Даленга-Хадакоўскі (Чарноцкі), Чачот, Сыракомля ды інш. пачалі збіраць песні і народныя прыказкі, а сярод акадэмічнай моладзі сталі ўзнікаць саюзы землякоў (зямляцтвы) з прыкметнымі настроямі халопаманства. Як бачым, усе гэтыя фальклорныя пачынанні ішлі зверху, з колаў польскай інтэлігенцыі, якая вельмі зычліва ставілася да беларускай народнасці. Толькі напрыканцы XIX і на пачатку XX ст. распачаўся рух знізу, у асяродку беларускай інтэлігенцыі людовага паходжання.

Аўтар гэтых радкоў, які вядзе свой род ад беларускіх баяраў, якія атрымалі шляхецкую годнасць у XVI ст., адчуваючы агульнасць паходжання, шчыра ўдзельнічаў у працы таварystваў, мэтаю якіх было адраджэнне беларускай народнасці. Але ўдзельнічаў толькі да таго моманту, пакуль гэтыя арганізацыі захоўвалі выключна нацыянальны характар. Калі ж яны пераходзілі на глебу хісткіх сацыялістычных імкненняў, адразу рваў з імі. Кантакты, якія распачаліся ў Менску, працягваліся ў Петраградзе ў перыяд працы заканадаўчых органаў. Яны перанесліся і на варшаўскую глебу, калі прыйшлося бегчы з Беларусі ад бальшавікоў.

Наколькі расейскі ўрад не прымаў, а ў пэўныя перыяды нават пераследаваў усе праявы нацыянальнага сепаратызму, настолькі ж у 1919 г. беларускі рух атрымаў падтрымку ў Бельвэдэрскіх сферах. На чале тагачасных арганізацый у Варшаве стаў Леан Дубяйкоўскі. Спачатку іх галоўнай задачай было вызваленне беларусаў з лагера ваеннапалонных на Павонзках. Беларусы апынуліся ў шэрагах варожых армій не па сваёй волі, а як падданыя розных дзяржаваў. Ахопліваючы ўсё больш шырокія колы, гэтая арганізацыя ператварылася ў абаронцу беларускіх нацыянальных інтарэсаў. У гэтай якасці яна і распачала перамовы з польскімі ўладамі.

Памятнай датай гісторыі тых адносінаў стаў дзень 28 ліпеня 1919 г., калі Камітэт на чале з Леанам Дубяйкоўскім арганізаваў вялікую раут-вячэру ў атэлі «Еўрапейскі» з удзелам прадстаўнікоў міністэрскіх і гарадскіх (Балінскі) уладаў. Прамоўцы сцвярджалі, што Беларусь толькі ў саюзе з Польшчай будзе мець будучыню. Праўда, выказвалася перасцярога, што гэта павінна быць «унія вольных з вольнымі, роўных з роўнымі» з захаваннем тэрытарыяльнай непадзельнасці Беларусі, якая не павінна перажыць тое, што давялося перажыць Польшчы пасля трох падзелаў. (Дапісаная ўстаўка: *Бярыце нас цалкам або не кранайце*). Тая вечарына зацягнулася да позняй ночы.

А адбывалася яна на наступны дзень пасля аўдыенцыі беларускіх дэлегатаў у Бельведэры, дзе яны атрымалі дазвол на стварэнне беларускай вайсковай фармацыі на Меншчыне і неабходную для гэтай справы субсідыю. На жаль, гэтая ідылія не была працяглай. Беларускія арганізацыі ў Менску, як звычайна, зышлі з шляху нацыянальнага адраджэння на шлях сацыяльнага рэфармавання. Яны трапілі пад уплывы бальшавікоў. У выніку менскія арганізацыі ў перыяд ваяводства Рачкевіча былі зачыненыя, а іх кіраўнікі арыштаваныя.

Хутка пасля гэтага польскія войскі былі разбітыя на Дзвіне і Беразіне і адступілі да Варшавы. Яна была выратаваная, г. зв. «цудам на Вісле», які стаў магчымым дзякуючы патрыятычнаму ўздыму моладзі, інтэлігенцыі і рабочых горада. Ён узняў баявы дух войска, аддзелы якога былі часткова здэмаралізаны адступленнем. Вядома, якую важную ролю адыграла ў тых падзеях Літоўска-Беларуская дывізія, у шэрагах якой ваявалі сыны амаль усіх крэсовых родаў, перакананыя што змагаюцца за сваю спадчыну, за сваю родную зямлю і родны дом, апаганены бальшавікамі.

Польшча, якая перамагла, сустрэлася ў Рызе з пацярпеўшым паражэнне ворагам. Але тут сілы былі няроўныя. З аднаго боку – вопытны дыпламат Іофе, які мог бы дастойна выглядаць нават на Венскім кангрэсе, а з другога – дэлегаты без палітычнага вопыту, выбраныя толькі партыйнай воляй, з інструкцыямі ў духу Нацыянальнага камітэту ў Парыжы. У выніку польскія дэлегаты адчулі палёгку, што без праблем пазбыліся «беларускага нарыву», а Іофе мог дакладваць у Маскве, што бальшавікі вайну з Польшчай не прайгралі. Яго адпраўлялі з Масквы з інструкцыяй, каб абараняў мяжу па Дзвіне і Дняпру. А ён не толькі не страціў Мсціслаўскае ваяводства, а нават здабыў для бальшавікоў амаль усё Менскае.

Пры падпісанні Рыжскага трактата зусім забыліся пра абаронцаў Варшавы, якіх ампутавалі разам з беларускім народам. Яны абаранілі Польшчу, але месца для іх у Польшчы не знайшлося. Затое пра іх не забыліся бальшавікі, калі палілі сядзібы, калі высялялі з роднай зямлі сем'і тых, хто сядзеў у акопах пад Варшавай. Гэта факт, з якім трэба лічыцца. Але застаецца права, судзіць добрая ці дрэнная справа была зроблена? Хто атрымаў з гэтага карысць? Што на тых Рыжскіх перамовах набыла або страціла Беларусь, а што Польшча?

Беларусь, а я вяду размову толькі пра справу нацыянальнага адраджэння гэтага краю, страціла шмат. Паводле канцэпцыі ўніі з Польшчай (у той або іншай форме), Беларусь мела ўсе магчымасці існавання і развіцця сваёй нацыянальнасці, якую за стагоддзі сумеснага жыцця Польшча не толькі не пераследавала, а наадварот атачала апекай і падтрымлівала, калі выдавала «Статут Літоўскі» на беларускай мове. Пазней сіламі сваёй інтэлігенцыі, як ужо згадвалася, паступова здабывала для яе права лічыцца літаратурнай мовай. Збіраючы беларускія прыказкі і легенды, захоўвала этычны вопыт гэтага блізкага племені.

«Статут Літоўскі», векапомная слава Льва Сапегі ў выдатных формах адлюстраваў светапогляд народнасці, для якой быў напісаны, ахапіў усе прававыя адносіны, так што нават пераступіў межы рассялення беларусаў. Ужо пасля скасавання яго расейскім урадам у 1839 г., ён захаваў сваё дзеянне ў якасці прывілея ў Палтаўскай і Чарнігаўскай губ., у былой Задняпроўскай Украіне.

Польшча не спаланізавала Беларусі за чатыры стагоддзі агульнага палітычнага жыцця. У той жа час у адзінстве з Расеяй дастаткова было двух пакаленняў, якія прайшлі расейскую школу і ваенную службу, каб з народу выйшла беларуская інтэлігенцыя, выхаваная па прычыне адсутнасці нацыянальнай літаратуры на расейскай. Яна не шукае крыніц свайго гістарычнага жыцця ў Тураве, Слуцку, Менску альбо Полацку, а шукае іх у Суздалі і Маскве. А найважнейшае тое, што гэтая інтэлігенцыя паступова страчвае здабыткі заходняй культуры, што распаўсюдзіліся падчас сумеснага жыцця з Польшчай, і губляе яе найвялікшае дасягненне – права індывідуальнай ўласнасці, без якога немагчымы ні прагрэс, ні прадуктыўная праца.

Можна яшчэ пачуць абвінавачванне іншага плана: з цягам часу вынікам сумеснага жыцця з Польшчай сталіся пэўная лацінізацыя і паланізацыя вышэйшых колаў беларускай грамадскасці. У прынцыпе гэта нармальная

з’ява пры кантактах двух культур featureрознага ўзроўню. Зрэшты, і Вялікі Рым эленізаваўся, і нават грэчаскія Багі зноў з’явіліся ў сваіх святынях. Так што няма нічога дзіўнага, што ў радаводах беларускай шляхты пасля Сямёнаў, Іванаў і Рыгораў XV і XVI стст. у XVII ст. з’явіліся Францішкі і Людвікі.

Князю Астрожскаму нішто не перашкодзіла быць пахаваным у Пячэрскай лаўры пад магільнай плітой з надпісам на лацінцы. Слуцкаму Алелькавічу нішто не перашкодзіла ахвяраваць («посах») пастараль архімандрыта манастыра на Трайчанах у Слуцку з лацінскім надпісам. Нават камандуючы войскамі царыцы Кацярыны генерал Крэчатнікаў пакінуў паміж іншымі і польскі надпіс у сваёй эпітафіі ў тым самым манастыры. На прыкладзе Чэхіі мы бачым, што гэтыя страты не з’яўляюцца непапраўнымі. Першыя ж пасевы незалежнага быту вяртаюць *status quo ante*. Напэўна, што ў адзінстве з Расеяй Беларусь раней ці пазней патоне ў расейскім моры. Сваю нацыянальнасць яна можа захаваць толькі ў саюзе з Польшчай.

Паглядзім цяпер, што атрымала Польшча пасля «ампутацыі» беларускага «нарыва»? Можа яна атрымала прыродную мяжу ці стала самастойнай мононацыянальнай дзяржавай? Ні першае, ні другое. Усходняя польская мяжа не супадае ні з рэкамі, ні з балотамі, да чаго імкнуліся бальшавікі, а ідзе пераважна шляхамі, памежнымі равамі, што некалі дзялілі розныя зямельныя адзінкі.

Згадваю адзін з сходаў крэсоўцаў у Варшаве (вул. Каперніка, 30), на якім Уладзіслаў Студніцкі звярнуў увагу на высокую штогадовую даніну, якую Іофе, нават не ўсведамляючы таго, прымусіў плаціць Польшчу. Ён прадставіў статыстычныя дадзеныя, якія сведчаць, што ахова сучасных польскіх межаў каштуе дзяржаве ў 10 разоў больш, чым магла б каштаваць ахова межаў прыродных. Кошты ўтрымання памежнікаў цалкам гэта пацвердзілі, не гаворачы ўжо пра пастаянную небяспеку для жыцця жыхароў памежжа.

Паднябесных горных хрыбтоў, па праўдзе гаворачы, Польшча на ўсходзе не мае. Аднак праект менскага ваяводы Рачкевіча пры мінімальным прасоўванні на ўсход да вярхоўяў Пцічы, якіх толькі некалькі кіламетраў аддаляе ад р. Случ, значна б скараціў дзяржаўныя выдаткі. Гэты праект быў прадстаўлены міністру Пільцу, але не дачакаўся ажыццяўлення. Затое члены Камісіі па размежаванню лічылі сваёй галоўнай задачай утрыманне *entente cordiale* з калегамі з Бальшэвіі. У выніку, пазбаўленая прыродных межаў, Польшча да сённяшняга дня ўсё ж не пазбавілася беларускага «нарыва».

Далучыўшы толькі частку гэтага краю, Польшча стварыла вечную крыніцу незадавальнення, якое ўзмацняюць усе памылковыя крокі польскіх уладаў. А іх набралася ўжо шмат. Кожны, хто ведае гэты край, згадзіцца, што аўтарытэт Польшчы ў расейскі час, нягледзячы на пераслед палякаў на беларускіх крэсах, быў значна мацнейшым, чым зараз у часы польскай дзяржавы.

Усё гэта не цяжка растлумачыць, бо лагодны, ціхі, спакойны, цярплівы і прыстойны беларускі народ заўсёды любіў парадак і адрозніваўся пашанай да законнай улады, не наракаў на моцную руку, якая яе падтрымлівала. Так распавядаў пра яго Сыракомля: *«Як патрабуе звычай, шануе сваіх святароў і князёў»*.

Увасабленнем гэтых прынцыпаў заўсёды былі землеўласнікі Беларусі. Таму з'явай крыху нечаканай, але сімвалічнай было тое, што за выключэннем палітыкі (выбары ў Думу) у эканамічных справах, напрыклад, на сходах самакіравання (земскіх сходах), дзе пераважалі чыноўнікі, сяляне заўсёды галасавалі разам з мясцовымі землеўласнікамі. Яны верылі ў іх розум і бачылі іх заклапочанасць інтарэсамі краю і насельніцтва. Тыя ж сяляне ведалі, што землеўласнікі нясуць на сябе цяжар розных выключных правоў. На працягу ўсяго перыяду падзелаў улады настройвалі сялянаў супраць зямянаў.

А цяпер чуюцца галасы, што ўсёй Беларусі Польшча не здолела б пераварыць. А чаму ж 400 гадоў суіснавалі разам, не перажыўшы нават тых клопатаў, з якімі сутыкнулася Украіна? Значыць, Польшча недзе згубіла сілу, якая прыцягвала да яе Крэсы? Згубіла свой «залаты рог», ад якога застаўся толькі шнур? Гэты польскі «залаты рог» згубіўся ў новым дзяржаўным ладзе, у новым заканадаўчым органе.

Лёс дзяржавы, яе межы, пытанні палітычнага ладу сёння вырашаюць пераважна тыя колы грамадства, якія не вызначалі лад Рэчы Паспалітай да падзелаў, якія не захоўвалі нацыянальныя традыцыі пасля падзелаў, якія ў XIX ст. не змагаліся за захаванне польскай уласнасці, не ўдзельнічалі ў г. зв. «працы арганічнай». Пад уплывам дэмагагічных лозунгаў з Усходу яны ўзялі курс не на адраджэнне традыцый 3 мая і не на стварэнне палітычных і дзяржаўных формаў, якія б адпавядалі сучаснасці, а на стварэнне нейкай новай Польшчы, не маючай нічога агульнага са сваімі гістарычнымі традыцыямі.

Заканадаўчая ўлада складаецца пераважна з прадстаўнікоў народа, ад якога, як нямаючага ніякіх палітычных правоў у Польшчы да

падзелаў, нельга чакаць праяваў патрыятызму. Выключэннем сталі толькі нацыянальна свядомыя сяляне з прускага «забору». Большасць гэтага насельніцтва марыла не пра адраджэнне ўласнай дзяржавы, а пра чужыя лугі ды нівы. Аўтар гэтых радкоў у ліпені і жніўні 1920 г., калі па загаду староства быў эвакуяваны з родных мясцін Меншчыны, даехаў з абозам аж да Сандоміра і быў сведкам як у Краснастаўскім сяляне, што чакалі прыходу бальшавікоў, перашкаджалі эвакуацыі зямянаў з іх маёмасцю. У той жа час, калі мы пакідалі Бацькаўшчыну, з намі вельмі сардэчна развіталіся сяляне, жадаючы нам хуткага вяртання.

Але ў настроях тых, хто ўжо дамінаваў панавала тэндэнцыя, барані Божа, карыстацца з жыццёвага і здабытага ў судовай дзейнасці на грамадскіх і ўладных пасадах вопыту людзей, імёны якіх былі шырока вядомыя за іх дасягненні ў нацыянальнай або гаспадарчай працы. Былі запатрабаваныя новыя людзі, не заражаныя ідэалогіяй былой Польшчы, якія не мелі нічога агульнага з яе традыцыямі.

Але не толькі таму быў страчаны «залаты рог». Роман Дмоўскі ў сваёй прамове 27 сакавіка справядліва заўважыў небяспечную грамадскую з’яву, якую назваў «ідэйнай пустэчай», безыдэйнасцю. Ніводная нацыя не можа ізалявацца ад агульных чалавечых імкненняў і не можа не ўдзельнічаць у тых або іншых іх праявах. Але апроч гэтага яна павінна мець пэўныя нацыянальныя імкненні.

Польшча Пястаў, якая страціла шматлікія ўладанні ў выніку змагання з немцамі і знікнення некаторых адгалінаванняў пястоўскага роду, у эпоху Ягелонаў пераарыентавалася на Усход. Па-першае, яна абмежавала мангольскае панаванне, ад якога вызваляліся ўсе землі, якія пераходзілі пад яе ўладу. Па-другое, яна супрацьстаяла ўсходнім традыцыям, напоўненым візантыйствам. Заходняя культура, прынцыпы якой пратрымаліся даўжэй, чым польская дзяржаўнасць, бо былі захаваны крэсовым зямянствам, нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы яго існавання, не дапускалі праяваў бальшавізму ў Беларусі так доўга, пакуль апошняя хваля анархіі, якая ішла з глыбіні Царства, не затрымалася пад Варшавай.

Раман Дмоўскі, які абвінаваціў грамадскасць у безыдэйнасці, павінен сур’ёзна задумацца, перш чым кагосьці вінаваціць. Шмат ёсць справаў і фактаў, для ацэнкі якіх цяжка выкарыстаць адну меру. Напрыклад, вельмі цяжка растлумачыць вучнёўскай моладзі, што падзел краю быў вялікім злачынствам Кацярыны, а Рыжскі трактат з’яўляецца вялікай перамогай Грабскіх і Домбскіх. Відаць, трэба прызнаць, што царскія ўлады цалкам

справядліва называлі Край Манюшкаў, Корзанаў, Спасовічаў, Сыракомлі, Сяміградскіх «Краем спрадвеку рускім».

У любым выпадку гэта шчасце для Польшчы, што Рыжскі трактат быў падпісаны пазней, чым гэтыя людзі аддалі сваю частку Божай іскры Польшчы. Яны паспелі гэта зрабіць перад Рыжскай ампутацыяй. Або трэба прызнаць справядлівасць тэзіса, які падзялялі расейскія ўлады, што Край з'яўляецца такім, якім з'яўляецца народ. Менавіта народ, а не яго інтэлігенцыя, не яго гістарычная мінуўшчына і помнікі яго культуры, вызначае характар Краю. Праўда, у дачыненні да Украіны і Грузіі ўжываліся іншыя падыходы.

Рыжскі трактат адпавядаў не толькі ідэалогіі Сейма, але і ўсяго польскага народу. Ні ў Сейме, ні ў прэсе, якая трымае руку на пульсе грамадства, нідзе не раздалося аніводнага пратэсту або слова абурэння. Відавочна, што разуменне нацыянальных інтарэсаў моцна змянілася за перыяд ад 3 мая да канца перыяду падзелаў...

Часта можна пачуць сцвярджэнне, што і без таго ў Сейме і Сенаце Польшча мае шмат клопату з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў. А што было б, калі б Польшча ўключала ўсю Беларусь? Па-першае, калі б Беларусь пасля адрачэння Польшчы ад яе ў Рызе не была падзеленая, то не было б і гэтай крыніцы незадавальнення, якая існуе сёння і праяўляецца ў розных «Грамадах». Па-другое, патрыёты Беларусі, якія разумеюць, што Беларусь, не маючы выйсця да мора, самастойна існаваць не можа, а пры аб'яднанні з Расеяй папросту знікне ў расейскім моры, ахвотна аднавілі б былыя традыцыі сумеснага жыцця ў згодзе з Польшчай, не азмрочаныя ніякай «коліўшчынай» *(паўстанне прыгонных сялянаў, гайдамакаў і казакоў супраць польскай шляхты ўлетку 1768 г., якое суправаджалася масавымі забойствамі палякаў і габрэяў – А. С.)*.

Задаволеныя шырокім самакіраваннем у межах пэўнай аўтаноміі, яны, магчыма, не прынеслі б больш клопату, чым пястоўскі Шлёнск. Мясцовыя земяне, атрымаўшыя права земскага кіравання, адчулі б давер дзяржавы да сваіх ініцыятываў, і распачалі б працу па арганізацыі новых умоваў жыцця. Вынікі былі б лепшыя, чым тыя, якіх дасягнулі прысланыя на Крэсы бюракраты. Яны нічога агульнага з Краем не маюць, пануючых настрояў не разумеюць. У той жа час уся дэструкцыйная праца знаходзіцца ў руках бальшавікоў, якія, як некалі Аўстрыя ў сваёй антырасейскай палітыцы фаварызавала украінцаў, так цяпер яны засноўваюць беларускія ўніверсітэты, праводзяць парцэляцыю уладанняў зямян, і не для чужынцаў

з Расеі ў супастаўленні з ваенным польскім асадніцтвам, а для мясцовага насельніцтва, каб паказаць беларусам Рэчы Паспалітай, што за кардонам рай.

Зусім не так у Польшчы, дзе, напрыклад, перададзены ўраду зямельны абшар Ракаў, які знаходзіцца паміж трыма шляхецкімі засценкамі з малазямельным шляхецкім насельніцтвам, быў раздзелены прыехаўшымі здаля ваеннымі асаднікамі, што выклікала вялікае незадавальненне мясцовых жыхароў. Нічога дзіўнага, што параўнанне сітуацыі на Усходзе і Захадзе ўплывае на настроі. Сялянам новы лад падабаецца, калі ён ім нешта дае, і яны адразу змяняюць фронт, калі ад іх нешта забіраюць. Тое ж самае можна сказаць пра сімпатыі сялянаў у карэннай Расеі, дзе яны зараз сталі галоўнымі ворагамі камунізму. Але для гэтага разумення патрэбныя гады вопыта і лепшы парадак у Польшчы.

Трэба дадаць, што Сейм мае зараз такіх прадстаўнікоў Беларусі, якіх урад і дамагаўся. Увесь час барацьбы (*з бальшавікамі – А. С.*) існаваў «Камітэт абароны Усходніх Крэсаў», які апекаваўся салдатамі, што сядзелі ў акопах. Пасля заканчэння вайны яго задачай стала арганізацыя мірнага жыцця на Крэсах, стварэнне кааператываў і г. д. Дзеля гэтага ўлады разаслалі адпаведных інструктараў. Было гэта якраз перад выбарамі ў сучасныя Сейм і Сенат. Інспектар Н. з Варшавы прызначыў з'езд тых інструктараў з фронту прыблізна ад Лунінца да Ліды. Аказалася, што значная іх частка не разумела па-польску аніводнага слова. Гэта былі расейцы-бальшавікі, цалкам абыякавыя да справы кааператываў. Інспектар запісаў іх імёны і вярнуўся ў Варшаву, не ведаючы як на гэта рэагаваць, бо ўзніклі сумненні ў іх лаяльнасці да ўладаў.

Аўтар гэтых радкоў, не звязаны ніякімі дзяржаўнымі абавязкамі, звярнуўся да міністра Пільтца, а потым да маршалка Сейма Трампчыньскага. Яны выклікалі інспектара, які зрабіў пісьмовую справаздачу. Якія вынікі гэта мела, сказаць зараз немагчыма. Вядома, што кааператываў у выніку той працы з'явілася не шмат, а інструктары правялі выбарчую кампанію ва ўказаным накірунку. Урад паклапаціўся, каб правыя партыі не атрымалі перавагі ў заканадаўчых органах. А гэта здарылася б абавязкова, калі б польскія элементы разам з зямянамі прыехалі ў Варшаву як прадстаўнікі Краю з Беларусі.

Гэта было магчымым пры ўмове пэўнага ціску з боку ўладаў. Але уладныя сферы былі больш зацікаўленыя ва ўзмацненні левіцы. Яны набіралі дэпутатаў з тых сфер, якія пазней апынуліся ў «Грамадзе»,

а потым былі арыштаваныя за антыдзяржаўную дзейнасць. Гэты эпізод можна закончыць словамі: «Tu l'as voulu, George Dandin».

Калі Польшча ў сужыцці з Беларуссю ніколі не ставіла сваёй мэтай – і ставіць не павінна – паланізацыю Беларусі, пакідаючы гэта на водкуп часу і працэсам культурнага развіцця, то адначасова Польшча не павінна дапусціць змяншэння памераў польскай маёмасці і польскай прысутнасці ў Беларусі ні ў адносінах да зямельных уладанняў, ні ў адносінах да колькасці насельніцтва.

Адпаведна, з вылучаных для парцэляцыі вялікіх абшараў, дабраахвотная перадача якіх будзе адбывацца ўвесь час па прычыне вялікага падаткавага ціску, на мэты асадніцтва трэба браць толькі тое, што можна лічыць лішкамі або тое, што з'явілася ў выніку меліярацыі (асушэння і г. д.). Бацькам трэба дазволіць падзел зямель паміж дзецьмі, яшчэ пры жыцці бацькоў... Гэта не зменшыць памераў польскай маёмасці і польскай прысутнасці, а толькі нармалізуе іх, павялічыўшы колькасць не абшарнікаў, а дробных або сярэдніх уладальнікаў. Гэта можа паўплываць на этычныя паняцці насельніцтва, якія разыходзяцца з новымі прававымі нормамі, што абапіраюцца на шанаванне права прыватнай уласнасці.

[апошні сказ апублікаванай версіі артыкула меў больш закончаны выгляд: А *без ясна заяўленых прынцыпаў права ўласнасці немагчымы ніякі прагрэс і ніякі парадак ні ў доме, ні ў сям'і, ні ў дзяржаве.*]

---

[1] Прафесар Мар'ян Здзяхоўскі ў 1918 г. адзначаў, што гэты феномен «*праяўляецца як жывая памяць уласнага літоўскага або рускага паходжання, як усведамленне непарыўнай сувязі з роднай зямлёю і мясцовым людам і адначасна характарызуецца глыбокай прыхільнасцю да польскай культуры і мовы, што стала роднай, пачуццём непадзельнасці як гістарычнага лёсу Літвы і Польшчы, так і іх будучыні*» (Dziennik Miński. 1918, 6 (19) stycznia).

[2] Гамулка К. Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў 1918–1922 гг. Вільня, 2008, с. 127–128.

[3] Jurkiewicz J. Demokraci wileńscy w latach 1905–1914 (Zarys działalności i myśli politycznej) // Acta Baltico-Slavica. XV. 1983, s. 159.

[4] Lutosławski J. Edward Woyniłłowicz (Kartki z dziejów Kresów Wschodnich). Warszawa, 1928, s. 30.

[5] Woyniłłowicz E. Wspomnienia. 1847–1929. Cz. 1. Wilno, 1931.

[6] Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў (ЛДГА). Ф. 1135, воп. 17, ад. з. 70. Рукапіс быў папраўлены і апублікаваны ў віленскай газеце «Słowo» у 1927 г. у № 96 і № 97 (рэдактар Ст. Мацкевіч).
[7] Zdziechowski M. Widmo przeszłości. Warszawa, 1999, s. 67.
[8] Ініцыятарам стварэння партыі быў ягоны сябра Раман Скірмунт, які прысутнічаў на сходзе, але ў партыю не ўступіў.
[9] Zdziechowski M. Widmo przeszłości, s. 73.
[10] Цытата паводле, Войниллович Э. Воспоминания. Под ред В. Завальнюка. Минск, 2007, с. 333–334.
[11] Тамсама.
[12] Тамсама, с. 313.
[13] Тамсама, с. 358
[14] Тамсама.
[15] ЛДГА. Ф. 1135, воп. 17, ад. з. 70.
[16] Варта заўважыць, што ў гэтым тэксце аналізуецца менавіта рукапіс артыкула, а не апублікаваны варыянт. Апошні мог утрымліваць пэўныя рэдакцыйныя праўкі.

## TOWARDS THE PROBLEM OF THE SOURCES FOR THE KRAJOVAŚĆ IDEA AT THE BEGINNING OF THE 20th CENTURY*

The two last decades witnessed an obvious rise of both scholarly and public interest in the idea of *krajovaść*[1] (Pol. *'krajowość'*) as a distinct ideological phenomenon that characterises the epoch of ethno-cultural nationalism in Central-Eastern Europe. Its historiography already has its own tradition. It will suffice to mention such Polish scholars as Juliusz Bardach, Jan Jurkiewicz, Zbigniew Solak, Dariusz Szpoper, as well as Lithuanian historians, Rimantas Miknys and Jan Sawicki[2]. The author of this study gave much attention to this problem in his analysis of the history of Polish movement on Belarusian and Lithuanian territories in the last 50 years of the Russian Empire or in his studies of the evolution of the Belarusian national idea. Aliaksiej Unučak (Minsk) compared the ideologies of krajovaść and 'West-Russism'.[3] Recently, krajovaść attracted attention of Belarusian scholars. We may just mention works by Ihar Babkoŭ end Andrej Kazakievič.

In all that, the historians' interest has mostly been focused on the figures of the famous adherents of krajovaść. At the centre of attention there appeared Michal Römer (1880–1945), Kanstancyja (Pol. Konstancja) Skirmunt (1851–1934), Raman (Pol. Roman) Skirmunt (1868–1939), Edvard Vajnilovič (Pol. Edward Woyniłłowicz, 1847–1928), Tadevuš Urublieŭski (Pol. Tadeusz Wróblewski, 1858–1925), Liudvik Abramovič (Pol. Ludwik Abramowicz, 1879–1939) and others. The krajovaść idea has been examined mainly through the prism of the life and work of these people. Meanwhile, a whole set of problems related to this phenomenon is still waiting for more thorough research. The origin and formation of the idea of krajovaść remains one of the most important problems.

To begin with, let us try to define the krajovaść phenomenon itself.

---

* Артыкул быў упершыню апублікаваны ў зборніку „Kintančios Lietuvos Visuimenė: struktūros, veikėjai, idėjos" (Sudarytojai Olga Mastianica, Virgilijus Pugačiauskas, Vilma Žaltauskaitė. Vilnius, 2015, p. 509–527) пад назвай "Sources for the Krajovaść Idea at the Beginning of the 20th Century".

Krajovaść escapes descriptions and precise definitions. Historians usually employ a number of synonymous terms, such as 'krajovaść', 'krajovaść idea', 'krajovaść movement', 'krajovaść ideology'. One notes the obvious complexity of both the structure of the krajovaść idea and the way it was understood by its ideologists and followers. Krajovaść is often interpreted as a certain type of ideology of a political nation.

The krajovaść idea was first formulated in Belarus and Lithuania at the beginning of the 20th century. Its adherents claimed that all native inhabitants of the historical Lithuania, disregarding their ethno-cultural identity, are 'the Kraj citizens' and therefore belong to one nation. As the main criterion for a national belonging they proclaimed patriotism and self-identification as 'the Kraj citizens'.

This ideology originated among the šliachta ('gentry') circles of the historical Lithuania, a social stratum whose representatives often identified themselves with different nations. Juliusz Bardach thus characterised the self-understanding of the ideologists of krajovaść: *'According to their cultural orientation they were Poles; when, however, they defined their national belonging, they were governed by the sense of their distinctiveness of the region, which led them to subordinate Polish interests to the interests of the whole Kraj […] They were Lithuanians in historical sense, and this determined their position in political life'*.[4]

Krajovaść was rooted in the historical memory of the Grand Duchy of Lithuania (GDL), to which Belarusian and Lithuanian territories used to belong. By asserting the oneness of the historical destiny of all the peoples of the former GDL, the adherents of krajovaść deemed it necessary to preserve the territorial integrity of the whole of the historical Lithuania.

One of the main goals of krajovaść was to achieve a compromise between particular interests of local ethnic groups and their common interest, seen as the good of their shared Patria, i.e. the historical Lithuania. Such common interest required a co-operation of different ethnic groups on the ground of social equality. Moreover, as Jan Jurkiewicz has rightly pointed out, this co-operation was not only a way towards a common goal but also a goal in itself.[5] The krajovaść followers hoped to combine krajovaść consciousness with modern national consciousness.

One may also see krajovaść as a certain feature of consciousness shared by a significant part of the inhabitants of the Belarusian-Lithuanian region. Some evidence allows to argue that the spread of this idea was fostered by the so called tutejšaść (that is, the sense of living 'here') of local people. Scholars often interpret tutejšaść as the lowest degree of ethnic self-identification, how-

# РАМАН СКІРМУНТ. НОВЫЯ ЛОЗУНГІ Ў СПРАВЕ АДРАДЖЭННЯ ЛІТОЎСКАЙ НАЦЫІ (1904)[*]

Раман Скірмунт (1868–1939) справядліва лічыцца адным з галоўных ідэолагаў краёвай ідэі ў яе кансерватыўнай (ці ліберальна-кансерватыўнай) версіі. Асноўныя палажэнні гэтага варыянту краёвасці былі выкладзеныя ўжо ў найбольш ранніх публікацыях Рамана Скірмунта (псеўданім *Ro…munt*), менавіта ў брашурах «Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej» (Львоў, 1904), а таксама «Głos przeszłości i potrzeba chwili» (Львоў, 1905). Фактычна, гэта быў дэбют публіцыста Р. Скірмунта, які раней быў вядомы пераважна як сын Аляксандра Скірмунта, гаспадара маёнтку Парэчча, у якім эфектыўная прамысловасць спалучалася з рацыянальнай сельскай гаспадаркай, а таксама як сябра Менскага сельскагаспадарчага таварыства.

У 1904 г. высветлілася, што ён валодае не толькі практычнымі навыкамі арганізацыі і кіравання гаспадаркай, але таксама мае аналітычныя здольнасці, цікавіцца мінулым і сучасным «гістарычнай Літвы» і яе народаў і ўжо выпрацаваў уласны погляд на тыя праблемы, якія найбольш хвалявалі мясцовую супольнасць літоўскіх і беларускіх палякаў.

Першыя публічныя выступы Рамана Скірмунта былі справакаваныя польска-літоўскім канфліктам, які найбольш яскрава праявіўся ў публіцыстыцы пачатку ХХ ст. Дастаткова прыгадаць зварот дзеяча літоўскага руху ксяндза Аляксандраса Дамбраўскаса «Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie» (1902)[1], які заклікаў польскамоўную літоўскую шляхту («старалітвінаў») адмовіцца ад польскасці і далучыцца да літоўскага руху. У наступным годзе шырока абмяркоўваўся ананімны адказ «младалітвінам» «*Przenigdy! Odpowiedź na «Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie»*[2].

Дамінуючым матывам публіцыстыкі Рамана Скірмунта, як сведчыць тэкст ягонай брашуры пра новыя лозунгі літоўскай нацыі, было адчуванне

---

[*] Упершыню тэкст быў апублікаваны на польскай мове: Edward Woyniłłowicz (1847–1928) jako krajowiec (Tożsamość – Pamięć historyczna – Idee. Przemiany historyczne i społeczne na Litwie i Białorusi w XIX i na początku XX wieku. Pod red. Doroty Michaluk. Warszawa, 2016, s. 165–174).

той небяспекі для Беларуска-Літоўскага краю («гістарычнай Літвы»), якую ўтрымліваў польска-літоўскі канфлікт. Аўтар убачыў у ім пагрозу «*адзінству літоўскай грамадскасці*». Гэтае пачуццё прымусіла Рамана Скірмунта задумацца над новай палітычнай праграмай, якая б паяднала «младалітвінаў» і «старалітвінаў», а таксама была свайго роду адказам на іншыя выклікі часу, якія мелі выразны сацыяльны характар. Брашура «Новыя лозунгі ў справе адраджэння літоўскай нацыянальнасці» стала ягонай першай спробай выпрацоўкі такой праграмы.

Каштоўнасць гэтага тэксту яшчэ і ў тым, што ён дапамагае зразумець пазіцыю Рамана Скірмунта на самым пачатку ягонай грамадскай і палітычнай дзейнасці. Як вядома, пазней ён далучыцца да беларускага руху (1916) і адыграе значную ролю ў змаганні спачатку за аўтаномію Беларусі ў складзе федэратыўнай і дэмакратычнай Расеі (1917), а пазней у барацьбе за незалежнасць Беларусі (1918).

**Ro…munt [Skirmunt R.]. Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości Litewskiej. Lwów, 1904. – 19 s.**

Спрэчка пра права на самастойнае развіццё альбо адраджэнне літоўскай нацыі, пра разумныя падставы існавання асобнай асветы нідзе не магла выклікаць такой зацікаўленасці, як у самой Літве. Перамены, якія глыбока патрасаюць грамадства, натуральна выклікаюць ажыўленыя спрэчкі, але трэба сачыць, каб яны не выходзілі за рамкі звычайных учцівых дыспутаў, каб супрацьлеглыя бакі нават пры ўсім узбуджэнні не забывалі пра тоеснасць мэтаў, да якіх на самой справе яны імкнуцца, хоць і рознымі шляхамі.

Падобная небяспека, як падаецца, сёння пагражае літоўскай грамадскасці. З аднаго боку, гэта младалітоўская інтэлігенцыя, якая не лічыцца з традыцыямі, з другога – шляхта, якая не заўсёды памятае пра абавязкі адносна ўласнага народа. Абодва ўзбуджаныя бакі дэманструюць схільнасць да бескампраміснай барацьбы. А дом, падзелены ўнутры, не выстаіць.

Адозвы абодвух бакоў, абвешчаныя ў мінулым годзе, вельмі характэрныя. Першая пад назвай «Głos Litwinów do młodej generacyi szlachty i magnatów», была напісана, верагодна, маладым святаром, а другая, як адказ на першую, з’явілася пад назвай «Przenigdy». Яе аўтар захаваў інкогніта, але відавочна, што ён з’яўляецца вядомым работнікам на сацыяльнай ніве.

Гэтая спрэчка, акрамя вялікага лакальнага значэння для карэннай Літвы, мае агульначалавечае значэнне як барацьба за неад’емныя правы

прыгнечанай у сваім развіцці нацыянальнасці. Напэўна, аб'ектыўныя і шляхетныя людзі заўсёды будуць мець сімпатыю для намаганняў нацыі па ўласнаму адраджэнню.

Як зерне, якое ў сухой зямлі можа доўгі час захоўвацца і толькі пад уплывам цяпла і вільгаці пачынае прарастаць, так і ў чалавечай душы спяць шматлікія думкі і пачуцці, якія патрабуюць стымулу звонку дзеля самапазнання і самаўсведамлення. Такой цеплынёю і вільгаццю для літоўскага народа стала асвета, якая ў апошняе дзесяцігоддзе мінулага веку з розных крыніцаў пранікала пад стрэхі літоўскіх хатаў. Асвета пачала абуджаць пачуццё племянной адметнасці, і чорная, як здавалася, бясплодная глеба, якая чакала рукі сейбіта і аратага, у адну ноч зазелянела багатай рунню.

Прыкрае здзіўленне, магчыма, тут і там ахапіла земляроба, які рыхтаваўся да сяўбы на гэтым нібыта мёртвым полі. Зараз ужо мала кінуць на яго сваё зерне. Каб сабраць ураджай неабходна спачатку знішчыць гэтую вясновую зеляніну, знішчыць жыццё, якое ўжо пачало віраваць.

Гаравацьнад здзейсненымі непрыемнымі фактамі альбо разважаць, ці не было б лепей, калі б не здарылася тое, што ўжо здарылася, не годна чалавека, які займаецца грамадскай працай. Пераломныя моманты ў гісторыі заўсёды суправаджаюцца сацыяльнымі патрасеннямі... Гэта перыяд хваляванняў і няпэўнасці. Новыя элементы, якія абуджацца ад векавога сну, выходзяць на дзённае святло. Яны як фермент, які выклікае трывогу і пакуты, гэтыя старажытныя складовыя грамадскага жыцця.

Першае пытанне, на якое мы павінны адказаць перад абліччам гэтай новай з'явы, ці мае яна права на існаванне? Калі адказ будзе пазітыўным, то разважанні пра адпаведныя сродкі для барацьбы з ёй, не будуць шляхетнымі. <u>Лепш заўсёды быць у згодзе з добрай справай.</u> У гэтай сітуацыі трэба думаць толькі пра спосаб суіснавання старых парадкаў з новымі з'явамі, каб тое, што мае права на існаванне і з'яўляецца дабром (няважна старое або новае) не пацярпела ў момант пераломy.

Калі новы лозунг праляціць як шторм над краінай і, трапіўшы на адпаведную глебу, знойдзе шматлікіх прыхільнікаў, то спакойныя і памяркоўныя людзі, прыхільныя традыцыйных парадкаў, звычайна з нежаданнем, часта страхам адмаўляюцца ад працы ў новым накірунку. І тады маладыя, бурлівыя, няўрымслівыя элементы, не адчуваючы ні супрацьвагі, ні супраціву, распачынаюць на свабодным полі свае часцяком галаваломныя практыкаванні.

Падобная сітуацыя склалася з маладым літоўскім рухам. Шляхта і старая інтэлігенцыя, якая ўжо некалькі стагоддзяў карыстаецца польскай мовай, прынамсі без энтузіязму сустрэла намаганні часткі інтэлігенцыі па пашырэнню і ўздыму прэстыжу літоўскай мовы. У выніку здарылася тое, што павінна было здарыцца.

Насенне, кінутае ў адпаведную глебу, пачало актыўна прарастаць, але маладыя і новыя людзі з характэрнай гарачнасцю пачалі кіравацца прынцыпам вока за вока. На абыякавасць яны адказалі варожасцю, а потым нянавісцю. Памылковае ігнараванне традыцыі характэрна для новых людзей. І вось пад іх непасрэдным кіраўніцтвам младалітоўскі рух набыў кірунак нязгодны з гістарычнай місіяй нацыі, а кансерватыўная частка грамадства раптам адчула сябе нібыта чужой сярод сваіх ва ўласным краі.

Аднак гэта вельмі добра, што абудзілася імкненне да стварэння выключна літоўскай асветы, да росту значэння ролі літоўскай мовы. Толькі яна будзе прынята літоўскім народам і прамовіць да яго сэрца.

Польская асвета хоць і атрымала да пэўнай ступені права грамадзянства ў карэнным літоўскім краі, але так і не знайшла для сябе надзейнай глебы. Іншая чужая культура, за якой стаіць вялізарная матэрыяльная моц, магла б з ёй весці няроўную барацьбу. Толькі тое полымя, якое разгараецца ў людскіх душах у абароне любай і добрай справы, робіць чалавека здольным да гераізму і каласальных ахвяраў у няроўным змаганні. На такія маральныя намаганні літоўскі народ ніколі б не пайшоў, абараняючы мову, якую не чуў у калысцы, якая не стала сімвалам усяго самага дарагога сэрцу. Калі б Літва ў сэнсе асветы была падобная на глебу, якая не мае ўласнай расліннасці, то цалкам верагодна, што не паляк бы тут сеяў сваё зерне. Чужая моц выціснула б яго і працавала б на гэтай глебе дзеля ўласнай выгоды, на пагібель заходняй культуры.

Яшчэ раз адзначу: вельмі добра, што справа літоўскай асветы жыве і не дае заснуць, добра не толькі для Літвы, для якой яна ў сучаснай сітуацыі з’яўляецца галоўнай абаронай ад расейскага патопу, але таксама і для палякаў. Калі абодва бакі не наробяць вялікіх памылак, то стары польскі саюзнік пасля цяжкай барацьбы зноў узмоцніцца. Як некалі, яшчэ ў першым стагоддзі хрысціянства для напалову варварскай Літвы польскасць выратавала яе ад асіміляцыі з боку Белай Русі, так сёння толькі асвета ў роднай мове можа даць народу стойкасць і мужнасць у супрацьстаянні расейскай хвалі. Праца пачынальнікаў літоўскай асветы з’яўляецца карыснай і заслугоўвае прызнання.

Гэты рух мае ў сабе і станоўчыя, і адмоўныя рысы маладосці. Станоўчыя: полымя і вера. Адмоўныя: пэўная абмежаванасць поглядаў і залішняя паспешлівасць у нанясенні ўдараў не толькі па праціўнікам, але і па таварышам па зброі ў выпадку разыходжання ў меркаваннях. Нават часцяком цяжкія ўдары не павінны адштурхоўваць людзей добрай волі ад гэтай працы. Гэта добрая справа, і з часам яна стане крыніцай моцы літоўскага племені. Урэшце рэшт, паяднанне з гэтым рухам неабходнае, бо не атрымаецца яго спыніць. Так, немагчыма чалавечым дыханнем спыніць парыў ветру альбо закрыць сонца плашчом ці сурдутам.

Калі будзе дасягнутая згода адносна самога прынцыпу, а менавіта абодва бакі прызнаюць права на самастойнае развіццё народаў Літвы, то адкрыецца шлях да поўнага паразумення людзей добрай волі, а такое паразуменне адносна двух вельмі значных праблемаў, звязаных з галоўнай справай, надзвычай важнае. Першая з іх – сучасныя адносіны Літвы да Польшчы. Другая – пазіцыя літоўцаў, што гавораць па-польску, адносна тых, хто ўжывае родную мову.

Адсутнасць такога паразумення аказала б адмоўны і нават злавесны ўплыў на развіццё літоўскай нацыі, якая адраджаецца. Розніца ў меркаваннях адносна праблемаў меншай вагі заўсёды будзе прысутнічаць – quot capita tot mentes[3], але яна не будзе мець значэння большага, чым унутраныя спрэчкі, і ніколі не стане нагодай для разрыву, якім сёння легкадумна пагражаюць пэўныя колы.

Адносіны Польшчы да Літвы немагчыма зразумець паводле простай формулкі: «aut – aut»[4]. Падобнае вырашэнне складанай праблемы або разразанне вузлоў, завязаных шматлікімі пакаленнямі на працягу стагоддзяў, было б палітычным галавацяпствам. Жыццё – гэта пастаяннае развіццё, пастаянны рух наперад. Новы дзень стварае новую сітуацыю, а яна патрабуе працы і новых інтэлектуальных намаганняў, каб прыстасавацца да новага становішча. Аднак нашыя ідэалы і вера не падвяргаюцца такой безупыннай метамарфозе. Яны вынік працы папярэдніх пакаленняў, яе крышталізацыя, і адмаўляцца ад іх знянацку не можа аніякае грамадства без відавочнай для сябе шкоды. Як чалавек можа толькі марна існаваць без ідэалаў, так і нацыя. І нават у яшчэ большай ступені.

Але немагчыма стварыць палітычную праграму толькі на падмурку ідэалаў мінулага. Такая праграма арыентавала б нас на недасягальныя мэты і адправіла б у пагоню за фантазіямі. Здаровая, жыццёвая праграма павінна грунтавацца на переказаных ідэалах, але адначасна ўказваць нам

жыццёва важныя і рэальныя мэты. Толькі такая праграма, якая прымушае працягваць працу нашых бацькоў і грунтуецца на патрэбах сучаснага моманту будзе жыццёва важнай і здаровай, толькі праграма, што спалучае мінуўшчыну і будучыню.

Адныя чыннікі былі важнымі ў гісторыі нацый пяць стагоддзяў таму, іншыя дзейнічаюць сёння. У тыя часы прадстаўніком нацыі было рыцарства. Толькі рэвалюцыя XVIII ст. паспрыяла нармалізацыі многіх рэчаў, а эвалюцыя XIX ст. надала шырокае значэнне і перавагу народу. Шмат стагоддзяў масы не адыгрывалі ніякай ролі ў палітычным жыцці Еўропы. Зразумела, што яны таксама адсутнічалі пры заключэнні актаў уніі Літвы і Польшчы[5].

Але ж нельга выкарыстоўваць нормы сённяшняга дня для разумення гісторыі далёкага мінулага! Гістарычныя акты нельга пазбаўляць значэння толькі таму, што прымаліся ва ўмовах, якія не адпавядаюць сучасным дзяржаўным і сацыяльным адносінам. Пасля заключэння уніі Літвы і Польшчы наступіла эпоха згоднага і гарманічнага сужыцця. Гэтая шматвяковая супольная доля і нядоля не можа не ўплываць на пазнейшыя адносіны абедзвюх нацыянальнасцяў. Ацэньваючы значэнне і ўплывы гэтага перыяду на далейшае развіццё нацыі, нельга вырываць гэтую карту з мінуўшчыны. Усе спробы выкінуць цэлыя тамы літоўскай гісторыі могуць быць толькі вынікам слепаты або інтэлектуальнай анархіі.

Менавіта таму тыя, хто лічаць неабходным захаванне маральнай сувязі Літвы і Польшчы стаяць на глебе правільнага гістарычнага развіцця, а тыя, для каго палякі з’яўляюцца іншаземцамі нароўні з немцамі[6], адыгрываюць ролю разбуральнікаў традыцыі ўласнай нацыі і навязвання ёй ідэалаў чужых яе гістарычнаму шляху, ідэалаў, якія не выраслі на гістарычнай глебе, але выспявалі ў іх галовах.

Праграма разрыву ўсялякіх сувязяў з Польшчай з’яўляецца грахом супраць гісторыі і ператварае ў падман гісторыю літоўскай нацыі. Але ці не ўказвае яна пры гэтым шлях у будучыню? Нягледзячы на перавагу, якую, безумоўна, мела Карона палякі ні на адну пядзю не зменшылі тэрыторыю этнаграфічнай Літвы. З захаду гэта рабілі немцы агнём і мячом, з поўдня, усходу і паўночнага ўсходу беларускае мора падмывала яе берагі і залівала край магутнай хваляй. «На вялікіх абшарах гучыць сёння беларуская мова, і толькі назвы рэк і вёсак сведчаць, што жыве там асіміляваны літоўскі народ. Сёння ўласнымі вачыма назіраем гэты працэс беларусізацыі...»[7]

Здаецца відавочным, адкуль зыходзіць пагроза межам этнаграфічнай Літвы. Але надзвычай дзіўным паваротам логікі, што

нагадвае той цудоўны манеўр, які пан Валадыеўскі ўпершыню выкарыстаў у двубоі на палашах пад Люблінам, аўтар «Głosu Litwinów» пераносіць усю віну на палякаў, а менавіта на польскае каталіцкае духавенства. Хоць ва ўспрыняцці непісьменнага народу беларуская мова была сімвалам чужой для Літвы рэлігійнай уніі, а пасля «воссоединения любовью» – сімвалам праваслаўя. Не маю ні жадання, ні намеру абвінавачваць аўтара «Głosu Litwinów» у нядобрасумленнасці. Фанатызм мае і шляхетныя моманты, але ён слепіць нас. Якраз гэтая слепата і прыводзіць да недарэчных высноваў аўтара «Głosu Litwinów»... каталіцкага святара (здаецца)!

Сёння моц Польшчы зламаная, яна не мае ні сіл, ні сродкаў для гвалтоўнага пашырэння сваіх этнаграфічных межаў коштам суседзяў. Такая праца ідзе цяжка нават у сітуацыі такой няроўнасці ў сілах, як у Пазнаньскім, а палякі такой моцы наогул не маюць... Лель паранены і закаваны ў кайданы, у дужках дадам таксама як і Палель[8]... Прыгожае відовішча двух жабракоў, якія б’юцца паміж сабой, у прысутнасці *tertii gandentis* – прыгнятальніка!

Для палякаў сёння амаль немагчыма не толькі здабываць тэрыторыі шляхам гвалту, але рабіць тое ж шляхам культурніцкай дзейнасці. Ад гэтай небяспекі літоўцаў аберагаюць суровыя юрыдычныя кары і аргусавыя вочы тых, хто права ахоўвае. Для цалкам цёмнага народу кожная асвета, адкуль бы яна ні прыйшла, мае пэўную прыцягальную сілу, як цела планеты для рассыпаных у сусвеце атамаў.

Але нацыя, што абуджаецца для самаўсведамлення або ўжо яго мае, таксама канцэнтруе ў сабе прыцягальную сілу, яна фармуе асобны свет, які верціцца вакол уласнай восі... Толькі магутнае прыцягненне значна большага нябеснага цела можа стаць для яго пэўнай пагрозай. Тое, што мы назіраем, сведчыць, што моцнае вогнішча, якое мае нейкі магічны і гіпнатычны ўплыў на пэўную частку літоўскай інтэлігенцыі, гарыць, хоць можа нам гэта толькі падаецца.

Аўтар «Głosu Litwinów» аспрэчвае факты, але і ён разумее значэнне гэтага вогнішча. Імкненне да польскай культуры сёння не дало б літоўцам ніякіх ні матэрыяльных, ні палітычных выгодаў, можа таму так лёгка забываюцца маральныя вузы, якія яднаюць з ёй. Так, часцяком занадта хутка і лёгка забываецца блізкі сваяк, які трапіў у нядолю.

Пэўная асцярожнасць адносна польскай асвета, магчыма, абгрунтаваная. Не ўсе літоўцы, што гавораць па-польску, так ясна ўсведамляюць

праблему права і імкнення літоўскай нацыі да ўздыму і пашырэння роднай мовы, як аўтар «Pzenigdy». Тыя, хто, жывучы сярод літоўцаў, імкнуцца супрацьдзейнічаць літоўскай асвеце (зразумела, у вузкіх рамках сваіх мажлівасцяў), пашыраюць польскую асвету. Трэба іх пільнаваць, але ні вялікай страты ў літоўскіх шэрагах, ці моцнага ўдару па справе асветы яны не ў стане нанесці. Здаецца, што больш шкоды наносяць тыя, хто непатрэбнымі і несваечасовымі праклёнамі і выкрыццямі, адштурхоўваюць слабых духам людзей ад актыўнага ўдзелу ў працы па адраджэнню нацыі.

Калі задумаемся пра тое, адкуль бярэцца гэтая заўзятасць, якая, на жаль, даволі часта праяўляецца сярод літоўскай інтэлігенцыі ў стасунку да палякаў, прыйдзем да высновы, што вышэйапісанае непаразуменне з'яўляецца яе галоўнай крыніцай. Іншыя прычыны цяжка ўбачыць. Але, надаючы гэтаму непаразуменню такое вялікае значэнне, літоўцы кіруюцца эмоцыямі, а не халодным розумам. Стральба з гарматаў па вераб'ях смешная, а праклёны і знявагі праціўніка ў дыскусіі – вялікая памылка. Асабліва, каля для гэтага няма паважных прычынаў.

З улікам ранейшых заўвагаў адносна польска-літоўскіх адносінаў можам сцвярджаць, што Польшча ніколі не пагражала этнаграфічным межам Літвы. Пяць стагоддзяў супольнай гісторыі, супольнай долі і нядолі, шматлікіх сваяцкіх стасункаў, культурнага саюза, увасабленнем якога заўсёды будзе Міцкевіч, не зважаючы на тыя недарэчнасці, якія напісаў пра яго аўтар «Głosu Liwinów», і на якія не хачу нават адказваць, патокі сумесна пралітай крыві ў абароне агульных прынцыпаў і ідэалаў, нарэшце, усведамленне, што небяспека сёння пагражае абодвум нацыям, дазваляе заявіць, што літоўцы маюць толькі аднаго натуральнага саюзніка, а менавіта Польшчу. Лозунг «Палякі – гэта чужыя» вядзе ў тупік.

«Колькі ж прыкрых і пакутлівых як кашмар дылемаў, колькі ж знакаў пытання!» Гэты крык болю аўтара «Przenigdy» можа датычыць агульнага палітычнага становішча ўсіх земляў былога Вялікага Княства Літоўскага, а асабліва зямянства гэтага краю – вялікіх і сярэдніх землеўласнікаў. Завіруха 1863-га года, жахлівая ў падзеях і ў наступствах, пазбавіла іх права набываць зямлю. Менавіта таму інстынкт самазахавання прымушаў іх трымацца гэтай зямлі, не выпускаць з рук Бацькаўшчыны usque ad finem[9] пакуль ёсць сілы і магчымасці.

Прывязанасць да зямлі стала дамінуючай рысай характару зямяніна, адной з яго галоўных станоўчых рысаў. Таго, хто легкадумна пазбыўся

зямлі, грамадскасць ігнаруе, як казачнага чалавека без ценю. Гэта сведчыць пра пачуццё адказнасці перад гісторыяй, якая нам даверыла гэты пост.

Мы маглі б і далей трымацца гэтых лозунгаў і гэтай праграмы, калі б на палітычную арэну не ўступілі новыя сілы, з якімі палітыка і пачуццё абавязку прымушае лічыцца...

У мінулым, да сярэдзіны XIX ст. пашырэнне цывілізацыі сярод люду лічылася непатрэбным. Праз некалькі стагоддзяў з’яднання з Польшчай літоўская і руская[10] шляхта прынялі польскую культуру, але шырокія масы навакольнага вясковага насельніцтва засталіся ў ранейшым стане. І вось прыйшоў час, калі святло ведаў як асобныя промні скрозь туман пачало даходзіць да нізінаў. Але ўсялякая актыўная праца на гэтай ніве ў польскім духу была ўжо немагчымая, як праца на заснежанай зямлі. Самапазнанне народу, хоць прыціснутае сёння ўжо не шляхтай, а чыннікамі значна больш магутнымі, абудзілася. І вось побач з намі ўзняўся народ, на першы погляд нібыта зусім чужы для нас.

Калі б гэтая чужасць была сапраўднай, наша даўняя праграма магла б заставацца актуальнай, хоць наша крэпасць і аслабела б. Але гэтая чужасць толькі ўяўная. Гэты факт можа стаць крыніцай шматлікіх ускладненняў, шматлікіх канфліктаў у нашай душы, але калі знойдзем годны сродак вырашэння праблемы, то ён можа стаць крыніцай нашай сілы. Гістарычныя даследаванні, таксама як і сямейныя архівы ў многіх выпадках сведчыць, што шляхта на тэрыторыі былога Вялікага Княства не з’яўляецца прышлым элементам пазнейшага часу, а нароўні з навакольным людам належыць да карэннага насельніцтва, спрадвеку тут жывучага. Адна кроў і адно паходжанне, адна зямля-карміцелька спрадвеку. Гэтая праўда вельмі павольна атрымлівае прызнанне. Каб яе прыняць, трэба ведаць мінулае. Памылковы тэзіс пра рознае паходжанне грунтуецца на сучаснай сітуацыі.

Гэтае ўсведамленне прыналежнасці да адной нацыі, якое павінна пашырыцца, бо з’яўляецца слушным, можа таксама аказаць пэўны ўплыў на праграму нашай культурніцкай працы. Пасля трагічных падзеяў 1860-х гг. здавалася, што бездань аддзяліла нас ад народу, што нашай духоўнай Айчынай з’яўляецца Карона, што толькі дзеля яе ўся нашая любоў і нашая праца. Гэта быў момант крызісу таго лакальнага патрыятызму, пра які ўспамінаў аўтар «Przenigdy». Але прызнанне адзінства нацыі, а г. зн. братэрства з мясцовым людам павінна стаць моцным рухавіком для гэтага патрыятызму, а таксама для ўспаміну пра нашыя абавязкі адносна люду, з якім разам працуем на адной зямлі, магчыма, сёння яшчэ несвядома, але на карысць супольнай Айчыны.

Перад намі складаная дылема. Мы павінны памятаць пра тыя абавязкі, якія ўсклала на нас традыцыя пяці стагоддзяў, а таксама пра абавязкі, што выцякаюць з нашага паходжання, г. зн. абавязкі гістарычныя і неад'емныя. Правільнае вырашэнне гэтай праблемы з'яўляецца для нас жыццёва важнай справай. Сфінкс гісторыі загадаў нам сваю загадку зусім нядаўна, а на Эдыпа, які здольны разгадваць загадкі Сфінкса, звычайна, трэба доўга чакаць. Зрэшты, шляхціц-земляроб, заняты працай на зямлі, не мае асаблівага жадання ламаць галаву над падобнымі загадкамі, ён іх папросту ігнаруе. Але Сфінкс забівае і тых, каго не цікавяць яго загадкі.

Калі маўчаць лепшыя, то прамаўляюць іншыя. Так, уздымае свой штандар *Анёл* з «Przeglądu Wszechpolskiego», каб весці нас праз бездарожжа да сваёй…утопіі. На іншым баку з'явіўся *Масыніс*[11] з нейкай жмудскай парафіі з зваротамі да душы літоўскага шляхціца, які патрабуе ад яго адмовы ад усялякай сувязі з Польшчай, як ад стаптанага абутку, а пачварам (monstrum), якія гэтага загаду не выканаюць, пагражае смерцю ў неабсяжным моры пагарды.

І адзін, і другі патрабуюць ад нас аднастайнасці праграмы, але гэтая аднастайнасць немагчымая. Каб яе дамагчыся, трэба адмовіцца або ад гістарычнай, або ад родавай традыцыі. І адно, і другое будзе памылкай. Бяда таму, хто ідзе да праўды праз памылкі: «Яна яму ніколі не будзе ім ўцехай», – недзе пісаў Шылер[12].

Мы павінны выпрацаваць праграму не аднастайную, а адпавядаючую абодвум пастулатам. Можна, захоўваючы духоўную сувязь з Польшчай, не выракацца з лёгкім сэрцам мовы, якой карысталіся некалькі пакаленняў нашых продкаў, а адначасна кахаць Літву, літоўскі народ, літоўскую мову і клапаціцца пра яе развіццё. Калі запануюць шчырыя адносіны ў гэтым духу, то літовец-селянін здолее выбачыць свайму брату шляхціцу адметнасць мовы без страху за адзінства Літвы.

Слушна крыўдуе аўтар «Przenigdy» на аўтара „Głosu Litwinów», які заклікае шляхту да неадкладнай адмовы ад польскай мовы. Гэтае патрабаванне не годнае сапраўднага змагара за вольнасць! Адначасна ён абвяргае сцвярджэнне пра немажлівасць сумяшчэння літоўскага патрыятызму і прыхільнасці да польскай культуры, прыгадваючы між іншым Швейцарыю.

Аналагічна і шатландцы кахаюць сваю Айчыну, уласна Шатландыю і ўтрымліваюць сувязь з Англіяй. Graham і Campbell (Montrose і Argyll) – добрыя сыны Шатландыі і добрыя грамадзяне Вялікай Брытаніі,

а ўжыванне імі англійскай мовы ніхто не лічыць здрадай. Таксама нельга абвінавачваць літоўскую шляхту ў выкарыстанні польскай мовы. Зрэшты, адмова ад яе зусім не з'яўляецца неабходнай умовай для паспяховага развіцця літоўскай справы, якая набірае хаду. (Каб толькі занадта гарачыя «Głosy» ёй не пашкодзілі).

Хто ж сто гадоў таму мог прадбачыць паспяховае развіццё хоць і ў цяжкім змаганні літоўскага народу? Хто ж мог прадказаць, што Шварцэнбергі і Лобковічы апынуцца ў шэрагах абаронцаў чэшскай нацыі станyць яе гарачымі прыхільнікамі? А хто можа прадбачыць тыя поспехі, якіх на працягу стагоддзя дасягне літоўская мова на роднай зямлі? Можа тыя пачвары, якімі аўтар «Głosu» палохае літоўскіх дзяцей, якраз прымуць слаўны ўдзел у гэтым адраджэнні…

Удзел у гэтай адраджэнскай працы з'яўляецца абавязкам шляхціца-літоўца нароўні з абавязкам шанавання тых вузаў, што яднаюць яго з польскай культурай. Маладыя пакаленні павінны апроч польскай вывучаць і літоўскую мову, каб ведаць мову продкаў сівой даўніны і мову народу, з якім будуць наладжваць стасункі. Гэтыя пакаленні самі павінны вырашаць, якую ролю ў іх доме ў будучыні будзе адыгрываць літоўская мова, не апасаючыся анафемы і крыкаў сучасных радыкалаў.

Прэтэнзіі заўсёды прыкрыя, але маюць і пэўны пазітыў, калі пабуджаюць да дзейнасці памяркоўныя элементы, звычайна, схільныя да сну. Калі б мы не пачулі рэзкага голасу літоўцаў, то не дачакаліся б хуткіх і карысных аргументаў аўтара «Przenigdy». У абодвух зваротах, на першы погляд варожых адзін да другога, у важных справах знойдзем вельмі набліжаныя погляды, якія могуць стаць падмуркам для далейшага канчатковага паразумення, але да яго трэба імкнуцца, а не губляць сілы ў марнай грамадзянскай вайне…

«Будзьце сапраўднымі братамі, гаворыць *Літваман*, каб у нас і ў вас была адна мэта, адзін ідэал, адзінства ў дзейнасці і яднанне ў жыцці. Хочам, каб кожны літовец быў і застаўся літоўцам, каб любіў сваю зямлю і родную мову». «Пяць стагоддзяў, – гаворыць *Паляка-Літвін» пачвара невыносная*[13], – мы ахвяравалі Літве жыццём і маёмасцю і раўніва берaглі літоўскую адметнасць. «Мы верым у высакародную місію літоўскай нацыі, мы, літоўцы, якія размаўляюць па-польску»[14].

Паміж людзьмі, якія так гавораць, прынцыповае паразуменне не будзе складаным. У дробных пытаннях могуць заставацца разыходжанні меркаванняў, гэта неістотна. Яднанне нацыянальных сіл павінна

адбывацца на глебе любові да роднай зямлі, якая аднолькава дае магчымасць жыць і селяніну, і шляхціцу. Не трэба перабольшваць значэнне таго, што іх дзеліць, неабходна ўмацоўваць вузы, якія звязваюць. Не трэба ні праклінаць таварышаў па зброі з іншай харугвы, ні абражаць іх. Атручаныя кулі, узятыя з гакатыстычных[15] арсеналаў, гэта кепская зброя, бо яны раняць і прыводзяць у шаленства, але не забіваюць.

Адзінства думкі і ў вялікім войску – неабходная ўмова перамогі, а што ж казаць пра такі невялікі атрад, як літоўскі. Менавіта таму тыя, хто заклікае да грамадзянскай вайны не стануць на чале нацыі альбо прынамсі не прывядуць яе да перамогі і поспеху. Узначальваць нацыю павінны тыя, хто клапоціцца пра яднанне пад сцягам шанавання неад'емных правоў нацыі і яе гістарычных традыцый. Пра іх можна будзе сказаць: «Блаславенныя што нясуць мір, яны павядуць сыноў да працы ў абароне добрай справы».

---

1 [Dambrauskas A.]. Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie. [Tylza?], 1902.

2 B. a. Przenigdy! Odpowiedź na „Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie». Kraków, 1903. (Польскія гісторыкі Ян Юркевіч і Пётр Ласоўскі шукалі аўтара гэтага тэксту сярод маладзейшага пакалення роду Мейштовічаў).

3 «колькі галоў, столькі розумаў» (лац.) *(заўвага А. С.)*

4 «або – або» (лац.) *(заўвага А. С.)*.

5 «Згадка... уній Літвы і Польшчы не мае... значэння. Падпісанне уніі і складанне адпаведнага акту адбываліся без удзелу як польскага люду, так і літоўскага» («Głos Litwinów… s. 7 etc) *(заўвага аўтара)*.

6 Ibidem, s. 22 *(заўвага аўтара)*.

7 Ibidem, s. 25 *(заўвага аўтара)*.

8 Героі славянскай міфалогіі, сыны багіні Лады. Найчасцей згадваліся ў літаратуры XVI ст. *(заўвага А. С.)*

9 Да канца (лац.) *(заўвага А. С.)*.

10 Р. Скірмунт пісаў пра «рускую шляхту», разумеючы пад гэтым тэрмінам праваслаўную шляхту ВКЛ *(заўвага А. С.)*.

11 Irydion *(заўвага аўтара)*. Магчыма, Р. Скірмунт звярнуў увагу на тое, што літоўскі публіцыст выкарыстаў імя аднаго з герояў твораў Гнезненскага архібіскупа, паэта і празаіка эпохі Асветніцтва Ігнацыя Красіцкага (1735–1801) *(заўвага А. С.)*.

12 D. verschleierte Bild von Sais *(заўвага аўтара)*.

13 «Głos Litwinów…, s. 23 *(заўвага аўтара)*.

14 «Przenigdy!»…, s. 13, 18 *(заўвага аўтара)*.

15 Гаворка пра «арсенал» нямецкіх шавіністаў, якія выкарыстоўваўся ў палітыцы германізацыі польскага насельніцтва ў Пазнаньскім *(заўвага А. С.)*.

# КАНСТАНЦЫЯ СКІРМУНТ (1851–1934) У АБАРОНЕ «КРАЁВАЙ ІДЭІ» І АДЗІНСТВА НАРОДАЎ «ГІСТАРЫЧНАЙ ЛІТВЫ»

Адначасна з Раманам Скірмунтам да палемікі паміж «младалітвінамі» і «сталітвінамі» на самым пачатку XX ст. далучылася яго стрыечная сястра Канстанцыя Скірмунт. У 1904 г. у Львове была апублікаваная яе брашура пад назвай «O prawdę i zgodę z powodu głosu Litwinów do magnatów, obywateli i szlachty na Litwie i odpowiedzi młodego szlachcica litewskiego» (псеўданім *Futurus*). Гэты тэкст Канстанцыі Скірмунт адыграў прыкметную ролю ў фармаванні краёвай ідэалогіі.

У адрозненні ад брата яна ўжо мела пэўны вопыт публіцыстычнай працы, бо была адным з пастаянных аўтараў пецярбургскай газеты «Kraj». Апроч таго ў Беларусі і Літве добра ведалі яе гістарычныя працы, прысвечаныя мінуламу Літвы. У 1886 г. у Кракаве выйшлі з друку «*Dzieje Litwy opowiedziane w zarysie*», а пазней з'явіўся трохтомнік па гісторыі Літвы: «*Z najstarszych czasów plemienia litewskiego*» (Кракаў, 1892; выданне другое мела назву «*Nad Niemnem i nad Bałtykiem u zarania dziejów*» (Варшава, 1897), «*Podania. Czasy przed-Mindogowe. Dzieje starożytnych Prus*» (Варшава, 1903), «*Mindog król Litwy*» (Варшава, 1909). Гэтыя кнігі чыталі не толькі «літоўскія палякі», але і літоўцы, бо яны былі перакладзеныя на літоўскую мову. Аўтарка, дарэчы, высока ацэньвала дзейнасць вялікага князя Вітаўта і не шкадавала крытыкі па адрасу Ягайлы.

Канстанцыя Скірмунт належала да ідэолагаў краёвасці ў яе кансерватыўным варыянце. Яна падтрымлівала літоўскі рух, шукала шляхі польска-літоўскага паразумення, вяла перапіску з Ёнасам Басанавічусам, але адначасна крытыкавала найбольш радыкальныя праявы літоўскага

* Упершыню пераклады ніжэйпазначаных тэкстаў Канстанцыі Скірмунт на беларускую мову былі зробленыя падчас падрыхтоўкі электроннага выдання: *Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія* (Рэдактар Алесь Пашкевіч. «Палітычная сфера, 2014). На жаль, у гэтым электронным выданні не пазначаныя перакладчыкі тэкстаў.

нацыяналізму. Але галоўным ворагам Краю апроч расейскага ўраду яна лічыла польскіх нацыянальных дэмакратаў. У палеміцы з імі ў 1906 г. на старонках газеты «Kurier Litewski» (№ 224 ад 22 верасня) быў апублікаваны яе артыкул «Nasza «tutejszość», які можна лічыць адным з «класічных» тэкстаў краёўцаў.



*Канстанцыя Скірмунт. Фотаздымак*

Канстанцыя Скірмунт не пагадзілася з інкарпарацыяй Вільні і Віленшчыны ў склад Польскай дзяржавы. Яна захавала вернасць краёвай ідэі ў перыяд II Рэчы Паспалітай, была сталым аўтарам газеты «Przegląd Wileński» (рэдактар Людвік Абрамовіч), асуджала праявы польскага нацыяналізму і выступала ў абарону літоўскай і беларускай супольнасцяў ад палітыкі нацыянальнай асіміляцыі.

Для публіцысткі было непрымальным успрыняцце польскай палітычнай элітай Беларуска-Літоўскага краю як польскіх «крэсаў». У 1925 г. у Вільні выйшаў з друку зборнік яе артыкулаў пад назвай «Idea jagellońska a polityka kresowa». «Ягелонскую ідэю» яна разумела як палітыку паяднання народаў былой Рэчы Паспалітай.

## *Футурус [Скірмунт К.]. Аб праўдзе і згодзе з нагоды звароту літоўцаў да магнатаў, грамадзянаў і шляхты ў Літве і адказу маладога літоўскага шляхціца (Львоў, 1904)*

*Futurus [Skirmuntt K.]. O prawdę i zgodę z powodu głosu Litwinów do magnatów, obywateli i szlachty na Litwie i odpowiedzi młodego szlachcica litewskiego. Lwów, 1904*

Нацыі, якія абуджаюцца ад векавога летаргічнага сну і зноўку спрабуюць усвядоміць уласную адметнасць, з аднаго боку, з’яўляюцца доказам бессмяротнасці нацыянальных элементаў, а з іншага, пацвярджаюць

тую праўду, што адставанне дадзенай нацыі ў агульным руху чалавецтва нараджае сярод групы маладых патрыётаў, якія якраз і адраджаюць яе, шэраг няспелых паняццяў і беспадстаўных поглядаў. Гэтымі паняццямі маладая нацыянальнасць каля варштату культурніцкай працы, пачынае пераацэньваць увесь навакольны свет, асуджае мінулае і пераскоквае ў будучыню, а пры першай магчымасці пачынае дзейнічаць, несвядомая ўласнай непадрыхтаванасці.

Гэта можна назваць дзяцінствам нацыі, якую гістарычна варта аднесці да старых, але якая ў выніку шматвяковай бяздзейнасці прадстаўнікоў асвечаных колаў затрымалася на пачатковым этапе. Яна не стварыла ўласнай культуры і мае перад сабою доўгі шлях ўнутранага развіцця і назапашвання вопыту, каб дайсці да той праўды, якая складае багацце і мудрасць сфармаваных нацый.

Што бывае, калі да нацыянальнага самаўсведамлення абуджаецца толькі просты народ, той малады сацыяльны слой, які мае найбольшую жыццёвую сілу, але занадта суровы, без традыцый, без выпрацаванага стагоддзямі ідэалу, а асвечаныя і багатыя шматвяковай культурай колы яшчэ не адчулі ў сабе гэтага нацыянальнага імпульсу? У гэтай сітуацыі голас прадстаўнікоў нацыі непазбежна будзе аднабаковым, няпоўным, але перадусім прымітыўным.

Такі перыяд сёння перажывае маладая Літва, якую адраджае яе народ. Якраз таму яе лозунгі і дзеянні пры шматлікіх пазітыўных рысах утрымліваюць непрадуманыя паняцці і неразважлівыя эмоцыі пры вырашэнні праблемаў вялізарнай вагі, якія выклікалі сярод нашай прыціснутай і маўклівай грамадскасці канфлікты пачуццяў і меркаванняў, што адлюстраваліся ў артыкуле газеты «Żynicze» «Głos Litwinów do młodej generacyi szlachty i magnatów»[1] і ў адказе на яго таксама з колаў маладой шляхты ў брашуры азагалоўленай выкрыкам «Przenigdy!»[2].

Хто чытаў гэтыя ў пэўным сэнсе праграмныя выступленні, той можа сцвердзіць: спакойны аналіз сітуацыі тут спалучаецца з надзвычай радыкальнымі і па гэтай прычыне невыканальнымі патрабаваннямі літоўскіх нацыяналістаў, а абураны адказ маладога літоўскага шляхціца празмерна востры і ўтрымлівае памылковае разуменне матываў, якімі кіруюцца прадстаўнікі супрацьлеглай групы.

Над гэтымі двума лагерамі яшчэ не грамадства, бо да гэтага мы не дайшлі, а хутчэй нашай грамадскасці, якая пад пагрозай смерці вымушаная да згоды і салідарнасці, над гэтай распачатай барацьбой, што павінна

быць толькі ўзгадненнем, як злыя духі носяцца ўзаемнае непаразуменне, няведанне і шавінізм.

Перш за ўсё трэба адкінуць гэтыя крылы кажана, што закрываюць ад нас сонца праўды, дасягнуць узаемаразумення, усвядоміць, што мы любім, адмовіцца ад эгаізму, які нараджае выродлівыя, гвалтоўныя дзеянні і нянавісць. Нам патрэбная добрая воля, неўміручая добрая воля, менавіта гэта, а не ўзаемныя пагрозы. Калі б хто засумняваўся, што як у грудзях літоўскага нацыяналіста, так і ў грудзях паланізаванага літоўскага шляхціца ёсць гэтая добрая воля, той засумняваўся б і ў будучыні Літвы і Польшчы на нашых землях.

Напэўна можна сцвярджаць, што сёння няма паразумення, а ёсць толькі ўзаемны недавер. Магнат і шляхціц у патрыятычнай дзейнасці літоўскай інтэлігенцыі бачаць сепаратызм, група палымяных літоўцаў абвінавачвае спаланізаванае грамадства Літвы ў нядаўна зняслаўленым гакатызме[3], які, як быццам, тое пустазелле лёгка пераносіцца на кожную глебу. Можна прызнаць, што ў вялікай ступені тут ёсць і першае, і другое. Выкрыццё праціўніка, які паўсюдна гаворыць пра замілаванне да традыцыйных ідэалаў, а на самой справе толькі атручвае ўсялякае братэрства эгаізмам – гэта першы крок дзеля аздараўлення гэтых ненармальных нашых стасункаў.

Прэч сепаратызм, які пашыраюць нашыя ўчоранароджаныя гістарыясофы, але прэч і гакатызм у польскім адзенні! Ведаем з прэцэдэнтаў у Пазнаньскім, што значыць адбіраць у нацыі права на карыстанне і развіццё роднай мовы. Гакатызм, які з'явіўся ў некаторых нашых дамах, можа запляміць і зняславіць польскасць у Літве.

Дзеля чаго патрэбнае паразуменне? У першую чаргу дзеля вырашэння праблемы мовы, а дакладней моваў.

***

Айчынная, старажытная і прыгожая літоўская мова вызначае на нашай зямлі, хто паляк і хто літовец, так гавораць нашыя літоўскія нацыяналісты. Хто не гаворыць на гэтай мове, не ўжывае яе як родную, той не літовец. Гэтаму тэзісу трэба катэгарычна запярэчыць.

Для кожнай нацыі надзвычай каштоўным скарбам з'яўляецца яе родная мова. Гэта тая форма, у якой найбольш дасканала, дакладна і адначасна свабодна адлюстроўваецца нацыянальны дух. Можна сказаць, што на працягу шматлікіх стагоддзяў дух нацыі стварае гэтую форму, гэтае адзен-

не для сваіх думак і пачуццяў. У слове думка і пачуццё выяўляюць уласную арыгінальную генеалогію паняццяў (этымалогію), уласную арыгінальную канструкцыю і гук. За захаванне ўласнай мовы кожны, хто любіць Літву, павінен дзякаваць народу, які гэты скарб захаваў, а таксама жадаць мове развіцця і жыцця.

Але не трэба забываць, што мова – гэта не ўся сутнасць нацыі, гэта нават не палова яе сутнасці, што яна больш форма, чым змест, а форма існуе дзеля зместу.

Сутнасць нацыі – гэта адметны дух, характар, індывідуальныя маральныя рысы, асаблівасці, якія адрозніваюць яе ад іншых нацый, а з фізічнага боку яе сутнасцю з'яўляецца племя, этнічныя элементы, з якіх нацыя вырастала.

Усе гэтыя асаблівасці могуць існаваць і існуюць, апроч асаблівасцяў той альбо іншай мовы і незалежна ад іх. Менавіта таму, як слушна сцвярджае аўтар «Odpowiedzi», тысячы ірландскіх патрыётаў размаўляюць па-англійску, швейцарац, што размаўляе па-французску або па-нямецку, адчувае сябе швейцарцам, фін, які гаворыць па-шведску, гатовы праліць уласную кроў за правы і прывілеі Фінляндыі. І наадварот. Велікарус, які лічыцца славянінам толькі таму, што размаўляе па-славянску, па свайму характару і палітычнай дзейнасці з'яўляецца яго антытэзай. Так і ў нас можна ад нараджэння размаўляць па-літоўску і не выпрацаваць або страціць у сабе рысы нацыянальнага літоўскага духу; а можна ад нараджэння на нашай зямлі размаўляць па-польску, але ў характары сваім і ў душы мець індывідуальныя рысы і нацыянальную свядомасць літоўца.

Ужываю гэтыя крайнія прыклады толькі дзеля таго, каб падкрэсліць справядлівасць вышэйазначанай пазіцыі. Гэта не нармальна, што мова дадзенай супольнасці адрозніваецца ад яе паходжання. Аднак такая ненармальнасць сустракаецца, як у лёсах людзей, так і ў лёсах нацый. Не стварае яе ні пэўная свядомая воля, ні пэўнае свядомае адступніцтва. Тут дзейнічаюць магутныя гістарычныя чыннікі, не адразу зразумелыя гістарычныя законы, якія часцяком дзейнічаюць на масы без іх згоды і збіваюць іх з традыцыйнага шляху.

Гэтая ненармальнасць адносінаў мовы і культуры ў Літве – вынік ненармальнасці гісторыі літоўскай нацыі. А паколькі ў практычным і рэальным жыцці масы мова, нягледзячы на пэўную неабавязковасць, значыць надзвычай шмат, і тым больш у сітуацыі адсутнасці адукацыі, то для паразумення нашай грамадскасці, наогул адзінай па паходжанню і гісторыі, але

падзеленай мовамі, патрэбныя вялікія намаганні людзей добрай волі і пазбяганне шавінізму. Толькі гэта паспрыяе захаванню ў грамадскасці рэчы больш каштоўнай, чым мова, а менавіта – духоўнай сувязі.

***

Трэба высока ўзняцца над трывогамі і мітуснёю сённяшняга дня, над асобамі і здарэннямі сучаснасці, узняцца туды, дзе душа ахоплівае краіны і стагоддзі, каб зразумець, на якія ахвяры дзеля будучыні нацыі, павінна пайсці нашае пакаленне за кароткі час свайго жыцця. Толькі тады мы зразумеем – і мы, літоўцы, паланізаваныя па культуры і мове, і нашыя браты – літоўскія нацыяналісты, што з таго дабра, якім мы валодаем у нашых ідэалах і лозунгах, нельга нам нічога адкідаць, але трэба давесці яго да гармоніі.

Народ любіць сваю мову, шляхта – культуру і традыцыю. А хто б сумняваўся, што шанаванне роднай мовы, дадзенай нам Божым наканаваннем тысячы гадоў таму яшчэ пры нараджэнні племені, мовы, якую так горача любяць нацыяналісты, не ёсць дабро? Хто б сумняваўся, што таксама дабро – гэта пашана і абарона на нашай зямлі польскай культуры, наскрозь хрысціянскай, наскрозь каталіцкай, якая назаўсёды паяднала нас з Захадам і з Рымам? І як можна не абараняць яе сёння ад ціску наступаючых з Усходу праваслаўя і расейшчыны, з іх рэлігійнай пустатой, маральным дзікунствам і палітычным сервілізмам? І гэта ў сітуацыі, калі маладая літоўская культура не мае пакуль аніякай сілы, каб супрацьставіцца гэтаму ціску.

Не адмаўляючыся ад польскай культуры, з якой зыходзіць вялікая сіла, культуры, якая ўжо мае шмат заслугаў для літоўскага характару і духу, нашае грамадства павінна зблізіцца з літоўскім народам, што абуджаецца да самастойнага жыцця, не гасіць нацыянальнага пачуцця, а прызнаць яго і клапаціцца пра захаванне маралі, а дзеля гэтага яно павінна вывучаць і валодаць літоўскай мовай пад пагрозай, што не выканае свой абавязак, не будзе годным свайго паходжання, не зразумее патрабаванняў гісторыі.

Гэтага разумення народнай мовы, каб разам жыць і працаваць, таксама хоча малады аўтар «Odpowiedzi», калі піша: «Без ведання мовы народу, без усталявання сардэчных стасункаў з ім, самыя прыгожыя кветкі нашых добрых намераў не прынясуць пладоў» (с. 16).

Пачнем жа вывучаць тую мову, якая ў далёкай мінуўшчыне была нашай роднай! Пачнем жа вывучаць літоўскую мову! Будзем таксама вучыць

іншыя мовы. Няхай прыйдзе той, хто з’яднае нас з літоўскім народам: «З шляхтай Літвы літоўскі народ!»

Гэтае навучанне сёння ўжо не будзе цяжкім. Ёсць слоўнікі, граматыкі і тое, што найлягчэй уводзіць словы ў жывую практыку, а менавіта газеты, напоўненыя імпульсам сучаснасці. Ужо даўно маем абавязак углядацца ў гэтыя газеты і ў літоўскую літаратуру. Для літоўскага шляхціца, які гаворыць па-польску, літоўская мова павінна перастаць быць «terra incognita», невядомым краем, пра які толькі чуем. Безумоўна ёсць у гэтай дзейнасці алтары ісціннага Бога і майстэрні высакароднай працы, але таксама ёсць і фальшывыя агні, а недзе, там і тут пратачваюцца кроплі атруты.

Як жа будзем уплываць на маладую літоўскую літаратуру, калі яе не ведаем, альбо, ведаючы мову, не хочам працаваць у яе прасторы? Тым самым мы адмаўлямся ад важнай ролі.

Такім чынам, мы павінны дзейнічаць не ў тым духу, што нам навязвае радыкальная партыя «Głosu Litwinów», але адпаведна праўдзе і справядлівасці, адпаведна таму голасу, якім з намі гаворыць уласная гісторыя.

Надышоў час, калі нашыя грамадзяне і зямяне з Віленшчыны і Ковеншчыны павінны заснаваць уласны орган на літоўскай мове, хоць бы адзін сярод больш за дзясятак тых, якімі прамаўляе маладая Літва, ці каб з нейкім адным з ужо наяўных наладзіць супрацоўніцтва. Ён патрэбны, каб (1) адказваць на несправядлівыя абвінавачванні; (2) для абвяржэння хлуслівых інсінуацыяў; (3) для абароны важных і святых справаў; (4) для пабудовы супольнай будучыні.

Калі пройдзе час, і вочы нашых малодшых братоў ужо перастануць углядацца ў нас, а вораг на ніве літоўскай прэсы насее цыкуту і куколь, мы будзем раскайвацца ў сваёй апатыі, бо не пажадалі выказацца па жыццёва важных справах на мове нашага народу і яго маладой інтэлігенцыі.

А гэта не павінна быць вельмі цяжкім для нашчадкаў даўніх Монтвілаў, Радзівілаў, Доўгірдаў, Даўгялаў, Гірдвойнаў, Скірмунтаў, Бутрымаў, Нарбутаў і г. д., і г. д. Нялёгкім быў бы падлік тых старадаўніх прозвішчаў, тых колішніх правадыроў, якія разам з мужным літоўскім і жмудскім народам і на чале яго пераможна адбівалі ўдары магутнага германізму альбо выганялі за Дон дзікія натоўпы манголаў.

Так трэба і сёння: рука ў руку, а пры неабходнасці – плячом да пляча! Адразу памножацца нашыя сілы ў буйных прасторах над Нёманам, Вяллёй, Шэшупай і Дубісай.

***

Справядлівы папрок сваёй шляхце можа выказаць і выказвае літоўская інтэлігенцыя, якая выйшла з народу. А менавіта, што шляхта занядбала гісторыю свайго мінулага і практычна не мае ніякага ўяўлення пра гісторыю ўласнай зямлі. Хто ў нас ведае, што адбывалася ў Літве, напрыклад, у XIII альбо XIV стагоддзі, калі вызначалася будучыня Бацькаўшчыны, гарэлі нашыя замкі ў аблогах, а кожны селянін быў варты рыцарскага паса? Адукаваны чалавек з нашых асвечаных колаў ведае гісторыю даўніх часоў з-над Тэмзы і Сэкваны, здолее назваць егіпецкіх фараонаў, але не ведае пад кіраўніцтвам якіх каралёў ягоныя продкі на родных крэсах змешвалі сваю кроў з хвалямі Нёмана альбо Дняпра і Дзвіны. Здаецца, што тое грамадства не мела нашчадкаў, а слава гэтай зямлі, вывучэнне яе мінуўшчыны належыць усім нашым суседзям, але толькі не нам.

Сёння, калі святло ведаў пранікае далёка і глыбока, а грамадскасць жыве вельмі хуткім жыццём, гэтая ненармальнасць нашага самапазнання не мае апраўдання. Новы час патрабуе новых аргументаў для пацвярджэння старой праўды, а новая эпоха патрабуе новых лозунгаў. А наш абавязак у тым, каб іх спалучыць з старымі лозунгамі, якія таксама дарагія нашаму сэрцу, спалучыць з тым, што належыць справядлівасці і вечнасці, і не парушаючы асвечаных сувязяў, даследаваць да самога дна крыніцы нашага паходжання.

Але, калі сёння інтэлігенцыя з народу запытае нас пра мінуўшчыну Літвы і Беларусі, ці не пачырванеем мы ад сораму і ці не забаліць нам сэрца, бо будзем змушаныя адаслаць яе да расейскіх ці нямецкіх даследаванняў? Толькі знішчэнне ў Вільні полымя навукі і нядаўнія крывавыя краёвыя падзеі будуць нашай абаронай.

З часоў старога Каяловіча XVII ст., а таксама Нарбута і Даўконта XIX ст. аніводная значная і папулярная праца не выйшла з-пад літоўскага пяра і не аказалася на пустых прасторах нашай мясцовай гістарыяграфіі. Затое ў расейскіх працах адбываецца духоўная акупацыя нашага краю праз акупацыю яго мінулага. Небяспека відавочная, і хто любіць свой край няхай смела паглядзіць у вочы небяспецы і як мага хутчэй пачынае з ёй змагацца. Ці можам патрабаваць, каб погляд расейскага гісторыка, які сёння піша пра Літву і Беларусь, адрозніваўся ад погляду «Маскоўскіх» ці хоць бы «Пецярбургскіх ведамасцей»?

Нават, калі б гэта быў расейскі карыфей навукі (што бывае зрэдку), то ў гэтым прадмеце яму будзе даволі цяжка вызваліцца з-пад уплываў

свайго культурнага асяроддзя і ягоных поглядаў. А якую разгубленасць сярод школьнай моладзі і тых нешматлікіх чытачоў, якія імкнуцца штосьці даведацца па гэтай праблеме, могуць выклікаць (часткова ўжо выклікалі) прынцыпова варожыя нам погляды, што нібыта грунтуюцца на фактах!

Хоць мы моцна спазніліся, але я не лічу, што наступіў той самы апошні момант, пасля якога адбываецца пераварот уяўленняў, які вельмі цяжка направіць. Яшчэ далятаюць да нас галасы нашых даўніх працаўнікоў, яшчэ ў гэтай сферы нацыянальнага духу мы жывем унутраным пачуццём, якое трымаецца на праўдзе, але таксама на казцы і міфе. Прыйшоў час асвятліць гэтую цёмную гістарычную ніву святлом ведаў, якія мы адкрылі. Багатыя расейскія і нямецкія выдавецтвы гатовыя публікаваць матэрыялы. Але кожны з нас павінен памятаць, што расейскія выдавецтвы, якія карыстаюцца нашымі архівамі і прыватнымі зборамі, асабліва датычнымі найноўшай гісторыі, пераважна дзяржаўныя (ad usum Caesaris), што іх тэндэнцыйнасць падмяняе значэнне фактаў, і трэба прыцягваць іншыя крыніцы, каб вярнуць фактам іх сапраўднае значэнне.

***

Які цудоўным у літоўскай гісторыі з'яўляецца гэтае памкненне нацыянальнага духу да Захаду і яго культуры, памкненне настолькі моцнае, што паступова ператвараецца ў гістарычную тэндэнцыю. У гэтым кірунку рухаюцца нацыянальныя лідэры і героі, ламаючы перашкоды, а за імі ідзе народ. Закуты ў жалеза няўмольны германізм безупынна нішчыць гэтае памкненне літоўскай грамады да Захаду альбо спрабуе падпарадкаваць сабе і паставіць на калені.

А калі так Літву прымае Захад, то на Усходзе азіяцкі дух спакушае літоўскіх князёў, каб разам з апанаваннем шырокімі рускімі землямі, дзе ён ужо пануе, яны таксама з лёгкасцю прынялі схізму і прызналі сваёй візантыйскую культуру, якая далей на Усходзе хутка ператвараецца ў мангольскую. Дарма! Царкоўны крыж і галасы Усходу не вабяць літоўцаў. Літва, гэтая апошняя галіна вялікай арыйскай сям'і на паўночным усходзе Еўропы, застаецца вернай свайму паходжанню, звяртаецца туды, дзе ззяе зорка Рыму, і нішто не адарве яе ад Захаду.

Пачынаючы з Міндоўга, які стаў ахвяраю гэтай дзівоснай для тых часоў вернасці, гэтая рыса становіцца характэрнай і для наступных літоўскіх манархаў. Жорсткі Віцень б'ецца з крыжакамі, рабуе Польшчу, а на сваёй зямлі будуе лацінскі Касцёл. Вялікі Гедымін са слязьмі шка-

дуе, што не вытрымаў тое геройскае змаганне за каталіцызм. Альгерд, чые землі прасціраліся ад мора да мора, і які меў значна болей падданых праваслаўных русінаў, чым літоўцаў, не глядзіць на пазалочаныя купалы цэркваў, куды цягнулі яго шлюбныя сувязі, а паварочваецца да Захаду, каб атрымаць хрысціянства ад Германскай імперыі. Калі ж зрабіць гэта не атрымалася, ён памёр, не прыняўшы ўсходняга хрысціянства і канчаткова не вызначыўшыся з уласнай канфесіяй. Нарэшце, трыццацігадовы Ягайла, аточаны рускім дваром, застаецца чужым для рэлігійных уплываў царквы, будзе да канца насіць цвілае імя язычніка, але адмовіцца праз усходні хрост далучыцца да культуры, чужой літоўскаму духу. І гэта цягнулася так доўга, пакуль лацінскі хрост з польскай рукі не ператварыў яго амаль адразу ў архікаталіцкага манарха, а ягоны народ зрабіў абаронцам і пашыральнікам заходняй цывілізацыі.

На гэтыя прынцыповыя факты нашай гісторыі неабходна звярнуць увагу тых сённяшніх літоўскіх нацыяналістаў, якія па прычыне варожасці да Польшчы, гатовыя надзяліць пэўнай сімпатыяй варожую нам заўсёды расейскую культуру. Забываюць, што дзеля развіцця на глебе гуманістычных ідэяў, якія нясуць цывілізацыю (без дзяржаўных абмежаванняў) людзям і нацыям, польская культура была прышчэпленая лацінскай культурай і старэйшымі за польскую чэшскай і нямецкай культурамі. Таксама і арыгінальная літоўская культура павінна прышчапіць свае маладыя галінкі культурай лацінскай і польскай, дзякуючы якой яна атрымала доступ да крыніцаў заходняй цывілізацыі.

Расейская культура, якая выцякае с сапсаваных крыніцаў Візантыі, у палітычным жыцці прасякнутая мангалізмам, што сталася вынікам як уласнага гістарычнага шляху, так і крыві тых народаў, над якімі пануе. Сёння, як і раней, расейская культура па крыві і расе варожая нам, арыям. Пакуль яе не прапітае і не пераможа дух чыстага хрысціянства, нам застаецца толькі барацьба супраць яе, бясконцая і бязлітасная барацьба. Тут не можа быць кампрамісу. Такім чынам, падмануты літовец, які адчувае сімпатыю да расейскай культуры, знаходзіцца на небяспечнай дарозе. Ён адмаўляецца ад святла дзеля маральнай цемры і выступае супраць гістарычнага шляху і місіі сваёй нацыі.

Хачу заўважыць, што культуру нашых ворагаў я не блытаю з даволі высокім узроўнем развіцця асобных навук, напрыклад, медыцыны і краязнаўства. Расея таксама дастаткова багатая, каб адразу ж выкарыстаць усе адкрыцці Захаду і ўпрыгожыць імі ўсе свае землі. Навука – гэта

адно, а культура – нешта іншае. Усе навукі пры нармальным развіцці асветы павінны ўзбагачаць культуру, якая ёсць найважнейшым духоўным дасягненнем чалавека, рэалізацыяй навуковых адкрыццяў, іх ператварэннем у матэрыяльныя і маральныя каштоўнасці грамадскасці. Але ў Расеі не так. Навука там не ўзбагачае культуры.

Калі наступаў (і наступае) крызіс у розных эпохах і ў розных краінах Захаду, там пачынаюць біць крыніцы адраджэння, да якіх звяртаецца хворае грамадства, і, дзякуючы якім, выздараўлівае. У Расеі ж для людзей з тых грамадскіх колаў, што апынуліся на ўзбочыне жыцця, няма маральнага паратунку. Там у рэлігійным кульце боязь цара большая за боязь Бога, годнасць чалавека меншая за ягоны чын, там урадавая хлусня правіць не толькі ў палітыцы, але і ў гісторыі, блытаючы паняцці і трымаючы ў падмане цэлыя пакаленні. Гвалтоўнасць расейскай культуры дазваляе здзекавацца над самымі святымі пачуццямі паднявольных нацый, яна ператварае спакойных жыхароў Крожаў[4] у гістарычных мучанікаў, спяшаецца паставіць помнік Мураўёву ў Вільні, а Паскевічу – у Варшаве, альбо, нягледзячы на вялікую колькасць беззямельных жмудзінаў, ператварае іх землі ў калоніі кацапаў. Літовец, які паддаўся б уплывам расейскай культуры, перадусім перастаў бы быць літоўцам.

***

XIX стагоддзе, асабліва ў бліжэйшай да нас палове, было стагоддзем абуджэння нацыянальнасцяў ва ўсёй Еўропе, адраджэння тых малых або прыгнечаных нацый, пра якія свет забыўся. Так, мы назіралі нацыянальнае і палітычнае адраджэнне чэхаў, сербаў, балгар. На нашых вачах вяртаюцца да жыцця харваты. Мы спачуваем нават маленькай двухсоттысячнай групе лужыцкіх сербаў. Таксама натуральным з’яўляецца адраджэнне двухмільённай Літвы на роднай літоўскай зямлі. Гэтая з’ява пазітыўная і настолькі жыватворчая, што не атрымліваецца яе ўціснуць ні ў якія акадэмічныя або апартуніцкія тэорыі. Павярхоўнае сцверджанне, што яе выклікалі і раздулі нашыя ворагі, з’яўляецца такой самай памылкай або нягоднай інсінуацыяй, як і сцвярджэнне, што галоўным ворагам Літвы былі палякі, якое сёння ў псеўдагістарычным адзенні трапіла ў расейскія працы па гісторыі.

Як струмень, што выбіваецца наверх з глыбокіх крыніцаў, як зерне кінутае Божаю воляй, якому прыйшоў час расці, так нарадзілася індывідуальнае нацыянальнае пачуццё літоўскасці ў адвечных жыхарах

і сынах гэтай зямлі. Атавізм загаварыў, і вось ужо першай патрэбай і першым жаданнем парасткаў адроджанай нацыянальнасці становіцца адукацыя на роднай мове. Стрымліванне гэтага натуральнага і высакароднага памкнення праціўнае як законам прыроды, так і хрысціянскай любові. У нашых дварах мы павінны не вырываць з рук слугаў буквары і літоўскія кніжачкі, а самім ведаць іх змест, апекавацца гэтым чытаннем і толькі потым вучыць іх польскай мове. Паланізаваць літоўскага селяніна – гэта звесці яго з дарогі, падмануць і прышчапіць унутраны разлад. Добрых пладоў гэтая праца не прынясе, асабліва сёння.

У справе ўсведамлення народу, за якую сёння так горача бяруцца, без вялікай памяркоўнасці польскага культурнага элементу не можа быць згоды з тымі асяродкамі, якія працуюць на літоўскім этнаграфічным грунце. Польскія гурткі любіцеляў кнігі на літоўскай зямлі павінны не змагацца з літоўскімі, а сардэчна зблізіцца, дасягнуць паразуменне, каб разам супрацьставіцца сацыялізму, які вядзе да распаду грамадства і нацыі. Польская кніжачка на літоўскай зямлі можа змагацца толькі з расейскай кніжачкай, але ніколі з братняй, калі б тая аказалася ў роднай хаце.

Не менш важным з'яўляецца абавязак пераканаць нашых афіцыялістаў[5] у неабходнасці справядлівага стаўлення да адраджэння літоўскасці сярод народу. Яны найбольш шчыльна кантактуюць з народам у сядзібах, падчас палявых працаў, у парафіяльным касцёле. Справядлівасць або шавінізм зямяніна будзе адразу ж пераняты яго намеснікамі.

Але сярод усіх уплываў на народ найважнейшым застаецца ўплыў духавенства, як і сама духоўнасць, асабліва ў моманты такіх пераломаў. Духавенства павінна адпавядаць гэтым патрабаванням. Святар – гэта маральны і духоўны правадыр народу, пасярэднік паміж ім, Праўдай і Жыццём. Як жа гэта важна, каб тыя, хто фарміруе сумленне народу, нічым не сапсавалі яго пачуццяў, і, незалежна ад уласнай прыналежнасці да таго або таго іншага моўнага асяродка, не ператвараліся з маральных кіраўнікоў і прыхільнікаў згоды ў звычайных шавіністаў! Але ж гэта адбываецца ў нас з абодвух бакоў…

***

Ні дадзеных Богам правоў, ні пладоў шматвяковай культурнай працы адныя і другія – народ і шляхта – не павінны страціць, а наадварот, павінны гарманічна дастасаваць.

Радыкальная група літоўскіх нацыяналістаў, што прамаўляе ў часопісе «Żynicze», і як кожная крайнасць, апускаецца да аднабаковасці і памылковасці, патрабуе ад літоўскай шляхты адрачэння ад польскай мовы. Няхай нашых нацыяналістаў не здзіўляе, што гэта тое ж самае, як жадаць, каб рака паплыла назад да сваіх вытокаў.

Не збіраюся абвінавачваць аўтараў «Głosu» у свядомым штурханні шляхты да «здрады» або «самазабойства», як з абурэннем адказвае на гэтае патрабаванне малады літоўскі шляхціц. Не! Падобныя матывы не характэрныя для літоўскіх радыкалаў. Імі кіруе замілаванне да ўласнай культуры аж да слепаты, а таксама надзвычай вузкі і няспелы погляд на феномены штодзённага жыцця. Дамінаванне польскай мовы ў Літве сярод адукаваных колаў грамадства з'яўляецца вынікам агульнагістарычнай заканамернасці, у межах якой разгортвалася наша ненармальная гісторыя. Няздольнасць да канца XIV стагоддзя выпрацаваць уласнае пісьмо і культуру, што было фізічна немажлівым, вымушала нас прыняць чужое пісьмо, чужых герояў, і адпаведна, чужую мову.

Гэта аказалася надзвычай лёгкім па прычыне той моцнай прагі да асветы, якой былі прасякнутыя апошнія арыйцы на ўскрайку Еўропы, штучна надоўга адарваныя ад цывілізацыі. Нядзіўна, што яны пераанялі чужую мову, дзіўна, што пры гэтым захавалі зямлю, імя і палітычнае жыццё. За гэтае мы ўдзячныя нашым продкам, мы, каго заклікаў вялікі паэт: «Узнёсла гэтак пражылі паўхвілі, як пражылі сваё жыццё ўсё продкі»[6].

Даўнія літоўцы адназначна былі асуджаныя на знішчэнне падобна, як прыбалтыйскія славяне, як амерыканскія мексіканцы, як, нарэшце, нашыя старэйшыя пабрацімы, цалкам знікшыя прусы. На іх спадчыну паўтары векі наступаў вядомы ў гісторыі крыжацкі Ордэн усёй сваёй культурнай перавагай, узброенай сілай пры падтрымцы рыцарства усёй Еўропы. Націск быў нястомны, але нястомнай была і абарона. Дастаткова ўспомніць 96 нямецкіх нападаў толькі ў часы Альгерда, геройскую абарону Коўна, Пілен[7] і г. д., падзеі, што паўтараліся больш за 150 гадоў у той ці іншай ступені і пакінулі гераічны эпас, «годны ліры Гамера і пяра Тацыта» і прычыніліся да таго, што мы і зараз існуем.

Але нацыя, як і чалавек, павінна развівацца ўсебакова, каб яе жыццё ішло нармальным шляхам. Тое бясконцае праліццё крыві на палях бітваў, нястомная баявая гатоўнасць, гэтае аднабаковае развіццё ваяўнічасці, якая ў літоўцаў даволі хутка ператваралася з абарончай у наступальную, абярнулася знікненнем іншых здольнасцей і нацыянальных памкненняў.

У войнах мацаваўся характар, фармавалася палітычная воля, але розум годнага племені спаў у цемры. Не было ані пісьма, ані рамёстваў, ані мастацтваў. Перш за ўсё адчувалася адсутнасць хрысціянства, самай моцнай крыніцы культуры, а ў выніку штучная ізаляцыя ў язычніцтве абарочвалася адставаннем у развіцці ад Еўропы.

Таму, не выпускаючы з рук кап'я і мяча, літоўцы амаль што прыраслі да коней, і па прычыне адсутнасці ўласнага пісьма прынялі пісьмо русінскае і мову Русі, якія ў перыяд бясконцых войнаў увайшлі на двор кунігасаў, што мелі шмат русінаў сярод падданых. Нарэшце, з'яднанне з Польшчай знішчыла мур ізаляцыі вакол Літвы. Для яе адкрываюцца крыніцы святла, але веды і асвета, духоўныя па сваёй сутнасці, прыходзяць у новы край і не знаходзяць тут падрыхтаваных формаў для свайго існавання і развіцця.

Абарона жыцця і палітычнага існавання забрала ўсе сілы. Быў відавочным празмерны высілак літоўскай нацыі. Шляхта не мела энергіі, каб кампенсаваць векавое адставанне ў культуры. Не ствараліся школы з роднай мовай навучання. Асвета пашыралася хутка, але з чужых цэнтраў. Хто б ні прымаў асвету ў Літве, той рабіў гэта на чужой мове і хутка дэнацыяналізаваўся. Многія шляхецкія прозвішчы, якія не прынялі русінскай формы, прымалі форму польскую. Сярод асвечаных колаў шырока ўжывалася яшчэ раней пашыраная русінскасць, пазней у пісьме шырылася польскасць і лаціна. Народ, які захаваў родную мову, нягледзячы на хрысціянства, доўгія стагоддзі жыў у цемры.

Каб вышэйшыя колы надзвычай патрыятычнай (гаворачы сучаснай мовай) літоўскай нацыі страцілі ўласную мову, на гэта павінны былі паўплываць асаблівыя чыннікі, якія выходзяць па-за межы звычайнага лёсу народаў нашай часткі свету. І так было на самой справе, пра што сведчыць гісторыя нашага народу і зямлі. Страту ўласнай мовы шляхтай можна найлепш зразумець, калі прыгадаць, што ў Сярэднявеччы нацыянальныя мовы лічыліся нечым ніжэйшым, грубым. Уся Заходняя Еўропа пісала на лаціне. Тагачасныя немцы, французы, палякі былі пэўныя, што мова іх бацькоў не падыходзіць для навукі і адукацыі. Менавіта таму наш патрыятычны летапісец Міхалон Літвін (Michalo Lituanus) пісаў на лаціне. Менавіта таму прыхільнік вывучэння нашай мінуўшчыны біскуп Мельхіор Гедройць не меў нічога супраць, каб гісторыю Літвы, якая ствралася яго ініцыятыве, Стрыйкоўскі пісаў па-польску. Не прыкладаў ён ніякіх намаганняў дзеля яе перакладу на родную мову. Захапленне ўласнай мовай – гэта праява патрыятызму навейшага часу.

Так было даўней. Прайшлі стагоддзі, і польская мова стала для шляхты роднай не менш за літоўскую. Адмовіцца ад яе сёння немагчыма і немаральна. Але вывучэнне літоўскай мовы нашай шляхтай, таксама як і авалоданне польскай мовай літоўскай народнай інтэлігенцыяй з'яўляецца зразумелым абавязкам.

Стасункі нашых двух моваў у мінулым невядомыя сучасным пакаленням. Не асуджаючы мінулае, паглядзім на тое, што маем сёння. Сёння польская літаратура на нашай зямлі – гэта цудоўны палац, у якім захоўваецца шмат працаў літоўскіх аўтараў і з літоўскім духам. Літоўская літаратура – гэта сціплая сядзіба. Жыхары палацу не змесцяцца і не будуць задаволеныя сядзібай. Затое тыя, хто марыць пра пабудову будучага палацу літоўскай літаратуры, калі на тое будзе воля Божая, а тым больш тыя, хто імкнецца да збліжэння нацыянальных колаў, павінны паразумецца і бліжэй пазнаёміцца як у жыцці, так і ў літаратуры.

Зразумелая рэч, што там лягчэй вучыцца, дзе болей духоўных скарбаў, таму неабходна горача заахвочваць інтэлігентную літоўскую моладзь як для знаёмства з польскай літаратурай, так і для пашырэння ведаў пра заслугі Літвы ў пашырэнні высакароднасці і прыгажосці польскай літаратуры, Гэта не зменшыць сярод вучнёўскай літоўскай моладзі творчага патэнцыялу ў роднай мове. Знаёмства з літаратурай усяго свету, надзвычай пашыраючы веды і далягляды думкі, ніколі не знішчыць арыгінальнасці пісьменніка, калі ён, сапраўды, яе мае. І наадварот, калі таленты засяродзяцца выключна на прадукцыі ўласнай нацыянальнай літаратуры, то будуць сказаныя на бяссілле і знікненне.

***

Маладыя гарачыя галовы з «Żynicze» выказваюць таксама выключна адметны погляд на гістарычны факт першаснага для нас значэння, а менавіта на факт Уніі Літвы і Польшчы. Паводле іх, літоўскі народ не заключаў гэтай Уніі (таксама як не заключаў яе і польскі народ). Гэта была справа шляхты абодвух краінаў і толькі яе Унія абавязвала.

Аднак неабвержным фактам застаецца тое, што паўтысячы гадоў таму паядналася не толькі адна шляхта, паядналіся літоўская і польская нацыі, паядналіся палітычна, канфесійна і сацыяльна, і гэты саюз, які цэментавалі шматлікія факты супольнага лёсу, існуе і сёння. Хто ж у тыя гады праявіў салідарнасць у нашых краінах? Адна шляхта – не нацыя, адно мяшчанства – не нацыя, адзін народ – не нацыя. Толькі ў саюзе гэтыя

саслоўі, як часткі аднаго арганізму, утвараюць адно цэлае, а менавіта нацыю. Канфлікт паміж саслоўямі – гэта хвароба нацыі, разрыў у іх дзеяннях і намерах – распад нацыі, яе смерць. У літоўскай нацыі, калі ядналася з польскай, не было ні канфлікту, ні распаду. Цэлае ядналася з цэлым.

Якім жа чынам літоўскі народ далучыўся да Уніі? Далучыўся пасвойму, пакідаючы шляхце гарадзельскія гербы і віленскія пагадненні. Калі нашчадкі Альгерда і Кейстута запанавалі як хрысціянскія манархі, калі Ягайла заснаваў Віленскую кафедру, а Вітаўтас – Жамойцкую, аддаючы малады літоўскі касцёл пад апеку польскага, калі яны самі тлумачылі народу асновы хрысціянскай веры на нацыянальнай мове, якраз у той час утварылася супольнасць волі народу з воляй яго кіраўнікоў. Гэта наогул характэрная рыса нашай нацыянальнай гісторыі – яднанне ў адной веры і палітычным жыцці, ніколі не аспрэчанае народам, ніколі не адрынутае.

Не раблю культу з Уніі. Яна мае свае недахопы, як кожная чалавечая справа, але я захапляюся гэтым палітычным актам, які, нягледзячы на некаторыя праблемы, застаецца адным з найбольш высакародных у нашай гісторыі.

Літоўскі народ за пяцьсот гадоў, якія аддзяляюць нас ад Уніі, аніводнага разу не выступіў супраць яе. Нацыянальны арганізм не зведаў згубы вялікіх унутраных канфліктаў. Можа хтосьці з апанентаў успомніць народныя хваляванні часоў Казіміра Ягелончыка[8], але гэта былі сацыяльныя выступы, што не мелі аніякай сувязі з Уніяй. Няроўнасць саслоўяў перад законам, якая вяла да прыціску простага народу магнатамі і шляхтай, ненавісны нам усім прыгон, доўга былі ганьбай нашай шляхты, як і іншых пануючых саслоўяў у Еўропе, але ўжо сто гадоў таму шляхта абодвух нацый зразумела памылку і паспрабавала вызваліць малодшых братоў. У тым, што вольнасць народу, калі б край быў вольным, наступіла ў нас значна раней, чым гэта здарылася, ніхто з знаўцаў гісторыі не сумняваецца.

Сёння ліга народаў на нашых старажытных землях яшчэ больш патрэбная, чым раней, бо вораг, далёкі ў тыя часы, зараз знаходзіцца сярод нас. Сёння даўняя Унія для літоўскай нацыі можа мець яшчэ большае значэнне, бо этнаграфічная Літва невялікая, а яе культура знаходзіцца на пачатковым этапе развіцця. Але не дзеля прагматызму заклікаем літоўскі народ да ўмацавання Уніі. Сёння, калі ў грамадстве дамінуе не класавае паходжанне, а здольнасці, характар і індывідуальная моц прадстаўнікоў розных станаў, калі з народу выходзяць вядомыя прадстаўнікі духавенства, навукі і грамадскасці, сёння супольныя ўсе нашыя маральныя скар-

бы, супольная таксама былая вайсковая слава і пакуты. Як жа літоўскі народ можа адмовіцца ад супольнай з шляхтай і з Польшчай перамогі пад Грунвальдам, абароны Смаленска, Полацка? Як адрачыся ад Міцкевіча, Рэйтана і Касцюшкі, у жылах якіх цячэ літоўскай кроў?

А даўняя Унія як жывая і здаровая справа, не засталася ў старых формах, а здольная да ўдасканалення. І сёння адзін з лозунгаў, які мы чуем ад маладой нацыянальнай Польшчы, гэта самастойнае развіццё літоўскага народу і культуры ў братнім саюзе з Польшчай.

***

Выступаючы па важных і дарагіх для нас праблемах, хачу выказаць некалькі асабістых думак. Належу да старой літоўскай шляхты, якая спрадвеку звязаная традыцыяй з гісторыяй нацыі, той шляхты, сапраўднае імя якой *Gente Lithuani, natione Lithuani*[9]. Польская мова, якая ўжо шмат пакаленняў з'яўляецца роднай, не перашкаджае мне любіць уласную літоўскую нацыянальнасць больш за іншыя і адчуваць гонар за прыналежнасць да яе.

Менавіта таму адносна спрэчкі, якую выклікалі гэтыя словы, маю права звярнуцца да абодвух бакоў. Не трэба спрачацца пра высакароднае імя Літоўца. І адны, і другія маюць на яго бясспрэчнае права і не толькі ў мінулым. Самая спрэчка абодвух бакоў пра гэтае імя, упартасць нацыяналіста, які хоча пакінуць яго для народу, поўнае горычы і гарачнасці абурэнне маладога паланізаванага шляхціца, які адстойвае ўласнае права на гэтае імя, сведчаць пра яго жыццёвасць на адвечнай Гедымінавай зямлі, дзе аніводнае іншае племя не прыйшло, каб засеяць яе масай чужога насельніцтва і запанаваць, дзе мы сардэчна прынялі нашых братоў з-над Віслы, і дзе настолькі даўно з'яднаныя з народам, наколькі мы памятаем.

Калі ў першыя стагоддзі Касцёла маладыя хрысціянскія парафіі ў розных краях і рознага паходжання спрачаліся пра разуменне і практычнае выкарыстанне асноваў веры, а ерэтыкі імкнуліся ўвесці розум у зман, вялікі Доктар Касцёла супакойваў спрэчкі максімай: «In necessariis unitas, in dubiis libertas, in omnibus charitas»[10].

Так і нам з гэтай навукі трэба браць бальзам, што зажыўляе канфлікты, і ў гэтых вялікіх словах шукаць выйсце, а ўласным дэвізам павінна стаць: у праблеме роднай мовы – свабодны выбар, у палітычных і грамадскіх справах – еднасць, ва ўсіх адносінах – любоў.

Любоў і згода, о родныя браты!

## *Футурус [Скірмунт К]. Наша «тутэйшасць»*

*Futurus [Skirmuntt K.]. Nasza «tutejszość» // Kurier Litewski 1906 Nr 224, 22 września*

У друку нядаўна пачало фігураваць слова, якое партыйнымі людзьмі ўспрымаецца як знявага, слова, што перадае элементарнае самаадчуванне жыхароў нашага краю, Літвы разам з Беларуссю. Гэтае слова – наша тутэйшасць. На гэтую тэму іранізавалі ў газетах, рабілі абструкцыю тым, хто «наіўна» прызнаваўся ў «тутэйшасці», ранілі і яшчэ зараз раняць здаровае і натуральнае пачуццё. Паспрабуем зразумець гэтае слова ў рэальнасці, а не ў карыкатуры.

Пачуццё тутэйшасці для патрыятызму прадстаўнікоў і абаронцаў краю адыгрывае такую ж ролю, як глыбока схаваныя гранітныя падмуркі для будоўлі. Яно адлюстроўвае эмацыйную сувязь з зямлёй, з яе тысячагадовай гісторыяй, з прахам продкаў; яно азначае жывую сувязь з мільёнамі мясцовага люду; яно сцвярджае, што мы тут – дакуль памяць сягае – свае, з зямлёй параднёныя, не чужыя, а спадкаемцы. Без гэтага пачуцця, мы, шляхта Літвы і Беларусі ў апошнія 40 гадоў страцілі б сваю радзіму і шукалі б яснага неба ў Кароне, за Бугам і Нёманам, альбо выменялі б родную зямлю на бразганне манет.

Наша «тутэйшасць», якая нас ад падобных крокаў абараняла і абараняе, з'яўляецца пачуццём дабраахвотным і неабходным. Мы не можам страціць рэальны падмурак нашага патрыятызму. Гмах грамадства, якое абапіраецца на гэтае пачуццё, не знішчыць аніякая віхура; новай пабудовы без гэтых падмуркаў ніхто не ўзвядзе. Менавіта так разумее ўласную «тутэйшасць» адукаваны чалавек з нашага грамадства, калі падкрэслівае асаблівую прывязанасць да нашага краю сярод іншых рэгіёнаў нашай колішняй дзяржавы.

Зразумела, што адукаванаму чалавеку недастаткова такога першаснага акрэслення патрыятызму. Мы імкнемся больш дакладна яго апісаць. І кожны з нас як асоба стаіць перад дылемай уласнай неадназначнасці.

На ўсёй прасторы былога Вялікага Княства наша шляхта жыве з двума або трыма нацыянальнымі пачаткамі, з якіх і складаецца краёвая грамадскасць. Кожны з нас, калі не з'яўляецца нядаўнім прыхаднем, мае ў сабе ў няроўнай меры нешта з літоўца, паляка або русіна. Гэта значыць, што ўсе тры назвы і тры рысы маюць права на існаванне на нашай зямлі,

а кожная асоба ў залежнасці ад дамінуючай нацыянальнай рысы або ўласнай свядомасці далучаецца да той або іншай групы, зберагаючы, калі не адмаўляецца ад цудоўнай традыцыі, патройнае краёвае братэрства. Гэта ідэал для нашай зямлі.

700 гадоў таму, калі Літва пачала аб’ядноўвацца з Беларуссю, 500 гадоў таму, калі да гэтага саюзу далучылася Польшча з сваёй высокай культурай і актыўнасцю асобаў альбо супольнасцяў, прастора Вялікага Княства як зменшаны адбітак усёй Рэчы Паспалітай, была класічнай зямлёй сужыцця братніх народаў. Гэтую рысу ў новых формах яна перамазвае сучаснасці. Кожны з нас, селянін або шляхціц на зямлі Літвы або Беларусі мае аднолькавае права быць літоўцам, палякам ці беларусам. Кожны з нас мае права на шляхах культуры і маралі развіваць уласную нацыянальнасць. Для кожнага з нас роднай з’яўляецца зямля пад нагамі, неба над галавой і вялікая будучыня краю. І гэтае пераказанае гісторыяй права сучасны дзень перадае будучыні.

Сучаснасць, і гэта трэба прызнаць, сталася эпохай складанага пералому. Злая моц закрыла ад нас чорнымі крыламі сонца справядлівасці і любові, сацыялізм раздувае хцівасць масы, семітызм расшчапляе сацыяльныя слаі і атручвае этыку народу, віхура анархіі нішчыць аслабелыя асновы парадку.

За гэтымі пачварамі як салдаты ў шэрагу ідуць нацыянальныя шавінізмы – літоўскі і польскі. Яны аднолькава агідныя і тады, калі гаротны ды сярмяжны натоўп штурхае адзін аднаго ў вясковым касцёле, і тады, калі пераследуюць праціўніка з вартаю жалю лютасцю на старонках газет. Гэтыя шавінізмы выводзяць з раўнавагі нават самыя справядлівыя і глыбокія розумы.

Не дазволім нікому прымусіць нас пакінуць вялікі гістарычны шлях! Спрадвечнае братэрства не застанецца для нас пустым гукам. Ганьба таму, хто хоць якім спосабам парушае ў нас братэрства народаў! Гакатызм пакінем суседзям, а ў нашых унутраных стасунках, у першую чаргу, трэба пазбыцца няпраўды і «не мець ніякага саюзу з крывадушшам».

Некаторыя дакараюць нашую шляхту ў тым, што пераняўшы стагоддзі таму і палюбіўшы польскую мову, яна стала часткай польскай нацыі, адарвалася ад люду, ад нашага краю і яго адмысловых інтарэсаў. Гэта голас сапраўднай сірэны. Перш за ўсё мы неад’емная частка гістарычнай супольнасці Літвы і Беларусі з змешанымі нацыянальнымі рысамі, і перш за ўсё адносна яе маем пэўныя абавязкі. Спрадвечныя традыцыі

не дазваляюць нам схавацца за выключнасцю або каставасцю. Пакуль індывідуалізм мясцовых народаў не стане больш выразным, мы павінны заставацца абаронцамі культуры і гістарычнай праўды, захавальнікамі супольных з імі традыцый. Адмовіцца ад нас адурманены люд ці не адмовіцца, але мы самі не будзем ні ўцякаць з поля, ці адмаўляцца ад натуральнага кіраўніцтва.

Аднак нашая крэпасць мае розныя элементы, а яе абаронцы – розныя колеры. Кепскія тыя абаронцы, якія збіраюць усіх дзеля абароны адной толькі бела-чырвонай вежачкі, і гатовыя пакінуць крэпасны мур, бастыёны і валы...

Нягледзячы на неверагодна складаныя ўмовы для паразумення і супольнай дзейнасці, ужо болей 40 гадоў нашая шляхта ад Прыпяці да Балтыкі і ад Нёмана да Дняпра з'яўлялася вялікім Краёвым колам, у выніку чаго ў паўночнай Дзяржаўнай Думе ўзніклі пачаткі парламенцкай арганізацыі, што прыцягнулі да сябе нават аддаленыя Валынь і Украіну, і, калі б не адсутнасць належнай падрыхтоўкі, то і Падолле. Калі толькі наступная Дума стане рэальнасцю, паўстане пытанне, ці гэта натуральная фракцыя прадстаўнікоў не раздзеліцца на дзве арганізацыі, кожная з якіх звернецца да сваіх больш вузкіх інтарэсаў, і перш за ўсё да ўстанаўлення шматбаковых адносінаў з народам пад лозунгам патройнага моцнага саюза?..

Краёвае Кола Літвы і Русі[11], вядомае таксама як Дэпутацкае Кола гэтых краёў, калісьці было названае бесколерна і тэндэнцыйна: Колам тэрытарыяльным. Што хацелі сказаць стваральнікі гэтага банальнага акрэслення? Край старажытнай мінуўшчыны з векапомнымі замкамі і культурнымі сядзібамі, нялічанымі могілкамі і месцамі бітваў, напоўнены ўспамінамі, горам і славай...

Так маглі назваць Літву і Беларусь толькі тыя, хто не меў у сабе ані кроплі гэтай першаснай, ратуючай нас «тутэйшасці», для каго нашая зямля ўяўляецца пустыняй без уласнай ідэі і характару, тэрыторыяй для спекуляцый і партыйных эксперыментаў. Кепска ісці за людзьмі, якія думкамі не сярод нас, і сэрцы якіх б'юцца не для нас.

Толькі краёвая ідэя, што становіцца для нас цэнтрам цяжару і крыніцай дзейнасці, што распальвае сэрцы ідэяй шчаслівай будучыні роднай зямлі, якая знаходзіцца ў асаблівай небяспецы, можа паяднаць намаганні ўсіх, хто любіць гэтую зямлю, і прыцягнуць, нарэшце, да нас наш цёмны і падмануты народ. Дзеля гэтага мы павінны аддаць усе сілы.

А агульныя ідэалы і вялікія праграмы? Пра гэта з непакоем запытаюць прыхільнікі партый, якія ў кожнай самастойнасці бачаць сепаратызм і гатовыя дзеля эгаістычных інтарэсаў ахвяраваць справядлівасцю.

Агульныя ідэалы калісьці былі блізкія нам усім, і абавязкова гэта вернецца, але не праз праграмы асіміляцыі і гакатызму, а праз унійныя пагадненні. Толькі на гэтай глебе можна адрадзіць звязанае залатымі вузамі даверу нашае даўняе гістарычнае адзінства.

У нас у Літве і Беларусі толькі прызнанне правоў кожнай асобы і паразуменне трох нацыянальных элементаў нашай грамадскасці паспрыяе пабудове лепшай супольнай будучыні і ў новай форме ажывіць традыцыі бацькоў.

---

1 [A. Dambrauskas]. Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie. [Tylza?], 1902.

2 B. a. Przenigdy! Odpowiedź na «Głos Litwinów do młodej generacji magnatów, obywateli i szlachty na Litwie», Kraków, 1903.

3 Гаворка пра палітыку германізацыі ў адносінах да польскага насельніцтва Пазнаншчыны ў XIX – пачатку XX ст. *(заўвага А. С.)*.

4 Гаворка пра пратэст жыхароў Крожаў супраць закрыцця каталіцкага касцёлу ў 1893 г. Улады выкарысталі казакоў, а пазней жорстка асудзілі ўдзельнікаў пратэсту *(заўвага А. С.)*.

5 Гаворка ідзе пра адміністрацыю маёнткаў *(заўвага А. С.)*.

6 Словы з паэмы Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод», у польскім арыгінале: «*By chwilą jedną tak górnie przerzyli, jak ich przodkowie niegdyś całe życie*». Тут падаецца ў перакладзе Кастуся Цвіркі (выкарыстаныя матэрыялы электроннага выдання «Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX ст. Анталогія // «Палітычная сфера», 2014)

7 Пілен (Pillen, літ. Піленай; Pilėnai) – старажытная літоўская крэпасць, абаронцы якой 25 лютага 1336 г., не маючы магчымасці далей супрацьстаяць аблозе крыжакоў, знішчылі ўсю сваю маёмасць, здзейснілі рытуальнае ахвярапрынашэнне сваіх сем'яў, а самі пасля гэтага біліся да апошняга чалавека, прыносячы параненых у ахвяру язычніцкім багам. Пытанне дакладнага месцазнаходжання гэтай крэпасці дыскусійнае, але найчасцей лічыцца, што на яе месцы сёння знаходзіцца горад Пуня (Punia) цяперашняга Алітускага павета Літвы (выкарыстаныя матэрыялы электроннага выдання «Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX ст. Анталогія // «Палітычная сфера», 2014).

8 Кіраванне Казіміра Ягелончыка адзначылася сялянскімі выступленнямі, найбуйнейшым з якіх было паўстанне пад кіраўніцтвам Мухі ў 1490–1492 гг. Пачаўшыся ў Малдавіі, яно пасля ахапіла Галіччыну і Паўночную Букавіну. Паўстанне было жорстка задушана шляхецкім апалчэннем і нанятымі прускімі

войскамі (выкарыстаныя матэрыялы электроннага выдання «Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX ст. Анталогія // «Палітычная сфера», 2014).

[9] «Літоўская па паходжанню, літоўская па нацыянальнасці» *(заўвага А. С.)*.

[10] «У неабходным – яднанне, у сумніўным – свабода, ва ўсім – любоў» (лац.) (заўвага А. С.).

[11] Гаворка ідзе пра «Групу дэпутатаў ад заходніх губерняў», якая аб'яднала дэпутатаў з ліку беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх палякаў у Дзяржаўнай Думе Расеі. Канстанцыя Скірмунт падтрымала гэтую ініцыятыву, якую першым агучыў яе стрыечны брат Раман Скірмунт *(заўвага А. С.)*.

# БАЛЯСЛАЎ ЯЛАВЕЦКІ. ЛІТВА І ЯЕ ПАТРЭБЫ... НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАТЭХІЗІС ЛІТВЫ (1905)*

Краёвасць як ідэалогія і грамадска-палітычная дзейнасць з'яўляецца ўнікальнай з'явай гісторыі Беларусі і Літвы пачатку ХХ ст. Яе даследаванне дапамагае ўбачыць адметнасць гісторыі Беларуска-Літоўскага краю ў «эпоху нацыяналізмаў», лепш зразумець характар нацыянальных працэсаў у перыяд іх актывізацыі. Невыпадкова навукоўцы Беларусі, Літвы, Польшчы ды іншых краін усё часцей звяртаюцца да праблемы месца краёвай ідэі ў палітычнай гісторыі земляў былога ВКЛ.

Як вядома, асноўным пастулатам гэтай ідэалогіі быў тэзіс утварэння адзінай нацыі Беларуска-Літоўскага краю на падмурку ўсіх ягоных «карэнных народаў». Да гэтай нацыі палітычнага тыпу належаў кожны, хто адчуваў сябе «грамадзянінам Краю», незалежна ад этнакультурнай прыналежнасці і сацыяльнага паходжання.

Краёвая ідэалогія нарадзілася сярод літоўскіх і беларускіх палякаў. Першымі з прапагандай краёвых поглядаў у друку выступілі Раман Скірмунт, Баляслаў Ялавецкі, Міхал Ромэр і Канстанцыя Скірмунт. Адзінства ў разуменні краёвай ідэі не было. Але ўсе краёўцы ўспрымалі Беларуска-Літоўскі край як суб'ект гісторыі і працавалі дзеля яго ператварэння ў суб'ект палітыкі. Іх палітычная канцэпцыя эвалюцыянавала ад аўтаноміі «гістарычнай Літвы» з соймам у Вільні да ідэі яе дзяржаўнай незалежнасці.

Важным аспектам тэмы з'яўляецца даследаванне суадносінаў краёвай ідэі і ідэалогіі асобных нацыянальных рухаў этнакультурнага тыпу, у прыватнасці, беларускага і літоўскага рухаў. Вядома, што ў 1910–1915 гг. гэтая ідэя выкарыстоўвалася вядомымі беларускімі і літоўскімі палітыкамі.

* Упершыню дакумент быў апублікаваны ў часопісе «Гістарычны альманах» (2006, том 12, с. 189–201). Таксама гэты пераклад быў змешчаны ў электронным выданні: Краёвая ідэя: канец XIX – пачатак XX стагоддзя. Анталогія («Палітычная сфера», 2014). У прапанаваным варыянце дапрацаваная прадмова і ўдакладнены некаторыя польскамоўныя тэрміны.

Вытокі краёвай ідэі можна знайсці у брашурах Рамана Скірмунта[1], артыкулах Канстанцыі Скірмунт[2] і Міхала Ромэра[3], а таксама ў «Нацыянальным катэхізісу Літвы» Баляслава Ялавецкага (1905).

Баляслаў Ялавецкі (1845–1918) нарадзіўся ў маёнтку Сулгудушкі Свенцянскага пав. Віленскай губ. Закончыў віленскую гімназію, а потым Нікалаеўскую школу вайсковых інжынераў у Пецярбургу. Як адзін з лепшых выпускнікоў быў прыняты і паспяхова закончыў Нікалаеўскую Акадэмію вайсковых інжынераў. У якасці інжынера чыгуначнага транспарту прайшоў стажыроўкі ў Празе і Вене. Перад ім адкрывалася перспектыва бліскучай кар’еры і чакала пасада ад’ютанта вялікага князя Мікалая.

Але Б. Ялавецкі выбраў іншы жыццёвы шлях. Ён выйшаў у адстаўку і ўладкаваўся работнікам на завод лакаматываў пад Пецярбургам. Атрымаў вельмі карысныя навыкі практычнай дзейнасці і зразумеў патрэбы рабочага люду. Праз год жыццёвыя абставіны прымусілі вярнуцца на вайсковую службу. Баляслаў Ялавецкі кіраваў пабудовай гранітнай набярэжнай Адміралцейства ў сталіцы імперыі. Удзельнічаў у будаўніцтве Лібава-Роменскай і Растова-Суздальскай чыгунак.

У 1878 г. ён быў прызначаны дырэктарам буйнейшага у Расеі Аляксандраўскага заводу па вытворчасці паравозаў і вагонаў. У 1893 г. у званні генерала інжынерных войскаў пакінуў кіраўніцтва заводам і заснаваў першае у Расеі Таварыства вузкакалеек. Будаваў чыгуначныя лініі ў Літве, Латвіі, Эстоніі і Украіне. Адначасна кіраваў Каталіцкім таварыствам дабрачыннасці ў Пецярбургу і быў сябрам Віленскага таварыства сельскай гаспадаркі.

Палітычна належаў да краёўцаў і нават прычыніўся да выпрацоўкі краёвай ідэі[4]. У 1906 г. быў абраны ад Віленшчыны дэпутатам І Дзяржаўнай Думы. Далучыўся да краёўцаў, якія аб’ядналіся ў «Групу дэпутатаў ад заходніх губерняў». Удзельнічаў у дыскусіі па аграрнай праблеме.

У 1910 г. стаў адным з заснавальнікаў Прамысловага таварыства Паўночна-Заходняга краю. Пасля пачатку Першай сусветнай вайны ўдзельнічаў у заснаванні Польскага таварыства дапамогі ахвярам вайны, дзейнасць якога выходзіла далёка па-за межы дабрачыннай працы. У лістападзе 1917 г. увайшоў у склад Польскай рады бяспекі, якая паўстала ў Петраградзе. Рыхтаваўся да вяртання на Віленшчыну, але быў арыштаваны бальшавікамі і кінуты ў турму. Нейкім цудам выйшаў з яе, але ў дзень вяртання дадому ў чэрвені 1918 г. памёр. Быў пахаваны ў Петраградзе, але ў 1925 г. парэшткі Баляслава Ялавецкага вярнуліся на Радзіму. Ён быў перапахаваны на віленскіх могілках Росы[5].

## *B. J…i [B. Jałowiecki]. Litwa – jej potrzeby… Katechizm narodowy Litwy. Wilno, [1905]. – 22 s.*

Хто мы? Што нам патрэбна? Што трэба рабіць, каб усім нам было добра, як дзецям адной агульнай маці-Айчыны нашай?..

**Пытанне: Што такое Літва?**

Адказ: Літва – гэта край, які спрадвеку насяляюць літоўцы, палякі і беларусы, а таксама латышы ў Інфлянтах[6]. Усе яны паяднаныя агульнасцю крыві і разам утвараюць адзіную літоўскую нацыю.

**Пытанне: Якую тэрыторыю займае Літва?**

Адказ: Зараз Літва займае шэсць губерняў, якія ў афіцыйнай мове называюць паўночна-заходнімі губернямі. Гэта – Віленская, Ковенская, Гарадзенская, Менская, Магілёўская і Віцебская.

**Пытанне: Чаму гэты край завецца Літвой?**

Адказ: Край завецца Літвой, бо літоўскія князі яшчэ ў XIII ст. пачалі аб'ядноўваць тэрыторыі пазначаных шасці губерняў у адно цэлае. З таго часу і па сённяшні дзень увесь гэты край жыў агульным гістарычным лёсам, моцна звязаным з Польшчай з XIV ст.

**Пытанне: Якую гісторыю мае гэты край?**

Адказ: Літоўцы спрадвеку насялялі вялікую частку краю ад ніжняй Віслы да Дзвіны. У глыбі недаступных пушчаў яны жылі рознымі плямёнамі, былі дзікунамі і пакланяліся ідалам. Праз пэўны час літоўцы пачалі дабраахвотна яднацца ў вялікія грамады, г. зн. ствараць нейкі ўнутраны парадак. Ужо на пачатку XIII ст. , каля 1219 г., вярхоўную ўладу ў Літве ўзяў у свае рукі Міндоўг (Міндовэ), які нават абвясціў сябе каралём Літвы. Трайнат, пляменнік Міндоўг, забіў 70-гадовага караля разам з яго двума малодшымі сынамі ў 1263 г. Пасля кароткачасовага панавання Трайната і Войшалка на чале Літвы стаў Віценес, сын Трайдэна. Яго пераемнікам на троне вялікага князя стаў у 1314 г. брат Гедымін, заснавальнік Вільні. Пасля яго на трон уступіў Альгерд, а ў 1377 г. гаспадаром Літвы стаў Ягайла.

У часы Гедыміна і асабліва Альгерда, які кіраваў дзяржавай разам з малодшым братам Кейстутам, Літва апынулася на вяршыні магутнасці, бо ўся Беларусь і Русь разам з Кіевам увайшлі ў склад Вялікага Княства

Літоўскага. Аднак літоўскі люд і вялікія князі заставаліся язычнікамі, нягледзячы на далучэнне хрысціянаў усходняга веравызнання Беларусі і Русі, а таксама прысутнасць шматлікіх польскіх асаднікаў рымска-каталіцкага веравызнання.

Адначасна з ростам магутнасці Літвы крыжакі, пачынаючы з 1230 г., стварылі на берагах Віслы і Балтыкі незалежную дзяржаву, атрымаўшы перад тым ад імператара Фрыдрыха II даравальную грамату на валоданне землямі, якія Ордэн захопіць у язычнікаў. Таму пасля вынішчэння літоўскага племені прусаў самыя крыжакі прынялі імя прусакоў і пачалі знішчальныя паходы на Літву, нібыта пашыраючы хрысціянскую веру. Па меры росту магутнасці Ордэна гэтыя напады станавіліся ўсё больш жахлівымі для Літвы, і калі б не Польшча, якая трымала ў напружанні крыжакоў, Літва сама не здолела б абараніцца, і яе чакаў бы лёс супляменнікаў прусаў, бо на рэштках спаленага Коўна быў ужо збудаваны крыжацкі замак Марыенвердэр. Разумелі літоўскія князі і баяры, разумеў і вялікі князь літоўскі Ягайла са сваім стрыечным братам Вітаўтам, сынам Кейстута, што Літва толькі разам з Польшчай можа існаваць.

Для Польшчы такі саюз з Літвой таксама быў патрэбным па прычыне тых жа самых крыжакоў і жадання чужакоў атрымаць карону і руку каралевы Ядвігі. Наступствамі гэтага ўзаемнага імкнення абодвух народаў стала хрышчэнне Ягайлы ў 1386 г. у рымска-каталіцкую веру і прыняцце ім імя Уладзіслава II, шлюб Ягайлы з маладзенькай каралевай Польшчы, заняцце ім трона караля абодвух народаў, хрышчэнне язычніцкай Літвы ў рымска-каталіцкую веру, перадача пажыццёвай улады ў Літве і тытула вялікага князя Вітаўту і сумесны з ім разгром крыжакоў 15 ліпеня 1410 г. пад Грунвальдам, які назаўсёды знішчыў магутнасць Ордэна. З 1386 г. Літва і Польшча маюць адзіны гістарычны лёс.

Да 1794 г. Літва складала аўтаномную палову Рэчы Паспалітай Польскай абодвух народаў, а пасля краха Рэчы Паспалітай аж па сённяшні дзень застаецца пад расейскім панаваннем.

**Пытанне: Чаму палякі, літоўцы і беларусы ў Літве складаюць адзіную нацыю?**

Адказ: Спрадвеку літоўцы былі суседзямі палякаў і беларусаў. У выніку пастаянных нападаў яны перасялілі масу захопленага насельніцтва абодвух полаў, якое потым змяшалася з літоўцамі. Літоўскія напады на Польшчу сталі асабліва частымі з 1138 г. пасля смерці Баляслава III Крываўста і падзелу Польшчы паміж яго сынамі.

Падзеленая Польшча, да таго ж аслабленая пастаяннай грамадзянскай вайной, не магла супрацьстаяць літоўскім дружынам, якія, руйнуючы польскія землі, выводзілі з іх у Літву дзясяткі тысяч людзей абодвух полаў. Урэшце не засталося такога куточка Літвы, дзе б не жылі польскія палонныя. Якраз гэтыя палонныя, большасць якіх складалі сяляне, сталі першымі праваднікамі культуры ў Літве.

Пра масавае засяленне Літвы захопленым польскім насельніцтвам сведчыць факт, што, калі кароль Польшчы Уладзіслаў Лакетак у 1325 г. ажаніў свайго сына Казіміра з Альдонай Гедымінаўнай, то маладзенькая літоўская княжна прынесла ў пасагу 24 тысячы польскіх палонных, выгнаных у Літву.

Аднак у перыяд Уладзіслава Лакетка літоўскія напады на Польшчу аслабелі. Лакетак быў магутным манархам і з Гедымінам яго звязвалі больш прыязныя адносіны. Такім чынам, спрадвеку польская кроў змешвалася з літоўскай і беларускай. Магчыма, што яшчэ ў часы Ягайлы ва ўсёй Літве нельга было знайсці чалавека, у венах якога не было б дадатку літоўскай, польскай або беларускай крыві.

З 1386 г., г. зн. з моманту аб'яднання Літвы і Польшчы, хрысціянства, адукацыя і заходняя культура прыходзілі ў Літву толькі праз Польшчу і ператвараліся ў агульную польска-беларуска-літоўскую культуру. У выніку на ўсёй тэрыторыі Літвы ад Балтыкі, Нарава, Нёмана і Вяллі да Дняпра, ад Дзвіны да Прыпяці запанавалі адзіныя звычаі і абрады, адзіная нацыянальная этыка, якія не залежалі ад таго, якая мова гучала пад страхой – польская, літоўская ці беларуская. Усе гэтыя мовы родныя, бо ў нашых жылах цячэ адна кроў…

**Пытанне: Чаму ж, нягледзячы на агульнасць крыві, культуры і нацыянальнае адзінства мы не маем супольнай роднай мовы?**

Адказ: Нават у такім на першы погляд цалкам аднолькавым народзе як немцы існуюць настолькі значныя розніцы ў мове, што немцы адной правінцыі часцяком з цяжкасцю разумеюць немцаў з іншай часткі краіны. Гэтыя правінцыялізмы захаваліся ў Нямеччыне, нягледзячы на тое, што гэты народ мае добра апрацаваную і аднолькавую для ўсіх немцаў літаратурную мову.

Правінцыялізмы захаваліся пераважна сярод сельскага насельніцтва, якое стала працуе на зямлі. Гэтае насельніцтва практычна не перасякае межаў сваёй правінцыі, а для выказвання думак адносна штодзённых патрэбаў і сямейных адносінаў мае дастатковы запас словаў, спрадвеку

прынятых суседзямі. Да апошніх кожнае новае пазычанае слова даходзіць з цяжкасцю ў параўнанні са словамі і зваротамі, распаўсюджанымі здаўна. Кожная нацыя, нават самая аднастайная, мае падобныя правінцыялізмы. Тым болей гэта датычыць нацыяў са складанай структурай, да якіх па сутнасці належыць нацыя Літоўскай правінцыі[7].

Да гэтага часу ў Літве агульнай культурнай мовай была польская, якая, нягледзячы на ўжыванне ў дзяржаўных актах пэўных мясцовасцяў беларускага пісьма, спрадвеку дамінавала ў асяроддзі адукаваных колаў і сярод гараджанаў. У народзе захоўваліся літоўская, беларуская і нават польская мова, якая істотна рознілася ад свайго літаратурнага варыянту. Захаванне гэтых моваў не з'яўляецца доказам розніцы нацыянальнай і тым больш – культурнай. У адных мясцовасцях польскае або беларускае насельніцтва, знаходзячыся ў сталых кантактах з літоўцамі, пераняло літоўскую мову, у другіх – літоўцы і палякі пераняли беларускую мову, а ў трэціх – беларусы і літоўцы пераняли польскую. Усё гэта вызначалася ўзаемаадносінамі насельніцтва ў дадзеную эпоху і ўмовамі побыту.

У кожным выпадку ўсе тры мовы з'яўляюцца нашымі роднымі, і мы абавязаныя падтрымліваць кожную з іх, калі людзі гэтага пажадаюць. Нельга забываць, што адукацыя народу з'яўляецца галоўнай мэтай грамадскасці, бо ўяўляе сабой падмурак дабрабыту краю і нацыі, а асновы адукацыі павінны закладацца на зразумелай народу роднай мове. Трэба, каб кожны інтэлігентны грамадзянін Літвы добра ведаў літоўскую і беларускую мовы, і каб у ягоным доме беларускія і літоўскія кнігі чыталіся нароўні з польскімі…

**Пытанне: У якім становішчы знаходзіцца Літва сёння?**

Адказ: Сучаснае становішча Літвы вельмі цяжкае ва ўсіх адносінах. Пасля падзення Рэчы Паспалітай загінулі таксама тыя славутыя правы для ўсёй нацыі, якія былі выпрацаваныя сумеснымі намаганнямі Літвы і Польшчы і ўвайшлі ў Канстытуцыю 3 мая 1791 г. Таксама былі перакрэсленыя Маніфесты Тадэвуша Касцюшкі пра роўнасць усяго народу. Калі літоўская шляхта ў 1818 г. амаль аднагалосна пажадала даць свабоду сялянам і зліквідаваць прыгон, імператар сваім указам забараніў шляхце выказваць меркаванне адносна прыгону. Толькі ў часы імператара Аляксандра II голас літоўскай шляхты ў абарону правоў народу, першы такі голас у Расейскай дзяржаве, быў зычліва прыняты. Пасля гэтага ў 1861 г. адбылося вызваленне сялянаў. Аднак, нягледзячы на рэформу, у сувязі з агульнадзяржаўным ціскам стан сялянства і сёння застаецца цяжкім.

У 1905 г. пад кіраўніцтвам генерал-губернатара Фрэзе ў Вільне працавала Камісія па справе ўвядзення земскага самакіравання ў Літве. Сярод яе сяброў былі дэпутаты ад шляхты Віленскай, Гарадзенскай і Ковенскай губ. Падчас абрадаў шляхта аднагалосна выказалася за ўсесаслоўныя земствы, поўную роўнасць сялянаў з шляхтай, адзіную сістэму падаткаабкладання коштам перанясення значнай часткі падаткаў і земскіх павіннасцяў на шляхту. Аднак праца гэтай Камісіі аказалася нявыкарыстанай.

Да 1831 г. у Вільне знаходзіўся шырока вядомы ўніверсітэт, які быў зліквідаваны ўрадам. З краёвых фундушаў і розных грамадзянскіх ахвяраванняў утрымлівалася шмат пачатковых і сярэдніх школаў, якія таксама па распараджэнню ўраду былі зліквідаваныя. А з 1863 г. па сённяшні дзень увесь край знаходзіцца па-за межамі права. Сваволле адміністрацыі не ведае межаў. Усё жыццё замерла…

Адукацыя не развіваецца, друкаванне кніг на літоўскай і беларускай мове лацінскімі літарамі забаронена, таксама забаронены друк польскіх кніг, прыватнае навучанне караецца штрафамі і высылкай з краю. Нельга заснаваць аніводнай грамадскай арганізацыі, а тое, што некалі дазволілі, сёння ўжо забаранілі. Край дайшоў да поўнага заняпаду. Цемра і бядота апанавалі ўсе колы грамадства. У сельскагаспадарчым краі зямянскія і сялянскія гаспадаркі амаль зруйнаваныя, прыватныя лясы вырубленыя, азёры і рэкі засталіся без рыбы, а палі і зараснікі – без жывёлаў і птушак.

Пасярод усеагульнай бядоты пануюць прысланыя чужынцы, якія пераследуюць уласныя інтарэсы і распальваюць полымя класавай і нацыянальнай барацьбы, якую не можа нейтралізаваць нават касцёл, бо шмат касцёлаў было забрана. Каталіцкае духавенства пераследавалася, а праваслаўнае ператварылі ў сродак ціску і гвалту. Паўсюдны ціск аказаў фатальны ўплыў на маральны бок жыцця нацыі, справакаваў упадак духу і ўсялякай ініцыятывы. У выніку знікла апазіцыя гвалту нават там, дзе яна магла быць выніковай нават ва ўмовах усеагульнага бяспраўя. Кожны сядзеў у сваёй нары і баяўся нават галаву высунуць, каб з жыццём не развітацца. У такім цяжкім стане быў наш край да сённяшняга дня.

**Пытанне: Што трэба рабіць, каб край і ўся нацыя пераадолелі сучасную нядолю?**

Адказ: Перш за ўсё мы, як грамадзяне краю, незалежна ад саслоўнай прыналежнасці, нацыянальнасці, веравызнання, павінны пацiснуць адзін аднаму рукі і з узаемным даверам узяцца за працу, хоць бы ў межах сучаснага заканадаўства, якое, канешне, найлепшым не назавеш,

але пасля пераменаў 1904 г. яно дае мажлівасць для працы кожнага грамадзяніна.

Трэба помніць, што ў адзінстве нашая моц; трэба помніць, што нягледзячы на пэўныя партыйныя разыходжанні ў поглядах на сацыяльныя праблемы, існуе шэраг агульнакраёвых і грамадзянскіх патрабаванняў, у рэалізацыі якіх аднолькава зацікаўленыя ўсе без выключэння жыхары краю, да якіх бы партый, саслоўяў і нацыянальнасцяў яны б не належалі; трэба помніць, што без дасягнення пэўных агульных для ўсіх мэтаў не атрымаецца вырашыць ніякіх партыйных задачаў; трэба помніць, што ні партыйныя, ні сацыяльныя, ні нацыянальныя спрэчкі нічога не дадуць, калі не дасягнем таго, што з’яўляецца падмуркам існавання нацыі і развіцця краю; трэба помніць, што ў сувязі з веліччу працы, неабходнай для дасягнення асноўных мэтаў, усялякае драбленне нашых сілаў і выдатkаванне энергіі на бессэнсоўную партыйную, класавую або нацыянальную барацьбу з’яўляецца злачынствам; трэба помніць, што пакуль мы не атрымаем больш шырокія правы, то павінны дабівацца свайго ў межах існуючых законаў, бо гэта будзе доказам нашай палітычнай сталасці і нашага ўмення выкарыстоўваць усе магчымасці дзеля дабрабыту краю і нацыі.

Будзем дабівацца больш шырокіх правоў, але перш за ўсё трэба рабіць тое, што дазваляе сучаснае сітуацыя. Тым самым мы падрыхтуем глебу для ажыццяўлення новых законаў, бо найлепшае зерне на неўрадлівай глебе не дасць ураджаю. Толькі адзінства і самаадданая праца выведзе край і нацыю з сучаснай нядолі.

**Пытанне: Што неабходна, каб запанавала адзінства і вера ў плён сумеснай працы?**

Адказ: Патрэбна разуменне, што дабрабыт кожнага грамадзяніна і кожнай асобнай групы трымаецца на дабрабыце ўсіх сацыяльных колаў. Бядота і жабрацтва класаў з’яўляецца сведчаннем хваробы сацыяльнага арганізма, нягледзячы на відавочны дабрабыт асобных групаў і асобных людзей, якія ў кожную хвіліну могуць быць зацягнутыя ў бездань навакольнага асяроддзя і згінуць у ёй без следу, як гінуць жыхары палацаў, калі ў суседніх вясковых хатах выбухне эпідэмія.

Добрым шляхам карыстаецца кожны, а на дрэнным нават паездка ў лепшай карэце становіцца невыноснай і пагражае падарожніку катастрофай, нават больш страшнай, чым у выпадку, калі б ён ехаў у сялянскім возе. Распаўсюджванне культурных патрэбаў аблягчае жыццё для ўсіх і па-

ступова прыводзіць да таго, што і сродкі задавальнення гэтых патрэбаў становяцца больш даступнымі…

Падобнае адбываецца ва ўсім! Асобны чалавек, асобная сацыяльная група не шмат здолеюць зрабіць, але калі за працу бярэцца ўся супольнасць, то пры мінімальных намаганнях у самым кароткім часе робіцца тое, чаго не дамагліся б першыя пры найвялікшай энергіі за некалькі гадоў, бо толькі ў адзінстве – моц.

**Пытанне: Што неабходна, каб грамадская праца давала плён?**

Адказ: Патрэбна ўсведамленне мэты, а яно з'яўляецца вынікам разумення таго, што было раней, што адбываецца сёння, што будзе заўтра. Галоўнай мэтай з'яўляецца найвышэйшы ўздым дабрабыту ўсяго краю і шчасце ўсяго народу. Гэта мэта вельмі аддаленая, і сёння мы не маем ніякіх дадзеных, каб сказаць, як будзе выглядаць Літва праз 100 або хоць праз 50 гадоў. Будучыня залежыць не толькі ад нас, але і ад знешніх уплываў. Аднак канчатковая мэта павінна ўвесь час асвятляць шлях, па якому мы ідзем. А шляхі трэба выбіраць такія, каб не зваліцца ў бездань, якую ворагі нашыя могуць для нас выкапаць. Апроч мэты-ідэалу, мы павінны бачыць перад сабой шляхі да вырашэння такіх бліжэйшых задачаў, якія рэальна могуць быць рэалізаванымі. Нельга на першы план ставіць утапічныя дактрыны, бо яны, як багна, могуць надоўга затрымаць на адным месцы і нават пазбавіць нас нашых дасягненняў.

Нельга пераймаць недавер люду да адукаваных і больш багатых класаў, бо шматгадовая дзяржаўная няволя ўжо прызвычаіла яго да гэтага. Гэты недавер знікне, калі адукаваныя маёмасныя класы замест бяздзейнасці зоймуцца працай не дзеля вузкіх сацыяльных інтарэсаў, але ўсведамляючы сваю грамадскую місію і маючы глыбокае перакананне, што кожны адпаведна таму, якім капіталам, зямлёй або маёмасцю ён валодае, прынясе як ахвяру на грамадскі алтар пэўны адсотак грашыма або працай. На гэтым алтары грош удавы будзе роўны сотні рублёў багатага чалавека, а гадзіна працы заменіць грашовыя выплаты…

Калі такая праца пачнецца, калі ахвярнасць стане відавочнай, то людзі адзін за другім пачнуць далучацца да гэтай справы, пакуль усе не будуць ёй захопленыя.

Наш люд – гэта не дзікуны. Ён мае глыбока ўкаранёную агульную з намі мараль і этыку, якія ў ім назапашваліся стагоддзямі і захоўваюцца сёння ў форме (патэнцыяльнага) недатыкальнага запасу. Не хапае толькі агеньчыка асветы, каб назапашаная энергія выбухнула, і гэты люд і звон-

ку выглядаў высокакультурным, свядомым сваіх правоў і сваіх абавязкаў. Пачнем грамадскую працу, пачнем яе самааддана, і хутка знікне недавер. А люд разам з намі будзе давяраць свой лёс тым, хто найболей будзе гэтага дастойны.

**Пытанне: Што павінна ўключаць праграма грамадскай працы?**

Адказ: Гэтая праграма, у першую чаргу, павінна ахопліваць усе бакі сацыяльнага ладу Літвы, якi, паводле нашага меркавання, можа быць збудаваны на падмурку Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г. і далейшага развіцця канстытуцыйных прынцыпаў, каб найбольш адпавядаць патрэбам краю і духу нашага народу. Гэтая праграма можа быць рэалізаваная толькі праз адпаведнае заканадаўства Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнай Рады, што дзеля яе эфектыўнасці патрабуе пэўнага часу. Аднак гэта не павінна стрымліваць нашую працу, якая будзе грунтавацца на існуючых правах і маніфестах, а таксама ўказах аб пашырэнні свабоды, як ужо адзначалася. Без гэтай папярэдняй працы праграма ва ўсім сваім аб'ёме не можа быць эфектыўна рэалізаванай.

**Пытанне: Якая адміністрацыйная арганізацыя найболей адпавядае сёння Літве?**

Адказ: З улікам таго, што шэсць губерняў, якія ўтвараюць Літву і носяць афіцыйную назву «паўночна-заходніх», спрадвеку аб'яднаныя сумеснай гісторыяй, звычаямі і адзінствам прававых і гаспадарчых адносінаў, то яны павінны ўтвараць адзіную непадзельную Літоўскую Правінцыю з шырокім самакіраваннем для мясцовых справаў у Вільне, а для справаў агульнадзяржаўных мець прадстаўніцтва ў Дзяржаўнай Думе і Дзяржаўнай Радзе, абранае на падставе агульнадзяржаўных палажэнняў.

Кампетэнцыя самакіравання Літоўскай Правінцыі, адносіны да адміністрацыйных уладаў дзяржавы павінны быць акрэсленыя і гарантаваныя дзяржаўным заканадаўствам. Апроч цэнтральнага самакіравання Літоўскай Правінцыі павінна існаваць акружное самакіраванне для некалькіх паветаў, звязаных паміж сабой (наколькі гэта магчыма) агульнасцю народнай мовы і, нарэшце, павінна быць гміннае самакіраванне на падставе ўсесаслоўнай гміны.

Толькі цэнтральнае самакіраванне ўсёй Літоўскай Правінцыі можа стварыць адпаведныя інстытуты, якіх не можа даць сучаснае расейскае губернскае самакіраванне ў цэнтральных губернях, напрыклад, універсітэт, вышэйшыя навучальныя ўстановы іншых катэгорый, краёвы аддзел рэгуляцыі землекарыстання, банкі для правядзення парцэляцыі,

меліярацыйныя банкі ды інш. Паміж самакіраваннем цэнтральным і гмінным, паводле нашага меркавання, павінна знаходзіцца вышэйназванае акружное самакіраванне, якое ахоплівала б каля чвэрці тэрыторыі сучасных губерняў.

**Пытанне: Якое выбарчае заканадаўства з'яўляецца пажаданым для самакіравання?**

Адказ: Удзел у выбарах павінен быць усеагульны, бессаслоўны, прыведзены ў адпаведнасць з нормай падаткаў і павіннасцяў.

**Пытанне: Якім павінна быць падатковае заканадаўства?**

Адказ: Падаткаабкладанне і ўсе павіннасці павінны быць размеркаваныя ў адпаведнасці з колькасцю зямлі і яе коштам, прыбыткам з нерухомай маёмасці, прыбыткам з капіталаў і ўсялякіх прадпрыемстваў незалежна ад саслоўнай прыналежнасці. Пры тым, каб падаткі і павіннасці найменш абцяжарвалі людзей, якія не маюць маёмасці.

**Пытанне: Якія грамадзянскія правы найбольш патрэбныя ў Літве?**

Адказ: Роўнасць усіх веравызнанняў, а таксама поўная свабода для ўсіх веравызнанняў і свабода сумлення. Роўнасць у грамадзянскіх правах усіх незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання і пола; роўнасць саслоўяў; свабода слова, друку, сходаў, саюзаў і арганізацый; свабода заняткаў і месца знаходжання; гарантыя грамадзянскай свабоды, г. зн. недатыкальнасць асобы і жылля без рашэння суда; незалежнасць суда ад адміністрацыйных уладаў.

**Пытанне: Што неабходна народу?**

Адказ: Школы павінны быць перададзеныя самакіраванню. Мовай выкладання ў пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школе павінна быць мова, якую вызначыць мясцовае насельніцтва. Пачатковая адукацыя павінна быць усеагульная, усесаслоўная і абавязковая. Апроч таго, кожная нацыя павінна мець права заснавання ўласных школ. У Вільне павінен быць універсітэт і незалежна ад яго ў Вільне або ў іншых гарадах Літвы павінны быць палітэхнічны і агранамічны інстытуты, а таксама ніжэйшыя і сярэднія прафесіянальныя школы, у першую чаргу, сельскагаспадарчыя.

**Пытанне: Наколькі неабходна вывучэнне і добрае веданне дзяржаўнай рускай мовы?**

Адказ: Вывучэнне рускай мовы ў сярэдніх і вышэйшых школах, безумоўна, неабходнае, таксама як і вывучэнне гісторыі і геаграфіі Расеі.

**Пытанне: Ці павінна існаваць поўная свабода заснавання грамадскіх інстытутаў?**

Адказ: Незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання ўсе павінны мець права заснавання ўласных грамадскіх, культурных, спартыўных і клубных інстытутаў, свабодных ад якіх бы ні было абмежаванняў.

**Пытанне: Ці павінны краёўцы мець права першынства ў органах самакіравання і ў дзяржаўных установах, а таксама права карыстання краёвымі мовамі?**

Адказ: Ва ўсіх органах самакіравання, у дзяржаўных установах, а таксама ў судзе краёўцы павінны мець першынство, а краёвыя мовы польская, літоўская і беларуская павінны мець належныя ім правы.

**Пытанне: Як найлепей можна вырашыць аграрнае пытанне?**

Адказ: Трэба прызнаць, што насельніцтва краю пастаянна павялічваецца, што прамысловасць застаецца на нізкім узроўні, а г. зн., што лішак насельніцтва не знаходзіць сабе занятку па-за межамі сельскай гаспадаркі або адпраўляецца ў эміграцыю. Неабходна распрацаваць праект такога гаспадарчага развіцця, якое б цалкам адпавядала патрэбам насельніцтва нашага краю.

Вопыт Заходняй Еўропы ўказвае на неабходнасць паступовага драблення зямельнай уласнасці на невялікія гаспадаркі. Мы не павінны закрываць на гэта вочы, а цалкам свядома пачаць працу над урэгуляваннем паступовага пераходу вялікіх зямельных абшараў у рукі вясковага насельніцтва, а менавіта сялянаў, дробнай шляхты ды іншых падобных катэгорый, даючы ім пры гэтым усё, што можа паспрыяць паляпшэнню стану зямельных угоддзяў і найбольш эфектыўна выкарыстаць эканамічныя ўмовы для развіцця дробнай прамысловасці.

Аграрная праблема ў Літве павінна вырашацца органамі самакіравання эвалюцыйным шляхам у кірунку агульнай камасацыі надзелаў і павялічэння колькасна невялікіх, але моцных гаспадарак праз паступовае набыццё іх уладальнікамі новых угоддзяў і парцэляцыю; праз выдзяленне ўсялякага крэдыту; развіццё кааперацыі; падрыхтоўку адпаведных інструктараў; ліквідацыю ўсялякіх абмежаванняў, якія не дазваляюць селяніну свабодна карыстацца сваёй уласнасцю; праз урэгуляванне права ўласнасці як для буйных, так і для дробных землеўласнікаў; абавязковую ліквідацыю цераспалосіцы і сервітутаў з правам (у пэўных выпадках) прымусовага адчужэння земляў у адпаведных памерах за аплату па яе рэальнаму кошту, пры гэтым, аднак, каб не парушыць сістэму гаспадаркі дадзенага фальварка або вёскі.

Скарбовыя, удзельныя і прыватныя землі, набытыя праз Сялянскі банк, органы самакіравання падвяргаць парцэляцыі выключна для

патрэбаў мясцовага насельніцтва, г. зн. для насельніцтва Літоўскай Правінцыі.

**Пытанне: Што неабходна зрабіць для сельскагаспадарчых рабочых і рабочых фабрычнай прамысловасці?**

Адказ: Для сельскагаспадарчых рабочых і рабочых фабрычнай прамысловасці павінны быць распрацаваныя спецыяльныя статуты і створаны спецыяльныя інстытуты, якія забяспечаць быт рабочых і іх сем'яў і будуць ствараць падмурак для культурнага і гаспадарчага развіцця масаў. Таксама неабходна стварэнне інстытуцый, якія б разбіралі спрэчкі паміж працадаўцамі і працаўнікамі.

**Пытанне: Як трэба ставіцца да пастаянных жыхароў краю рускай нацыянальнасці ды іншых нацыянальнасцяў у Літве?**

Адказ: Стаўленне да пастаянных жыхароў краю рускай нацыянальнасці ды іншых нацыянальнасцяў павінна быць цалкам братэрскім як да нашых суграмадзянаў, якія ва ўсіх грамадскіх справах працуюць разам з намі для дабра краю.

**Пытанне: Як трэба ставіцца да габрэяў?**

Адказ: Прызнаём габрэяў раўнапраўнымі суграмадзянамі і будзем імкнуцца жыць з імі ў братэрскай згодзе настолькі, наколькі яны самі захочуць застацца актыўнымі грамадзянамі нашага краю і будуць прымаць шчыры ўдзел у грамадскай працы. Не хочам, каб наш край стаў для габрэяў зямлёй выгнання і дзеля таго патрабуем адмены рысы габрэйскай аселасці і дазволу ім пражываць на тэрыторыі ўсёй дзяржавы.

**Пытанне: Што рабіць, калі не атрымаем лепшага заканадаўства?**

Адказ: Перш за ўсё трэба даць адукацыю нашым дзецям, бо адукацыя – гэта падмурак усяго. Хто можа, няхай вучыць дзяцей у сваім доме. Будзем збірацца сем'ямі і вучыць дзяцей сумесна. Будзем засноўваць школы паўсюдна, дзе гэта мажліва, выкарыстоўваць асветніцкія арганізацыі і падтрымліваць іх па меры магчымасці. Будзем ствараць сельскагаспадарчыя і спажывецкія гурткі, асветніцкія таварыствы, ашчадна-крэдытныя касы, суполкі малочнікаў і гандляроў ды інш.

Не адкладаючы, трэба рабіць усё, што можна дзеля ўрэгулявання аграрных адносінаў. Пры гэтым трэба выкарыстоўваць існуючыя павятовыя камітэты па ўрэгуляванню зямельных уладанняў. Калі штодня хоць на кропельку нечага прыбудзе, то праз год шмат што будзе зроблена. Трэба вывучаць тыя правы, якія мы маем і карыстацца імі, каб не саступаць бяспраўю. Адмовімся ад усялякай раскошы, бо на гэта не маем

сродкаў, аднак не будзем іх шкадаваць на ўсё, што спрыяе развіццю асветы, што ўмацоўвае мараль і дух, уздымае асабісты і агульны дабрабыт. Трэба прызвычаіцца да парадку і да пастаяннай працы. Нельга губляць час. З усяго гэтага іншае будзе выходзіць, як нітка з катушкі… І хутка наступіць агульнае паразуменне, а Бог будзе спрыяць нашай працы.

---

1 Гл.: Ro...munt [Skirmunt R.]. Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej (Lwów, 1904) і Ro...munt [Skirmunt R.]. Głos przeszłości i potrzeba chwili. Stanowisko szlachty na Litwie i Rusi (Lwów, 1905).

2 Гл.: Futurus [Skirmuntt K.]. O prawdę i zgodę z powodu głosu Litwinów o magnatów, obywateli i szlachty na Litwie i odpowiedzi młodego szlachcica litewskiego (Lwów, 1904).

3 Гл.: шматлікія публікацыі М. Ромэра на старонках выдання «Gazeta Wileńska» (1906).

4 Ён быў аўтарам некалькі «краёвых» выданняў: J… і B. [Jałowiecki B.]. Litwa i jej potrzeby... Narodowy katechizm Litwy (Wilno, 1905); Sargas [Jałowiecki B.]. Litwo, Ojczyzno nasza... (Petersburg, 1906); Jałowiecki B. Do zacnych współziemian moich z Litwy i Rusi (Petersburg, 1906).

5 Біяграфічны агляд зроблены з дапамогай некралогу пад назвай «Пасмертныя ўспаміны. Баляслаў Ялавецкі». Яны былі апублікаваныя на старонках віленскай газеты «Słowo» ў 1925 г. (№ 81–82). Аўтар схаваўся пад псеўданімам *Bysłader*.

6 Уласна літоўцы масава насяляюць сёння яшчэ паветы Уладзіславаўскі, Ваўкавышскі, Марыямпальскі, Кальварыйскі і частку Сейненскага пав. Сувалкаўскай губ, а таксама наваколлі Палангі Курляндскай губ. Карэнныя палякі, апроч Каралеўства Польскага, масава насяляюць Бельскі, Беластоцкі і Сакольскі пав. Гарадзенскай губ (*заўвага аўтара*).

7 У Францыі баскі і брэтонцы называюць сябе французамі, нягледзячы на тое, што маюць абсалютна розныя родныя мовы. У Бельгіі называюць сябе бельгійцамі валоны, фламандцы і французы *(заўвага аўтара)*.

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ І «КРАЁВАЯ ІДЭЯ»

Дзеячы беларускага руху пачатку XX ст. у сваіх намаганнях адрадзіць Беларусь і зрабіць яе рэальным чыннікам культурнага і палітычнага жыцця Краю актыўна карысталіся краёвай ідэалогіяй, распрацаванай у асяродку «літоўскіх палякаў». Важную ролю адыгрывала яе мясцовае паходжанне і арыентацыя на патрэбы ўсяго Беларуска-Літоўскага краю як агульнай Радзімы некалькіх народаў, што перажывалі перыяд нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Пры гэтым у адрозненні ад стваральнікаў краёвай ідэі пазіцыю кіраўнікоў беларускага нацыянальнага руху вызначаў не столькі рамантызм, заснаваны на памяці пра колішні «залаты век» Вялікага Княства Літоўскага і ягоных народаў, колькі пэўны прагматызм і пошук шляхоў адраджэння і ўмацавання Беларусі.

1 красавіка 1914 г. Антон Луцкевіч закончыў працу над рукапісам артыкула «Краёвае становішча», галоўнай ідэяй якога было асуджэнне нацыяналізму як «*хворага пачуцьця сваёй нацыональной асобнасьці*» і прапаганда «*з’еднаньня дэмократычных элементоў усіх тутэйшых націй*». Паводле аўтара, які пазначыў сябе вядомым псеўданімам «Ант. Новіна», менавіта «*дэмократычна-краёвая*» пазіцыя дазволіць «*усю творчэскую сілу збудзіўшагося ад векавога сну народу накіраваць да спакойнай культурна-національнай работы, да працы дзеля узмацаваньня нашага грамадзянства, да вызваленьня народу з экономічных путаў, да ўсестароньняго адраджэньня яго*».

Гэты артыкул, рукапіс якога захоўваецца ў фондзе 21 (ад. з. 334. Арк. 12–18) Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы, быў напісаны ў той час, калі ідэя беларускай дзяржаўнасці магла існаваць толькі ў самых смелых марах. А вось рэферат «Эканамічная эвалюцыя і беларускі рух» быў прачытаны Антонам Луцкевічам у Беларускім клубе ў Вільні 28 кастрычніка 1917 г., калі гэтая ідэя ўжо здавалася цалкам рэальнай. Першая сусветная вайна і паражэнні Расейскай імперыі істотна змянілі геапалітычную сітуацыю былога Вялікага Княства Літоўскага.

Увосень 1917 г. дзеячы віленскага беларускага асяродку ўжо шукалі шляхі да беларускай дзяржаўнасці. Думаючы пра яе трываласць, яны не маглі абмінуць праблемы эканамічнага падмурку гэтай дзяржаўнасці. У гэтым кантэксце А. Луцкевіч у сваім рэфераце казаў пра магчымасць пабудовы беларускай дзяржавы ў межах колішняга Вялікага Княства Літоўскага на падмурку адзінства і непадзельнасці эканамічных інтарэсаў беларускіх і літоўскіх зямель.

Адпаведна адной з першачарговых задачаў ён лічыў захаванне адзінства з Курляндыяй *«praz katoruju naša Dźwina ŭliwajecca ŭ more, na ŭzbiarežžy katoraj znachodziacca ŭsie tarhowyje porty: Libawa, Windawa, Ryha, zwiazanyje z našym krajem systemaj čyhunak i adkrywajučyje našaj tarhoŭli wolny wychad na ŭwieś świet»*. З гэтым адзінствам беларускі дзеяч звязваў знешнепалітычную арыентацыю *«wolnaj i niezaležnaj Baćkaŭščyny»*. Такім чынам, краёвая ідэя ўвосень 1917 г. у пазіцыі Антона Луцкевіча атрымлівала ўжо эканамічная абгрунтаванне.

Вельмі красамоўным было заканчэнне гэтага рэферату: *«Chaj hałowy haračyja dumajuć, što adno hutarkaj u rodnaj mowie, adno wieraj u nacyonalny ideał jany zbudujuć budučaje ščaście dla swajho narodu. Ale polityki, ćwiarozyje palityki s chałodnym, razwažliwym rozumam powinny pad budučuju nacyonalnuju budoŭlu padwiaści krepkije fundamenty, hetyje fundamenty i stanowiać zabaspiečeńnie materjalnaho dabrabutu dziela našaho narodu i kraju, zabaspiečeńnie jamu mahčymaści ekonomičnaho raświetu!»*

Тэкст рэферату быў надрукаваны ў газеце «Гоман» («Homan») у № 89 (6 лістапада) і № 90 (9 лістапада) за 1917 г. Пазней рэферат выдалі асобным адбіткам.

Абодва тэксты публікуюцца з захаваннем асаблівасцяў правапісу. Толькі ў некаторых выпадках змененая пунктуацыя і ўведзеныя новыя абзацы.

## *Ант. Новіна [А. Луцкевіч].<br>Краёвае становішчэ* (1914)*

Соткі гадоў жывем мы тутака разам – на аднэй Зямлі – беларусы і літвіны, палякі і жыды. Нейкі гістарычны прымус, дужэйшы, чым

* Упершыню дакумент быў апублікаваны ў часопісе “Спадчына” (1996, № 1, с. 48–52).

жаданьня мільёнаў людзей, звязаў нас усіх і разам далучыў да дзержавы Расейскай.

Нельга думаць, каб нам калі-небудзь давялося разыйсціся ў розные бакі і разсяліцца. Нельга думаць, бо Край гэты стаў родным роўна для ўсіх: і для адвечных жыхароў яго – беларусоў і літвіноў, і для «прымакоў» колішніх – палякаў і жыдоў. З гэтай Зямлёй звязана наша мінуўшчына і будучына. На ёй спазналі мы многа гора і бед, і лепшай долі тутака дажджэмся. Але гэтую долю павінны мы здабыць усе разам: мэты у нас тые самые і тые ж перашкоды сустракалі мы на дарозі сваей.

Чаму гібее народ беларускі? Бо цёмны, а дарога для развіцьця сваей культуры для яго зачынена, ды нават у школі заместа прасьветы суляць яму «абрусеньне». Бо бедны, а ўселякая грамадзкая праца дзеля стварэньня экономічнае сілы натыкаецца на паліцэйскі окліч: «Стой! Ані кроку ўпярод!» Бо раздзелен балотамі, лесамі ды абшарамі чужых зямель; бо брата проці брата іншай веры цкуюць яго ворагі; бо ня ведае нават, хто ён... Ці-ж у такіх варунках жыцьцё народу можэ цячы вольна і шырока?!

Тые-ж ненормальные варункі спыняюць развіцьцё літвіноў, прымушаючы іх кожную драбніцу здабываць страшэнне вялікай цаной. Тые-ж варункі спарадзілі ў тутэйшых палякаў нейкі хворы націоналізм, каторы не дае ім бачыць вакол сябе братоў іншых націй, што цяжка змагаюцца «За нашу і вашу волю». І гэтые самые варункі, гэтае-ж безпраўнае палажэньне адрывае ад жыдоўскага народу яго інтэлігенцію, прымушае яе перарабляцца ў расейцоў і аддаваць усе сілы свае на працу дзеля развіцьця расейскай культуры, забываючы аб мільённай грамадзе цёмнаго, галоднаго, загнанаго жыдоўскага «дэмоса», духоўнае багацьце каторага змяшчаецца ў хедэры і сынагозе.

Дзесяткі гадоў жыве наша старонка ненормальным жыцьцём. Гэта рэзультат так званай «окраіннай» палітыкі ўраду, каторы сваей мэтай на «окраінах» паставіў дэнаціоналізацію «інородцоў», у тым ліку й беларусоў. Ня кажучы аб аграніччэньнях правоў кожнай націі па асобку, адмецім, што і экономічнае жыцьцё нашаго краю, ад катораго залежыць доля ўсіх націй, спатыкае тутака страшэнные перашкоды. Аграніччэньня права куплі-прадажы зямлі задзержываюць пераход дворных абшароў да сялян. Колонізація Літвы Беларусі вялікарускімі сялянамі (стараверамі) прымушае лепшые мейсцовые сілы шукаць спосабу да працы ажно за акіанам – у Амерыцы; тут, дома літвін ці беларус, калі ён каталік, [зямлі] дакупіцца ня можэ, ды нават праваслаўным беларусам банк

прадае зямлю тады, калі астаецца лішэк пасьля прывозных расейскіх колоністаў.

Праз дзесяткі гадоў ніхто не рупіўся аб селянскай гаспадарцы, не даваў нашым хлебаробам дапамогі ні навукай, ні грашмі (таннага крэдыту і цяпер німа ў вёсцы), а ўселякія сялянскія хаўрусы – банчкі, крамы хаўрусные і т. п. – зацьверджаюць у нас вельмі неахвотна. У трох губернях Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай, дзе народ найбольш культурны, дагэтуль не заводзяць земства, і ўсім жыцьцём вёскі найчасьцей кіруюць тутака людзі, прысланые с чужой стараны, незнаёмые с тутэйшым жыцьцём, с тутэйшымі патрэбамі. У таргоўлі гэтак сама бачым уселякіе аграніčэньні некаторых націй (права свабодна жыць усюды), а фабрычные промыслы часта-густа не маглі развівацца затым, што ўстаноўлены былі для нашага краю надта невыгодные для нас прывозные тарыфы. Урэшці тут, на нашай зямлі урад ні за што не дазваляе аткрыць універсытэту, без катораго мы ніколі не будзем імець даволі культурных работнікоў, патрэбных для развіцьця краёваго жыцьця.

Усё гэта вельмі цяжка адбіваецца на жыцьці кожнай асобнай націіі, кожнай кляссы, кожнаго стану. Гэткая «аўтаномія in minus» задзержывае ўсестаронняе развіцьцё краю і яго жыхароў. І кожны павінен ведаць, што першая справа, дзеля каторай с чыстым суменьнем могуць і павінны працаваць поруч беларусы і літвіны, палякі, жыды і іншые, гэта – адвярнуць тую «аўтаномію наадварот».

Гэтак бачым, што ўсе тутэйшые націіі звязаны ня толькі тым, што на аднэй зямлі жывуць: нас злучае ў вадну вялікую сямью, у вадно брацтво наша доля-нядоля, нашы беды і жаданьня, наша супольная палітычная думка. С тэй думкі творыцца краёвая програма, павэдлуг каторай усе мы павінны змагацца за шчасьце краю.

Ня ўсе прыстаюць на гэта. У кожнай націіі ёсць людзі, каторым і цяпер жывецца добра, каторые патрапілі накінуць уласьць сваю на шыю тых слабейшых, чым яны, і жывуць іх працай крывавай... У іх своя асобная мэта. Так сама ёсьць людзі, каторые ня хочуць працаваць дзеля нашай старонкі затым, што для іх яна чужая: адны працуюць дзеля Польшчы, другіе шукаюць Бацькоўшчыны ў Палестыне, трэйціх сэрцэ цягне ў Маскву. Тут, у нас яны быццам госьці дачэсные. Яны хаваюць свае сілы, сваю здольнасьць дзеля іншай зямелькі, каторую лічаць сваей бацькоўшчынай. Гэта не грамадзяне нашага краю, а колоністы. Яны заўсёды астануцца для нас чужымі. Для іх краёвая ідэя ня мае ніякай цаны.

Найгоршы вораг краёвай ідэі – гэта <u>нацыяналізм</u>. Нацыяналізм – гэта хворае пачуцьцё сваей нацыянальной асобнасьці. Нацыяналісты ўсё роўна, якой нацыі апрача сваіх, сваей нацыі сьвету ня бачуць. Для іх німа нічога важнаго, цэннаго, калі гэта стварыў чужы народ. У іх вачах вялікія сусьветные ідэалы адыходзяць на другі плян. Жадаючы волі для свайго народу, нацыяналісты ня бачуць, што іншые нацыі гібеюць у няволі, ды самі гатовы цісnуць і зневажаць слабейшую нацыю, калі маюць над ёй уласьць. Здзек і ўціск, кажуць яны, благі тады, калі яго пераносіць іх народ; калі-ж іншы – гэта іх не цікавіць.

Нацыяналісты гавораць павэдлуг асноў этыкі людаедоў: «Калі вораг забіў і з’еў маю жонку – гэта дрэнна; калі-ж я гэтак сама зраблю з жонкай ворага, то будзе добра». Ня дзіва, што і ў нашым краю людзі, якіх захапіў нацыяналістычны шал, ня могуць жыць у згодзі, ня могуць згаварыцца аб супольнай працы дзеля супольнай карысьці ўсяе зямлі нашай. Тутака больш чым дзе-небудзь уселякіх нацыянальных спорак, і ў ненормальных палітычных варунках яны вырастаюць у вялікі пажар нацыянальнаго змаганьня ўсіх з усімі. Нацыяналісты асвячаюць гэтае змаганьне, ставяць яго сваей мэтай. Сьляпые: яны ня хочуць, ці ня могуць зразумець, што карабель, плывучы ў буру па бязмерным акіяні, напэўна пайшоў бы на дно, калі-б кожын матрос думаў аб сабе, забыўшыся аб караблі!

Нацыяналізм дужэ пашырэн у нас. Ён пануе ў польскім грамадзянстве, захапіў багата літвіноў і жыдоў, агарнуў безмала ўсіх тутэйшых расейцаў, асабліваж перарабленых з беларусоў. Ня сягоньня дык заўтра можна спадзявацца, што гэта хвароба не абміне і беларусоў, нясучы з сабой нянавісьць да іншых націй, каторай дагэтуль у нас ні было і німа, кіруючы сілы нашаго народу не на творчэскую дарогу, а на дарогу змаганьня з нашымі братамі, звязанымі з намі гісторыяй краю і супольнай нядоляй. Ад яе павінны мы бараніць наш народ пакуль ня позна, пакуль яна не ўелася ў душу яго.

І ў гэтым змаганьні з нацыяналізмам нам пададуць руку ўсе шчырые дэмакраты іншых націй, каторым і мы павінны, чым мага, памагаць у іх рабоці. Мы павінны цьвёрда памятаць, што ў дэмакратоў усіх націй ёсьць адна супольная дарога, адны ідэалы – агульна-людзкіе ідэалы <u>волі, роўнасьці і брацтва</u>, каторые абыймаюць і ўсе нашые беларускія патрэбы, нясуць і нам вызваленьне. Шчыры дэмократызм, ваюючы за спаўненьне гэтых ідэалоў, роўна бароніць ад здзеку і ўціску беларуса і літвіна, паляка і жыда.

Дэмократызм – гэта жаданьне вызваліць з палітычнага і экономічнага ўціску тую вялікую, многамільённую грамаду народу, што працай сваей корміць усельскі сьвет, а за гэта сама падчас галодна, што сваімі рукамі будуе фундамент для высокай культуры, а сама жыве ў цемнаце, што бароніць дзержавы ад ворагаў, а сама гібее ў безпраўі. Мы, беларусы, гэта йшчэ бадай чыста мужыцкі народ, і німа ў нас дагэтуль станоў і клясс, каторым бы жылося вольна. Мы, беларусы, гэта прыродные дэмократы. І затым-то ў той момэнт, калі ідэалы дэмократызму заваююць сабе пачэснае мейсца ў жыцьці, настане мінута вызваленьня і беларускага народу.

З дэмократамі ўсіх націй мы можэм і павінны ісьці поруч, нага ў нагу: толькі між імі знойдзем мы таварышоў у змаганьні за нашу волю, за нашэ шчасце. На грунці з'еднаньня дэмократычных элементоў усіх тутэйшых націй здолеем мы стварыць вялікую сілу, здолеем вясьці выразную політычную лінію, карысную для ўсяго краю, усіх жыхароў яго.

Гэтак вырысовываецца політычнае становішчэ беларусоў у нашых краёвых справах: становішчэ дэмократычна-краёвае. Яно – і толькі яно адно – дае нам можносьць абмінуць ці хацябы зменшыць, колькі можна, тые національные сваркі, каторые што-болей развіваюцца ў нашай старонцы, марнуючы безкарысна падчас найлепшые сілы народу. Яно пазваляе нам усю творчэскую сілу збудзіўшагося ад векавога сну народу накіраваць да спакойнай культурна-національнай работы, да працы дзеля узмацаваньня нашага грамадзянства, да вызваленьня народу з экономічных путаў, да ўсестароньняго адраджэньня яго.

Вільня, 1/IV 1914 г.

## *A. Łuckiewicz.*<br>*Ekonomičnaja ewolucija i biełaruski ruch* (1917)*

Ugledajučysia ŭ minuŭščynu biełaruskaho narodu, katoraja stanowić adnu z najbolš krepkich padwalin jaho ciapierašniaho adradžeńnia, mimawoli ŭznimajecca pytańnie: čamu ruch da adradženia ŭzniaŭsia hetak pozna? I woś, kab znajści adkaz na heta, my pawinny razhladzieć, što patrebna narodu dziela

* Упершыню дакумент быў апублікаваны ў часопісе "Гістарычны альманах" (2000, том 3, 128–136).

budawańnia jaho kulturna-nacyonalnaho žyćcia i što zadzieržywało i addalało biełarusoŭ ad wialikaho momentu nacyonalnaho ŭwaskrasieńnia.

Pierš za ŭsio my pawinny adznačyć, što sprawa kulturnaho razwićcia naahuł, a tym bolej sprawa razwićcia nacyonalnaj kultury nierazryŭna zwiazana sa sprawaj ekonomičnaho bytu kožnaho narodu. Siła ekonomičnaja, bahaćcie narodu – heta asnowa, na katoraj tolki i može zakrasawać byjnym ćwietam nacyonalnaje kulturnaje tworčestwo, heta warunak, biez katoraho nie može być hutarki ab duchowym wyzwaleńni narodu. I pawodłuch taho, jak razwiwajecca ewolucija ekonomičnaho žyćcia narodaŭ, my bačym jarkije prajawy šyrokaho, mahutnaho nacyonalnaho ruchu.

U historyi narodaŭ Europy asabliwa adznačym hetu asnoŭnuju praŭdu: XIX wiek – wiek rascwietu kapitalistyčnaj haspadarki. Kapitalizm zniščaje na swajej darozi ŭsie pieražytki, katoryje časta byli pryčynaj paniawoleńnia całych plamion i nacyonalnaściej, kapitalizm u swaim pabiednym pachodzi ŭpiarod prynios wyzwaleńnie dla čyślenych nacyonalnaściej, daŭšy im mahčymašć usiestaronnaho i poŭnaho razwićcia ich indywidualnych asobnaściej.

I toj samy XIX wiek, u katorym kapitalizm dajšoŭ swajho rasćwietu, zniščyŭšy staryje formy ekonomičnaj haspadarki i zamiest ich zawioŭšy nowyje ekonomičnyje adnosiny, my śmieła možem nazwać takže wiekam adradženia narodaŭ: jon prynios s saboj adradženie čechoŭ, ukraincoŭ, litwinoŭ, łatyšoŭ, estoŭ i inšych «niedziaržaŭnych» nacyonalnaściej, a ŭ tym liku i adradžeńnie biełarusoŭ. I ŭ kožnym asobnym prypadku my bačym, što zbudziŭšyjesia da nowaho, samabytnaho kulturna-nacyonalnaho žyćcia narody dachodzili nacyonalnaho wyzwaleńnia razam, abo śledam za wyzwaleńniem ekonomičnym i socialnym.

Woś, kab dać adkaz, čamu biełaruski narod prypaźniŭsia, raŭnujučy da druhich, čamu jon adzin z apošnich dałučajecca da siamji kulturnych narodaŭ, my pastarajemsia zhruba narysawać tyje hramadskije i ekonomičnyje warunki, jakije panawali ŭ Biełarusi ŭ XIX stalećci.

Čym byŭ biełaruski narod da zništažeńnia pryhonu ŭ 1861 hodu? Ab hetym świedčać čyślenyje historyčnyje pamiatniki, świedčyć i žywaja pamiać u narodzi: biełaruski sielanin u časach pryhony – to była biezhałosaja žywioła rabočaja, to byŭ rab, katory z dušoj i ciełam byŭ addadzien pad poŭnuju ŭłašć panoŭ – panoŭ, staŭšych dla jaho čužymi, nia tolki, jak ludzi čužoha stanu, ale i nacyonalna čužymi, časta čužymi jak pa jazyku, tak i pa wiery.

U časi panščyny biełarus-chlebarob ad kałyski prywučaŭsia da pakory, da pracy dla čužych, da šanawańnia adno tolki taho, što nasiło na sabie piečatku

«pańskaści». Zanikła ŭ jaho čeławieča świadomaść i pačućcio swajho ja. Zamierli ahulna-ludzkije parywy. Ačarstwieła duša, i tolki ŭ pieśni, ŭ kazcy-lehendzi, ŭ narodnaj apowieści prabiwałasia heta na śmierć zamučenaja duša, žalučysia nudnym śpiewam palam i boram na kryŭdu i hore swajo. Nie było pačućcia čeławiečaho, – jak že mahła naradzicca świadomaść nacyonalnaja? I tolki skasawańnie pańščyny, tolki wyzwaleńnie sielan z adwiečnaho rabstwa adkryło pierad našymi narodnymi masami darohu ŭpiarod – da ahulnaho postupu, pa katoraj narod biełaruski išoŭ praz uwieś dalejšy peryod niščeńnia sladoŭ pryhonu i twareńnia nowych, wolnych asnoŭ hramadskaho žyćcia.

Biełaruś, jak daŭniej, tak i pa siahoniašni dzień stanowić hłaŭnym čynam kraj sielska-haspadarski. I ciaper sielanie-chlebaroby stanowiać 76 % tutejšaho biełaruskaho nasialeńnia, i praca na ralli stanowić dziela bolšaści žycharoŭ kraju jadyny sposab zarobku. Praŭda, tolki 47 % ziamli prynaležać da hetaj bolšaści: 53 % ziamielnych abšaroŭ stanowiać ułasnaść ziemian (pierawažna apalaćenaj šlachty biełaruskaj) i kazny. Woś užo heta pawinno było dawiaści da taho, što, nia hledziačy na dawoli značnyje sielanskije nadzieły ŭ 1861 hadu (ad 3,6 da 6,6 dziesiacin na dušu – pad toj čas, jak u wialikaruskich hubierniach tolki – 2,2–2,9), u apošnije časy ziamli u sielan akazałosia skupa: nadzieły z kožnym nowym pakaleńniem drabilisia hetak, što i biełaruski sielanin cierpić ad małaziamiella. Ale tut hłaŭnaja pryčyna ziamielnaho hoładu kryjecca ŭ nienormalnych ahulnych warunkach žyćcia našaho kraju. Hłaŭny winawajca – heta ekonomičnaja palityka staroha rasiejskaho ŭradu i hłaŭnaho organu jaho – sielanskaho banku, da katoraho naš narod zaŭsiody čuŭ instyktoŭnuju, ale słušnuju nienawiść.

Palityka sielanskaho banku zusim wyrazna kirawałasia da taho, kab umacawać u našaj baćkaŭščynie «russkij element», prawodziačy kołonizyciju kraju wialikaruskimi sielanami (starawierami), katorym bank s umysłu pradawaŭ na lhotnych umowach ziamlu tam, dzie biełarusy jakraz najbolš ciarpieli ad małaziamiella. Hetkuju palityku bank asabliwa enerhična witaŭ, naprykład, u Ašmianskim i Dzisienskim pawietach Wilenskaj huberni, dzie pawodłuh statystyki wydawiectwa wilenskaho hienerał-hubernatarstwa «Wilenskij Wremiennik» (1910 h.) – čysło sielanskich niezaležnych haspadarak, razmiery katorych daloka nie dachodzili troch dziesiacin, stanawiło kala 75 % usiaho čysła sielanskich haspadarstw. A pad toj samy čas, nia hledziačy na naturalny pryrost sielanskaho nasialeńnia, našy chlebaroby nia mieli mahčymaści pašyrać swaje drabiŭšyjesia haspadarki kuplaj ziamli prosta s prywatnych ruk – ad ziemianstwa.

Sprawa ŭ tym, što ŭsie ziemianie – kataliki, katorych rasiejski ŭrad ahułam nazywaŭ «palakami», byli tym že ŭradam pazbaŭleny prawa kuplać ziamlu na ŭłasnaść. Razumiejučy, što ziemla – heta jadynaja asnowa ich bytu i panawańnia ŭ Biełarusi, i majučy peŭnaść, što raz pradaŭšy swaju ziamlu, nazad na jaje wiarnucca bolš nie ŭdascca, «polskije» pany naprużali ŭsie swaje siły, kab udzieržacca pry swaich dwaroch. Ab pradažy imi ziamli sielanam nie mahło być i hutarki, dy hetak hłaŭny zapas ziamli ŭ našym kraju nia moh służyć pradmietam kupli-pradažy, inačej kažučy: «polskije» ziemli pierastali służyć tawaram u šyrokim značeńni hetaho słowa. Zatoje, pa imi astajučysia ŭłasnaściu prywatnych haspadaroŭ, «polskije» ziemli mała-pa-mału pačali papraŭdzi pierechadzić u ruki kredytnych ustanoŭ, pažyčaŭšych na ich hrošy: hasudarstwienaho, šlachockaho i prywatnych ziamielnych bankoŭ. Daŭhi panskich ziamiel dajšli takoj miery, što ŭ niekatorych pawietach nie astawałosia ni adnej wolnej ad bankoŭskaho doŭhu dziesiaciny ziamli (napr. u Mozyrskim paw. Minskaj hub. u 1911 h. założeno było 99, 3 % dwornaj ziamli).

Zdajecca, uziatyje z bankoŭ pad załoh ziamli hrošy, kali-b ich, jak treba, wykarystali, mahli by wyzwać wialiki pierawarot u ekonomičnym žyćci našaho kraju. Na žal, nawat na palapšenie sielskaj haspadarki z hetych sum išła ŭ nas tolki zusim malenkaja častka: rešta prosta *prajedałasia* (тыі далей курсіў аўтара – *A. C.*). Tak, prajedałasia, bo z pryčyny ahulnaho ŭzrostu daražyni žyćcia pry adnačasowaj utracie panami darmowych sielanskich ruk (pryhaniatych) dabrabyt ziemian, naahuł, šmat paciarpieŭ, i dziela paddzieržki žyćcia na daŭniejšaj wyšyni patrebny byli hatowyje hrošy, katoryje i dabywalisia čaściu ad rabunkowaj raspradažy lasoŭ, čaściu pazyčajučy ŭ bankach. Dyk dziela ustrojstwa jakich-kolečy pramyšlenych predpryjemstw, katoryje ŭ hutkim časie wiarnuli by z nawiazkaj usie zatraty, astawałosia wielmi mała…

Nia dziwa, što pry takim pałažeńni krajowaja pramyšlennaść nie mahła dajści wyšejšaho razwićcia. Ale i toje, čaho jana dajšła ad času najwialikšaho ekonomičnaho pierałomu – zništaženia pryhonu, stanowić užo wialiki krok upiarod. Dawoli skazać, što ŭ 1864 hadu usia fabryčna-pramyšlenaja wytworčaść (pawodłuh statystyki Stołpianskaho – «Девять губерній Западно-Рускаго края» – Н. Столпянскаго, С.П.Б. 1866 г.) dachodziła ŭ piaci bełaruskich hub. (biez Smalenskaj) – 10 miljonaŭ rubloŭ, a ŭ pačatku dziewiacisotych hadoŭ wialikšyje fabryki kraju wyrablali tawaroŭ ŭ hod na 80–100 miljonaŭ rubloŭ. Wysokaho razwićcia dajšoŭ tut browarničy promysieł u kancy pieršaho dziesiatku dziewiacisotych hadoŭ: adna Minskaja hub. wyhaniała ŭ hod na 27 000 000 rub. spirtu. Na druhim miejscy stanuŭ wyrab skur; harbarni ŭ apošnije pierad wajnoj hady

dawali tawaru ŭ hod na 11 000 000 rub. Čarodnaje miejsco zaniali krachmalnyje fabryki, patočarni i papierni. Hłaŭny tkacki centr stanawiŭ Biełastok, a Wilno zajmala druhoje ŭ Rasiei (paśla Łodzi) miejsco pawodłuch wyraboŭ pančošarskich (kala 2 000 000 rub. u hod) i pasyłała na rasiejskije rynki massu hatowaj adzieży i obuwi.

Inšyje haliny pramyšlennaści byli ŭ pačatkowym stanie, chacia tut jość hrunt šmat dla jakich promysłoŭ – u tym liku nawat dla cukrawareń. U Minščynie było ŭ 1864 hadu dźwie cukrawarni ŭ katorych pracawało 23 rabotnikoŭ, jany wyrabili za 1863–1864 hod 13 127 pudoŭ cukru na 84 500 rub.

Hetak razwićcie ŭ nas pramyšlenaści, hacia i nia šybkaje zrabiło značny krok upiarod za apošnije 50 h. Dziela jaho my bačym tut usio patrebnaje: pieršaje toje, što Biełaruś – heta pieredatačny punkt miž portami Bałtyckaho mora, zahodniaj hranicaj, Maskoŭskim pramyšlenym rejonam, Pałudniem, Ukrainaj i Polščaj; bahaćcie lasoŭ daje tanny apał i materjał dziela lasnych promysłoŭ; syryje materjały zaŭsiody možna było atrymliwać jak na miejscy, tak i s susiednich krajoŭ pa systemie rek i čyhunak; urešci, tyje-ž reki dajuć tannuju siławuju enerhiju, dyj rabočyje ruki byli tut niedarahije. Adnak, usio heta nie mahło być wykarystano ŭ poŭnaj miery: asnaŭnaja pryčyna – niedastača swabodnych wialikšych kapitałoŭ.

Nia hledziačy na toje što da 1911 hodu Biełaruś była zusim pazbaŭlena ziemskaho samaupraŭleńnia, a paławina kraju nia mieła ziemstw ažno da našych dzion, nia hledziačy na niedastaču jakoj budź hramadzkaj orhanizacii, katoraja baraniła-by interesy sielanskaj haspadarki, apošniaja z ekonomičnaho pahladu takže dajšła była ŭ Biełarusi šmat wyšejšaho razwićcia, čym u wialikaruskich hubierniach. Bo narod biełaruski kryje ŭ sabie wializarnuju duchowuju siłu, katoraja wyjaŭlajecca ŭ tworčaj pracy.

Pawodłuh dośledaŭ p. Aleksandra Ułasowa (staćcia «Biełarussija i Litwa» u knizie «Wsia Rossija» na 1912 hod), ważnuju rol u hetym adyhrali takže ahulnyje warunki: susiedztwo zachodniaj hranicy, miahki, bytcam marski klimat, wyhodnyja darohi – čyhunki i systema rek, urešci – znamienita naładžanaja tarhoŭla, stworenaja tut žydami. U Biełarusi kožnaje z niezwyčajna čyślenych miasteček – heta byŭ zdaŭna rynak zbytu dla ŭsich wiaskowych praduktaŭ; žydoŭskije skupščyki systematyčna abježdžali biełaruskije wioski, kuplajučy ŭsio, što dawała ziamla i što mieło chod u mieści, abo zahranicaj. A pad toj že čas cieraz mieru wialikaja hustata žydoŭskaho miastečkowaho nasialeńnia ŭ «mieżach asiedłaści» (abnimajučy pierš za ŭsio naš kraj), dy lišniaja čyślenaść tarhowych pasrednikoŭ dawiali konkurenciju da takoj miery, što ceny jak sielska-ha-

spadarskich praduktoŭ, tak i tawaroŭ, padwaziŭšychsia z miest, ŭ biełaruskich miastečkach tolki zusim nieznačna rožnilisia ad cen na wialikich rynkach.

Z hetych pryčyn adnosnaja zamožnaść biełaruskaj sielskaj massy, nia hledziačy na niedastaču ziamli i ciažkije ahulna-palityčnyje warunki, uzrastała ad upadku panščyny hutčej, čym u wialikaruskich huberniach. Cikawa, što pad toj čas, jak, naprykład, u Samarskaj hubernii za sialanami wialikarusami ličyłosia niadoimki za pazyki na strawawańnie 29 000 000 rub., a ŭ Waroniežskaj – 12 000 000, u Biełarusi takich niadoimak zusim nima.

Jak razwiwałasia sielskaja haspadarka ad skasawańnia pryhonu, świedčać krasamoŭna, naprykład, dźwie hetkije cyfry: ŭ 1864 hadu (hl. Stołpianskij) ornaj ralli ŭ Wilenskaj huberni było 1 104 735 dziesiacin, a pawodłuh statystyki 1887 hodu (Главнейшія данные поземельной статистыки по обследованію 1887 г. III. XXII, стат. Рос. Имп., изд. 92 – 1901 г.) ŭ tej že huberni było pad uprawaj užo 1 428 761 dzies.

A treba adznačyć, što kłapoty staroha rasiejskaho uradu ab padniaćcie kultury našaho narodu nikoli nie byli lišnie wialikije. Meta «kazionnaj» aswiety – heta było žadańnie pry pomačy škoły abertać biełarusoŭ u maskaloŭ. A jak i tych abrusicielnych škoł było, naahuł, mała, dyk biełarusy byli prymušeny sami dachadzić hramaty. Woś, pa ŭsiej Biełarusi bačym u wioskach patajnyje škoły, katoryje razam z wučycielem i wyčniami – adbywali padarožu z chaty ŭ chatu. Jakuju wahu mieła ŭ našym kraju prywatnaja nawuka hramaty, pakazwajuć cyfry: jany haworać, što paniženńniem čysła niehramatnych kraj naš daloka nie abiazan «kazionnaj» škole, bo ŭ tych miejscach, dzie hramatnaść staić najwyšej, u «kazionnyje» škoły chadziło najmienš dziaciej. Woś hetyje cyfry (uradowaja statystyka 1897 h.):

- u Wilenskaj hub. hramatnych 29,3 %; na 1000 žych. u «kazion.» škoły chadziło 28 dziac.
- u Hrodzienskaj hub. hramatnych 29,1 %; na 1000 žych. u «kazion.» škoły chadziło 44 dzias.
- u Witebskaj hub. hramatnych 24,6 %; na 1000 žych. u «kazion.» škoły chadziło 38 dziac.
- u Minskaj hub. hramatnych 17,7 %; na 1000 žych. u «kazion.» škoły chadziło 38 dziac.
- u Smalenskaj hub. hramatnych 17,2 %; na 1000 žych. u «kazion.» škoły chadziło 53 dziac.
- u Mahiloŭskaj hub. hramatnych 17,0 %; na 1000 žych. u «kazion.» škoły chadziło 52 dziac.

Tut hože prypomnić, što ješče ŭ kancy XIX stalećcia sielanskim dzieciam byŭ zakryt dostup da šmat jakich siarednich škoł, naprykład, u minskuju himnazju «mužyckich synoŭ» pačali prynimać tolki ŭ kancy 80-ch – pačatku 90-ch h. Toje-ž było i ŭ inšych miejscach, dzie ŭ siaredniuju školu, zhodnie z instrukcijami z Pieciarburha, wielmi nieachwotnie prynimali «kucharkinych dziaciej» da supolnaj nawuki z dziaćmi «wyšejšych stanaŭ»…

(«Homan» № 89 ad 6 listapada 1917 h.)

Cyfry ab stanie praświety, jak i wyšej skazanyje dannyje ab ekonomičnym i socyalnym pałažeńni biełaruskaho narodu, dakazwajuć, što biełarusy, nie majučy ni ŭ ekonomičnym, ni ŭ kulturnym žyćci nijakaj padmohi sa starany, rupilisia sami ab swaje sprawy. Wiera ŭ swaje siły – choć spierša tolki potencyalnyje, ukrytyje, prywyčka apiracca na siabie samoha, adhetul – wiera ŭ siabie i świadomaść swajej čeławiečaj hodnaści, swaich hramadzkich i ludzkich prawoŭ – woś pieršyje rezultaty socyalno-ekonomičnaj ewolucii i ŭzrostu nacyonalnaho bahaćcia ŭ Biełarusi za apošnije dziesiatki hadoŭ. Rezultaty hetyje ŭ pačatku dziewiacisotych hadoŭ pačali wyjaŭlacca dawoli zamietna, a poruč z imi my bačym začatak hłybokaj pieramieny ŭ socyalna-nacyonalnych adnosinach u našym kraju.

Da samych niedaŭnych časoŭ u Biełarusi zachawałasia asabliwaja budowa hramadzianstwa: razdzieł na klasy i stany byŭ zusim zwiazan z razdziełam nacyonalnym. Hetak, polski element (pa-praŭdzi, tutejšaja apalačennaja šlachta) abnimaŭ saboj biezmała ŭsio ziemianstwo; u tarhowa-pramyšlenaj sfery pieraważna panawali žydy; rasiejcy stanawili armiju čynoŭnikoŭ i ŭ ziemianskim stanie zanimali niewidočnoje miejsco, urešci, biełarusy – to była wyklučna sielanskaja i rabočaja massa, dachodziŭšaja wializarnaj cyfry 8 miljonaŭ, čaściu – drobnaje mieščanstwo pa miestoch. Hetki ŭkład, samo saboj razumiejecca, złažyŭsia s pryčyny utworanych historyjej asobliwych warunkoŭ krajowaho žyćcia i s pieramienaj hetych warunkoŭ pawinien byŭ sam zmianicca, tym bolej, što swajho lohičnaho kanca hetki klasowa-nacyonalny razdzieł nikoli nie dachodziŭ: praces uzajemnaho pranikańnia paadzinokich klasowych i stanowych hrup, abniatych asobnymi nacyonalnościami, adbywaŭsia, choć i nie tak, jarka, zaŭsiody, adbywajecca siahońnia i z kožnym hodam budzie adbywacca ŭsio bolš intensiŭna. Ale ciaper charakter takoha ŭzajemnaho pranikańnia šmat zmianiŭsia.

Wiadoma, što nie kažučy ŭ hety moment ab žydoch – palaki i maskali ŭ Biełarusi stanawili jadynuju krajowuju intelihienciju. Woś-že lohka zrazumieć,

što biełarusy, stojučy na nižejšaj stupieni razwićcia, lohka padpadali pad upływy polskaj i maskoŭskaj kultury. Praŭda, u hłyb narodu hetyje ŭpływy nie dachodzili; zatoje syny biełaruskaj wioski, katoryje, dachodziačy nawuk u čužoj mowie, padnimalisia na wyšejšuju kulturnuju stupień i papadali ŭ nacyonalna i klasowa čužuju hrupu – choč nia choč pawinny byli žyć supolnym žyćciom s polskaj ci rasiejskaj intelihencijej, prynimać tuju abo druhuju čužackuju kulturu, bo swajej – nacyonalna-biełaruskaj intelihenciji nie było, nie było i biełaruskaho kulturnaho zyćcia. Hetak, *za wyšejšuju kulturu biełarusy płacili ŭtratają ułasnaj nacyonalnaści*.

Ciaper pałažeńnie zmianiłosia: na hrunci socyalna-ekonomičnaj ewolucii, na hrunci adkryŭšahosia pierad sielanskimi dziaćmi šyrejšaho dostupu da praświety, naradziłasia nowaja biełaruskaja narodnaja intelihencija, katoraja, užo nie ŭ adzinočku, a całaj hramadoju ŭstupajučy ŭ wyšejšyja stany i klasy, stanowić pamietnuju siłu, dzieržycca razam, jak adna siemja, *žywie swaim ułasnym biełaruskim žyćciom*. Žyćcio hetaje stanowicca s kožnym dniom paŭniejšym, bahaciejšym i daje duchowuju [swabodu] nia tolki «prostamu» čeławieku, ale i intelihenciji. Biełaruskaja mowa niezwyčajna šybka ŭzbahačywajecca i razwiwajecca, dapasoŭwajučysia da ŭžytku intelihenciji, i literaturnyje twory, hazety, nawukowyje pracy, pisanyje hetaj mowaj pakazwajuć nam jasna, što jana znamienita służy biełarusu dziela wykazwańnia ŭsich adcienkoŭ myśli i čućcia.

Z usiaho, skazanaho nami, jasna wyjaŭlajecca hetki wywad: ad času zništažeńnia pryhonu ekonomičnaja ewolucja pastupowa wytwaryła warunki, pry katorych biełarusy, wyzwalajučysia ad ekonomičnaj i socyalna-praŭnaj zależnaści, atrymali mahčymaść *padumać i ab nacyonalnym adradžeńni,* ab twórčeskaj pracy dziela razwićcia swaje nacyonalnaj kultury. Ale dziela taho, *kab dumki abiarnulisia ŭ dzieło,* mała było adnoj tolki *mahčymaści:* patrebna była *siła*, katoraja zatajonuju ŭ biełaruskim narodzi ad wiakoŭ twórčuju enerhiju abiarnuła-by ŭ žywuju rabotu. Rol takoj twórčaj siły, takoha budziciela adyhraŭ rewalucyjny ruch u Rasiei 1905 hodu.

Nacyonalnaj świadomaści nielha addzialać ad świadomaści prawoŭ čeławieka i hramadztwa; jany hetak ciesna zwiazany ŭ wadno, što kali budzicca adna, jana nieadstupna budzić i druhuju, a ŭ toj że čas, dzie nima świadomaści nacyonalnaj, tam niet miesta i dla čeławiečaj hodnaści. Heta asabliwa jarka wyjawiłasia ŭ biełarusoŭ.

Biełaruskaja nacyonalnaja rabota da 1904 hodu wyjaŭlałasia ŭ tym, što pieršyja siaŭcy biełaruskaj idei staralisia tłumačyć narodu cennaść i wahu jaho «prostaho» jazyka i taho kulturnaho prybytku, katory biełarusy prydbali sa-

mabytnaj pracaj praz niekolki wiakoŭ. «Naša baćkawa spradwiečnaja mowa, – pisaŭ Maciej Buračok u pradmowie da pieršaho wydańnia swajej «Dudki Biełaruskaj», – katoruju my sami, da i nie my adny, a ŭsie ludzi ciomnyje myžyckaj zawuć, a zawiecca jana biełaruskaj, – jość takajaž ludzkaja i panskaja, jak i francuskaja abo niamieckaja, abo inšaja jakaja. Jano dobra, a nawat i treba znać susiedskuju mowu, ale najpierš treba znać swaju».

I hetyja słowy byli dla narodu niečym zusim nowym, niečym niezwyčajnym, niespadziewanym: dahetul da mowy jaho ŭsie adnosilisia s pahardaj i nasmieškami, i ŭ dušy biełaruskaho sielanina naradziŭsia niejki falšywy styd, prymušaŭšy jaho «na ludziach» – publična – wyrekacca rodnaj mowy, usiaho taho, što wydzielało jaho z pamiž inšych ludziej, jak biełarusa. Narod pamału hublaŭ nia tolki nacyonalnuju świadomaść, ale i pačućcio naturalnaj čeławiečaj hordaści. Jon bačyŭ tolki adzin wychad, katory dawaŭ jamu mahčymaść stać *čeławiekam* roŭnym druhim: hety wychad – adračeńnie ad usiaho, čym biełaruski chlebarob rožniŭsia ad pana-palaka i čynoŭnika-rasiejca.

Ale woś knižka ŭ biełaruskaj mowie, žywoje biełaruskaje słowa – wierš, pieśnia – budziać u dušy biełarusa spierša niejasnuju, a paśla ŭsio bolš wyraznuju, ćwiorduju świadomaść, što ŭsio toje «prostaje», «myžyckaje», na što i sam jon prywyk hladzieć s pahardaj, nie takoje ŭžo błahoje dy nikčemnaje, kali «pa-prostu» pačali drukawać knižki i hazety, pačali hawaryć inteliheny miž saboj. Hetak rabota intelihenciji padhatawała hrunt, na katorym pawinny byli ŭzraści i razwinucca idei ab prawoch čeławieka i hramadzianina, apawieščenyje rewolucyjnym rucham. I woś, kali rewolucija na adzin tolki moment zraŭnawała sielan z druhimi stanami, kali da biełarusa pramowili ŭ jaho rodnaj mowie i hołasna, adkryta zahawaryli ab jaho patrebach i jaho biedach, – woś tady ŭ dušy jaho zbudziŭsia duch woli, a ŭ šerych massach pieršy raz naradziłosia pačućcio *nacyonalnaj hordaści* – nacyonalnaja świadomaść.

Dla biełaruskaho ruchu rewolucija 1905 hodu stanowić zwarotny moment: z niasmiełych intelihenckich sprob jon abiertajecca ŭ šyroki, pa-praŭdzi narodny ruch. Massy narodnyje zbudzilisia i sami zahukali ab sabie – zahukali, zusim naturalna, tak, jak hukali ŭ siabie ŭ chaci: pa biełarusku. Na hetym hrunci naradziłasia praŭdziwaja biełaruskaja narodnaja pressa – z nialičenymi piśmami i karespandencijami, pisanymi mazalistaj rukoj biełaruskaho sielanina, rabotnika, ramieśnika. Wystupili na arenu dziesiatki zdolnych paetaŭ, i biez mała ŭsie jany – predstaŭniki siermiažnaho ludu, dzieci mužykoŭ-chlebarobaŭ. Ruch biełaruski wyjšoŭ s-pad apieki hrupy intelihentoŭ: sam narod pryniaŭ učaście ŭ budawańni asnoŭ nowaho žyćcia.

Toje značeńnie, jakoje dziela razwićcia biełaruskaho nacyonalnaho ruchu mieli pieramieny, wyjawiŭšyjesia ŭ ekonomičnym i hramadzkim žyćci našaho kraju, pawinno służyć nam za nawuki i na dalejšy čas: my pawinny zrazumieć, što naš nacyonalny byt, naša budučynia ŭ najwialikšaj miery zaležać ad taho, jak ułožycca našaje ekonomičnaje žyćcio.

Wiadoma, što najlepš može zabiaspiečyć nacyonalnyje prawy swaja ŭłasnaja hasudarstwienaść. Z hetaj pryčyny sučasny palityčny ideał biełaruskaho hramadzianstwa – heta zdabyćcio dla našaj Baćkaŭščyny niezaležnaści. Ale mała wyrezać kusok ziamli, na katoraj žywuć biełarusy, na katoraj panuje biełaruskaja mowa, i abjawić jaho niezaležnym hasudarstwam: treba, kab hasudarstwo hetaje mieła zabiaspiečanyje asnowy ekonomičnaho razwićcia, ekonomičnaj niezaležnaści. Na hetym hrunci i staić biełaruskaja demokracija, katoraja haworyć ab budowie nowaj niezaležnaj dziaržawy ŭ miežach kolišniaho niezaležnaho Wialikaho Kniaźstwa Litoŭskaho, katoraje swoj byt, swaju orhanizaciju asnowywało na jednaści i nierazdzielnaści ekonomičnych interesoŭ biełaruskich i litoŭskich ziamiel.

Z hetahož wypływaje i naša žadańnie, kab naša wolnaja i niezaležnaja Baćkaŭščyna žyła ŭ najciaśniejšaj jednaści z Kurlandzijej, praz katoruju naša Dźwina ŭliwajecca ŭ more, na ŭzbiarežžy katoraj znachodziacca ŭsie tarhowyje porty: Libawa, Windawa, Ryha, zwiazanyje z našym krajem systemaj čyhunak i adkrywajučyje našaj tarhoŭli wolny wychad na ŭwieś świet. Z hetaho-ž pawinna wypływać i naša šyrejšaja palityčnaja orjentacija, naš adkaz na pytańnie: na ŭschod, čy na zachod zwiertać pawinny my swaje wočy? Bo adkaz tut jasny: naša orjentacija – na tym baku, za kim mir umacuje panawańnie nad Kurlandzkim uzbiarežžam Bałtyckaho mora, kamu Eŭropa addaść klučy ad wolnaho mora i našych portaŭ.

Chaj hałowy haračyja dumajuć, što adno hutarkaj u rodnaj mowie, adno wieraj u nacyonalny ideał jany zbudujuć budučaje ščaście dla swajho narodu. Ale palityki – ćwiarozyje palityki s chałodnym, razważliwym rozumam powinny pad budučuju nacyonalnuju budoŭlu padwiaści krepkije fundamenty, hetyje fundamenty i stanowiać zabaspiečeńnie materjalnaho dabrabutu dziela našaho narodu i kraju, zabaspiečeńnie jamu mahčymaści ekonomičnaho raśćwietu!

(«Homan» № 90 ad 9 listapada 1917 h.)

# КАЗІМІР ШАФНАГЕЛЬ І ЯГОНЫ ЗВАРОТ «ДА НАШАЙ КРАЁВАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ»*

У лістападзе 1917 г. у некалькіх нумарах віленскага «Гомана» («Homana») быў надрукаваны зварот «Да нашай краёвай інтэлігенцыі». Аўтар заклікаў «вярхушку» мясцовай польскай грамадскасці ўспомніць пра ўласнае беларускае паходжанне і далучыцца да беларускага нацыянальнага руху, каб паспрыяць будаўніцтву беларускай (беларуска-літоўскай) дзяржаўнасці *(«гасударственасьці»)*. У публікацыі сцвярджалася, што дзяржавастваральная праца пад сцягам Пагоні разам з беларускім народам дасць беларускім палякам «*аснову быту*» і забяспечыць «*благаслаўленьне патомных пакаленьняў*». Аўтарам звароту быў зямянін з Ашмянскага павету Казімір Шафнагель.

Пра аўтара вядома няшмат. Тэкст трэцяй часткі ягонага звароту дазваляе сцвярджаць, што шляхецкі род Шафнаглей паходзіў з Валыні, аднак *«быў звязаны чысьленнымі вузламі крыві з польскай шляхтай з Беларусі»*. Сам аўтар выхоўваўся на беларускай зямлі і на момант публікацыі звароту меў не менш за 50 гадоў. Таксама можна сцвярджаць факт ідэйнай прыналежнасці Казіміра Шафнагля да краёўцаў.

Варта нагадаць, што краёўцы выступалі за ўтварэнне «нацыі ліцвінаў» як палітычнай (грамадзянскай) нацыі. Галоўным крытэрыем прыналежнасці да яе было пачуццё краёвага грамадзянства. Моўныя, культурныя, канфесійныя, сацыяльныя ды інш. адрозненні адыгрывалі другарадную ролю. «Нацыя ліцвінаў» трактавалася як шматэтнічная палітычная супольнасць. Краёўцы былі адкрытыя да супрацоўніцтва з беларускім і літоўскім рухамі, імкнуліся да міжэтнічнага паразумення.

Трэба дадаць, што краёвая плынь дамінавала ў польскім руху на беларускіх і літоўскіх землях да 1916–1917 г. Пазней, калі ў гэтым руху на пярэдні план выйшла нацыянальная ідэя, найважнейшай складовай якой была барацьба за ўтварэнне польскай дзяржавы, краёўцы пачалі далучацца

---

* Упершыню дакумент быў апублікаваны ў часопісе «Спадчына» (2002, № 4, с. 54–64). У гэтай публікацыі папраўленая прадмова.

да асобных нацыянальных (этнакультурных) рухаў. Большасць зрабіла свой выбар на карысць польскага руху. Адзінкі, сярод якіх быў і аўтар звароту, падтрымалі беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне.

На момант публікацыі звароту Казімір Шафнагель жыў у Вільні і ў Кушлянах, дзе апошнія два гады свайго жыцця правёў Францішак Багушэвіч. Таксама вядома з архіўных дакументаў, што Казімір Шафнагель з 1906 г. уваходзіў у Таварыства сяброў навукі[1]. Ён займаўся навуковымі даследаваннямі ў галіне брыялогіі. У прыватнасці, вывучаў мох. Адначасова разам з Іванам Луцкевічам, Людвікам Абрамовічам, Аўгусцінасам Янулайцісам ды інш. уваходзіў у археалагічную секцыю. Ён даволі актыўна працаваў у Таварыстве, і ў маі 1910 г. быў абраны ганаровым сябрам *«за навуковыя працы і дапамогу, аказаную Таварыству»*.

Казімір Шафнагель не эвакуіраваўся на ўсход падчас «свенцянскага прарыва» нямецкіх войскаў. Спіс сяброў віленскага Шляхецкага клубу ад 11 снежня 1915 г. засведчыў ягоную прысутнасць у сталіцы «гістарычнай Літвы»[2].

Да беларускага Адраджэння К. Шафнагель далучыўся хутчэй за ўсё на пачатку восені 1917 г. Верагодна, на гэты выбар паўплывала абвастрэнне палітычнай барацьбы, у якой вызначалася будучыня Беларуска-Літоўскага краю. З 18 па 23 верасня 1917 г. у Вільне адбылася Літоўская канферэнцыя, рашэнні якой яшчэ раз прадэманстравалі імкненне кіраўнікоў літоўскага руху да ўтварэння незалежнай літоўскай нацыянальнай дзяржавы. Пры гэтым яе тэрытарыяльнай асновай павінна была стаць г. зв. «этнаграфічная Літва», да якой далучаліся землі, населеныя пераважна палякамі і беларусамі каталіцкага веравызнання. Сталіцай гэтай новай Літвы станавілася Вільня.

Створаная на канферэнцыі Літоўская Рада (Тарыба) на чале з Антанасам Смятонам прэтэндавала на тое, каб быць адзіным прадстаўніком Краю ў адносінах з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Такім чынам, краёвая ідэя цярпела крах, а «гістарычнай Літве», за адзінства якой актыўна выступала частка мясцовай польскай грамадскасці і дзеячы беларускага руху, пагражаў тэрытарыяльны падзел.

Беларускія і польскія арганізацыі пратэставалі. Яны звярнуліся да нямецкіх уладаў з заклікам не прызнаваць Літоўскай Рады. У выніку дэмаршу акупацыйнымі ўладамі было прынятае рашэнне пра ўключэнне ў склад Тарыбы прадстаўнікоў беларускіх і польскіх арганізацый, з тым каб усе гэтыя народы мелі роўнае прадстаўніцтва.

Трэба адзначыць, што ў склад Тарыбы ўваходзіў 21 літоўскі палітык. Беларусы адразу ж сутыкнуліся з праблемай падбору кадраў, годных быць прадстаўленымі ў сумеснай Радзе. Падобна на тое, што кіраўнікі беларускага руху распачалі перамовы з тымі прадстаўнікамі віленскай польскай грамадскасці, якія падзялялі краёвую ідэалогію і з прыхільнасцю ставіліся да беларускага Адраджэння. Цалкам верагодна, што Казімір Шафнагель зацікавіўся прапановай уваходу ў гэты «агульналітоўскі ўрад» у якасці беларускага прадстаўніка. Наступствам ягонага рашэння стала публікацыя звароту «Да нашай краёвай інтэлігенцыі» на старонках «Гомана» ўвосень 1917 г.

Зварот быў надрукаваны ў № 86 ад 28 кастрычніка і № 87 ад 30 кастрычніка. Адначасова ён быў выдадзены асобнай брашурай на польскай мове. Казімір Шафнагель сцвярджаў, што беларускі народ атрымаў рэальны шанс пабудовы ўласнай дзяржавы, аднак без дапамогі інтэлігенцыі ён не будзе выкарыстаны. На думку аўтара, далучэнне да беларускага руху – гэта абавязак мясцовай *«спольшчанай інтэлігенцыі»* перад Краем і *«перад народам, с каторага вы выйшлі і сярод каторага жывёце, народам, каторы ёсць, жыве і клічэ вам: «памажыце!»*.

Публікацыя працягу звароту ў № 90 ад 9 лістапада 1917 г. і № 91 ад 13 лістапада 1917 г. «Гомана» хутчэй за ўсё была выклікана даволі крытычным стаўленнем большасці мясцовай *«спольшчанай інтэлігенцыі»* да многіх тэзісаў звароту Казіміра Шафнагля.

Аналіз пазнейшай часткі тэксту дазваляе казаць пра адносіны гэтай большасці да краёвай ідэі і да беларускага руху напрыканцы 1917 – на пачатку 1918 г. Відавочна, што значная частка беларускіх і літоўскіх палякаў не прызнавала самабытнасці беларускай мовы, баялася, што актывізацыя беларускага руху можа прывесці да абвастрэння польска-беларускіх адносінаў і, нарэшце, глядзела на беларускія і літоўскія земля як на «гістарычную Польшчу».

Мясцовая польская грамадскасць паступова ўцягвалася ў працэс фармавання сучаснай польскай нацыі. У перыяд 1917–1918 гг. ужо не краёвая ідэя, а польская нацыянальная ідэалогія ў варыянце Юзафа Пілсудскага ці Рамана Дмоўскага вызначала яе стаўленне да сучаснага становішча і будучыні «гістарычнай Літвы».

Настроі большасці мясцовай польскай грамадскасці і яе стаўленне да звароту Казіміра Шафнагля добра перадаюць запісы Дзённіка вядомага віленскага прадпрымальніка і грамадскага дзеяча Аляксандра Шкленніка[3].

Аўтар Дзённіка даволі крытычна і іранічна ацэньваў намаганні Казіміра Шафнагля. У прыватнасці, ён тлумачыў ператварэнне «паляка» К. Шафнагля ў беларускага дзеяча выключна кар'ернымі меркаваннямі. Тут варта заўважыць, што наўрадці «кар'ерыст» быў бы здольны напісаць такі ўсхваляваны зварот, наскрозь прасякнуты беларускім (беларуска-літоўскім) патрыятызмам.

У той жа час запісы Аляксандра Шкленніка сведчаць пра вельмі актыўную дзейнасць зямяніна з Кушлянаў. Казімір Шафнагель не абмежаваўся публікацыяй. Польскамоўную версію свайго звароту ён рассылаў па пошце вядомым прадстаўнікам віленскай інтэлігенцыі, асабіста размаўляў з людзьмі, якія падзялялі краёвую ідэю, і прапанаваў далучацца да беларускага руху. Аднак у лепшым выпадку суразмоўцы абяцалі толькі падтрымку беларускіх намаганняў (у прыватнасці, пра гэта заявіў інжынер Ярэмія Лукасевіч). Пазіцыю К. Шафнагля цалкам прыняў Вінцэнт Святаполк-Мірскі, які таксама падвергся пэўнаму астракізму з боку «вярхушкі» мясцовай польскай грамадскасці.

Казімір Шафнагель і Вінцэнт Святаполк-Мірскі ўвайшлі ў арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенню «*агульнабеларускай нацыянальнай канферэнцыі з усіх акупаваных земляў*» («Гоман» № 91 ад 13 лістапада 1917 г.)

Канферэнцыя адбылася ў студзені 1918 г. і спрыяла кансалідацыі беларускіх арганізацый, якія дзейнічалі на акупаваных германскім войскам тэрыторыях. Выніковая рэзалюцыя Віленскай канферэнцыі выказвала пажаданне, каб «*акупаваныя літоўска-беларускія землі ўтваралі незалежную самастойную дэмакратычную дзяржаву, якая б складалася з двух аўтаномных нацыянальна-культурных адзінак – беларускай і літоўскай у цеснай сувязі з Курляндыяй*»[4]. Ажыццяўленне гэтага патрабавання звязвалася з Устаноўчым сходам у Вільне, абраным на падставе усеагульных, роўных, тайных, непасрэдных і прапарцыянальных выбараў у нацыянальных курыях.

Далейшы лёс Казіміра Шафнагля пакуль невядомы. Падобна, што ў другой палове 1918 г. ён адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці ў беларускім руху.

Тэкст звароту друкуецца ў адпаведнасці з арыгіналам. Папраўленыя толькі відавочныя памылкі друку. Як вядома, «Гоман» («Homan») выдаваўся адначасова на двух шрыфтах – беларускай лацінкай і «грамадзянкай». На жаль, не атрымалася знайсці асобнікі «Гоману» з тэкстам звароту, якія

былі выдадзены адным шрыфтом. У выніку частка тэксту звароту (№№ 86 і 90) публікуецца лацінкай, а іншая частка (№№ 87 і 91) – кірыліцай або «грамадзянкай».

## *Da našaj krajowaj intelihencii (Adkrytaje piśmo)*

Piśmo hetaje prysłano nam wiadomym predstaŭnikom wialikšych ziemleŭłasnikoŭ, p. Kazimiram Šafnaglem z Kušlan, Ašmianskaho paw., katory ŭsio swajo žyćcio stajaŭ na ščyra krajowym stanowiščy, jak syn ziamli Biełaruskaj, a ciapier, kali nastaŭ moment dziela čynnaho wystupleńnia biełaruskaho narodu, prystupiŭ da biełaruskaj nacyonalnaj raboty, jak biełarus.

Piśmo hetaje maje wyjšci ŭ asobnaj adbitce takže i ŭ polskim pierekładzie.

Redakcija

Pryjšoŭ moment jadyny, moment asabliwy, moment, katory moʼ ŭžo ŭ historyi nie paŭtorycca bolš dla niešcaśliwaho, pazbaulenaho swajej dziaržaŭnaści, pakinutaho swaimi natyralnymi kirownikami – swaim duhawienstwam i swajej swieckaj intelihencijej biełaruskaho narodu. Hety narod biełaruski pryzwan ciaper sam pastanawić ab sabie, ab swajej budučynie, pryzwan pakazać, što jon jość i padać hołas, što jon žywie, wyskazać swaje palityčnyje i nacyonalnyje žadańnia.

Ale jaki-ž strašenny trahizm! Hety narod biełaruski, katory, jak i kožyn inšy narod, pawinien składacca z niekolkich hramadzianskich słajoŭ: narodnaj massy – sielanstwa i rabotnikaŭ, dy s klas mienš čyślenych, ale ekonomična i kulturna silnych i nacyonalna świadomych, značyć: ziemian, mieščanstwa i predstaŭnikoŭ wolnych prafesij, hety narod biełaruski składajecca ciaper tolki z čyślenaj, ale ciomnaj, niehramatnaj, nacyonalna nieświadomaj sielanskaj i rabotnickaj massy, bałamučenaj pa siahońniašni dzień panujučymi nad jej palityčna, ekonomična i kulturna nacyonalnaściami. Bo hety narod biełaruski – to sirata, biedny, ciomny, biezzaščytny, sirata, pakinuty swaimi naturalnymi ajcami i apiakunami – swajej intelihencijej.

I woś, kali nalacieła strašennaja historyčnaja nawalnica, kali prahawitość susiedzioŭ ščeryć zuby, kab prahłynuć i ścierci da zwańnia z abličča ziamli narod biełaruski, kali razam z tym, dziakujučy ščaśliwamu hodu zdareńnioŭ, hetamu narodu zaświaciŭsia, praŭda, słaby ješče pramień nadziei na nacyonalnoje i palityčnaje adradžeńnie, u hetki stanoŭčy zwarotny moment toj narod – sirata staić

woś biezzaščytny, bytcym smačnaja pažywa dla kožnaho, chto zahoče praciahnuć pa jaho ruku, kab jaho zniščyć, denacyonalizawać, prahłynuć!

Hdzie-ž zaprapała taja naturalnaja apiakunka i kiraŭnička kožnaha narodu – jaho intelihencija? Jakim dziŭnym, trahičnym zdareńniem astałosia ad narodu hetaho tolki tuławo, hdzie padziełasia haława jaho?

Ach, bo intelihencija hetaho narodu niekali za sorak siarebrenikoŭ (šlachockije prywilei – paddanstwo sielan) adrakłasia jaho, zdradziła swoj ulasny narod, pryswoiŭšy čužuju dla jaho mowu, kulturu i palityčny ideał. Biełaruski narod i stausia hetak siratoj, bo jaho intelihencija, jaho wyšejšyje, abiespiečenyje kłasy denacyonalizawalisia, spolščylisia, stalisia čužymi tej massie narodnaj, s katoraj wyšli, čužymi tej ziamli, z jakoj ad wiakoŭ ciahnuli žyćciowyje soki.

Razpačaŭšyjsia razdzieł wyzywaŭ usio wialikšyje rezultaty, pahłyblauŭšyje ŭsio bolej propaść miž narodam biełaruskim i jaho apalačenaj intelihencijej, bo biełaruskaja massa, pazbaulenaja swaich ułasnych nacyonalnych, kulturnych słajoŭ, astałasia na pačatkowaj stupieni razwićcia sa swaim «prostym» – jak u pakornaści swajej nazywaje – jazykom, sa swajej nacyonalnaj nieświadomaściu, katoraja wyjaŭlajecca, naprykład u tym, što biełarus nia wiedaje, chto jon papraŭdzi jość, i na pytańnie ab heta, kali katalik, kaže: «polski», a kali prawasłaŭny – «ruski», nie majučy mahčymaści razpaznać hetych dwuch asnaŭnych paniaćcioŭ – wiera i nacyonalnaść, bo ŭtraciŭ nawat žadańnie mieć swaju ŭłasnuju hasudarstwienaść i nacyonalnuju samabytnaść.

Intelihencija biełaruskaho narodu – jaho «abywateli», duchawienstwo i mieščanstwo, pryswoiŭšy sabie čužuju, ale bahatuju polskuju kulturu z jaje pyšnymi zdabytkami, tradycijami, litaraturaj i ideałami, katoryje zichaciać tysiačami koleroŭ, wabiučy wočy, dušu i serce, i ŭłažyŭšy ŭ skarbnicu hetaj čužoj kultury bahatyje ŭłasnyje zdabytki, pakłaŭšy na žertwienny ałtar polščyny najwyšejšyje prajawy swajho nacyonalnaho gienija (Mickiewič, Kondratowič, Kościuško, Ožeškowa, Moniuško, Sienkiewič i t. p.), daŭšy polskamu narodu papraŭdzi lwinuju čaść taho, čym palaki pyšajucca jak swaim najwialikšym i najharašejšym bahaćciem, hetaja apalačenaja biełaruskaja intelihencija ciapier z pahardaj pahledaje na narod, s katoraha sama wyjšła, zusim, jak toj mužyk, katory dajšoŭ bahaćcia, pabudawaŭ na mijescy baćkawaj chacinki pałac, apranuŭsia ŭ bahatyje šaty, nabraŭsia «panskich» manier i saromicca swajho sielanskaho rodu, s pahardaj hladzić na tych biednych bratoŭ swaich, katoryje ŭ mužyckaj chaci astalisia, dy ješče horš i strašniej: užo ich za bratoŭ nia licyć, wyrekajecca ich i supolnaho z imi pachodženia...

A ty, panie, katory ad dziadoŭ-pradziadoŭ žywieš tut, u Biełarusi, maješ biełaruskaje imia, abo choć i polskaje, ci spolščenaje, dyk usio roŭna čyślenymi

wuzłami zwiazan s tutejšym narodam i z hetaj ziamlicy rodnaj, z hetaho kraju takoha blizkaho, z jaho paloŭ, później, lasoŭ i pawietra swaje soki žyćciowyje ciahnieš, ty, panie, katory ad dziadoŭ-pradziadoŭ żywieš w najbliżejšym susiedstwie z hetym narodam i z pracy jaho zdabywaješ swajo bahaćcie, ty, da katoraho lud hety hetak ščyra, hetak miła, pa synoŭsku pieščatliwa pramaŭlaje: panok, panočak, bytcym mimawoli šukajučy ŭ «panu» apiakuna, ajca, ty, panie, na pytańnie, chto ty taki? – adkazwaješ: «Ja? Ja – palak!» Tak, horda, pyšna, świadoma: palak! Kryj Bože, nie biełarus: «fe, heta wychodzić tak pa-chamsku, tak kompromituje, tak niazhodliwa z maimi tradycijami, ideałami i minuŭščynaj!»

Woś, u čym trahizm pałažeńnia: biełaruski narod, praŭda, maje swaju intelihenciju, dy jana – polskaja!

Dwa asobnyja świety, dźwie mowy, dźwie tradycii, dwa świetapahlady, dźwie orjentacii!

A trahizm pałažeńnia ŭzwialičywajecca jašče tym, što i miejscowaje duchawienstwa, radziŭšajasia ŭ hetym kraju, časta wyjšaŭšaje biezpasredna z biełaruskaj massy abo sa spolščenaj šlachty biełaruskaj, častka z čysta biełaruskim imieniem, čurajecca hetaho narodu. Na pytańnie: chto ty? – ksiondz adkazwaje: Ja čuju siabie palakam...

I woś biedny sielanin biełaruski ani ŭ swaim «panku», ani ŭ ksiandzu nie bačyć užo brata. Pan i ksiondz pramaŭlajuć da jaho nie jaho rodnaj «prostaj» mowaj, a jazykom «panskim», kulturnym, jazykom polskim. Pan i ksiondz ličać, što ich najświaciejšaja nacyonalnaja pawinnaść – apalačyć biełarusa-mužyka praz kaścioł, praz škołu, a kali-b udałosia – dyk praz sud, praz uradowyje ŭstawy, a ŭ kancu, jak najwyšejšy ideał, praz dzieržaŭnaść... polskuju!

Čym že wy, apalačenyje biełarusy, lepšyje za pahardžanych wami hakatystoŭ i abrusicielioŭ? Adumajciesia! Čy nie ŭ sto razoŭ horšy wy ad ich, čy nie zasłuhoŭwajecie na imia adstupnikoŭ swajho narodu?! Bo kali hakatysty i abrusicieli prychodziać majučy ŭłaść z čužoj ziamli dziela denacyonalizacii taho abo inšaha narodu, dyk jany za heta prynosiać jamu dostup da wializarnych karyściej, katoryje denacyonalizawanym daje prynaležnaść da palityčna ci kulturna mahutnych dziaržaŭnych arhanizmoŭ. A wy apalačenyje biełarusy, wy adstupniki ŭ rodnym kraju, dzie wy ŭzhadawalisia, dzie žywicio, adstupniki, bo chočecie pazbawić narod swoj jaho nacyonalnaści, chočecie nawiazać jamu čužuju hasydarstwienaść zamiest pamahčy jamu stwaryć swaju ŭłasnuju, nakinuć jamu čužuju mowu, katoraja stałasia dla was radzimaj...

(«Homan» № 86. 28 kastryčnika 1917 h.)

*Працяг*

Ядыная ў цяперашні момэнт задача адраджаючайся Літвы і Беларусі – гэта выкарыстаць уклад палітычных варункоў, ды ўзяцца за адбудову свайго дому, сваёй гасударственасьці. Літвіны ўжо пачалі гэту работу, знаходзячыся ў тым шчасьлівым палажэньні, што ўжо раней ня гледзячы на апалячэньне сваёй інтэлігенціі і нават супроць яе, стварылі хоць нячысьленны гурток сваёй нацыональнай інтэлігенціі, ды пры гэтым важную з нацыональнаго пагляду, хоць і лішне захватную ролю адыграло літоўскае духавенство.

Беларусы знаходзяцца ў горшым палажэньні, як я сказаў на пачатку, у палажэньні трагічным. Народ беларускі ў асобе сваёй нацыональнай інтэлігенціі прадстаўлен горача мілуючай сваю справу, але нячысьленай групай людзей, а большасьць яго радзімай інтэлігенціі – спольшчэные «паны» і духавенство – выступае, як заядлы вораг яго, цікуючы на кожную праяву беларускай сьвядомасьці, скуль бы яна ні выявілася – зверху, ці знізу, каб зніштожыць яе ў самым зачатку.

Запраўды, трагічнае палажэньне гэтаго народу-сіраты ў момэнт, калі доля ўсьміхнулася яму, у момэнт, калі мае магчымасць вярнуць утрачэные прад вякамі прырожанае правы: маліцца Богу ў матчынай мове, вучыцца ў тэй-жа роднай мове ў школі, калі перад ім адкрываецца пэрспэктыва адбудовы загубленай некалісь нацыональнай гасударственасьці. Каб здабыць усё гэта, яму трэба інтэлігентных сіл, каторых мае гэтак мала: нявыкарыстаны момэнт можэ ўжо ніколі не вярнуцца. Народу беларускаму трэба, каб яго асьвядомілі, каб адкрылі яму вочы на вялікую праўду, каторая стаіць побач яго, ды ён яе не бачыць, на тую праўду, што народ гэты – то народ беларускі, а ня польскі, ці маскоўскі, што, як і кожын іншы народ, ён мае свой радзімы язык, каторы быў прад вякамі языком гасударственным, мае права на самаазначэньне, на стварэньне ўласнай самабытнай дзержаўнасьці, што на гэта прыйшоў час, каторы трэба выкарыстаць, бо іначэй ён можэ мінуцца безпаваротна.

Хто-ж скажэ яму гэтые вялікіе праўды, хто разбудзіць гэты народ і прызаве да дзела?

Апалячэная беларуская інтэлігенція! Паны «тутэйшыя палякі» – ксяндзы і земяне! Няўжо-ж ваша грамадзянскае сумленьне нічога вам не гаворыць? Няўжо-ж не задрыжыць у спольшчэных сэрцах вашых праўдзівы патрыотызм не прыбраны ў пазычаныя пёры, але спакон вякоў

краёвы, нацыянальны і народны беларускі? Чы гэта зямелька родная са сваімі сумнымі абразамі, сваім вазёрамі, лясамі і гарыстымі палямі да вас не прамовіць, чы голасу гэтаго збожнага народу, што вас «панкамі даражэнькімі» называе, вуха вашэ не пачуе, чы яго праўдзівых патрэб, каторых ён сам ешчэ не разумее, ваша душа не адчуе, а калі адчуе, дык чы не загаворыць у вас грамадзянскае сумленьне і чы не дасьць яго вам цьвёрдаго наказу ўзяць той-час на свае плечы работу дзеля адраджэньня гэтаго люду-нацыі, да катораго так чы сяк самі вы прыналежыце?

Або мо' трываючы ў старым засьляпленьні і далей будзеце ў адносінах да руху беларускага занімаць варожае становішчэ, а калі і не яўна варожае, дык раўнадушнае, пасыўнае, дарэмна спадзяючыся, што самай толькі гэтай раўнадушнасьцю, самай пасыўнасьцю засудзіце гэты рух на зніштажэньне, прынамсі дачэснае?

Не ашуквайце сябе: гэты рух, разьвіцьце беларускай сьвядомасьці прыйдзе само сабой, абніме шырокіе массы, станецца магутнай сілай, каторая грозна і гнеўна спытаецца вас: «Што вы, нашы старшыя браты, нашы духовыя айцы, нашы натуральные апякуны і кіраўнікі, учынілі для нас у той час, у той момэнт асаблівы? Чаму не сталі з намі поплеч, чаму, не прызнаўшыся шчыра і адкрыта, што вы сыны Беларускай зямлі, або беларусы, ужываючыя, польскай мовы, і гэтак фальшуючы запрўднае палажэньне, аб'явілі сябе за палякаў, не памаглі нам адбудаваць наш уласны дом, нашу родную дзержаўнасьць?» Так, дэмос той прыйдзе да вас і спытаецца вас гэтак і скажэ свой справядлівы прыгавор вам!

Дык, пакуль час, апамятайцеся! Ніхай споўніцца ў вас унутраная перамена! Змяніце сваю, так сказаць, зверхную ор'ентацію на ўнутрэную, краёвую! Ніхай замест белага арла на вашым штандары заз'яе пагоня, як некаліс на штандарах вашых дзядоў! Падайце руку народу, каторы вымагае і мае права вымагаць ад вас гэтай ахвяры, і памажыце яму збудаваць яго і вашу будучыну!

Гэтак вы толькі споўніце сваю павіннасць перад краем, каторы дае вам усё.

Кажэце: «Мы тут не колоністы і не хочэмо быць колоністамі; мы, палякі, тут – дома, мы – гаспадары ў гэтым краю і маемо права аб долі яго і аб сабе, як такіх, судзіць».

Адкажэм вам: маеце права гэтулькі, паскольку прызнаеце нашу літоўска-беларускую гасударственасць. Але я ведаю, да чаго вы кіруецеся: вы хочэце тут, у гэтым нешчаслівым нашым краю, раздзіраным нялічэнымі

праціўнасьцямі, зрабіць ешчэ адну крывавую рану – утварыць польскі ольстэр, супроць беларускага характера гэтаго краю выстаўляючы ваш «уласны» нацыональны характэр; мэта ваша – стварыць гасударство ў гасударстве з усемі яго прыналежнасьцямі, с сецьцю шчупальцоў, раскінутай па ўсім краю дзеля высасываньня яго нацыональных асобнасьцей, дзеля дэнацыоналізацііі. Раз стануўшы на фальшывым процікраёвым становішчы, вы топчацеся ў зачарованым коле, шукаючы выхаду, каторы вось перад вамі шырока адчынен; а гэта ёсць: прызнаньне сябе за грамадзян Беларускаго краю і прыняцьце ўсіх выплываючых з гэтаго далейшых консэквэнцій і абавязкоў, каторые ўскладае на вас такое прызнаньне.

С прычыны таго, што будучая беларуска-літоўская гасударственасць, само сабой разумеецца, будзе апірацца на дэмократычных і лібэральных асновах, нацыональные і культурные правы ўсіх іншых нацыональнасцей гэтаго краю, як трэба, забяспечэны, аднак, с тэй умовай, што яны прызнаюць ядыную гасударственасць – літоўска-беларускую. Бо німа даўнасьці для правоў народу, і гасударственасць, трываўшая цэлыя сталецьця пад іменем Беларуска-Літоўскай дзержавы і загубленая сто лет таму назад, мусіць быць вернена паўстаўшым да новага жыцьця беларусам і літвіном, адвечным гаспадарам гэтаго краю, яго жывым массам народным. Гэтыя массы маюць права самі пастанавіць аб сабе, быць панамі на сваёй зямлі, і ўсё іншае павінно падчыніцца гэтай магутнай волі масс – большасьці.

Дык вось для вас, паны «палякі» ёсьць толькі два выхады: або прызнаць сябе за грамадзян гэтаго краю, за сыноў гэтай зямлі і стануць у адзін рад з народам, між каторым жывецё, або прызнаць сябе за асобную нацыональнасць, чужую для гэтых мас, нават варожую для іх, бо з захватнымі апетытамі, нязгодную ўступіць захопленых становішч, заздросна пілнуючую свайго «стану ўладаньня».

Перад вамі, паны «палякі», дзьве дарогі. У гэта асаблівы момэнт вы апынуліся на розстані і маеце на выбар адно, ці другое. Найбліжэйшая будучына пакажэ, што ў вас прамовіць ямчэй: грамадзянскае сумленьне, пачуццё абавязку перад народам, с каторага вы выйшлі і сярод каторага жывёце, народам, каторы ёсць, жыве і клічэ вам: «памажыце!», чы мо’ ваша дэзор’ентацыя нацыональная і палітычная, фальшывае нацыональнае становішчэ, жаданьне захватоў. І або вы пойдзеце поплеч з людам нашым, як яго старшые браты, прыяцелі і бацькі, і, падаўшы яму руку, паможаце яму выйсьці на дзеннае сьвятло – да таго сонца самабытнасьці, на каторае

мае права кожын народ, хоць бы цэлые сталецьця прабываў у цемры, забыцьці і занедбаньні, або ў змучэных радох выступіце, як ворагі яго права на самазначэньне, на будову ўласнай гасударственасьці, усюды і заўсёды нішчучы работу яго.

Прабіла гісторычная гадзіна, каторая выявіць вашу палітычную мудрасць і дасьпеласць, ці вашэ засьляпленьне і палітычнае банкруцтво. І або нашы дарогі пойдуць адным шляхам, да далёкай яснай будучыны, або разойдуцца і будуць усё болей расхадзіцца на векі.

Вы, панове «польскіе» інтэлігенты на зямлі Беларускай, палітычна, культурна і нацыональна абязсілелі, і ўся ваша работа выяўляецца ў нэгаціі (адкіданьні), або ў тым, што сьлепа дзержыцеся застарэлых і ўтраціўшых цану клічоў і формул, зусім бытцым тые зубры, каторые сілай канечнасьці засуджэны на павольнае выміраньне, бо вы ўтрацілі звязь з вечна маладой крыніцай сьвежых сіл народных.

На павароці да гэтай крыніцы, на чэрпаньні з яе сьвежых жыцьцёвых сокаў і дачы з іх падмогай адпору ўселякаму замяжоваму націску, усё роўна з якога боку, аснована будучына, аснованы бязцэнные кругазоры і магчымасьці! І калі віленская маладзёж, уздзеўшы на галаву «рогатыўкі» ды начапіўшы арла, думае, бытцым, яна спаўняе патрыотычны ўчынак, дык якую ж страшэнную абмылку яна робіць, як кепска асьвядомлена! Ня Польшчу трэба тут цяпер будаваць, а нашу ўласную дзержаву; не арла, а пагоню насіць; не «рогатыўкі», а простые мужыцкія шапкі, якіх ужывае тутэйшы народ; не шматфарбны кракаўскі ўбор, пекны, але чужы, а сівая сермяга нашаго хлебароба – вось нацыональная опратка! Сюдой дарога – з народам і праз народ! Не вы цягніце яго за сабой у чужые для яго, незнаныя староны, але самі ідзіце за ім – туды, куды ён жадае! У гэтым – праўда, рэальная, позытыўная праўда, будаўніцтво ад асноў; у гэтым – кліч на сягоньняшні дзень; у гэтым – будучына!

Вы, паны тутэйшые ітэлігенты, утраціўшые жывую звязь з тутэйшым народам, калі б замест шукаць для сябе ідэалоў у Варшаве або Кракаве, замест паддавацца патрыотычным настроеньням ад кракаўскіх танцоў і ўбораў, былі ў бліжэйшай еднасьці з нашым народам, калі б вы уважліва, з пашанай і тклівасцю, а мо' і з пачуцьцём унутрэнага сораму прыгледаліся лепей да шэрай долі тутэйшага селяніна, каторы з пакаленьня ў пакаленьне, ціха і без нарэканьня, ад калыскі да магілы ў поце чэла гарэ бацькаўскі палетак, ажно пакуль, аслабеўшы і зморэны, с пакорнасьцю волі Божай не паложыць сваю змучэную, пасівеўшую

галаву ў дамавіну, калі-б вы, з другога боку, прыгледаліся бліжэй да таго маладога беларускага руху да адраджэньня, каторы, бытцым, кволая ешчэ, скромная красачка ў цяню развівае свае колеравые пялюсткі, да таго руху, поўнаго гарачаго патрыотызму і жаданьня вырвацца к сонцу, к праўдзе, к жыцьцю, дык можэ ў сэрцы сваім вы бы выкрылі вялікую праўду, што тут вашы браты, тут ваш люд, тут ваша Бацькаўшчына, што ў гэтым ваша будучына і згэтуль павінны вычэрпаць свае палітычные аспірацііі, ідэалы, вашы патрыотычные абавязкі.

А тым нямногім, хто здолее вызваліцца с цесных і ўтраціўшых цану формул, абняць вокам шырокіе кругазоры і думкай далёка сягнуць у будучыну, я дабаўлю: паводлуг нашаго глыбокаго пераконаньня, новая палітычная мысль, каторую мы сабой прэдстаўляем, гэта ядыная правільная, ядыная абаснованая, ядыная творчая мысль.

(«Гоман» № 87 ад 30 кастрычніка 1917 г.)

*Працяг*

Zamietka Redakcii ŭ pačatku majho pieršaho piśma da krajowaj intelihencii, ŭ katoraj haworycca, što ja praz usio žyćcio swajo stajaŭ na krajowym stanowiščy, a ciapier, kali dla biełaruskaho narodu pryjšoŭ moment dziela čynnaho wystupleńnia, adkryta pryznaŭ siabie za syna ziamli Biełaruskaj, pryznaŭ siabie za biełarusa, jak ja dawiedaŭsia i spaznaŭ swajej asobaj wyzwała mnoha zakidoŭ, krytyk i raznarodnych uwah. Z hetaj pryčyny liču za swaju pawinnaść publična wytłumačyć swajo stanowišče ŭ hetaj sprawie, nia hetulki dziela asabistaj patreby, skolki dziela karyści samaj sprawy, spadziajučysia, što hetaje wyjaśnieńnie šmat kamu pamože u orjentacji ŭ swaim ułasnym stanowiščy adnosna da hetkich ważnych u hety čas spraŭ.

Adnak wyjaśnieńnie ŭ majej asabistaj sprawie ja pawinien papiaredzić dajučy historyčny pohlad na nacyonalnaje pytańnie ŭ našym kraju.

U Litwie i Biełarusi panujuć niezwyčajna zabłytanyje nacyonalnyje adnosiny. Nie kažučy ab tym, što na našaj ziamli žywie niekolki nacij, katoryje čaściu zanimajuć asobnyje abšary (litwiny i biełarusy), čaściu ŭ adzinočku abo hrupami raskinuty miž tymi hustymi massami (palaki i žydy), adnosiny hetyje błytajucca ješče bolej, kali kiniem wokam nazad u historyčnuju minuŭščynu.

U časach niezależnaści Wialikaho Kniażstwa Litoŭskaho (sprawiedliwiej: Litoŭska-Ruskaho), ješče nia złučanaho palityčnaj unijej s Polščaj, u hetaj dzieržawie žyli badaj wyklučna tolki dwa narody: litwiny i rusiny. Rusiny składa-

lisia z niekolkich plamion: krywičoŭ, dreŭlan i inšych, wiadomych pad ahulnym imiem biełarusoŭ i »małarusaŭ» (Čyrwonaja Ruś – heta ukrainski narod), bo ŭ tyja časy Wialikaje Kniażstwo Litoŭskaje ŭładało ŭsiej «Biełaj» i »Małaj» Ruśsiu. Usie hetyje plamiony byli tady wiadomy, jak «adzin» ruski narod, addzielajučysia hetym imiem ad «maskaloŭ», abo wialika-rusaŭ. U tahočasnych starych hasudarstwiennych dakumentach historyčnych my pastajanna spatykajem hetkaje wydzialenie: «My, bajary litoŭskije i ruskije, sabraŭšysia uchwalili i t. d.»

Dyj paśla unii s Polščaj niejki čas trywaje hetkaje wydzialeńnie ŭ hasudarstwienych aktach i chronikach; adnak, s chodam času nazwańnie «ruskije bajary», «ruskaja šlachta» zacirajecca, znikaje, a tolki prybiraje nowaje imia, supolnaje z narodam litoŭskim i ŭziataje ad litoŭskaj hasudarstwienaści, imia «litwinoŭ». Usio hasudarstwo, złoženaje z niekolkich nacij, atrymliwaje ahulnaje nazwańnie «Litwy»; žyhary jaho – jak sapraŭdnyje litwiny, tak i rusiny – biez nijakoj rožnicy nazywajuć siabie «litwinami», adrožniwajučysia hetak ad palakoŭ, žycharoŭ «Karony».

Woś, majemo tut pieršy prykład, jak u našym kraju, asabliwa paśla addzialeńnia ad Litwy Ukrainskich ziamiel, pierawažywajučaja massa žycharoŭ jaho (narod «ruski», rusiny) ŭ swaim całym i ŭ paadzinokich asobach zmieniaje, na pahlad, swaju nacyonalnaść, a papraŭdzi tolki imia swajo. Zamiest «ruskimi» abo biełarusami, našy dziady pačali nazywacca «litwinami». «Litoŭskaje wojska», «litoŭskaja šlachta», «litoŭski narod» – usio heta abnimaje jak sapraŭdnych litwinoŭ, tak i rusinoŭ (biełarusoŭ).

Chacia akurat u tych że časach «litoŭskaja» šlachta i pany apalačylisia, pakinuli mowy baćkoŭ swaich, pačali hawaryć pa polsku i pryniali polskuju kulturu, chacia zwierchna stalisia jany «palakami», adnak ažno da samaho kanca istnawańnia «Rečypospolitaj» heta šlachta i pany zaŭsiody nazywali siabie «litwinami», kab adrožnić siabie ad palakoŭ – «koroniarzy», žycharou Polskaho Karaleŭstwa. Na sejmach u Warsžawie naša spolščenaja ŭžo šlachta wystupała zaŭsiody, jak šlachta «litoŭskaja», jak «litwiny», što widać z usich tahočasnych historyčnych dakumentoŭ. Tahočasnyje «palaki» ŭ Litwie i Biełarusi nia tolki nie ŭstydalisia nazywać siabie «litwinami»: na adwarot, ličyli heta za čeść i patryotyčnuju dystynkciju.

Upadek «Rečypospolitaj» wyzwaŭ u hetych adnosinach wialikjie pieramieny: Ruś Litoŭskaja, abo Biełaruś, atrymała ŭžo oficyalna swajo siahońniašniaje imia, a narod naš usiudy pačali oficyalna nazywać biełaruskim (u časach «Rečypospolitaj» tolki ŭ chronikach dy ŭ paadzinokich prypadkach spatykajem hetaje

imia: «biełaruskaja dywizija» kala 1730 h. i t. d.). A razam z tym «litoŭskaja» šlachta pačynaje nazywacca «polskaj». Daŭniejšy biełaruski šlachcic – «rusin», posle – «litwin», nazywaje siabie «palakam». I tolki jak hetki «palak» apynuŭsia ŭ Waršawie, dyk, kab wydzialicca z pamiž «koroniarzy», pa staromu nazywaŭ siabie świadoma «litwinom».

Adnak, za našaj užo pamiaci adbyłasia nowaja pieramiena: zbudziŭšajasia nacyonalnaja świadomaść sapraŭdnaho litoŭskaho narodu, užywajučaho litoŭskaj mowy, i warožyje da swajej apalačenaj intelihencii wystupleńnia jaho zrabili toje što litwiny – «palaki» zusim pierestali nazywacca litwinami, chacia jany rodu litoŭskaho, choć ad dziadoŭ-pradziadoŭ tutaka žywuć, choć jany – syny Litoŭskaj ziamli. I ciapier imia «Litwin» užywajuć tolki etnografičnyje litwiny, katoryje haworać pa-litoŭsku. I daŭniejšy «litoŭski» šlachcic, ciapier – «palak z Litwy», ličyć za abrazu dla siabie, kali chto nazawie jaho «litwinom»: jon – tolki... «palak».

Toje-ž samaje robicca i s «palakami» – daŭniejšymi «rusinami»: i jany niekali šlachta «ruskaja», paśla «litoŭskaja», urešci «polskaja», kryŭdujecca, kali ich nazwać šlachtaj biełaruskaj, biełarusami. Bo ŭzrost nacyonalnoj świadomaści biełaruskaho narodu, katory, jak i narod litoŭski niedawierčywa hladzić na swaju spolščenuju intelihenciju, wyzywaje toj samy rezultat: «palak z Biełarusi» ličyć za hańbu dla siabie nazywacca «biełarusam».

A ŭsio-ž taki i tut na našych wačach adbywajecca i pawinna sama saboj adbycca nowaja pieramiena.

Zdareńnia apošnich dzion, katoryje stanowiać dobry hrunt dziela ŭzrostu świadomaści ŭciskanych dahetul na ich ziamli etnagrafičnaj litoŭskaj i biełaruskaj narodnych mass, hrunt dziela ich samaaznačeńnia, dziela žadańnia swajej hasudarstwienaj samabytnaści, zdareńnia hetyje pawinny wyzwać pierewarot i ŭ samaaznačeńni našaj spolščenaj krajowaj intelihencii – «palakoŭ» z našaho kraju. Hetaja krajowaja intelihencija, hetyje «palaki» pawinny razdzialicca i ŭ mieru razwićcia litoŭskaj i biełaruskaj hasudarstwienaści, kali nia chočuć astacca za skobkami, jak čužaja nacija na rodnaj ziamli, pawinny budúć nazwacca «litwinami» abo biełarusami, zaležnie ad taho, u jakoj čaści kraju žywuć, nazwacca tak u značeńni hasudarstwienaj prynaležnaćci. Zachoŭwajčy moʼ ješče na doŭhi čas polskuju mowu i kulturu, jany pawinny pryznać siabie za «litwinoŭ» i «biełarusoŭ» u hasudarstwienym, a časam i nacyonalnym značeńni.

Demokratyčny ruch znizu, uzrost nacyonalnoj świadomaści mass, zdabywajučych swajo prawo na nacyonalny hasudarstwieny byt budúć šybka nabli-

žać ewoluciju nacyonalnaho samaaznačeńnia tutejšaj intelihencii. Heta intelihencija pawinna iści z tym rucham znizu i, kali nia choče sčeznuć u nieustanaj baraćbie, pawinna wiarnucca da krynicy, z jakoj wyšła, da narodu, z jakoha paŭstała, z jakim zwiazana krywioj i pachodžeńniem. Tak, značycca, adbudziecca nanowa staraja ewolucija, tolki naadwarot, ewolucija nie samaj rečy, ale, možna skazać zwierchnaj «naklejki» – imia, nazwańnia. Reč astaniecca sama saboj: biełaruska-litoŭski kraj i biełaruska-litoŭskije hramadzianie, niezaležnie ad taho, jakim jazykom haworać. Zmieniajecca tolki «imia» ŭ zaležnaści ad nastrajeńniŭ i patreb historyčnaho momentu. A sprawa jdzie ab toje, kab reč sama ŭ sabie – hety kraj, hetaje budučaje hasudarstwo – mieła ćwiorda i wyrazna wyjaŭlenuju fizionomiju, – kab u dušach hramadzian hetaho kraju, wa ŭsich słajoch – ad wierchu da nizu, wa ŭsich nacyonalnaściach – zbudziałasia jasnaja świadomaść swajej asobnaj hasudarstwienaści *(тут і далей усе вылучэнні аўтарскія – А. С.)*, swaich historyčnych tradycij, swaich asobnych met, kab hetak usie žywyje siły Kraju, zamiest zmahacca miž saboj, zjednalisia dziela adnej supolnaj sprawy: dziela budawańnia swajej dzieržawy, swajej baćkaŭščyny.

Paśla hetkaho historyčnaho wyjaśnieńnia mnie astajecca ciapier dadać usiaho niekolki słoŭ. Pachodziačy z wałynskaj šlachty, asieŭšaj na Rusi ad niekolkich pakaleńnioŭ, zwiazany čyślenymi wuzłami krywi z «polskaj» šlachtaj u Biełarusi, tut wychawany i prypisany da wilenskaj šlachty, pracujučy 50 hadoŭ na ziamli ŭ hetym kraju, katory liču za radzimu i katory lublu, katoraho mowu i nacyonalnyje asobnaści zaŭsiody šanawaŭ i lud katoraho liču za swoj i da katoraho čuju siabie wielmi blizkim, ja ciapier u toj momant, kali hety lud-narod budzicca da žyćcia, da samabytnaści i patrebuje swajej intelihencii, kab jamu ŭ hety momant pamahła, liču swajoj pawinaściu stanuć u jaho radoch, jak hramadzianin i patryjot hetaho kraju Biełaruskaho, jaho budučaj hasudarstwienaści, značyć: jak biełaruski hramadzianin, jak biełarus. A jak šmat lahčej adwiečnym synom hetaho kraju, katoryje majuć biełaruskaje imia, ŭ žyłah katorych ciače biełaruskaja kroŭ, adbyć hety samy ŭnutreny praces samaaznačenia, choć jany siabie ličać za «palakoŭ»!

Pačućcio hramadzianskaj pawinaści pierad swaim ułasnym krajem i narodam pawinno kožnamy ablahčyć hety praces. Unutrenaja praškoda, katoraja wyjaŭlajecca ŭ sławach: «ale ja čuju siabie palakam», pawinna ščeznuć, a zamiest hetaho ćwiordy palityčny i patryotyčny nakaz musić, jak nie raz u našym kraju ŭ historyj zdarałosia dawiaršyć unutrenuju pieramienu.

(«Homan» № 90 ad 9 listapada 1917 h.)

*Працяг*

Проці такіх вывадоў між нашай інтэлігенцыей мы спатыкаем многа закідоў, каторые тутака і абсудзім.

Спатыкаем, напрыклад, гэткі закід: беларуская мова – гэта ўсё роўна як мова расейская, значыць, завядзеньне яе вядзе да «абрусеньня». Аднак, тыя ж людзі пад той самы час даводзяць: беларуская мова – гэта не асобны язык, а толькі адна з гутарак польскай мовы, а іншыя кажуць: гутарка расейскай мовы.

Ужо стаўляючы побач гэткія зусім нязгодлівые адзін з адным пагляды лёгка давясьці неабаснованасьці іх, бо калі паводлуг адных беларуская мова ёсць гутарка расейская, паводлуг другіх – польская, дык само гэта ясна паказвае, што яна ня ёсць ні аднэй, ні другой, што гэта – свая асобная, выявіўшаяся ад вякоў, мо’ дзе-нідзе зацёртая чужымі ўплывамі, але, наагул, мова самабытная, якой ужывае больш за 8 мільёнаў народу на вялізным абшары і якая мае роўнае з іншымі права на жыцьцё і развіцьцё.

Другі доказ проці нашых паглядоў – тое, што народ ня цэніць свае мовы, называе яе «простай», ужывае толькі ў хаце, а ў касьцелі і ў «лепшым таварыстве» гукае па-польску, ці ў іншых старонах – па-расейску. На гэта адказ кароткі: бо народ гэты, мову каторага прасьледаваў быўшый расейскі ўрад ды пагардай абкідала польская інтэлігенція і духавенство ня ўсюды йшчэ дайшоў сьвядомасьці, але, як і кожын іншы народ у нашых часах, хутка ўжо збудзіцца і пачне свайго права на жыцьцё дапамінацца. Памагчы яму ў гэтым – то павіннасць тутэйшай інтэлігенціі, ня гледзячы на тое, што сама яна гаворыць іншым языком. Павіннасць і – скажу – рэальная, мудрая палітыка.

Іншы закід: на што ў гэтых цяжкіх часах, якіе цяпер мы пераживаем, калі з-усюль гразіць нам гэтулькі небяспек, пачынаць нацыональную барацьбу, на што дражніць і ўвадзіць новы раздзел, каторы можэ быць карысны толькі «трэйцім»?

Гэты, на пагляд, моцны доказ сам сабой губляе моц сваю, калі напомнім аб нашым становішчы ў гэтай справе: бо мы якраз хочэмо гадзіць, а не дражніць, на што паказвае хоць бы мэта нашаго прызыву да інтэлігенціі, мы хочэмо будаваць будучыну на аснове праўды і справядлівасьці, а не на фальшу; бо будучына, аснованая на этнографічнай і гісторычнай непраўдзе, якая выяўляецца ў славах «тут была Польшча, тут быў польскі народ, і такім ён ёсць і павінен астацца ў будучыне», не ўдзержыцца: яна разваліцца, збанкроціцца, як ужо не раз здаралася...

Толькі збудаваная на крэпкіх народна-нацыональных асновах гасударственая будучына дасць адпор усім унутрэным і замяжовым навальніцам і будзе трываць сталецьця. Для гэткай будучыны не жаль палажыць некаторые ахвяры, адрачыся розных вузкіх формул і мар. Бо марай ёсць думка, бытцым вы здалееце апалячыць гэты многамільённы беларускі народ, бытцым здалееце даць яму шчасьце, адмаўляючы права на жыцьцё, на стварэньне сваей асобнай нацыональнай дзержаўнасьці. Гэтаго вам не ўдалося дайсьці праз сталецьця, гэтаго не здалеў зрабіць расейскі ўрад і ніхто зрабіць не здалее, бо кожын народ ня толькі хочэ, але ў перэжываных намі часах можэ і мусіць стацца сам сабой. Плыці проці гэтаго цячэньня можэ пажадаць толькі нецьвярозы палітык, ці засьлеплены «эндэк» (нацыоналіст).

Памянёная вышэй заява: «Тут – Польшча і т. д.», аснована вось на чым: што Вялікае Князьство Літоўскае (Літоўска-Беларускае) злучылося з Польскім Каралеўствам у адну «Рэчпосполітую» – Рэчпосполітую Польскую.

Гэтае слова «Польскую» і ўносіць непаразуменьне ў думкі шмат людзей: адны тлумачаць яго так, бытцым яно азначае, што Літва «паддалася» Польшчы; другіе, хоць добра разумеюць, у чым тут справа, ды сьвядома баламуцяць людзей поўінтэлігентных і народные масы дзеля вядомай мэты.

Вось і трэба гэтую справу акуратна разабраць.

Вялікае Князьство Літоўскае злучылося некалі з Польскім Каралеўствам, маючы сперша толькі супольнаго монарха – Вялікаго Князя Літоўскаго, каторы стаўся такжэ Каралём Польскім, але пры гэтым абедзьве дзержавы захоўвалі блізка поўную незалежнасць адна ад аднэй. Толькі праз 200 гадоў дзержавы гэтые (Літва і Карона) на моцы Люблінскай Уніі (умовы) сваей ахвотай злучыліся «як вольные з вольнымі, роўные з роўнымі» ў адну «Рэчпосполітую» (такі ўрадовы тытул быў прыняты на Уніі для супольнай дзержавы) – коратка: «у Рэчпосполітую», а не ў Рэспосполітую Польскую, на ясна ўстаноўленых варунках, пры ўзаемным забеспячэньні поўнай аўтаноміі для кожнай палавіны супольнай монархіі (асобнае войска, асобны скарб, асобная ўрадовая герархія, асобные суды, а супольны толькі сэйм і супольне выбіраны монарх, каторы меў тытул Караля Польскага і Вялікага Князя Літоўскага).

Вось, гэту-то Рэспосполітую і пачалі пасьля называць Рэчпосполітай Польскай, бо трэба-ж было даць нейкі больш гаворучый прыметнікназваньня гасударства. І зусім ясна, што з такім жэ самым правам дзержава гэта магла называцца Рэчпосполітай Літоўскай. Называлі-ж яе «Польскай» адно толькі затым, што каралеўскі тытул выдаваўся вышэйшым за тытул

Вялікага Князя (хоць абедзьве дзержавы былі роўны па сілу і значэньню), дык што Польшча, вышэйшая культурна і лежучы бліжэй да заходу, надавала ўсяму гасударству зверхны польскі характэр.

Аднак, гэта зусім не азначала нейкай праўна-дзержаўнай перэвагі Польшчы над Літвой, тым болей не значыло, бытцым Літва і Беларусь абярнуліся ў Польшчу. Абедзьве злучэныя дзержавы: Польшча і Вялікае Князьство Літоўскае аставаліся тым, чым былі ад пачатку, значыць: двума асобнымі дзержаўнымі організмамі ў вядомай устаноўленай гасударственнай лучнасьці. Калі-ж у часы ўпадку Рэчыпосполітай шляхоцкіе дэпутаты ад абедзьвух злучэных дзержаў на дзельчых сэймах зацвярдзілі раздзел супольнага гасударства паміж суседзяў, адрываючы гэтак ад Кароны (Польшчы) Літву і Беларусь, дык і Люблінская умова (унія) развалілася сама сабой, утраціла сваю праўна-дзержаўную моц. Ад колішняй «Рэчыпосполітай» асталіся толькі складаўшыя яе некалі землі, з аднаго боку – Польшча, з другога – Літва і Беларусь (даўнейшае В. Кн. Літоўскае).

Цікаўна адзначыць, што ядыным на першым дзельчым сэйме дэпутатам, каторы меў сьмеласць і сілу волі выступіць з цьвёрдым пратэстам проці раздзіраньня яго роднай Беларускай зямлі (пры першым раздзеле Масква забрала толькі часць Беларусі), быў праўдзівы патрыот і грамадзянін сваёй зямлі Тадэуш Рэйтан.

У гэткім палажэньні справа датрывала да нашых дзён. І з усяго вышэй сказанага ясна, што цяперашняй Літвы і Беларусі, або даўнейшаго Вялікаго Княжства Літоўскаго нельга называць Польшчай, як і аб Польшчы нельга гаварыць, што тамака ёсць Літва, хоць бы часьці апалячэнай літоўскай і беларускай інтэлігенціі хацелося бачыць у нас Польшчу супроць гісторыі і супроць этнографіі масс.

Хто сягоньня гэтак кажэ, робіць абмылку фактычную і гісторычную: тут, у Літве і Беларусі Польшчы німа.

Мне давялося сустрэціцца ешчэ з адным закідам і сумлеваньнем: «Калі я прызнаю сябе за беларуса і пачну як беларус працаваць на грамадзскай ці палітычнай ніве, дык буду прымушэн зрабіць шкоду польшчыне ў гэтым краю».

Адкажу: шкоду тады, калі гэтая польшчына сягае на непрылежные ёй правы, захоплівае чужое, мае захватные жаданні. Каб жэ даць цьвёрды адпор усялякім захватным апетытам, незалежне ад таго, чы іх выяўляюць палякі, чы літвіны, чы беларусы, на гэта ня трэба быць ані выключна русінам, ані палякам, ані літвіном, а трэба быць проста <u>сумленным чэлаве-</u>

кам – грамадзянінам, каторы шануе як сваю, так і чужую нацыянальнасць і стаіць на грунце справядлівасьці і этнографічнай праўды, грамадзянінам-патрыотам, каторы злучае, а не раздзяляе, каторы кожнаму прызнае права да жыцьця, а ўселякую дэнацыоналізацію, уселякі захват, уселякую чыннасць у гэтым кірунку, скуль бы яна ні выйшла, лічыць за недапусьцімую, шкодную і благую, за рэч, з якой трэба бароцца.

Стоючы на гэткім становішчы і падаўшы адны адным руку, усе грамадзяне нашаго Краю – беларусы, літвіны, палякі і т. д. могуць мець поўную надзею, што, выкарыстаўшы памысную палітычную кан'юнктуру сучаснаго момэнту, яны здалеюць адбудаваць сваю ўласную, некалі незалежную, вялікую, шчасьлівую Бацькаўшчыну.

Вось жэ вы, паны «тутэйшыя» палякі, інтэлігенція краю, ксяндзы і абыватэлі, і ты, краёвая дэмокрація, каторая безпасрэдна выйшла з народу тутэйшаго і не ўтраціла ешчэ еднасьці з ім, не саромцеся прыняць да свайго ведама очывістую праўду, праўду тэратырыяльную, а хутка пэўне ўжо і праўду палітычную: што вы – грамадзяне Літвы і Беларусі, яе сыны, значыць: «літвіны» або «беларусы».

Паварот да гэтаго адвечнаго самаазначэньня, перакручэнаго або загубленаго толькі з прычыны ненормальных адносін, у якіх мы пражылі больш за сто гадоў, паварот, згодлівы з вашым паходжэньнем і традыціей, ня толькі ня будзе вас ганьбіць, а, наадварот, прынясе вам чэсць, бо звяжэ з народам, бо дасць вам аснову быту, бо вас узмацуе і падніме і падзяку і благаслаўленьне патомных пакаленьняў вам запэўніць.

Не саромцеся стануць пад штандарам Пагоні, каторы вы пакінулі, а народ сам у свае рукі бярэ і паднімае ў выш, як свой сымвол нацыянальны, сымвол сваёй Бацькаўшчыны.

Стануць поплеч с людам-народам пад гэтым сымволам – чэсць і слава для вас!

(«Гоман» № 91 ад 13 лістапада 1917 г.)

---

1 Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў (ЛДГА). Ф. 1135 (Таварыства сяброў навукі), воп. 22, адз. зах. 2, 9.

2 Тамсама. Воп. 23, адз. зах. 11, арк. 79.

3 Тамсама. Воп. 4, адз. зах. 32–38.

4 [Abramowicz L.]. Litwa podczas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p. / Zebrał i do druku przygotował L. A. Warszawa, 1918, s. 130.

**РЭЦЭНЗІЯ**

# ЖЫЦЦЁ І ДЗЕЙНАСЦЬ МІХАЛА РОМЭРА Ў ДАСЛЕДАВАННІ ЗБІГНЕВА СОЛЯКА

Solak Z. Między Polska a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920. Kraków, 2004. – 484 s.*

Міхал Ромэр (1880–1945) – юрыст, публіцыст, навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч, які ў пэўным сэнсе быў адным з апошніх грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта ён на пачатку XX ст. быццам акумуліраваў дух г. зв. «ліцвінскага сепаратызму» часоў Рэчы Паспалітай і ва ўмовах нацыянальнага Адраджэння народаў былога Вялікага Княства Літоўскага сфармуляваў асноўныя прынцыпы «краёвай ідэалогіі». Яе падмуркам стала ідэя яднання розных народаў пад сцягам агульнага змагання за інтарэсы Краю (г. зн. земляў колішняга ВКЛ). Яно павінна было прывесці да фармавання нацыі дзяржаўнага (грамадзянскага) тыпу і адраджэння Вялікага Княства Літоўскага як незалежнай дэмакратычнай дзяржавы.

Аналізаваць жыццё першага краёўца і апошняга грамадзяніна ВКЛ складана, бо ягонай характэрнай рысай быў дуалізм. М. Ромэр належаў да г. зв «літоўскіх палякаў», паходжанне і гістарычная памяць якіх былі звязаныя з «гістарычнай Літвой», а культурная прыналежнасць – з Польшчай. Якраз гэты дуалізм адлюстраваўся ў назве кнігі («Паміж Польшай і Літвой»...).

Збігнеў Соляк абмежаваўся толькі першым перыядам жыцця Міхала Ромэра (1880–1920), напоўненым пераважна грамадска-палітычнай дзейнасцю і публіцыстычнай працай. Кніга заканчваецца тым выбарам, які М. Ромэр зрабіў у 1920 г., калі вырашыў пакінуць Польшчу і перабрацца на пастаяннае пражыванне ў Коўна. Ён звязаў сваё жыццё з літоўскай дзяржавай і адыграў вялікую ролю ў станаўленні яе прававой сістэмы.

---

* Упершыню рэцэнзія была апублікаваная ў часопісе «Беларускі гістарычны агляд» (2004. Том 11, с. 379–388).

Аднак свой славуты Дзённік (1911–1945) да канца жыцця вёў на польскай мове.

Трэба адзначыць, што доўгі час гісторыкі або не звярталі ўвагі на постаць Міхала Ромэра або згадвалі пра яго ўскосна. У польскай гістарыяграфіі пра М. Ромэра як пра грамадска-палітычнага дзеяча пачатку XX ст. пачалі пісаць толькі ў 1970–1980-х гг. (Юліуш Бардах, Ян Юркевіч, Раман Юркоўскі). У гістарыяграфіі Літвы да канца савецкай акупацыі не было аніводнай працы, хоць літоўскія даследчыкі захоўвалі памяць пра М. Ромэра як пра юрыста і рэктара ўніверсітэту ў Коўне.

А вось на пачатку 1990-х гг. адбыўся сапраўдны «выбух» цікавасці да жыцця і творчай спадчыны Міхала Ромэра як галоўнага ідэолага ліберальна-дэмакратычнага накірунку краёвасці. У вялікай ступені гэтая цікаўнасць была звязаная з «адкрыццём» даследчыкамі Дзённіка Міхала Ромэра[1]. Адным з першых атрымаў доступ да гэтай крыніцы вядомы польскі даследчык Ежы Ахманьскі. Аўтарам першай адмысловай публікацыі, прысвечанай Дзённіку, быў Вінцас Марцінкенс. Ягоны артыкул апублікаваў часопіс «Kulturos barai» у 1976 г.

Пазней Дзённік стаўся аб’ектам інтэнсіўных даследаванняў літоўскіх і польскіх навукоўцаў. У 1995 г. быў апублікаваны артыкул Збігнева Соляка, які ўздымаў праблему стасункаў Міхала Ромэра і віленскіх вольных муляроў пачатку XX ст.[2] У Літве аўтарамі найбольш прыкметных публікацый сталі Рымантас Мікніс, Дарюс Сталюнас, Уладас Сірутавічус, Эгідыюс Мацека і Ян Савіцкі. Апошні быў аўтарам грунтоўнай манаграфіі, прысвечанай свядомасці М. Ромэра і ягоным поглядам на нацыянальную праблему[3]. Некалькі публікацый з’явіліся таксама ў беларускім навуковым друку[4]. Тым не менш цяжка лічыць гістарыяграфічную распрацоўку праблемы жыцця і дзейнасці М. Ромэра грунтоўнай. Многія ўзнятыя кракаўскім гісторыкам праблемы ўпершыню сталі аб’ектам даследчыцкай увагі.

Асноўнымі крыніцамі даследавання былі Дзённік М. Ромэра, фрагменты ягоных успамінаў, публікацыі, сямейная карэспандэнцыя, матэрыялы асабістых архіваў Людвіка Абрамовіча, Тадэвуша Урублеўскага. Алены Ромэр-Ахенькоўскай і дакументы парыжскіх літоўскіх арганізацый пачатку XX ст.

Аўтар шмат увагі надаў дзяцінству і маладосці галоўнага героя. Ён паспрабаваў вылучыць асноўныя этапыператварэння прадстаўніка тыповага роду «літоўскіх палякаў» у галоўнага ідэолага краёвасці, чые по-

гляды кардынальна разыходзіліся з поглядамі большасці сваякоў, сяброў і знаёмых. «Нараджэнне краёўца» не было вынікам сямейнага выхавання і атмасферы роднага дому. Амаль усе сваякі (Ромэры і Тукалы) у перыяд нацыянальна-культурнага Адраджэння Беларуска-Літоўскага краю ператварыліся ў шчырых польскіх патрыётаў. Шлях Міхала Ромэра быў іншым.

Паводле З. Соляка, вялікую ролю адыгралі глыбока эмацыянальныя адносіны да роднага краю і літоўскасці, якія ўвабралі ў сябе замілаванне прыродай малой радзімы (маёнтак Багданішкі Новаалександраўскага пав. Ковенскай губ.), цікавасць да літоўскага фальклору, звычаяў і мовы жыхароў навакольных вёсак і г. д.).

Але, як падаецца, таксама нельга ігнараваць і той факт, што ўжо ў дванаццацігадовым узросце Міхал Ромэр быў адарваны ад звычайнага сацыяльнага і культурнага асяроддзя. У 1892 г. бацькі адправілі яго вучыцца ў Імператарскую школу права ў Санкт-Пецярбург. Потым ён працягваў адукацыю ў Ягелонскім універсітэце і Школе палітычных навук у Парыжы (з 1902 г.).

Менавіта ў Парыжы ён навязаў кантакты з дзеячамі літоўскіх моладзевых арганізацый. Пад уплывам дзеяча літоўскага руху Ёзаса Пятруліса (1877–1958) М. Ромэр стаў сябрам літоўскай студэнцкай арганізацыі «Lithuania», што, паводле яго асабістага прызнання, было адным з пераломных момантаў жыцця. Безумоўны ўплыў на фармаванне свядомасці галоўнага героя аказаў якраз Ё. Пятруліс, у поглядах якога этнічны літоўскі патрыятызм сумяшчаўся з патрыятызмам грамадзяніна «гістарычнай Літвы».

Ё. Пятруліс імкнуўся пашырыць пачуццё краёвай грамадзянскасці сярод «літоўскіх палякаў» ды іншых народаў Беларуска-Літоўскага краю. І не без поспеху. Па меншай меры, у душы Міхала Ромэра менавіта ён здолеў абудзіць тую любоў да Літвы, якая заўсёды жыла там на ўзроўні падсвядомасці. Фактычна, у «парыжскі перыяд» закончыліся яго ідэйныя пошукі. Як сцвердзіў аўтар, Міхал Ромэр вярнуўся на Радзіму ўзброены краёвай ідэяй, якой прысвяціў некалькі наступных дзесяцігоддзяў жыцця.

Збігнеў Соляк даволі падрабязна спыніўся на гісторыі заснавання і рэдагавання М. Ромэрам штодзённай «Газеты Віленьскай» (люты-чэрвень 1906 г.), якая актыўна прапагандавала краёвую ідэю. Якраз на яе старонках гэтая ідэя паступова ператваралася ў пэўную ідэалогію. Ліквідацыю «Газеты Віленьскай» аўтар палічыў паражэннем польскіх дэмакратаў нао-

гул. На думку Збігнева Соляка, *«з гэтага моманту на некалькі гадоў лозунг краёвасці стаўся лозунгам кансерватыўных літоўскіх землеўласнікаў, якія не толькі сумелі захаваць свой друк, але таксама пастараліся выпрацаваць уласную праграму і паспрабавалі (хоць без поспеху) стварыць уласную партыю»* (с. 95).

У гэтым месцы варта заўважыць, што кансерватыўны (або, дакладней, кансерватыўна-ліберальны) накірунак краёвасці быў выпрацаваны яшчэ раней. Да яго распрацоўкі непасрэднае дачыненне мелі Раман Скірмунт, Баляслаў Ялавецкі, Канстанцыя Скірмунт, Эдвард Вайніловіч ды іншыя прадстаўнікі старажытных беларускіх і літоўскіх родаў, якія на пачатку XX ст. складалі гаспадарчую і культурную эліту мясцовай польскай грамадскасці.

Краёвасць ад самога нараджэння як ідэалогія мела па меншай меры два «твары». Варыянт Р. Скірмунта і Б. Ялавецкага быў пазбаўлены пэўнага сацыяльнага радыкалізму, адчувальнага ў канцэпцыі Міхала Ромэра, хоць і ўтрымліваў традыцыйны набор першачарговых ліберальныхператварэнняў у Краі.

Адлучэнне ад публіцыстычнай дзейнасці Міхал Ромэр выкарыстаў для вывучэння гісторыі літоўскага нацыянальнага руху. Вынікам ягонай навуковай працы сталі кніга *Litwa. Studium odrodzenia narodu litewskiego* (Львоў, 1908), якая атрымала высокую ацэнку многіх рэцэнзентаў, у т. л. дзеячаў літоўскага руху. Яна дагэтуль лічыцца адной з найлепшых працаў па гісторыі нацыянальнага руху нашых паўночных суседзяў.

Адначасна працягвалася далейшая распрацоўка краёвай канцэпцыі, у чым пэўную ролю адыграў літоўскі культурны дзеяч і навуковец Юзаф Альбін Гэрбачэўскі[5]. Наогул, кніга Збігнева Соляка прымушае задумацца над роляю літоўскіх палітыкаў і навукоўцаў у выпрацоўцы краёвай ідэалогіі. Прынамсі, прыведзеныя факты выразна супярэчаць досыць пашыранай у Польшчы і Беларусі трактоўцы літоўскага нацыянальнага руху як неталерантнага і агрэсіўнага.

У гэты ж час на старонках варшаўскай «Праўды» быў апублікаваны артыкул Міхала Ромэра *Zagadnienia narodowe białoruskie* (1907, Nr 32–36). Упершыню беларускі рух стаў аб’ектам грунтоўнага аналізу[6].

Наступныя раздзелы кнігі і этапы жыцця і дзейнасці Міхала Ромэра пісаліся пры дапамозе Дзённіка галоўнага героя. Гэта ўнікальная крыніца, якая не мае аналагаў ні ў польскай, ні ў беларускай гісторыі. Практычна штодня з 1 студзеня 1911 г. па люты 1945 г. М. Ромэр падра-

бязна апісваў і аналізаваў падзеі, што адбыліся. Дзённік уражвае багаццем тэматыкі, глыбокім асэнсаваннем многіх важных і пераломных для гісторыі Польшчы, Беларусі і Літвы падзеяў. Увагі заслугоўваюць партрэты гістарычных асобаў. Сярод іх дзеячы польскага, літоўскага і беларускага руху, прадстаўнікі расейскай ліберальнай апазіцыі і кіраўнікі ўраду і, нарэшце, вольныя муляры. Дарэчы, апошнім М. Ромэр прысвяціў два вялікія запісы, у якіх падрабязна апісаў гісторыю адраджэння вольнамулярства ў Вільні на пачатку ХХ ст. Ён ведаў пра што пісаў, бо ў сакавіку 1911 г. прайшоў абрад ініцыяцыі ў віленскай ложы «Еднасць», а трохі пазней узначаліў ложу «Літва»[7].

Аўтар шмат увагі ўдзяліў гэтай старонцы жыцця Міхала Ромэра і, як падаецца, цалкам справядліва. Можна пагадзіцца з ім, што дзякуючы М. Ромэру віленскія вольнамулярскія ложы сталі моцнымі цэнтрамі прапаганды краёвай ідэалогіі. Але таксама можна выказаць думку, што сама масонская ідэалогія з характэрнымі для яе ідэямі роўнасці, братэрства, нацыянальнай і палітычнай талеранцыі ў сваю чаргу аказала ўплыў на канчатковае афармленне ідэалогіі краёўцаў. Як заўважыў кракаўскі даследчык, асаблівасцю дзейнасці віленскіх ложаў стала адсутнасць антырэлігійных акцэнтаў, мінімальная абрадавасць і поўнае забыццё пра абавязковую для масонаў апалітычнасць. Адной з галоўных мэтаў дзейнасці ложаў Вільні стала барацьба супраць імперыі Раманавых.

У апошнія перадваенныя гады М. Ромэр актыўна працаваў на ідэю польска-літоўскага паяднання. Застаючыся прыхільнікам ідэі незалежнай Літвы («гістарычнай Літвы»), М. Ромэр лічыў, што дамагчыся гэтага можна толькі ў саюзе з Польшчай. Аднак далей фрагментарных польска-літоўскіх кантактаў справа не пайшла. Паводле З. Соляка, галоўнай прычынай няўдачы быў недавер літоўскага боку да польскіх палітыкаў. Да гэтага трэба дадаць, што гэты недавер быў цалкам апраўданы. Па меншай меры, ні Партыя нацыянальных дэмакратаў, ні ППС не збіраліся ўлічваць нацыянальна-палітычныя і культурныя патрабаванні літоўскага руху (таксама, як і беларускага).

Першая сусветная вайна моцна паўплывала на пазіцыі асноўных актораў беларуска-польска-літоўскай палітычнай сцэны. У гэты час М. Ромэр у шматлікіх артыкулах звяртаў увагу чытачоў на гістарычную сувязь незалежнасці Польшчы са свабодай Літвы і Беларусі. Ён лічыў неабходным арганізацыю вайсковай падтрымкі дзяржаўніцкіх намаганняў Юзафа Пілсудскага з боку насельніцтва гістарычнай Літвы. Дзеля гэтага

35-гадовы палітык і публіцыст у маі 1915 г. з Вільні перабраўся ў польскія легіёны ў Галіцыю, каб са зброяй у руках змагацца за незалежнасць Польшчы і Літвы.

У якасці звычайнага жаўнера М. Ромэр удзельнічаў у вайсковых аперацыях. Адначасна спрабаваў зацікавіць краёвай ідэяй, ідэяй незалежнай «гістарычнай Літвы» Юзафа Пілсудскага і ягонае атачэнне. Аднак не атрымалася.

Як справядліва заўважыў Збігнеў Соляк, блізкія да Пілсудскага людзі не разумелі М. Ромэра і ягонай канцэпцыі. Для апошняга мэтаю была незалежнасць Літвы, а яе саюз з Польшчай быў толькі сродкам дасягнення гэтай незалежнасці. Для большасці польскіх палітыкаў з лагера Пілсудскага мэтаю была унія Польшчы і Літвы, а згода на незалежнасць Літвы ўспрымалася як часовая ўступка г. зв. «літоўскім сепаратыстам».

Тым не менш палітыкі з лагера Юзафа Пілсудскага вырашылі выкарыстаць аўтарытэт і палітычны вопыт Міхала Ромэра. У сакавіку 1919 г. кіраўнік польскай дзяржавы даручыў яму пазнаёміць ковенскіх палітыкаў з ягонай «літоўскай праграмай», якая прадугледжвала стварэнне ў занятай польскімі войскамі Вільні «краёвага ўраду» з удзелам літоўцаў. Юзаф Пілсудскі заявіў пра намер адрадзіць дзяржаўнасць Літвы ў дзяржаўным саюзе з Польшчай.

Міхал Ромэр выязджаў на перамовы ў вельмі скептычным настроі. І сапраўды, Коўна адмовілася прыняць польскую прапанову і выказала катэгарычную нязгоду на заняцце Вільні палякамі. Паводле Збігнева Соляка, гэты дыпламатычны эпізод у біяграфіі М. Ромэра, які мог стаць пачаткам палітычнай кар’еры ў Польшчы, на самой справе паскорыў прыняцце рашэння пра вяртанне ў Літву.

Падчас ковенскіх сустрэчаў віленскі краёвец быў прыемна здзіўлены тым вялізарным аб’ёмам працы, якую выканалі яго знаёмыя літоўскія дзеячы па стварэнню ўласнай дзяржавы. Увесну 1920 г. ён назаўсёды вярнуўся ў Літву, каб працаваць на карысць маладой літоўскай дзяржавы. Як заўважыў даследчык, М. Ромэр *«па-ранейшаму заставаўся краёўцам, але ўжо пагадзіўся з думкай, што там, куды ён вяртаецца няма для гэтай ідэі месца»*. Літва будавала сваю дзяржаўнасць на падмурку ўласнай нацыянальнай ідэі...

Іншай Літвы не было. Упершыню М. Ромэр зразумеў падвоенасць сваёй «польска-літоўскай душы». Адчуў сябе эпігонам, *«пераходным тыпам»*,

які не належыць ні «да *ўзыходзячага свету маладой народнай Літвы*», ні да старога свету шляхецкай польскай культуры. Тым не менш вяртаўся, каб служыць той Літве, якая нараджалася. Ён кіраваўся пачуццём грамадзянскага абавязку і любоўю да «малой Радзімы» (с. 440).

Ковенскі перыяд жыцця М. Ромэра застаўся па-за храналагічнымі рамкамі кнігі. Але варта адзначыць, што ў гэты час адбылося ператварэнне грамадскага дзеяча, палітыка і публіцыста ў навукоўца і юрыста з міжнародным аўтарытэтам. Усё гэта дзякуючы сапраўды тытанічнай працы і адмове ад асабістага жыцця.

У заключэнне Збігнеў Соляк цалкам слушна адзначыў імкненне галоўнага героя кнігі супрацьставіцца нацыянальнаму канфлікту, які знішчаў адзінства земляў і народаў «гістарычнай Літвы». Спробай вырашэння праблемы стала краёвая ідэя, што абапіралася на паняцце агульнага грамадзянства народаў, якія насялялі Літву і Беларусь. Міхал Ромэр лічыў магчымым дасягненне міжнацыянальнага паразумення на падставе традыцый і гістарычнай адметнасці земляў колішняга Вялікага Княства Літоўскага пры захаванні самасвядомасці кожнай нацыі. Абвясціўшы першынство інтарэсаў Краю над інтарэсамі асобных яго народаў, ён верыў у магчымасць абмежавання асобных нацыяналізмаў.

Безумоўнай заслугай М. Ромэра было прыцягненне да супрацоўніцтва дэмакратычных колаў літоўскай і беларускай інтэлігенцыі. Ён сам доўгі час дзейнічаў на памежжы розных нацый і добра разумеў нацыянальныя памкненні літоўцаў і беларусаў. Ягонае непрыняцце шавінізму ўсіх народаў (у першую чаргу, польскага), бескампраміснасць пазіцыі паспрыяла таму, што ва ўмовах росту шавіністычных настрояў напярэдадні і ў перыяд Першай сусветнай вайны віленскі краёвец аказаўся ў адзіноце. Ён наогул не меў тэмпераменту палітыка, не быў харызматычнай асобай і не валодаў навыкам стварэння ўласнай палітычнай групы падтрымкі. Міхал Ромэр – гэта ў першую чаргу аналітык і канструктар арыгінальных праграм. Ягоным «каньком» былі невялікія дыскусіі, дзейнасць у групах уплыву накшталт віленскіх масонскіх ложаў.

Ад пачатку знаёмства з кнігай чытача не пакідае пытанне, чаму нашчадак польскай арыстакратычнай сям'і падтрымаў нацыянальную Літву, якая мела сялянскі радавод? Пытанне вельмі цікавае і для беларускай гісторыі. Яно пакуль застаецца без адказу ў дачыненні да Рамана Скірмунта, Марыі Магдалены Радзівіл, Гераніма Друцкага-Любецкага, Станіслава Радзівіла, Эдварда Вайніловіча, Казіміра Шафнагля і некато-

рых іншых прадстаўнікоў арыстакратычных і старажытных шляхецкіх родаў, якія ў той ці іншай ступені падтрымалі беларускі рух.

Збігнеў Соляк паспрабаваў адказаць на яго ўжо ў першым раздзеле, прысвечаным дзяцінству і маладосці віленскага краёўца. У заключэнне ён ізноў звяртаецца да гэтага пытання і адзначае вялікую ролю яшчэ дзіцячага замілавання да роднага краю, элементамі якога, у прыватнасці, быў мясцовы фальклор, літоўскія звычаі і мова, прырода «малой Радзімы» (с. 450).

Збігнеў Соляк таксама шмат увагі надаў асабістаму жыццю галоўнага героя, не абмінуўшы сітуацый, якія перашкаджаюць ператварэнню жывога чалавека з няпростым характарам і лёсам у бронзавы манумент. На працягу ўсёй кнігі чытач (пры дапамозе аўтара) нібыта вядзе дыялог з цікавым суразмоўцам, які нечым нагадвае Дон Кіхота. Праўда, у адрозненні ад апошняга ён звычайна ўсведамляе мізэрнасць уласных шансаў у змаганні супраць шавінізму і палітыканства. Але сваіх пазіцый першы краёвец і апошні грамадзянін Вялікага княства Літоўскага не здаваў.

Кніга напісана на цудоўнай польскай мове, што можа адчуць нават не паляк, і напісана... сэрцам. Збігнеў Соляк здолеў сумясціць сапраўды навуковы падыход да біяграфіі галоўнага героя з вялікім пачуццём сімпатыі да яго. Апошняе праявілася не ў стварэнні «кнігі-маўзалея Міхала Ромэра», а ў аднаўленні вобраза чалавека, які знайшоў свой жыццёвы шлях і меў мужнасць не саступіць з яго.




*Вокладка кнігі, прысвечанай Збігневу Соляку і ягоным даследаванням*

**P. S. Збігнеў Соляк (1953–2004)**

Кніга пра Міхала Ромэра стала апошняй кнігай гісторыка з Кракава. Збігнеў Соляк быў таленавітым даследчыкам, аб чым сведчаць шматлікія артыкулы і найбольш кніга «Паміж Польшчай і Літвой...» Апроч гэтага ён быў вельмі інтэлігентным і добрым чалавекам. Менавіта такое ўражанне засталося

ад размоваў з ім увесну 2003 г. Апошні год жыцця і хваробы высветліў таксама мужную асобу, якая з годнасцю сустрэла смерць.

Быў пахаваны 19 лістапада 2004 г. на могілках «Батавіцы» ў Кракаве. На помніку апроч гадоў нараджэння і смерці напісана: «Гісторык».

Да 60-годдзя з дня нараджэння Збігнева Соляка ягоныя калегі і сябры-навукоўцы правялі ў Кракаве ў кастрычніку 2013 г. навуковую канферэнцыю і выдалі зборнік **«Doktor Zbigniew Solak (1953–2004) a wzajemne poznanie Polski i Litwy. Życie i problematyka badawcza krakowskiego uczonego»** (Pod redakcją Stefana Gąsiorowskiego. Warszawa-Kraków, 2014. – 214 s.). Жыццё выбітнага навукоўца працягваецца і пасля ягонага адыходу...

---

1 Міхал Ромэр перадаў дзённік у Бібліятэку імя Урублеўскіх (сёння Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы) з забаронай карыстацца ім не раней, чым пра 25 гадоў пасля смерці аўтара.

2 Solak Z. Michał Römer i masoneria wileńska (1911–1915) // Studia bibliograficzno-bibliologiczne dedykowane prof. W. Bieńkowskiemu. Kraków, 1995.

3 Sawicki J. Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. – Toruń, 1998. У наступным годзе кніга была выдадзена на літоўскай мове: Jan Sawicki. Mykolas Römeris ir buvusios Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystés žemių tautinės problemos. Vilnius, 1999.

4 Смалянчук А. Дзённік Міхала Ромэра як крыніца па гісторыі Беларусі пачатку XX ст. // Беларускі гістарычны агляд. 1998. Т. 5. Сш. 1(8); ён жа. Ромэр Міхал Піус // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Мінск, 2001; ён жа. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. Санкт-Пецярбург: Неўскі прасцяг, 2004 (атрымалі асвятленне адносіны М. Ромэра з кіраўнікамі беларускага руху).

5 У 1906 г. у Кракаве выйшла з друку ягоная кніга *Odrodzenie Litwy wobec idei polskiej.*

6 Тэкст гэтага артыкула М. Ромэра быў апублікаваны ў гадавіку антрапалагічнай гісторыі «Homo Historicus» (рэдактар А. Смалянчук.) у 2009 (С. 206–226).

7 Больш падрабязна пра гэта гл.: Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст. / Укладальнік і рэдактар А. Ф. Смалянчук. Вільня, 2005.

# POSTSCRIPTUM

Праблема месца «краёвасці» ў беларускай гісторыі – гэта між іншым праблема фармавання ўласна беларускай нацыянальнай ідэі, дакладней таго ідэйнага кантэксту, у якім яна нараджалася. Працэс гэтага нараджэння быў даволі працяглым, асабліва калі глядзець на яго з пазіцыі канцэпцыі этнасімвалізму Энтані Сміта. Датычна XIX ст. можна казаць ужо пра беларускае культурнае назапашванне ў межах «ліцвінскай» і «заходнерускай» традыцый і фармаванне ўласна беларускай культурнай традыцыі.

Больш глыбокаму разуменню гэтага працэсу можа паспрыяць даследаванне вытокаў краёвасці з асаблівай увагай да феномену памяці. Часцяком у працах, прысвечаных праблеме гістарычнай свядомасці шляхты былога ВКЛ і эліты «літоўскіх палякаў» памяць разглядаецца як неад'емны элемент родавай традыцыі і сямейнага выхавання, як пэўная дадзенасць. Пры гэтым па-за ўвагай даследчыкаў застаецца «культурная памяць» пра традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Але варта задумацца над тым, якія кнігі чыталі будучыя краёўцы? Як транслявалася памяць пра ВКЛ для аўдыторыі шырокіх колаў «тутэйшага» грамадства ў XIX ст.? Што ўключаў у сябе вобраз Вялікага Княства Літоўскага, які дамінаваў у недзяржаўным варыянце «культурнай памяці»? І як ён вытрымліваў канкурэнцыю з вобразам, што існаваў у афіцыйнай ідэалогіі і гістарычнай палітыцы?

Адказы на гэтыя пытанні можа даць аналіз тэкстаў Ігната Ходзькі (напр., «Podania Litewskie», 1870), Тэадора Нарбута (напр., «Dzieje Litwy w krótkości zebrane», 1847), Адама Кіркора (напр., Том 3 «Живописной России», 1882), Ігната Даніловіча (напр., «Skarbiec Dyplomatów…», 1860–1862 гг.), Людвіка Сыракомлі (напр., «Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wspomnienia, studia historyczne i obyczajowe», 1853), ксяндза Людвіка Юцэвіча (напр, «Wspomnienia Żmudzi», 1842) ды інш. Дарэчы, ксёндз Л. Юцэвіч ужываў тэрмін «краёўцы» дзеля пазначэння суайчыннікаў, землякоў.

Таксама вялікі патэнцыял утрымліваюць біяграфічныя даследаванні постацей ідэолагаў і прыхільнікаў краёвасці. Яны не толькі могуць наблізіць нас да разумення вытокаў краёвай ідэі і яе эвалюцыі, але будуць карыснымі пры вывучэнні ступені яе папулярнасці і канкурэнтаздольнасці ў параўнанні з нацыянальнымі ідэямі асобных народаў рэгіёну і ідэалогіяй імперскай Расеі.

...У апошнім сваім артыкуле славуты польскі літуаніст прафесар Юліуш Бардах (1914–2010) ізноў звярнуўся да праблемы краёвасці[1]. Між іншым ён звярнуў увагу на прысутнасць нават на парозе XXI ст. у спадкаемцаў гістарычных традыцый былога Вялікага Княства Літоўскага поглядаў, набліжаных да краёвасці. Трываласць краёвай ідэі, сапраўды, здзіўляе і выклікае думкі пра тое, што пэўныя яе аспекты, магчыма, маюць па-за часовую каштоўнасць. У першую чаргу гэта датычыць адкрытасці і плюралізму, талеранцыі і павагі да іншай культуры, рэлігіі, расы, палітычнай пазіцыі etc.

Юліуш Бардах характарызаваў краёвасць як пэўны рэлікт «палітычнай нацыі» эпохі Сярэднявечча, як супольную каштоўнасць палітычнай культуры народаў былога Вялікага Княства Літоўскага і адначасна як этап фармавання сучасных нацыяў на гэтых землях у перыяд найноўшай гісторыі. У ягоным разуменні краёвая ідэя належала да тых гістарычных чыннікаў, што фармавалі адметнасць нацый колішняга ВКЛ ад Захаду і Усходу. Яна не стала рэальнасцю палітычнага жыцця рэгіёну, але нават у выглядзе канцэпцыі засталася важным унёскам у агульнаеўрапейскую цывілізацыю.

---

[1] Bardach J. O krajowcach, krajowości i patriotyzmie krajowym – dawniej i dziś // Księga Wielkiego Księstwa Litewskiego. Ku europejskim tradycjom wspólnotowości. Wspólna publikacja naukowców i pisarzy z Białorusi, Litwy i Polski. Sejny: Fundacja Pogranicze przy współpracy Ośrodka «Pogranicze – sztuk, kultur, narodów», 2008, s. 495–531.

**Смалянчук**, А.

С50 «Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі : зборнік навуковых артыкулаў / Аляксандр Смалянчук, д-р гіст. н. – Мінск : Зміцер Колас, 2017. – 460 с.

ISBN 978-985-7164-11-0.

Матэрыялы зборніка прысвечаныя феномену «краёвай ідэі» або «краёвасці», якая на пачатку ХХ ст. на тэрыторыі «гістарычнай Літвы» была пэўным ідэалагічным канкурэнтам дамінуючай нацыянальнай ідэі ў этнакультурным варыянце. У цэнтры ўвагі даследаванне ўзаемадачыненняў краёвасці і беларускай ідэі. Зборнік складаецца з дапрацаваных артыкулаў 1994–2016 гг., а таксама новых даследаванняў і перакладаў тэкстаў Рамана і Канстанцыі Скірмунтаў, Баляслава Ялавецкага (1904–1906). Таксама публікуюцца тэксты «беларускіх краёўцаў» Антона Луцкевіча і Казіміра Шафнагля (1914–1917).

**ББК 63.3(4Беи)6**
**УДК 930.85**

*Навуковае выданне*

# «КРАЁВАЯ ІДЭЯ» Ў БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ

Зборнік навуковых артыкулаў

Адказны за выпуск *Зміцер Колас.*

Падпісана ў друк 02.02.2017.
Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Усл. печ. л. 28,75. Ул.-выд. арк. 26,54.
Наклад 99 асобнікаў. Замова № 001.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.